ISSN 1945-8665

# БЕЛАРУС

Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа

2010

# BIELARUS

Literary almanac of Belarusan writers abroad

2010

Выдавецтва газэты *“БЕЛАРУС”*
Нью-Ёрк 2010

**ISSN 1945-8665**

# БЕЛАРУС
## 2010

**Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа выдаецца са жніўня 2007 году**

# BIELARUS
## 2010

**Literary almanac of Belarusan writers abroad published since August 2007**

**Заснавальнік:** Марат Клакоцкі.
**Выдавец:** рэдакцыя газэты “Беларус”.

**Адрас для допісаў:** *BIELARUS*
*P. O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
*USA*
**E-mail:** *hazetabielarus@att.net*

Падрыхтоўка тэкстаў да друку і макет - Марат Клакоцкі.
Карэктар - Алена Высоцкая.

На першай старонцы вокладкі: працы Івонкі Сурвілла, выстаўленыя ў мэрыі горада Атава. *Здымак Ірыны Варабей.*

# ЗЬМЕСТ

# ПАДЗЯКІ

*Шчыры дзякуй усім, хто сваім удзелам ці дапамогаю спрычыніўся да выхаду ў сьвет літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС” за 2010 год.*

*Асаблівая падзяка асобам, якія зрабілі грашовыя ахвяраваньні адмыслова для друку гэтага нумару, а менавіта:*

***К. Ворту 50***
***М. Баяроўскаму 40***
***Т. Красоўскай 20***

*Вялікі дзякуй сп. Віталю Воранаву за папулярызацыю выданьня ў Эўропе і дапамогу ў яго распаўсюджваньні.*

---

# ПЛЯНЫ НА БУДУЧЫНЮ

*З выхадам у сьвет гэтага нумару альманаху пачынаецца падрыхтоўка да друку наступнага, выхад якога заплянаваны на лета 2011 году. Апошні тэрмін дасылкі твораў для друку ў ім – 1 чэрвеня 2011 году. Дасылаць матэрыялы найлепш, скарыстаўшы электронную пошту на адрас:* ***hazetabielarus@att.net*** .

*Калі нехта з аўтараў ня мае доступу да Інтэрнэту, то свае творы, запісаўшы на электронныя носьбіты інфармацыі (CD, DVD), можна даслаць поштаю на адрас:*

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
***USA***

*Калі ў некага з аўтараў творы існуюць толькі ў рукапісе, і ён ня мае доступу да кампутара, то даслаць іх можна на гэты ж адрас.*

*У альманаху “Беларус” могуць быць надрукаванымі літаратурныя творы самага рознага кшталту: паэзія, проза, падарожныя зацемкі, успаміны, але аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі.*

*Альманах друкуецца клясычным правапісам, таму ўсе тэксты будуць адаптаваныя да яго. Пасьля выхаду новага нумару кожны з аўтараў атрымае асобнік бясплатна і будзе мець магчымасьць набыць яшчэ некалькі па зьніжаным кошце. На жаль, выдавецтва ня мае магчымасьці выплочваць ганарары, бо не займаецца камэрцыйнай дзейнасьцю.*

*Замовіць наступны нумар альманаху ці мінулыя можна, напісаўшы на вышэйпададзены адрас.*

*Будзем вельмі ўдзячныя ўсім ахвярным людзям, хто зможа падтрымаць гэтае выданьне фінансава. Вашыя імёны будуць абавязкова пададзеныя ва ўступным артыкуле, і вы першымі атрымаеце новае выданьне пасьля выхаду з друку.*

***Марат КЛАКОЦКІ***

# ПРАДМОВА

*Пішучы прадмову да першага выпуску “Беларуса”, літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа (2007 г.), я зазначыў, што гэтая новая публікацыя мае каля дзясятка папярэднікаў – альманахаў, якія выходзілі па-за Беларусьсю, пачынаючы ад пачатку XX стагодзьдзя.*

*У прадмове да другога выпуску альманаха “Беларус” (2008 г.) сп. Лявон Юрэвіч, маючы добрае дасьведчаньне з эмігранцкай пэрыёдыкай у кнігазборах Нью-Ёрскае публічнае бібліятэкі, налічыў чараду беларускіх пэрыядычных эміграцыйных выданьняў, якія спыніліся пасьля першага выпуску, і таму, зусім слушна, аўтар прадмовы прывітаў выхад другога выпуску альманаха “Беларус”.*

*Цяпер перад чытачом зьявіўся чацьверты выпуск “Беларуса”-альманаха -2010. Дасягненьне? Бясспрэчна! На прапанову рэдактара, сп. Марата Клакоцкага, напісаць да чацьвертага выпуску невялічкую прадмову-разважаньні я з прыемнасьцю згадзіўся й дзялюся тут думкамі.*

*Альманах трэба вітаць ды пахваліць і за рэгулярнасьць выхаду, і за павелічэньне колькасьці аўтараў-удзельнікаў, і за пашырэньне жанравасьці, як зазначалася ўжо ў прадмове да выпуску 2008 году. Як выглядае, на беларускай выдавецкай ніве творыцца “тоўсты журнал”.*

*Як дасьледнік эміграцыйнага жыцьця, хацеў бы падкрэсьліць гэткі, на мой пагляд, важны аспэкт: альманах імкнецца ахапіць усё беларускае замежжа: Расею, ЗША, Аўстралію й г. д., ды, спадзяюся, зьявяцца з часам супрацоўнікі й з Афрыкі, а магчыма, і Антарктыды. Гэта зьява новая для разьвіцьця й гісторыі беларускай культуры. Вельмі важна, што ў супрацоўніцтва з альманахам прыходзяць новыя й маладыя аўтары. Новыя кадры твораць новае. З гісторыі іншых эміграцыяў ведама таксама, што ў замежных журналах публікаваліся выдатныя клясычныя творы, за якія даваліся высокія літаратурныя ўзнагароды. Хто ведае, можа, і альманаху-“Беларусу” ў гэтым сэнсе пашчасьціць?*

*Наступная мая заўвага, дый ня толькі мая (часта аб гэтым я размаўляў з маім доўгагадовым сябрам Янкам Запруднікам), датычыць наступнае зьявы: значнае павелічэньне новага англамоўнага матэрыялу пра Беларусь. Апошнімі гадамі Беларускі нстытут Навукі й Мастацтва атрымаў ня толькі дзясяткі дасьледніцкіх англамоўных працаў пра Беларусь, але й новыя літаратурныя творы, напісаныя амэрыканцамі беларускага паходжаньня. Побач з чыста літаратурнымі творамі (такімі, прыкладам, як паэзія Вальжыны Морт) пішуцца таксама ўспаміны пра бацькоў-дзядоў у эміграцыі, уражаньні амэрыканскіх турыстаў ад наведаньня Беларусі ды іншае. Бальшыня гэткай літаратуры пакуль што рукапісная.*

*Але, магчыма, “Беларусу”-альманаху ўдасца распачаць і новую плынь у беларускай культуры – англамоўнае літаратурапісьменства. Хоць, як кажуць, гэта пакуль што думка ўслых.*

*Выдатная адзнака альманаха – клясычны правапіс. Я, як і шмат маіх сяброў – рэаліст. Наркамаўка сёньня пераважае. Гэта – дзяржава, школы, набытыя навыкі. Аднак ніяк нельга сьпісваць клясычны правапіс у расход. У выніку ён будзе, павінен, дамінаваць у нацыянальнай дзяржаве. А таму захаваньне тарашкевіцы – патрэбная й пахвальная зьява.*

*Хачу выказаць і яшчэ адную заўвагу. Другі выпуск альманаху быў прысьвечаны 90-м угодкам БНР. Можа, варта было б кожны выпуск прысьвячаць нейкаму значнаму юбілею – як прыкладам, сёлетняму 100-годзьдзю нараджэньня Ларысы Геніюш?*

*На заканчэньне гэтых разважаньняў падзялюся такім успамінам. Бываючы ў Менску ў тую добрую пару першай паловы 1990-х, калі выходзілі энцыкляпэдыі й даведнікі тыпу "Беларускія пісьменьнікі. Біябібліяграфічны слоўнік", седзячы ў кабінэце галоўнага рэдактара выданьня др. Адама Мальдзіса, зь якім мы блізка супрацоўнічалі й сябравалі, я пачуў выказваньне некага з прысутных: "Ну, мінулае мы ўсё ўлічылі, а новае будуць тварыць-улічваць маладзейшыя". Вось жа гледзячы на біябібліяграфічныя дадзеныя супрацоўнікаў "Беларуса"-альманаху, можна спадзявацца, што яны возьмуць на сябе абавязак стварыць і новыя творы, і новыя слоўнікі-даведнікі ды энцыкляпэдыі.*

*А цяпер, як кажуць, зь лёгкім ветрам і рэдактару, і "Беларусу"-альманаху.*

***Вітаўт КІПЕЛЬ***



**АРЦЁМАЎ Аляксей**, нарадзіўся ў Туле 27 сакавіка 1991 году. Студэнт Тульскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, спэцыяльнасьць "Сыстэмы аўтаматызаванага праектаваньня". Аўтар зборніка вершаў "Двойная звезда" (Тула, выдавецтва "Тульский полиграфист", 2007 — 2008, на расейскай мове).

З 2008 году піша толькі па-беларуску (мову вывучаў самастойна). Публікаваўся ў часапісе "Дзеяслоў" (№ 41, падборка па выніках конкурсу імя Шэрмана), на сайце "Нашай Нівы". Пераможца каляднага конкурсу часапіса "Прайдзісьвет". Фіналіст конкурсу імя Л. Геніюш (арганізатар — Беларускі ПЭН-цэнтар).

# ВЕРШЫ

Пасьлязаўтра адбудзецца жнівень, як цуд нечаканы,
І аздобіць на золку празрыстай расою траву,
Захавае зямлю ад прадвосеньскіх пасмаў туману
І напоўніць зярнятамі чорнымі сьпелы кавун.

Ліпень доўга сьмяяўся – то ветрам нагоніць залеву,
То сьпякотаю з глебы апошнія кроплі зьбярэ...
Толькі веру: цяпер гэта пройдзе, мая каралева,
Будзе жнівень, з табою сустрэцца змагу ўрэшце рэшт.

"Будзе жнівень", – я зноў паўтараю. Ён прыйдзе, паўстане,
Месяц жоўтых сьвітанкаў, пяшчотнай азёрнай вады.
Хай жа ён падаруе адвечную радасьць каханьня,
Каб яна заставалася з намі заўжды. Назаўжды!

## Каралеўства водараў

Ты падарыла каралеўства водараў,
Мяне ператварыла ўміг у волата,
Я ўбачыў нечакана ў мутных водах Ра,
А ў вогнішчы заходу – россып золата.

Да зорак падымаліся – ня бачылі,
Што вокамгненна ўвесь сусьвет руйнуецца.
Мы верылі: ня будзе больш няўдачаў і
Зноў сьвята зазірне на нашу вуліцу.

Але жыцьцё надзеі гоніць марныя,
Мы ў каралеўстве водараў ня першыя...
Муз, пэўна, не завабіць мэмуарамі.
Што застаецца? Толькі крэмзаць вершыкі.

* * *

Лядачыя лодкі стаяць ля прычалу,
І плюхаюць лёгка струмені вады.
Прабач, што ў цішы маё слова гучала,
Ніколі я больш не вярнуся сюды.

Трава зіхаціць у сапфіравых росах,
Аблокі, як бэз у суседзкіх садох...
Не, мне не забыць шэпт бязьлітасны: “Досыць”,
Хаду тваю, петлі сьлядоў і дарог.

Але не злуюся. Няхай пакараны –
У пастку трапляецца нават павук.
І ўсё жа я веру – насустрач туману
Лядачыя лодкі яшчэ паплывуць!

## Каўказ

Ноччу а другой гадзіне ціха выйшаў на гаўбец,
А ўспаміны зноў бруяцца – хай рака цячэ сабе.

Не забыць такое зрэшты: я ў той час набыў квіток,
І мяне цягнік выносіць у густы каўкаскі змрок.

Удалечы горад родны, шэраг белых ліхтароў,
Лёхі, стрэхі, рэхі, пахі – усё, у чым шчасьця не знайшоў.

Тут, на поўдні, краявіды: гор ня менш, чым яркіх зор,
Месяц точыць на чужынцаў рог свой, востры як лязо.

Люд мясцовы жвавы, шпаркі – час ня бавіць у журбе...
Брудны горад. Дзьме вятрыска. Пад нагамі зноў гаўбец.

Так, было калісьці дзіва. Веру, не ў апошні раз!
Я цябе яшчэ пабачу, гаспадару мой, Каўказ...

## Навошта?

Навошта дзявочыя вочы
Глядзяць на авальныя хвалі?
Навошта у ноч, як у ночвы,
Анучамі зорачкі ўпалі?

Вяршкі ў нудных вершах. Навошта?
Яны не парадуюць новым.
Няхай галубіная пошта
Табе данясе мае словы.

“Навошта, навошта пытаньні?
Карысьць іх – на ўзроўні плацэба.
Калі новы золак паўстане,
Адказ будзе ў колерах неба”.

* * *

За кожнай недамоўленасьцю – слова,
Яно жыве дый будзе жыць, пакуль
Нястомны, жорсткі кіраўнік – аловак
Шукае ноччу прагную руку.

Ад літар аркуш хутка пацямнее,
Бо ты бяжыш за рыфмай наўздагон...
А зранку боль, у галаве завея,
І ўсё звычайна: кава, цытрамон...

* * *

Калі ад сьпякоты сыходзяць у сьмерць караваны
І сонца падскварвае жвір на вялікай патэльні,
Я бачу раскосыя скіўіцы аэраплянаў
Пад імі ляжыць акіян, як агромністы келіх.

Цудоўныя сны, хоць наяве было тут заўсёды
Сухотна і суха, зусім як бывае ў шпіталі.
Няма ні прагрэсу, ні элемэнтарнай свабоды,
Хаця яе людзі, як страву ў кафэ, замаўлялі.

Але ж немагчыма так жыць! Будзьма разам змагацца
І верыць у літасьць сьвяціла і ў моц нашай зброі!
Тады пераможам, і аэрапляны-пасланцы
Нас зноў забяруць у Вялікае княства спакою...

* * *

Чаго няма? Маліцца ўсім багам
Ня сорамна – я маю ўсё, што трэба,
Хоць мітусьні дарэмная вага
Не дазваляе падымацца ў неба.

Што далячынь, калі сярод людзей
Багата сьлёзаў і журбы, і стратаў.
А шчасьця скарб ляжыць, ды толькі дзе?
Жыцьцё бязь зьмен, як клятва Гіпакрата.

Штодзёншчыны і вэрхалу саюз...
Усё далей да прывіднага раю.
Нібы пад сьпіну палажылі друз,
І скура кожны камень адчувае.

* * *

Навобмацак да праўды ідучы,
Блукаю я сярод праклятых соснаў.
Сьвятлом зіхоткім вабіць далячынь,
Зьвіняць цудоўна залатыя росы,

Гладзь возера празрыстая, як шкло,
Пшанічныя бурштынавыя хвалі...
А дзе спакой? Напэўна ўсё было,
Дык што мы прапусьцілі, што праспалі?

Нашто я зразумеў, што ўсё падман?
Далёка дзесьці ходзіць лэдзі-ўдача –
Вакол хлусьні вялікі акіян:
І плыняў шмат, і берагоў ня ўбачыць.

Ніхто ня можа мне дапамагчы,
Але сьвітанак хутка прыйдзе босы,
І зноў сьвятлом завабіць далячынь
І зазьвіняць вясёлай песьняй росы...

## Разьвітаньне

Апошні позірк вокамгненны,
Вакзал, цягнік, узмах рукой,
Крывёй напоўненыя вены,
Твой пульс і страчаны спакой...

Пакута разьвітаньня – гэта
Маўчаньне, жэстаў мітусьня.
Зьмяніць бы разам сродкі, мэты...
Няма ўжо часу, каб мяняць.

Гудок разносіцца ў паветры...
Мо мы спаткаемся яшчэ,
Але пакуль скрозь кілямэтры
Чыгунка, быццам Стыкс, цячэ.

* * *

Ружавеюць ядвабныя цені,
Лёгкай стужкаю сьцелецца дым...
Толькі сны ды ланцуг летуценьняў –
Вось што будзе са мной назаўжды.

Як шалёная птушка свабоды,
Ты ляціш, за аблокі бялей,
Хоць крывавы адбітак заходу
На тваім застаецца крыле.

Так, нічога цяпер не паправіць:
Паляцела ты, зьнікла, сыйшла.
А ў нябёсах – на доўгую памяць
Незгасальны праменьчык сьвятла...

* * *

Вар'яцее вятрыска штотыдзень –
Флюгер круціцца, быццам турок,
Я, напэўна, кагосьці пакрыўдзіў.
Ты прабач мяне – я незнарок.

Прамянее вясной навакольле:
Іскры сонца і шум капяжу...
Толькі я ўсё адно мімаволі
На цябе – не на сонца – гляджу.

Ты прабач ад душы, без загадаў,
Каб раку адшукаць – тую, дзе
Нашы крыўды, зласьлівасьць і здрада
Патанулі ў вясновай вадзе.

* * *

Грукоча ў змроку занядбана сэрца
У такт са сьпевам залатой струны,
Мо здолее яно яшчэ сагрэцца –
Усё адно нясьцерпна будзе ныць.

Агортвае яго начная цемра,
І запаліць так хочацца сьвячу...
Здаецца, што на скроні ціснуць сьцены,
Ня сьпіць струна – заціхла. Я маўчу.

Вятрыска звар'яцела б'е дахоўку,
Рыпіць рахмана вастрыё алоўка –
Ўсьляпую я будую нот радкі.

У чорным небе Альцыёна блішчыць,
Яе сьвятло зьдзімае пыл з гарышча,
Але ня можа дасягнуць рукі.

* * *

Замовамі ня вылечыць самоту.
Яна жыве, як за калючым дротам
У таямніцах цела і душы.
І лекі ад тугі не дапамогуць,
Твой паратунак – доўгая дарога.
Дык не марудзь – бяжы, бяжы, бяжы!
Так, шлях далей за сонца, за аблокі,
За небакрай, утульны і шырокі,
Але ты кілямэтры не рахуй.
Хай дыхаць замінаюць пыл і вецер –
Бяжы, бяжы! Пакінь сьляды ў сусьвеце,
І людзі пойдуць па тваім шляху...

* * *

Пацёртыя вокладкі кніг –
Салдаты ў палку на паліцы.
Забыць бы аб гэтай крыніцы,
Адмовіцца б толькі ад іх!
Пацёртыя вокладкі кніг.

Аддаць іх у краму назад
Ці полымю ў дар, як ахвяру?
На жаль, не адбудуцца мары,
І кнігі памілуе кат.
Ня здаць іх у краму назад.

Старонкі тамоў не памруць,
Спаліць, загубіць – немагчыма,
Бо вечнасьці пільнай пачынак
Няўлоўны, як вадкая ртуць.
Старонкі тамоў не памруць.

І словы мудрэйшых за нас,
І думак іх хітраспляценьні
Лунаюць над намі, як цені,
А мы, як раней, увесь час
Баімся мудрэйшых за нас...

## Пяцігорскі раманс

Дождж лезгінку затанчыў на стрэхах,
І ад стуку набоек яго
Разьлятаецца лёгкае рэха
Ды нябёсы гуляюць у го.

Чорна-белыя хмарныя пасмы
На зялёным ілбе Машука...
Заўтра сонца траву будзе пасьвіць,
Пацячэ павуціньня рака,

А пакуль за дажджом, як за плотам.
І над мокрымі тварамі шыб
Загучаў на кружэлцы самоты
Пяцігорскі раманс у душы.

* * *

Сьнег яшчэ на вопратку спадае,
Толькі хутка зьнікне ён, бадай,
Бо вясна, матуля маладая,
Зноў зьнічом чырвоніць небакрай.

Лёд растане, і зь яе далоняў
Жвавы сын саскочыць – красавік.
Малатком цяпла ён шпарка ўгоніць
У труну зімы апошні цьвік.



**БАРАВЫ Лявон** — нарадзіўся ў 1928 годзе ў Беларусі. У Амэрыцы жыве з 1950 году.

# ВЕРШЫ

## Успаміны

Дарогі, дарогі, мае палявыя,
Хвойнік вакол зялёны, густы.
Уночы воўк часта вые,
Поўны месяц застыў.
Стары дуб пасярэдзіне поля,
Гняздо буслоў у чупрыне яго,
Думка рвецца туды мімаволі
Да родных маіх берагоў.
Гэта толькі мае ўспаміны...
Край той, напэўна, зьмяніўся зусім.
У сьне чую я клёкат бусьліны,
Шэпат лістоў тых высокіх асін.

## Восень

Холадам дыхае восень,
Падаюць з дрэваў лісты.
Вецер сумна галосіць,
Месяц у небе застыў.

Там, на маёй Беларусі,
Восень таксама прыйшла.
Мне здаецца чамусьці,
Там яна іншай была.

Тут я ня бачу стагоў,
Сена на сенажаці,
Зжатых палеткаў кругом,
Дзе калісь жала маці.

## Зарадка

Я ўстаю раней за пеўня
Ды раблю сваю зарадку,
Безь ніякага сумненьня
Іду чатыры мілі без аглядку.

Раблю гэта кожны дзень,
Дождж і сьнег ня робяць перашкоды.
Люблю я хлёпаць па вадзе
У час дажджлівае пагоды.

## Мая эпітафія

Тут спачывае Лявон
(Ён вершы пісаць спрабаваў),
Хоць таленту мала меў ён,
Ды часу аднак не марнаваў.

Стараўся жыць як трэба,
Заўсёды дапамагаў другім,
Маліўся, гледзячы ў неба,
Душой сьпяваў пахвальны гімн.

* * *

Каб доўга жыць на сьвеце,
Трэба шмат сьмяяцца...
Не даваць мазгам старэць,
Займацца нейкай працай.
Пішы, чытай альбо сьпявай,
Рабі ўсё, што любіш,
Толькі часу не марнуй,
Час ня вернеш, калі згубіш.

## Калядны вечар

Калядны вечар,
Сягоньня куцьця,
Зоркі, як сьвечы,
У небе зіхцяць.
На стале сена,
Белы абрус,
Сьнег па калена,
Дзед Мароз – белы вус.
Хрыстос нарадзіўся,
Сусьветны Ўладар,
Народ пакланіўся –
Прывітаў Божы дар.

*12.24.2009*

* * *

Калісь зімоваю парою
Мы канькамі рысавалі лёд,
І нібы пчолы роем,
Вялі свой карагод.

У часе сьнежнае пагоды
На лыжах штурмавалі сьнег,
Шукалі ў лесе мы прыгодаў,
Там чуцен быў наш сьмех.

Мы ў лесе чуліся, як дома,
З прыродай дружна мы жылі.
Мы разумелі сосен гоман
І ветру шолах у гальлі.

* * *

Сячэ паветра зімні вецер,
Гудзе і сьвішча за вакном.
І сьнегу ўжо з паўмэтра,
На зямлі, як палатно.
Пазірае месяц зь неба,
Зоркі водзяць карагод,
Чарку выпіць трэба –
Заўтра Новы год.

*М. С.*

## Новы Сьвержань

Мястэчка Новы Сьвержань
Сьвяткуе 580-годзьдзе існаваньня.
Дубы над Нёманам, як вежы.
Вартуюць таямніцы пакаленьняў.

Жылі там беларусы,
Гэбраі, палякі, татары,
Жылі вольна, без прымусу,
Былі самі гаспадарамі.

Жылі там Сенька, Шчорс,
Сабалеўскі, Высоцкі і Гоман,
Сьвержань будаваўся і рос,
Усім служыў магутны Нёман.

*Паводле газэты "Панямонь" № 3, 2008 г.*



**БАРШЧЭЎСКІ Аляксандар** нарадзіўся 2 лістапада 1930 году ў вёсцы Бандары на Беласточчыне. У 1955 годзе закончыў расейскую філялёгію ў Лодзінскім унівэрсытэце. У 1956 годзе — пасьля ўзьнікненьня Катэдры беларускай філялёгіі ў Варшаўскім унівэрсытэце — пачаў працаваць выкладчыкам беларускае літаратуры. У 1966 годзе абараніў кандыдацкую працу “Jakub Kolas — dzieje twyrczosci 1906—1930”, а ў 1986 — доктарскую дысэртацыю пад назваю “Bialoruska obrzedowosc i folklor we wschodniej Bialostocczyznie”. Пасьля публікацыі працы “Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы 1958—1998” атрымаў званьне прафэсара. У 2004 годзе выйшла кніга “Беларуская эміграцыйная пісьмовасьць”. Аўтар звыш 100 навуковых публікацыяў.

У гадох 1975—2004 кіраваў катэдрай беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту. Супрацоўнічаў таксама з Каталіцкім Люблінскім унівэрсытэтам ды Ўнівэрсытэтам імя М. Кюры-Складоўскай. У 1993 годзе атрымаў тытул доктара honoris causa Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Менску. З 1994 году зьяўляецца старшынём Галоўнага камітэту Алімпіяды беларускай мовы ў Польшчы.

У літаратурным жыцьці вядомы як паэт Алесь Барскі. Зборнікі вершаў: “Белавежскія матывы” (1959), “Жнівень слоў” (1967), “Мой бераг” (1976), “Блізкасьць далёкага” (1984), “Лірычны пульс” (1987), “Nostalgie” (1999).

Займаецца таксама перакладчыцкай дзейнасьцю. Пераклаў зь беларускай мовы на польскую “Diabelskie skrzypce” (1973), “Niewyczerpany dzban” (1976), з расейскай “Mocarni czarodzieje” і з украінскай “Zaklete barwy stepu” (1987).

З 1971 году зьяўляецца сябрам Саюзу польскіх літаратараў, а з 2002 — Саюзу беларускіх пісьменьнікаў.

# ВЕРШЫ

## Мая сьвятыня

Зялёнай песьняй моліцца сьвятыня
Да Ўсявышняга Тварца бязьмежжаў,
Анёл стаіць на кожнай верхавіне
У векавечнай нашай Белавежы.

Мы ўсе паломнікі і прайдзісьветы —
Бадзяемся па сьвеце, па чужынах,
Ды ўрэшце чуем кліч зялёнае плянэты
І зноў становімся дачкой і сынам.

Ідзем праз горкі лёс і праз турботы.
Як дойдзем — бор прыгорне і сустрэне,
Адчынім насьцеж райскія вароты,
З пакорай станем шчыра на калені.

О, пушча, ты для нашых душ бальніца,
Ты лечыш раны і даеш бадзёрасьць.
Прыходзім на паляны, каб маліцца
І выгнаць з нашых сэрцаў боль і горыч.

Зьвіняць тут гімны, псальмы, гучаць оды,
Плывуць мэлёдыі ў даль бязь межаў,
Жыве, яднаючы у міры два народы,
Наш сьпеўны цуд — храм вечны — Белавежа.

## Узьнёсласьць

Ці гэта была песьня аб вятрах ліпнёвых,
Ці, можа, ода аб прывабнасьці узлоньня?
І хто яе сьпяваў: багі салодкай мовай,
Ці прага рэзьбляная ў пальцах і далонях?

Ды гэта толькі інтуіцыі вядома.
Яна пранікла ўсе слаі маёй істоты.
Хадзілі веліканы і хадзілі гномы,
Снавалі вокал нас сонцападобны мотак.

І нас уткалі у арнамэнт, у мэандры,
У зьвіткі дзіўныя, і у вузлы загадак.
І нават я мячом магічным Аляксандра
Ня змог расьцяць вузлоў, ня змог дайсьці да ладу.

Згубілі ногі грунт, і сьвет перакуліўся,
І чэрні апрануліся ў ружовы колер.
О, смутку мой, ты радуйся й весяліся,
Бо сёньня зацяжарала пшаніца ў полі.



**ВАРАБЕЙ Ірына** – празаік, журналістка, майстрыха-дызайнер, фатограф. Сябра Саюзу пісьменьнікаў Беларусі з 2008 году. Сябра Канадыйскай Асацыяцыі Вышывальніц з 2005 году.

Нарадзілася ў 1959 г. у Менску. Ад 1999 году жыве ў Таронце (Канада).

Піша па-беларуску й па-ангельску, перакладае. Публікуецца ў "Дзеяслове", "Нашай Ніве", "Беларускім слове" (Канада), "Беларусе" (ЗША).

У 2005 годзе ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выдадзена ейная кніга "Там, дзе сэрца маё". У 2008 годзе ў ейным перакладзе з ангельскай – раман К. Акулы "Заўтра ёсьць учора".

З 2009 году ў якасьці майстрыхі-дызайнэра супрацоўнічае пад пэрсанальным брэндам "Spirit of Belarus" з часапісам "A Needle Pulling Thread" (Канада).

У 2008 годзе была пераможцай штогадовага фотаконкурсу нацыянальнага часапіса "Canadian Geographic" (Канада).

# Трэці шлях

*Ад прадзедаў спакон вякоў*
*Мне засталася спадчына...*
***Янка Купала***

"...Калі хочаш нечага папрасіць у Бога – маеш розныя шляхі да Яго. Папершае, можаш схадзіць у царкву ды памаліцца. Па-другое, можаш запаліць грамнічную сьвечку, пакуль агонь гарыць, – маеш час для звароту да Яго... Але ёсьць яшчэ адзін шлях. Наш пракаветны, з даўняе даўніны. Складзі свой ліст да Яго. Не, ня літарамі і не алоўкам. Вазьмі голку зь ніткай – і вышый. А замест словаў – узоры. Усё пра ўсё ў тых узорах ёсьць..."

Гэтак некалі прыгаворвала мая бабуля, калі навучала мяне складаць з вышываных крыжыкаў ды ромбікаў узоры, а з узораў – свае лісты да Бога і гэткім магічным чынам наладжваць сваю повязь з духовым сусьветам.

А можа, і не мая бабка... А можа, і ня мне... Можа, маёй бабцы ейная бабка, калі тая яшчэ была маленькай... А можа, іншая бабка ды ў іншае стагодзьдзе... Можа, гэткім чынам мільёны нашых бабак зь веку ў век перадавалі наступным пакаленьням сваю няхітрую мудрасьць.

Беларусы – адзіная нацыя ў Эўропе, якая захавала старажытнае сымбалічнае пісьмо, пераклаўшы яго ў вышываныя арнамэнты. Сымбалі, захаваныя ў беларускіх вышыванках, былі агульнымі для эўрапейскага супольніцтва (падобныя рэчы сустракаліся і на Ўсходзе, і нават на амэрыканскім кантынэн-

це), але адно беларусы памятаюць, што яны азначаюць. З пакаленьня ў пакаленьне, празь веру ў тое, што вышыўка – гэта магічная дзея, што вышываныя ўзоры – гэта нашыя лісты ў духовы сусьвет, яны перадавалі значэньне старажытных сымбаляў...

Беларусы ўважаюць сябе за вышывальніцкую нацыю. І па праву ганарацца сваімі вышывальнымі здабыткамі перад усім сьветам. Вышыўка адыграла такую важкую ролю як у матэрыяльным, гэтак і ў духоўным разьвіцьці нацыі, што сталася нават брэндам нашае культуры, адметнасьць якога не змаглі зьняважыць нават камуністычныя ўлады, знайшоўшы яму месца на дзяржаўным беларускім сьцягу.

І як гэта ні парадаксальна, але сучасныя беларусы ганарацца сваім брэндам, дзеля якога так шчодра папрацавалі продкі, самі ж для ягонага разьвіцьця нічога ня робячы. Беларуская вышыўка неаглядна адстала ў той частцы ўсясьветнага выяўленчага мастацтва, якім сёньня зьяўляецца сучаснае рукадзельле. Я гэта кажу, бо, знаходзячыся тут, на амэрыканскім кантынэнце, які можна лічыць цэнтрам сучаснага вышывальнага мастацтва, бачу, якога ўзроўню дасягнула гэтая справа тут. Гэта ня толькі майстэрства ды разнастайнасьць саміх работ. Я па-добраму зайздрошчу дзейнасьці Амэрыканскай ды Канадыйскай асацыяцыяў вышывальніц: у іх і гільдыі, і сэмінары, і фэстывалі, конкурсы, часапісы, вэб-сайты, майстар-клясы, (дадам яшчэ і Каралеўскі цэнтар вышыўкі ў Англіі са сваім Каледжам і прыдворнымі вышывальніцамі), інфармацыйныя банкі стыляў і тэхнікаў з усяго сьвету – і ўрэшце рэшт, якое багатае й цікавае творчае жыцьцё ў тутэйшых вышывальніц! Тым больш, што для занятку вышыўкаю ня трэба спэцыяльнага таленту – якое ж гэта дэмакратычнае мастацтва, самы просты спосаб рэалізацыі сваіх творчых памкненьняў! Любая аматарка можа худа-ладна вышыць для сябе, калі не хапае здольнасьці на прыдумваньне, любы ўзор па схемах, распрацаваных для ейных паслугаў, шчодрымі дызайнэрамі.

Я гэтак жа, як і ўсе, некалі пачынала вышываць па чужых схемах. Аж пакуль мяне, як беларуску, не зачапіў той факт, што сярод незьлічоных схемаў у крамах між віктарыянскіх, індзейскіх, афрыканскіх, кітайскіх, японскіх, нават расейскіх і шмат якіх іншых матываў няма толькі беларускіх. А што ж павышываць беларусцы? Дзе яны – лёгка пазнавальныя беларускія матывы, распрацаваныя для вышыўкі майстэрскай рукой сучаснай дызайнэркі? Такія, каб любая Донaльдзіха-Макдональдзіха ў краме магла, ледзь кінуўшы вокам, сказаць: “А, ведаю... гэта – беларускае”, і зрэшты набыць яго, спакусіўшыся на цікавую наватарскую тэхніку.

Дый а якія яны – беларускія матывы наагул?

Тут, напэўна, я мушу зрабіць невялічкі адступ, каб удакладніць сваю думку ангельскім словам “імідж”. Вы пагодзіцеся са мною, што для кожнае краіны (культуры, этнасу) склаўся ў сьвеце вобразна-мастацкі імідж. Вось глядзіце. Што на розум прыходзіць чалавеку, калі чуе слова “Японія”? Пэўна ж, галінку сакуры, дзяўчыну зь веерам ў шыракаполым капелюшы, доўгай квятастай сукенцы. Нехта ўзгадае маляванкі батыку, нехта – яшчэ вершы хоку. А пры слове “Пэру”? Ага: шчымлівую мэлёдыю, вялізнае понча, і яшчэ больш шырокі капялюш. Пры слове “Кітай” памяць кожнага абпальваюць чырвона-залатыя цмокі. Прыклады можна прыводзіць столькі доўга, колькі ў сьвеце набярэцца краінаў.

Дык а што ж Беларусь? Што ва ўсім сьвеце людзі згадваюць пры слове "Беларусь"? ...Мы, эмігранты, вельмі добра ведаем, што... Так-так, Беларусь згубілася недзе на прасторах неагляднай Эўропы – маленькая, невядомая краіна памерам з мэтраполію Англію з загадкаваю культураю, векам са старажытную індускую...

Сорамна прызнацца, але, пэўна, гэта і добра, што на амэрыканскім кантынэнце ўсё яшчэ ня ведаюць, якая такая вышывальніцкая нацыя са сваім ганаровым брэндам існуе ў сьвеце. Бо ў іншым выпадку нам давядзецца прадставіць на пахвальбу свае дасягненьні – павыцягваем з куфраў прабабчыны "крыжыкі" ды "гладзі"... і што ж? ...А нам скажуць: "Та цю-у-у... крыжыкі мы ўжо бачылі, гэтак яшчэ нашыя бабці вышывалі. Пакажыце, што ў вас новенькага. Мо ў вас новае "баргела" ёсьць? А мо ў "белым-па-белым" якась па-хітраму дзіркі робіце? А мо завітастыя якіясь швы ў "чорным-па-белым" маеце? Што ў вас адметнага? Дзе вашыя сучасныя творы?"

Бадай, я тут мушу зноў адступіцца ды зрабіць-такі найніжэйшы паклон нашым прабабкам. Ведалі ці ня ведалі яны, які знакавы закід у будучыню зрабілі, гэтак упарта зьберагаючы вышываньнем старажытнае сымбалічнае пісьмо ды назапасіўшы ім тыя куфры, каб была патомкам нагода вышывальніцкай нацыяй звацца. Здаецца, праўда, маркотна зараз іхным душам у нябёсах глядзець на тое, як мы іхную традыцыю ўзялі раптам ды кінулі. Але гэтае рунічнае пісьмо, захаванае ў па-мастацку гарманічных арнамэнтах рукамі простых сялянак, і можа стацца тым адметным, што мы можам выкарыстаць для стварэньня ўстойлівага, лёгка пазнавальнага беларускага іміджу.

Вышывальніцкі сьвет даўно ўжо перажыў выдаткі "навуковага й тэхнічнага XX стагодзьдзя", што моцна было ляпнула па руках рукадзельніц сваім прагрэсам. Рукадзельніцы Захаду, зьяднаўшыся і разам захаваўшы адданасьць любімаму занятку, узроўнем свайго майстэрства, віртуознасьцю тэхнік, разнастайнасьцю ды прагажосьцю сваіх працаў, далёка перасягнулі машынную вытворчасьць, давёўшы права вышываньню (ды й іншым відам рукадзельля) заняць пачэснае месца сярод ужо не рамёстваў, але – высокага мастацтва.

Мае працы – гэта толькі спроба правесьці першую выведку ў гэтым моры сучаснага вышывальнага мастацтва, улучыць у яго беларускую адметнасьць, каб сьвет яе заўважыў, ацаніў, прыняў у сваю супольнасьць. Я ведаю, што за мною прыйдуць іншыя, таленавіцейшыя, творчыя, маладыя й дзёрзкія – і давядуць сьвету, што вышывальніцкая Беларусь жыве! Ёй ёсьць што паказаць: цудоўныя па прыгажосьці, фантастычныя па складанасьці, мудрагелістыя ды загадкавыя, і ў той жа час асьвечаныя ўсім духоўным жыцьцём нашых продкаў – нашыя беларускія арнамэнты. Тут бязьмежнае поле для дасьледаваньняў навукоўцам, а нам, майстрыхам (і майстрам), – для натхненьня ды рэалізацыі сваіх творчых памкненьняў. Давайце падымем наш брэнд так высока, каб яго сапраўды было відаць адусюль.

Я ўжо пачала.

*Вышываныя творы Ірыны Варабей можна паглядзець на ейным пэрсанальным сайце* **http://iv.belaruscanada.com/emb.bel.ph.html** *. Там можна таксама даведацца пра ейную дзейнасьць ў Таронтаўскай гільдыі вышывальніц і супрацоўніцтва з часапісам "A Needle Pulling Tread" ды скантактавацца зь ёю самою.*

# ПЕРАКЛАДЫ

***Джордж Блёндын*** *(George Blondin), нар. 1922 г. – старэйшына народнасьці дэнэй. Працаваў таёжным правадніком, шахцёрам, быў трапэрам, потым віцэ-прэзыдэнтам нацыі дэнэй. У 1989 г. абраны старшынём Савету старэйшынаў дэнэй. Зараз працуе ў Інстытуце культуры дэнэй і піша артыкулы для газэты “News / North”. У 1990 г. атрымаў прэмію імя Роса Чарльза (Ross Charles Award) для журналістаў-абарыгенаў. Аўтар кнігаў “Калі сьвет толькі пачынаўся” (When the World was New), “Заканадаўца Ямарыя” (Yamoria the Lawtaker) і “Шлях Духу. Праўда аб таямніцах шаманскае сілы”.*

# Шлях Духу. Праўда аб таямніцах шаманскае сілы

Trail of the Spirit
The Mystery of Medicine Power Revealed

## Прадмова

Я нарадзіўся на поўнач ад Вялікага Мядзьведжага возера на Землях Барэна, як мае быць інуіту. Быў 1923 год. Значыць, мне цяпер восемдзесят тры.

У тыя часы гэты край быў вельмі адасобленым, у сэнсе – ад канадыйскай улады. Ніякага закону, ні КККП[1], ні сьвятароў, ні ўраду тут не было. Людзі дэнэй хадзілі ў маленькую краму, што ў Форце Норман, у Паўночна-Заходніх Тэрыторыях. Яна знаходзілася за тры сотні міляў[2] ад таго месца, дзе я нарадзіўся. Узімку туды езьдзілі на сабачых запрэжках, а ўлетку – на кану[3].

Я быў першым хлопчыкам у сям'і. У нашай культуры ёсьць традыцыя – першага народжанага хлопчыка прыносяць да шамана, трымаюць перад ім, каб ён надаў яму шаманскай сілы. Часам дзіця можа атрымаць яе такім чынам. Ня толькі гэтае, але яшчэ некаторыя моцныя шаманы могуць прадказаць, як доўга будзе гэтае дзіця жыць. Мае бацькі казалі мне пазьней: “Мы зрабілі ўсё, каб ты стаў шаманам, але нічога не атрымалася. Мусіць, ты нядобры чалавек. Але нам сказалі, што пражывеш ты доўга”. Гэта праўда. І мае бацькі былі шчасьлівыя і гэтым.

У мяне былі два дзяды. Некаторы час яны былі шаманамі. Я правёў шмат часу зь імі, але шаманскае сілы так і не атрымаў. Напэўна, я нядобры. Калі мне споўнілася сем гадоў, мае бацькі адправілі мяне ў місіянэрскую школу, што была пры царкве з манашкамі. Я правёў там чатыры гады. Скончыў тры клясы ў той школе й вярнуўся да бацькоў.

Калі я быў у школе, мне забаранялі гаварыць на роднай індзейскай мове. Таму я размаўляў адно на ламанай ангельскай. Але калі я вярнуўся да бацькоў, тыя забаранілі мне гаварыць па-ангельску.

Наступныя пятнаццаць гадоў я жыў у тайзе з маімі бацькамі. Я забыў, што, калі я хадзіў у школу, то размаўляў адно па-ангельску. Я проста жыў у лесе і рабіў тое, што меў рабіць. Улетку ты ловіш рыбу сеткаю. Ты вырабляеш

шмат вяленай рыбы на зіму. Ты палюеш ласёў, б'еш качак і ловіш у сіло трусоў. Гэта нашая летняя праца. Узімку ты ставіш пасткі. Ты здабываеш футра для кампаніі Гадсан Бэй. За яго ў краме ты набываеш усё, што табе трэба. Калі я разважаю цяпер аб нашым жыцьці тады, я разумею, што ў нас не было ніякіх стасункаў са зьнешнім сьветам, таму мы нічога ня ведалі, што там адбывалася. Гэта таму, што мы не гаварылі па-ангельску. Не чыталі, не пісалі. Мы ня ведалі, што адбылася Другая сусьветная вайна.

Дык вось, пасьля пятнаццаці гадоў у лесе быў ужо 1945 год. Я ажаніўся й меў ужо трох дзяцей. Я разумеў, што дзецям трэба хадзіць у школу, але школы ў тайзе не было. Школа была ў Елаўнайфе. Таму я вырашыў перабрацца ў Елаўнайф. А ён быў за восем сотняў міляў ад нас. Я ўсадзіў дзяцей і жонку ў свой табаган[4] і выправіўся ў Елаўнайф. Дарога заняла паўтара месяца, але мы засталіся там жыць.

Я знайшоў працу на шахце. Адпрацаваў там адзінаццаць гадоў. Цяжкае было жыцьцё. Мая жонка Джулія памерла. Дзеці вырасьлі. Усе яны хадзілі ў школу. У 60-я гады я застаўся адзін. Дзеці атрымалі адукацыю й маглі ўжо жыць самі. І я вырашыў вярнуцца ў тайгу паляваць і лавіць.

Празь некаторы час я зноў прыйшоў у Елаўнайф. Там тады ўжо зьявілася група людзей з народу дэнэй, што стварылі арганізацыю, якая вылучала зямельныя патрабаваньні да ўраду. Яны запрасілі мяне працаваць зь імі. Я пагадзіўся. Гэта было быццам зноў пайсьці ў школу. Неадкладна я пачаў даведвацца шмат аб палітыцы і аб тым, як урад кіруе Канадаю. І яшчэ я даведаўся, што ўрад ставіцца да індзейцаў несправядліва.

За дзесяць гадоў працы там я вырас да намесьніка прэзыдэнта нашай арганізацыі. Я зрабіўся вельмі палітызаваным чалавекам. Я шмат даведаўся аб агульным руху індзейцаў за свае правы. Лад жыцьця народу дэнэй пачаў мяняцца, бо адукацыя пашыралася ўсё больш на поўнач. Некаторыя дэнэй ужо не цікавіліся паляваньнем. Я сам ужо не хацеў больш жыць у лесе, бо за той час маё жыцьцё вельмі зьмянілася. З таго часу я вельмі зацікавіўся лёсам свайго народу дэнэй, тым, як ён выжываў у мінулыя часы. Я шмат напісаў аб ім для мясцовай газэты ў Елаўнайфе. Хутка я задумаў напісаць кнігу аб маім народзе, і як ён выжываў. Я напісаў дзьве добрыя кніжкі за два гады. Гэта было цікава. Таму што я вырас сярод многіх цікавых індзейскіх казальнікаў. Індзейцы – цудоўныя казальнікі. Я шмат даведаўся ад іх. Яны вяртаюцца ў даўніну амаль за восем тысячагодзьдзяў і расказваюць гісторыі аб гіганцкіх жывёлах, як дыназаўры і старажытныя арлы, аб розных відах гіганцкіх зьвяроў і птушак. Яны расказваюць так, быццам гэтыя гісторыі здарыліся ўчора. Індзейцы любяць таксама аповеды аб шаманскай сіле. Вось адкуль я шмат даведаўся, таму мне няцяжка было напісаць дзьве кнігі. Мне здавалася, я магу вызначыць шаманскую сілу, і я падумаў, чытачам будзе цікава, як у мінулым вялікія шаманы зьдзяйсьнялі такія цудоўныя рэчы, што цяжка ў іх паверыць. Нават індзейцы шмат гавораць аб ёй. Шаманская сіла і дагэтуль яшчэ ня вызначаная дакладна, але, на маю думку, такая кніга была б цікавай кожнаму.

Гэтая кніга – мая спроба зрабіць тое, што ніхто яшчэ не рабіў: вызначыць шаманскую сілу. У кнізе гаворка пойдзе аб апошніх двухстах гадах, хоць шаманская сіла існуе ад самага пачатку часу. Я адкрыю вам шаманскую сілу тым жа шляхам, як робяць індзейскія казальнікі – апавяданьнямі аб сапраўдных падзеях у гісторыі дэнэй. Я спадзяюся, што праз такую вандроўку ў часе мы дасяг-

нем лепшага тлумачэньня ды разуменьня шаманскае сілы. Тут вы знойдзеце калекцыю гісторый і прыкладаў з жыцьця гістарычных постацяў дэнэй, даведаецеся, як яны карысталіся шаманскаю сілаю дзеля дабра ці зла.

Адвеку, калі сьвет толькі пачынаўся, па Маці-Зямлі хадзіла двуногая раса. Доўгі час гэтая раса паводзілася больш, як жывёлы, чым людзі, якімі мы іх ведаем сёньня. Яны былі дзікунамі. А тады здарылася нешта важнае. Прыйшоў Ямарыя і прынёс людзям закон Дэнэй.

Ямарыя быў магутным шаманам і прарокам. Ён сапраўды быў сьвятым – тым, хто навучыў дэнэй, як жыць рэлігійным жыцьцём. Ён хадзіў па зямлі, гаварыў зь людзьмі. Місіяй ягонага жыцьця было абярнуць увесь народ у супольку лагодных людзей, што працуюць у спагадзе дзеля агульнага дабра. І яшчэ Ямарыя навучыў, як карыстацца шаманскай сілай.

Шаманская сіла – што ж гэта такое?

“Гэта таямніца”, – кажуць.

“Адкуль яна зьявілася ўпершыню?” – пытаюцца.

Гэта зьява, якую цяжка зразумець, яшчэ цяжэй растлумачыць, таму што гэта – дух. Нашыя старэйшыны навучаюць, што шаманская сіла – гэта падарунак ад Творцы, які насамрэч зьяўляецца пазыкаю. Калі ў ёй няма патрэбы, яна сыйдзе. Я хвалююся, што шаманская сіла ў сёньняшнія часы зьнікае зусім.

Адвеку, калі сьвет толькі пачынаўся, на Маці-Зямлі жылі зьвяры, рыбы, птушкі, але чалавека не было. Гэтак цягнулася вельмі доўгі час. І ўсе стварэньні, што жылі на Маці-Зямлі, валодалі шаманскаю сілаю.

У старажытныя часы ўсе тубыльцы былі знаёмыя з шаманскаю сілаю, таму што іхнае жыцьцё залежала ад яе. Няважна, ці быў ён шаманам ці не, але кожны верыў у яе і палягаўся на яе. Той, хто ёй не валодаў, атрымліваў дапамогу ад таго, хто яе меў. Гэтак было сярод усіх жыхароў паўсюль на Маці-Зямлі.

Народ дэнэй заўсёды верыў у Бога – Творцу ўсяго існага.

Калі на гэтых землях зьявіліся місіянэры, яны заявілі нам, што шаманская сіла ідзе ад д’ябла, і яны ня хочуць, каб мы карысталіся ёю і нават верылі ў яе.

Айяг, вялікі прарок дэнэй з Дэліна, што ў Паўночна-Заходніх Тэрыторыях, які памёр у 1940 г., шмат навучаў аб Творцу. Ён казаў, што людзі, якія місіянэрылі тут, ня мелі рацыі. Ён даводзіў: “Д’ябал нічога не стварыў. Усё стварыў Творца. Шаманская сіла – гэта падарунак ад Творцы нам, таму што яна нам вельмі патрэбная, каб выжыць у гэтым сьвеце. Але яна даецца адно ў пазыку ад Творцы і ня будзе з намі заўсёды. Некалі ў будучыні, калі яна больш ня будзе нам патрэбная, яна зьнікне, быццам Творца забярэ яе назад”.

Мы пытаемся: “Як ён, гэты моцны, незаўважны шаманскі дух, надаецца кожнаму паўсюль на Маці-Зямлі і хто яго надае?”

Вядома, нічога няма немагчымага для Творцы ўсяго існага. Мы верым, што Творца, Бог, ёсьць усюды. Калі бедны чалавек памоліцца ад усяго сэрца, адзін у сваім намёце ў лесе, Творца прыйдзе да яго і будзе побач зь ім, слухаючы і гатовы дапамагчы. Бо Творца, Бог, чуе кожнага зь мільярдаў людзей на Маці-Зямлі і дапамагае кожнаму.

Уважаецца, што трэба быць вельмі добрым, амаль сьвятым, каб атрымаць шаманскую сілу. Калі ў чалавека сэрца ня чыстае, ён не атрымае шаманскае сілы. Творца, які ўсё бачыць і чуе, можа вызначыць, ці мае нехта якасьці, неаб-

ходныя для шаманскае сілы. Творца раздае шаманскую сілу рознымі шляхамі. Самыя моцныя шаманы атрымліваюць свой дар ячшэ да народзінаў. Дар шаманскае сілы даецца чалавеку, каб дапамагчы яму ў жыцьці на зямлі, і каб ён дапамагаў іншым. Уважаецца за вялікае шчасьце атрымаць шаманскую сілу такім чынам. Іншыя цяжка працуюць у надзеі заслужыць яе некалі.

Самая моцная сіла – тая, што даецца шчасьліўцу да ягоных народзінаў. Ягоная душа атрымлівае гэты дар наймацнейшай сілы, бо яна ідзе ад самога Творцы. Гэтай сіле няма роўнай. Гэта самая сапраўдная, чыстая шаманская сіла, і чалавек мусіць пражыць зь ёю ўсё жыцьцё, і ён можа рабіць усё што заўгодна, бо валодае ёю пажыцьцёва.

Другі спосаб атрымаць шаманскую сілу – падчас нараджэньня. Яшчэ няшмат інфармацыі ёсьць на гэтую тэму, бо дзіця занадта малое, але гэтая шаманская сіла такая ж сапраўдна чыстая.

Па часе дзіця набудзе бачаньне сваёй сілы. Магчыма, хто-небудзь будзе навучаць дзіця, пакуль яно расьце, пакуль яно не навучыцца кіраваць сваёю сілаю. Дзіця вырасьце, пасталее і будзе карыстацца шаманскаю сілаю самастойна.

Трэці спосаб набыць шаманскую сілу – атрымаць яе ад каго-небудзь іншага. Напрыклад, часам бацькі ці дзед з бабкаю могуць даць усю ці частку сваёй сілы сваім дзецям ці ўнукам перад тым, як пакінуць фізычны сьвет і вярнуцца да духовага сьвету, дзе яна ім больш не патрэбная. Гэты спосаб найменш пажаданы, бо шаманская сіла пры ім не такая моцная, як тая, якую ты можаш атрымаць да нараджэньня ці падчас яго. Яна ня так добра працуе, бо прыйшла не ад Творцы. Гэты від шаманскае сілы, у якой задзейнічана шмат людзей, нядобры, бо людзі робяць шмат памылак зь ёю. Тады зь імі здараюцца беды. На жаль, часам людзі і паміраюць ад яе. Шмат людзей памірае заўчасна. Многія старэйшыны ня любяць такой спосаб перадачы, бо ад яго шмат бедаў, і ён небясьпечны.

Наймацнейшыя шаманы звычайна валодаюць цудоўным бачаньнем, якое вядзе іх па жыцьці. Іхнае бачаньне шмат чаго тлумачыць ім, напрыклад, як карыстацца шаманскаю сілаю. І хаця навучаньне падчас бачаньня вельмі глыбокае і інтэнсіўнае, але адбываецца яно ўмомант.

Я меў ласку паслухаць чатырох розных людзей, якія патлумачылі мне, як яны атрымалі шаманскую сілу да таго, як яны нарадзіліся. Адзін казаў мне: “Я валодаю сілаю на ўсё існае на зямлі: вецер, аблокі, паветра, сонца, месяц, плянэты, космас, туман, ваду. Яшчэ я маю сілу на ўсіх стварэньняў, што ходзяць, поўзаюць на зямлі, і на тых, што лётаюць у небе. Я валодаю сілаю на ўсё, што расьце, і нават на розум жывёл і людзей”.

Яшчэ адзін шлях работы з шаманскаю сілаю – гэта зрабіцца партнэрам з духамі жывёлаў. Калі так адбываецца, шаман размаўляе з жывёламі на адной мове. Яны працуюць як каманда. Гэтак жа можа адбывацца і зь іншымі рэчамі, такімі, як камяні. Мы ведаем з вучэньня нашых прарокаў, што ўсе рэчы маюць дух.

Шаманская сіла можа быць у розных формах. Можна працаваць з шаманскім духам ветру ці месяцу і шмат якімі іншымі. Калі шаманскі дух, напрыклад, ветру працуе з шаманам-чалавекам, патрэбная асаблівая форма для стасунку. Яна можа быць падобная да чалавечай. Дух можа сказаць: “Я – вецер. Калі ты хочаш нешта зрабіць, я магу дапамагчы табе”.

Гэта пачатак тлумачэньняў шаманскае сілы.

## 1. Вера ў шаманскую сілу

Дэнэй вераць, што Творца, Бог, стварыў усё на гэтай зямлі. Чаму некаторыя рэчы бачныя для нас, а іншыя – не, ёсьць вялікая таямніца. Нават хрысьціяне навучаюць, што трэба верыць у тое, што ня можна пабачыць.

Узгадайма гісторыю зь Бібліі, калі Ісус памёр на крыжы. Ягоны Дух зьявіўся перад ягонымі вучнямі, усімі, акрамя Тамаша, якога тады не было зь імі. Пазьней, калі Тамашу расказалі, як зьявіўся Ісус, ён ня мог паверыць. Ён казаў: “Я паверу адно, як пабачу на свае вочы”. Тады Ісус зьявіўся перад ім і паказаў свае раны на нагах і руках. Тамаш укленчыў і сказаў: “Гасподзь мой, гэта ты”. Ісус адказаў: “Тамаш, ты бачыш і цяпер ты верыш. Дабраслаўлёныя тыя, хто ня бачаць і вераць”.

Гэтак жа і з шаманскаю сілаю. Хоць нехта, хто не валодае шаманскаю сілаю, ня можа ўбачыць ці пачуць духаў – яны ўсё роўна існуюць. Нічога страшнага, калі вам цяжка гэта зразумець. Далей будзе больш праясьняцца.

У Бібліі сказана, што існуюць рэчы, якія мы зможам зразумець, адно калі адправімся да нябёсаў. Гэтае ж можна сказаць і пра многія зьявы на зямлі. Чаму столькі людзей гіне ў войнах? Ці чаму некаторыя вымушаныя несьці цяжар пакутаў, калі губляюць маладых жанок, мужоў, дзяцей? Адно нас усьцешвае, што таямніцы нашага жыцьця адкрыюцца нам, калі мы вернемся да духовага сьвету.

Мы таксама мусім верыць, што ў Творцы ёсьць плян для ўсяго тут, на зямлі, нават калі мы ня можам яго зразумець. Няма сэнсу злавацца на Творцу, бо ён зьяўляецца найвялікшым існым духам. Лепей яму маліцца.

У Бібліі сказана, што людзі маюць душу. Там яшчэ сказана, што твой дух пакідае цела, калі ты паміраеш. Я ня ведаю розьніцы паміж душой і духам. Я веру, што кожны з нас мае адзін дух. Шаманская сіла таксама – дух.

Шаманы здольныя кантактаваць з нашым духам. Яны кажуць нам, што кожны з нас мае дух, далучаны да нашага фізычнага цела. Цалкам відавочна, што мы ня можам існаваць без свайго духу. Адкуль яны гэта ведаюць? Шаманы могуць яго бачыць. Калі шамана просяць дапамагчы, напрыклад, хвораму, першае, што ён робіць, гэта правярае, ці дух яшчэ на месцы. Калі яго няма – ён ведае, што чалавек ня выжыве.

Даўней, кажуць, былі вядомыя выпадкі, калі шаманы спрычыняліся да сьмерці чалавека, скраўшы ў яго дух.

## 2. Шаманская сіла першага гатунку

Калі сьвет адно пачынаўся, неабходным было ведаць ня толькі, хто зьяўляецца шаманам, але і тое, хто зьяўляецца вельмі моцным шаманам, каб палягацца на яго. Людзі дэнэй цалкам залежалі ад шаманскае сілы ў сваім змаганьні за жыцьцё. Таму гэта быў краевугольны камень выжываньня. Але таму што шаманская сіла ёсьць дух, бальшыня шаманаў не гавораць аб ёй. На шчасьце, некаторыя ўсё ж расказалі нам, таму мы нешта ведаем аб ёй сёньня.

Гэтая гісторыя аб чалавеку з Форту Норман, што ў Паўночна-Заходніх Тэрыторыях. Ён быў незвычайным шаманам. Ён валодаў толькі адною сілаю, і гэ-

та была дзіўная сіла. Ён ніякім чынам ня мог дапамагчы людзям сваёю сілаю. Аднак ён быў шчасьлівым чалавекам, заўсёды жартаваў і ні аб чым не турбаваўся. У яго была сіла на сваю скуру.

Кожную вясну, калі паветра цяплела, ягоная скура рабілася вельмі цёмнаю і лускаватаю. Калі лускаткі абсыпаліся, ён выглядаў пачварным і жалю вартым. Людзі ведалі, што гэта з-за ягонай шаманскай сілы і рагаталі зь яго. Жанчыны казалі яму:

– Ну, ты і вырадак! Чаму ты не пазбавісься гэтай сваёй дурной сілы? Ты ж пакутуеш!

На што ён адказваў:

– Не магу! Гэта мая шаманская сіла і, між іншым, яна дапаможа мне жыць доўга, – і ён сьмяяўся.

Гэты чалавек дажыў да ста гадоў. Ён быў бедным усё сваё жыцьцё. Ня быў ён ні ўдалым паляўнічым, ні рыбаком, таму што ён ня меў шаманскае сілы на гэта. І сваім людзям ён ня мог дапамагчы.

Вось быў яшчэ Эдвар Аклавік, аб кім вы прачытаеце ў Разьдзеле 9. Ён быў поўнай процілегласьцю. Эдвар меў зашмат шаманскае сілы. Ён меў столькі розных здольнасьцяў, сілаў, што ня хопіць часу нават назваць іх. Назваць абаіх гэтых людзей шаманамі была б поўная няроўніца. У нас не хапае мовы, каб назваць гатункі розных шаманаў, але, як вы бачыце з гэтае гісторыі, яны вельмі адрозныя. У мове дэнэй ёсьць адно слова, што апісвае надзвычай моцнага шамана, які можа перамагчы любога іншага. Гэтае слова – Бе-Ба-Тэ. Але, я думаю, мы мусім прыдумаць яшчэ словы для вызначэньня розных відаў шаманаў.

Я прапаную, каб мы называлі шаманаў, што атрымалі сваю сілу да нараджэньня, “шаман першай гільдыі”. А шамана, што атрымаў сілу пасьля нараджэньня, – “шаман другой гільдыі”. Тады шаман, што прыняў сілу ад бацькоў ці сваякоў, – “шаман трэцяй гільдыі”.

Некаторыя, бывала, куплялі сваю шаманскую сілу, што, трэба сказаць, ня вельмі працавала. Пэўна, гэта таму, што яны атрымалі яе не ад Творцы. Бывае, што дух шаманскае сілы не зусім адпавядае таму чалавеку, таму шаманы трэцяй гільдыі не падкантрольныя ёй. Шаманы трэцяй гільдыі ненадзейныя. Часам могуць нешта, часам – не.

Тыя ж з нас, хто не валодае шаманскаю сілаю, ня могуць адрозьніць гільдыі шаманаў. Чуткі разносяць хутка, калі вызначыўся нехта з шаманскаю сілаю, і тады людзі ідуць да яго па дапамогу, нават ня ведаючы, якім гатункам ён валодае.

Калі шаман трэцяй гільдыі пыхлівы, ён можа спакусіцца ўдаваць, што ў яго ёсьць тая сіла, якой насамрэч няма. Ён можа нават разыграць дурняў. Шаманскія духі – гэта вялікая сіла, і ня варта зь ёю гуляцца. Шаман трэцяй гільдыі можа ўрэшце кепска скончыць, калі будзе займацца гэтым.

Напрыклад, па правілах, шаману, каб атрымаць дапамогу ад шаманскага духу, трэба падыйсьці да яго і дамовіцца аб парадку. Такім чынам яны пагаджаюцца, як рабіць далей. Але калі шаман мае чыньнікам сваіх дзеяў ганарлівасьць ды пыху, ён можа адыйсьці ад парадку. Гэта найлепшы спосаб памерці заўчасна й маладым. Кажуць, шмат маладзёнаў загінулі такім чынам. Шаманская сіла – гэта не гульня!

Усе гатункі шаманскае сілы сапраўды чыстыя. Але ўсё ж добра было б умець адрозьніваць іх.

Шаманская сіла першага гатунку здольная даведацца аб усім, што адбывалася ў мінулым, адбываецца цяпер і адбудзецца ў будучыні. Гэтая сіла таксама можа ведаць усё, што адбываецца на Маці-Зямлі й па-за ёю. Шаман першае гільдыі ведае ўсё аб шаманскай сіле, як яна працуе, і мае доступ да самых першасных ведаў.

Усіх шаманаў першае гільдыі штодня наведваюць духі-памагатыя, якія навучаюць іх, як шаманскія сілы працуюць. Шаманы першай гільдыі могуць стасавацца з усімі ўзроўнямі шаманскіх сілаў: высокім, сярэднім і ніжнім. Але шаманы другой і трэцяй гільдыі ня могуць стасавацца з узроўнямі, вышэйшымі за ўзровень іхнае сілы.

Адно шаманы першага гатунку, якія бываюць вельмі рэдка, могуць мець справу з шаманскімі духамі высокага ўзроўню. Шаманскі дух мае паважаць шамана – і гэта істотна, інакш ён проста праігнаруе ягоныя просьбы. Фактычна шаману патрэбна дапамога духу, каб некага вылечыць. Аб дапамозе шаман можа прасіць, калі ня мае замінаў у стасунках з шаманскім духам.

Творца дае шаманскую сілу людзям. Творца ведае ўсё, разам з тым, якім будзе той чалавек, нават да таго, як ён народзіцца. Гэта дух чалавека атрымлівае шаманскую сілу для жыцьця. Так што калі вы зьдзіўляецеся, як гэта чалавек атрымлівае шаманскую сілу да народзінаў, то насамрэч гэта ягоны дух яе атрымлівае. А тады чалавек прыходзіць на сьвет і робіцца шаманам.

## 3. Што ёсьць дух?

У казальнікаў дэнэй ёсьць шмат гісторый аб тым, што здараецца, калі ты паміраеш. Яны кажуць, што калі ты паміраеш, твой дух адлучаецца ад цела і адыходзіць у духовы сьвет. Пасьля таго ён можа зноў нарадзіцца ў фізычным целе. Гэта кола. Насамрэч, паколькі казальнікі шмат чаго могуць расказаць пра дух, у нашай мове ёсьць адмысловае слова для апісаньня таго духа, што пакінуў фізычнае цела. Гэта – Інча Дэнэй.

Дэнэй вераць, што дух далучаны да нашага цела. Ён знаходзіцца ўнутры нашага цела і зьяўляецца тою сілаю, што ажыўляе яго. Калі дух пакідае фізычнае цела зь якой бы то ні было прычыны, цела хутка памрэ. Вядома, што памірае адно фізычнае цела, бо дух вечны. Ён не памірае ніколі.

Калі шаман валодае шаманскаю сілаю, гэта азначае, што ён можа выйсьці ў духовы сьвет і агледзецца там. Фактычна ён сам робіцца духам і ідзе шляхам, які праторыў нейкі дух. Тады ён можа пагаварыць з тым духам і вярнуцца ў фізычны сьвет. Шаман, пабачыўшы, што дух чалавека пакінуў сваё цела, ведае, што чалавек хутка памрэ, адно калі гэты дух не вярнуць нейкім чынам назад у цела.

## Бе Гаглей (Шлях Духу)

Некаторыя шаманы маюць адметныя здольнасьці. Яны могуць расьсьледаваць дарогу твайго жыцьця. Яна называецца Бе Гаглей, або “Шлях Духу”. Гэта нібыта сьцежка, што ідзе назад у тваё мінулае да самага твайго нараджэньня і гэтак жа ідзе ў будучыню да часу тваёй сьмерці. Шаман, які праглядае твой Бе Гаглей, шлях твайго духу, можа сказаць табе, колькі ты пражывеш. Вядома,

ня кожны шаман мае такія адметныя здольнасьці. Адно тыя, хто адораны сілаю на Бе Гаглей, могуць рабіць такое.

Вось гісторыя, якая патлумачыць гэтае вучэньне.

Аднойчы ў вялікае паселішча прыйшла адна сям'я. Яны былі змучаныя горам, прасілі пабачыцца з шаманам. Іхняя дзесяцігадовая дачка была вельмі хворая, яны баяліся, што яна памрэ. Іх прывялі да знакамітага шамана, які тут жа папрасіў прынесьці дзяўчынку. Не марудзячы, ён праверыў ейны дух і ў засмучэньні адзначыў, што той адыйшоў. "Мне трэба зрабіць абрад, каб пабачыць Бе Гаглей", – сказаў ён.

Шаман перагледзеў жыцьцё дзяўчынкі ды знайшоў крыніцу ейнай хваробы. Сям'я качавала ўздоўж возера, дзе сьнегам насыпала вялізныя сумёты. Каб разьбіць лягер і паставіць намёт, яны сьсеклі дрэва вышэй сумёту. Да гэтага моманту дзяўчынка была здаровая. Яна гулялася на двары з санкамі: зацягвала сані ўгару на гэты сумёт ды зьяжджала на іх уніз. Гэтак яна каталася да самае ночы, з радаснымі крыкамі, вэрхалам – забаўлялася.

На жаль, няўцям было бацькам, што паставілі яны намёт дакладна там, дзе некалі памерла адна старая магутная шаманка. Дзяўчынка гулялася якраз над тым месцам, дзе старая шаманка была пахаваная. Нейкім чынам дух гэтае шаманкі быў прыкаваны да месца, дзе яна памерла, і яму не спадабаўся гоман, які нарабіла дзяўчынка. Старая эгаістычна скрала дух дзяўчынкі. Яна хацела далучыць яго да сваёй кампаніі, нават ведаючы, што дзяўчынка памрэ.

Шаман, які выканаў абрад Бе Гаглей, валодаў многімі дарамі. У яго аказалася такая ж сіла, як і ў старой шаманкі, што знаходзілася цяпер у духовым сьвеце. Гэта азначае, што ён лёгка мог пагаварыць зь ёю.

– Ты што нарабіла, старая? Я бачу дух дзяўчынкі з табою. Ты мусіш аддаць яго мне.

– Не! Мне так самотна. Ён будзе са мною.

– Мне шкада, што ты такая самотная, – шаман намагаўся ўгаварыць яе, – але ён не належыць табе. Гэты дух належыць дзяўчынцы, і калі ты затрымаеш яго пры сабе, яна памрэ. Ейныя бацькі будуць так пакутаваць! І потым, тое, што ты зрабіла, – няслушна. Аддай яго мне!

Шаманка ніяк не пагаджалася. Шаман паспрабаваў па-іншаму:

– Тады я павінен цябе забіць.

Старая засьмяялася:

– Як ты заб'еш мяне? Я ж ужо памерла раз і больш памерці не магу!

– Можаш! І я мушу забіць цябе, бо ты ўмешваесься ў фізычны сьвет і шкодзіш людзям.

І тады ён гахнуў старой па галаве шаманскаю сякераю. Яна абрынулася долу кучаю касьцей. І ён сказаў гэтым касьцям:

– На гэты раз ты сапраўды мёртвая і больш ня будзеш замінаць людзям у фізычным сьвеце.

Тады ён узяў дух дзяўчынкі і далучыў яго да ейнага цела.

Бацькам ён сказаў:

– Вашая дачка паправіцца.

Вось гэтак ён ратаваў ёй жыцьцё. Бацькі, радасныя, забралі дзяўчынку й былі шчасьлівыя тым, што ім пашанцавала знайсьці такога шамана, які валодаў дакладна тою шаманскаю сілаю, якая была патрэбная для ратаваньня дзяўчынкі.

## 4. Права на шаманскую сілу

Хто мае права атрымаць шаманскую сілу, і як яна разьмяркоўваецца?

Шаманская сіла даецца людзям рознымі шляхамі. Часам вястун, што працуе на Творцу, прыносіць шаманскі дар. Вестуны бываюць розных формаў: можа быць духам жывёлы ці старым чалавекам. Для кожнага атрымальніка – свой. І як я сказаў вышэй, Творца можа даць дар сам да нараджэньня чалавека ў фізычны сьвет.

Я чуў пра вестуноў, што зьяўляліся ў вобліку лася, аленя ці мядзьведзя. Дух аленя размаўляе з шаманам і можа сказаць: "Вось я – дух аленя. Я даю табе шаманскую сілу майго народу, каб мы маглі працаваць разам і дапамагаць усім народам на Маці-Зямлі".

Кажуць, што трэба быць добрым чалавекам, каб атрымаць шаманскую сілу.

## 9. Гісторыя Эдвара

Эдвар быў вялікім шаманам, што жыў у 1850-х гадох. Ён родам з Аклавіку, што ў Паўночна-Заходніх Тэрыторыях, з племені гвіч'ін. Эдвар быў чалавекам сьціплым і аб сваіх шаманскіх здольнасьцях гаварыць не любіў. Гэта, аднак, не замінала людзям часам зьвяртацца да яго па дапамогу.

А гісторыя здарылася ў той час, калі на поўначы пачалі зьяўляцца першыя эўрапейцы. Першымі былі гандляры футрам. А за імі прыйшлі і місіянэры з намерам абярнуць індзейцаў у хрысьціянства. Кожны сьвятар быў у ашаламляльных апранахах: даўгім чорным каптане зь вялікім крыжом на ланцугу аж да пояса. Нашы людзі былі напалоханыя такімі дзіўнымі мужамі. Яны прынялі іх за самых магутных шаманаў.

Адзін Эдвар не збаяўся магутных шаманаў. Ён наагул нічога не баяўся. І вось ён пастанавіў, што мусіць пагаманіць з гэтым мужам, што завецца "сьвятар".

Эдвар прыйшоў да яго і давай тлумачыць, што ён валодае вялізнаю шаманскаю сілаю, хоць ён ніколі гэтай сілы не прасіў. Яшчэ ён сказаў, што гэтыя частыя просьбы аб дапамозе для яго ўжо занадта, вельмі яго абцяжарваюць, і ён ужо стаміўся.

– Я чуў, як людзі гаварылі аб табе. Яны кажуць, ты – самы магутны шаман, што ты можаш адправіць чалавека ў рай ці пекла пасьля сьмерці. Яшчэ я чуў, што ты кажаш людзям, што шаманская сіла ідзе ад злога духа, якога вы завяце "д'ябал", і гэта табе не падабаецца. Вось чаму я мусіў прыйсьці да цябе па дапамогу, бо я хачу пазбавіцца маёй шаманскай сілы. Не мая віна, што ў мяне яе столькі. Мне яе далі да майго нараджэньня. Але жыцьцё шамана мне нецікавае. Цяжка жыць, увесь час вырашаючы нечыя няшчасьці.

Сьвятар, вядома, ня меў ніякіх ведаў аб шаманскай сіле. Нават людзі дэнэй, што жывуць з шаманізмам прынамсі ўжо тысячу гадоў, мала ў ёй разумеюць. Але сьвятар вырашыў, што ён можа навучыць Эдвара, як пазбавіцца сваіх шматлікіх дароў.

Сьвятар усьміхнуўся й сказаў:

– Эдвар, тое, аб чым ты просіш, вельмі лёгка зрабіць. Папросту ўкленч зараз перада мною і спавядай мне ўсе шаманскія сілы, якімі ты валодаеш. Потым я памалюся над табою, і ўсё тваё шаманства ўміг выйдзе зь цябе.

Эдвар зьдзіўлена паглядзеў на сьвятара:

– Я ня думаў, што гэта так лёгка! Калі тое, што ты кажаш, – праўда, то ці павінен я пры спавяданьні назваць кожную шаманскую сілу, каб пазбавіцца яе?

– Так, сын мой, ты мусіш назваць усе.

Эдвар некаторы час сядзеў ціха. Тады паглядзеў на сьвятара ды сказаў:

– У мяне багата шаманскай сілы. Я не карыстаюся ёю без патрэбы. Бальшыня з шаманскіх духаў папросту напагатове, каб працаваць празь мяне, але я не зьвяртаю на іх увагу. Калі я мушу назваць кожнага, адзін за адным, гэта возьме шмат часу. Глядзі, у мяне сіла на космас, на сонца, на месяц, зоркі ды ўсе плянэты ў сусьвеце. Яшчэ ў мяне сіла на паўночнае зьзяньне, вецер, туман, хмары, паветра ды ўсе рэчы, што ёсьць на зямлі. Тады яшчэ сама зямля, усё жывое ў вадзе, у паветры, усе кузуркі, што корпаюцца на зямлі, расьліны, дрэвы, камяні, горы, рэкі, селі, апоўзьні, землятрусы, дождж, маланкі, гром, сьнег ды ўсё, што тычыцца надвор'я... Бачыш, колькі рэчаў? Калі я мушу называць іх адно за адным – я зраблю гэта, калі неабходна. Але падаецца, што мне давядзецца кленчыць перад табой дзень за днём... тры ці чатыры гады. Зразумела, што мне тады давядзецца жыць у тваёй хаце ды есьці з твайго стала, пакуль мы ня скончым.

Сьвятар, агаломшаны, адказаў са злосьцю:

– Ты ня можаш гэтак! Я – чалавек бедны, і не магу даглядаць цябе!

– Але, – сказаў Эдвар, – ты ж сказаў, гэта будзе вельмі лёгка!

Сьвятар раптам ачомаўся да самавалоданьня й патлумачыў:

– Ты моцны чалавек, Эдвар. Я ня ведаю, што сказаць. Усё, што я магу для цябе зрабіць, – гэта памаліцца над табой і даць табе найлепшай рады, якой я магу.

Тады ён наказаў Эдвару:

– Сын мой, укленч тут перада мной, я памалюся за цябе.

Калі ён скончыў, сказаў:

– Ідзі дадому ды маліся Богу, сын мой, столькі, колькі зможаш. Пастарайся быць звычайным чалавекам і забудзь пра сваё шаманства.

Эдвар вярнуўся дахаты, усё гэтак жа валодаючы сілаю, як і раней. Нічога ў яго не зьмянілася.

Калі сьвет адно пачынаўся, было шмат такіх шаманаў, што атрымлівалі такую шаманскую сілу, як Эдвар. Творца надзяляў іх усёю сілаю адразу, не карыстаючыся вестунамі для кожнага віду шаманскае сілы.

Вось яшчэ адна гісторыя з Эдварам, калі ён жыў з трыма сем'ямі зь дзецьмі й старымі. Адзін мужчына зь іхняга паселішча забіў лася далёка, за дзесяць міляў у лесе. Вось сем'і сабраліся, заладаваліся ды пайшлі туды, дзе быў забіты лось, каб зьесьці яго. Але там здарылася вялікая бяда: на тым месцы бушаваў вялікі лясны пажар і вецер разганяў полымя вакол іх.

Людзі занепакоіліся. Раптам проста перад імі дрэвы пачалі дыміцца і ўспыхнулі полымем. Нехта ўжо сказаў, што, маўляў, згарым тут усе жывымі. Адзін са старых крыкнуў Эдвару праз трэск полымя:

– Ты ж завесься шаманам. Зрабі што-небудзь!

Эдвару давялося крычаць на ўвесь голас:

– Дух ветру! Перамяніся зараз! Дзьмі ў іншы бок ад нас!

І вецер памяняўся.

– Дух грому! Дай праліўнога дажджу зараз!

І ў небе зьявілася вялікая хмара. Пачуўся гром, і пайшоў моцны дождж.

Эдвар крыкнуў людзям:

– Усім спаць зараз!

І ўсе раптам паснулі.

А раніцаю засьвяціла сонца. Не было ні агню, ні ветру.

Гэта ўсё зрабіў Эдвар для сваіх людзей. Ён быў вялікім чалавекам.

---

[1] КККП (англ. RCMP) – Каралеўская канадыйская конная паліцыя (Royal Canadian Mounted Police).

[2] 1 амэрыканская міля – 1,6 кілямэтраў.

[3] кану – індзейская лодка, човен.

[4] табаган – сані.

***Джон МакЛіад*** *(John McLeod), нарадзіўся ў 1949 г. , нашчадак культуры племені місісаўгі (Антарыё), пісаў гісторыі й аповесьці, якія публікаваліся ў індзейскіх часапісах “Ontario Indian” і “Toronto Native Times”. Ён гаварыў аб сваім першым апавяданьні “Дрыготкае дрэва”, што гэта ёсьць “...квазі-традыцыйная рэч, зьмяшаньне старажытнай казкі з каліўцам маёй собскай фантазіі. Гэта і ёсьць тое, я мяркую, чым па сутнасьці і зьяўляецца нашае нацыянальнае казальніцтва (я гэтую гісторыю распавядаў вусна, перш чым запісаць)”. МакЛіад напісаў яшчэ п’есу “Дзёньнік дуркаватага” (Diary of a Crazy Boy), якая зь вялікім посьпехам ставілася на сцэнах Таронта.*

## Дрыготкае дрэва

The Shivering Tree

Нанабуш ішоў, ён крочыў ужо доўгі час. Ён крочыў ужо доўгі час, і ён вельмі стаміўся і хацеў піць.

– Ох, хо, хо, – сказаў Нанабуш сабе, – Я крочу ўжо доўгі час, і ох жа ж, як я стаміўся й хачу піць. Добра, што я такі разумны ды здагадаўся ісьці ўздоўж ракі. Такім чынам, калі я згублюся, я буду ведаць, дзе я знаходжуся, нават калі й ня буду ведаць.

І яму спадабалася тое, што ён сказаў сам сабе.

– Шчасьце мне, што я такі ўдалы, – паўтарыў Нанабуш сам сабе.

Ён спыніў свой шлях, усьміхнуўся, хітнуў галавою – ён так ганарыўся сабою за тое, што сказаў дакладна перад тым, як сказаў, які ён удалы.

– Ну, Нанабуш, удалец, пайшлі зараз да ракі, пап’ем, выцягнем старыя

косьці на год ці два... гэх-хэх.., – сказаў Нанабуш сам сабе. І пагадзіўся.

Адчуваючы гонар за самога сябе, Нанабуш спусьціўся да ракі. Яна была ня так далёка, ён падыйшоў, піў доўга, з асалодаю, напырскаў вады сабе на твар і расьцягнуўся на белым пяску.

– Пэўна, што гэты сьвет вялікі, – падумаў ён. – Недзе далёка на захад адсюль ёсьць Высокія Горы, знаныя як Дом Заходняга Ветру. Некалі я дабяруся туды, бо ў мяне ёсьць рахункі да гэтага Старога Дружы.

Тут ягоныя чуйныя вушы злавілі яшчэ нейкі гук вышэй за галасы ракі. Гэта быў іншы голас – чалавечы.

Нанабуш хутка сеў.

"Чалавек? – падумаў ён. – Ня можа быць. Ніводзін чалавек не заходзіў гэтак далёка".

Але гэта быў чалавек. Прынамсі выглядаў. Але гэта нічога не азначала ў тыя далёкія часы. Урэшце рэшт, і Нанабуш выглядаў, як чалавек... амаль заўсёды. Але Нанабуш быў далёка не чалавек. Дык хто ж, ці што было тое стварэньне?

Як я казаў, незнаёмец прынамсі выглядаў чалавекам. Высокім і хударлявым, апранутым ў аленевую скуру з даўгімі кутасамі, што трымцелі ды дрыжэлі па ветры. На ім былі цёплыя нагавіцы ды макасіны, быццам была восень і надвор'е халадзела.

Незнаёмец нечым жангляваў. Гэта ўжо было цікава.

Ён жангляваў з заплюшчанымі вачыма. І гэта было немагчыма цікава.

Нанабуш падняўся, павольна, не адрываючы вачэй ад жанглёра.

– Здароў, Нанабуш! – сказаў жанглёр, не спыняючыся, з заплюшчанымі вачыма. – Ты ж Нанабуш, хіба не?

Нанабуш пачуўся абражаным.

– Вядома, я – Нанабуш! Хто ж яшчэ?

Жанглёр – з усё яшчэ заплюшчанымі вачыма – усё яшчэ жанглюючы тым, што цяпер выявілася параю маленькіх крышталяў – усьміхнуўся.

– Ну, зараз паглядзім, – сказаў Жанглёр, так і жанглюючы з заплюшчанымі вачыма. – Ты мог бы быць Я, калі мець на ўвазе, што адзіны чалавек у гэтым куце – я. Але што як ты – гэта ты, а ня я, і я тут, каб зразумець гэта; я бачу, што Я – гэта я, а ты – гэта ты, і ты пэўна – Нанабуш, бо я чуў, што ты быў заўважаны ў гэтых мясьцінах, а я – адзіны чалавек тут, хто мог бы пачуць пра цябе, акрамя цябе.

Нанабуш вылупіўся на Жанглёра.

– Шчасьце тваё, што я такі разумны. Бо калі б я ня быў ім, я б цалкам заблытаўся ў тым, што ты сказаў, і вельмі б раззлаваўся.

Жанглёр адно працягваў жангляваць з заплюшчанымі вачыма.

Нанабушу лопала цярпеньне.

– Ну? Ты скажаш мне, хто ты такі?

Зь вялікаю, шырачэзнаю ўсьмешкаю Жанглёр спыніўся, расплюшчыў вочы і павярнуўся да Нанабуша.

– Добра. Я – жанглёр і фокусьнік. Мяне тут ведаюць як Нястомнага Бы Вецер. Але бальшыня кліча мяне проста Жанглёр.

– Я ніколі ня чуў пра цябе.

Нанабушу ён зусім не спадабаўся. Так, спадарства, Нанабуш неўзьлюбіў яго.

– Я тут гуляўся проста з параю кавалкаў крышталю. Нічога асаблівага. Гэта звычайная жанглёўка, зь якою справіцца нават дзіця, з заплюшчанымі вачыма ці не. Гэта што! Глядзі, я пакажу табе нешта з сапраўдных фокусаў. Глянь, Нанабуш, глянь!

З хуткасьцю маланкі Жанглёр вылупіў свае собскія вочы й пачаў імі жангляваць, хуценька, з рукі ў руку, туды-сюды, з рукі ў руку.

Нанабуш аслупянеў.

Само па сабе гэта ўжо было нешта! Ня так лёгка ўразіць такога, як Нанабуш. Усе ведаюць, роўных Нанабушу нікога няма!

Жанглёр усё гуляўся. Жангляваў сабе з рукі ў руку, туды-сюды, туды-сюды, з рукі ў руку, прытанцоўваў, падскокваў, жангляваў.

Жангляваў сваімі вачыма.

– Ану, кінь гэта! – зароў Нанабуш. – У мяне ўжо галава захадзілася! Кінь, табе кажу!

І Жанглёр хутка, гэтак жа, як і пачынаў, спыніўся, стаў проста, раскінуўшы рукі, з закінутаю галавою, якраз, каб вачам трапіць дакладна ў вачніцы.

У Нанабуша ледзь не павылазілі ягоныя вочы, гэтак ён вылупіўся.

Жанглёр усьміхнуўся – ён яшчэ пасьміхаецца!

А Нанабуш усё гэтак і стаяў, аслупянеўшы.

Я бы не дакараў Нанабушу так адразу, мае сябры. Далёка ня кожны вытрымае такое відовішча.

– Ну, гэта, відавочна, найлепшая жанглёўка, якая мае быць, – сказаў урэшце Нанабуш. – І ты можаш прыняць гэта як слова таго, хто самым першым прыдумаў жанглёўку.

Жанглёр усьміхнуўся.

– О, Вялікі Нанабуш, Бацька Жангляваньня! Пэўна, я мушу выказаць маё шанаваньне, сапраўднае шанаваньне, ад усіх нас, жанглёраў. Давай я пакажу табе, як гэта робіцца. Пакажу, як жангляваць сваімі собскімі вачыма ў сваіх руках.

Урэшце да Нанабуша дайшло. А трэба сказаць, што якім бы вялікім ды ўсясільным ён ні быў, але часам рабіў дзіўныя памылкі, і ўжо як зробіць што, дык жах! Гэтая ж мусіла стацца найгоршай.

– Мне было б вельмі прыемна, – сказаў Нанабуш з паблажліваю ўсьмешкаю гордага бацькі. – Тым больш, мне ніколі не запозна вучыцца.

І то праўда. Нанабуш быў гатовы ўзяць лекцыю таго, што ні ён, ні мы ніколі не забудземся.

– Тады дазволіш мне паказаць, як гэта робіцца? – усьміхнуўся Жанглёр.

– Зрабі мне гонар, – Нанабуш падаўся наперад. – Пакажы, як гэта робіцца, сынок.

– Самае небясьпечнае – гэта правільна дастаць вочы. Трэба крыху націснуць ніжэй кожнага вока. Вось гэтак.

Жанглёр паказаў, як трэба зрабіць: вялікім пальцам націснуў пад вачаніцамі і... опа!... вока выскачыла. Вельмі хутка, але лоўка, злавіў вочы і гэтак жа хутка і лоўка запхнуў іх назад у вачніцы.

– Бачыў? Цяпер... асьцярожна... на першы раз... Паспрабуй цяпер сам на сабе. Не сьпяшайся. Гэта толькі першая лекцыя.

Нанабуш паклаў палец пад вачніцай, асьцярожна націснуў ім.

– Добра, добра... давай, – падбухторваў яго Жанглёр. – Асьцярожна!.. Уважна цяпер...

І – опа! – Нанабушавы вочы выскачылі вон.

А тады... маланкавая рука Жанглёра выхапіла Нанабушавы вочы, і вобміг яны ўжо былі ў паветры.

– А вось яны!.. Ха-ха! Вочкі-та – вось яны! – Жанглёр заскакаў у паветры, закруціўся ваўчком. – Я завалодаў самым моцным амулетам сярод усіх фокусьнікаў Поўначы! У мяне ёсьць вочы самога Нанабуша!.. Ха-ха-ха!.. Яны ў мяне!

І тады з хуткасьцю маланкі Жанглёр завярнуўся і пабег. Пабег так хутка, як ніколі ў жыцьці ня бегаў, бо Нанабуш ёсьць Нанабуш, сьляпы ён ці не.

Але, Нанабуш асьлеп. Праўда, пакуль Жанглёр не завярнуўся і не пабег, Нанабуш быў рвануўся наперад, інстынктыўна разумеючы, што нешта зрабілася ня тое.

Калі Жанглёр зьбег, падвываючы ды рагочучы, Нанабуш шмякнуўся на зямлю, плюхнуўшыся тварам у раку. Імгненна ўскочыў на ногі. Імгненна ён стаўся тым жа, сапраўдным, Нанабушам. Ён стаў на “зважай”, абярнуўшы свой страх у пільнасьць.

– Які ж я дурань! Хвалько... так і ёсьць... сьляпы дурань. З абаімі вачамі ў маёй галаве – я быў сьляпым, – сказаў ён сам сабе.

Ён стаяў нерухома, ціха. Ён слухаў. Паступова пачаў ачомвацца.

Рака была проста перад ім. Ён завярнуўся да яе сьпіною.

– Пакуль я не вярну зрок – а я вярну яго! – я мушу ўсё адчуваць скурай. А яшчэ мне патрэбна зброя, якой я змагу карыстацца лёгка й шутка, бо што як мае старыя ворагі зьявяцца тут... Дрын, вось што. Вялікі, цяжкі дрын, завостраны з аднаго канца. Ён можа служыць і кіем, і зброяй. Я мушу прынаравіцца да лесу.

Гэтак, спатыкаючыся аб камяні ды ламачча, падаючы балюча, але заўсёды тут жа падымаючыся, Нанабуш крочыў па лесе. Прыслухоўваючыся да кожнага гуку ды вымацоўваючы свой шлях рукамі, ён паціху рушыў наперад.

– Калі мяне знойдзе сябар, няхай жа ён будзе сапраўдным сябрам. Калі я сустрэнуся з ворагам, няхай ён паводзіцца з гонарам. Калі вораг захавае мяне, я з радасьцю буду яму вінны. Калі вораг убачыць мяне і вырашыць забіць мяне – добра, то й гэтым разам я буду вінны яму нешта – хіба адно добры бой.

А вакол яго была цемра. Але ён ведаў, што гэта несапраўдная цемра. Сьпявалі птушкі, і самое цяпло ад сонца давала знак, што быў яшчэ дзень, і ён добра ведаў, што сам ён навідавоку ва ўсіх: сяброў, ворагаў, любога мінака. Але ён упарта прадзіраўся па лесе. Ён ведаў, што ён у лесе, бо чуў водар сасновай іглiцы ды апалага лістоўя. Ён нахіліўся й адчуў пад рукой сасновую шышку.

– Трэба знайсьці моцны сук, каб натачыць яго для дрына, – сказаў ён, уважліва абмацваючы ўсё вакол.

Лес быў густым, бо ён увесь час натыкаўся на дрэвы й пні.

– Дрэвы, карчы, але ніводнае добрае галіны, – падумаў ён. – Прынамсі хоць адзін з маіх старых ворагаў шкодзіць мне тут – Дзед Бабёр са сваім племем.

Тады ягоная левая рука нешта намацала – паваленае маладое дрэўца. Вось яно! Ён прабег рукамі па тонкім камлі. Дакладна тое што трэба. Ён намог-

ся ды абламаў камель на патрэбную даўжыню, тады выцягнуў нож. Усеўся ды ўважліва, вельмі ўважліва, пачаў стругаць.

Аднаго дрына будзе недастаткова. Нанабуш ведаў гэта. Яму была б патрэбна дапамога каго-небудзь, хто добра ведае гэты край, таго, каму ён мог бы давяраць, хто мог бы быць яму павадыром.

Але зараз ён мусіў сканцэнтравацца на струганьні. Ён мусіць быць вельмі, вельмі пільным, як бы яму, сьляпому, не адрэзаць сабе палец ці два.

Да гэтага часу ён ні разу не падумаў аб Жанглёры.

Гэтак ён стругаў: нязграбна, але старанна.

Раптам ён спыніўся. Замёр. Яго засьпела моцнае адчуваньне, што нехта на яго глядзіць. Ён мацней сьціснуў свой нож.

Хаця ў яго не было вачэй, якімі можна было б убачыць, але ён інстынктыўна паварочваў галаву туды-сюды, быццам углядаючыся вакол. Ён дакладна ведаў, што нехта на яго глядзіць. Пачуцьцё нават пабольшала.

Тады ён пачуў голас. Чысты, ясны голас аднекуль зьверху:

– Ну? І чаго ты спыніўся? У цябе добра атрымлівалася.

З нажом у руцэ Нанабуш ускочыў на ногі:

– Хто там? Калі ты вораг – выходзь, будзем біцца.

– Біцца? Я думаў, ты моцна заняты з гэтым кавалкам дрэва.

Нанабуш пазнаў голас. Гэта сапраўды быў голас ворага, ягонага старога ворага.

– Філін, гэта ты? – спытаўся Нанабуш, будучы напагатове. – Ну, і чаго ты чакаеш? Выходзь біцца.

– Я стары вой, а не стары дурань. У гэтым лесе тысяча вачэй. Паб'юся я з табою, заб'ю цябе вось такога, які ты зараз ёсьць, – на ўсім гэтым Створаным Сьвеце пра гэта даведаюцца. Табе будзе гонар. А мне – ганьба... Не, Нанабуш, я не баязьлівец. Я магу быць тваім ворагам, але я хачу ўважаць сябе за прыстойнага ворага. Апусьці зброю. Няма пагрозы для цябе з майго боку. Маеш маё слова як Воя і як Правадыра цэлага племені.

Нанабуш, пачуўшы такую ўрачыстую прамову, засунуў нож назад у похвы.

– Я ведаю, што ты сьляпы, – сказаў Філін. – Даведаюцца і іншыя, і вельмі хутка, Нанабуш. Іншыя, што, можа, і ня будуць такія велікадушныя. Трэба нешта зрабіць, каб вярнуць табе зрок.

– Я сам знайду спосаб. Я і так ужо вінны табе, Філін.

– Не – як што мы вырашым быць сябрамі. Я – за. Бо я хачу міру для маіх дзяцей. Калі ты згодзен, то – лады.

– Лады.

Сяброўства было ўсталявана, і яны пачалі абмяркоўваць Нанабушаву бяду.

– Ёсьць адзін спосаб вярнуць табе зрок, – сказаў Філін. – Я дам табе пару вачэй. Пару маіх вачэй.

– Але, Філін, дружа! Ты ж застанесься без вачэй. Асьлепнеш, як і я.

Філін пахітаў галавою. Ён бы ўсьміхнуўся, калі б умеў.

– О, не, толькі ня я. Глядзі, Нанабуш, у мяне два наборы вачэй. Адзін дзённы, а другі начны. Што як амаль усе мае ворагі палююць удзень, як той ястраб, то я буду выходзіць на паляваньне ўначы ад цяпер. А ўдзень я буду спачываць ды захоўвацца зь сям'ёю. То мне патрэбна толькі адная пара вачэй. Другую я аддам табе.

Філін загадаў Нанабушу працягнуць рукі. І пара вачэй плюхнула яму ў далоні. А тады... оп!... Нанабуш уклаў іх сабе ў вачніцы.

– Як тут і былі, Філін! – сказаў Нанабуш радасна, але сур'ёзна, як належыць Вою.

– Ад сёньня, Філін, ночы – твае! – абвесьціў ён. – Ад сёньня і навекі ты будзеш Птушкай Ночы. Ты будзеш маімі вачамі ўначы. Уначы твой зрок будзе вострым, а палёт – упэўненым і дакладным. Ты будзеш для ночы такім жа, як Арол і Сокал для дня. Ты будзеш кіраваць начным небам. А ў якасьці павагі за тую ласку, што ты зрабіў для мяне, – усе, хто пачуе твой покліч уначы, будуць выяўляць тую павагу. Бо дзеля гэтага яны будуць прадрабляць яго. Твой покліч уначы будзе азначаць, што я, Нанабуш, ніколі ня сплю, але нават уначы сачу за тымі, каго я бараню, і пільную тых, хто робіць шкоды Створанаму Сьвету. Так што, крычы па начах, Філін, мой сябра і мой Вястун.

Гэтак яны замацавалі сяброўства на вякі. Філін і Нанабуш пажадалі адзін аднаму добрага паляваньня ды доўгага жыцьця. І гэтак яны разыйшліся: Нанабуш са сваімі новымі вачыма, Філін – з новаю пашанаю.

Вясна. Нанабуш ужо ўдома. Новыя вочы і наагул...

– Які прыгожы Сьвет сёньня! – сказаў Нанабуш сабе. – Усё такое зялёнае, духмянае... распускаецца да жыцьця... птушкі вяртаюцца... Гэх, сапраўды прыгожы дзянёк!

– Калі ўжо матылі павылятаюць?.. – працягваў Нанабуш. – Ох, які цудоўны дзень! Як добра, што ў мяне ёсьць вочы, каб усё гэта пабачыць!

І тут пачуўся той ціхі голас, што можна пачуць на задворках Нанабушавага розуму: "Ах, Нанабуш, але яны не заўсёды былі тваімі, твае вочы, хіба не?"

Вядома, Нанабуш памятаў гэта. Ён памятаў, адкуль у яго новыя вочы, і памятаў, што здарылася са старымі. Першы раз за гэты месяц ён узгадаў пра Жанглёра. Дзень быў сапсаваны.

"Жанглёр, – падумаў Нанабуш. – Ну, сустрэнуся я некалі з гэтым махляром! Ён пракляне дзень, калі ягоныя бацькі пабраліся. Яму спатрэбіцца яшчэ не адна пара вачэй – толькі я яго сустрэну!"

Дзень сапсаваны, ён сеў долу й насупіўся. Ён ня мог адагнаць думак аб Жанглёры і ні аб чым іншым ня мог думаць.

Увесь час пасьля здарэньня Нанабуш быў апантаны думкамі аб сваім дзіўным ворагу. Ні аб чым больш ня мог гаварыць. Сябры й сваякі ўжо пачалі хвалявацца за яго.

Ягоная бабуля параіла яму ня думаць пра Жанглёра:

– У цябе і так поўна справаў на гэтым Сьвеце. Табе ёсьць чым заняцца. Ты – настаўнік, ты – памагаты для ўсіх існых на зямлі. Ідзі займіся справай, унук. Не шукай ты ворагаў. Яны самі цябе знойдуць, калі не баязьліўцы.

Нанабуш заняўся сваімі адвечнымі справамі. Часам сьвядома, часам ужо па звычцы, але заўсёды пакідаў дзе-небудзь свой знак тут і там у Сьвеце вакол сябе, робячы яго такім, якім мы яго цяпер ведаем.

Аднойчы ўлетку пасьля абеду яму неяк захацелася піць. Ён знаходзіўся далёка ў лесе, але ён ведаў, недзе тут мусіць быць сажалка з добраю, чыстаю, халоднаю вадою. Сабраўшы манаткі, ён накіраваўся праз лес. Ён ужо амаль быў на месцы, як пабачыў праз зарасьнікі, што там, ля сажалкі, нехта быў.

Чалавек.

Высокі, хударлявы чалавек.

Высокі, хударлявы чалавек, што жангляваў парай крышталяў з рукі ў руку, туды-сюды, з рукі ў руку, туды-сюды.

Нанабуш прымружыў вочы, сьціснуў зубы.

– Трэба нешта прыдумаць, – сказаў ён сабе. – Думай! Але хутка. У мяне, можа, ня будзе іншага шанцу з гэтым махляром. Акрамя таго, што ён мой вораг, ён яшчэ і Чарадзей, і зрэшты небясьпечны. Хто можа сказаць, колькі шкоды ён нарабіў іншым, акрамя мяне? Гэты чалавек вельмі небясьпечны, трэба нешта зь ім рабіць.

Хуценька, але ціха, як мог рабіць адно ён, Нанабуш абярнуўся выглядам. Ён узяў выгляд старога. І тады ён выйшаў зь лесу.

Жанглёр кінуў на яго вокам, але працягваў жангляваць.

– Добры дзень, Старэча! Я б пажадаў табе доўгіх гадоў, але, здаецца, у цябе іх і так ужо нямала.

– Нямала, сынок. І не заслужылі павагі.

– Прабач мяне, калі табе падалося, што я непаважлівы, – не спыняў той жанглёўкі. – Але я такі шчасьлівы апошнім часам, што, бывае, не заўважаю, што кажу. Здаецца, ты нешта ня тое пачуў ад мяне... Я – Жанглёр. Мяне клічуць Нястомны Бы Вецер.

– Ага, – сказаў Нанабуш, – ты той, каго шукае Нанабуш. Той, што скраў у Нанабуша вочы.

– Ага, гэта я, Стары. Скажы Нанабушу, калі хочаш. Можа, іншым разам я забяру ў яго вушы.

– Ён і безь мяне знойдзе цябе, – сказаў Нанабуш, хаваючы ўсьмешку. – Ён больш не сьляпы, між іншага. Ягоны сябар даў яму пару вачэй.

Жанглёр спыніўся.

Нанабуш – усё яшчэ ў выглядзе старога – падыйшоў да сажалкі і напіўся вады.

– Што, ён набыў новыя вочы, так? – Жанглёр намагаўся схаваць набягаючы страх. – Ну, што ж, пашанцавала яму. Калі ён прыйдзе, я магу і другую пару вачэй забраць. Адзін раз я зрабіў, зраблю ізноў.

Нанабуш падняўся.

– Ты, відаць, маеш гэткую сілу, хлопец? Думаеш, пераможаш Нанабуша?

– Я – Вялікі Чарадзей! Я перамагу каго заўгодна і што заўгодна.

– І мяне? – спытаў Нанабуш.

– Каго заўгодна і што заўгодна, – Жанглёр зь цяжкасьцю хаваў страх.

– Чуў, што ты можаш жангляваць нават сваімі вачыма, дастаўшы іх з галавы. Што табе не патрэбныя вочы, каб бачыць.

Жанглёр пасьміхнуўся, дастаў свае вочы і пачаў жангляваць імі: з рукі ў руку, туды-сюды, з рукі ў руку, туды-сюды... Тады ён спыніўся, закінуў галаву, падкінуў вочы ў паветра. Яны падляцелі высока, потым уніз і... плюх... трапілі дакладна ў вачніцы.

– Гэтага табе досыць, Стары? – з усьмешкаю на твары зьвярнуўся да яго Жанглёр.

Але перад ім цяпер стаяў ня прыстарак, а сам Нанабуш. Той Нанабуш, якім яго ведаў Жанглёр.

– Добра. Калі гэта ня сам Вялікі Нанабуш... – Жанглёр намагаўся выглядаць (і быць) сьмялейшым, чым быў насамрэч.

– Гэты фокус я ўжо бачыў, – таксама пасьміхнуўся Нанабуш.

– Дык што, Нанабуш, табе надакучыла ўжо і новая пара вачэй? Каб не марнаваць дарма часу, можаш аддаць мне свае вочы проста ў рукі.

– Калі табе насамрэч патрэбны мае вочы, мусіш папрацаваць дзеля іх, сынок.

– Добра. Кажы як.

– Але, сынок. Нічога асаблівага: я шпурну табе мае вочы здалёк, а ты злаві іх. Зловіш іх – яны твае. Ня зловіш – ты нічога мне ня вінны. Усё або нічога.

– Лёгка. Нават ніякіх высілкаў. Вось што я табе скажу, Нанабуш. Я нават заляплю сабе вочы. Як табе гэта?

– Па мне цудоўна, сынок. Але я папярэджу цябе: я буду кідаць вельмі здалёк, ад самага краю сьвету.

– Ха! Можаш ісьці да самага краю сьвету. Нават і гэта – недалёка для мяне. Я буду ведаць, калі яны прыляцяць. Я проста ўстану тут і буду чакаць. Гэта табе трэба рабіць нейкую працу. Калі сабраўся ісьці да краю ўсяго Створанага Сьвету, каб адно шпурнуць адтуль пару вачэй – цудоўна! Я злаўлю іх у любым выпадку. Я яшчэ ніколі не спудлаваў, – выхваляўся Жанглёр.

Адным сьцёпам пляча ён выціснуў з суседняга дрэва смалы і заляпіў ёю сабе вочы. Тады спакойна, з упэўненасьцю стаў у рост.

– Ну, Нанабуш. Як ты, а я гатовы. Можаш ісьці. Гэта вельмі доўгі шлях, але я пачакаю. Калі перамога вызначаная – я магу і пачакаць.

Жанглёр склаў рукі на грудзях і больш нічога не сказаў.

Нанабуш пайшоў.

Нанабуш пайшоў, але не да краю сьвету. Ён проста пайшоў сваёй дарогай і нават не азірнуўся.

Нанабуш заняўся сваёю справаю па стварэньні Сьвету – такім, якім ён мае быць. Пра Жанглёра ён больш ніколі не ўзгадаў. Чаму?

Таму, што Нанабуш ведаў, што Жанглёр, як і ўсе чарадзеі, быў ганарыстым хлопцам, прагным выхваліцца сваёю сілаю, колькі б часу на гэта ні спатрэбілася. Жанглёр сказаў, будзе чакаць – і ён будзе.

Ён усё яшчэ чакае. І будзе чакаць цэлы час, да самага Сканчэньня Часу.

О, яго зусім няцяжка знайсьці. Ён цалкам пазнавальны. Вы добра яго ведаеце.

Ягонае імя, памятаеце, – Нястомны Бы Вецер. Яно добра яго апісвае. Усё яшчэ можна ўбачыць, як ён стаіць, дзень за днём, стаіць, урослы ў зямлю каранямі. Ягоныя пальцы й валасы ўвесь час калышуцца й дрыжаць па ветры, нават самым лёгкім ветрыку. Нават калі яго зусім няма.

Карацей кажучы, вы разумееце, што Жанглёр, Нястомны Бы Вецер, абярнуўся дрэвам. Дрэвам, што ніколі не адпачывае, чыё лісьцё ды гальлё ўвесь час трасецца й дрыжыць, нават калі стаіць бязьветрань.

Ён стаўся Дрыготкім Дрэвам.

Таполяй.

І стаіць гэтак да сёньняшніх добрых дзён.

***Бэсіл Г. Джонсан** (Basil H. Johnson), нар. 1929 г., нашчадак культуры племені аджыбуа (Антарыё) – выбітны дзеяч індзейскае культуры, выкладчык гісторыі, мовы і культуры аджыбуа ў розных навучальных установах ад унівэрсытэтаў да пачатковых школаў. Ягоная вялізная пісьменьніцкая спадчына ўлучае мастацкую прозу, апрацаваны фальклёр, эсэ, вершы, артыкулы, сатырычныя нарысы, пераклады. Працаваў у аддзеле этналёгіі Антарыйскага Каралеўскага музэю, а таксама для тэлебачаньня й кіно. Зьяўляецца ганаровым доктарам Таронтаўскага ўнівэрсытэту.*

# Прароцтва

## The Prophecy

– Сёньня я раскажу вам цалкам незвычайную гісторыю. ...Не зусім гісторыю, таму што яна яшчэ ня здарылася. Але яна здарыцца – таксама, як здараліся ўсе падзеі ў мінулым.

Дайбеджымут спыніўся, каб набіць сваю піпку.

– І нават тое, што маю вам расказаць, яшчэ не надыйшло – але гэта чыстая праўда, такая ж, як і ўсё тое, што ўжо адбылося, бо аўтысуканук расказаў мне яе ў сьне.

Усе: мужчыны, жанкі, дзеці з навакольных хатаў – сядзелі сьцішана ля вогнішча й чакалі, калі Дайбеджымут ужо пачне. Дарослыя даўно ўжо ня верылі гэтаму казальніку. Але ж прыйшлі, як рабілі праз усе гады, каб усьцешыцца той дзіцячаю асалодаю і вераю, аб якой нехта са старых сказаў: “Слухаючы яго, я зноў адчуваю сябе дзіцёнкам на каленьках у свайго дзеда”. Але ў адрозьненьне ад дзяцей, што безумоўна верылі Дайбеджымуту, дарослыя гаварылі аб ім хоць і паблажліва, але не без захапленьня. “В’заўмаўджымух!” (перабольшвае ўсё) – казалі пра яго. Але не было ніводнага мужчыны, кабеты, ці дзіцяці ў вёсцы, хто б не ўзбагаціўся, розумам ці найлепш духам, хаця б аднойчы паслухаўшы Дайбеджымута.

– Сёньня я раскажу вам пра белых людзей.

Быў нейкі момант цішыні, зьбянтэжанай цішыні – і тады раптам выбух рогату, як да слухачоў дайшла ўся недарэчнасьць сказанага. Альбіносы — алені, ці бабры – то так! Але людзі – альбіносы? Хто калі чуў пра Белых Людзей? Зарагатаў нават Дайбеджымут. Рогат насілу, але пакрысе спыніўся.

– Гэта што, як мемегаўншукі (маленькія стварэньні, кшталту гномаў ці эльфаў)? – гігікнуў адзін.

– Хіба ўіндыгосы? – пытаньне адной старой узьняло новую хвалю рогату.

Старыя рагаталі з гэтае апялюхі, малыя рагаталі з таго, як дарослыя гігікалі, рохкалі, раўлі, захлёбваліся, як яны крывілі морды, выкручваючы раты ды шчокі. Акрамя таго, малыя са зьдзіўленьнем дазналіся, якія яшчэ стварэньні, акрамя ўіндыгосаў, мемегаўншукоў, гавеншукоў, пагіншукоў ды ўсякіх заўвубікумукаў бадзяліся па лесе ды шныпарылі тут па начах.

– Ну, і як яны выглядаюць, тыя Белыя Людзі? – усьцёршы вочы ад сьлёз запытался другая старая.

– І кабеты, і мужчыны, аб якіх я кажу, цалкам белыя: твар, целы, рукі, далоні, ногі – усё бледнага колеру, як трусы ўзімку. І... гэта... яны валасатыя...

валасы растуць на руках, нагах, грудзях, сьпінах, пад пахамі... а ў некаторых мужчын валасы растуць вакол вуснаў, зьвісаюць са шчок, як барада ў ласёў.

Дайбеджымут зноў мусіў спыніць свой аповед, бо чарговы выбух нэрвовага гогату ды няўцямнага кудахтаньня заглушыў ягоны голас. Дзеці качаліся покатам, душыліся сьмехам, уяўляючы сабе, як было б гуляцца з такімі казлабародымі ласямі.

– А яшчэ што адрознага, гэта колер іхных валасоў; у некаторых жоўтыя, што той доньнік; некаторыя – рудыя, як журавіны, але ёсьць і як нашыя – чорныя. Калі яны старэюць, валасы ў іх робяцца белымі. А ў некаторых мужчын валасы наагул выпадаюць, і тады галовы ў іх гладкія ды бліскучыя, як гарбузы... І вочы ў іх не такія, як нашыя. Круглыя... зусім круглыя... як у янотаў... і яны сінія, што тыя буякі.

Зноў – рогат, але цяпер усе ўжо аберагалі свае надарваныя жываты ды пабітыя бакі.

– А вопратка ў іх яшчэ сьмяшнейшая, чым яны самі. На нейкую халеру яны ўкутваюць сваё цела цалкам, і ўдзень, і ўноч, узімку і ў лета, адно твары бачныя. На галовах нешта намотана, носяць гэтае і ў хаце, і на дварэ, пад сонцам і пад дажджом. Мужчыны і хлопчыкі носяць уласьцівую вопратку – адным кавалкам на плячах і на сьцёгнах, але яно такое цеснае, што тыя ходзяць, як тое куранё. Шторазы, як аправіцца, ці проста да ветру, трэба разгортваць усё гэтае матаўё да самых каленяў. Жаночая вопратка ня лепей, чым мужчынская. Яны носяць кшталту коўдры, што закрывае іх ад запясьцяў ды шыі да самых пятаў. Пад гэтаю шырокаю хламідаю яны надзяваюць нешта тугое, каб заціснуць жываты. Макасіны зробленыя зь нечага няякаснага, амаль што драўлянага, і яны закрываюць ногі да самых каленяў. І толькі на ноч Белыя Людзі здымаюць тое-сёе са сваёй вопраткі.

– Яны што, саромеюцца сваіх валасоў? Свайго цела? – падкпіла адна старая, зноў узьняўшы стомлены сьмех.

Дайбеджымут працягнуў свой аповед. І па часе ён прамовіў сваё прароцтва:

– Дык вось, некалі яны прыйдуць сюды. Яны прыйдуць з усходу праз вялізную прорву салёнае вады. Прыедуць на вялізных кану, у пяць разоў даўжэйшых за нашыя. Па краях у гэтых даўгіх кану стаяць высокія камлі. З галінаў, што на гэтых камлях, зьвісаюць коўдры, якія ловяць вецер, каб рушыць кану, і вёслы тады не патрэбныя.

– Ясені ці клёны? Жывыя дрэвы ці мёртвыя? А супраць ветру яны могуць ісьці? – загулі зьедлівыя галасы, насьміхаючыся над ідэяй вялізнага кану з дрэвамі на борце.

– Вы гэтак сьмеяцеся, бо ня можаце сабе ўявіць мужчын ды жанок зь белаю скураю, з валасамі на іхных тварах. І вам забаўным падаецца, што кану можа рушыцца ветрам праз вялікую бязбрэжную Ваду. Але нашым унукам ды іхным праўнукам будзе не да жартаў. ...Спачатку іх будзе няшмат, і тыя нямногія не пададуцца пагрозьліваю сілаю. Яны будуць выглядаць бясшкоднымі падарожнікамі, што ідуць у госьці да сваякоў у іншы край, і проста спыніліся для перадыху і роспытаў далейшай дарогі. Але насамрэч гэта будуць першыя шпіёны дзеля тых, каму патрэбныя новыя землі. Пасьля іх прыйдуць незьлічоныя іншыя, быццам чароды гусей у вырай. Чароды за чародамі. Бяз шляху назад. ...Некаторыя нашыя праўнукі паўстануць супраць чужынцаў, але будзе занадта позна, і іхныя лукі й стрэлы, ваенныя саюзы, шаманства абернуцца

поўнай лухтой супраць зброі белых людзей, чые воі будуць страляць са сваіх драбін сапраўднымі маланкамі. Безь ніякіх высілкаў, варта адно нацэліць вогненную палку на іншага воя – і той умомант падае мёртвым, як куля яго спаткае. ...Вось гэтай зброяй тыя белыя людзі і прагоняць наш народ са сваіх хатаў і земляў, каб спустошыць іх так, што і дзічына наўрад ці знойдзе там пражытак, а зерне ня пусьціць каранёў. Белыя людзі завалодаюць тут усім, набудуюць сваіх вялізных паселішчаў. Праз гады яны будуць працьвітаць, але калі Анішаўбегі[1] выракуцца сваіх традыцый ды пераймуць шляхі белых – нічога добрага з гэтага для іх ня будзе. Нічога добрага, пакуль іхныя ўнукі ды праўнукі ня вернуцца да шляхоў сваіх продкаў – толькі тады яны здабудуць былую сілу духу й сэрца.

– Ну вось! Я расказаў вам увесь мой сон. Мне больш няма чаго сказаць.

– Дайбеджымут! Хто ж гэтыя белыя: маніту[2] ці звычайныя людзі, як мы?

– Я ня ведаю.

Калі ўсе пакінулі свае месцы ля вогнішча, адзін юнак, што так і застаўся там, вымавіў:

– Добра было цябе паслухаць. Але я табе ня веру!

---

[1] Анішаўбегі – індзейскае племя (групы Аджыбуа), што жыло на землях сучаснага Антарыё.

[2] Маніту (індз.) – дух, шаманская сіла.

*__Ленар Кішыг-Тобіас__ (Lenore Keeshig-Tobias), нар. 1949 г., нашчадак культуры племені чыпеўа, нацыі наваш (Антарыё) – казальніца, культурны працаўнік, маці, бабуля. Заснавальніца Камітэту пісьменьнікаў нацыянальных меншасьцяў пры Саюзе пісьменьнікаў Канады, працавала рэдактарам часапісаў "The Ontario Indian Sweetgrass" і "The Magazine to Re-establish the Trickster". Аўтарка дзіцячых кніжак "Птушыная размова" (Bird Talk) і "Эма і дрэва" (Emma and the Tree). Кніга "Птушыная размова" ў 1993 г. атрымала прэмію "Кніга жыцьцёвай мары" (Living the Dream Book Award). Працуе прафэсарам у Каледжы Джорджа Браўна ў Таронце і дасьледчыкам вуснай гісторыі ў Марскім парку Пяці нацыяў на паўвысьпе Брус (Антарыё).*

# Як злавіць белага чалавека, (ой!) то бок, хлуса.

## How To Catch A White Man (Oops) I Mean Trickster.

Па-першае, знайдзі сабе лес. Любыя зарасьнікі старажытных дрэваў падыходзяць. Зрэшты, чым старэйшыя, тым лепшыя. Стань пасярод іх і расказвай сабе гісторыі. А тут хутка – і белы чалавек! (то бок – Хлус) зьявіўся! Зь

вялікім мехам за плячыма. У тым наплечніку ён цягае галасы сваіх жанчынаў ды галасы іншых народаў, па галовах якіх ён прайшоўся сваімі даўгімі нагамі.

– Я раскажу гэтыя гісторыі за цябе, – скажа ён. – Ты занадта прымітыўны, каб расказваць самому. А я змагу давесьці сьвету, што ты думаеш. Я раскажу сьвету, як ты думаеш, калі ты думаеш. І яшчэ я разаб'ю тут поле для гольфу. Гэтыя дрэвы занадта старыя. Тым больш, што ты імі не карыстаесься, гэтымі дрэвамі.

Скажы яму, што людзі кажуць, недзе ёсьць лепшыя гісторыі ды лепшае месца для гольфнага поля, магчыма нават г-і-д-р-а-э-л-е-к-т-р-ы-ч-н-а-я гаць ці дзьве. Скажы, што ты ведаеш фантастычнае месца для гольфнага поля. І неяк скажы, што ён мог бы зрабіць з гэтых гісторыяў фільмы: ТВ, дакумэнтальныя – любыя. Ён мог бы напісаць цэлыя раманы з гэтых гісторый. І мог бы атрымаць усялякія ўзнагароды за сваю цудоўную фантазію за гэтыя гісторыі. Ён мог бы атрымаць усясьветныя воплескі за тлумачэньне іншым, як гэта быць "Сапраўдным індзейцам". (Божа, як я ненавіджу гэтае слова – "індзеец"!)

Добра. Тады скажы яму пачакаць там, пакуль ты дазнаесься больш пра тыя гісторыі ды тое іншае месца. Ён скажа: "Добра, але тут жа вяртайся!". А ты не вяртаесься.

Ты знаходзіш іншы лес і капаеш вялікую-прывялікую яму пасярод яго, побач з сасною. Тады залазь на сасну, сядзь на галіну й пакліч гэтак:

– Гэй, ты, белы! (То бок – Хлус. Яго можна называць хлусам, ты ж ведаеш. Ён жа такі хітры. Але неразумны.) Гэтыя гісторыі – не для цябе! І гольфнага поля ты таксама зрабіць ня можаш!

Няшмат пройдзе, як ён тут зьявіцца. Са сваім наплечнікам, але на гэты раз – і са сваімі стрэльбамі й танкамі, гатовы забраць тыя гісторыі, разьбіць тое гольфнае поле.

Тады скажы яму са свайго дрэва, што адсюль ты можаш бачыць і чуць усё, што робіцца ва ўсім белым сьвеце.

Ён скажа: "Гэта нешта новенькае!"

Спытайся, ці хоча ён таксама ўбачыць усё гэта. Вядома, ён скажа: "Так!" Скажы яму, каб скінуў свой цяжкі наплечнік каля камля. А ён жа ня здыме. Ён жа палезе на дрэва ды з усёю сваёю зброяю. Спытайся, ці яму зручна. Ён скажа: "Мне ўсюды зручна!" Зараз пільнуйся, бо ён захоча ўсесьціся табе проста на галаву.

Цяпер скажы яму заплюшчыць вочы. Ён мусіць заплюшчыць вочы, калі хоча ўбачыць ды зьведаць усё, што ведаеш ты. Ён мусіць слухаць дрэвы й траву. Скажы, што зойме нейкі час, пакуль ён набудзе гэтае бачаньне, таму ён мусіць сядзець ціха і чакаць, і слухаць. Як толькі ён заплюшчыць вочы, ты злазь і глядзі. Пакліч іншых таксама паглядзець. І дзяцей. Пра дзяцей не забудзься.

Вядома, гэты чалавек нічога ня ўбачыць. Ніколі ня бачыў. І адназначна нічога не пачуе. Ніколі ня чуў. Праз нейкі час яму зробіцца нязручна, ён

стоміцца, занэрвуецца, стрэльба лясьне па каленях, і ён расплюшчыць вочы. Як ён убачыць, што цябе няма, ён звар'яцее, зваліцца з дрэва і, прастрэліўшы сабе нагу, згубіўшы наплечнік, уваліцца ў яму пяткамі па зубах.

Вось тады падскоквай, хапай ягоны наплечнік, адкрывай яго ды выпускай на волю галасы народаў, па галовах якіх ён прайшоўся, і галасы ягоных жанчынаў.

Тут белы чалавек (то бок – Хлус) пачне вышчымлівацца зь ямы. Ён будзе тузацца, закопваючы сябе яшчэ глыбей, але так і ня выбярэцца. Ягоныя жанчыны ўбачаць гэта. Раскажуць дзецям. Навучаць іх. Яны навучаць іх гісторыі гэтай зямлі, сапраўднай гісторыі, усёй да 1492-га і ад яго. Гэтыя гісторыі павядуць іх у наступныя 500 гадоў. Скажы ім, каб яны не рабілі так, як гэты Хлус (то бок – белы чалавек). І скажы ім, каб слухалі дрэвы й траву. Дрэвы й трава – тыя, хто берагуць для нас рай.



**ВОРАНАЎ Віталь** – нарадзіўся ў трэцюю пятніцу, трэцяга месяцу, трэцяга году, у трэцім дзесяцігодзьдзі да нашых дзён. На момант напісаньня прадстаўленых сёлета апавяданьняў жыў у Закарпацьці, час ад часу пазіраў на Чорную Гару і рабіў запісы ў http://voranau.livejournal.com

*Photo by Przemyslaw Jasicski.*

# АПАВЯДАНЬНІ

## Пакой 310

У гатэлях, у якіх колькасьць зорачак далікатна замоўчваецца, ацяпленьне незанятых пакояў звычайна зводзіцца да мінімуму. Пакольки за вакном была глябальна ацепленая і ўсё ж усьцяж халодная зіма, то першае, што ён зрабіў, зайшоўшы ў нумар, – падкруціў ацяпленьне. Усё астатняе, здавалася, было ў норме. Нават дыван выклікаў поўны давер, што дазволіла яму тут жа зьняць чаравікі і адчуць сябе як дома. Ну хіба – амаль як дома. Толькі дакрануўшыся рукою да ступакоў, ён адчуў, якія яны зьледзянелыя, і пастанавіў неадкладна пайсьці ў душ. Лазенка – гэта лякмусавая паперка любога гатэлю, і гэты тэст задаволіў яго канчаткова. Толькі ў такім месцы чалавек можа дазволіць сабе пакласьці адзін з двух белых, махрыстых ручнікоў на падлогу замест дыванка – кожны раз з думкаю, што так робіць толькі ён. Добра сагрэўшыся, змыўшы з валасоў папяросны дым і счысьціўшы з зубоў кіслы прысмак кавы, ён зайшоў ва ўжо амаль цалкам утульны пакой. Люстэрка ў кічовай масянжовай раме – яшчэ адна неад'емная частка гатэльнага духу. Аднак гэта той тып кічу, які наўрад ці каго бянтэжыць. Нават ён, са сваім выкшталцоным густам, гатовы быў прымаць яго як дадзенае, а ня ўзятае. Рамка была толькі дадаткам да люс-

тра, якое цяпер, калі ён расчэсваў валасы, цікавіла яго нашмат болей. Ён не любіў свае валасы, таму што яны нагадвалі ягоныя тэксты – ніколі ня слухаліся. Не зважаючы на гэта, ён працягваў іх укладваць. У гэтым была своеасаблівая заўзятасьць, але і слабасьць, несумненна. З парфумаю куды прасьцей – дастаткова пачакаць, калі пахі і шыя будуць цалкам сухія. Ён заўжды падбіраў парфуму так, каб пахі накладваліся адзін на другі і стваралі адно цэлае. У гэтым таксама была пэўная стваральная нотка. Па пакоі, перабіваючы гатэльны асьвяжальнік, разыйшоўся саладжавы пах, які ён і так ня ўмеў бы апісаць словамі. Бадай адзінае, што не паддавалася апісаньню нават у непрычасанай форме. Менавіта таму ён так моцна паважаў пахі – нават тыя, а можа, нават больш за ўсё, тыя, якія большасьцю лічацца брыдкімі. Адное зь ягоных апавяданьняў заканчвалася словамі: “Пах можа быць брыдкі толькі на брыдкай жанчыне”. Яму, аднак, гэтыя словы зараз не прыгадаліся. Ён намагаўся ўзгадаць, дзе паклаў змазку і ці ўзяў яе наогул. Знайшоўшы яе ў кішэні скураной торбы, побач з улюбёнаю асадкаю, ён уздыхнуў з палёгкаю. Самае галоўнае было на месцы. Ён выклаў асадку на стол, пліта якога была аклееная дубоваю ліштваю, а змазку паклаў у верхнюю шуфлядку начнога століка, што хаваўся з правага боку ложка. Вярнуўшыся да нібы-дубовага стала, ён палез у торбу па паперу з макулятурных адходаў. Гэта быў адзіны тып паперы, на якім ён мог пісаць ад рукі, іншая не давала яму адчуваньня абраднасьці. Хутка знайшоўшы шурпатыя аркушы, ён выняў іх і паклаў на стол каля асадкі, а крыху паглядзеўшы на гэты нацюрморт, ён падняў асадку і паклаў яе на паперу. Так было значна лепш. Пасьля ён ізноў палез у торбу, тут жа наткнуўшыся на ўвесь астатні і нязьменны зьмест падарожнага камплекту – адна пара чыстых шкарпэтак, чыстая бялізна, зубная шчотка, маленькі ручнік, папяровыя хусьцінкі, штосьці глянцавае – гэта мусіў быць пачак мэнтолавых жуек – вось і ўсё. Ён прыгадаў, што нічога канкрэтнага з гэтага набору яму зараз ня трэба, і выняў руку. Адставіўшы, амаль што хаваючы, торбу ў кут, ён сеў у крэсла, якое ў адрозьненьне ад стала было з сапраўднага дрэва. Гэты расклад вартасьцяў яго цалкам задавальняў. Ён адсунуў асадку і паклаў сьпярша адну, пасьля другую руку на аркушы паперы. Яна нагадала скуру ейных клубоў, месцамі шурпатых, а месцамі гладкіх, як скура ягонай торбы. Гэтае параўнаньне відавочна яму спадабалася, таму што ён стаў вадзіць рукамі па паперы, цяпер ужо з заплюшчанымі вачыма. Ейная постаць пачала далікатна пагойдвацца ў ягоных руках, якія з кожным момантам прылягалі да ейнага цела ўсё больш і больш. З далоняў пачаў выступаць дробны пот, які тут жа ўбіраўся ў сухую паперу, нібы паклікаючы яе да жыцьця. Калі б ён мог зараз думаць пра нешта іншае, мэтафара – салёная вада жыцьця – магла б прыйсьціся яму даспадобы. Натуральна, ён не заўважыў бы нават таго, як узбудзіўся, калі б не, нельга казаць што нечаканы, ды ўсё ж неспадзяваны грукат у дзьверы. Ён рэзка прыбраў рукі з быццам умомант распаленай паперы з пасьпешліваю думкаю, куды схаваць гэтыя доказы віны. Паколькі, аднак, ніякая слушная ідэя ў галаву не прыходзіла, а грукат прагучаў з большай рашучасьцю, ён устаў, падыйшоў да дзьвярэй, націснуў на клямку і адсланіў жанчыну, пра скуру якой толькі што ўзгадваў. Замест прывітаньня яна ўсьміхалася. Ён ужо звыкся з гэтым. Наогул, ён звыкся шмат з чым, што было ў гэтай жанчыне, і што раней яму не давала б спакою. Усё гэта было раней, цяпер заставалася звыкацца, больш таго, атрымліваць ад сваёй паблажлівасьці пэўную прыемнасьць. Ён быў у такіх гадах, калі вяртаецца

дзіцячая лёгкасьць атрымліваньня раскошы бяз дай прычыны, а дадаткова зьяўляецца старэчая цяга да рэчаў, якія раней выводзілі з раўнавагі. У адным са сваіх апавяданьняў ён мог бы нават акрэсьліць гэты стан шчасьцем. Яна зайшла ў пакой і абняла яго. Адказваючы на яе абдымкі, ён пасьпеў адною рукою штурхнуць уваходныя дзьверы. У абдымках яны дробнымі крокамі перасунуліся бліжэй да ложка, а калі былі ўжо зусім блізка, разам бязвольна абваліліся на яго пад цяжарам эмоцыяў, цяпла і адарванасьці ад рэчаіснасьці. Падзеньне расьсеяла рэдкія думкі, замяніла кінэтычную сілу думак у мэханічную сілу цягліцаў. Тое, што было пасьля, падчас пісаньня ён, мусіць, проста абмінуў бы нейкай ляканічнаю фразаю ці двухсэнсоўнаю мэтафараю – палавы стасунак быў для яго як парфума – ні адно, ні другое апісаньню не паддавалася. Інтэнсіўнае ўдыханьне, адзіны элемэнт, поўны мэханічнасьці, паху ейнай скуры, прыводзіла яго амаль да абамленьня. Зьдзёршы зь яе панчохі, ён пасьпешліва паклаў рукі на клубы, каб адчуць тую папілярную асалоду яшчэ раз. Скура была, аднак, яшчэ халоднаю і з-за гэтага нічым не нагадвала паверхню ягонай паперы. Гэтая знадворная сьцюдзёнасьць, што закралася ў цёплы пакой, схаваўшыся пад паліто, спадніцаю, панчохамі і баваўнянымі майткамі, была як тыя неплянаваныя, але прыемныя звароты прычасанай прозы. Халодная скура ейнага азадка – слова якое ён ніколі б не наважыўся ўжыць, былі як мікрапахаладаньне ў гарачыні глябальнага пекла. Ён хацеў быў парваць на ёй спадніцу, але яна затрымала далікатныя рукі і па-жаночы разважліва – які аксюмаран – падумаў бы ён, калі б мог думаць – зьняла ледзь не зьнявечаную спадніцу. Ён увайшоў у яе з разгону. Яна сьпярша засьмяялася, а пасьля закрычала ад насалоды. Гэта той рэдкі выпадак, калі візуальныя пачуцьці апярэджваюць гукавыя. Ён наадварот, дзейнічаў па законах фізыкі, сьпярша выдаваў раскацісты гук, а пасьля паказваўся на гарызонце яе паўзаплюшчаных вачэй. Ейныя крыкі пачалі набіраць акустычнай рэгулярнасьці – са сваімі фазамі, дыяпазонамі і амплітудамі. Гэты інструмэнт трэба было вывучаць за кожным разам зноў. Да яго не было ні інструкцый, ні нотаў, ні ніякіх плыладаў страеньня. Ах! Колькі разоў ён ужо сустракаў гэтае мілае ягонай душы параўнаньне раней. Толькі цяпер ён ссунуў зь яе блюзку. Здавалася, яна дагэтуль прыглушала і без таго гучны крык, які цяпер удвая павысіўся і адпаведна ў столькі ж разоў памяняў сваю частату. Заўсёды зьбянтэжаны любым гукам, цяпер ён, здавалася, яго ня чуў. Па законах навукі, ён мусіў быць у вакууме, а па законах мастацтва – быць глухім музыкам. Магчыма, што стан ягоны быў станам памежным, але так ці інакш, рэгулярнасьці і магутнасьці выдабытага ім, віртуозам, гуку мог бы пазайздросьціць ён – глухаваты празаік. Першая думка, якая прыйшла ў галаву з часу, калі ён устаў, каб адчыніць дзьверы, – як цудоўна было б умець вось так пісаць – канкрэтна, як атамшчык, ці прынамсі так складна, як саксафаніст. У гэты момант – той самы момант, які спыняе раскручанае "ёё" і сілаю награмаджанай інэрцыі пачынае вяртаць яго ў папярэдні стан – пачуўся грукат у дзьверы. Яны абодва раптоўна замерлі і перасталі дыхаць, а крык усё яшчэ працягваў вяртацца згубленым рэхам. Пасьля кароткага чаканьня грукат паўтарыўся, затым на ягоны жах клямка апусьцілася, і ў дзьвярным праёме паказалася маладзенькая пакаёўка, трымаючы плястыкавую бутэльку са сродкам для чышчэньня. Яна мэханічна зайшла ў пакой, спынілася ля начнога століка, прычыніла каленам верхнюю шуфлядку, толькі пасьля падняла позірк і з жахам у вачах убачыла замерлага за сталом мужчыну з праваю

рукою ў майтках, леваю на аркушы паперы, з адкрытымі вуснамі і поўным прабачэньня паглядам. Здавалася, ён усьведамляў, што адбываецца, яшчэ менш за яе. Магчыма, адчуўшы гэта, яна нічога не сказала, апусьціла вочы і так жа машынальна, як перад гэтым, выйшла з пакоя, зачыніўшы за сабою дзьверы. Ён працягваў заставацца ў той жа позе, перапоўнены ўдзячнасьцю за ейнае маўчаньне і за тое, што яна ўтрымала бутэльку. Як ні дзіўна для сябе самога, ён не адчуваў ані каліва сораму. Ледзь адыйшоўшы, ён узяў асадку і напісаў: “Зь леваю рукою на аркушы паперы, праваю трымаючы асадку”. “Тэарэтык”, – сама сабе сказала пакаёўка, паправіўшы пругкія, бліскучыя грудзі, спускаючыся па ня менш наглянцаваных сходах няглянцаванага гатэлю. Спусьціўшыся, яна ўбачыла, што ў чакальні сядзіць жанчына з раскудлачанымі валасамі і да непрыстойнасьці заўважнаю дзіркаю на панчохах. Скрыжаваўшы ногі, яна трымала на каленях кнігу – якраз дачытвала апошні сказ апавяданьня, які любы асобна ўзяты госьць гэтага гатэлю прачытаў бы па-свойму.

*2009*

# Чатыры чаўны

Усе мы ведаем, што напачатку ў сьвеце панаваў бясконцы хаос, але многія ня ведаюць чаму. Справа ў тым, што калі нараджаліся месяцы, іхны бацька Час быў задрамаў. Таму ніхто, ні дзед Час, ні маці Прастора, толкам ня ведалі, у якім парадку малыя пазьяўляліся на сьвет. Тым больш было невядома, якія імёны ім даць. Так і гадаваліся яны без імёнаў, а на зямлі ў гэты час панавала поўнае бязладзьдзе. Пасьля лютых маразоў распачыналася нязносная сьпёка, ліўні чаргаваліся з засухамі, парослыя ў лесе грыбы тут жа мог накрыць высокі сьнег, невядома было, дзе заканчваецца мокрая імгла, а дзе пачынаецца сонечная смуга. Калі месяцы павырасталі і сталі падобныя да сапраўдных волатаў, бацька Час паклікаў іх да сябе і сказаў:

– Васямнаццаць гадоў на зямлі не было ні ладу, ні складу. Прыйшоў той момант, калі вам трэба знайсьці сваё кола – вызначыць, хто наступае па кім, а хто каму папярэднічае. Адзін толькі бог Лада можа дапамагчы вам адшукаць парадак і зрабіць так, каб усё пайшло сваім, належным кругам. Жыве ён, аднак, вельмі далёка, за вялікім возерам, за грузкім балотам, за плыткім ручаём і за шырокай ракою. А на дарогу вашу даю вам чатыры чаўны.

Узялі браты чаўны і выправіліся ў шлях. Вельмі доўга яны ішлі празь лясы і палі, пакуль апынуліся на беразе вялікага возера. Перад вачыма расклалася даўжэзнае, ні канца, ні краю, возера. Браты-месяцы пачалі класьці свае чаўны на возера, а адзін зь іх кінуўся да вады самы першы. Калі ён неабачліва забег у ваду, яна тут жа перамянілася ў лёд. Браты раззлаваліся на яго, таму што пешкі на другі бок было не перабрацца і плыць у чаўне было ніяк, калі пад нагамі таўшчэзны лёд. Тут наперад высунуліся тры браты, якія спраўна ўмелі рэзаць лёд і перамяняць яго ў ваду. Пакуль астатнія дзевяць братоў зь берага назіралі, як растае лёд, тры браты рабілі сваю працу, а калі ўсё было скончана, яны сказалі:

– Вось мы ўтрох перамянілі лёд у ваду. Сядайце ў чаўны і плывіце, а мы адпачнем трошкі і выправімся за вамі ўсьлед.

Паселі браты тройкамі ў тры чаўны і пачалі грэбці да далёкага, ледзь рысачкаю азначанага на небасхіле берага. Так грэблі вельмі-вельмі доўга, але празь нейкі час яны ўсё ж пабачылі другі бераг. З радасьцю браты пачалі грэбці хутчэй. Калі ўсе тры чаўны ўжо прысталі да берага, адзін з братоў з трэцяга чаўна быў так шчасьлівы ўбачанай зямлі, што ажно выскачыў у ваду, каб хутчэй стаць нагамі на дне. У гэты момант вада ў возеры цалкам перасохла. У гэты час тры браты, якія засталіся на другім беразе, ужо добра адпачылі, сядалі ў човен, але пабачылі перад сабою толькі вялікую пяшчаную пустыню. Тыя што перабраліся праз возера, доўга думалі, што рабіць. Думалі-думалі, аж урэшце зразумелі, што далей прыйдзецца вандраваць удзевяцёх. Таму пабралі чаўны на плечы і рушылі ў свой шлях, аднак не пасьпелі яны зрабіць і пару крокаў, як пад нагамі ізноў адчулі ваду. Гэта было грузкае балота.

Ледзь крануцца браты зь месца, як тут жа ногі па калена ў балоце. Сталі думаць браты, што рабіць, ажно ўрэшце кажуць таму брату, што возера высушыў:

– Ці ня мог бы ты высушыць і балота?

– Паспрабую, – сказаў брат і ўзяўся за працу. Але хаця ў балоце было менш вады, чым у возеры, прамоклае яно было нават у глыбіні зямлі і асушэньню паддавалася нашмат цяжэй, чым возера. Бачыўшы, што адзін ён з гэтым не спраўляецца, падцягнуліся яму ў падмогу іншыя два браты, якія таксама, як ён, зямлю спраўна сушыць умелі. Калі балота цалкам перасохла, тры браты сказалі астатнім:

– Вы бярыце ў рукі чаўны і прабірайцеся праз купнік, а мы адпачнем трошкі і пойдзем за вамі ўсьлед.

Пабралі браты ізноў чаўны і пайшлі па сухім дне колісь грузкага балота. Так ішлі яны па сухіх купінах, ажно купіны пачалі радзець і ўрэшце цалкам зьніклі. Усе ад радасьці прыбавілі ходу, а адзін брат, што нёс другую лодку, ажно расплакаўся ад шчасьця. Празь некалькі хвілінаў купнік ізноў напоўніўся вадою. А той брат, што расплакаўся, апынуўся па шыю ў грузкім балоце і заграз. Убачыўшы гэта, іншы брат кінуўся яму на дапамогу і, калі быў ужо амаль выцягнуў яго на бераг, ад стомы сам аступіўся адною нагою ў балота, і ўся вада ў балоце тут жа пакрылася коркай лёду. Тыя тры браты, якія засталіся з другога боку балота, былі ўжо набраліся моцы і бралі ў рукі свае чаўны, каб дагнаць астатніх, ажно пабачылі перад сабою не сухое балота, а пакрытае тонкім лёдам багнішча. Яны зразумелі, што на другі бок ім прабрацца немагчыма. Тым часам тыя, што перабраліся, чакалі-чакалі, ажно пастанавілі, што далей прыйдзецца ісьці ўшасьцёх. Не пасьпелі яны, аднак, і разьвярнуцца, як пабачылі перад сабою плыткі ручай.

Магчыма, яны б адолелі гэты ручай і пешкі, але сілаў несьці човен на плячах ужо не было. Таму прыдумалі браты папрасіць таго брата, што выпадкова заліў вадою балота, паспрабаваць напоўніць ручай так, каб па ім можна было плыць. Пачаў брат ліць сьлёзы, але сьлёзаў, каб разьліць ручай, не ставала, бо шмат зь іх ён выплакаў на балоце, таму на дапамогу прыйшлі два іншыя браты, якія тут жа нагналі такіх хмараў, што плыткі ручай празь нейкі час перамяніўся ў хуткую рэчку. Стомленыя працай, браты сказалі астатнім:

– Вы плывіце, а мы адпачнем і дагонім вас.

Селі браты ў човен і паплылі ўніз па цячэньні. Плылі яны, здавалася, бясконца, а гук вады з плыткага станавіўся ўсё больш і больш суцэльны і пранізьлівы. Не пасьпелі яны азірнуцца, як зразумелі, што ручай нясе іх ў шырачэзную раку з хуткаплынным цячэньнем, якое можа зьнесьці іх немаведама куды. Спахапіўшыся, браты ўраз павыскоквалі з чаўна ў ручай, каб сілай рук затрымаць човен ад падзеньня ў шырокую і моцную раку. Не пасьпелі яны, аднак, добра дакрануцца да паверхні, як вада ў ручаі тут жа ператварылася ў тоўсты лёд. Тыя браты, што засталіся адпачыць, клалі якраз свой човен на ваду, калі замест вады перад імі паўстала шкляная глыба. Тры браты, якія стаялі цяпер каля вусьця, месца, дзе застылы ручай перасякаўся з шырокаю ракою, зразумелі, што на другі бок ракі ім прыйдзецца перабірацца ўтрох. Яны ведалі, што рака надта шырокая і хуткаплынная, каб празь яе перабірацца на чаўне, таму было пастаноўлена паспрабаваць замарозіць яе і перабрацца на другі бок пешкі. Тут жа браты ўзяліся за справу, але рака была такая шырокая і такая магутная, што праца ішла вельмі марудна. Адзін з братоў ледзь змог замарозіць той бок рэчкі, на якім яны стаялі, другі, наймацнейшы зь іх трох, з натугай адолеў абледзяніць хуткую плынь шырокай ракі, а трэці не бязь цяжкасьцяў пакрыў лёдам аддалены бок ракі, той бок, па якім жыў бог Лада. Аднак лёд над шырокай ракой быў усё яшчэ такі тонкі, што па ім ледзь можна было ставіць нагу. Браты зразумелі, што на другі бок зможа перабрацца толькі адзін зь іх, той, што найбліжэй да другога берагу. Ступіў адзін брат на бераг і пабачыў перад сабою Ладу, бога які трымаў парадак на зямлі.

– Васямнаццаць гадоў у нас не было ні ладу, ні складу, ні нават сваіх імёнаў. Наш бацька Час паслаў мяне і адзінаццаць братоў маіх да цябе, каб ты вызначыў, хто наступае па кім, а хто каму папярэднічае, каб усё пайшло сваім, належным кругам. Аднак празь вялікае возера праплыло дзевяцёх з нас, праз грузкае балота прабралася шасьцёх, плыткі ручай адолелі мы ўсяго ўтрох, а праз крохкі лёд шырокай ракі змог пераступіць толькі я адзін. Відаць, ніякага ладу нам знайсьці не наканавана.

– Вы ўжо знайшлі свой лад, – нечакана для месяца сказаў Лада. – Нездарма ваш разумны бацька Час даў вам чатыры чаўны, адзін для тых, што ўмеюць лёд распускаць, адзін для тых, што могуць вадаёмы асушаць, адзін для тых, што патрапяць мель падымаць, і адзін для тых, што ваду лёдам скоўваюць. Нездарма трое з вас не перайшлі празь вялікае возера, трое не пераадолелі грузкае балота, трое не праплылі праз плыткі ручай, і толькі ты адзін дабраўся да сваёй мэты. Таму ты будзеш першы месяц і імя тваё будзе Студзень, твой брат, што плынь замарозіў, будзе Люты, а трэці, што на другім беразе, будзе звацца Сьнежань. Аднак за тое, што брат твой Сьнежань быў неабачлівы і першым кінуўся да вялікага возера, ён заўсёды будзе ісьці быццам бы перад вамі, але ўсё адно на самым канцы. Човен ваш будзе звацца Зіма. За вамі будзе ісьці човен Вясна, а ў ім паплывуць Сакавік, Красавік і Травень, затым пойдзе човен Лета, у якім будуць Чэрвень, Ліпень, Жнівень, за імі човен Восень, у ім Верасень, Кастрычнік, Лістапад. І так усё будзе плысьці колам часу, з году ў год.

Падзякаваў разумнаму Ладу Студзень і хацеў быў ужо вяртацца, як зразумеў, што ня ведае яшчэ, як усім братам цэлымі і ў поўным зборы дабрацца дадому.

– Цяпер, калі вы ведаеце свой парадак, – апярэджваючы Студзенева пытаньне, пачаў Лада, – дабрацца назад будзе нашмат прасьцей. На пачатку го-

ду валадарыць будуць Студзень і Люты, за гэты час вы ўсе сухой нагою па лёдзе перабярэцеся праз шырокую раку, затым, калі прыйдзе час Сакавіка, Красавіка і Траўня, растопяцца сьнягі і лёд, напоўніцца вадою плыткі ручай, вы сустрэнеце сваіх братоў пасярэдзіне ручая і ўшасьцёх апынецеся там, дзе ручай пачынае свой бег. Тады прыйдзе чарга Чэрвеня, Ліпеня, Жніўня, перасохне грузкае балота, вы сустрэнеце іх пасярод балота і ўдзевяцёх ізноў пяройдзеце яго пешкі. Калі станеце на беразе высахлага вялікага возера, а вялікага возера пешкі не перайсьці, вы пачакаеце, пакуль запануюць дажджлівыя Верасень, Кастрычнік, Лістапад, якія ізноў напоўняць возера вадою, сустрэнеце іх пасярод возера і пераплывеце на другі бераг, каб у поўным зборы праз год апынуцца дома.

Падзякаваў Студзень богу Ладу і выправіўся ў шлях. Вандравалі браты цэлы год. Сьпярша панавалі адны, пасьля валадарылі іншыя, саступалі месца тым, што былі ў чарзе, усё так, як сказаў Лада. Каб у дарозе не нудзілася, яны прыдумлялі сабе розныя прыказкі, а адна зь іх нават засталася вядомая па сёньняшні дзень: “Пытаецца люты, ці добра абуты”. Дадому браты-месяцы вярнуліся вельмі шчасьлівыя, бо, урэшце, запанаваў належны лад, і толькі Сьнежань, з-за таго, што яму трэба было ісьці быццам першым, але ўсё ж апошнім, не пераставаў сумаваць. Таму маці Прастора, каб падбадзёрыць Сьнежань, сказала: хоць ты і апошні, але ж з усіх братоў наймаладзейшы і наймілейшы мне, а таму кожны раз пад канец тваёй чаргі валадараньня мы будзем спраўляць вялікае сьвята – Навагодзьдзе. А паколькі якраз была пара ягонага панаваньня, Сьнежань тут жа павесялеў і пакінуў свой сум. З гэтага часу ўсё закруцілася сваім нязьменным і няспынным колам. У кожнага брата-месяца нарадзілася па чатыры сыны, а ў кожнага з гэтых сыноў – па сем сыноў і дачок. Адна з гэтых дачок, штораз іншая, штоноч прыходзіць, каб кожнаму з нас ласкава падзьмуць на вейкі, у момант, калі засынаем.

# Nomen omen

Бацькі пачалі прыдумляць яму імя, як толькі даведаліся, што ў іх народзіцца дзяўчынка. І памыліўся ня я, сказаўшы “яму”, а лекары, сказаўшы бацькам, што хлопчык народзіцца дзяўчынкаю, ці, дакладней кажучы, не народзіцца хлопчык, а народзіцца дзяўчынка. Цяпер вы, мусіць, ужо зусім заблыталіся. Адным словам, нарадзіцца меўся ён, а імя ў бацькоў было падрыхтаванае толькі для дзяўчынкі. Маці хацела, каб дачушку звалі неяк лёгка: Франя, Мара, Лора ці Рэня. Бацька ня ведаў, як хацеў, каб звалі дачку, але дакладна ведаў, што не хацеў, каб яе звалі лёгка, тым больш што тое, што ягонай жонцы здавалася лёгкім, яму зусім такім не было – ён не вымаўляў “р”. Можа быць, таму, пасьля доўгіх роздумаў, ён прыйшоў да высновы, што дачку трэба назваць Сьцепаніда. Аднак жонка адмовілася ад такога імя для дзяўчынкі. Яно не было лёгкім, больш за гэта – яно было цяжкім, а да таго яшчэ доўгім і з гукам “д”.

– Зоня, – прапанавала новую вэрсію жонка.

– “Зоня” гучыць як “зона”, – сказаў яшчэ больш незадаволены муж і зноў пагрузіўся ў доўгія роздумы. – А як звалі тваю бабулю? – урэшце спытаў ён.

– Якую? – спытала зьдзіўленая жонка.

– Якая розьніца якую? Любую, – сказаў муж.

– Вікця, – сказала зьбянтэжаная жонка.

– Вікця, – смакуючы слова, паўтарыў муж у пошуку ненавіснай літары “р”, якая так далася яму за ўсё ягонае жыцьцё, каб яе немач. – Вікця! – урачыста паўтарыў ён.

– Што “Вікця”? – спытала яшчэ больш зьдзіўленая жонка.

– Ну, Вікця! – ня мог зразумець, чаго гэта не разумее ягоная жонка.

– Ты зусім таго? – пакруціла пальцам на скроні жонка.

– Зваць будзем яе.

– Яна ўжо трынаццаць гадоў як памерла, – кінула цяпер ужо больш чым проста раззлаваная жонка.

– Цьфу ты! – сказаў муж. – Дачку зваць будзем.

– Ну ты і дурыла, – сказала яна і дадала, – толькі праз мой труп.

На шостым месяцы цяжарнасьці было цьвёрда і канчаткова пастаноўлена – дзяўчынка будзе звацца ні лёгка, ні бяз “р” – Курына. Бацькі прыдумалі гэтае імя разам, сьпярша, як было дамоўлена, называлі па адным складзе, ён назваў – ку, яна – ры, а пасьля па літарах, ён са злосьці – н, яна ў адказ на сьвінства – а.

– Табе Курына нічога не нагадвае? – з іроніяй спытаў ён.

– Нагадвае, – адцэдзіла яна, паглядзеўшы на яго. Але калі акцэнт паставіць на другі склад, – яна зрабіла паўзу і вымавіла гэта імя ў думках, – то не. Яна ў свой час захаплялася паэзіяй, а ён у свой час захапляўся ёю, таму пярэчыць ня стаў.

Калі нарадзіўся хлопчык, яны абыдва былі ў шоку. Курына далася ім з такімі цяжкасьцямі, і яны не хацелі праходзіць праз гэта ізноў. Яна сказала: “Назаві яго, як хочаш, я табе давяраю”. Калі б на гэта быў час, ён бы ўсьцешыўся, але дарога ў ЗАГС станавілася з кожнаю хвілінаю усё карацейшаю і вузейшаю. Адзінае, што яго цешыла, дык гэта тое, што дзіця ня будзе Курынаю, і ў нейкім сэнсе, што ня будзе дзяўчынкаю, ну, карацей кажучы, што будзе хлопчыкам. І аднаго, і другога ягонага дзеда звалі Рыгорамі, і ён добра разумеў, што гэтае імя ягонаму сыну не падыходзіць. Працаўніца ЗАГСу падала яму сьпіс імёнаў і прапанавала назваць хлопчыка ў гонар якога-небудзь князя:

– Гедымін, Рагвалод ці Сьвідрыгайла.

– Сьвідлыгайла – не, – тут жа запярэчыў бацька. – І Гедымін – не, – дадаў, крыху падумаўшы і ўзгадаўшы жонку.

– Сёньня сьвяты Юры, – дадала трохі раззлаваная жанчына.

– Лагвалод, – паўтарыў ён сам сабе, прапусьціўшы сьвятога Юрыя каля вушэй. Працаўніца ЗАГСу перакрывілася і кінула:

– Ну тады, можа, Дзіма.

– Дзіма? – зацікавіўся ён, але тут жа, прыгадаўшы Дзіму з трэцяй “Б”, ажно здрыгануўся ад агіды.

– Вам не падабаецца ні гісторыя, ні сьвятыя, ні нават Дзіма? – сказала цалкам раздражнёная жанчына, паглядзеўшы на гадзіньнік, – мне на абед пара. – Бацька стаяў у гэты момант і перабіраў у галаве адну прызабытую па-

дзею, а калі жанчына ўжо зьбіралася закрыць кнігу і пайсьці палуднаваць, ён нечакана ўсклікнуў:

– Сьцяпан!

– Столькі трэба было думаць, каб прыдумаць Сьцяпана, – з пагардаю сказала жанчына, пасьпешна ўнесла запіс. – Хай будзе Сьцяпан, – дадала і з грукам закрыла цяжкую таміну.

– Сьця-пан? – ледзь не самлеўшы, перапытала жонка, акцэнтуючы і адзін, і другі склад.

– Ну Сьцяпан, – заморгаў зьбянтэжаны бацька.

Сьцёпаю ў двары іхнага дому хлопчыка ніколі не называлі. Зь першага дня ягонага існаваньня, а чалавек пачынае існаваць тады, калі яго неяк называюць, яго звалі Ціпан. Магчыма, так было з-за таго, што ён сам сябе так пачаткова называў. Аднак тады, калі ён навучыўся правільна вымаўляць імя Сьцяпан, было ўжо запозна – так і застаўся Ціпан ды Ціпан. Нават вар'ят Алёшка, якім у панадворку пагарджалі ўсе за выняткам Сьцяпана, тым самым хлопчыку не адплочваў. Алёшка казаў: "Ціпан" і пры гэтым паказваў усе да аднаго гнілыя зубы. "Ціпан! Тваю маць", – часта верашчала тлустая суседка, на якую натыкаўся хлопчык, калі тая ішла разьвешваць бялізну. "Сьцяпан! Тваю маць!" – адгыркваўся, як умеў, хлопчык ды ішоў разьвейваць сваю крыўду на гушкалку. Аднак калі падлеткі пачалі раптам замест Ціпаном называць яго срулём, то Сьцяпан адзываўся: "Ціпан! Тваю маць!" І хоць за кожнае такое абурэньне атрымліваў у лоб, з часам усё ж свайго дабіўся – стаў Ціпаном. Ён марыў пра тое, што стане чэмпіёнам сьвету па каратэ, разаб'е лыч усім дзецям з панадворка, тлустай суседцы, а Алёшку выб'е гнілыя зубы. Тады яны стануць называць яго правільна. Крыху падумаўшы, ён пастанавіў не выбіваць зубы Алёшку, каб той мог правільна вымаўляць імя Сьцяпан і каб не атрымалася нешта кшталту Фцяпан. Каб рэалізаваць пастаўленую мэту, Сьцяпан папрасіў запісаць яго ў сэкцыю каратэ. Бацькі пагадзіліся, але, паколькі сэкцыі каратэ ў горадзе не было, Сьцяпана аддалі на бокс, а калі хлопчык пачаў пратэставаць, яму ўсе да аднаго даводзілі, што "бокс і каратэ – гэта амаль адно і тое ж, толькі бяз ног". Урэшце хлопчык зьмірыўся, але хадзіць на бокс доўга ня стаў, кінуўшы гэтую справу пасьля таго, як старэйшы хлопец падчас трэніроўкі адным ударам выбіў яму тры малочныя зубы, і цяпер ён сам ужо толкам ня змог бы вымавіць сваё сапраўднае імя.

У школе Сьцяпана звалі Сьцяпанам толькі ў першы дзень – калі ўся вялікая навука заключаецца ў тым, каб адстаяць на лінейцы і не абсікацца. На другі дзень, калі ад хваляваньня падчас адной лекцыі ён тры разы адпрасіўся выйсьці ў прыбіральню, дзеці назвалі яго Сцыпан. Трохі пазьней гэтае нязручнае імя было скарочанае да Сцыпа. Сцыпаю Сьцяпан прабыў да адзінаццатай клясы. "Ну які ён Сьцяпан, гэты Сцыпа", – казаў настаўнік працы, пасьпешна глытаючы піханую пальцам каўбасу, новаму настаўніку матэматыкі, які Сцыпу яшчэ добра ня ведаў. Сваё поўнае імя Сьцяпан пачуў у школе ўсяго некалькі разоў. Кожным разам гэта азначала або настаўніцкую гістэрыку: "А галаву ты не забыў, Сьцяпан!", або бязьмежную пагарду: "Сьцяпан, мо цябе ў дзявочую каманду перавесьці?" У восьмай клясе Сьцяпан цьвёрда пастанавіў – каб заткнуць усім рот, трэба перамагчы на школьнай алімпіядзе па біялёгіі. Тэма чарговай алімпіяды была – арніталёгія. У першую чаргу Сьцяпан пазычыў у бібліятэцы ўсе кніжкі са словам "птушкі" ў назове. У другую – вывучыў, чым усе

птушкі харчуюцца, як будуюць гнёзды і дзе гадзяць, а ў трэцюю – завёў сабе на гаўбцы падбітую варону. “Звару табе суп з гэтае вароны, калі яе хутка не спарадкуеш”, – са злосьцю казала маці, якая з-за хворае птушкі мусіла вывешваць чыстую бялізну на панадворку. Калі варона, як палічыў малады арнітоляг, была гатовая да таго, каб вярнуцца да самастойнага птушынага жыцьця, Сьцяпан узяў яе ў дзьве рукі і выпусьціў з даху закінутага даўгабуду. Праз момант выявілася, што птушка ўсё-такі гатовая не была. Сьцяпан нават быў падумаў з жалобы па вароне кінуць падрыхтоўку да алімпіяды, але тут жа, прыгадаўшы сваю першапачатковую мэту, пастанавіў давесьці ўсё да шчасьлівага канца. Ён з упэўненасьцю адказаў камісіі, чым адрозьніваецца вялікі бугай ад малога, што такое аргазіды, як размнажаецца вялікі крахаль, якія асноўныя рысы клякі, чым характарызуюцца птушкі нэкрафагі, і быў ужо на крок ад доўгачаканай перамогі ягонага жыцьця, калі біялягічка прачытала чарговае пытаньне: “Якія птушыныя рысы мае знойдзены шкілет сцыпіёнікса”, – паставіўшы выразны акцэнт на першую частку імя, настаўніца, а за ёй усе астатнія сябры паважнай камісіі, гучна засьмяяліся. Сьцяпан устаў і, нічога не адказаўшы, выйшаў. Ён ня столькі абразіўся нахабнасьцю пэдагагічнага цела – да яе ён ужо пасьпеў прызвычаіцца, колькі проста забыўся на гэтага доўбанага сцыпіёхера. Магчыма, ён проста падсьвядома абмінаў гэтае пытаньне падчас навучаньня. Так ці іначай, імя ён сваё не адваяваў.

Калі Сьцяпану споўнілася шаснаццаць гадоў, і ён пайшоў атрымліваць свой першы пашпарт, ён з жахам адкрыў для сябе, што ў пашпарце лацінскімі літарамі было напісана Scypan. Гэта быў той час, калі трансьлітарацыя прозьвішчаў і імёнаў была ўскладзеная на плечы мясцовых працаўнікоў пашпартнага стала, у кожнага зь якіх у галаве была ўласная вэрсія лацінкі. Прыгадаўшы свой другі дзень у школе, Сьцяпан доўга спрачаўся і прыгразіў нават што ня прыме такі пашпарт, да часу пакуль бацька не ўляпіў, незаўважна для працаўніка пашпартнага стала, Сьцяпану ў падзатылак. Сям’я выбіралася ў першае замежнае падарожжа і мяняць Сцыпана на Сьцяпана менавіта цяпер было немагчыма. Зрэшты, як выявілася пазьней, на малдаўскіх памежнікаў Scypan і так не зрабіў ніякага ўражаньня. Відаць, яны працягваюць карыстацца ў асноўным кірыліцаю, падумаў ён, лежачы ў серавадароднай хларыданатрыевай вадзе зь мілагучнай назвай “Nufarul Alb”, што ў перакладзе значыць “Жоўты Гарлачык”. Пры вяртаньні свае памежнікі Scypana таксама праігнаравалі, і гэта канчаткова разьняхвоціла Сьцяпанаісьці і мяняць што-колечы. Тут мяняць трэба было ў корані, а дзе той корань, Сьцяпан дайсьці ня мог, а таму пасьля школы надумаў паступаць у інстытут.

У інстытуце, нарэшце, усё было гладка, Сьцяпан быў Сьцяпанам, але, на жаль, ня вельмі доўга. На адной з параў, на сваё няшчасьце, ён заўважыў Люську Паплаўскую, дачку ненавіснай біялягічкі, якая тут жа зараўла сваім яшчэ незмутаваным піскам на ўсю аўдыторыю:

– Сцыпа, і ты тут!

Замест таго, каб забіць яе, як задумалася ў парыве эмоцый, ён павёў Люську ў кіно. “Ды што ты пераймаесься, Сцыпа ж – так ласкава”, – сказала дзяўчына, папраўдзе ласкава цалуючы Сьцяпана. Пазьней на занятках лаціны, не без дапамогі выкладчыцы, якая раптам ні з таго ні зь сяго ўзгадала пра Сцыпіёна Афрыкана Малодшага і Сцыпіёна Афрыкана Старэйшага, аднагрупнікі перайменавалі Сцыпу ў гонар Сцыпіёна Афрыкана – так і не ўда-

кладніўшы – Старэйшага ці Малодшага. "Сцыпіён" гучала куды менш абразьліва, чым усе папярэднія мянушкі, і гэта дазволіла пратрымацца Сьцяпану ажно да магістра. Калі празь некалькі гадоў Сьцяпан даслужыўся да навуковай ступені – доктар, Сцыпіён быў, як яму здавалася, пахаваны канчаткова. У асяродзьдзі калегаў сапраўды на Сцыпіёна забылі на карысьць безыменнага спадара доктара, у афіцыйных зносінах безыменнага спадара доктара плюс прозьвішча. Пасьля таго як доктар Сьцяпан адпрацаваў на катэдры філязофіі ўжо некалькі гадоў і быў амаль забыўся на сваю жыцьцёвую балячку, зь ім здарыўся інфаркт. Адбылося гэта ў ліфце, калі Сьцяпан, накіроўваючыся на лекцыю, падымаўся на пяты паверх. Адна сьвежасьпечаная першакурсьніца, з даўгім языком і характэрнай для дзявочай нахабнасьці іроніяй, спыталася ў старэйшых студэнтак: "А праўда, што Сцыцырон – самы занудлівы выкладчык на катэдры?" Сьцяпан абудзіўся ў рэанімацыі і першае, што пачуў, былі словы лекара: "Доктар, альбо праца, або жыцьцё". Сьцяпан выбраў другое, і безь ніякіх згрызотаў сумленьня, а нават з пэўнаю ахвотаю.

Першы час ён проста сядзеў дома і атрымліваў асалоду ад таго, што ён адзін. Хутка ён зразумеў, аднак, што соцыюм, хоць так ненавісны, усё ж патрэбны яму бадай ня менш за паветра. Нават у самым абы-якім і гнюсным грамадзтве ён быў больш чым толькі НЕСЬЦЯПАНАМ. Канчаткова дайшоўшы да гэтай праўды, Сьцяпан натуральным шляхам прыйшоў і да пісаньня літаратурных эсэ – жанр, у якім заплянаваў асягнуць высокае майстэрства і што самае галоўнае – прызнаньне чытачоў і крытыкаў. Пісаць, думаў сабе Сьцяпан, варта хоць бы для таго, каб пабачыць на вокладцы ўпершыню за ўсё жыцьцё правільна напісанае сваё імя – Сьцяпан. Менавіта таму з-пад ягонага пяра выходзілі ўсё новыя і новыя эсэ, якія характэрна перапляталіся шматлікімі навуковымі фактамі з жыцьця птушак, філязофіі ажыўленай прыроды і грамадзтва. З часам гэтае цікавае спалучэньне літаратуры і навукі стала ягонаю пазнавальнаю рысаю – своеасаблівым аўтарскім подпісам. І яго нават сталі пазнаваць, запрашаць, вылучаць, а таксама, што ня без значэньня, узнагароджваць.

– Як да вас зьвяртацца? – паслужлівым голасам пытаўся старшыня пэнцэнтру перад штогадовым уручэньнем залатога пяра – доктар, ці проста імя і прозьвішча?

– Проста, – адказваў Сьцяпан і праціраў спатнелы лоб насоўкаю.

– Добры дзень! – пачыналася сёмае пытаньне выбранага мадэратарам чытача, – я вашая зямлячка, хачу спытацца, калі вы плянуеце наведацца на вашую малую радзіму? Вас там вельмі чакаюць.

"Каб цябе сцыпіёнікс дзеўбануў", – першае, што прыйшло ў галаву Сьцяпану.

– Я вельмі ўзрушаны, – сказаў ён, – думаю, што неўзабаве. Дзякуй за вашае пытаньне.

Калі ж "неўзабаве" страціла нават сваё разьлеглае разуменьне, Сьцяпан пастанавіў, што час прыйшоў і яму ад гэтага, відаць, ужо не дзявацца. Ён ехаў туды з жахліваю насьцярогаю, але і з упэўненасьцю ў сваёй перамозе. Тыя, што маглі яго памятаць, ужо даўно пра ўсё забылі, разважаў па дарозе Сьцяпан. Адклаўшы добрых тры квадрансы перад спатканьнем, Сьцяпан папрасіў таксіста збочыць у стары, да непазнаньня зьпачаны панадворак колішняга дому, у якім ён, здавалася, сто гадоў назад жыў разам з бацькамі. Гэта быў той момант, калі трэба ісьці насуперак свайму прадчуваньню і забаронам дактароў.

Ён выйшаў з аўта і машынальна накіраваўся да ўсё яшчэ недабудаванага вечнабуду. Узлазіць як калісь наверх было небясьпечна. Ён прыгадаў разьбітую варону – гісторыю, якая цяпер падавалася больш сэнтымэнтальнаю, чым сумнаю. Тады ён быў упэўнены, што яна паляціць, не зважаючы ні на што... і ўсё ж, не зважаючы ні на што, яна не паляцела. Калі расчулены Сьцяпан вяртаўся да машыны, у плечы, з боку альтанкі, данеслася пранізьлівае: “Сьцяпан! Няўжо... гэта ты?” Сьцяпан абярнуўся, але ўсё яшчэ не хацеў верыць сваім вушам. У жудасна састарэлым, але збольшага ня надта каб зьмененым абліччы хаваўся гнілазубы вар’ят Алёшка. “Як гэта магчыма, што тыя зубы ўсё яшчэ не згнілі?” – падумаў бы кожны іншы толькі не Сьцяпан. Сьцяпан быў прашыты тым сваім сапраўдным іменем, пачутым з вуснаў, цяпер, здавалася, амаль што нармальнага вар’ята. “Калі нармальныя на старасьць, бывае, дурэюць, то чаму б старым вар’ятам не нармальнець”, – працягваў кумекаць сабе Сьцяпан па дарозе на прэзэнтацыю сваёй творчасьці.

– А хто гэта быў? – спытаўся Мішка, адзіны і нязьменны Алёшкаў кампаньён па выпіўцы.

— Хто? А... Гэта так... Ціпана памятаеш? – спытаўся Алёшка, выціраючы часткова рукавом, часткова трыманаю ў кулаку параю банкнотаў абсьлінёныя вусны і агідна сьцякаючыя, як у малога, соплі.

– Ціпана? Не-а.

– Ладна... хадзем... вып’ем... за яго.

# Ранэтка

А вы таксама верыце ў тое, што казкі дзеляцца на тыя, што для дзяцей, і тыя, што для дарослых? Калі так – то гэтая казка не для вас. Яна для ўсіх астатніх.

* * *

Аднойчы ў чароўным, пахучым яблыневым садзе нарадзілася румяная дзяўчынка, якую звалі Ранэтка. Усё сваё радаснае дзяцінства Рэня правяла на галінцы, побач са сваімі шматлікімі родзічамі, якіх звалі рознымі дзівоснымі імёнамі: Папяроўкі, Ананасы, Мундэры, Антонаўкі, Грышталі. Цяпер уявіце сабе, якой красуняю мусіла быць Ранэтка, калі ў так вялікім садзе яе, не згаворваючыся, лічылі найпрыгажэйшаю, наймілейшаю і найсакавіцейшаю з усіх. Ня дзіва, што калі, сьпеючы, Ранэтка перамянілася з бурштынавай дзяўчынкі ў рубінавую паненку, у яе зьявіўся шэраг залётнікаў, ад якіх яблыку не было дзе ўпасьці. Як толькі Ранэтка адарвалася ад бацькоўскай галінкі, яе тут жа падхапіў у свае далоні Музыка. Ранэтка адчула далікатнасьць іхняй скуры, танклявасьць пальцаў, пругкасьць падушачак і стала паглыбляцца ў сон. Ёй сьнілася, што Музыка сваімі вытанчанымі рукамі грае на лютні, а ягоныя пунсовыя вусны сьпяваюць ёй калыханку. Гэта быў самы пераліўны і гарманічны сон у яе жыцьці. Калі Ранэтка прабудзілася, то заўважыла на сваім крамяным

бачку вялікі ўкус. – Чаму ты гэта зрабіў? – спыталася дзяўчына ў Музыкі, які ў гэты момант пасьвістваў сабе нешта пад нос. “Таму што я цябе люблю”, – мажорным тонам сказаў Музыка і працягваў насьвістваць сваю мэлёдыю. “А ты скампануеш штосьці для мяне?” “Вядома”, – сказаў Музыка ды пачаў наігрываць на сваім інструмэнце. Калі твор быў скончаны, ён зайграў яго Ранэтцы, якой здалося, што гэта самая цудоўная музыка, якую яна калі-небудзь чула. “Табе падабаецца?” – спытаўся Музыка. “Цудоўная!” – усклікнула захопленая Ранэтка, адначасна ўбачыўшы, як з дрэва падае сястрычка Медунічка. Музыка падхапіўся зь месца, але, намагаючыся злавіць Медунічку, выпусьціў з рук Ранэтку, якая несумненна звалілася б на зямлю, калі б яе не пасьпеў падхапіць Мастак. У адрозьненьне ад Музыкі ягоныя далоні былі шурпатыя, перапялёсаныя бароздамі, а больш за тое пахлі шкіпінарам. Аднак “якія ў яго былі вочы”, не магла надзівіцца Ранэтка. А гэтыя вочы ў адказ, відаць, не маглі надзівіцца Ранэткаю, якая быццам пад іх уплывам пагрузілася ў глыбокі транс. Калі дзяўчына прахапілася, яна ўбачыла побач раскошную карціну і Мастака, які парадкаваў пэндзлі і фарбы. “Няўжо гэта я?” – спыталася Ранэтка. “Анягож”, – сказаў Мастак. Калі Ранэтка нахілілася бліжэй, каб разгледзець дэталі, яна адчула ўкус на сваім другімналіўным баку. “А гэта, значыць, ты”, – сумна сказала дзяўчына засланяючы рану. “Так, мая каханая, – хутка адрэагаваў Мастак, – я”. “Твая карціна, – пасьля працяглай паўзы сказала Ранэтка, – Яна выдатная!” Не пасьпела дагаварыць апошняе слова Ранэтка, як у паветры паказалася ападаючая кузінка Папінка. Мастак кінуўся хапаць Папінку і неабачліва ўпусьціў Ранэтку. Ранэтка, заплюшчыўшы вочы, была гатовая ўжо зваліцца на зямлю, калі раптоўна яе падлавіў Паэт. Рукі і вочы ў яго былі звычайныя, але зь ягоных вуснаў ліліся такія незвычайныя словы, перад якімі ўстаяць было проста немагчыма. Навучаная, аднак, горкім досьведам, Ранэтка адразу сказала: “Складзі верш пра мяне”. Не марнуючы часу, паэт тут жа пачаў сыпаць купаю харэяў, ямбаў, дактыляў і анапэстаў; прыгаршчамі манамэтраў, дымэтраў і актамэтраў; тузінам рыфмаў і алітэрацыяў; усё шчыльна пераплятаючы гарою афарызмаў і паранамазіяў. “Ух-ты!” – летаргічна азвалася Ранэтка і адчула, як, скончыўшы свой палымяны выступ, паэт абкусвае яе з двух яшчэ не закранутых бакоў, а пасьля з усёй сілы запускае высока ўверх, цэлячы ў каляжанку Круглянку. Калі непрытомная Ранэтка трохі ачуняла, яна ўбачыла, што ляжыць на зямлі. Побач нікога не было, і Ранэтка, якая стала цяпер падобная на абгрызак, пачала голасна плакаць і плакала, плакала, плакала, ажно адчуўшы нейкае варушэньне ў сэрцы, падумала, што памірае. Якраз тады ёй паказаўся Чарвячок. Ранэтка абцерла сьлязу. “Хто ты? І адкуль?” – спытала дзяўчынка. “Я Чарвячок, жыву ў тваім сэрцы”, – сказаў ён. “Ведаю, як яно б’ецца, чым напоўненае і калі сумуе”. Ранэтка ўсьміхнулася і ўпершыню заплюшчыла вочы ў поўным спакоі. Яна разумела, што ў адрозьненьне ад Музыкі, Мастака і Паэта, для Чарвячка самаю галоўнаю была яна сама. Разам яны шчасьліва пражылі да позьняй восені, што на яблычныя гады – вельмі-вельмі-вельмі доўга.

*2010*

# Споведзь ксяндза Булькі

Калі я першы раз пабачыў ксяндза Бульку, мне было шэсьць гадоў. Яму было шэсьцьдзесят чатыры, але ў той час мне здавалася, што яму прынамсі дзевяноста. Адразу, дзякуючы захадам бабулі, якая была прызнанай у каталіцкай грамадзе хадайніцай па аднаўленьні вудзельскага касьцёлу, я атрымаў ганаровую пасаду міністранта. У той час усіх хлапчукоў, як і мужчын у комжах, якія прыслугоўвалі падчас сьвятой імшы, мясцовыя аднолькава называлі закрыстыянамі. Мае абавязкі ў гэтай функцыі няспынна расьлі з кожным днём. Сьпярша я атрымаў доступ да званочкаў, пасьля – да гарлачыкаў для паліваньня вады ў абрадзе ўмываньня рук, яшчэ пазьней – да патэны для падстаўляньня пад падбародзьдзе ў часе камуніі, якую мы проста называлі тацай, і ўрэшце ці не да самага файнага і ў чымсьці вельмі паганскага літургічнага прычындалу – кадзідла. З усіх закрыстыянаў у часе службы я адрозьніваўся бездакорнымі паводзінамі, якія найперш заключаліся ў поўным маўчаньні і дарослай павазе, што ксёндз Булька, даволі часта адзначаў мэханічным пагладжваньнем па галаве. Я заўсёды ставіўся да яго з пэўнаю насьцярогаю, хутчэй за ўсё, з-за слабога разуменьня ягоных словаў. Толькі прыехаўшы ў Беларусь, ксёндз гаварыў на расейска-польскай мяшанцы з моцным летувіскім акцэнтам, які істотна перашкаджаў мне разумець ягоныя кароткія заўвагі і пытаньні. У той час служба ў касьцёле праходзіла яшчэ выключна па-польску. Я польскае мовы, апроч завучаных словаў розных малітваў, ня ведаў. Таму фраза "*Богу складамы дзенькі*", перакладзеная мною як “Богу складаем дзеньгі”, перш за ўсё асацыявалася з чыннасьцю зьбіраньня грошай у скарбонку, рабіла на мяне вялікае ўражаньне.

Вобраз ксяндза Булькі для мяне ўсё ж больш зьвязаны з прыкасьцёльнаю тэрыторыяй, чым з самім касьцёлам. Ягоныя рукі часта былі запэцканыя ў зямлі, зьліваліся з колерам сутаны і ўлюбёнай ім бірэты – чорнай, чатырохвугольнай шапкі зь дзіўным пампонам наверсе. На сёньняшні розум я б падумаў, што ён хутчэй пратэстант, які большасьць дня праводзіць на працы ў садзе, ці можа нават пурытанін, які, пакінуўшы дом, едзе абжываць новую зямлю, па якой калі нават хтосьці і хадзіў перад гэтым, то было гэта вельмі даўно. У сваёй нянавісьці да алькаголю – я добра памятаю ягоныя палымяныя супрацьалькагольныя казані – ён і праўда ў нечым больш нагадваў пурытаніна з каляніяльнага пэрыяду. Магчыма, таму Бульку так моцна любілі і ўсяляк падтрымлівалі вясковыя жанчыны, а мужчыны пераважна асьцерагаліся.

Калі мне споўнілася восем, бабуля пастанавіла падрыхтаваць мяне ды выправіць да першай камуніі. Прайшоўшы этап тэарэтычнай падрыхтоўкі ў законных сясьцёр, я актыўна рыхтаваўся да першай у жыцьці споведзі. Чым бліжэй быў час споведзі, тым больш я губляўся ў “нарыхтоўцы” сваіх грахоў. Як заўжды, у такіх выпадках на дапамогу прыходзіла бабуля. Яна сьпярша прайшлася са мною па ўсіх сьмяротных грахах, за якія можна трапіць у пекла, якія папаўняюцца пры поўнай сьвядомасьці і свабодзе выбару. Зь дзесяці прыказаньняў бабуля пазначыла мне пункты тры і чатыры, а пасьля мы перайшлі да грахоў зь ліку лёгкіх – тых, зь якімі можна было разьлічваць на чысьцец. Каб занадта не перахваляваць мяне вывучэньнем правінаў на памяць, бабуля дапа-

магла запісаць іх на адмысловую паперку. Калі прыйшоў урачысты момант, ксёндз Булька сьпярша ўважна выслухаў завучаную мною формулу споведзі, а пасьля зачытаныя з дапамогаю шпаргалкі грахі. Адмовіўшы сваю частку малітвы, ён загадаў больш не грашыць, задаў у якасьці пакуты адмовіць пэўныя малітвы і ўжо ў самым канцы, выхіліўшыся з-за кратаў канфэсыяналу бліжэй да мяне, на сваёй дзівоснай мове прашаптаў:

– Паперку пасьля споведзі спаліць.

Скінуўшы з плячэй вялізарны груз, быццам паветраны балёнік, я вяртаўся зь ня менш за мяне задаволенай бабуляю дахаты.

– А каму спавядаецца ксёндз Булька? – мучыў я бабулю сваімі складанымі пытаньнямі.

– Біскупу, – спакойна, як заўжды, адказвала яна.

– А біскуп? – працягваў я.

– А біскуп Папу Рымскаму, – казала бабуля, мусіць, ня хочучы ўводзіць мяне ў складаныя падрабязнасьці.

– А Папа Рымскі? – не спыняўся я.

– А Папа Рымскі... Богу, – сказала бабуля, паставіўшы кропку ў нашым дыялёгу.

“Дык вось, значыць, якім складаным шляхам мае грахі трапляюць да Бога”, – думаў я і крочыў дадому.



**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер** нарадзіўся ў горадзе Менску 21 студзеня 1978 году ў сям'і выкладчыкаў.

Вершамі захапляўся зь дзяцінства, але пісаць іх пачаў толькі ў 17 гадоў.

У 1995 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт на юрыдычны факультэт. Скарыстаўся магчымасьцю ажыцьцявіць сваю мару — вывучаць міжнароднае права й міжнародныя зносіны ў ВНУ з адпаведнымі сталымі традыцыямі, паступіў у Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных зносін (МГИМО) на міжнародна-прававы факультэт. Пасьля закончыў там асьпірантуру па спэцыяльнасьці "міжнароднае прыватнае права".

Зараз жыве ў Маскве і працуе ў недзяржаўным Інстытуце міжнароднага прыватнага й параўнаўчага права і ў Калегіі адвакатаў.

## Міла й фінансавы крызыс

Людміла стамілася ў клерках,
Кліенты яе задзяўблі,
І корпацца трэба ў паперках,
А хочацца ж прэч ад зямлі,

Каб весела праца кіпела,
Жыцьцём паўнавартасным жыць,
Ад радасьці сэрца каб пела,
Каб свой крэатыў праявіць.

Начальства яе адпусьціла,
Паліўшы скупою сьлязой:
"Эх, зьнікла рабочая сіла,
Ня хоча цягнуць наш вазок...".

Пужаюць Людмілку: ты ў крызыс
Сядзі ўжо ды сьмірна працуй.
Інакш капыты ты адкінеш,
Ня працу ты знойдзеш... Даруй!

Ды Мілцы ніщто забабоны,
Ёй крызыс “да лямпачкі” той.
Ня хоча яна быць прыгоннай,
Рабочай скацінкай – “Адстой”!

Жадае душа прыгажосьці,
Свабоды, жыцьця паўнаты,
Ёй трэба ўнікальнае штосьці,
Усе разявалі каб рты.

І вось навучылася Міла,
Адчуўшы прыліў творчых сіл,
Рабіць незвычайнае мыла,
Ня грэбаваў б ім Радзівіл!

Сябры больш ужо не гадаюць,
Які падарунак чакаць,
Бо ведаюць, што атрымаюць,
Ім мыла ня трэба купляць.

У плянах пакуль высьпявае
Касмэтыкі ўласны бутык,
Натхненьня яна не чакае –
Шукае свой шлях залаты!

Настаўнічаць хоча адважна,
Фінансавай справе вучыць,
Быць мудрай, сур’ёзнай, паважнай
І зь невукаў майстраў рабіць.

Ды вучыць замежныя мовы,
Каб межы спыніць не маглі
Палёт творчай думкі, і словы
Да Кіева каб давялі.

Ёй кажуць сяброўкі пра працу:
“Хай лясьне яна ці згарыць!..”
Ды Мілка ня хоча здавацца:
Ня можа бяз справы пражыць!

Напішуць пра Мілу ў газэтах:
Эпохі ёй сымбалем быць!
Пакуль ёсьць такія кабеты,
Пра крызыс мы можам забыць.

*Сакавік 2010 г.*



**ДАНІЛЮК Барыс** народжаны 5-га красавіка 1923 году ў Старых Дзяваткавічах Слонімскага павету.

Цягам амаль 70 гадоў няспынны працаўнік на грамадзкай і праваслаўнай царкоўнай ніве.

Рэдактар сьпярша парафіяльнага бюлетэню ў Брукліне, а пасьля агульнацаркоўнага часапіса БАПЦ "Царкоўны Пасланец", ды ўрэшце ізноў парафіяльнага бюлетэню "Навіны з Роднае Сьвятыні" (1979—2007), у якіх друкаваліся ягоныя зьвесты з царкоўных падзеяў, артыкулы, прысьвечаныя царкоўным справам ды вершаваныя пераклады больш як двох дзясяткаў псальмаў, а таксама часткі вершаваных перакладаў біблійных паэмаў: (Салямонавая) "Звышпесьня" й "Ярэмавае галашэньне".

У 2000 годзе частка ягоных вершаваных перакладаў і твораў была выдадзеная ім самым невялікай кніжыцай "Душыныя пасьпевы", а ў 2006 і 2009 гадох два дзясяткі пакладзеных на музыку да сьпеву гэтых ягоных твораў выйшлі таксама невялікім зборнікам пад тым самым назовам.

Цяпер Барыс Данілюк жыве на пэнсіі ў Самэрсэце, што ў штаце Нью-Джэрзі, ЗША; піша ўспаміны й зьбірае "Здымкавы летапіс жыцьця й дзейнасьці беларускае эміграцыі ў ЗША й іншых заходніх краінах", а ў рэдкі вольны час займаецца складаньнем собскіх вершаваных твораў або перакладамі іншамоўнае паэзіі.

## Антолька

Была вясна, што ў нас бывае,
А ў сьвеце гэткіх больш няма,
Пара жыцьця йшла маладая,
На век што ў кожнага адна.

Усё цьвіло ды зелянела,
Красы тае не апісаць,
А сэрца чыстае хацела
Ў праўду верыць і кахаць.

Дажджы ўпадалі зь перунамі
Й вясёлчын мост ўгары ўставаў,
На ўсходзе ж да відна начамі
Гарматні грукат не сьціхаў.

Ўжо трэці год як малаціла
Вайна ў нас бомбамі зямлю,
Жыцьці бязьлітасна касіла,
На скос бы ўсьпелую траву.

Й ня толькі падалі ў магілы,
Каго служыць ўзяла вайна,
За ўсімі здрадна сьмерць сачыла,
Ў дарозе, удома й з-за вугла.

Былі бо ў нас гаспадарамі
Займіты йз ўсходу й сходу дня:
Адны ўначы, другія днямі
І за нішто ўсяк забіваў.

Жахны цярпелі зьдзек сяляне,
І голад стаў ўжо дакучаць,
Усё бо чыста забіралі
Ў іх, што адно схацелі ўзяць.

Увонкі местаў "партызаны",
Або бандыты ўзапраўды,
Уцэль зрабіць край спуставаны,
Абжыраліся й гар пілі.

І пацьвярозу ды пап'яну
І сілкавалі ўчаст жанчын,
А супраць немцаў ваявалі
Ўззад за сялянскімі плячмі.

Бо стралялі ды забівалі
Каля сёлаў іх назнарок,
А тыя помсьцілі бяз жалю
Ускрозь нявінным за нішто.

У вёсках чыста ўсіх стралялі:
Дзяцей, дарослых і старых,
Ці ў гумнах, хатах замыкалі
І ўсіх палілі йшчэ жывых.

А тыя, у лес што ўцякалі,
І гэнам доўга не жылі,
Бо "Партызаны" пасылалі
Іх папярод сябе ў баі.

Хто ж ў лес ісьці ці у нямецкі
Не хацеў каб лучыць прыгон,
Падаваўся той-сёй у месты,
Дзе трываў яшчэ спакой.

Стуль, аднак, ім дамоў вяртацца
Зрэдзь хоць зьведаць сваякоў,
Трэ было асьцерагацца,
Каб не заплаціць жыцьцём.

Бо сьмерці папярок ўжо ўстаньня,
Каб знава жыць, больш няма –
Застаецца крыж на памяць
Й блізкім век нязгойны жаль.

* * *

Бывалі і раней ў нас вёсны
Той незабыўнае ня горш
Але бяз войнаў і жахоцьцяў,
Ўдзень што ў памяці і ўноч.

Уперш, аднак, праймкло дзяцінства
Ды падросьць прайшла гульнёй
І ўсьлед маладосьць падцішкам
Завітала з той вясной.

Змаль у сяле я гадаваўся,
Ў школе бацька дзе вучыў,
А праз плот расло дзяўча там,
Ёй наймён Антолька быў.

Да дзяўча я нецікавы
Быў зусім тады, аднак,
Бо мальцоўскія меў справы,
Ды дражніцца быў мастак.

Бацька ж як мяне падслухаў,
Ці суседкі чуў жальбы,
Біў у сесьць, каб даць навуку
Чэсьціць сталых і малых.

Як вучыцца ж пайшлі ў школу,
Дзяўча ўмела ўсё “на пяць”,
Дык замест дражніцца болей
Мне здарала даганяць.

Пара год так прасьпяшала
Й стала дзеўчынка гажэць
Ды ў мой бок зрэдзь пазірала
Глядам сіненькіх вачэй.

На той гляд я азіраўся
Часам употай з-пад ілба
Й неўзнарок як бы ўсьміхаўся,
Бо увагу ўпадабаў.

Й не дражніўся ужо болей
Із упадобным мне дзяўчом –
Ветла размаўляў з Антоляй,
Як з найлепшым мне сябром.

Ды у хату ў іх заходзіць
Стаў патрэбы выдумляць
Й рады быў, гурка як зь мёдам
Мне далі зрэдзь скаштаваць.

Але за пачостку болей
Ўпадабаў бы штось спытаць,
А ў запраўднасьці з Антоляй
Пагаварыць і зжартаваць.

І у нас яна бывала,
Ёй далі як прынясьці,
Ўсьцяж што мама ў іх купляла,
Малако ці яйка й сыр.

Гэтак вось, як брат зь сястрой бы
Мы зжылі час дзетніх год,
І ня ўчулі, як аднойчы
На разлуку дзень прыйшоў.

Ў гэтай бо вясковай школе,
Што мы ўчыліся ўдвайгу,
Чатырох звыш клясаў болей
Ў тую не было пару.

А мяне бацькі, вядома,
Ў людзі вывесьці імклі
Дый і з гэтай мэтай з дому
Ў места ўчыцца аддалі.

Але і бацькі Антолі
Ёй шлях у сьвет хацелі даць
Каб навукі кошт адолець
К цётцы здумалі паслаць.

Тая ж цётухна ў мястэчку
Аж ад места ўздаль жыла
Й я на сьвяты й толькі ўлетку
Ўзноў Антольку сустракаў.

Але і ў тыя нашы стрэчы
Сябравалі як раней
Й апыніўшыся ўдалечы
Памяталіся ўзаем.

Гэтак пара лет праймчала
Й гімназістам ўсьпеў я стаць,
А Антолька ўсё тамсама
Йшчэ вышэй канчала кляс.

Ўзяць бо грошы з гаспадаркі
Вышэй школу заплаціць,
Здужаць было вельмі цяжка,
Каб даволі зарабіць.

Ажно неяк раз мой бацька,
Зь ейнымі як размаўляў,
Яе ўчыцца дальш паслаць каб
Іх намовіць рады даў.

Гэтак гімназісткай стала
Год пазьней мяне яна,
Але бачыў яе мала
Я, як ў месьце зажыла.

Бо ў тае пабожнай пані,
Брала што дзяўчат у дагляд,
Сустракацца каб з хлапцамі
Нат ня думаць быў загад.

Дык улетку й ўзноў на сьвяты
Я Антольку сустракаў,
Але як ў дзяцінстве йначай
Сябраваць ўжо неяк стаў.

Не зь дзяўчынкай бо суседзкай
Дачыненьне тады меў,
А ўжо як бы із паненкай
Абыходзіўся ўважней.

Гэтак пара год мінула,
Аж ушчалася ў нас вайна
Й як ніхто ўпярод ня думаў,
Новы лад усьлед настаў.

Лад нялюдзкі й небывалы
На зямлі яшчэ датуль,
Зьніклі поўныя раньш крамы
Й па ўсё мус стаць ў чаргу.

А за гэта яшчэ горай
На багатшых быў нацкоў,
Што народу зь іх ўсяк вораг
Быў абдзірлівы знарок.

Й гаспадарнейшых сялянаў
За той быццам бы злачын
Ў "кулакі" ўраз залічалі,
Каб падаткам задушыць.

Ўзноў і ўзноў бо падыйманы
Хто падатак не сплаціў,
У турму быў забіраны,
А адтуль у канцлягеры.

Не прайшла бяда няўзнакам
Й ля Антольчыных бацькоў,
За няздоль плаціць падатак
Ўзялі бацьку у астрог.

З дачкой маці распачалі,
Ўжо бо трэ было чакаць,
Павязуць што ў Казахстан іх
У пустыні прападаць.

Ўрэшт, аднак, зь любові маці,
Каб дачку як уратаваць,
Загадала ёй ў распачы
Аж да цётухны ўцякаць.

Але й ў нас ў сям'і трывога
Дакучала у той час,
Бо што бацька ейны вораг
Ўлада ўрэшт магла пазнаць.

Яшчэ бо у маладосьці,
Беларусам як ён стаў,
З нашым родным войскам
Проць займітаў ваяваў.

Дык на арышт гатаваўся
Бацька зь зьмены першых дзён,
А мяне уратаваць каб
Ад Сыбіры плян знайшоў.

І мне ў месьце заставацца
Далей ў школе загадаў,
Але ўважна прыслухацца,
Ці ня сталася бяда.

А, крый Бог, калі б дазнаўся,
Што бацькоў у вязь ўзялі,
Да дзядоў ў глушы схавацца
Мне параіў каб ісьці.

Ажно Бог даў, абыйшлося,
Засталіся ўдома ўсе,
Бацька ўцёк з турмы Антольчын
Й не забралі нас яшчэ.

Немец бо пайшоў вайною
На забіўніка як сам
І з разгону пад Масквою
Неўзабаве ажно стаў.

Камісары ж ды чэкісты
На усход і ў лес ўцяклі,
Не пасьпеўшы ўсіх начыста
Вязьняў й ворагаў пабіць.

Ім на зьмену вакол немцаў
Ўраз палякі дуж ўзялі
Й беларусаў актыўнейшых
Расстралялі значны лік.

Але ў нас ў сяле спакойна
Лета цэлае было,
Ў касавіцу і жніво ўсе
Шчыравалі сабе ў спор.

Аж тым летам й самаўрад нам
Немцы неўспадзеў далі
І я ў месьце працаваць ў ім
Ў восеньскія пачаў дні.

А за мной усьлед Антоля
Ў места працаваць прыйшла
І ў пачатнай зараз школе
Мейсца для сябе знайшла.

Бо пісаць па-беларуску
Шмат умелых не было,
Дык пісаць хто так быў звучан
Ўсяк начальнік браў ахвоч.

Але ў крэслах не сядзелі
Зь ёю мы тады адно,
А на пробы штонядзелі
Йшлі на збор ў Народны Дом.

Ў хоры бо Антоль сьпявала,
(Ў яе добры быў дыскант),
А мяне сілком ўламалі
Ў танцаўным гуртку скакаць.

Пасьля ж выступу ці пробы,
Йшлі прайсьціся местам дзесь,
Ці ў кіно, як фільм быў добры,
Мы хадзілі паглядзець.

І ўжо неяк не сяброўства
Адчувалася ў грудзёх,
Ўспалымнелая любосьць там
Душу песьціла цяплом.

Ды праз гэта мы маўчалі
І ня шчырылі ўзаем,
Што за рана бо ўважалі
Пачуцьцям даваць разьбег.

Тымчас зь немчага бязглузду
Й лютаваньня безь мяжы
Лад прагнаны ўзноў вярнуўся
Ўскрозь за местамі ў краі.

Й тую школу, дзе гадамі
Бацька звык ўжо быў вучыць,
Загадалі “партызаны”
Назусім каб зачыніць.

З чаго жыць і дзе падзецца
Стала загадка бацькам.
Пашчасьціла, аднак, мейсца
Ў школе меставай дастаць.

І дамок йшчэ невялікі
Нам з гародчыкам далі
І мы ў месьце, хоць ня ў сыці,
Ды спакойна зажылі.

А ў сяле бацькі Антолі
Рабаўцоў цярпелі зьдзек,
І спажытак, што быў ўтоен,
Стаў пакрысе ў іх пусьцець.

Дык дачцы харчу ў месьце
Не было ўдаволь як даць
Ёй із картак трэба есьці,
Ці на рынку штось купляць.

А на гэта мала платы,
Дык дайшло недаядаць,
А мы беднаму дзяўчаці
Сталі крыху памагаць.

У нядзелі мама звала
Папалуднаваць у нас
І ў харчоўню я на страву
Запрашаў за разам раз.

Гэтак ўрэшт вясна настала
Ў той сорак чацьверты год,
Што красу прынясла нам
Й сьмерць нямала для каго.

А ў Антолькі маці зь бедаў
Назусім зьлягла ў пасьцель
І дачцы матулю зьведаць
Трэ было як найхутчэй.

Дык ў суботу па рабоце
Йсьці наважыла дамоў,
Я ж яе ў ісьцеж падводзіць
Аж за места ўдаль пайшоў.

Ўрэшт ужо каб разьвітацца,
Мы паселі на траве,
І тут раптам цалаваць я
З жарсьцяю пачаў яе.

Мне ўзаемствам адказала
На нястрымак яна мой,
Й гэта нас няўзнак зьяднала
Душой й целам у адно.

Ды зьлягчэла жарсьць ў часіну
Й не хапала болей слоў,
Толькі любасьць мы вачыма
Выяўлялі між сабой.

Ўрэшт дайшло нам разьвітацца
Цалаванкам раз адно,
Й удаль Антолька падалася,
Йшчэ махнуўшы мне рукой.

Й я паплёўся зноў у места
Зь неспакойнаю душой,
Дакучала бо мне ў сэрцы
Бяды нейкай прадчуцьцё.

Й не дарма, бо як сьцямнела,
Над былым нашым сялом
Я пабачыў – аж пад неба
Ўвысач зарава ўзыйшло.

А ўжо ў панядзелак рана
Вестка да мяне дайшла,
Што Антолькі ўмілаванай
Ўжо на сьвеце больш няма.

Прывязьлі бо паліцаі
Банды атаманаў труп
Й на паказ усім паклалі
Ў гаражы ў іх на таку.

І я пайшоў паўглядацца
Быццам бы на мерляка,
А папраўдзе, каб дазнацца,
Як мне сталася бяда.

Там знаёмца-паліцая
Я тады якраз спаткаў,
І той мне із самахвалай,
Як было ўсё, расказаў.

...Зь лесавых усіх бандытаў
Найстрашнейшы быў Максім,
Грабіў бо з прытна ўсё чыста
Й крыўдаваў няраз жанчын.

Забіваць жа за нівошта
Здолеў ён ўжо шмат разоў,
Дык зьяўляўся дзе ў вёсках,
Нападаў на ўсіх спалох.

Й ані немцы й паліцаі
Больш ужо за цэлы год,
Як адно не пілнавалі,
Не маглі спаймаць яго.

Аж якраз у тую суботу,
Як Антоль дамоў пайшла,
Што й Максім у тую вёску
Меў заехаць, нехта ўдаў.

Не згубіць каб той нагоды
І бандыта ўрэшт спаймаць,
Паліц'я яго з абходу
Ўплянавала той раз ўзяць.

І таму ажно падвечар
Рушыла у іншы бок,
Вакол места каб аб'ехаць
Й зьвярнуць дзесь пад сяло.

А там стаўшы здаль ад школы,
Падкрадацца пачалі,
Ведалі бо, што Антолю
Пэўна зьведае Максім.

Й меркаваньні удаліся
Праз бандытаў крок ўпярод,
Бо Максім, як ўрэшт зьявіўся,
Ў дом Антольчын ўраз зайшоў.

“Й я падпоўз”, – паліцай сказаў мне. –
“За кустамі пад вакно
Й асьцярожна назіраў усё,
Ў хаце дзеялася што.

А Максім тамак дзяўчаці
Зрабіць есьці загадаў
Ды йз свайго што меў запасу,
Сала й каўбасу дастаў.

Ежа ж йшчэ пакуль пяклася,
Максім сеўшы не чакаў,
Падыйшоўшы да дзяўчаці,
Рукой мацаў й абдымаў.

З салам ўрэшт яечнь сьпяклася,
І знайшоўся самагон,
Ды з Максімам і сям’я ўся
Села спажываць за стол.

Й чаркі як былі падняты,
Й Максім дзяўча абняў упол,
Праз вакно ў той міг гранату
Я шпурнуў на самы стол.

Грымла і вагонь згас ў хаце,
Ды чуць стогнаў не было,
Знаць, што ад тае гранаты
Не застаўся жыў ніхто.

Рэшт бандытаў зь безгалову
Не пайшло на супрацíў,
Падпалілі толькі школу
Ды ў лес хутка уцяклі.

Мы ж Максімаў сьцерв забралі
Ды у места прывязьлі,
Ўсе на вочы каб паўглядалі,
Што бандытаў можам біць".

Сказ пачуўшы паліцаяў,
Ледзь стрымаўся я ад сьлёз
І каб болю не пазнаў хто,
Працаваць пайшоў усё ж.

А на трэці дзень дазнаўся,
Што суседзкай талакой
Сьпіць Антолька і сям'я ўся
Пад крыжамі безь імён.

* * *

Зь вясны той краснай і жахлівай
Зыйшло ўжо больш паўсотні год,
Сьпіць Антолечка дольш у магіле
Пазарослай ушчыль мурагом.

А я час гэты на чужыне
У думках адзінцом жыву –
У сэрцы болю бо й спамінаў
Забыцца здолець не магу.

І зь імі йшчэ дакучыць дзіва,
Ўсьцяж без адказу на яго:
Чаму ўсё ж так несправядліва
З добрымі абходзіцца жыцьцё?!

## Наш праклён

Із усіх ў жыцьці няшчасьцяў,
Што прыносіць, быццам кон,
Найгарэй, як хто патрапіць
Ў собскай безглузьдзі палон.

Тут, напрыклад, добры людзі,
Мы вазьмем самых сябе –
Два стагодзьдзі сябе будзім,
Ды няшмат на кліч ўстае.

А прачхнецца хто й навуку
Хоць якую ў лоб уваб'е,
Ўжо ня хоча нават слухаць
Аб сваёй ён старане.

Й да суседаў далучыцца
Кожны гэтакі гатоў,
Бо няма як ганарыцца
Непаважлівым імём.

Ўмест таго бо, каб назвацца
Годным як ва ўсіх назвом,
Папярэдцы нам у спадку
Іхны кінулі праклён,

Ахрысьціўшы нас мянюшкай,
Бы няпоўнасных людзей,
Як пятля мацней, што душыць,
Кожны раз, калі ўстаем.

"Рус" бо белы, ці інакш як,
Ты шанотна не кажы,
Усё роўна меншы брат ён
У расейцаў назаўжды.

Й да людцоў ускрозь на сьвеце
Не даходзіць тое ўсіх,
Ў "белых русаў" і расейцаў,
Што за розьніца між іх.

Ды й сярод сваіх нямала,
Як сказана тут ужо,
Сябе ў іншых нац'яналаў
Абяртае ад таго.

Слаўнае ж імя прадзедаў,
Што грымела ў даўні,
Папярэдцы ў нас суседам
На няўжытак аддалі.

Й хоць суседы ймёны маюць
“Летувіс” ды “Летува”,
Мы няўзглузд іх называем
Ўсьцяж “літоўцы” і “Літва”.

А самыя, байструкі бы,
Род мы наш не ўспамянем
Й пад назвом неганарлівым
Не расьцем, а ўповаль мрэм.

Годзе ж, сёстры ўжо й братове,
Нам далей мадзець па скон,
Схамянемся ды прагонім
Наш успадчынны праклён!

Ўпроч зь сябе мянюшку скіньма,
Што нас нізіць ўскрозь ўвесь час
Ды вярнем сабе бяз ўпынкаў
Наша слаўнае імя.

Назавем наш край Літвою,
Як нядаўна йшчэ было
І ў сьведам’і узновім,
Што ўсяк з нас ёсьць ліцьвіном.

Й ганарліва ўзьняўшы чолы,
Нашу ўдаласьць пакажэм,
Каб сьвет ўведаў, што мы роўны
У народаў грамадзе.

Й гаспадарыць лепш патрапім,
Як над намі займіты –
Зробім край наш так багаты,
Як дасюль яшчэ ня быў.

Й не стыдаць, а ганарыцца
Станем нашым мы імём
Ды абернем у нябыцьце.
Самахоцьны наш праклён!



**ЗАЙКА Віталь** – нарадзіўся ў Беларусі, жыве ў Нью-Ёрку. Шукае забытыя выявы і схаваныя сэнсы. Зьбірае моманты, што насьвятляюць штодзённасьць.

# САН-ДАМАНГ
(Saint-Domingue)

## I

Карункі на сукні Мамузэль Левэк – сьветла-ружовыя, тонкай работы. Нібы файная падліва, аздабляюць яны галоўную страву – самую Мамузэль, ейныя пышныя, але не праз край, выгіны плоці. Смуглявая аксамітная скура, чорныя валасы, што свавольна выбіваюцца з-пад стужкі. Ох, Мамузэль!

Паручнік войскаў польскіх пры французскай галоўнай камандзе на Сан-Дамангу Язэп Точка толькі аблізнуў губы, усьміхаючыся. "Oui, Мамзэль". Перахапіў зручней рукою ў мокрай ад поту пальчатцы ліст. Ад сьпёкі хочацца сьцягнуць скуру, ня тое што хадзіць у пальчатках і высокіх ботах.

Мамузэль Левэк, пакаёўка Паўліны Банапарт, элегантна выгнула руку, хаваючы за сьпіну срэбную тацу, на якой вынесла ліст, і падміргнула. "Au revoir, лейтэнант Жазэф!"

Заўтра ўвечары Паўліна зьбірае гулянку-суарэтку для спадароў афіцэраў польскіх, і Точка панясе да начальства ліст ад яе. Спадарыня сястра Першага Консула Францыі не пашкадавала парфумы – ад ліста на мілю тхне ружовай вадой зь нейкімі эсэнцыямі. Некалькі мулатаў-афіцэраў у двары, прыклаўшы два пальцы да трыкутак, усьмешліва кідалі ўсьлед: "*Кэль парфан*, ну-ж парфума!"

Точка ўскочыў на ганак маёнтку, дзе мясьцілася начальства 113-й дэмібрыгады. “Для генэрала Ябланоўскага!” – Точка выцягнуўся перад дзяжурным рэгімэнтарам, падняўшы ў двух пальцах духмяны ліст. “Тэраз генэрал заняты. Што маеш, паручнік?” – ”Тут ліст ад спадаровай Камэнданткі, запросіны на суарэтку”, – “Добра. Што на словах?” – “Форма аблегчаная, чаравікі. І каб ні ад кога ня тхнула часныком”. – “Ха-ха. Ну гэта толькі ад вас хіба, ад зуброў літоўскіх. Караняры часныку гідзяцца. Сядзь, пачакай, генэрал хутка выйдзе”.

Служка-мурын паднёс вялікую шклянку вады. Выпіўшы, Точка сеў на лаву пры сьцяне, сьцягнуў наскрозь мокрыя пальчаткі, кінуў побач капялюш-трыкут, расшпіліў гузік на кашулі пад мундурам. Рука на шыі намацала звычна мэдальён Маткі Вастрабрамскай і на тым жа ланцужку залаты дукат Жыгімонта ў аправе, з Пагоняй, з узьнесеным мечам у руцэ – дар дзеда.

“Літоўскія зубры. От, піжон. Літоўскія зубры ўратавалі тваю дупу пад Пастуранай і пад Марэнга”.

З-за дзьвярэй пачуўся гучны рогат генэрала.

Точка досыць добра ведаў Ябланоўскага, яшчэ з-пад Мацяёвіц. Пасьля бітвы паранены Ябланоўскі, тады яшчэ палкоўнік, ехаў некалькі дзён у фуры для зьнямоглых, якую суправаджаў плютон Точкі. “Мурынак”, сын ангелькі й чорнага лёкая, уважаў сябе за паляка, але па-польску гутарыў з моцным пранонсам францускім. Дзьверы расчыніліся, Точка падскочыў на ногі, насунуў на галаву трыкут.

“О, Точка! Каго бачу. Здароў быў! Ты ў якіх ужо чынах?”

Паручнік прыемна зьдзівіўся, што генэрал памятаў ягонае імя.

Ябланоўскі – высокі хударлявы фацэт год трыццаці, колеру кавы з малаком, у сінім генэральскім мундуры й цукровай белі ласінах.

Паслухаў тое, што перадаў праз пакаёўку камэрдынэр Паўліны Банапарт, разарваў капэрту, перачытаў некалькі разоў парфумную эпістулу.

“Дзякуй-дзякуй. За гэтую навіну частую люксус-стравай! Шчэ не абедаў, пане-спадару? Запрашаю”. Махнуў заціснутай у руцэ пальчаткай.

Пад брамку ў галерэі пад’ехаў рыдван-экіпаж. Таўставаты мурын у каляніяльнага колеру мундуры саскочыў з лучка, адчыніў вечка экіпажу. Пара гнедых коней затрэсла галовамі. Да Ябланоўскага падбег ад’ютант, канцы аксэльбантаў гойдаліся разьюшана ўбакі. Генэрал махнуў: “Чакай, Точка!” Удвух з ад’ютантам яны захіліліся за калёну, пару хвілінаў пра нешта перагаворваліся. Точка чакаў.

У экіпажы Ябланоўскі коратка перапрасіў і ціха спытаў: “Ці магу на пана-спадара разьлічваць?” Точка крыху прыпадняўся: “Ніякіх сумневаў!”

“Такая справа, браце. У сутычцы з бунтаўнікамі захоплены ліст, што мусіў дайсьці да іхнага завадатара, Дэсаліна. Там ёсьць зьвесткі, што ўся чарната, прыдадзеная да вашага рэгімэнту, рыхтуецца здрадзіць”. Ябланоўскі ўважліва паглядзеў на Точку сваімі рысінымі, жоўтымі вачыма.

Точка падумаў, пачухаў галаву пад трыкутам: “А які рэзон ім, пане палкоўнік?” Ябланоўскі адвёў вочы, задумліва глянуў на прабягаючыя па бакох пальмы, бугенвілеі, на халупы прыдарожных прадавачоў-маршанаў.

“Вось і я думаю. Трактуем як вольных з вольнымі! У рэбэльянтаў нашым чарнышам лепей быць ну ніяк ня можа. Гэта, мусіць, чыясьці інтрыга”.

Рыдван пад’ехаў пад вілу, што належала аднаму з найзаможных гранблянкс, белых плянтатараў, дэпартаваных на Кубу. Цяпер тут атабарыўся

штаб Ябланоўскага. У зацененым галерэйным павільёне пры накрытым стале падскочылі й выцягнуліся на “зважай” некалькі афіцэраў з антуражу генэрала. Каханка ягоная, мулатка Мадам Эліз, засталася сядзець.

“Спачні. Панове, прашу кахаць – паручнік Точка. *Каман са ва, Эліз*?” Ябланоўскі порстка падыйшоў да Мадам, пацалаваў руку, шчаку. “Панове, прашу пачынаць”. Генэрал пасадзіў Точку справа ад сябе і сам апусьціўся ў крэсла. “Бургонь!” Разьнесьлі віно, Точка крыху адпіў. Пачалі абносіць смажанай ялавічынай.

– Паручнік, маю далікатную справу. Тут усе свае, гутарыць можна свабодна.

– Слухаю пана генэрала! Чым магу паслужыць, пане генэрал?

– Разьведай, браце, адкуль растуць ногі ў гэтай правакацыі, пра якую казаў раней. Мова ліста занадта гладкая, каб пісалася рэбэльянтамі.

– Ці можна зірнуць? І дзе параілі б пачаць баданьні?

Генэрал пакінуў пілаваць біфштэкс, адклаў відэлец.

– Ліст бачыў адзін мой сябрук, на стале самога Леклерка. І пачынаць трэба акурат адтуль, з асяродку камандуючага. Ты ж ведаеш самую Паўліну, жонку ягоную?

– Мой генэрал, толькі візуальна і здаля! Гутарыць не давялося.

– А ты прадстаўся, пагутары. Сёньня ўвечары акурат будзе нагода. Вось яшчэ што: пераводжу цябе пад сваю наўпрост каманду. Давядзеш пра гэта маёру Мілінкевічу, забярэш сваё майно – і да мяне.

У Точкавай галаве круціцца субтыльная сыльвэта самой Мадам Камэнданткі, сястры Першага Консула, найлепшага сябра адраджэньня Рэчы Паспалітае. Пасьпеў угледзець, як перагаворвалася зь сьмехам са сваёй пакаёўкай, як з усьмешкай пайграла яму пальцамі на ўзьнятай у кароткім вітаньні руцэ. Чорная, бы цыганка. Тыя, хто бачыў Банапарта, кажуць, што і той сам, як цыган – чорныя вочы, маленькі, рухавы. Голас, як у разьюшанай старой кабеты.

Другія ж кажуць, што глядзіцца волатам, і хоць невысокі – таго не заўважаеш.

Ну ды ладна. Вось жа задача...

– Паспрабую, мой генэрал. Але гваранцыяў ніякіх абяцаць ня ў стане.

– Веру, што зробіш усё. Ну, за Польску, Русь і Літву!

Паручнік і генэрал дзынкнуліся келіхамі. За сталом хваляй прабеглася дзынканьне і бомканьне. Ябланоўскі пацалаваў каханку, пстрыкнуў пальцамі ўбок, дзе ў кутку на лаве сядзела некалькі жаўнераў-музыкаў: “Сьпеў наш давай!”

Вусатыя дзядзькі з лавы зацягнулі густа, павольна:

Меў-быў я камарада,
Дзе лепшага знайсьці?

Афіцэры, адставіўшы келіхі, суладна грымнулі ў падтрымку:

Біў барабан – на бітву!
“За Польску і за Літву!”
Плячо ў плячо, з малітвай –
Як кожны мае йсьці!

Усе сумна, крыху цішэй падцягнулі прыпеў:

Так кожны мае йсьці...

Дзе тая Польска, дзе тая Літва? Хто зь іх і калі ўбачыць яе? А мо ніхто, ніколі? Точка дапіў віно ў келіху. У павільёне гучэла:

Тут куля прыляцела...  
Па мяне ці па яго?  
Патрапіла ў камарада,  
Яму ня дам ўжо рады,  
Ён сплыў з жыцьця майго,  
Пакінуў аднаго...

Ябланоўскі гукнуў: "Мядоў давай!" Павярнуўся да Точкі, напаўголасу сказаў: "Лекар з шпіталю тут, у Лё Капе, распавядаў: па востраве стала болей выпадкаў хваробы — жоўтая трасца. Пошасьць. Асьцярожней зь мясцовымі. Да жаночай плоці мулацкага і чарняцкага роду лепш не датыкацца. Кажуць, зараза ідзе праз іх. Памрэш у ванітах, згарыш за тыдзень".

## II

На суарэтцы Точка адразу паспрабаваў у мазурцы выгадаць чаргу, каб патрапіць у пару да Паўліны Банапарт. Першыя туры былі наўпрост замоўленыя дыгнітарамі, але вось чацьверты — тур вар'е, тур-неспадзяванка. Шанец прарвацца. Скокі, гучная музыка аркестру. Мітусьня сукенак, эпалетаў і нарэшце вось яна, цыганка: "Oh c'est vouz, lieutenant!" — "Madame, quel plaisir!" Прамяністыя чорныя вочы, такіх не заўважыў у першы раз. Парфума — тая самая. Спакусьліва глыбокае дэкальтэ, аксамітная чорная сукенка і чырвоная стужка павязаная на горле. "Вы здаліся мне такім мядзьведзем, але цудоўна танчыце!"

Потым вячэра, стол, мігценьне сьвечак. Мамузэль Левэк насупраць з ад'ютантам Шарля Вітора Эманюэля Леклерка. Сьмех, музыка. Мамузэль на вуха: "Вас чакаюць. Ідзіце за мной, толькі не адразу". Калідоры, анфіляды пакояў, чародкі прыслужніц. Наперадзе трымціць падол сукенкі Мамузэль Левэк. Паварот, яшчэ. Дзьверы. Будуар. Божа, столь да неба! Ложак пад вялізным балдахінам. Пры століку сярод пакою — яна, цыганка. Бэзавы адамашкавы строй, аголеныя плечы. Мамузэль некуды зьнікла. "Лейтэнант, я маю праблему! Муж раптоўна прызваны справамі службы ў Пор-Дафэн, ня маю мужчыны адкаркаваць бутэльку віна. І ў мяне бяссоньне. Дык прашу дапамагчы зь віном... І ці не раскажаце пра вашую таямнічую краіну? Толькі цішэй, мой сын ужо сьпіць". Бутэлька, два кубкі венецыянскага шкла. Паволі, як у сьне, ліецца з бутэлькі віно. Потым Точка ліхаманкава спрабаваў нешта расказваць: "Мая блакітнавокая краіна... Дзе бальшакі прастуюць між гаёў... А па сьцяжынах коцяцца ранэты..."

Прамяністыя чорныя вочы ўсё бліжэй. Вочы праглынаюць. Гарачая вільгаць вуснаў. "Так, хвіліну. Стоп. Жаночая плоць! Ябланоўскі казаў... Не, гэта ж цыганка. Гэта ж яна! Мадам Камэндантка. Ох, а заданьне... А, потым".

Сонца проста ў вока праз прыадчыненую заслону на вакне. “Дзе я?” Ложак з балдахінам, побач нікога. Падскочыў, сабраў з канапы адзеньне. Так, пятая раніцы. Хутчэй. Люстра. Прычасаў валасы. Шчэць, пагаліцца пазьней. Рыпнулі дзьверы – яна. У руках таца, на ёй збан з парцаляны, два кубкі, графін зь нечым. Лікёр?

– Bon matin, lieutenant! Крыху кавы, і вы мусіце ісьці.

– О, Мадам!

– Не кажыце нічога. Вы слаўны, Жазэф! Рамантык! “Сьняжынкі на ранэтах”!... Колькі жадаеце цукру?

– Дзякуй, Мадам. Не-не, я бяз цукру.

– Шарль так раптоўна ад’ехаў – не нагадала яму, што ў нас канчаецца цукар! Па ўсім Лё Капе праз гэтых рэбэльянтаў не знайсьці цукру! Проста сьмешна. І гэта “цукроўня Францыі”! Хоць ты пасылай па буракі ў якую Жабінку.

– Можа спадар Камэндант і паехаў у гэтай справе?

– О не. Тут інтрыга... Мой... Э, Першы Консул лічыць, што каляніяльныя войскі здрадзяць, раней ці пазьней. Ён даслаў ліст, каб знайсьці прэтэкст... Ну, вы разумееце. Каб засьцерагчыся ад чорных барбараў, якія цяпер з намі, а заўтра – з Дэсалінам і Тусэнам.

– І Камэндант ведае?

– А няўжо ж! Па ягоным загадзе напісаны ліст, што рэгімэнт, прыдадзены да вашай польскай дэмі-брыгады, дарэчы... Карацей, “колькі ваўка ні кармі – усё ў лес глядзіць”.

– Мадам, ня можа быць!

– Супакойцеся, лейтэнант. Гэта тычыцца толькі гэтых маўраў, гэтых неабчасаных эфіёпаў. Яшчэ кавы?

– Мадам, шчыра дзякую, але мушу ісьці.

– Ідзіце. І... спадзяюся на вашае высакародзтва.

– У межах майго вайсковага абавязку. Бывайце, Мадам!

“Божа, як трашчыць галава. І якая ж банальная курва! Цяпер – хутчэй да Ябланоўскага”.

## III

“Точка, нам даручана забіць гэтых мурынаў! Людзей, што паверылі нам. Што слухалі з захапленьнем мае байкі пра ваенныя дзеі, пра бітвы супраць Маскаля і Аўстрыяка. Пра “Вольнасьць Вашу і Нашу”. Эвэнтуальнае сьвінства! Першы Консул за вяртаньне рабства – ну як вам змагар за свабоду?” – Ябланоўскі паглядзеў пад ногі, на разводы кафлі, зь якой выкладзеная падлога.

“Вось з кім мы зьвязалі свой лёс, ліем за яго кроў. Пад Рэгіяй, Трэбіяй, Марэнга! Бралі яму Рым! Божа ты мой! А ў адказ нам – здрайства. Люнэвіль, Ам’ен! Высылка да д’ябла на рогі – сюды, на Сан-Даманг. – Генэрал дастаў з камізэлькі гадзіньнік, адшчоўкнуў вечка. – Шлях на Варшаву, Нясьвіж і Вільню ляжыць празь Лё Кап Франсэз, што на Санта-Дамінга!” Генэрал зацягнуўся тытунём з чубука.

“Я гэта прадбачыў. І цяпер, Точка, я зрабіў сваю дэцызію. Я адмаўляюся забіваць невінаватых людзей толькі дзеля таго, што недзе некаму нешта здаецца. Больш таго – вырашыў я далучыцца да рэбэльянтаў. Іхная справа падаец-

ца мне сьвятой. Вось барацьба за свабоду ў чысьцюткай сваёй форме!" — генэрал падняўся, паставіў у трымала чубук.

"Ты, паручнік Язэп Точка, вольны выбіраць. Са мной, або — эвэнтуальна — супраць мяне. І супраць гэтай барацьбы. Даю дванаццаць гадзінаў. Заўтра а 10-й давядзеш мне, што вырашыў".

Точка за сталом у сваёй кватэрыі. Дванаццаць гадзінаў... Ужо дзесяць. Не, дзевяць! Точка ўскалмаціў валасы, правёў далонямі па твары. Што рабіць?

Заставацца пад махляром Банапартам, што заманьвае нас свабодай, як той цыган лечанай кабылай? Вяртацца на Бацькаўшчыну, дзе ўсё роўна яшчэ год 200 усё будзе спаць мёртвым сном... А потым будзе: "Адвеку мы спалі, ды нас разбудзілі"? Ды далей: "І ў ср*ку далі, і зноў спаць палажылі"? А тады які-небудзь кацап зробіцца прэзыдэнтам, каб 20 год баляваць і сьвяткаваць перамогу Маскаля над Прусакам. Божа, Твая воля...

Узыходзіць сонца. Весела чыгірыкаюць незнаёмыя тутэйшыя птушкі, зіхацяць далёка па-за белым і памаранцавым Лё Капам туркусавыя карыбскія хвалі, шаргаціць пальмавае лісьце над галавой. Парадыз дый годзе. Пэўна, трэба застацца тут, на добрае ці на благое.

"Даніла!" — "Слухаю, эксэленцыя. Чаго хочаш?" — Точкаў ардынарац, крэпкі дзядзька з-пад Амсьцібава, жуючы й апраўляючы вусы, выйшаў з свайго пакою.

— Такія пірагі, браток — сыходжу да рэбэльянтаў.

— Госпад із табой, пане-спадару! Нашто якое... Глузды адняло хіба?

— Не, браце. Такая мая пуцявіна лёсу. Туляюся ўжо хутка дзесяць год па сьвеце, а ўсё дарма.

— Дарма? Як дарма?! А за волю змаганьне, гнаць Маскаля? Хто яго згоніць, як ня вы?

— Маскаля зь зямлі нашай згоніць толькі чыстая сіла, толькі праўдзівае сэрца. Як самыя мы робім пагатоў бы Маскалі, дык дзе нам вызваліцца ад іх.

— Ну, пане-спадару, гэта пілязопія, пустое. А мне сам Касьцюшка асабіста тры валокі зямлі абяцаў. І шляхоцтва. Я ад гэтага не адступлюся. Вярнуся, апаную.

— Што ж, Даніла. Выглядае, шляхі нашыя пакруціліся ў розныя бакі. Бывай.

— Спадару паручнік! Яны ж цябе сьпякуць і зьядуць, галавешкі гэныя. Дзе ж дурному такому быць, у пашчу да іх кідацца самому. Не пушчу!

— Ну, не дзяцінься. Можа, як праз Жалудок праедзеш калі — заскоч да Точкаў, скажы, што так дый гэтак.

## IV

Даніла не пакінуў свайго паручніка, яны сыйшлі да рэбэльянтаў Дэсаліна разам з генэралам Ябланоўскім і дзьвюма сотнямі легіянэраў-"паланэзаў", паходжаньнем дробных шляхцюкоў, месьцічаў і сялянаў з Кароны і з Княства Літоўскага.

Пазьней стала ясна, што становішча было абсалютным хаосам, розныя дробныя і вялікія фракцыі трох расаў — белых, мулатаў, мурынаў — валтузіліся па востраве, мянялі бакі і ляяльнасьці, няспынна забіваючы, палячы, руйнуючы.

Цёмна, недзе недалёка ад Лё Капу. Цяпер ён яшчэ – “*Кап Франсэз* ”, неўзабаве будзе – “*Кап Гаіцьен*”.

Намёт, прыглушаны говар, прыкрытая збоку далонямі сьвечка.

“Точка, я зусім не разумею – гэтыя мулаты, што абсаджаюць нас, учора былі за Тусэна! Іхны правадыр Аляксандар Рыго ваяваў у Амэрыцы, супраць ангельцаў пад Саванай у Джорджыі, ведаў Касьцюшку. А цяпер павярнуўся да тырана Банапарта! От жа... Правер пасты, каб не распальвалі агнёў і не палілі сваіх люлек!” Ябланоўскі скруціў мапу, узяў палаш. – “Слухаю!” – Точка падхапіў мушкет, праверыў, ці набіты, і задзьмуў сьвечку на стале. Падумаў, што трэба абадраць галуны з трыкуту і з каўняра, вунь як блішчаць у сутоньні.

Удвух яны выйшлі з намёту. Ціхая ноч, вялізныя зоры, сакатаньне трапічнай жамяры недзе ў цямнеючых за капанірамі гушчарах.

Точка пачуў стрэл.

Дранцьвеючай рукою
Ён абхапіў прыклад...
Ён благаславіў да бою.
“У небе мы з табою
Спаткаемся, камарад.
Мой слаўны камарад!”

Гэтых радкоў Точка не пачуў ніколі. “Якая бессэнсоўная сьмерць!” – была апошняя ягоная думка.

“Якая бессэнсоўная сьмерць!” – сказалі нягучна травы на выгане пад Жалудком, затахкаў турок ля Вострай Брамы, уздыхнулі хмары над Слуцкам і Баркулабавам.

Большасьць “паланэзаў” памерла неўзабаве ад жоўтай ліхаманкі. У мясарубцы ўзаемнага этнічнага генацыду на Сан-Дамангу, дзе перамагла чорная стыхія, “паланэзы” былі хіба адзінымі зь белых, каму гарантавалася прынамсі сапраўднае хрысьціянскае пахаваньне.

## V

“Якая сэнсоўная сьмерць”, – падумалася б мне, калі б у час апошняга Гаіцянскага землятрусу дзе-небудзь, на месцы даўно зьнішчанага лесу, расьселася б набакі зямля і вываліліся белыя косткі й чарапы. А побач з адным, на ланцужку, замігцелі б мэдальён з выявай Маткі Вастрабрамскай і залаты, у аправе, дукат аднаго з Жыгімонтаў, з Пагоняй, з узьнесеным мечам у руцэ.



**ЗАПРУДНІК Янка** нарадзіўся ў мястэчку Мір на Наваградчыне ў 1926 годзе. Выехаў з Бацькаўшчыны ў чэрвені 1944 году. У 1947-м скончыў Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе (Заходняя Нямеччына). Пасьля двух гадоў працы вуглякопам у Ангельшчыне вучыўся на гістарычным факультэце Лювэнскага Ўнівэрсытэту ў Бэльгіі (1950 — 1954). Гэты пэрыяд жыцьця апісаў у кнізе “Дванаццатка. Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі; 1946 — 1954 гг.” (2002). Трыццаць сем гадоў (1954 — 1991) адпрацаваў журналістам/рэдактарам/прадусэрам Беларускай службы радыё “Вызваленьне/Свабода”. Атрымаў дактарат з гісторыі ў Нью-Ёрскім Унівэрсытэце (1969). Выкладаў гісторыю Расеі й Савецкага Саюзу ў Кўінскім каледжы Нью-Ёрскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту (1971 — 1975), а таксама гісторыю й палітыку Беларусі ў Гарыманаўскім Інстытуце Калюмбійскага Ўнівэрсытэту (1994). Рэдагаваў газэту “Беларус” (1980 — 1995). Аўтар кнігаў “Belarus: At a Crossroads in History (Boulder, CO: Westview Press, 1993); “Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях” (Менск, выд. “Бацькаўшчына”, 1996); Historical Dictionary of Belarus (Lanham, MD: Scarecrow Press, 1998; 2-е выданьне ў суаўтарстве зь Віталем Сіліцкім выйшла ў 2007 годзе, перавыдадзенае ў 2010 годзе пад назовам The A to Z of Belarus). Бібліяграфія працаў Я. Запрудніка зьмешчана ў 30-й кнізе “Запісаў БІНіМ” (2006).

# Маніфэст Тутэйшага, або Кантынэнт душы

*Ваганьне паміж Захадам і Ўсходам і шчырая непрыхільнасьць ні да аднаго, ні да другога зьяўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага народу.*

***Ігнат Абдзіраловіч***[1]

*Беларусь павінна стаць мостам, які зьвязвае Ўсход і Захад.*

***Аляксандар Лукашэнка***[2]

*Усе нашы чаканьні вызначае геаграфія.*
*Рэспубліка Беларусь знаходзіцца паміж*
*двума цэнтрамі ўплыву – Эўразьвязам і Расеяй.*
***Сяргей Мартынаў***[3]

*Гэта "між" залезла ў косьці,*
*Пакуляла ўсё ўверх дном.*
*Правяць баль у хаце госьці,*
*Гаспадар жа – пад сталом.*
***Сяргей Законьнікаў***[4]

Каб быць ПАМІЖ, трэба спачатку БЫЦЬ. Бытаваньне ПАМІЖ шкодзіць самому БЫЦЬЦЮ, пазбаўляючы яго паўнаты. ПАМІЖнасьць – гэта памежнасьць, пэрыфэрыйнае існаваньне й мысьленьне.

МОСТ гэта – месца транзыту, а не бытаваньня. На ім не спыняюцца, па ім толькі рухаюцца да іншага берагу.

Ёсьць геаграфія прасторы і геаграфія душы. У геаграфіі душы няма ПАМІЖнасьці, няма МАСТОЎ, уся духовая прастора запоўнена ТУТнасьцю. Сутнасьць ТУТнасьці – у цэнтрызьме мысьленьня. Цэнтрычнае мысьленьне накіроўвае думку й пачуцьці на БЕЛАРУСЬ, а не на ПАМІЖнасьць і не на МОСТ. Я, ТУТны беларус, не хачу быць на ПАМІЖным МОСЬЦЕ. Хачу быць ТУТ – на духовым КАНТЫНЭНЦЕ, сучаснае імя якому – БЕЛАРУСЬ.

Розум без пачуцьця не паўнавартасны. ТУТнасьць завастрае адказнасьць за долю Бацькаўшчыны, узбуджае творчую думку, працуе на будучыню праз наданьне паўнацэннасьці гістарычнай рэтраспэктыве, замацоўвае адчуваньне прысутнасьці[5].

ТУТ – гэта зямля й жыцьцёвы лад, у якім жылі мае продкі. ТУТ – гэта мова, якую яны тварылі й якой я карыстаюся. ТУТ – гэта мае мастацкія каштоўнасьці й эстэтычныя густы. ТУТ – гэта магілы продкаў, што лучаць мяне з народам. Пакуль жыву, буду ТУТнічаць, буду памятаць, што кожная мясьціна ў геаграфіі народнай душы – гэта мой быційны цэнтар.

На кантынэнце душы – мой пачатак і працяг. На ім – мае творчыя вытокі й імпульсы. На ім усе формы, колеры, вузоры, якімі ўзбагачу суродзічаў і якія пакіну ў вянку сусьветнай духовасьці.

Беларуская душа вымяраецца не навакольлем з мастамі, а сукупнасьцяй ТУТных жыцьцяў, што папярэдзілі маё існаваньне. Народ – біялягічна-сацыяльная рэальнасьць, якая, мяняючы формы, захоўвае гістарычную цягласьць. У якой бы ладавай структуры ні бытавалі мае продкі, я неразлучна спалучаны зь імі. Я – акумулятар іхняй быційнай і творчай энэргіі. Я, ТУТны беларус, – біялягічны й духовы спадчыньнік стагодзьдзяў, сувязны мінуўшчыны й будучыні.

Новыя формы жыцьця ствараюцца на духовай глебе, апрацаванай продкамі. Зьменлівасьць гістарычнага бытаваньня не мяняла іхняе ТУТнасьці, іхняе сувязі зь зямлёй, на якой яны жылі, якую любілі й баранілі, якая перайшла мне ў спадчыну й якую я маральна абавязаны перадаць нашчадкам.

Культурныя элемэнты, перанятыя зь іншых духовых кантынэнтаў, у моц іхняга прыняцьця, становяцца кампанэнтамі маёй культуры, арганічнай часткай маёй ТУТнасьці. У век глябалізацыі не ўцячэш ад вонкавага сьвету. “Беларуская хвароба” – уцяканьне – праз МОСТ – ад сябе саміх. Маё ж месца ТУТ, на кантынэнце Беларускай душы, на камені прашчурнай спадчыны.

---

[1] Ігнат Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Менск, “Навука і тэхніка”, 1993, с. 9.

[2] Аляксандар Лукашэнка, прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, у пасланьні да народу 23.04.2009.

[3] Сяргей Мартынаў, міністар замежных справаў РБ, у інтэрвію венскаму выданьню Der Standard. Радыё “Свабода”, 08.02.2010.

[4] Зь вершу С. Законьнікава “Між Варшавай і Масквой” у кнізе “Дол”.

[5] Антытэза “адсутнасьці”, пра якую піша Валянцін Акудовіч у кнізе “Код адсутнасці” (Мінск, выд. І. П. Логвінаў, 2007).



**КАВАЛЕЎСКІ Віктар** нарадзіўся 11.01.1956 году ў раённым пасёлку Радашкавічы, Маладэчанскага раёну Менскай вобласьці. У 1973-м скончыў менскую сярэднюю школу № 72, а пасьля — Краснаярскае вайсковае радыётэхнічнае вучылішча. Служыў камандзірам тэхнічных аддзелаў у Кыргыстане і Казахстане. У 1981 годзе аддаў у палітаддзел партыйны білет. Пасьля звальненьня з арміі працаваў інжынэрам, тэхнікам, фатографам. Скончыў у 1989 курсы дакумэнтальнага кіно.

З 1992 году жыве разам зь сям'ёю ў Аўстраліі. Выбраны на пасаду сакратара Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі ў 1997 годзе, а праз два гады — на пасаду старшыні аб'яднаньня. У 1999 годзе разам з айцом Міхаілам (Бурносам) арганізаваў Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі. Аўтар кніг: "Беларусы ў Адэляйдзе", "Янка Ролсан і яго творы", "Беларуская эміграцыя ў Паўднёвай Аўстраліі", "А хто там ідзе?". Аднавіў друк часапіса "Новае Жыцьцё" з 2003 году.

# NE2-66.1

Раніца была халоднаю. Учора, слухаючы аматарскае радыё на двухмятровым дыяпазоне, я пагадзіўся з адным з выступоўцаў, калі той сказаў, што ў Адэляйду вярнулася зіма. Так яно і было. З мора налятаў шторм, гуляў рэзкі вецер, і час ад часу па страсе грукаў дождж.

27 жніўня я прачнуўся а другой гадзіне. Прычынаў благога сну было шмат: цукрыца, знэрваванасьць перад апэрацыяй і праблемы з працаю над маім будучым уэб-сайтам. Уключыўшы кампутар, я, нарэшце, знайшоў памылку ў кодзе і зноў глянуў на аматарскія дыяпазоны. Але яны былі пустымі. Гэтага трэба было чакаць, бо мясцовыя радыёаматары спалі, а дальніх я на сваю блага настроеную антэну прыймаць ня мог. Было каля шостай раніцы.

Жонка Іна ехала на сваю працу ў гэты дзень пазьней, бо найперш павінна была адвезьці мяне ў QEH[1], ці мясцовы шпіталь. Шпіталь гэты з гонарам носіць імя каралевы Елізаветы. Так, манархісты ў Аўстраліі яшчэ даволі моцныя, і рэспубліканцам зь імі цягацца цяжка. Прычын шмат. Маці-Англія, як і раней, бесьперапынна пастаўляла новыя хвалі імігрантаў у сваю былую калёнію. Аднак насуперак англасаксонскаму незадавальненьню каляніяльны рэжым зьнік, прымусіўшы брытанцаў прыймаць аўстралійскае грамадзянства. Што значыла толькі адно: калі былі праблемы зь мясцовымі законамі — парушальнікаў дэпар-

тавалі назад у маці-Англію. Вядома, прывыклым да імпэрскага панаваньня людзям гэтыя зьмены не былі даспадобы, але час імпэрый, відаць, скончыўся, і як бы яны ні гаравалі аб тым, як раней было добра жыць з адным пашпартам у кішэні ў розных "дзікіх" кутках імпэрыі, зьмяніць яны нічога не маглі. Жыцьцё ішло наперад.

Праверыўшы па сьпісе неабходныя для ўзяцьця з сабою рэчы, я пайшоў да машыны жонкі, жадаючы сесьці на пасажырскае месца. Але, даўшы мне ключы, яна коратка сказала: "Ты езьдзіш лепш". Хоць сама ўжо круціць баранку па аўстралійскіх дарогах гадоў дзесяць.

Шпітальны час нічым ня розьніцца ад кампутарнага. Як у першым, так і ў другім выпадку час загрузкі ў сыстэму ня мае нічога супольнага з часам рэальнага жыцьця. Накшталт віртуальнага сьвету, які жыве па сваіх, вельмі асаблівых віртуальных законах.

Грамадзкі шпіталь у Аўстраліі належыць дзяржаве. Гэта значыць, што ты адразу адчуваеш на сабе (хоць і вельмі слабы) ціск бюракратыі. У розьніцу ад прыватных мэдычных установаў, куды можна трапіць толькі маючы прыватную страхоўку і сур'ёзныя грошы ў кішэні, дзяржмэдсыстэма ніякіх грошай (ці амаль ніякіх) зь бедных не патрабуе. Таму на ўсіх паперах стаяць папярэджаньні аб тым, што пры спазьненьні на прызначаны прыём вас здымаюць з чаргі безь ніякіх размоваў. Кропка. Што можна зразумець. Бо яны арганізоўваюць, яны плацяць, і калі ты ня можаш з-за сваіх страхаў пайсьці на апэрацыю, то яны перажываць за цябе доўга ня будуць, бо за табою стаяць новыя сотні беднаты, якія чакаюць на бясплатны мэдыцынскі сэрвіс, за які ў прыватным шпіталі трэба плаціць тысячы даляраў.

Жонка, спазьняючыся на працу, тым ня менш, вырашыла правесьці мяне ў прыёмную апэрацыйнай. Падняўшыся на ліфце на першы ўзровень (і дзе наша маладосьць?), мы павольна, чытаючы надпісы на сьценах, пайшлі да так званага DOSA[2], ці ў перадапэрацыйны пакой. Там ужо скончыўся прыём людзей, якім было назначана на сёмую гадзіну раніцы. Давялося чакаць. Жонка не хацела ехаць, але ў чаканьні няма ніякай інфармацыі, таму я папрасіў яе замест пустой траты часу ехаць на працу і прыносіць людзям карысьць.

Сам сеў ля невялікага, заваленага старымі часапісамі століка і пачаў чытаць кнігу "Best New SF", зборнік фантастычных апавяданьняў, які на апошнім тыдні ўзяў у бібліятэцы раёну Prospect. Першыя пяць ці шэсьць апавяданьняў з гэтай кнігі мне не спадабаліся. Так, крутыя сюжэты. Так, вельмі незвычайныя сытуацыі, але зашмат перакручаных словаў, цікавых, але такіх складаных тэхнічных тэрмінаў і вельмі фантастычных імёнаў. Гэта ж фантастыка, скажаце вы, чаго ты хочаш? Так, зразумела, але пры такім чытаньні ўзьнікае адчуваньне бегу праз буралом, калі цябе ўвесь час нешта спыняе і хада па лініі сюжэту падобная на зігзагі маёй малой яхты па хвалях заліву сьвятога Вінцэнта. Але... Вось і апавяданьне пра зьмену Вэнэры ў нешта накшталт Зямлі. Цікавейшае...

"Вікта Ка-а-ле-ўскі", – прагучала з кута, дзе сядзела ля кампутара сярэдніх гадоў жанчына. Я падыйшоў да рэгістрацыі. За тыдзень да апэрацыі я запоўніў анкету і правёў паўдня на тэсьце-інструктажы, калі мяне ганялі па пытаньнях: ці ведаеце, чаму вы тут?, як вас завуць?, дзе і калі нарадзіліся?, ці маеце алергію і ўстаўныя зубы?, хто вас будзе глядзець дома пасьля апэрацыі? І

гэтак далей. Гэтыя праверкі ІД, ці ідэнтыфікацыя асобы, паўтараліся пазьней практычна на кожным новым кроку майго прасоўваньня па шпітальным канвэеры. Акрамя аднаго.

Адказаўшы зноў на ўсе гэтыя пытаньні, я вярнуўся да фантастыкі, але ненадоўга. Нехта зь цяжкасьцямі вымавіў: “Ка-ва-ле-ў-у-з-к-і”. Заклаўшы старонку, я пайшоў па калідоры за невысокаю і ўжо даволі сталаю жанчынаю. Яна адчыніла дзьверы ў невялікае памяшканьне для зьмены вопраткі, дзе была таксама і прыбіральня (нэрвы-нэрвы), і, патлумачыўшы мне, як трэба правільна апранаць шпітальную робу, пайшла, сказаўшы, што хутка вернецца.

Стоячы голым на халоднай кафлевай падлозе, я зь цяжкасьцю завязаў канцы робы ззаду на сьпіне. Запіхнуўшы ў блакітны плястыкавы мех свае нешматлікія рэчы, я пачаў чакаць. Блакітны колер у мясцовым шпіталі ў модзе. Усе, ці амаль усе, працаўнікі шпіталю апранутыя ў штаны і нешта накшталт шырокіх маек блакітнага колеру. Верх розьніўся пакроем, кішэні то прысутнічалі, то зьнікалі. Дактароў можна было пазнаць толькі па стэтаскопах, якія віселі на шыі. Сустракаліся цёмныя твары індыйцаў і азіятаў, але, як я зразумеў, перавага аддавалася беласкурым спэцыялістам. Імпэрская палітыка ў працы ў розны час. На тэхнічных працаўнікоў выбіраюць найлепшых з розных краінаў так званага трэцяга сьвету (танныя працоўныя рукі), але прыймаюць рашэньні лэдзі і джэнтльмэны з добрай ангельскаю моваю і вельмі сур’ёзнай адукацыяй. Як сказаў мой доктар Джон Мілер, гэты шпіталь – галоўны трэніровачны цэнтар студэнтаў і маладых дактароў.

У прыадчыненых мною дзьвярах зьявілася жанчына-пілёт і, хутка сказаўшы “пару хвілін толькі”, зноў зьнікла. Стаяць босым на халоднай падлозе было ня вельмі прыемна, але андрэналін, які гуляў па целе, падаграваў. Зноў зьявілася мая каардынатарша і, на гэты раз усьміхнуўшыся, сказала: “Ідзі за мною”.

На ўзьлёт. Падумаў я.

Але маё жаданьне трапіць адразу ў апэрацыйны пакой было памылковым. Мне загадалі легчы ў спэцыяльны ложак-каталку і накрылі падагрэтаю коўдраю, якая больш нагадвала вялікую пляжную посьцілку белага колеру. Коўдру недзе грэлі, і яе цеплыня паходзіла на прыемнае шпітальнае рукапацісканьне. Часу на размовы мы ня маем, але ты не на парозе моргу. Усё ОК.

Зьлева ад мяне, недзе праз дзьве-тры каталкі ляжаў высокі і худы, але даволі моцны хлапец гадоў пад дваццаць. Я прыкмеціў яго раней у прыёмнай, калі ён сядзеў недалёка ад мяне. Тады я зьвярнуў увагу на ягоную чыстую ангельскую мову, бо какафонія шматмоўя ў прыёмнай была падобнай да Бабілёну. Былі чутныя польская, грэцкая, кітайская і іншыя мовы. Але, прыняўшы яго за аўстрала, я памыліўся. Не зважаючы на забарону карыстацца мабільным тэлефонам у шпіталі, ён амаль увесь час зь некім вёў размовы. І вельмі нечакана для мяне падчас наступнай пачаў гаварыць па-чэску. Ці недзе побач, на адной з славянскіх моваў, бо я пазнаваў шмат словаў. Падскочыўшы, ён пачаў хадзіць узад-уперад, трохі падцягваючы правую нагу.

Цяпер ён меў гутарку зь дзедам, што ляжаў ля мяне, кажучы яму, што ён пашкодзіў калена правай нагі падчас гульні ў сока. Сока тут называюць эўрапейскі футбол, які розьніцца ад аўстралійскага, які зьяўляецца нейкай мешанінай паміж гульнёй у ручны мяч і эўрапейскім футболам. Аўстралійцы з гонарам называюць гэты спорт праўдзівым футболам. Менавіта яго круцяць па

тэлебачаньні ўвесь час, эўрапейскі ж футбол амаль нябачны, бо яго завуць не футбол, а сока.

Гэтаму хлапцу ўжо рабілі апэрацыю, але пачалося пасьляапэрацыйнае запаленьне, і ён зноў трапіў у шпіталь. Скуласты дзед адказаў яму, што ён тут з-за таго, што ягоны доктар знайшоў на вуху "сонечныя плямы" ці, інакш кажучы, мэляному, даволі сур'ёзнае ракавае захворваньне скуры з-за сонечных промняў. А сонейка тут паліць даволі добра.

Хвілін праз пятнаццаць ля каталкі дзеда сабралася некалькі дактароў, якія пачалі аглядаць ягонае вуха і гутарыць адзін да аднаго незразумелымі для простага чалавека мэдыцынскімі тэрмінамі. Нарэшце, яны вырашылі зрэзаць з вуха ня ўсе плямы, і дзеда пакацілі ў калідор.

Хлапец-футбаліст скокнуў з каталкі і хвілін праз некалькі ўжо нешта казаў у мабільнік. Чыста па-ангельску і зусім без акцэнту. "Вырас у Аўстраліі", — падумалася мне. А бацькі адтуль. Як мая малодшая дачка Вікторыя. У Аўстраліі з трох гадоў, па-нашаму кажа з такім акцэнтам, што нават я калі-нікалі зь цяжкасьцю разумею, што ж яна такое сказала. Але добра, што хоць нешта кажа. Мая сярэдняя дачка Тацяна можа трохі лепш па-беларуску. Але не старэйшая, якая прайшла праз менскую школу з параю гадзінаў беларускай мовы на тыдзень. Але ж ні я, ні мая жонка ня маем здольнасьцяў да лінгвістыкі, хоць можам добра размаўляць як па-расейску, так і па-беларуску. Мая жонка расла зь дзяцінства ў беларускай вёсцы і ў горад прыехала, ведаючы расейскую мову, але казала на ёй з заўважным беларускім акцэнтам, які, вядома, да часу сканчэньня школы амаль зьнік.

У перадапэрацыйнай было некалькі перакладчыкаў. Раней, у дзень маіх тэстаў і інструктажоў, рыжая, даволі шустрая мэдычка, якая надавала мне шмат усялякіх папераў-гідаў, сказала, што мне перакладчык не патрабуецца, бо яна мяне вельмі добра разумее. За што я ёй падзякаваў, бо, па-праўдзе, можна жыць усё жыцьцё ў Аўстраліі і не ўжываць шмат якія літаратурныя і тэхнічныя словы і тэрміны.

Седзячы ў прыёмным пакоі, я зьвярнуў увагу на трох кітайцаў. Сталая кітаянка (ці то маці, ці то бабуля маладога хлопца) па-ангельску зусім нічога не гаварыла. Малады хлапец-кітаец нічога не казаў па-кітайску. Сярэдніх гадоў кітаянка-перакладчыца, з круглым, як талерка, і моцна нафарбаваным тварам, перакладала размову паміж мэдыкамі і бабуляю з хлапчуком. Яе ангельская мова была граматычна правільная, але вымаўленьне настолькі скручаным, што нават я, імігрант, зьдзівіўся, як яна змагла атрымаць дазвол на пераклад. Зразумець яе можна было зь вялікімі цяжкасьцямі. Яна цягнула ангельскія словы на свой мандарынскі сьпеў ды ў дадатак гаварыла вельмі хутка, што ўскладняла разуменьне яшчэ больш. Я падумаў, што яна, хутчэй за ўсё, атрымала дазвол на працу перакладчыцы зусім нядаўна.

Я памятаю сябе такім гадоў пятнаццаць таму, калі ўжо трохі пачаў разумець аўстралійцаў, памылкова думаючы, што мой узровень разуменьня адпавядае майму ўзроўню гаворкі. На справе маю гаворку ніхто не разумеў. Але я ніяк ня мог уцяміць, чаму ж гэта? Бо я ж іх разумею! Чаму ж яны мяне ня могуць? Нешта падобнае на сытуацыю зь людзьмі, якія толькі што атрымалі правы на кіраваньне аўтам. Яны ведаюць, дзе газ і тармазы, і могуць спыніць аўта пры патрэбе, але вось спрацаваць прафэсійна ў складанай сытуацыі яшчэ ня здольныя.

Перакладчыца-полька, прывабная і добра апранутая жанчына, час ад часу папраўляючы свае валасы і дастаючы з сумачкі люстэрка, казала па-польску да дзеда вельмі гулка, не зьвяртаючы ўвагі на прысутных. Пан-дзед слухаў, што ягоная дачка ўчора тэлефанавала і паведаміла людзям пра ягоную алергію. Дзед нешта бубніў у адказ, а полька на добрай, чыстай і вельмі прыемнай ангельскай мове гэтак жа гулка перадавала сказанае ў прыёмны пакой. Вось гэта перакладчыца, падумалася мне, ня тое што загрыміраваная кітаянка.

Хлопца-футбаліста забралі. На ягонае месца прывезьлі старэнькую жанчыну, і пачаўся град пытаньняў: "Ці вы ведаеце, чаму вы тут?, як вас завуць?, дзе і калі нарадзіліся?, ці маеце алергію і ўстаўныя зубы?, хто будзе вас даглядаць пасьля апэрацыі дома?" Бабулька ціха адказвала: "Так, 1925 году нараджэньня, так, маю ўстаўныя зубы, як уверсе, так і ўнізе"... Я глянуў. Пад вачыма цёмная скура. Пабіты плямамі твар. Так... Праз некалькі хвілін яна сказала доктару, што мае рак грудзей.

Ад гэтага захворваньня памерла матушка Вольга. Матушка таму, што была жонкаю сьвятара, ці як звалі мясцовыя беларусы – айца Міхаіла (Бурноса). Адняцьце адной грудзі яе ўжо ня выратавала. Рак пайшоў у косьць. Іна і я езьдзілі да яе ў шпіталь, што ў раёне Паўночнай Адэляйды. Яна была ўвесь час моцнаю ня толькі целам, але і характарам жанчынаю. Зь ня менш моцным голасам прафэсійнай сьпявачкі. Ды і айцец Міхаіл меў добры тэнар. Беларусы Адэляйды хавалі яе летам. На праваслаўнай частцы велізарных могілак, што на Гудвуд роўд.

Бабульку павезьлі. Я ня ведаў, якая была гадзіна. На інструктажы прасілі ня браць з сабою каштоўных рэчаў. Хадзілі туды-сюды блакітныя мэдыкі. Прывозілі з апэрацыйных пустыя каталкі, зь якіх адразу здымалі посьцілкі і працiралі нейкім растворам.

Да мяне падыйшоў адзін з блакітных. Тонка падбрытыя вусікі і маленькая бародка. Як быццам прыйшоў з Галівуду. Перахапіўшы ягоны цяжкі погляд, я адразу назваў яго Асасінам. Ён глянуў на таблічку ля маёй галавы і, паведаміўшы, што павязе мяне ў апэрацыйны пакой, па-каўбойску крутануў каталку да дзьвярэй. На ўзьлёт – падумалася мне. І ніякіх пытаньняў пра зубы.

Калідор быў цікавым. Над дзьвярыма, амаль ля самай столі віселі строеныя рознакаляровыя лямпачкі. Зялёная-жоўтая-чырвоная. Міні-сьветлафоры прапускнога шпітальнага рэжыму. На вялікім табло ў канцы калідору гарэлі зялёныя трохкутнічкі. Чым ня кодавае пасланьне іншаплянэтнікаў з кнігі, якую я чытаў? Да мяне ўжо сьпяшаліся. Дзьве жанчыны і адзін мужчына-індыец. У стандартных блакітных уніформах. Праверыўшы мае дадзеныя, жанчына сказала, што я ня той чалавек. Нарэшце спрацавала сыстэма ІД. Мой Асасін ня менш жвава крутануў мяне назад, і зноў заблішчэлі лямпачкі, грукнулі дзьверы, і я апынуўся на тым самым месцы, дзе і быў раней.

Нэрвовае напружаньне спала, і пацяклі кроплямі сюррэалістычныя хвіліны Сальвадора Далі. У палаце я быў зараз адзін. Але хутка зноў зьвіўся Асасін і, на гэты раз усьміхнуўшыся, сказаў: "Хутка ўжо". Але толькі ля другой гадзіны дня да мяне падыйшлі дзьве блакітныя жанчыны. "Кавалеўскі Віктар?" – нечакана вельмі добра вымавіла адна зь іх. "Ці вы ведаеце, чаму вы тут?, калі вы нарадзіліся?"... Я без складанасьцяў адказваў на пытаньні: "Так, не, так, не, устаўных зубоў ня маю, але пара..." Блакітная жанчына засьмяялася і пакаціла мяне па ўжо добра вядомым мне калідоры.

У апэрацыйным пакоі да мяне схіліўся барадач зь вясёлымі вачыма і, хутка назваўшы сябе, сказаў, што ён адказвае за наркоз і што мне хвалявацца непатрэбна, бо наркозу хапае. Я нэрвова глянуў навокал. Твары блакітных мэдыкаў хаваліся за маскамі. Усё совалася ўзад-уперад, нешта ўключалася і зіхацела вагеньчыкамі. На маім пальцы заціснуўся датчык пульсу. Мяне папрасілі прыпадняцца і разьвязалі завязкі робы. Таксама папрасілі перасунуцца з ложка-каталкі на мэталёвы апэрацыйны стол.

“Трошкі кіслароду”, – вясёлкаю расьцьвілі жаночыя вочы. “Дыхаем. Дыхаем... А зараз пойдзе сьмешнае паветра. Так павінна быць. Не хвалюйцеся. Дыхаем. Дыхаем...”

Плястыкавая маска з трубкаю прыціскалася яе рукою да майго твару, а я ўжо плыў. Некуды ў паветры. Некуды далёка.

“Дыхаем. Дыхаем...”, – губляліся ў часе словы. Навакольныя аб’екты сьціскаліся, блакітныя фігуры ператвараліся ў нябесныя воблакі, і я ўжо бег... па бэтонцы лётнішча, басаногі, па маёй сьпіне ляпалі на ветры незавязаныя полы шпітальнай робы. На ўзьлёт...

Туман зьнік, як быццам прайшла адна хвіліна. Я зноў ляжаў на каталцы, але ўжо накрыты дзьвюма коўдрамі. Таго ж пляжнага тыпу. На верхняй было напісана Ensign. І ў канцы надпісу бачыўся кубік зь дзевяцьцю кропкамі наверсе. З аптымізмам падумалася: “Выпала дзевяць. Пашанцавала”.

“Вы ведаеце, хто вы?” – запыталася сярэдніх гадоў мэдычка з стомленымі вачыма. “Так”, – адказаў я. “А вы ведаеце ваш год нараджэньня?” Пытаньні ішлі адно за другім, але пра зубы больш не пыталіся. Бо ўжо не існавала пагрозы іх праглынуць.

Мяне выкацілі з пасьляапэрацыйнага пакою і пакацілі ўжо па іншым калідоры. Каля ліфту запаволіліся і вельмі асьцярожна закацілі ўсярэдзіну. На другім паверсе ліфт спыніўся, і празь некалькі хвілінаў я быў у палаце нумар NE2-66.

Палата была падзеленая штораю на дзьве паловы, і мяне закацілі ў частку пад нумарам NE2-66.1. Месца хапала. Можна было паставіць яшчэ дзьве такія каталкі. Ля супрацьлеглай сьцяны былі дзьверы ў прыбіральню. Зьлева і справа на маёй каталцы ляжалі пульты. Я прыгледзеўся. Левым можна было ўключаць тэлевізар, які вісеў над каталкаю, і лямпу. Правым можна было падымаць верх каталкі ці апускаць і рэгуляваць вугал пад галавою.

Хутка падыйшла кітаянка-мэдычка, якая выглядала падобнай на школьніцу. Яна праверыла ўзровень глюкозы ў крыві і, уткнуўшы ў маё вуха тэрмомэтар, застыла. Прыбор піскнуў і, глянуўшы на яго, яна занесла дадзеныя ў форму.

Усё.... Выдыхнуў я. Гадзіньнік на сьцяне паказваў пятнаццаць пасьля чатырох. Дзьве гадзіны на апэрацыі. Ногі-рукі цэлыя, іншае ж падлічым пасьля.

Я быў галодны, бо ня еў з учарашняга дня. А пятай зьявіўся паднос зь ежаю. У сярэдзіне даволі цяжкой (глінянай?) пасудзіны стаяла невялікая талерка з важкім кавалкам мяса, гарошкам і пюрэ. Мяса было нечым паліта. Я адкусіў кавалак і імгненна адчуў, што мая галава пайшла кругам. Па целе пацёк халодны пот. Ну вось табе і хайпо. Так дыябетыкі называюць стан, калі ўзровень глюкозы ў крыві падае ніжэй пяці-чатырох. Я прыпомніў, што мэдычка сказала пра салодкае. У адным з двух кубкаў быў кіпень, а ў другім нешта мяшанае. Я стаў есьці гэтую сумесь, кідаючы зь сілай у рот лыжку за лыжкаю. Як

быццам кідаў тоны вугалю. Стомленасьць была велізарнаю. Але хвілінаў праз дваццаць мяне перастала калаціць. Кітаянка прынесла больш вады.

І тут зьявілася мая жонка.

“Ну вось”, – сказала яна, – “Нарэшце знайшла. А то а трэцяй гадзіне ніхто ня ведаў, дзе ты”.

“А я быў у апэрацыйным пакоі, – адказаў я. – Плаваў у наркозе разам з паўголымі русалкамі”.

“Ідзі ты...”, – ужо спакайней сказала жонка.

Я ўзяў яе цёплую далонь у сваю руку і падумаў... колькі гадоў мы разам? Трыццаць пяць? Трохі больш? Калі лічыць школьныя гады, калі яна сядзела перад мною ў клясе, і я час ад часу турзаў яе за завязаныя ў хвост валасы?

Старое каханьне як старое віно. І п’ецца добра, і ніякіх падвохаў.

Жонка казала мне пра пошукі мяне ў шпітальных лябірынтах, аб турботах за мяне маіх дачок, а я глядзеў на яе і думаў, як добра, што яна побач.

*29 жніўня 2009 году*

---

[1] QEH – Queen Elizabeth Hospital.
[2] DOSA – Day Of Surgery Admission.

# Пупавіна

## Праўдзівая байка

Пуп глядзеў у вакно і прыпамінаў сваё жыцьцё. Ці, каб быць дакладнейшым, найлепшыя гады з таго жыцьця.

Дык з чаго ўсё пачалося?

Так... З малога разуменьня і вялікай цеплыні. З тых шчасьлівых хвілінаў, калі ён быў такі малы... Ня зморшчаны і ня скручаны, як сёньня ў казьліны рог. Не... Тады было цёпла, бестурботна і... Пуп нават ня мог сабе ўявіць, што такое файнае жыцьцё можа ў адзін дзень парвацца на нішто. Плаваў сабе і смактаў, смактаў... Ну вядома, бывала, штурхалі ў бок, але ж і сам Пуп быў не дурным – як дрыгане нагою... Каб ведалі...

А ў той дзень яго цягнулі за вушы так моцна, што ён меў слабыя надзеі на тое, што іх не адарвуць. Але боль у вушах быў толькі пачаткам. Вялікі дзядзька ў белым з задавальненьнем клацнуў нажніцамі і рэзнуў... Па пупу.

Захлынуўся Пуп крывёю і зароў не сваім голасам: як жа так? Што гэта за тэрарыстычны акт такі? Што за злодзей? І чаму Яна адрынула? Навошта адкінула? Ці ж гэта маці? Але яго ўжо тузалі, мылі, ціскалі і кармілі.

Калі сказаць, што Пупу было цяжка ў гэтыя часы, то нічога не сказаць. Пуп перажываў. Найперш з-за таго, што яго літаральна адрэзалі ад папярэдняга бестурботнага жыцьця. Па-другое, за брутальны акт з нажніцамі. Ну і злаваўся ён на маці моцна таксама. Роў няспынна.

Але... Праз гадзіну Пуп сьпёкся, згубіў крывавыя павязкі і паступова пачаў аглядацца. А навакол яго завіхаліся, нешта такое цокалі і мяўкалі, кармілі і паілі. А Пуп толькі дрыгаў нагой. Жыцьцё ладзілася няблага. Калі што ня так – равеш сабе на здароўе, калі хто ня так гляне – дрыгаеш нагой. Праўда, паступова пачалі ціснуць. Гэта не чапай. Гэта ня бі. Без асаблівага прымусу, трэба адзначыць. Нават з каханьнем. Так бы і жыць да канца жыцьця, але ж не! Скончылася і гэтая маліна.

Раптоўна Пупу сказалі, што ён ужо дарослы. Вялікім стаў Пуп і мусіць есьці на свой хлеб. Як тады Пуп ні роў, як ні дрыгаў нагою, як ні крычаў на маці, што яна зноў яго адкідае, зноў рэжа па жывым – нічога не дапамагло. Адчынілі дзьверы.

Пуп гараваў. Вядома, ня так лёгка хадзіць на працу, карміць сябе і мыць. Апошняе дык Пуп надта не любіў. Але аднойчы, прыехаўшы да маці падсілкавацца, Пуп убачыў у яе сяброўку з дачкою. Не мадэльнай прыгажуняй, вядома, але сьціплай і прыветлівай.

“Знаёмся, – сказала маці, – гэта Пупа”.

І Пуп тут нешта адчуў. Нават нага здрыганулася. І ня тое каб дзяўчына прывабіла яго да сябе моцна-моцна, не, але адчуў Пуп тут нешта большае, нешта больш прывабнае і цікавае, чым сама Пупа. Толькі на вуліцы, сказаўшы: “Да пабачэньня”, – Пуп зразумеў, што яго прыцягнула да Пупы. Новая пупавіна.

На вясельлі ўсе крычалі: “Горка!” Пуп з Пупаю, стыдаючыся, цалаваліся, а сам ён думаў сабе: “Ці гэта надоўга? Ці не адрыне? Ці не адрэжа?”

Пупа была працавітаю і добраю гаспадыняю. Калі-нікалі, праўда, падрывалася на Пупа і рэзала ў вочы, што ён мала працуе, што ён усё з газэтаю, што і такі, і сякі. Але Пуп не пераймаўся. Яго апраналі, кармілі і выпадкамі мылі. А ён дрыгаў нагой. Жыцьцё пайшло неблагое. Праўда, праз год-два па падлозе пачалі поўзаць Пупка і Пупік. І жонка нeяк закінула яго, але карміць карміла. Апранаць апранала. Скардзіцца было мала на што.

Пуп пакруглеў. Ён насіў гальштук, курыў цыгарэты і паіў сяброў у рэстарацыях. Гэта ўсё называлася прафэсійным жыцьцём. Пупа круцілася зь дзецьмі, цягала сумкі, бегала туды-сюды, а Пуп займаўся сувязямі і камэрцыяй. Падымаючы тэлефон, ён як мага больш басавіта гудзеў: “Ну, што там у вас?”

І каб не Пупана, бачыш. Каб не Пупана. Ну вядома, у параўнаньні з Пупаю Пупана глядзелася бліскучаю іншамаркаю: салодкая, гладкая, зь нявысмактанымі дзецьмі грудзямі, безь ніякіх хвастоў. Жвавая і вельмі прафэсійная. Аджыў тут наш Пуп. Жыцьцё пакацілася весялей, як быццам ён скінуў з плеч гадкоў дваццаць. Пупа дома зь дзецьмі, корміць і поіць. Пупана ж... як гэта сказаць... для падтрымкі прафэсійных інтарэсаў. Усё пайшло падмазана, падкручана, бліскуча-прафэсійна. І так бы жыць да канца жыцьця. Калі б ня сам Пуп. Каб ён не пасьлізнуўся.

Глянуў ён раз на абшарпаную і небліскучую Пупу і сказаў, думаючы аб сваім высакародным жыцьці: “Якая ж ты, Пупа, непрафэсійная”.

“Што?! – узарвалася тут на яго Пупа, – непрафэсійная? Ах такую тваю... А на кім ты ўсё гэтае жыцьцё сваёй нагой дрыгаеш? Што ты робіш у хаце сваёй прафэсійнасьцю?”

“Гэта ж сувязі”... – паспрабаваў усунуць сваё слова Пуп.

“А... Сувязі? Ведаю я пра твае сувязі... І пра галоўную сувязную тваю ведаю. Ці не Пупана?”

Не пасьпеў Пуп апамятацца, як ягоныя рэчы ўжо ляцелі на вуліцу праз вакно.

Што рабіць?

У Пупаны ён стараўся трымаць сябе ў руках, але некантралявана дрыгалася нага, і голас рваўся на дзіцячы крык. Як калісьці...

Пупана праз гадзіну сказала Пупу, што яна ёсьць жанчына прафэсійная, для сямейнага жыцьця няздольная, бо толькі вельмі простыя людзі, вельмі непрафэсійныя, ідуць на гэткі нягеглы крок.

Ужо ў шпіталі, калі Пуп трохі ачуняў ад сардэчнага прыпадку, ён зразумеў, што адбылося. Гора. Калі не сказаць больш. Гора горкае. Адразу згубіў дзьве пупавіны.

Пазьней, у малой кватэры, якую ён здымаў на бакавой вуліцы, Пуп чакаў на падтрымку ад сяброў. Але ўсе маўчалі. Вельмі прафэсійна.

Куляючы шклянку за шклянкаю, Пуп сядзеў і ўспамінаў сваё пупоўнае жыцьцё: моцную матчыну пупавіну, гаспадарчую Пупу, малых Пупянят. І каб не адрэзалі! Каб не адрынулі! І каб Пупана не падкацілася. Ды й сябры гэтыя толькі сябравалі за сталом у рэстаранах.

Абхапіў Пуп галаву і глянуў у вакно. А там кацілася няспыннай чарадой жыцьцё.

А можа... раптоўна падумаў сабе Пуп, можа, там недзе ёсьць яшчэ адна, апошняя пупавіна... Каб да канца жыцьця... Каб толькі не адрынулі... Каб не адрэзалі...

*2010. Адэляйда*



**КАВАЛЁВА Віялета** нарадзілася ў 1962 годзе ў горадзе Асташкаў Калінінскай вобласьці (цяпер Цьвярская губэрня) Расеі.

Ад 1964 году жыла ў Менску, ад 2001-га – у Таронце (Канада). Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Друкавалася ў Беларусі і за мяжой.

# Апалёгія капіталізму, альбо Прадмова да ненапісанай кнігі

Калі шмат пра што трэба сказаць, можна пачаць зь любога месца... Напрыклад, з таго дня, калі нас з Мары пацягнула на ўспаміны пра школьныя гады і ўлюбёныя прадметы...

Мары і я працуем разам у Таронце, ува ўстанове, якая называецца “грамадзкі цэнтар здароўя”. Мары – лягапэд, яна дапамагае маленькім дзецям навучыцца размаўляць, а я, выконваючы абавязкі сакратаркі, тэлефаную іхным бацькам і запісваю хлопчыкаў і дзяўчынак на прыём. У перапынках паміж візытамі маленькіх пацыентаў мы з Мары зрэдзьчасу бавімся размовамі, пераважна на тэмы літаратуры і кіно, і нашыя густы, як ні дзіўна, шмат у чым супадаюць, нягледзячы на тое, што мы вырасьлі ў такіх непадобных краінах: яна – у Канадзе, я – у Беларусі.

– In high school, I was very fond of a Russian writer... – Мары красамоўна перабірае пальцамі, намагаючыся “ўхапіць” прозьвішча, што раптам высьлізнула з памяці, а я спрабую адгадаць, каго яна назаве. Мяркуючы па тым, што Мары цікавіцца псыхалёгіяй, – Дастаеўскага. Хаця, з другога боку, яна цэніць і разумее гумар. Тады, магчыма, Чэхава? Калі ж ня гэтых двух, дык, напэўна, Талстога...

Пакуль я чакаю пацьверджаньня ўласнай здагадлівасьці і загадзя цешуся з умельства "бачыць субяседніка наскрозь", Мары вымаўляе наступную фразу:

– I liked her novels so much!

Напэўна, я выглядаю вельмі камічна з ротам, што раскрыўся на паўслове ды так і ня здолеў закрыцца... Мары ўважліва прыглядаецца да мяне, не разумеючы такой рэакцыі, але тактоўна ні пра што не пытаецца.

Her novels? Хто з расейскіх жанчын-пісьменьніц пісаў раманы, ды яшчэ такія знакамітыя, што яны былі папулярнымі сярод канадыйскіх школьніц у васьмідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя? Мне сорамна за ўласнае невуцтва, але ў мяне няма нават ніводнай вэрсіі – пра каго ж тут можа ісьці гаворка?

Не дачакаўшыся ад мяне падтрымкі і стаміўшыся выснажваць памяць, Мары шыбуе да кампутара, набірае нешта ў Гугле і зь пераможным выглядам прыносіць мне аркушык паперы: вось, знайшла!

На паперы напісаныя два словы, якія не выклікаюць у мяне ну аніякіх асацыяцый з расейскай літаратурай: Ayn Rand. Я таксама лезу ў пошукавік і праз хвіліну адкрываю для сябе новую плянэту.

Эйн Рэнд – натуральна, псэўданім. Сапраўднае імя пісьменьніцы – Аліса Зіноўеўна Разэнбаўм. Яна нарадзілася ў Санкт-Пецярбургу ў 1905 годзе (дарэчы, яе бацька, Зінові, альбо Залман-Вольф Разэнбаўм – ураджэнец нашага Берасьця). У жаночай гімназіі Аліса вучылася зь сястрой Набокава, Вольгай. Калі да ўлады ў Расеі прыйшлі бальшавікі, Аліса была зусім дзяўчынкай. Тым ня менш яна вельмі хутка зразумела, што ненавідзіць камуністычную ідэалёгію і жыць пад савецкай уладай катэгарычна ня хоча. Ёй пашанцавала: у 1925 годзе ёй дазволілі выехаць на вучобу ў ЗША. Аліса прыехала туды зь пяцьцюдзесяцьцю далярамі ў кішэні, друкавальнай машынкай "Рэмінгтон-Рэнд" (ад назвы якой яна ўтворыць потым свой псэўданім), чатырма гатовымі кінасцэнарамі (зь якіх ніводны не зацікавіць амэрыканскіх кінапрадусараў) і цьвёрдым намерам ніколі не вяртацца ў камуністычную Расею. Пачатак яе амэрыканскай біяграфіі быў стандартны: Аліса, якая напачатку вельмі слаба валодала ангельскай мовай, без асаблівага посьпеху спрабавала тое й гэтае, перабівалася выпадковымі заробкамі... Нават тое, што яна пачала пісаць кнігі, яшчэ ня надта вылучае яе з натоўпу – ці мала ў Амэрыцы пісьменьнікаў, у тым ліку і сярод нядаўніх імігрантаў! Але вось тое, што адзін зь яе раманаў – "Атлянт павёў плячыма" (Atlas Shrugged), напісаны ў 1957 годзе, – амэрыканскія чытачы паставілі на другое пасьля Бібліі месца ў пераліку кніг, якія найбольш паўплывалі на іхнае жыцьцё... шчыра кажу, вось гэты факт мяне моцна ўразіў. Як і тое, што Эйн Рэнд стварыла цэлы філязофскі кірунак – аб'ектывізм, альбо "разумны эгаізм", які стаў інтэлектуальным абгрунтаваньнем капіталізму; што яе "Атлянт..." на працягу паўстагодзьдзя прадаецца ў колькасьці ста тысяч асобнікаў штогод; што існуе цэлы "Інстытут Эйн Рэнд", а яе філязофія дагэтуль мае шмат прыхільнікаў і пасьлядоўнікаў... Ну добра, няхай яе імя "забыліся" назваць выкладчыкі, якія чыталі на журфаку БДУ курс гісторыі філязофіі. Аднак жа я дагэтуль мела ілюзіі, што мая адукацыя (і самаадукацыя) не закончылася журфакам!..

Мне нават цікава стала – няўжо я адна такая "цёмная"? І я вырашыла зрабіць сваё ўласнае міні-апытаньне: папрасіла дзясятак знаёмых адказаць з ходу, ці гаворыць ім імя Эйн Рэнд хоць нешта (дзеля чысьціні экспэрымэнту за-

давала пытаньне толькі праз Скайп, каб была пэўнасьць, што адказ — імгненны). Сярод дзесяці беларускамоўных сяброў не было ніводнага, хто не цікавіўся б літаратурай. Затое там былі рэдактары газэт і часапісаў, літаратурныя аглядальнікі радыёстанцый, бібліятэчныя работнікі, пісьменьнікі, ну і, так бы мовіць, "прасунутыя" чытачы... Толькі двое зь дзесяці ведалі, хто яна такая. Менавіта тыя двое, што жывуць сёньня не ў Беларусі, а ў ЗША і Канадзе...

Эйн Рэнд пачала пісаць свой першы раман — "Мы, жывыя" (We the Living) — на пятым годзе жыцьця ў Амэрыцы і працавала над ім яшчэ шэсьць гадоў. Мне здаецца, менавіта гэты раман мог быць галоўнай прычынай, чаму яе імя заставалася ня проста выкрасьленым, а калёным жалезам выпаленым з усіх савецкіх курсаў літаратуры і філязофіі.

"Мы, жывыя" — гэта раман пра час і месца, дзе чалавеку нельга жыць, як нельга жыць у 1984 годзе Оруэла. З той розьніцай, што Эйн Рэнд напісала не антыўтопію, а амаль што мэмуары. З фатаграфічнай дакладнасьцю яна перадае колеры, пахі, гукі Петраграда пачатку 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя, і таму аўтарцы верыш абсалютна. Зрэшты, самі па сабе дэталі яшчэ нічога ня значаць... Аналягічныя падрабязнасьці і прыкметы тае эпохі можна знайсьці нават у кнігах, што друкаваліся за савецкім часам, — ад Булгакава да Ільфа і Пятрова. Розьніца ў танальнасьці. І ў тым, што Эйн Рэнд не пакідае аніякай надзеі. Няма і ня можа быць перамогі над Швондэрамі і Шарыкавымі, нават сымбалічнай. Вакол толькі разбурэньне, распад, падзеньне ў бездань, вакол разгубленыя людзі, некаторыя зь якіх дагэтуль наіўна вераць, што "заграніца нам дапаможа", а некаторыя, вывернуўшы на спод сумленьне і маральнасьць, няўклюдна спрабуюць слугаваць савецкаму рэжыму. У гуках "Інтэрнацыяналу" галоўнай гераіні чуецца мэлёдыя пахавальнага маршу, і нават апісанае "чырвонае" вясельле больш нагадвае хаўтуры... Адзіны выхад з гэтага камуністычнага кашмару і гераіня, і аўтарка бачаць у эміграцыі, ва ўцёках. Як і "Залатое цялё", кніга заканчваецца няўдалай спробай нелегальнага пераходу мяжы. Вось толькі ў рамане Эйн Рэнд зусім няма з чаго сьмяяцца...

Так здарылася, што пострэвалюцыйная савецкая рэчаіснасьць, апісаная Эйн Рэнд у "Мы, жывыя", знаходзіцца ад мяне, можна сказаць, на адлегласьці выцягнутай рукі. Яшчэ і сёньня ў горадзе Омску жыве амаль стогадовая старэйшая сястра майго бацькі, якая добра памятае, як памянялася жыцьцё іхнай сям'і пасьля прыходу бальшавікоў. Мой дзед па бацьку ня быў буйным прадпрымальнікам — але ён быў досыць пасьпяховым краўцом, у яго была прыватная майстэрня і чалавек пяць-сем работнікаў. Натуральна, пры савецкай уладзе ўся ягоная маёмасьць была канфіскаваная, а з жыцьцём ён не разьвітаўся, як я разумею, толькі таму, што своечасова ўцёк, пераехаўшы з павятовага горада Ішыма на малюсенькую чыгуначную станцыю Ламенскую, дзе з пашыву моднага адзеньня перакваліфікаваўся на рамонт сялянскіх кажухоў і ватовак.

Цікава, што ўменьне хутка прыймаць рашэньні ва ўмовах небясьпекі ўратавала жыцьцё і другой галіне майго роду — па маці. Мая мама нарадзілася ва Ўсходнім Казахстане, у расейскай сям'і. Апавядаючы мне пра свайго бацьку, мама заўсёды з гонарам падкрэсьлівала, што ён быў "не лесьніком, а лясьнічым", г. зн., чалавекам з адукацыяй, уладай і ўплывам. Бабуля, дзядуля і восем чалавек дзяцей жылі ў лесе, на кардоне. На сьвяты, як запомніла мама (тады яшчэ дашкольніца), да іх на кардон зазвычай зьяжджалася ўся мясцовая інтэлігенцыя. Улучна з бацюшкам, які, дарэчы, быў вельмі прагрэсіўных погля-

даў і любіў весьці з бабуляй досыць герэтычныя дыспуты. Гулялі сур'ёзна – па некалькі дзён. У вялікай сядзібе ўсім хапала месца пераначаваць, у стайні хапала стойлаў для коней, не было праблемы і з тым, чым накарміць такую грамаду гасьцей... Недзе ў годзе 1929-30 хтосьці зь сяброў паведаміў дзядулю, што ягонае імя ўнесена ў сьпісы на арышт. Кінуўшы ўвесь набытак і ўзяўшы дзяцей, дзядуля з бабуляй селі на цягнік і паехалі ў Алма-Ату. Але ў сталічным горадзе яны не затрымаліся ні на дзень. Пасадзіўшы сям'ю пад дрэва ў скверыку пры чыгуначнай станцыі і, наказаўшы нікуды не сыходзіць, дзед пайшоў шукаць фурманку, якая б завезла іх далёка ў горы, дзе ён спадзяваўся знайсьці працу ў санаторыі. Альбо, лепш кажучы, дзядуля, відаць, загадзя падрыхтаваў для сябе гэты "запасны аэрадром" праз кагосьці са знаёмых, і ягоная здагадлівасьць і ўменьне бачыць наперад выклікаюць маё шчырае зьдзіўленьне і найглыбейшую павагу. Вярнуўшыся з фурманкай, дзед убачыў, што сям'я чакае яго пад дамоўленым дрэвам, але вось ягонае паліто, павешанае на сучок, зьнікла – вакзальныя злодзеі аказаліся занадта спрытнымі для бабулі, занятай пільнаваньнем дзяцей. Маме запомнілася, што дзед моцна сварыўся тады, быў амаль у роспачы. Хутчэй за ўсё, як я здагадваюся, не з-за паліто, а з-за таго, што магло быць зашыта ў ягонай падкладцы...

Тым ня менш, сям'я пасьпяхова перабралася ў адзін з высакагорных санаторыяў Казахстану, дзе дзядуля шмат гадоў потым працаваў загадчыкам гаспадаркі, а бабуля – касталяншай. Мама, якая ў 1930 годзе пайшла тамака ў першую клясу, памятае, як бабуля настаўляла яе: "Калі ў школе будуць пытацца, колькі ў вас раней было кароваў, скажы, што дзьве..." Відаць, "дзьве каровы" былі для бабулі амаль што сынонімам жабрацтва... Але ніхто ні пра што не запытаўся, і ніякія органы не турбавалі больш сям'ю, што зьнікла ў адным месцы і зьявілася ў іншым, прыблізна за тысячу кілямэтраў. У поўнай адпаведнасьці з тэзысам Салжаніцына: калі чалавек перад арыштам пасьпяваў уцячы досыць далёка, яго маглі ўжо й не шукаць, нават калі ён працягваў жыць пад сваім уласным прозьвішчам.

У абедзьвюх гэтых, падобных як блізьняты, "гісторыях уцёкаў" мяне найбольш дзівіць адна рэч. Нават старэйшыя браты і сёстры маіх маці і бацькі яшчэ добра памяталі "дабальшавіцкае" жыцьцё і выдатна разумелі, што яно адрозьнівалася ад "пасьлябальшавіцкага" ў лепшы бок. Што ўжо казаць пра іхных бацькоў, якія ў выніку кастрычніцкага перавароту страцілі літаральна ўсё, апроч жыцьцяў і сем'яў. І тым ня менш, абодва крылы майго роду былі на сто працэнтаў савецкімі людзьмі. Насуперак усялякай лёгіцы і ўласнаму досьведу, яны шчыра верылі, што "савецкая ўлада прынесла людзям вызваленьне", яны ня ведалі й не хацелі ведаць ніякай іншай краіны, "дзе так вольна дыхае чалавек". І маці, і бацька, як і належыць савецкім людзям той эпохі, доўгі час абагаўлялі Сталіна. Пасьля хрушчоўскага дакладу маці пачала асьцярожна выказвацца на прадмет таго, што ў Сталіна былі "добрыя і кепскія якасьці", бацька ж зацята заставаўся пры ранейшых перакананьнях, паўтараючы ў якасьці апошняга аргумэнту, што ён "усю вайну ваяваў за Сталіна" (бацька нарадзіўся ў 1915 годзе і ў гады Другой сусьветнай быў камандзірам сапёрнага батальёну), і захоўваючы партрэт вялікага правадыра разам з сваімі баявымі ўзнагародамі...

...Я гляджу на старыя фотаздымкі, якія засталіся ад бацькоў, – на большасьці зь іх шчасьлівыя маладыя людзі, якія з усьмешкай падымаюць чаркі за

накрытым сталом, выяжджаюць у лес на пікнік альбо ў адпачынак да Чорнага мора, весела махаюць сьцяжкамі на першамайскай ці кастрычніцкай дэманстрацыі... Прыгадваю сваё дзяцінства, якое прыпала на шасьцідзясятыя і сямідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя, – ну так, яно было бясхмарным, дастаткова шчасьлівым, і мая вялікая краіна – Савецкі Саюз – доўга, вельмі доўга падавалася мне найлепшым месцам для жыцьця (гэта пры тым, што да 1979 году нашая сям'я жыла ў бараку)... Потым я ізноў думаю пра Эйн Рэнд і яе раман. Дык хто ж меў рацыю – такія, як яна, ці такія, як мае бацькі? Як так выходзіць, што для аднога чалавека дыктат дзяржавы і адсутнасьць выбару – гэта ўсё адно што сьмерць ад удушэньня, а другі пражыве ўвесь свой век у таталітарнай дзяржаве і нават не заўважыць, што ніколі ня меў гэтай самай "свабоды"... Тая ж Аліса Разэнбаўм усімі сіламі ірвалася за мяжу – а дзьве яе малодшыя сястры някепска пражылі сваё жыцьцё ў Савецкім Саюзе. І нават калі адна зь іх, Элеанора, у 1973-м паспрабавала эміграваць у Амэрыку на запрашэньне Алісы, яна вельмі хутка вярнулася назад – не змагла прыжыцца ў чужых краёх...

Наша ўласная сямейная эміграцыя зь Беларусі ў Канаду ў 2001 годзе была выкліканая спалучэньнем розных прычынаў. Ня мае сэнсу спыняцца на іх зараз, тым больш што многія зь іх відавочныя і агульныя для ўсёй беларускай эміграцыйнай хвалі канца XX – пачатку XXI стагодзьдзяў. Але, на маю думку, якімі б ні былі матывы эміграцыі, у дадатак да іх абавязкова мусяць прысутнічаць яшчэ й адпаведныя схільнасьці характару, асаблівасьці натуры. Няма сумневу, што пэўную "лёгкасьць на пад'ём" і гатовасьць да перамяшчэньняў у прасторы я ўспадкавала ад маіх продкаў – як па мячы, так і па кудзелі. Больш таго – па лініі бацькі ў маёй сям'і былі нават сапраўдныя эмігранты: а як яшчэ назваць украінцаў, якія ў канцы XIX – пачатку XX стагодзьдзя масава перасяляліся ў Сыбір, прываблёныя магчымасьцю атрымаць зямельныя надзелы? Эканамічная эміграцыя ў чыстым выглядзе... І што датычыць захаваньня культурнай спадчыны, карціна выглядае досыць тыпова. Тата і мама майго бацькі былі яшчэ дзецьмі ці падлеткамі, калі іх сем'і перабраліся ў Сыбір з Чарнігаўшчыны і Палтаўшчыны. Там яны вырасьлі, пазнаёміліся і пажаніліся. Ува ўласнай сям'і дзед з бабуляй ужо карысталіся расейскай мовай (ні мой бацька, ні ягоныя шматлікія браты і сёстры ўкраінскай мовы ня ведалі) – за адзіным выключэньнем: яны ахвотна і часта сьпявалі ўкраінскія песьні, любоў да якіх перадалася ўсім дзецям без вынятку. Я неаднойчы міжволі думала пра іх ужо тут, у Таронце, калі бачыла "ўкраінскія сем'і", дзе бацькі размаўляюць зь дзецьмі па-ангельску, затое ўсе дзеці ці нават унукі ў абавязковым парадку запісваюцца ў школу украінскага народнага танцу ці ў ансамбаль бандурыстаў... Зрэшты, ня будзем вышукваць парушынку ў чужым воку – хапае тут і сапраўдных украінскіх сем'яў, дзе яшчэ і ў трэцяй-чацьвертай генэрацыі эмігрантаў перахоўваецца украінская мова. Для беларусаў гэта – недасягальная вышыня. Звычайна беларуская мова ў сем'ях эмігрантаў не дажывае да трэцяга калена... Выключэньні, безумоўна, ёсьць, але ў колькасьці, якая толькі "пацьвярджае правіла". Мне неаднаразова даводзілася сустракацца зь сем'ямі беларускіх эмігрантаў паваеннай хвалі. У большасьці выпадкаў іх дзеці ўмеюць размаўляць па-беларуску цалкам прыстойна. А вось унукі – зусім ня ўмеюць, і гэта лёгка вытлумачыць: калі беларусы тут утвараюць сем'і зь небеларусамі, мовай сям'і аўтаматычна робіцца ангельская. Нават у найлепшыя часы – у 70-я

гады мінулага стагодзьдзя – калі ў пасьляваенных эмігрантаў падрасьлі дзеці і ў таронтаўскай беларускай грамадзе было адносна шмат моладзі, унутрыбеларускія сем'і не ствараліся. Ня ведаю, чаму. Напэўна, усё ж выбар быў замалы...

...Вось ужо дзевяць гадоў я спрабую адказаць сабе на адно пытаньне: як сумясьціць жаданьне заставацца беларусам за мяжой і нібыта відавочную бессэнсоўнасьць спробы падтрымаць беларускую культуру на чужыне? Ну сапраўды, ці ж не падманваем мы сябе, думаючы, што сьвяткаваньні Дня Волі ці Слуцкага збройнага чыну ў дыяспары заўважна ўплываюць на грамадзкую сьвядомасьць у мэтраполіі? Навошта затрачваць столькі высілкаў на арганізацыю беларускіх суботніх школак, калі загадзя вядома, што твае дзеці – якіх яшчэ трэба прымусіць наведваць тую школу! – вырастуць і ўвальюцца ў англамоўнае (франка-, нямецка- ці яшчэ якое-небудзь -моўнае грамадзтва), створаць сем'і, хутчэй за ўсё, зь небеларусамі, а іхныя дзеці, твае ўнукі, у лепшым выпадку будуць ведаць толькі краіну паходжаньня сваіх продкаў і змогуць вымавіць па-беларуску хіба пару "дэкаратыўных" словаў тыпу "добры дзень", ды яшчэ з моцным акцэнтам? Навошта выдаткоўваць грошы і напружваць сяброў перасылкай, спрабуючы здабыць для ўласнай бібліятэкі сьвежавыдадзеныя беларускія кнігі, калі наперад зразумела, што пасьля тваёй сьмерці дзеці ня скажуць табе дзякуй за гэты дадатковы клопат – кудысьці ўладкоўваць абсалютна непатрэбныя ім шматтамовыя кнігазборы? (Я ўзгадваю тут аднаго таронтаўскага беларуса, зацятага кніжніка, які з часоў СССР знайшоў магчымасьць замаўляць кніжныя навінкі па каталёгах "Мастацкай літаратуры" і іншых беларускіх выдавецтваў. Гледзячы сёньня на ягоную велізарнейшую бібліятэку (я думаю, што гэта найбуйнейшы прыватны збор беларускай літаратуры ў Канадзе!), міжволі спрабуеш падлічыць у галаве, якая частка ягонай зарплаты матэрыялізавалася ў гэтых кнігах... І немагчыма ня думаць – а што будзе з гэтым кнігазборам потым? Нават калі б ягоныя сын ці дачка захацелі з сэнтымэнтальных пачуцьцяў захаваць бацькаву бібліятэку, ім давялося б пабудаваць для яе асобны дом, што абсалютна нерэальна...) Згадаем таксама пра незайздросны лёс спадчыны многіх беларускіх эміграцкіх пісьменьнікаў – ці ж мала было выпадкаў, калі пасьля іхнага адыходу ў лепшы сьвет нашчадкі папросту выкідалі на сьметнік рукапісы і архівы... Карацей, сытуацыя выглядае досыць фатальна.

Ну добра, дапусьцім на хвіліну, што намер захаваць беларушчыну за мяжою – гэта тупіковы шлях, і таму прысьвячаць гэтаму жыцьцё – ідэя бязглуздая. Няхай так. Але якія ёсьць альтэрнатывы? Сьвядома перастаць быць беларусам, ці што? Як быццам гэты працэс паддаецца рэгуляваньню ці самакантролю... Як там было ў Булата Акуджавы? "Каждый пишет, как он слышит, каждый слышит, как он дышит, как он дышит, так и пишет, не стараясь угодить..." У гэтым сапраўды няма ні "гераізму", ні "самаахвяраваньня". Мы думаем, пішам па-беларуску і наагул знаходзімся ў беларускім полі культуры толькі таму, што ў выніку доўгага працэсу – бывае, што наўпростай дарогай, а бывае, што й досыць пакручастымі сьцежкамі (як у маім выпадку: ад прабабкі-мардоўкі, дзеда – данскога казака, расейскай маці і бацькі – расейскамоўнага ўкраінца) – мы прыйшлі менавіта ў гэтую кропку, і на сёньняшні дзень нам з розных прычынаў мажліва існаваць толькі ў ёй. Калі праз пэўны час у хадзе далейшай эвалюцыі мы (або нашыя дзеці) адчуем сябе кімсьці іншым і прылучым-

ся да іншай культуры – ну што ж, значыць, так яно і будзе, але ж сам сябе ў будучыню не закінеш і паперадзе цягніка не пабяжыш...

Здавалася б, для "апантаных беларушчынай" ёсьць яшчэ адно, і вельмі лягічнае выйсце: вярнуцца ў Беларусь і спрабаваць працаваць дзеля беларускай культуры там, дзе носьбітаў гэтай самай культуры, як ні круці, а пабольш, чым за мяжою, і дзе беларускі этнас усё ж мае лепшыя шанцы выжыць. Паваенная беларуская эміграцыя была пазбаўленая такога выбару: на радзіме іх чакалі лягеры ГУЛАГу ці імгненныя сьмяротныя выракі. Нам, у большасьці выпадкаў, нічога не пагражае, мы маглі б пры жаданьні і паехаць назад. Вось толькі ці змаглі б мы там жыць – пасьля хаця б некалькіх праведзеных за мяжою гадоў?

...Пасьля першага, самага цяжкага пэрыяду эміграцыі цябе чакае прыемная неспадзяванка: чужая краіна памалу перастае рабіцца чужой, і гэты працэс заварожвае... Відаць, кожнаму, хто зьяжджаў зь Беларусі, даводзілася шмат разоў адказваць на пытаньне, чаму ён гэта робіць. Нават калі "чаму" не вымаўлялася ўголас, пытаньне ад гэтага не пераставала быць пытаньнем... Тут, "на другім беразе", абсалютна ніхто не цікавіцца, чаму ты сюды прыехаў, хаця народ тут падабраўся выключна стракаты, і матывы эміграцыі часам адрозьніваюцца, як той-тэр'еры ад дацкіх догаў. Тут немагчыма пачуць "каронную" фразу, якой на многіх беларускіх вэб-сайтах традыцыйна затыкаюць раты беларусам замежжа, калі тыя наважваюцца ўзяць удзел у нейкіх дыскусіях: "Калі ты так любіш сваю Беларусь, дык чаго ты пацёгся на чужыну?" Нават тыя канадыйцы, чый радавод у новым сьвеце налічвае ўжо каля дзясятка пакаленьняў, выдатна разумеюць, што й самой краіны Канады не было б, каб калісьці даўно іхныя далёкія продкі, якія таксама любілі сваю Ірляндыю ці Нармандыю, не пераплылі Атлянтыку на караблі... Можа, таму канадыйцы надзіва цярплівыя да нашых моўных памылак, нечакана прыветныя і нефальшыва гасьцінныя. Празь нейкі час ты зьдзіўлена заўважаеш, што некаторыя зь іх ужо ставяцца да цябе, як да сябра, а цябе самога пачынаюць насамрэч цікавіць навіны зь мясцовых газэт...

Цяжка сказаць, ці можна мець дзьве бацькаўшчыны, але грамадзянінам дзьвюх краінаў можна сябе адчуваць адназначна. Тым больш, што ў выпадку такой унікальнай краіны, як Канада, твая з кожным днём большая "канадыйскасьць" зусім не патрабуе адпаведнага памяншэньня "беларускасьці". Наадварот: быць беларусам тут, я б сказала, значна лягчэй і нашмат больш камфортна, чым у Беларусі. Дзякуючы палітыцы "шматкультуралізму", якая, здаецца, дае зусім неблагія вынікі, дзяцей з пачатковай школы вучаць захапляцца разнастайнасьцю культураў, а на практыцы гэта значыць, што яны ўмеюць любіць сваё і шанаваць чужое. У школах, ва ўнівэрсытэтах, на карпаратыўных вечарынках цябе неаднаразова будуць прасіць прасьпяваць песьню на роднай мове, апрануць нацыянальны строй, згатаваць традыцыйную страву... Бывае й так, што толькі ў Канадзе да расейскамоўных жыхароў Беларусі раптам прыходзіць усьведамленьне сваёй нацыянальнай прыналежнасьці, і людзі пачынаюць больш цікавіцца сваёй культурай, чытаць беларускія кнігі, а потым і спрабаваць размаўляць па-беларуску. Не магу сказаць, што такія факты – масавая зьява, аднак яны й не адзінкавыя.

Але заходні лад жыцьця спрыяе ня толькі ўмацаваньню нацыянальных пачуцьцяў. Як паветра, якім ты дыхаеш, запаўняе тваё лёгкія і пранікае ў кроў ма-

лекуламі кіслароду, так, відаць, мала-памалу робіцца тваёй сутнасьцю і “паветра” краіны. Краіны, людзі якой на першае месца ў сыстэме каштоўнасьцяў ставяць роўнасьць кожнага і свабоду для ўсіх. І менавіта таму робіцца проста вусьцішна, калі, напрыклад, на адным з вэб-сайтаў беларускай апазыцыі зьмяшчаецца паведамленьне аб разгоне гей-параду ў Беларусі, а пасьля яго ідуць дзясяткі камэнтароў тых самых апазыцыянэраў, якія горача вітаюць брутальныя дзеяньні міліцыянтаў... Робіцца сорамна, калі адзін зь лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, Віталь Рымашэўскі, у інтэрвію тэлеканалу “Белсат” параўноўвае гомасэксуалізм з фашызмам, а старшыня Маладога фронту Зьміцер Дашкевіч заяўляе, што прысутнасьць анархістаў і прадстаўнікоў сэксуальных мяншыняў на Чарнобыльскім шляху будзе расцэньвацца як правакацыя і што Малады Фронт гатовы “зьвязваць і здаваць міліцыі правакатараў”. У такія моманты вельмі востра працінае думка, што з такой беларускай апазыцыяй мне відавочна больш не па дарозе...

Бо гаворка ж не пра тое, падабаюцца нам ці не чыесьці погляды, перакананьні або сэксуальная арыентацыя. Рэч у фундамэнтальным прынцыпе: свабода для кожнага мусіць распасьцірацца так шырока, пакуль яна не абмяжоўвае свабоды іншых людзей. Гей-парады, роўна як і ўсялякія іншыя дэманстрацыі, ніяк не абмяжоўваюць маёй уласнай свабоды, таму што ў мяне ёсьць выбар як мінімум з трох варыянтаў: пайсьці паглядзець; пайсьці і далучыцца; цалкам праігнараваць. І я ведаю, што калі ў наступны раз я выйду на мітынг, пратэстуючы супраць чарговага парушэньня правоў чалавека ў Беларусі, мая таронтаўская паліцыя абароніць мяне гэтаксама, як яна абараняе тут удзельнікаў гей-параду, дэманстрацыі курдаў, шэсьця за незалежнасьць Тыбэту, а таксама шматлікіх іншых маніфэстацыяў, якія могуць быць нават супрацьлегла накіраванымі, напрыклад, праізраільскай і антыізраільскай... Праўда, апошнім часам у канадыйскім друку шмат пішуць пра падвышаныя меры бясьпекі, якія прыймаюцца ў сувязі з будучай нарадай “вялікай дваццаткі”: напрыклад, шырока абмяркоўваецца інфармацыя пра тое, што ў выпадку масавых беспарадкаў паліцыя будзе гатовая ўжываць сьлезацечны газ альбо “гукавыя гарматы”. Але ж тут ключавое слова – “беспарадкі”, то бок – замах на бясьпечнае жыцьцё іншых, на іхныя правы і свабоды. Калі ж людзі мірна ідуць па вуліцы са сьцягамі і транспарантамі, калі яны пры гэтым скандуюць лёзунгі альбо сьпяваюць песьні, іх ніхто не зачэпіць, і гэта выдатна ведае кожны жыхар Канады... Нават ніякага адмысловага “дазволу” не патрабуецца, калі дэманстранты ідуць па ходніках і не замінаюць руху машын (а калі хочуць ісьці па праезнай частцы, дастаткова паведаміць пра свой намер за восем тыдняў...)

Магчыма, шмат для каго ў Беларусі “правы чалавека” вось у такім разуменьні зусім ня маюць сэнсу ці абсалютна неістотныя. Для мяне яны – ужо нешта такое, без чаго немагчыма нармальна дыхаць.

Мне хочацца напісаць для беларусаў, якія жывуць там, кнігу пра тое, як беларусы жывуць тут, дый наагул пра Канаду. Зусім ня ўпэўненая, ці стане ў мяне на гэта сіл і ўмельства, але калі такая кніга ўсё ж будзе напісаная, кажу адразу, што гэта будзе “апалёгія капіталізму”. Дакладней кажучы, ягонай канадыйскай вэрсіі.

“Апалёгія”, у адпаведнасьці з Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы, – гэта абарона ці ўсхваленьне, што зусім ня тоесна “некрытычнаму стаўленьню”. Каму як ні нам, імігрантам, лепш за ўсё відаць, колькі недахопаў ёсьць у

тым, як уладкаванае жыцьцё ў Канадзе, колькі ўсяго тут можна было б і трэба было б зьмяніць... Тым ня менш рэчаў і зьяваў, якія мне падабаюцца, тут, відаць, набярэцца больш. Назаву пакуль толькі тры надзвычай істотныя для мяне моманты, якія, на маю думку, уваходзяць у лік "нарожных камянёў" пабудовы канадыйскага грамадзтва. Здаю сабе справу, што іншы чалавек, магчыма, выбраў бы зусім іншыя аспэкты мясцовай рэчаіснасьці, але ж і Канада ў кожнага свая...

Першае – усё тая ж свабода выбару. Ня толькі на ўзроўні палітыкі, але й на ўзроўні чыста побытавым. Напрыклад, як апранацца. Тут можна прыйсьці, скажам, у тэатар, – у пляжных шлёпанцах, і ніхто не паглядзіць у твой бок скоса ці асуджальна. Таронта – горад настолькі шматнацыянальны, што тут носяць літаральна ўсё, і людзі звыкліся, што гэта нармальна. Сандалі на босую нагу ўзімку – нармальна. Футравыя боты ўлетку – нармальна таксама, калі табе так падабаецца. Часам, калі я заўважаю ў мэтро ці аўтобусе асабліва забаўны, на маё вока, строй, я ўзгадваю выпадак, які адбыўся са мной у Менску некалькі гадоў таму. Я папрасіла швагра завезьці мяне да знаёмага дантыста. Прыехаўшы ў дамоўлены час, швагер выказаў незадавальненьне тым, што я дагэтуль не апранутая.

– Як не апранутая? Я так і еду...

– Так ты нікуды ня едзеш. У такім выглядзе я з табой на людзі не пакажуся.

На мне была простая футболка і чыстыя шорты, зробленыя з абарваных да калена джынсаў...

– Ды я так у Таронце на працу хаджу!

– У сябе ў Таронце ты можаш хадзіць, як хочаш, а тут ты апранесься, як чалавек. Гэта прыстойны офіс, і я не хачу, каб мяне потым абгаворвалі...

Я "апраналася, як чалавек", і мне першы раз у жыцьці так нясьцерпна захацелася назад у Таронта...

Другая любімая мной рыса канадыйскай рэчаіснасьці – поўная адсутнасьць такой зьявы, як хабар. Калі штосьці павінна працаваць ад дзявятай да пятай гадзіны, яно будзе працаваць дакладна столькі, і немагчыма камусьці "даць у лапу", каб рассунуць гэтыя рамкі пэрсанальна для цябе хоць на пяць хвілін. Калі табе трэба атрымаць нейкі дакумэнт, ты будзеш стаяць у чарзе нароўні з усімі, і няма такой сілы, якая б прывяла цябе да запаветнага акенца "з чорнага ўваходу". Але наколькі лягчэй, аказваецца, жыць, калі ўсё робіцца дакладна па правілах! Памятаю, як я спрабавала давесьці гэта кватэрнаму агенту, якая ў 2004 годзе дапамагала мне прадаць кватэру ў Менску, і як яна шчыра зьдзіўлялася: "Не разумею, як можна працаваць у вашых умовах. Я магу весьці бізнэс толькі таму, што ў мяне ў любой канторы ёсьць знаёмыя, якія прапускаюць маіх кліентаў без чаргі". Паездкі зь ёй па розных інстанцыях выглядалі заўсёды аднолькава: кладзеш у дакумэнт зялёную купюрку, празь няпрацяглы час атрымліваеш патрэбную пячатку ці подпіс... І хаця такія "маленькія хітрыкі" неймаверна паскорылі працэс продажу, мне, няўдзячнай, усё роўна нашмат больш даспадобы канадыйскі варыянт. Напэўна, таму, што ў дзяржаўных установах Канады мне ніколі не сустракаліся чэргі, у якіх трэба душыцца палову сутак. Калі мне нядаўна спатрэбіўся канадыйскі пашпарт, я пасьпела здаць усе патрэбныя дакумэнты за адну гадзіну, падчас перапынку на абед...

А трэці кіт, на якім стаіць "мая Канада" – гэта, безумоўна, агульная і паўсюдная добразычлівасьць. Мне падабаецца, што людзі гавораць "добры дзень" кіроўцу, калі ўваходзяць у аўтобус, і дзякуюць яму за паездку на разьвітаньне. Мне падабаецца, што калі на вуліцы ты сустракаесься з кімсьці вачамі, той чалавек абавязкова ўсьміхнецца. Гэта нехта са зла выдумаў, што "амэрыканская ўсьмешка" – няшчырая. Ясна, што калі-нікалі яна бывае і "дзяжурнай", але значна часьцей яна ня проста сапраўдная – яна індыкатар шчырага жаданьня зрабіць другому штосьці добрае, прыемнае, нават калі табе "за гэта ня плацяць". І, далібог, такія паводзіны перадаюцца ад чалавека да чалавека значна хутчэй, чым грып. Раскажу тут толькі пра адзін выпадак, які падаецца мне красамоўным:

...Была зіма, і дзень не надаваўся для доўгіх прагулянак – пранізьлівы вецер няспынна кідаў у твар калючым сьнегам. Я стаяла на аўтобусным прыпынку, а на супрацьлеглым баку вуліцы чакала свайго аўтобуса пажылая жанчына. Пад'ехаў аўтобус у мой бок, я ўвайшла, але кіроўца чамусьці не сьпяшаўся рухацца зь месца. Ён пасыгналіў раз, другі, і калі жанчына на супрацьлеглым прыпынку зьвярнула на яго ўвагу, ён энэргічна замахаў ёй рукой, запрашаючы да сябе. Жанчына таропка, як магла, перабегла дарогу і пачала тлумачыць кіроўцу, што ёй трэба ехаць у іншы бок. "Я ведаю, але гэта ўсё роўна будзе мой аўтобус, – адказаў ёй кіроўца. – Я праеду яшчэ чатыры прыпынкі, разьвярнуся на канцавым і паеду назад. Дык навошта вам чакаць на марозе? Лепей пасядзіце ў цёплым салёне"...

...Я памятаю беларускія рэаліі яшчэ досыць добра, і мне ня трэба тлумачыць, чаму такая сытуацыя і такі кіроўца аўтобуса немагчымыя сёньня ў Беларусі. І мне вельмі-вельмі хочацца, каб калісьці хтосьці расказваў сваім сябрам пра Беларусь зь ня меншым захапленьнем, чым я расказваю цяпер пра Канаду. Ці змагу я наблізіць гэты дзень хоць на гадзіну сваімі артыкуламі – на жаль, ведаць мне ня дадзена, але я ўсё адно паспрабую.

"Рабі пільна, і тут будзе Вільна", – сьцьвярджае беларуская прымаўка. Народная мудрасьць не дае парадаў, як трэба паводзіць сябе, калі жывеш у гэтай самай "Вільні", але хочаш дапамагчы ў працы тым, хто "робіць пільна" дзесьці ў іншым месцы. Рызыкну ўзяць на сябе сьмеласьць і сьцьвердзіць, што запавет "рабіць пільна" прыкладаецца да любой сытуацыі. А ўжо ці атрымаецца ў выніку Вільня, Капэнгаген альбо новы Парыж – пабачаць нашчадкі.

Што ж датычыць уласнага беларускага кнігазбору... Ну што ж, калі ён не спатрэбіцца маім дзецям, магчыма, гадоў праз сорак ім зацікавіцца хтосьці яшчэ. Ня вельмі хочацца, каб гэта быў новы эмігрант зь Беларусі... Але не выключаю, што на той час сярод аматараў беларускай культуры могуць зьявіцца кітайцы альбо, напрыклад, палінэзійцы. Зь беларушчынай, як мы ведаем, заўсёды непрадказальна – часам яна перадаецца наступным генэрацыям вельмі загадкавымі шляхамі.



**ЛАПАТКА Якуб** нарадзіўся 16 верасьня 1944 году ў вёсцы Аўсюкова Расонскага раёну. У 1958 годзе скончыў Заборскую сямігадовую школу, а ў 1961 годзе — Казіміраўскую сярэднюю школу ў Полацкім раёне. Працаваў на будоўлі Наваполацкага нафтаперапрацоўчага заводу, скончыў ГПТВ-28 па спэцыяльнасьці сьлесар па рамонце абсталяваньня нафтаперапрацоўчых заводаў. У 1973 годзе скончыў гішпанскі факультэт Менскага дзяржаўнага пэдагагічнага інстытуту замежных моваў (зараз Лінгвістычны ўнівэрсытэт). Да 1994 году працаваў настаўнікам гішпанскай мовы ў сярэдняй школе № 5. Настаўнік вышэйшай катэгорыі.

У 1987 годзе напісаў першы такога кшталту "Гішпанска-беларуска-рускі слоўнік" для сярэдняй школы. Доўгі час ягонае саматужнае выданьне скарыстоўвалі настаўнікі гішпанскай мовы на Беларусі. Тады ж, у супольнасьці зь Міколам Буслам, была створаная і Асацыяцыя настаўнікаў гішпанскай мовы Беларусі.

З 1990 па 1994 год быў старшынём дэпутацкай камісіі па адукацыі і культуры гораду Наваполацку. За гэты час практычна ў кожнай школе былі створаныя беларускія клясы, а школа № 9 ператвораная ў школу, дзе навучаньне вялося толькі на беларускай мове. Дзеля гэтага сябры камісіі й сябры літаратурнай суполкі "Крыніцы" хадзілі па кватэрах і пераконвалі людзей аддаваць сваіх дзетак у беларускія клясы.

Апрача шматлікіх публікацый на пэдагагічныя, грамадзкія ды гістарычныя тэмы ў пэрыёдыцы СССР і Беларусі, у штогодніках "Даляглядаы" і "Братэрства", газэце "Літаратура і мастацтва", часапісе "Крыніцы" былі надрукаваныя пераклады з ангельскай, фінскай, гішпанскай ды іншых моваў.

У перакладзе з фінскае мовы на беларускую выйшла сем мастацкіх кнігаў і фінска-расейскі размоўнік.

Публікацыі па-швэцку, фінску і ангельску ў скандынаўскай прэсе.

Тры з паловаю гады працы ў Гельсынскім унівэрсытэце: два гады выкладаў беларускую мову на факультэце славістыкі і паўтары гады ў дасьледчым інстытуце імя Рэнвала, дасьледаваньні па гісторыі Расеі і Беларусі.

Некалькі гадоў працаваў у перакладчыцкім бюро.

З 2002 па 2007 гады публікацыі перакладаў у польскім штогодніку Annus Albaruthenicus, год Беларускі.

Сябра міжнароднага ПЭН-клюбу.

Сем разоў атрымліваў перакладчыцкую стыпэндыю ад міжнародных і фінскіх арганізацыяў, дзякуючы чаму і надрукаваў тры кнігі ў перакладзе зь фінскае. Зараз рыхтуецца да друку Школьны гішпанска-беларускі слоўнік, напісаны ў супольнасьці зь Міколам Буслам, настаўнікам гішпанскай мовы і выдатным лексыкографам, які ведае два ці тры дзясяткі моваў.

Напісаны дапаможнік "Граматыка фінскай мовы", але пакуль што не надрукаваны з-за адсутнасьці сродкаў, як ня выдадзеная і цалкам перакладзеная ім зь фінскае "Калевала".

# Пра “Калевалу”

Часта як аргумэнт аб непаўнавартаснасьці беларускай мовы прыводзяць довад, што няма па-беларуску ні Дон Кіхота (Фядута ў гутарцы са Скоблам), ні Ролянда, ні тэрміналёгіі. Мушу сказаць, што была ў нас выдатная сэрыя “Бібліятэка замежнай прозы”, дзе друкаваліся і францускія, і нямецкія, і ангельскія пісьменьнікі ў перакладзе таленавітых перакладчыкаў, накшталт таго ж Л. Баршчэўскага ці З. Коласа. Была і сэрыя скарбаў сусьветнай літаратуры, але ў парадку барацьбы з моваю ўсё было зьліквідавана. А пераклады паэзіі такіх – не пабаюся таго слова – геніяльных перакладчыкаў як Васіль Сёмуха ці Рыгор Барадулін? Самы глухі той, хто ня хоча пачуць.

Яшчэ часьцей кажуць пра адсутнасьць навуковай ды іншай тэрміналёгіі, і ў тым вышукваюць “недаразьвітасьць” мовы. Я скончыў школу 46 год таму. І скончыў беларускую вясковую школу, дзе расейская мова і літаратура выкладаліся як прадмет. А ўсё астатняе мы вучылі па-беларуску: і фізыку Пёрышкіна, Фалеева, Краўкліса, і алгебру з геамэтрыяй Кісялёва, і хімію – прабачце, ня памятаю аўтараў – і ўсё астатняе. І куды ж падзелася тая тэрміналёгія? І спасылаюцца на сусьветныя прыклады. А гэта ўжо, скажам так, паталягічная недасьведчанасьць.

Фінская мова стала раўнапраўнаю і правадзейнаю моваю толькі ў 1863 годзе па так званым “моўным указе” Аляксандра II, за што дагэтуль яму стаіць помнік на Сэнацкай плошчы ў Гельсынках. А да тае пары, нягледзячы на “Калевалу”, мова гэтая лічылася мужыцкай, мовай быдла, мовай, непрыдатнай ні да чаго. І довады былі такія ж: няма шэдэўраў, няма тэрміналёгіі і зноўку тое самае, што кажуць пра беларускую мову. Але тэрміналёгія – рэч нажыўная. Зараз у фінаў ёсьць свая тэрміналёгія з апораю на рэсурсы менавіта фінскай мовы, міжнародная толькі што пранікае да фінаў, але тут жа адаптуецца пад законы вымаўленьня, правапісу ды граматыкі. Тое ж самае і чэхі, якія за кароткі час стварылі сваю тэрміналёгію. Пра немцаў і казаць не даводзіцца: там нават няма слова “тэлевізар” як такога, а ёсьць “даляглядзец” – Fernseher.

Кожны год 28 лютага фіны адзначаюць дзень “Калевалы”, бо гэтым днём у 1835 годзе першае выданьне эпасу паступіла ў друкарню. Яго аддаў туды Эліяс Лёнрут (Тут патрабуецца тлумачэньне: Lonnrot – гэта швэцкае прозьвішча і чытаецца менавіта Лёнрут, у адрозьненьне ад расейскага Лёнрот. Па-беларуску тады б мусіла быць Лёнрат, але гэта задалёка ад сапраўднага гучаньня, а трансьлітарацыя перакруціць яго зусім). Наклад кнігі быў невялікі – недзе 500 асобнікаў. Гэта была скарочаная вэрсія эпасу – 12 078 радкоў. Канчатковая вэрсія “Калевалы” зьявілася ў 1849 годзе і складалася з 22 795 радкоў. Гэта была інфармацыйна-літаратурная бомба. Нямы народ раптам загаварыў мовай высокай паэзіі! І загаварыў ён дзякуючы нястомнай працы зьбіральніка народных рунаў-сьпеваў Эліясу Лёнруту (09.04.1802 – 19.03.1884). Ён нарадзіўся ў сям’і вясковага краўца. Сям’я – як гэта можна заўважыць па прозьвішчы – была швэцкамоўнаю. (Але парадокс адраджэньня фінскай мовы і заключаецца ў тым, што галоўнымі адраджэнцамі былі фінскія швэды: Рунэбэрг, Тапеліюс, Партан ды іншыя. У адрозьненьне ад расейцаў, якія жывуць у Бела-

русі, яны выступалі за роўнасьць моваў, валодалі як швэцкаю, так і фінскаю мовамі.)

Здольны хлопец змог паступіць ва ўнівэрсытэт у горадзе Турку, дзе абараніў кандыдацкую дысэртацыю па фінскім фальклёры, а пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту ў Гельсынках стаў лекарам. Але яго вабіла філялёгія, і ў прыватнасьці фальклёр. Ён пачаў зьбіраць народныя сьпевы, руны ды галашэньні яшчэ ў студэнцкую пару, вандруючы па Фінляндыі, расейскай Карэліі ды Інгерманляндыі (сучасная Ленінградзкая вобласьць). Усяго ён зрабіў 11 вандровак, падчас якіх і сабраў матэрыялы для “Калевалы”. Практычна гэта былі сюжэтна не зьвязаныя руны аб подзьвігах Вяйнямёйнена ды іншых фальклёрных герояў. Лёнрут апрацаваў запісаныя сьпевы, надаў ім сюжэтную стройнасьць і фактычна стварыў “Калевалу”.

Практычна адразу ж зьявіліся пераклады на іншыя мовы. Першы вершаваны пераклад калевальскім памерам быў зроблены на швэцкую мову ў 1850 годзе. Расейскі клясычны пераклад Лявона Бельскага зьявіўся ў 1888 годзе. Украінскі пераклад Яўгена Цімчанкі – у 1901 годзе. Наш, беларускі, крыху – на 170 год – прыпазьніўся, але гэта прамы пераклад зь фінскай мовы, у той час калі і Бельскі, і Цімчанка карысталіся мовамі-пасярэднікамі: лацінаю, францускаю, нямецкаю, расейскаю. Усяго “Калевала” перакладзеная прыкладна на 150 моваў сьвету.

Калі героямі славутых эпасаў аб Роляндзе, Нібэлюнгах, рыцарах караля Артура і г. д. зьяўляюцца каралі, герцагі, высакародныя рыцары ды паненкі, то дзейныя асобы “Калевалы” – гэта звычайны вясковы люд. І ня дзіва, бо гэтыя руны сьпяваліся не пры дварах магутных валадароў ды высакародных арыстакратаў, а ў цесных хацінах карэлаў ды фінаў, пры сьвятле лучын ды каганцоў.

Давайце кінем позірк на герояў Калевалы.

Вяйнямёйнен – мудрэц, рунапеўца, заклінальнік і чараўнік. Адначасова ён паказваецца і ня зь лепшага боку. Нібы паўлін, стары грыб распускае хвост перад дзяўчынаю і кідаецца выконваць ейныя дурныя пажаданьні, з-за чаго трапляе ў бяду і ледзь не сыходзіць крывёю. А яго ж папярэджвалі: не глядзі на тую дзеўку – трапіш у бяду! Куды там! А потым зноў жа з-за ягонай упэўненасьці, што ўсе дзеўкі яго любяць, гіне няшчасная Айна. І малы хлопчык у апошняй, 50-й, руне кажа яму аб тым:

Гэй, старэча, безгаловы,
неразумец ты бязглузды,
ты дурны прамовіў вырак,
хібна звычай патлумачыў!
Цябе за дурныя дзеі
ды за большыя правіны
ўсё ж ня кінулі ў балота,
не разьбілі голаў палкай,
хаця ты у маладосьці
прадаў брата у няволю,
бо хацеў уратавацца,
выкупіцца сам зь няволі.
І пазьней цябе ня зьнесьлі,
не закінулі ў балота,

хаця ты у маладосьці
маладых тапіў паненак,
у марскіх глыбокіх хвалях,
пад вадой у чорнай твані!”

Леммінкяйнен – гэта нахабны хвалько, задзірака і бабнік. Незапрошаны ён зьяўляецца на сьвята, пачынае бойку і ... атрымлівае напоўніцу. Толькі маці сваёй любоўю выцягнула яго зь пекла Туанелы. Хоць яго таксама прасілі ня лезьці куды ня сьлед. Ён злуецца, што жонка схадзіла на вёску і там крыху павесялілася з іншымі жанчынамі. А сам ён у той час бадзяўся немаведама дзе.

Ілмарынен – каваль-майстра, лепш за якога няма на сьвеце. І адначасова – баязьлівец. У цяжкі момант замест таго, каб сьмела біцца, ён галосіць, што дарэмна згадзіўся паехаць на гэтай лодцы ў паход.

Ды і сам паход у Пох’ялу па Сампа нагадвае звычайны рэкет. Ілмарынен скаваў гэтае Сампа для гаспадыні Пох’ялы, Лоўхі, у якасьці калыму за дзеўку. Яму чэсна аддалі дзяўчыну ў жонкі. І ўсё, квіты. Не, героі сабраліся і падаліся адбіраць чароўны млын. А зь якіх такіх жалудоў Лоўхі павінна была зь імі дзяліцца? Яна ж разьлічылася з кавалём. Не, давай дзяліцца, а то забярэм усё. У выніку – нікому нічога, Сампа разьбіваецца і патанае ў моры.

Жонка Ілмарынена – дачка Лоўхі. Паганая вясковая кабета. Ні за што зьдзеквалася з Кулервы, падсунула хлопцу камень замест хлеба на полудзень, вось і атрымала ў адказ: той нацкаваў на яе мядзьведзя.

Ёўкахайнен. Хвалько, балбатун і зайздросьнік. Яму не дае спакою слава Вяйнямёйнена. А потым, каб уратавацца, ён абяцае аддаць сваю сястру ў жонкі старому рунапеўцу. А той і рады. А на справе дзеўка ўтапілася, каб толькі не ісьці замуж за дзеда. Але Ёўкахайнен – як, дарэчы, і Вяйнямёйнен – сябе вінаватым ня лічыць. Ён помсьціць Вяйнямёйнену, хаця маці ўгаворвае яго не рабіць гэтага.

Вось вам шэраг тыповых вясковых жыхароў. На мой погляд, яны больш зразумелыя людзям паспалітым, чым Ролянд з кампаніяй. Я сам вырас у вёсцы, жыў вясковым жыцьцём і да 16 гадоў іншага і ня ведаў. Таму, напэўна, мне было, не скажу лёгка, але больш зразумела вясковая канва эпасу. Апрача таго, там маюцца дэталі, якія проста невядомыя сучаснаму перакладчыку, жыхару гораду. Хто з маладых скажа, што такое супонь або гужы? Якая розьніца паміж сядлом і сядзёлкай? Я не кажу, добра гэта ці дрэнна. Так яно ёсьць, і нічога не памяняецца ад майго асуджэньня або пахвалы. Проста мне лепш вядомае вясковае жыцьцё і вясковая праца, што ў значнай меры аблегчыла мне пераклад.

Ня буду апранаць беларускую вышыванку ды абвязваць лоб бел-чырвона-белай стужкай. Гадоў да сарака лёс беларускай мовы не турбаваў мяне. Часам ва ўспамінах людзі пішуць з жалем, болем, з крыўдаю і нават з пагардаю, што вясковыя хлопцы, трапіўшы ў горад, стараліся пазбыцца вясковага вымаўленьня, цураліся ўсяго беларускага і не падтрымлівалі “змагароў”. Таму ёсьць разумнае тлумачэньне. Пакуль нашыя гарадзкія аднагодкі слухалі джаз ды гулялі ў валасатую Фронду, нам, вясковым мальцам, было не да таго. Вясковае жыцьцё ў тыя часы – гэта практычна жыцьцё пры натуральнай гаспадарцы. У краме бралі галоўным чынам газу для лямпаў, цукар, соль. Верхам радасьці была скамянелая на складзе пячэніна. (Я, дарэчы, быў бязьмежна зьдзіўлены, што ёсьць мяккае пячэньне, калі ўпершыню трапіў у Полацак.) А такое жыцьцё вы-

магала цяжкой бясконцай працы. І мы ад шасьці гадоў уключаліся ў, так бы мовіць, вытворчы працэс: пасьвілі кароў, даглядалі коней, вучыліся хадзіць за плугам, касіць, назапашвалі дровы на зіму. А гэта зусім ня тое, што паездка "на бульбу", калі, адпрацаваўшы шэсьць гадзін у полі, гарадзкія падлеткі пад "струнный звон" сьпявалі аб сваёй цяжкой долі і аб тым, як мужна яны пераўжываюць адсутнасьць унітазаў.

І зьвязанае такое жыцьцё для нас было менавіта зь вёскаю, зь беларускаю моваю, з насьмешкамі гарадзкіх валуёў над нашым вымаўленьнем.

Шаснаццацігадовым падлеткам я прыйшоў на будаўніцтва Наваполацкага нафтаперапрацоўчага заводу. Вядома ж, чорнарабочым. Але сялянскае жыцьцё прывучыла мяне да цяжкой працы, а вось тое, што пасьля шасьці гадзінаў працы на будоўлі я быў вольны, і родная будоўля да заўтрашніх васьмі гадзінаў магла праваліцца скрозь зямлю – гэта было нязвычна. Можна было чытаць, вучыцца, бегаць за дзеўкамі – каму што падабалася, а падабалася ўсё.

Я не цікавіўся станам беларускай мовы, хаця чытаў і Караткевіча, і Быкава, і Барадуліна, карацей, ня грэбаваў мовай і лічыў, што ўсё тут у парадку, мы квітнеем пад сонцам сацыялістычнай радзімы. Маё пераўтварэньне з Саўлы ў Паўлу ў васьмідзясятых гадох мінулага стагодзьдзя арганізавалі два чалавекі: Уладзімер Арлоў і Сяргей Сокалаў-Воюш. Арлоў быў тады намесьнікам рэдактара наваполацкай гарадзкой газэты "Хімік", а Сяргей (тады яшчэ проста Сокалаў) працаваў са мною ў адной школе. Ня ведаю, хто быў болей зьдзіўлены – Сяргей, калі ў адказ на сваю беларускую гаворку пачуў ад мяне беларускую мову, ці я, калі пачуў беларускую гаворку ад Сяргея.

Потым былі "Крыніцы" – літаратурнае аб'яднаньне пры газэце. Рэй там вялі беларускамоўныя творцы: У. Арлоў, С. Сокалаў-Воюш, І. Жарнасек, В. Мудроў ды шмат іншых добрых дзяўчат і хлопцаў, адданых роднай мове і справе яе адраджэньня ў Беларусі. Па нядзольнасьці маёй да прыгожага пісьменства хлопцы скіравалі мяне на пераклады. Паводле дыплёму Менскага інстытуту замежных моваў я – "гішпанец" і "ангелец". Апрача таго, займаўся рознымі іншымі мовамі: францускаю, нямецкаю, баўгарскаю ды яшчэ некалькімі. Вось я ўзяўся перакладаць. Але мая перакладчыцкая манаполія цягнулася нядоўга. У хуткім часе на "Крыніцы" завітаў малады выкладчык Наваполацкага політэхнічнага інстытуту Лявон Баршчэўскі. Ягоная незвычайна шырокая эрудыцыя, добразычлівасьць і старасьвецкая ветлівасьць прыйшліся нам вельмі даспадобы. І, вядома ж, мы зь ім пасябравалі, дый як не пасябраваць двум перакладчыкам, двум выпускнікам Менскага іняза? Зь ягонай падачы я і ўзяўся за фінскую мову. Аргумэнты на яе карысьць былі простыя, як граблі: "гішпанцаў", "немцаў" ды іншых "эўрапейцаў" і безь цябе замнога. А вось "фінаў" практычна няма. На жаль, я і дагэтуль застаюся адзіным беларускім перакладчыкам зь фінскае мовы.

У той час якраз пачынаўся ўздым – на жаль, вельмі кароткачасовы – беларускага мастацкага перакладу. Выходзілі "Далягляды" і "Братэрства", "Ветразь" – штогоднікі замежнай літаратуры і літаратуры народаў СССР, выходзіла "Бібліятэка замежнай прозы", бібліятэчка "Паэзія народаў сьвету", арганізоўвалася бібліятэка "Скарбаў сусьветнай літаратуры". І трэба зазначыць, што якасьць перакладаў была на вельмі высокім узроўні, бо надзейным фільтрам ад халтуры быў геніяльны беларускі перакладчык Васіль Сёмуха, які працаваў тады ў рэдакцыі замежнай літаратуры выдавецтва "Мастацкая літарату-

ра”. Я дагэтуль удзячны яму за тыя даволі рэзкія заўвагі ў мой адрас, якія ён рабіў пры рэдагаваньні маіх перакладаў.

На зьдзіў, такія зубры перакладу як Васіль Сёмуха, Рыгор Барадулін, Карлас Шэрман не рабілі перашкодаў нам, правінцыйным пачаткоўцам, наадварот. Зь лёгкай рукі Рыгора Барадуліна я некалькі разоў езьдзіў у камандзіроўкі ў Карэлію, хаця і ня быў сябрам беларускага Саюзу пісьменьнікаў.

Тады я і пачаў прыглядацца да “Калевалы”. Але шчасьлівы зьбег абставінаў ня даў мне ўзяцца за яе дваццаць гадоў таму. Тады я пераклаў адную руну, і зараз бачу, які гэта быў слабы, недарэчны пераклад. Нават сваю першую кнігу, якую я пераклаў у супольнасьці з У. Арловым, зараз я перакладаў бы зусім іначай. Нездарма Карлас Шэрман даў нам зь Лявонам Баршчэўскім даслоўна такую параду: “Хлоцы, зрабіце пераклад і пакладзіце яго на паўгода пад сраку. А потым перачытайце і самі ўбачыце ўсе свае хібы”.

З тае пары я выдаў сем кнігаў фінскіх аўтараў, браўся і пераклаў дванаццаць разьдзелаў Дон Кіхота, а “Калевала” сядзела ў маёй сьвядомасьці, як цьвік у боце. Я падступаўся да яе і зноў адыходзіў зьняможаны, але пацíху нешта пачало атрымоўвацца. Праца з “Калевалаю” заняла ў мяне два з паловай гады.

# Руна трыццаць трэцяя

*Кулерва пасе статак. Ён зьбіраецца павячэраць, дастае хлеб і пачынае рэзаць. Нож ламаецца аб запечаны ў хлебе камень. Гэта вельмі засмучае яго, асабліва таму, што гэты нож быў адзіным напамінкам ад свайго роду(1 – 98). Раззлаваны, ён вырашае адпомсьціць гаспадыні і заганяе статак у балота, а замест яго зьбірае воўчую зграю і мядзьведзяў. Такі статак ён прыганяе дадому (99 – 184). Гаспадыня ідзе даіць кароў, і дзікія зьвяры забіваюць яе, разрываючы на шматкі (165 – 296).*

Калервы сын, Кулервойнен,
хлеб паклаў у сваю кайстру
і пагнаў кароў балотам,
сам пайшоў сасновым лесам.
Ідучы, ён так прамовіў,
словы вымавіў такія:
“Вох, няшчасны я хлапчына,
бедалага я бяздольны!
Вось куды мяне занесла,
завялі шляхі-дарогі,
за хвастом хадзіць бычыным,
за цялятамі цягацца,
валачыцца па балотах,
па глухіх бадзяцца нетрах!”
Сеў на купіну гаротнік,
сеў на сонечным прыгорку,

засьпяваў такую песьню,
выказаў жаданьні ў сьпевах:
“Грэй мяне, Божае сонца,
саграваай, клубочак Божы,
кавалёвага падпаска,
пастуха ягоных статкаў,
ня грэй хату кавалёву,
не сьвяці ягонай жонцы!
Жыве добра гаспадыня,
хлеб пшанічны наразае,
пірагі жуе бясконца,
ды намазвае іх маслам.
А пастух бярэ хлеб чэрствы,
чорную грызе скарынку,
давіцца ён чорным хлебам,
што з аўсянаю мякінай
ды з нарэзанай саломай,
напалам з карой сасновай.
Чэрпае ваду бяростай,
ён з-пад купіны балотнай.
Пасьпяшайся, Божы часе,
сонейка, хутчэй садзіся!
Ты зайдзі за ельнік, сонца,
хлебным боханам скаціся,
ты схавайся за ядлоўцам,
за алешнік закаціся,
каб пайшоў пастух дадому
ды паеў бы хлеба з маслам,
сьвежага наеўся ўволю,
зь пірагоў дастаў сяродку!”

Жонка Ілмары тым часам,
пакуль пастушок той мроіў,
сьпяваў песьню Кулервойнен,
вычысьціла зь міскі масла,
зьела з маслам хлеб ячменны,
зьела зь пірагоў сяродку;
Кулерву ж – адну зацірку
ды халодную капусту;
адтуль тлушч зьлізаў сабака,
чорны тлушч увесь падчысьціў,
шэры добра падкарміўся,
наеўся рабы дасхочу.

Прасьпявала птушка з гаю,
з-за куста малая пташка:
“Час рабу настаў паесьці,
паабедаць сірацінцы”.

Калервы сын, Кулервойнен,
пазірнуў на цень ад сонца
і сказаў такія словы:
“Так, прыйшла пара паесьці,
надыйшоў час паабедаць,
пашукаць харчоў у сумцы”.

Адпачыць прыгнаў ён статак
на паляну сярод лесу,
сам на купіну усеўся,
на зялёны бугарочак.
Кайстру са сьпіны ён скінуў,
хлеб дастаў, каб паабедаць,
пакруціў яго, агледзеў
і сказаў такія словы:
“Зьверху часта хлеб прыгожы,
гладкая ў яго скарынка,
ды ў сярэдзіне абсеўкі
напалам з карой сасновай”.
Выцягнуў свой ножык з похваў,
каб адрэзаць лусту хлеба,
ды наткнуўся нож на камень,
аб каменьчык ён ударыў –
лязо вострае адляцела,
разьляцеліся абломкі.

Калервы сын, Кулервойнен,
паглядзеў на нож зламаны
і пачаў няўцешна плакаць,
словы вымавіў такія:

“Нож мне братам быў адзіным,
быў адзінаю уцехай,
ён ад бацькі мне дастаўся,
бацька ім раней валодаў,
ды зламаў я нож бацькоўскі,
лязо вострае патрушчыў,
аб каменьчык, што ў хлеб мне
запякла ліхая баба!
Як за зьдзек такі адпомсьціць,
як за кпіны расплаціцца,
заплаціць за хлеб паскудны,
сьпечаны распуснай бабай?

Голасна груган пракаркаў,
пракрычаў крумкач з галінкі:
“Гэй ты, залатая спражка,
Калервы сынок адзіны!

Ты чаму такі журботны,
чаму плачаш так няўцешна?
Выламай дубец у лесе,
сук зь бярозы у лагчыне,
загані кароў у багну,
бруднаногіх у балота,
дай ваўкам палову статку,
а палову – касалапым!
Ты згані ваўкоў у статак,
загані у гурт мядзьведзяў!
Хай ваўкі гавядай стануць,
і каровамі мядзьведзі.
Іх гані дамоў, як статак,
як худобу на падворак!
Так адпомсьціш ты за зьдзекі
ды за кпіны лютай бабы".

Калервы сын, Кулервойнен,
словы вымавіў такія:
"Дык чакай, дзіцё распусты!
Калі па нажу я плачу,
ты ня так яшчэ паплачаш,
па каровах пабядуеш!"
Адламаў лазіну ў лесе,
выламаў дубец зь ядлоўцу,
ўсіх кароў загнаў у багну,
а быкоў – у бураломы,
каб ваўкі палову зьелі,
касалапыя – палову.
Ён зрабіў з ваўкоў цялушак,
нарабіў кароў зь мядзьведзяў,
так зьвяры гавядай сталі,
як худоба, мірным статкам.

Сонца ўжо ішло за поўдзень
ўжо хілілася на вечар,
на вяршыні елак села,
час настаў даіць каровак.
Раззлаваны бедалага,
Калервы сын, Кулервойнен,
пагнаў з поля касалапых,
воўчы статак на падворак.
Навучаў ён так мядзьведзяў,
так цкаваў ваўкоў калматых:
"Разьдзярыце бабе сьцёгны,
лыткі бабе пакусайце,
калі прыйдзе да загону
ды кароў даіць прысядзе!"

З косьці ён зрабіў жалейку,
рог зрабіў з рагоў бычыных,
дудачку з касьцей каровы,
для дуды узяў галёнку.
Вось падзьмуў ён у жалейку,
ў пастуховы рог зайграў ён
на гары ля дому тройчы,
шэсьць разоў каля прагону.

Ілмарынена кабета,
кавалёва гаспадыня,
малака даўно чакала,
летняга хацела масла.
Вось пачулася жалейка,
даляцела зь лесу рэха,
гаспадыня так сказала,
словы мовіла такія:
“Дзякуй табе, сьветлы Божа!
Грае дудка, блізка статак!
Дзе узяў той раб жалейку,
з чаго дудачку зрабіў ён,
што ідзе і гучна грае,
моцна дзьме у рог бычыны,
так дудзіць, што рвуцца вушы,
боль мазгі мне працінае?”

Калервы сын, Кулервойнен,
у адказ так прамовіў:
“Раб знайшоў ражок у багне,
дудачку падняў з балота.
Увесь твой статак недалёка,
у загоне ўсе каровы,
распалі агонь-куродым
ды ідзі даіць каровак”.

Ілмары тут гаспадыня
загадала так служанцы:
“Ты ідзі даіць каровак,
даглядаць ідзі гавяду,
бо сама я не пасьпею,
трэба цеста яшчэ ставіць”.

Калервы сын, Кулервойнен,
вымавіў такія словы:
“Усе руплівыя жанчыны,
усе разумныя кабеты,
самі ўсе кароў даілі
ды хадзілі за гавядай”.

Ілмары тут гаспадыня
распаліла агонь дымны
і пайшла даіць каровак.
Статак пільна азірнула,
усю агледзела худобу,
словы мовіла такія:
“Добра выглядае статак,
гладкія бакі ў каровак,
нібы футра у той рысі,
як лясной авечкі воўна,
вымя малаком набухла,
малаком саскі сьцякаюць”.

Вось з даёнкаю прысела,
пачала даіць карову.
Тузанула раз, другі раз,
а як трэці пацягнула,
воўк схапіў яе зубамі,
шкуматаць мядзьведзь узяўся.
Твар балюча воўк падрапаў,
пакусаў мядзьведзь ёй лыткі,
косьці паламаў у сьцёгнах,
адкусіў жанчыне пяткі.

Калервы сын, Кулервойнен,
так адпомсьціў ёй за зьдзекі;
за той бабскі сьмех ды кпіны,
адплаціў раб гаспадыні.

Ілмарынена кабета
тут заплакала уголас,
словы мовіла такія:
“Што ты нарабіў, нягоднік!
Ты прыгнаў у хлеў мядзьведзяў
ды ваўкоў у двор ля хаты!”

Калервы сын, Кулервойнен,
у адказ ёй мовіў словы:
“Дрэнна, як пастух зрабіў я,
ты ж, як гаспадыня – брыдка!
Запякла ў хлеб мне камень,
глыж каменны дала ў хлебе:
аб той глыж зламаў я ножык,
я зламаў свой нож аб камень!
Нож ад бацькі мне застаўся,
роду нашага ўспамінак!”

Гаспадыня так сказала:
“Гэй ты, пастушок мой любы!
Павярні свае ты думкі,
забяры назад закляцьце,
уратуй ад воўчай пашчы,
вызвалі зь мядзьведжых кіпцяў!
Лепшыя аддам кашулі,
дам табе штаноў прыгожых,
будзеш есьці хлеб ды масла,
запіваць іх сырадоем,
працаваць ты год ня будзеш,
два гады карміцца ўволю.
Як мяне не уратуеш,
з кіпцюроў мяне ня вырвеш,
лютай сьмерцю я загіну,
я сырой зямлёю стану!”

Калервы сын, Кулервойнен,
у адказ ёй так прамовіў:
“Памірай сабе хутчэй ты,
хай хутчэй прыйдзе пагібель!
Месца пад зямлёю хопіць
для памерлых там, у Калме,
там і моцныя палеглі,
ўсе магутныя ляжаць там”.

Мовіла тут гаспадыня:
“Гэй ты, Укка, бог вярхоўны!
Ты напні свой лук магутны,
зброю грозную вазьмі ты,
ускладзі стралу на жылу,
медную на лук агнёвы!
Вогненнай цаляй стралою,
медную пусьці штосілы,
хай яна пад пахай пройдзе,
хай праб’е яму лапатку.
Калервы сына звалі ты,
хай загіне тут нягоднік,
ад стралы меднакаванай,
з наканечнікам сталёвым!”

Калервы сын, Кулервойнен,
сам сказаў такія словы:
“Гэй ты, Укка, бог вярхоўны!
Не ў мяне цаляй стралою!
Ты цаляй у гэту бабу,
горшую з жанчын у сьвеце,

каб ня зрушылася зь месца,
каб адразу тут сканала”.

Ілмары тут гаспадыня,
кавалёва жонка, упала,
як з катла спадае сажа;
мёртваю на гэтым месцы,
у двары ля самай хаты,
на сваім падвор’і вузкім.
Так памерла маладзіца,
так загінула красуня,
А чакалі яе доўга,
цэлых шэсьць гадоў шукалі,
Ілмарынену на радасьць,
кавалю дзеля пашаны.

## Руна трыццаць сёмая

*Ілмарынен бядуе і аплаквае сваю жонку, а потым куе сабе з золата і срэбра неадушаўлёную жонку (1 – 162). Ён кладзе гэтую неадушаўлёную жонку да сябе ў ложак, але адчувае, што той бок, якім ён датыкаўся да залатой статуі, зьледзянеў (163 – 196) Ілмарынен прапануе залатую жонку Вяйнямёйнену, але той адмаўляецца і раіць кавалю накаваць зь яе якіх-небудзь карысных рэчаў або адвезьці ў тыя краіны, дзе жаніхі прагнуць золата (197 – 250).*

Той кавальнік Ілмарынен
увесь час па жонцы плакаў,
плакаў усю ноч бяссонна,
увесь дзень бязь ежы плакаў,
плакаў досьвіткам няспынна,
з раньня жальбаваў да поўдня,
што няма ягонай жонкі,
што загінула красуня.
Ён ня мог узяць у рукі
молат зь меднай рукаяткай,
не зьвінела там каваньне,
зь месяц звон не раздаваўся.

Ілмарынен так прамовіў:
“Я ня ведаю, няшчасны,
што рабіць і як жыць далей,
я даўно ня сплю начамі,
цяжка мне, чарнеюць думы,
таюць сілы, моц сыходзіць.

Мне увечары маркотна,
і журботна мне ўраньні,
па начах яшчэ маркотней,
ранкамі журба зьядае.
Мне начэй гэтых ня шкода,
і ня шкода гэтых ранкаў,
не па тых часах сумую,
я сумую па красуні,
па жаданай жонцы плачу,
па сяброўцы чарнабровай.
У росквіце гадоў мужчынскіх,
я, гаротны небарака,
вельмі часта сярод ночы
ложак мацаю спусьцелы
мацаю рукой паветра,
ды няма нікога побач".

Так бяз жонкі жыў кавальнік,
пастарэў ён безь сяброўкі.
Плакаў месяц, другі, трэці,
а калі настаў чацьвёрты,
золата набраў ён з мора,
срэбра назьбіраў па хвалях,
навазіў касьцёр вялізны,
дроў прывёз саней мо трыццаць,
выпаліў з тых дроў вугольля,
высыпаў вугольле ў горан.
Золата узяў кавальнік,
ды кавалак срэбра ўзяў ён
ростам з позьняга ягняці,
або зайчаня узімку.
Кінуў золата у горан,
срэбра ён туды закінуў,
да мяхоў рабоў паставіў,
гэткіх парабкаў падзённых.
Паддзімаць рабы ўзяліся,
з усяе працуюць моцы,
рукавіцы паскідалі,
агалілі нават плечы.
Сам кавальнік Ілмарынен,
перамешваў там вугольле,
чакаў залатую дзеву,
срэбную чакаў нявесту.
Ды нядбайна працавалі,
паддзімалі рабы слаба.
Сам кавальнік Ілмарынен
ля мяхоў за працу ўзяўся.
Раз падзьмуў, падзьмуў другі раз,

а за трэцім разам глянуў,
зазірнуў каваль у горан,
у палаючую бездань:
што там з горана выходзіць,
з полымя што там узьнікла?
Выйшла з горана авечка
проста з полымя ўзьнікла,
воўнай срэбнаю пакрыта,
залатой ды меднай поўсьцю.
Дзіву ўсе даліся людзі,
ды быў сумны Ілмарынен.
Ілмарынен так прамовіў:
“Ваўкам гэта на патрэбу!
Срэбную чакаў я жонку,
чакаў залатую дзеву!”

Тут кавальнік Ілмарынен
у агонь авечку кінуў.
Дадаў золата у горан,
срэбра ў полымя падкінуў,
да мяхоў рабоў паставіў,
гэткіх парабкаў падзённых.
Паддзімаць рабы ўзяліся,
з усяе працуюць моцы,
рукавіцы паскідалі,
агалілі нават плечы.
Сам кавальнік Ілмарынен,
перамешваў там вугольле,
чакаў залатую дзеву,
срэбную чакаў нявесту.
Ды нядбайна працавалі,
паддзімалі рабы слаба.
Сам кавальнік Ілмарынен
ля мяхоў за працу ўзяўся.
Раз падзьмуў, падзьмуў другі раз,
а за трэцім разам глянуў,
зазірнуў каваль у горан,
у палаючую бездань:
што там з горана выходзіць,
з полымя што там узьнікла?
Выбег з полымя жарэбчык,
конь гарачы, конь агністы,
срэбнагрывы, залацісты,
капыты з чырвонай медзі.
Дзіву ўсе даліся людзі,
ды быў сумны Ілмарынен.
Ілмарынен так прамовіў:
“Ваўкам гэта на патрэбу!

Срэбную чакаў я жонку,
чакаў залатую дзеву!”

Тут кавальнік Ілмарынен
жарабка у горан кінуў.
Дадаў золата у горан,
срэбра ў полымя падкінуў,
да мяхоў рабоў паставіў,
гэткіх парабкаў падзённых.
Паддзімаць рабы ўзяліся,
з усяе працуюць моцы,
рукавіцы паскідалі,
агалілі нават плечы.
Сам кавальнік Ілмарынен,
перамешваў там вугольле,
чакаў залатую дзеву,
срэбную чакаў нявесту.
Ды нядбайна працавалі,
паддзімалі рабы слаба.
Сам кавальнік Ілмарынен
ля мяхоў за працу ўзяўся.
Раз падзьмуў, падзьмуў другі раз,
а за трэцім разам глянуў,
зазірнуў каваль у горан,
у палаючую бездань:
што там з горана выходзіць,
з полымя што там узьнікла?
Выйшла з горана дзяўчына,
з залатымі валасамі
ды са срэбранай галоўкай,
прыгажосьці незвычайнай,
аж спалохаліся людзі.
Ілмарынен не збаяўся.
Працаваць каваль узяўся
над выявай залатою,
ноч каваў бесьперапынна,
дзень спачынку ён ня ведаў.
Ногі ён скаваў дзяўчыне,
выкаваў дзяўчыне рукі,
ды хадзіць ня могуць ногі,
рукі абдымаць ня могуць.
Вушы выкаваў дзяўчыне,
ды ня чуюць тыя вушы.
Вочы ёй зрабіў і вусны
прыгажосьці непаўторнай,
ды бяз слоў нямеюць вусны,
глядзяць вочы без пачуцьцяў.
Каваль Ілмарынен мовіў:

“Была б дзева прыгажуняй,
калі б гаварыць умела,
каб мела душу ды мову”.
Ён панёс красуню-дзеву
за той полаг каля ложку,
на пуховыя падушкі,
на ядвабны мяккі ложак.

Вось кавальнік Ілмарынен
напаліў да жару лазьню,
лазьню мыльную наладзіў,
венікаў прынёс духмяных,
нанасіў вады тры цэбры,
каб памыўся зяблік любы,
змыла птушачка дачыста
залаты прыгар той зь цела.
Парыўся й каваль дасхочу,
удосталь там каваль намыўся.
Лёг каваль зь дзяўчынай побач,
на пуховую пярыну,
там, за полагам, на ложак
са сталёвымі нагамі.
Сам кавальнік Ілмарынен
той жа самай пешай ноччу
захацеў цяплей накрыцца,
прынёс гунькі ды прасьціны,
дзьве ці тры мядзьведжых шкуры,
коўдраў з воўны назапасіў,
уначы каб не замерзнуць
побач з жонкай залатою.
Ён сагрэўся з таго боку,
што пад коўдрамі хаваўся,
а другі бок, побач зь дзевай,
каля залатой нявесты,
стыў, нібыта ў люты холад,
грудай халадзеў лядовай,
ледзянеў марскою крыгай,
камянём халодным стынуў.
Тут прамовіў Ілмарынен:
“Гэта мне не падыходзіць!
Завязу яе да Вяйнё,
хай яму сяброўкай будзе,
жонкай будзе векавечнай,
любым куранём пад бокам”.

У Вяйнялу павёз дзяўчыну,
а калі туды прыехаў,
словы вымавіў такія:

“Гэй ты, мудры Вяйнямёйнен!
Я прывёз табе дзяўчыну,
прыгажуню табе ў жонкі,
добрая будзе кабета,
слова лішняга ня скажа”.
Стары мудры Вяйнямёйнен
паглядзеў на тое дзіва,
на выяву залатую,
і такія словы мовіў:
“А навошта ты прывёз мне
залатое страхалюдзьдзе?”
Адказаў так Ілмарынен:
“Я дабра табе жадаю!
Будзе добраю кабетай,
любым куранём пад бокам”.
Стары Вяйнямёйнен мовіў:
“Гэй, каваль, мой братка любы!
Кінь у полымя дзяўчыну,
нарабі прыгожых рэчаў.
Альбо завязі ў Расію,
ці ў Нямеччыну дзяўчыну,
хай багатыя зьбягуцца,
знатныя сваты хай наедуць.
Непрыстойна ў нашым родзе,
непрыстойна мне, старому,
сватаць залатую дзеўку,
браць сярэбраную ў жонкі”.

Даў наказ тут Вяйнямёйнен,
забарону муж патокаў
падрастаючаму люду,
маладым усім героям,
перад золатам схіляцца,
саступаць дарогу срэбру.
Ён такія словы мовіў,
выказаў такія думкі:
“Гэй вы, хлопцы-небаракі,
вы, героі маладыя,
жаніхі з заможных хатаў,
ці зь бядняцкіх гаспадарак,
на сваім вяку ніколі,
пакуль сьвеціць месяц ясны,
не бярыце залатую,
срэбную дзяўчыну ў жонкі!
Бляск у золата марозны,
срэбра сьцюжай патыхае”.

# Руна сорак сёмая

*Вяйнямёйнен грае, і месяц, а потым сонца, спускаюцца зь неба, каб паслухаць цудоўную музыку, але гаспадыня Пох'ялы, старая Лоўхі, зачыняе іх у пячоры і выкрадае з Калевалы ўвесь агонь (1 – 40). Галоўны бог Укка дрэнна пачувае сябе безь цяпла ды сьвятла, а таму выкрасае агонь для новых месяца і сонца (42 – 82). Агонь падае на зямлю, і Вяйнямёйнен з Ілмарыненам выпраўляюцца на пошукі (83 – 126). Ілматар, дзева паветра, расказвае ім, куды дзеўся агонь: яго праглынула рыбіна ў возеры (127 – 312). Героі спрабуюць злавіць рыбіну нератам, але марна (313 – 364).*

Стары мудры Вяйнямёйнен
усё на кантэле іграе,
ён іграе ды сьпявае,
радуе ўсё навакольле.

Паляцелі сьпевы ў неба,
сонца й месяц іх пачулі.
Выйшаў месяц і усеўся
на сагнутую бярозу,
сонейка з палаца выйшла,
на вяршыню сасны села
кантэле ігру паслухаць
ды парадавацца сьпевам.

Лоўхі, гаспадыня Пох'і,
рэдказубая старая,
тут жа ухапіла сонца,
месяц узяла рукамі,
сонейка з сасны зваліла,
месяц скінула зь бярозы,
і дамоў сабе панесла
ў Пох'ялу, краіну змроку.
Там схавала сьветлы месяц
пад стракатаю скалою;
у стальной скале высокай
закляла замовай сонца,
словы мовіўшы такія:
"Не засьвеціцца у небе,
болей не узыйдзе месяц,
ды і сонца не засьвеціць,
пакуль іх забраць адгэтуль
не прыеду на запрэжцы
ў дзевяць коней цягавітых,
жарабят адной кабылы!"
Так яна схавала месяц,

сонца гэтак захавала,
ў чэраве каменным Пох'і,
у скале жалезнаруднай.
Пасьля гэтага адразу
зь Вяйнёлы агонь украла,
каб цяпла ня стала ў хатах,
не было сьвятла ў хацінах.

Ноч бясконцая настала,
беспрасьветная, даўгая,
Вяйнёлу ўсю ахінула,
ўсе хаціны Калевалы.
Цемра агарнула неба,
затапіла хату Уккі.
Цяжка без агню жывецца,
цяжка і у вечнай цемры,
зажурыліся ўсе людзі,
нават Укка зажурыўся.
Укка, гэты бог вярхоўны,
Творца існага нябесны,
сам дзівіўся той праяве.
Ён разважыў і падумаў,
што закрыла сьветлы месяц,
што там сонца засланіла,
і чаму ня сьвеціць месяц,
чаму сонейка ня грэе.
Краем хмары ён пакрочыў,
па нябеснаму ускрайку,
у сваіх шкарпэтках сініх,
у стракатых чаравіках;
месяц ён шукаць падаўся,
сонейка шукаць у небе,
не знайшоў у небе месяц,
сонца не знайшоў таксама.
Высек іскру ў небе Ўкка,
полымя жывое выбіў,
вогненным лязом магутным,
паласой агністай сталі.
Ногцямі агонь той выбіў,
пальцамі здабыў пякучы,
у высокай частцы неба,
каля зорнай агароджы.
І калі агонь здабыў ён,
то схаваў яго у сумку,
у кашэль золатам шыты,
у сярэбраную торбу.
Іскру ён аддаў дзяўчыне,
каб люляла яе дзева,

каб радзіўся новы месяц,
сонца новае ўзьнялося.

Дзева на высокай хмары,
панна каля небакраю,
гэту іскру калыхала,
сіні гушкала агеньчык,
у залочанай калысцы,
на сярэбраных тасёмках.
Жэрдка срэбная рыпела,
калыхалася калыска,
грымнула грымотай хмара,
дах нябесны пахіснуўся:
так люляла тую іскру,
залацісты той агеньчык.
Калыхала дзева іскру,
закалыхвала агеньчык,
лашчыла яго у пальцах,
песьціла яго ў далонях,
ды ўпусьціла з рук, дурная,
бесталковая, агеньчык.
Упусьціла яго нянька,
у руках не утрымала.
Раскалоліся нябёсы,
расчынілася паветра,
бліснула маланкай іскра,
кропелька агню зьляцела,
плесканулася з вышыняў,
хмары навылёт прабіла,
працяла дзевяць нябёсаў
ды шэсьць покрывак стракатых.

Стары Вяйнямёйнен мовіў:
“Гэй, кавальнік Ілмарынен!
Пойдзем паглядзім з табою,
паглядзім ды распытаем,
які там агонь зваліўся,
полымя сыйшло якое,
з самай вышыні нябеснай
на зямлі нашай нізіны,
ці то месяца кружочак,
ці то сонейка акрайчык?”
І пайшлі двое герояў,
ідучы ўсё меркавалі,
якім шляхам карацейшым
ім дабрацца да мясьціны,
дзе упала тая іскра,
тое полымя зьляцела.

Трапілася па дарозе
рэчка з мора шырынёю.
І узяўся Вяйнямёйнен
лодку будаваць у лесе,
човен будаваць узяўся.
А кавальнік Ілмарынен
выразаў стырно зь яліны
ды сасновых вёсел пару.
Вось была гатова лодка,
пара вёсел ды уключын;
на ваду сьпіхнулі човен
і паехалі уперад
па Няве, рацэ шырокай
вакол неўскага мысочка.

Ілматар, красуня-дзева,
сталая дачка прыроды,
іх сустрэла па дарозе,
мовіла такія словы:
“Хто такія вы, героі,
і якія ў вас імёны?”
Адказаў тут Вяйнямёйнен:
“Гэта мы, мужы марскія,
я, старэйшы, Вяйнямёйнен,
маладзейшы – Ілмарынен.
А сама адкуль ты родам,
ды імя ў цябе якое?”
Ім жанчына так сказала:
“За усіх жанчын старэй я,
першая дачка паветра,
першая на сьвеце маці,
роўная пяці жанчынам,
ды красой шасьці нявестам.
Ідзяце куды, мужчыны,
і куды ваш шлях, героі?”
Адказаў так Вяйнямёйнен,
так сказаў і так прамовіў:
“Згас агонь у нашых хатах,
полымя у печках згасла.
Без агню жылі мы доўга,
у халоднай чорнай цемры.
Нам даведацца цікава,
дзе агеньчык той нябесны,
тая іскра, што упала
на зямлю з высокай хмары”.

Ім жанчына адказала,
словы мовіла такія:

“Полымя знайсьці нялёгка,
цяжка той агонь убачыць.
Нарабіў агонь той шкоды,
полымя – бяды нямала!
Полымя упала іскрай,
кропляй зыркаю зьляцела,
ад палёў у паднябесьсі,
дзе яе сам Укка выбіў,
праз высокія прасторы,
празь нябесныя абшары
ды праз комін задымелы
на сухія кроквы хаты,
ў новыя пакоі Туры,
Пайвалайнену у хату.
Як агонь туды зваліўся,
ў новыя пакоі Туры,
зло чыніць пачаў адразу
і пачаў тварыць дурное:
апаліў дзяўчатам грудзі,
грудзі ім апёк балюча,
хлопчыку спаліў калена,
бараду спаліў старому.
Маці немаўля карміла,
гушкала у беднай люльцы.
Кінуўся агонь у люльку,
сатварыў яшчэ злачынства,
немаўля апёк сьмяротна
ды спаліў матчыны грудзі.
У Маналу сыйшоў дзіцёнак,
У Туанелу, хлопчык бедны,
бо ён створаны для сьмерці,
для такой ліхой загубы,
у агні такім пякучым,
у пакутах невыносных.
Маці мела болей ведаў,
не сыйшла яна у Ману,
заклінаць агонь умела
і прагнаць яго замовай
праз малое вушка йголкі,
праз абух сякеры вострай,
праз трубу гарачай пешні,
па аддаленых узьмежках”.

Стары мудры Вяйнямёйнен
запытаў яе пасьпешна:
“А куды агонь падзеўся,
куды іскры паляцелі
ад палёў далёкай Туры?

Можа, ў лес або у мора?
Дзева так яму сказала,
словы мовіла такія:
“Кінуўся агонь адгэтуль,
полымя ляцела хутка,
выпаліла лес і поле,
нівы, пашы ды балоты,
потым у ваду упала,
у хвалі возера Алуэ:
возера аж закіпела,
засьвяцілася барвовым.
Тры разы летняю ноччу,
дзевяць у начы асеньняй,
гэта возера ўскіпала
вышэй берагоў ды елак
ад палаючых абдымкаў,
ад пякучых пацалункаў.
Уцякала рыба з вару,
акуні прама на скалы.
І задумаліся рыбы,
акуні ўсё меркавалі,
як далей ім жыць на сьвеце?
Бедавалі доўга рыбы:
акуні па сваіх сьвірнах,
ёрш – па крэсьці ў скалах.
Захацеў акунь гарбаты,
вылавіць агонь пякучы,
не дагнаў полымя злое.
Сіні сіг тады пагнаўся,
праглынуў агонь пякучы,
злавіў вогненную іскру.
Алуэ апала хутка,
ў берагі свае ўступіла,
на сваё былое месца,
летняй ночкаю адною.
Час прайшоў зусім кароткі
сіг, што праглынуў пякучку,
боль адчуў, перапужаўся,
стаў заходзіцца ад болю.
Кідацца пачаў бязладна,
дзень і два ён мітусіўся,
каля выспы ласасёвай,
каля астравоў сіговых,
каля тысячы мысочкаў,
соцень высьпенных затокаў.
Кожны мыс яму параіў,
выспа кожная сказала:
“Не знайсьці у гэтых водах,

ў гэтым Алуэ спакойным,
праглыне хто небараку,
хто гаротнага пазбавіць
ад нявыцерпнага болю,
ад пакуты невыноснай”.
Як ласось пачуў пра тое,
праглынуў сіга адразу.
Час прайшоў зусім кароткі
і спагадлівы ласось той
боль адчуў, перапужаўся,
стаў заходзіцца ад болю.
Кідацца пачаў бязладна,
дзень і два ён мітусіўся,
каля выспы ласасёвай,
каля шчупаковых нораў,
каля тысячы мысочкаў,
соцень высьпенных затокаў.
Кожны мыс яму параіў,
выспа кожная сказала:
“Не знайсьці у гэтых водах,
ў гэтым Алуэ спакойным,
праглыне хто небараку,
хто гаротнага пазбавіць
ад нявыцерпнага болю,
ад пакуты невыноснай”.
Прыімчаўся шчупак шэры
і зглынуў ён небараку.
Час прайшоў зусім кароткі
і спагадлівы шчупак той
боль адчуў, перапужаўся,
стаў заходзіцца ад болю.
Кідацца пачаў бязладна,
дзень і два ён мітусіўся,
каля камянёў для чаек,
каля камянёў качыных,
каля тысячы мысочкаў,
соцень высьпенных затокаў.
Кожны мыс яму параіў,
выспа кожная сказала:
“Не знайсьці у гэтых водах,
ў гэтым Алуэ спакойным,
праглыне хто небараку,
хто гаротнага пазбавіць
ад нявыцерпнага болю,
ад пакуты невыноснай”.

Стары мудры Вяйнямёйнен,
зь ім кавальнік Ілмарынен,

тут нарэзалі ядлоўцу,
лыкавы зьвязалі нерат;
вадой вербнай фарбавалі,
зьвязвалі карой лазовай.
Стары мудры Вяйнямёйнен
зь нератам жанок паставіў.
Яны нерат расьцягнулі,
сёстры ім дапамагалі,
веславалі, гналі човен
каля выспаў узьбярэжных,
каля камянёў падводных,
дзе жылі сігі, ласосі,
дзе шумеў трысьнёг зялёны,
чараты дзе зелянелі.
Ехалі ды рыбу гналі
заганялі яе ў нерат,
то наўкос яго кідалі,
наўскасяк яго цягнулі;
не злавілі тую рыбу,
намагаліся дарэмна.
У ваду браты палезьлі,
нерат кінулі мужчыны.
Кінулі, пагналі рыбу,
заганялі яе ў нерат,
ля каменьня па затоках,
каля скалаў Калевалы;
не злавілі тую рыбу,
у якой патрэбу мелі.
Шэрай рыбіны ня бачна
ні ў вадзе затокі ціхай,
ні ў пrасторы неаглядны:
драбяза мінае нерат.

Скардзіліся рыбы ў моры,
і казаў шчупак суседу,
сіг у ментуза пытаўся,
мовіла да сёмгі сёмга:
“Мо сканалі ўсе мужчыны,
Калевы сыны памёрлі,
што з ільну вязалі сеткі,
нераты вязалі зь нітак,
бусакамі рыбу гналі,
заганялі яе ў нерат?”

Пачуў тое Вяйнямёйнен
і сказаў такія словы:
“Калевы сыны ня зьніклі,
і героі не памёрлі.

Два памерлага заменяць,
возьмуць лепшыя жардзіны,
бусакі ў іх лепей будуць,
нерат удвая жахлівей”.

## Руна сорак восьмая

*Калевальцы сеюць лён, выпрадаюць ніткі і вяжуць нерат, потым ловяць шчупака, які праглынуў агонь (1 – 192). Яны дастаюць агонь з рыбіны, але ўпускаюць яго, Ілмарынен атрымлівае моцныя апёкі (193 – 248). Агонь лютуе ў лесе, спусташае навакольныя землі. Яго нарэшце ловяць і прыносяць у цёмныя халодныя паселішчы Калевалы (249 – 290). Ілмарынен лякуе свае апёкі, і яны загойваюцца (291 – 372).*

Стары мудры Вяйнямёйнен,
прадказальнік векавечны,
доўга меркаваў і думаў,
і прыйшла яму задумка
сплесьці сетку ільняную,
ільняны наладзіць нерат.
Выказаў такую думку,
так сказаў і так прамовіў:
“Ці ня знойдзецца араты,
што на ніве лён пасее,
дзеля сеткі стопятлёвай,
дзеля нерата другога,
каб злавіць мне тую рыбу,
зжыць, паганую, са сьвету?”

І зямлі знайшлося трохі
на нявыпаленым месцы,
на балоце велічэзным,
паміж каранёў сапрэлых.
Тут жа выкапалі корань,
пад ім семя ільняное;
пільнаваў яго падземны,
зьберагаў таемна робак.
Попелу была там кучка,
жменька попелу сухога,
некалі згарэў там човен,
лодку некалі спалілі.
Лён пасеялі у попел,
кінулі у попел семя,
каля Алуэ ў поле,
каля возера у гліну.

Добра парасткі ўзьняліся,
узбуялі там сьцяблінкі,
лён падняўся адмысловы
адной ночкаю улетку.
Лён пасеялі уночы,
пад сьвятлом маладзіковым.
Даглядалі лён, палолі,
ды палеглы падымалі,
абарвалі ўсе галоўкі,
выбралі яго на полі,
у ваду мачыць панесьлі,
вымачылі вельмі хутка
і пасьпешліва паднялі,
і таропка падсушылі.
Перанесьлі у гасподу,
мяліцай яго прамялі,
выбілі кастру старанна,
шчолакам яго прамылі,
на часалцы прачасалі,
патрапалі на зьмярканьні.
Атрымалася кудзеля,
і на вераценцы ніткай
ночкай летняю зматалі,
у прамежку паміж днямі.
Выпрадалі ніць нявесткі,
сёстры на чаўнок маталі,
а браты вязалі нерат,
сьвёкры апляталі з краю.
Шпарка чаўнакі імкалі,
петлі выплятали спорна,
і гатова была сетка,
і вяроўкай край абвязан,
за адну летнюю ночку,
можа, нават за палову.
Вось ужо гатовы нерат,
ды абвязаны вяроўкай.
Нерат быў у сто сажэняў,
па семсот – у яго крылы.
Патапцы былі з каменьня,
з дрэва паплаўкі зрабілі.
Маладыя ўзялі нерат,
а старыя ўсё гадалі,
ці здабудуць гэту рыбу
у вадзе такою сеткай?
Пацягнулі яны сетку,
пад вадой цягнулі нерат,
і уздоўж вады хадзілі,
і упоперак цягалі,

дробнарыбіцу злавілі:
парачку яршоў паганых,
акунёў кашчавых пару,
пару невялічкіх плотак,
не злавілі толькі рыбу,
на якую сець зьвязалі.

Стары Вяйнямёйнен мовіў:
“Гэй, кавальнік Ілмарынен!
Трэба нам з табой закінуць,
пацягаць у моры нерат!”
І пайшлі удвох героі,
пацягнулі спрытна сеці.
Завялі крыло за выспу,
на шырокія прасторы.
Павялі крыло другое
да паўвыспы затравелай,
прывязалі моцна нерат
да старых прычалаў Вяйнё.
Сець туды-сюды цягалі,
пад вадой яе цягнулі,
налавілі рыбы ўдосталь:
акунёў было нямала,
былі сёмгі ды таймені,
былі тут і лешч з ласосем,
рознай налавілі рыбы,
не злавілі толькі тую,
для якой вязалі нерат,
па вадзе яго цягалі.
Да тых сетак Вяйнямёйнен
прывязаў яшчэ другія,
крылы нерата падоўжыў,
ім дадаў пяцьсот сажэняў,
на семсот яшчэ вяроўку.
Сам сказаў такія словы:
“Углыбіню закінем сетку,
занясем яе падалей,
пад вадою пацягаем,
тоню выцягнем другую!”
Кінулі глыбока нерат
і далёка адцягнулі,
пацягалі пад вадою,
зноўку выцягнулі нерат.

Тут прамовіў Вяйнямёйнен,
словы ён сказаў такія:
“Веллама, вады кабета
з травяністымі грудзямі!

Ты зьмяні сваю кашулю,
замяні сваё адзеньне!
З чаратоў твая кашуля,
а накідка твая зь пены,
іх саткала дачка ветру,
дзева хваляў падарыла.
Падарую ільняную,
палатняную кашулю,
яе кроілі ды шылі
дочкі Месяца і Сонца.

Ахта, гаспадар глыбіняў,
валадар віроў ды хваляў!
Вазьмі кій пяцісажэнны,
ці жардзіну сем сажэняў,
перамерай усё мора,
дно перакапай марское,
абшукай да парушынкі,
прыгані рыбныя статкі
да ўваходу у наш нерат,
нашай сеткі стопяцельнай.
Прыгані з затокаў рыбных,
з патаемных закуточкаў,
з бездані недасягальнай,
з глыбіні адвечна цёмнай,
дзе і сонца не бывае,
па пяску ніхто ня ходзіць!"
Выйшаў з мора чалавечак,
гэткі волат недарослы,
стаў на грабяні марскія
ды такія словы мовіў:
"Трэба вам загоншчык рыбы,
палкаю даўгой махальшчык?"
Стары мудры Вяйнямёйнен
у адказ яму прамовіў:
"Трэба нам загоншчык рыбы,
палкаю даўгой махальшчык".

Той асілак недарослы
выламаў сасну у лесе,
у бары ля узьбярэжжа,
прывязаў валун вялікі,
потым гэтак запытаўся:
"Заганяць яе штомоцы,
малаціць штодух ваду мне,
або на патрэбу боўтаць?"
Стары мудры Вяйнямёйнен
у адказ яму прамовіў:

“Можна толькі на патрэбу,
але каб было даволі”.

Той асілак недарослы,
працаваць узяўся шчыра,
заганяў старанна рыбу,
касякі да таго месца,
дзе цягнулі добры нерат,
сотні паплаўкоў цягнулі.
Веславаць каваль узяўся.
Стары мудры Вяйнямёйнен
нерат падымаў у човен,
ільняныя цягнуў сеткі.
Так прамовіў Вяйнямёйнен:
“Будзе тут багата рыбы,
цяжка рухаецца нерат,
паплаўкі аж патанулі”.
Падцягнулі яны нерат,
вытрасьлі яго у човен,
Вяйнямёйнену ў лодку,
рыбіну злавілі тую,
для якой вязалі сетку,
ільняны вязалі нерат.
Стары мудры Вяйнямёйнен
тут да берага пад’ехаў,
да масткоў пад’ехаў сініх,
да чырвонага прычалу.
Выкінуў на бераг рыбу,
перагледзеў усю кучу,
шчупака таго намацаў,
што яны доўга лавілі.
Тут падумаў Вяйнямёйнен
ды такія словы мовіў:
“Ці узяць яе рукамі,
без жалезных рукавіцаў,
ды без рукавіцаў медных,
ці іспотак тых каменных?”

Сонцаў сын, пачуўшы тое,
словы гэткія прамовіў:
“Шчупака я разабраў бы,
ўзяў бы я яго рукамі,
калі б меў я нож бацькоўскі,
меў бы нож ад сваіх продкаў”.
Тут зваліўся ножык зь неба,
з ручкай залатою, з хмаркі,
срэбнае лязо зьляцела
сыну Сонейка на пояс.

Сонцаў сын, дзяцюк адважны,
нож узяў у свае рукі,
шчупака таго разрэзаў,
прагную разрэзаў пашчу.
У вантробе шчупаковай
ён знайшоў сіга з ласосем,
сіг у жываце ласося,
у спагадлівай той рыбы.
Ён сіга таго разрэзаў,
выцягнуў клубочак сіні,
з тонкіх рыбіных вантробаў,
з жывата дастаў клубочак.
Разматаў ён той клубочак.
З таго сіняга клубочка,
вылецеў клубок чырвоны.
Разматаў ён і чырвоны
ды з нутра таго клубочка
выняў вогненную іскру,
што упала зь небасхілу,
хмары навылёт прабіла,
з вышыні восьмага неба,
аж зь дзявятае прасторы.

Пакуль думаў Вяйнямёйнен,
як цяпер занесьці іскру
ў схаладнелыя хаціны,
ў неасьветленыя хаты,
з рук у сына Сонца раптам
іскра сьлізганула вонкі,
бараду спаліла ў Вяйнё,
каваля мацней спаліла,
апякла яму ўсе шчокі,
рукі моцна апаліла.

Паляцела іскра далей,
па-над Алуэ памчала,
заляцела у ядловец
ды ушчэнт яго спаліла,
тады ў ельнік завітала,
спапяліла лес прыгожы.
Полымя ляцела далей,
поўзямлі спаліла ў Пох'і,
зачапіла краем Сава
ды Карэліі палову.

Стары мудры Вяйнямёйнен
за агнём усьлед падаўся,
перайшоў глухую пушчу,

па сьлядах ішоў агнёвых.
Вось знайшоў яго нарэшце
пад пянькамі у карэньні,
у дупле вялікай вольхі,
пад гнілымі каранямі.
Стары Вяйнямёйнен мовіў,
словы ён сказаў такія:
“Вогнік, Божае стварэньне,
Творцы сьветлае дзіцятка!
Ты углыбіню дарэмна
уцякаеш, каб схавацца!
Лепей бы ў людзкія печкі
ты каменныя вярнуўся,
там схаваесься у попел,
у гарачае вугольле,
каб паліў удзень старанна
ты бярозавыя дровы,
а ўначы будзеш хавацца
за чалесьнікамі ў печы”.

Вось узяў ён тую іскру,
апусьціў яе на цэру,
на бярозавую губу,
у кацёл паклаў мядзяны.
У катле прынёс агеньчык,
ён прынёс яго ў бяросьце,
на імжысты мыс далёкі,
на туманны дальні востраў.
Так прынёс сьвятло у хаты,
цяпло ў хатах завялося.

А кавальнік Ілмарынен,
кінуўся ў ваду марскую,
на падводнае каменьне,
і прылёг там у пакутах
ад нявыцерпнага болю,
ад пякоты невыноснай.
Полымя суняць хацеў ён,
загасіць агонь пякучы,
сам сказаў такія словы,
так сказаў і так прамовіў:
“Вогнік, Божае стварэньне,
Сонца сьветлае дзіцятка!
Ты чаго так узлаваўся,
што спаліў мне усе шчокі,
мне бакі апёк бяз жалю,
сьцёгны апаліў балюча?
Чым агонь я супакою,

полымя як утаймую?
Як уняць тую пякоту
ды зрабіць яе лагоднай,
каб не лютавала доўга,
не паліла мяне болей?
Ты прыйдзі, дзяўчына з Тур’і,
ты, зь Ляпляндыі дзяўчына,
у лядовых чаравіках,
у засьнежаным уборы,
прынясі кацёл лядовы
з апалонікам лядовым,
ледзяной вадой апырскай,
халадзёнкай ледзяною,
мае страшныя апёкі,
мае вогненныя раны!
Калі ж гэтага ня хопіць,
сына Пох’ялы я клічу.
Ты, Ляпляндыі дзіцёнак,
Піментолы муж высокі,
вышынёй зь яліну ў лесе,
ростам з сосны на балоце,
ты, у ледзяных пальчатках,
ты, у ботах зьледзянелых,
у засьнежанай вушанцы,
з поясам заледзянелым!
Прынясі з Пох’ялы сьцюжы
ды ільду з халоднай вёскі!
Сьнегу ў Пох’яле даволі
шмат ільду у гэтай вёсцы,
на азёрах ды на рэках.
Там паветра ледзяное,
і зайцы там, і мядзьведзі
ледзяныя разам скачуць,
на засьнежаным пагорку,
на гарах заледзянелых;
ледзяны жыве там лебедзь,
жыве качка ледзяная,
пасярод лядзянай рэчкі,
ледзянога вадакрута.
Прывязі ільду на санках,
навязі вазамі сьнегу
ты зь лядовага пагорка,
ад гары заледзянелай.
Схаладзі мяне ты сьцюжай,
схаладзі ільдом халодным,
мае страшныя апёкі,
мае вогненныя раны!
Калі ж гэтага ня хопіць,

Укка, мой высокі Божа,
Укка, валадар нябёсаў,
хмараў валадар магутны,
ты нашлі з усходу хмарку,
з захаду нашлі другую!
Сутыкні ты іх краямі,
іх канцамі моцна стукні,
накідай ільду і сьнегу,
нанясі гаючых зёлак
на балючыя апёкі,
мае вогненныя раны!”

Так кавальнік Ілмарынен
загасіў агонь пякучы,
злое полымя суцішыў.
Зноўку стаў каваль здаровы,
загаіў свае апёкі,
свае вогненныя раны.



**ЛІЯКУМОВІЧ Цімох** — літаратуразнаўца, перакладчык, доктар філялягічных навук, прафэсар. Пераможца літаратурнага конкурсу беларусаў замежжа "Нашчадкі Скарыны" (намінацыя "Проза"). Нарадзіўся на Палесьсі. Настаўнічаў на Бабруйшчыне. З 1974 году працаваў у Берасьцейскім унівэрсытэце імя А. С. Пушкіна, з 1980 па 1998 год узначальваў катэдру расейскай і замежнай літаратураў. Выдаў кніжкі "Потомки Пушкина в Белоруссии", "Янка Купала и русская литература: Многообразие творческих взаимосвязей" і інш. Адзін з аўтараў чатырохтомных "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных узаемасувязей", вучэбнага дапаможніка "Русская литература ХХ века. 1895 — 1917" і іншых калектыўных прац. У беларускім друку выступае з 1961 году. Ягоныя артыкулы таксама друкаваліся ў навуковых зборніках, часапісах і газэтах Расеі, Украіны, Польшчы, у энцыкляпэдычных даведніках. З 1999 году жыве ў Чыкага, ЗША, дзе працягвае творчую і публіцыстычную дзейнасьць, вядзе старонку "Беларускія зарніцы" у двухтыднёвіку "Земляки", на якой асьвятляюцца грамадзкія падзеі і праблемы культурнага жыцьця на роднай зямлі. У ЗША выдаў кнігі "Белорусские сполохи", якую склалі ягоныя пераклады твораў выдатных беларускіх празаікаў і паэтаў, а таксама артыкулы пра іх жыцьцё, творчасьць, і "Прописаны в сердце" — усебаковы нарыс аб адметнасьцях сучаснай Беларусі. У 2009 годзе ў выдавецтве "Кнігазбор" (Менск) выдаў кнігу навэлаў і апавяданьняў "Настальгія".

# Маркотна мне безь Беларусі

*А сэрца ўсё імкне да бацькаўскага краю.*
*Мінулае сваё прыпамінаю я!*
*Між цёмных абразкоў прайшоўшага жыцьця*
*Шукаю сквапна штось трывожнаю душою...*

***Максім Багдановіч. У вёсцы.***

Калі я пераехаў на сталае жыцьцё ў адзін з чыкагскіх прыгарадаў, мне вельмі спадабаўся тутэйшы парк. Калі падыходзіць да ягоных маштабаў па нашых беларускіх мерках, дык гэта невялічкі, звычайны ўтульны скверык. Амэрыканцы ж любяць гучныя назвы. Вулічнае скрыжаваньне — плошча, забягалаўка — рэстаран і да т. п.

Усё ж трэба аддаць належнае: скверык быў аформлены з адметным густам. У ягоным цэнтры ўзвышалася шыкоўная клюмба з рознымі прыгожымі кветкамі: адны пачыналі квітнець раньняю вясною, другія – улетку, іншыя – увосень. Такім чынам, яна ўвесь час была ў квецені і цешыла сваёю красою чалавечае вока. Пах жа кветак быў густы, духмяны. Іх чароўны водар п’яніў галаву мядовым настоем.

Аксамітная зяляніна радавала сэрца, узьнімала самаадчуваньне. Трава была акуратна падстрыжаная і ўяўляла сабою прывабны зялёны дыван. Дрэвы розных відаў, пасаджаныя чалавечаю рукою, стваралі прадуманы ансамбаль. Тут расьлі і ліпы, і дубы, і сосны, і амэрыканскія дэкаратыўныя яблынькі, і нейкія іншыя пароды невядомых мне дрэваў, у якіх лісьце было то зялёнае, то чырвонае, то бурае аж да чарнаты. Усе яны высаджаныя прадумана, так, каб цешылі вока, саграваlі настрой чалавека ў любую пару году: ці сваімі кветкамі ўвесну, калі ўяўляліся вялікімі пяшчотнымі бела-ружовымі шарамі, ці летняю сасьпелаю зеленьню і прывабнай прахалодаю ў сьпякотныя чыкагскія дні, ці восеньскай featured рознакаляровасьцю. Дрэвы, здавалася, мелі і нейкую магічную сілу, бо каля іх каранёў знаходзіліся сьціплыя круглыя альбо квадратныя мэталічныя памятныя дошчачкі з надпісамі, у гонар каго яны пасаджаныя і каму вельмі дарагая памяць пра людзей, што ўжо пакінулі гэты сьвет.

Адно маладое дрэўца расло пад вуглом, з нахілам у вызначаны бок. Зроблена гэта было з намерам. Аказваецца, так індзейцы ў свой час высаджвалі шэраг дрэваў у адзін ланцужок па ўсім лесе, каб “свой” па іх напрамку вызначаў дарогу да племені, якому належаў, а іншыя не здагадваліся, што такія натуральна, быццам ад нараджэньня, быццам самой прыродай схіленыя дрэвы адыгрывалі ролю дарожных арыентыраў.

Была ў скверыку і дзіцячая пляцоўка, на якой дружна капаліся ў пясочку, спускаліся з горак, гойдаліся на арэлях ці бегалі адзін за адным юныя амэрыканцы, якія адрозьніваліся сваімі тварыкамі. Сярод іх былі і кітайскія, і габрэйскія, і мэксіканскія, і ўкраінскія хлопчыкі і дзяўчынкі. Усе яны знаходзілі паміж сабою агульную мову, як і тыя матулі, бабулі ці выхавальніцы, якіх тут называюць бэбісітарамі, гэта значыць, людзьмі, якія даглядаюць дзіцячую малечу. Хаця старэйшыя ня ведалі мову адзін аднаго, але якімсьці чынам разумеліся паміж сабою, здагадваліся, што трэба рабіць у тую ці іншую хвіліну. Спрэчак сярод іх ніколі не ўзьнікала.

Побач зь дзіцячай пляцоўкай узвышалася шыкоўна аздобленая альтанка, у якой зьбіраліся людзі сталага веку і вялі размовы пра мінулыя гады ці абмяркоўвалі міжнародныя падзеі.

Было ў скверыку і некалькі пераносных сталоў з прыладжанымі да іх лаўкамі, так што кожная кампанія магла знайсьці прытулак у сваім улюбёным куточку.

Да таго ж на значнай адлегласьці адна ад адной пад дрэвамі стаялі некалькі дашчаных лавак са сьпінкамі для наведвальнікаў.

У паўночна-заходняй частцы скверыка разьмяшчаўся мясцовы краязнаўчы музэй, побач зь ім былая вазоўня, а калі прайсьці трошкі на ўсход – будынак былой царквы, зараз прызначаны для адміністрацыі музэя і скверыка і для розных мясцовых урачыстасьцяў. Нагадвалі яны сабою далёкае XVIII стагодзьдзе і хуткаплыннасьць часу. Пафарбаваныя ў белы колер, на фоне буйнай зяляніны, яны стваралі супакойваючую атмасфэру вячыстага жыцьцёвага

заміраньня, бяз шуму і мітусьні, адганялі штодзённыя душэўныя трывогі і хваляваньні і садзейнічалі ўстанаўленьню душэўнай раўнавагі і сьцішанасьці.

Я люблю хадзіць у гэты скверык у любы час. Вясною, летам і восеньню ягоныя дрэвы, кветкі заўсёды прыцягваюць увагу сваёю непаўторнаю жыватворнаю красою, птушыным шчабятаньнем, імклівымі гульнямі тутэйшых шэрых, у адрозьненьне ад нашых рыжых, вавёрак.

Я суцішаўся, калі бачыў, як ён пачынаў зелянець і ператварацца ў прывабны зялёны луг, на якім то зіхацелі жоўтымі галоўкамі дзьмухаўцы, нагадваючы пра родны край, то лашчыла погляд сваімі бела-ружовымі кветкамі і пяшчотным водарам канюшына, што сьвяцілася мілымі зорачкамі сярод зялёнай травы, што таксама абуджала тугу па Радзіме. Маркоціўся, калі, каб надаць парку менавіта асаблівы "ангельскі выгляд", спэцыяльная машына, якая касіла траву, бязьлітасна зразала ім галоўкі, каб уся трава была падведзеная, як жаўнеры на пляцы, пад адзін ранжыр.

Вясною ў скверыку ўсё духмяна пахла: і кветкі, і дрэвы. Здавалася, што адчувалася, як дыхае зямля, як усё вакол набіраецца сілы, і верылася, што ўсё створана для жыцьця. Для радасьці. Для шчасьця. Інакш навошта сусьвет валодае такой непаўторнай маляўнічасьцю, жывапіснаю красою, пекнай прыгажосьцю, такімі чароўнымі дзівосамі, мілавіднаю ненагляднасьцю?

А ў сьпякотны летні дзень, калі лёгкі пяшчотны ветрык прыемна лашчыў твар, хораша было пасядзець на лаўцы ў засені дрэваў з кнігаю ці газэтаю, усімі грудзямі ўдыхаць духмянасьць ружаў і настой іншых кветак.

Прызнацца, не без асалоды заглядваў у скверык і ў зімовы час. Ягоную кальцавую дарожку расчышчалі. Чорны асфальт выглядаў вялікім іншародным абручом у сьнежным акружэньні. А бель сьнегу асабліва ў сонечны дзень была такою яркаю, што аж рэзала вока. Дрэвы ж, запушаныя сьнегам, выглядалі загадкава. Нібы знаходзіліся ў мудрым задуменьні...

Я надоўга спыняўся каля сасновай групкі. Пазацярушаныя сьнегам разгалістыя галінкі дрэваў згіналіся пад ягоным цяжарам, але зялёныя голкі ўсё ж пераможна выглядалі з-пад белых касмачоў. Гэты кавалачак амэрыканскай зямлі са стройнымі соснамі, якія амаль нічым не адрозьніваліся ад беларускіх, нагадваў сабою родны куток, і мне здавалася, што яны разам са мною перабраліся на чужую старонку і таксама, як і я, сумуюць па радзіме, па сваіх далёкіх сёстрах, якіх пакінулі за марамі-акіянамі. Уяўлялася, дзе хвоя ні стаіць, а ўсё свайму бору шуміць. У такія сьцішаныя хвіліны мне мроілася, што і я, як і тыя велічныя дрэвы, знаходжуся на роднай зямлі. Тут самыя сабою набягалі ўспаміны пра мінулае, пра тыя жыцьцёвыя сьцежкі-дарожкі, якія пройдзеныя па беларускіх мілых сэрцу абшарах. Паўставалі ў памяці людзі, якія засталіся ў беларускай далечыні, але па-ранейшаму блізкія і любыя сэрцу. Хацелася верыць, што і яны іншы раз добрым словам узгадваюць пра мяне і ўдзячныя за тую ролю, якую я адыграў у іхным жыцьці. Незабыўныя воблікі на імгненьне ўзьнікалі перад вачыма так выразна, што здавалася, ёсьць магчымасьць дакрануцца да іх рукою. Але прывіды зьнікалі, на душы рабілася тужліва. І самотныя думкі нябачнымі ластаўкамі маркотна адляталі ў вырай да родных парогаў, бы імкнуліся зразумець сэнс чалавечых пакутаў і вымушаных перамяшчэньняў...

Але ня толькі я аблюбаваў сабе гэты скверык-парк. Яго ахвотна наведвалі шматсямейныя мэксіканцы, якіх нямала пасялілася ў нашым прыгарадзе. Яны разьмяшчаліся каля дзіцячай пляцоўкі альбо састаўлялі паркавыя сталы ў ад-

но месца і амаль цэлымі днямі праводзілі ў парку. Тут і елі, і пілі, і песьні сьпявалі. Тут жа ўкладвалі ў дзіцячых калясках спаць сваіх малых. Жылі яны небагата, бо многія знаходзіліся ў краіне на нелегальным становішчы. У іхных танных несамавітых кватэрах не было кандыцыянэраў. Даводзілася ў сьпякотныя дні задавольвацца прахалодаю пад шырокімі кронамі дрэваў.

Непадалёку ад парку знаходзіўся васьміпавярховы субсідаваны дом. У ЗША – гэта будынкі, прадугледжаныя для людзей у гадох, пэнсійнага ўзросту, зь невялічкай пэнсіяй. Большасьць жыхароў такіх дамоў да апошняга часу складалі выхадцы з былога Савецкага Саюзу ці такія ж эмігранты зь іншых краінаў, бо карэнныя амэрыканцы, якія працавалі ўсё жыцьцё, маюць неблагія пэнсіі і, зразумела, жывуць у больш камфартабельных кватэрах ці ва ўласных дамах.

Дык вось, жыхарам гэтага дому, ці сямейнымі парамі, ці шумнымі стайкамі аднадумцаў, падабаецца шпацыраваць па паркавай дарожцы ці кучкавацца вакол якойсьці лаўкі ці вакол стала і гаманліва, размахваючы пры гэтым інтэнсіўна рукамі, абмяркоўваць свае жыцьцёвыя праблемы альбо сусьветныя справы. Лічачы сябе бездакорнымі і вялікімі знаўцамі міждзяржаўных пытаньняў, рабілі яны гэта з такім заўзятым аплёмбам, з такою самаўпэўненаю амбіцыяй, з такою зацятаю фанабэрыяй, што любога зь іх можна было ставіць прэзыдэнтам любой краіны сьвету, ну а калі не прэзыдэнтам, дык міністрам замежных справаў – то без усякіх сумненьняў.

З часам я заўважыў чалавека, які наведваў парк заўсёды ў адзіноце. Ён таксама быў з субсідаванага дому, вітаўся зь іншымі наведвальнікамі, але ніколі не далучаўся да іх. Я міжволі прыкмеціў, што ён, як правіла, імкнуўся апынуцца ў парку, калі тут не было людзей. Вылічыць такі час не ўяўляла ніякай цяжкасьці. Калі нікога не было ў парку, можна было сьмела вызначыць, што жыхары субсідаванага дому глядзяць сэрыялы па расейскіх тэлеканалах. Бязь іх яны не ўяўлялі свайго цяперашняга жыцьця. Адная з жанчын прызналася мне, калі сьпяшалася хутчэй у кватэру пасьля дваццаціхвіліннага перапынку – пасьля прагляду аднаго на прагляд другога сэрыялу: “Для мяне сэрыялы – гэта сьвятая справа! Ні ў якім разе не магу іх прапусьціць. Так зацягваюць, што ня маю сілы волі адарвацца ад іх”. Другая жыхарка з гэтага дому аднойчы мне пахвалялася, што прагледзела запар аж чатыры сэрыялы. Ёй не хапіла тых, што паказвалі па тэлевізійных каналах, дык яшчэ глядзела з дыскаў: “Скажу вам праўду, – усё ж пажалілася яна, – столькі глядзела, што аж попа забалела. Выйшла на вуліцу, каб трохі разьмяцца, сьвежага паветра схапіць, дык ногі адмаўляюцца перасоўвацца”.

Чалавек, на якога я зьвярнуў увагу, быў высокага росту, падцягнуты, павольны ў руху, з чупрынаю рэдкіх сівых валасоў, якія ледзь прыкметнымі хвалямі акуратна ўзьнімаліся над шырокім ілбом. Па ягоных акулярах з рэльефнымі пукатымі шкельцамі можна было здагадацца, што зрок ягоны пакідае жадаць лепшага. З-пад іх уважліва глядзелі пабляклыя вочы, але па ягоным ўніклівым поглядзе можна было меркаваць, што гэта чалавек інтэлігентны, разумны, што ён нямала пераажыў, што жыцьцёвы шлях ягоны быў усыпаны ня толькі ружамі.

Празь некаторы час мы пачалі зь ім вітацца, але ніякіх крокаў да знаёмства не рабілі. Я разумеў, што чалавеку хочацца пабыць аднаму, і лічыў недалікатным парушаць ягоную адзіноту. Відаць, і ён быў такой жа думкі пра мя-

не, бо заўважыў, што я таксама пазьбягаў шумных кампаніяў, ня браў удзелу ў дыскусіях пэнсіянэраў на палітычныя тэмы, аддаваў увагу кнізе, а ня гучным, але пустым размовам сталых наведвальнікаў парку.

Аднойчы мы зь ім сутыкнуліся пры ўваходзе ў парк, як гаворыцца, нос у нос. Відаць, абодва адчулі няёмкасьць, калі моўчкі разыйдземся ў розныя бакі. Абодва мы прыпынілі крокі, усьміхнуліся адзін аднаму. Як старыя знаёмыя. Я першым парушыў маўчаньне і зьвярнуўся да яго:

– Ведаеце, я дзесьці вычытаў выказваньне, якое мяне вельмі ўразіла. Відаць, яно зьявілася ў выніку вывучэньня жывёльнага сьвету: "Леў ходзіць адзін, а аслы зьбіраюцца ў кучу".

Незнаёмец гучна засьмяяўся. Потым прывабная ўсьмешка зноў павольна асьвяціла ягоны твар – разумны і добразычлівы.

– Гэта намёк у мой адрас. Але дарэмна вы ўспрынялі мяне як льва. Я хутчэй казуля. Прытым пужлівая і параненая.

– Прабачце, але па выглядзе вы на казулю зусім не падобны.

– Даражэнькі, што выгляд? Я напярэдадні свайго васьмідзесяцігодзьдзя. Менш за месяц засталося. Памятаеце, Чэхаў заяўляў, а ён жа ў мэдыцыне някепска разьбіраўся, калі ў чалавека пасьля сарака гадоў нічога не баліць, дык ён мёртвы. Што ж тады гаварыць пра васьмідзесяцігадовага? У якога двойчы па сорак? Укаталі Сіўку крутыя горы! Быў конь, ды зьезджаны.

– Восемдзесят гадоў? – зьдзівіўся я. – Ці не жартуеце вы? Нельга ў гэта паверыць, калі меркаваць па вашай выпраўцы.

– Няможна, але ёсьць на самай справе. І як любога чалавека ў такім узросьце, і мяне хваробы не абыйшлі. Але трымаюся. Як бачыце, шмат часу імкнуся знаходзіцца на сьвежым паветры. Ды і што рабіць аднаму ў чатырох сьценах? Завыць воўкам можна ад адзіноты. Глядзець бясконца пустыя сэрыялы, як гэта робяць нашыя жанчыны, ды і ня толькі яны, нэрвы мае не вытрымліваюць.

– Але, прабачце яшчэ раз, мне здалося, што вы ня вельмі кампанейскі чалавек. Тут жа шпацыруе нямала вашых суседзяў, знаёмых, але я штосьці ні разу ня ўгледзеў, каб вы далучыліся да іх.

Ледзь улоўная хмарка прабегла па ягоным твары. З хвіліну ён памаўчаў, быццам разважаў, ці варта раскрыць душу перад суразмоўцам, зь якім упершыню распачаў гутарку, ці можна яму з усёю шчырасьцю выспаведацца. Паглядзеў на мяне ўважліва і, відаць, вырашыў, што я годны ягонага даверу:

– Здаецца, няма ніякай патрэбы пераконваць вас у тым, што сярод імігрантаў шмат таленавітых, добрых, шчырых і сьціплых людзей. Пісьменьнікі, мастакі, навукоўцы, сьпевакі, настаўнікі, нават ляўрэаты розных прэміяў. Даводзіцца толькі са шкадаваньнем адзначыць, колькі неардынарных талентаў апынуліся па-за межамі Беларусі. А якую неацэнную карысьць яны маглі прынесьці роднай дзяржаве?! Гэта людзі, якія прайшлі праз шматлікія выпрабаваньні, мелі суровую школу жыцьця і выйшлі зь яе з годнасьцю і заслугоўваюць павагу. Большасьць зь іх асела ў субсідаваных дамах у цэнтральнай частцы Чыкага. Вам жа вядома тутэйшая сытуацыя: той, хто разбагацеў, у адрозьненьне ад нашых прывычак, імкнецца перабрацца ў прыгарады – далей ад шумнага і тлумнага цэнтру. Дык вось дзеці нашых імігрантаў, калі матэрыяльна становяцца на свае ногі, пасяляюцца ў спакойных прыгарадах. Але ж гэта людзі, якія працуюць. Увогуле гэта параўнальна маладыя людзі, сярэдняга ўзросту. У іх ёсьць дзеці. І гэтых малых трэба камусьці пасьвіць, даглядаць. Для зручнасьці

бабулі і дзядулі перабіраюцца бліжэй да сваіх унукаў, каб быць побач зь імі, дапамагаць родным дзецям, занятым працаю, іх выхоўваць. Догляд унукаў – гэта важкая дапамога дочкам і сынам. У іншым выпадку значную частку заробку трэба аддаваць нянечкам, бэбісітарам, як тут называюць, – платным хатнім выхавацелям. І, зразумела, лепш пакідаць сваіх дзяцей на роднага чалавека, чым на чужога. Ды і працуючым дзецям больш зручна пры неабходнасьці аказваць дапамогу састарэлым бацькам, калі яны жывуць блізка ад іх, а не дабірацца гадзіну ці нават дзьве на дапамогу ў цэнтар гораду, пры такой нястачы часу імчацца як ашалелым на помач да хворых. З пажылымі ж людзьмі ўсякае здараецца. Бываюць выпадкі, калі хвіліны вырашаюць, жыць ці ня жыць чалавеку далей на гэтым сьвеце.

А ў наш дом перабраліся ў асноўным і жывуць былыя прадаўцы, цырульнікі, швачкі, таксісты... Людзі з даволі прымітыўным кругаглядам, але зь вялікім аплёмбам. У многіх ужо і ўнукі павырасталі. І пакутуюць яны ад адсутнасьці пэўнага занятку. Вы ж заўважылі, што парк то пусты, то ўвесь перапоўнены старымі. Калі тут нікога няма зь іх, дык можна быць сьмела ўпэўненым, што яны ўткнуліся ў свае тэлевізійныя скрынкі і глядзяць чарговыя расейскія сэрыялы ці мыльныя опэры. Гэта зараз іх асноўная ўцеха. І размовы ў іх вядуцца амаль толькі вакол гэтых пустышак... Праўда, тут нейкі час увіваўся вакол мяне аматар мясцовых расейскамоўных газэтаў. Прачытваў іх старанна ад вокладкі да вокладкі, а потым з выглядам першаадкрывальніка хадзіў за мною і пераказваў іхны зьмест. Ледзь адчапіўся ад яго...

Тут раптам усе сталі заўзятымі палітыкамі, але так трактуюць сусьветныя падзеі, што млосна становіцца ад іх дрымучай глухаты, проста вушы вянуць. Ну і, зразумела, косткі перамываюць адзін аднаму, без усялякай прычыны крыўдзяць адзін аднаго, бо, вядома ж, чым менш зьместу і розуму ў чалавеку, тым больш неабгрунтаванай пыхі ў ім, тым больш амбіцыяў выпірае зь яго. Мне здаецца, што для такіх людзей з Украіны, зь Беларусі і зь іншых рэспублік былога Саюзу трэба было б устанавіць адпаведныя мэдалі "З падзякаю за вызваленьне Ўкраіны ад сябе", "З падзякаю за вызваленьне Беларусі ад сябе". Бясспрэчна, гэтыя рэспублікі, як і іншыя, вымушана пакінулі многія людзі, якімі магла б ганарыцца любая краіна – кваліфікаваныя спэцыялісты, якія шмат маглі зрабіць выдатнага, нават выключнага, для росквіту дзяржавы, але апынуліся ў такіх неспрыяльных умовах, што аказаліся нікому не патрэбнымі. Разам зь імі нямала людзкой пены, нахабнай, карысталюбнай, пустазвоннай, апынулася за мяжой. Кожная нацыя мае сваіх добрых і дрэнных прадстаўнікоў. Ні адна нацыя не складае выключэньня. Відаць, такі закон прыроды. Ад благіх людзей лепш трымацца воддаль...

Дарэчы, мы так і не пазнаёміліся з вамі, хаця завочна нават мне суседзі не ўтрымаліся пратрубіць вушы пра вас. Яны ж пра ўсіх усё ведаюць. А калі і ня ведаюць, дык выдумаюць і прыхлусяць.

Я прадставіўся свайму суразмоўцу.

Ён назваўся Максімам Паўлавічам Клёнавым і дадаў:

– Можаце называць мяне па-тутэйшаму: толькі па імені. Тут жа не прынята называць чалавека па бацьку, хаця ён можа быць і сталага веку. І імя скарачаюць да мінімуму. Але лепш усё ж Максімам, чым Максам.

– Прабачце, а вы хто па прафэсіі, калі гэта не сакрэт? – пацікавіўся я.

– Журналіст.

– О, дык журналісты надзвычай таварыскія людзі і вельмі гаваркі народ! – міжволі ўсклікнуў я.

– Не адмаўляюся ад такога сьцьвярджэньня. Але за некалькі гадоў пражываньня ў субсідаваным доме я ўжо ведаю ўсю паднаготную пра кожнага зь ягоных насельнікаў. Неаднойчы меў гонар выслухоўваць іх споведзі. Слухаць жа бясконца пра адно і тое ж проста немагчыма.

– Але ж журналіст – надзвычай творчая прафэсія. Тут жа, у Амэрыцы, выдаецца шмат расейскамоўных газэтаў. Ёсьць магчымасьць раскрыцца, пісаць, тым больш, як я пераканаўся, у гэтых выданьнях друкуецца шмат непісьменных матэрыялаў, а граматычных, сынтаксычных памылак дык увогуле не зьлічыць, не гаворачы ўжо аб стылістычных. А тут прафэсійны журналіст. Дык вас павінны былі абедзьвюма рукамі ў любой рэдакцыі схапіць і не адпускаць ад сябе.

– Ды і я так спачатку думаў, хаця па-сапраўднаму шырока разгарнуцца мне ўжо і здароўе не дазволіла. Асабліва зрок падводзіў. Гэта, відаць, вы заўважылі па маіх акулярах. Аўта мне не дазволілі вадзіць. А ў нашым горадзе, як вам вядома, адлегласьці такія вялікія, што бяз аўта ты быццам бяз рук. Адным словам, непаўнацэнны чалавек. Пры ўсім гэтым напачатку, нягледзячы на дрэнны стан здароўя і на шкоду свайму зроку, я спрабаваў праявіць творчую актыўнасьць.

Калі ў вас ёсьць час і цярпеньне, дык раскажу вам пра свае блуканьні па тутэйшых расейскамоўных рэдакцыях. Гэта была для мяне шматпакутная Адысэя, зьневажальная, прыкрая і крыўдная, пра якую можна напісаць журботную аповесьць.

Прынёс вялікі артыкул у адную рэдакцыю. Ён спадабаўся. Рэдактар, чарнявенькі, зь сівізною ў валасах, шустранькі такі, зь бегаючымі невялічкімі шэрымі вочкамі, адразу папярэдзіў: “Ганарараў мы ня плацім”. Зразумела, капейка для мяне не была б лішняю: тым больш, што толькі пачынаў сваё жыцьцё ў Злучаных Штатах і кожны цэнт, не гаворачы пра даляр, быў на ўліку. Усё ж падумалася: “Ня плаціце – дык ня плаціце. Бог з вамі!” Цікава ж было ўбачыць сваё імя ў амэрыканскім расейскамоўным друку. І празь некаторы час у чарговым нумары штотыднёвіка зьявіўся мой артыкул амаль на поўную старонку, фармату расейскіх “Правды” ці “Известий”. За ім пайшоў са старонак гэтай газэты другі мой артыкул, трэці... Раптам у адным з нумароў гэтага ж выданьня чытаю папрок ягонага рэдактара двум сваім аўтарам, што яны артыкул, які зьявіўся ў ягонай газэце, перадрукавалі ў нью-ёркскім расейскамоўным выданьні. Больш за ўсё мяне зьдзівіў адказ на папрокі рэдактара аўтараў, якіх ён абвінавачваў у ганебным учынку. Яны адстойвалі права распараджацца сваім артыкулам паводле свайго меркаваньня, бо рэдактар, хаця і прайшоў доўгі час пасьля публікацыі іхнага артыкулу на старонках ягонай газэты, за гэтую публікацыю не налічыў ім ганарар, як гэта рабіў раней, таму за імі засталося права выкарыстоўваць свой артыкул так, як ім хочацца. Гэтая перапалка мяне насьцярожыла. Значыцца, сёй-той усё-такі атрымоўвае ганарары. “Ну і манюка”, – падумалася пра рэдактара.

Да таго ж празь некаторы час прачытаў у артыкуле гэтага, прабачце, сукінага сына, наступны пасаж: “Задарма сёньня ніхто нікому нічога не дае. У рыначнай эканоміцы на ўсё ёсьць свая рыначная цана”. А мая творчая праца, значыць, на ягоную думку, нават ні гроша ня варта?!

Выявілася, што выдавец гэтай газэты няшчыры нават са сваімі рэклямадаўцамі, за кошт якіх набівае сваю кішэню. Вядома, чалавек, які працуе, мае больш вольнага часу ў нядзелю ці ў сьвяты. У сьвяточныя дні ён выкарыстоўвае магчымасьць уважліва прыгледзецца і да газэтных старонак, і да зьмешчаных на іх рэклямаў. А што робіць рэдактар гэтага выданьня ў адрозьненьне ад іншых, якія да сьвятаў прымяркоўваюць прывабныя нумары? Калі на тыдзень выпадае сьвята, ён прапускае чарговы нумар, і газэта ператвараецца са штотыднёвіка ў двухтыднёвік. Нічога ня скажаш – майстра на розныя хітрыкі!

Ды і падказалі мне: "З кім ты зьвязаўся! Выданьне вельмі багатае. Амаль палову ягонай плошчы займае рэкляма, а яна прыносіць вялікі даход выдаўцам. Але рэдактар – чалавек надзвычай сквапны! Ён за капейку павесіцца. І чакаць ад яго, што ён па-чалавечы разьлічыцца з аўтарам, які дапамагае росту аўтарытэту ягонага выданьня, не даводзіцца". Зразумела, больш мая нага не пераступала парог гэтай рэдакцыі.

Дасьведчаныя людзі парэкамэндавалі зьвярнуцца ў іншую газэту, ня менш багатую за першую, а мо яшчэ і больш. Паспрабаваў зь ёй наладзіць супрацоўніцтва. Яна друкавалася вялікім накладам, была перапоўненая рэклямаю, за якую мела немалыя прыбыткі. У ёй, быццам, працуюць больш памяркоўныя і не такія скупенды, як той рэдактар, які ўсё падграбае пад сябе.

Трэба сказаць, што ў гэтай рэдакцыі мяне прынялі ветліва. Сталі зьяўляцца мае артыкулы на яе старонках. І праз нейкі час мне нават прыслалі чэк на некалькі дзясяткаў даляраў. Дарэчы, здароўя, зроку і часу я патраціў на падрыхтоўку сваіх матэрыялаў, безумоўна, больш, чым ацаніла іх і аддзякавала рэдакцыя. Што ж, з паршывай авечкі, як гаворыцца, і касмыль воўны добра атрымаць. Працягвае рэдакцыя друкаваць мае артыкулы, але праходзяць месяцы, а пра ганарар ужо нічога не чуваць. Прывёз у рэдакцыю чарговы артыкул і пытаюся нясьмела: што ж вы забыліся пра ганарары? І раптам чую ад рэдактара, даволі мілавіднай, але і даволі самаўпэўненай жанчыны:

– Нашая ж газэта самая папулярная ў сярэднезаходняй Амэрыцы. Само зьяўленьне вашага імя на ейных старонках пачэсна. Сваімі публікацыямі мы ствараем вам сапраўдны прэстыж у краіне.

"А каб ты скісла! – падумаў я пра сябе. – Вось ужо і сапраўды вялікі прэстыж у тым, што старыя, якім няма чаго рабіць, з нуды прачытаюць мой артыкул і пахваляць мяне! Маладыя ж нават і мімаходзь у тыя газэты не зазіраюць, бо ў іх няма для гэтага часу: трэба многа і цяжка працаваць, каб мець магчымасьць канцы стачыць, зарабіць для пражыцьця". Здагадаўся, што і тут капейчыну, нягледзячы на вялікія заробкі, з рук ня хочуць выпусьціць, імкнуцца на дармаўшчыну працаваць, як мага больш сабе ў кішэню пацягнуць. І матэрыял значны атрымаць, і не заплаціць за яго.

Тады суседзі зьвярнулі маю ўвагу на штодзённую газэту "Новае жыцьцё". У ёй зусім не друкаваліся мясцовыя аўтары, калі не лічыць самога выдаўца газэты, даволі жвавага пісакі, які не прапускаў выпадку, каб не пахваліць самога сябе ці членаў сваёй сям'і, што мяне адразу насьцярожыла. Уся ж газэта, апрача рэклямных аб'яваў, складалася з інтэрнэтаўскіх матэрыялаў і артыкулаў, наскубаных з расейскіх выданьняў. Такая акалічнасьць падказвала, што гэтая друкаваная крыніца адчувае патрэбу ва ўласных карэспандэнтах. Тут якраз трапіўся мне ў рукі новы зборнік вершаў таленавітага расейскага паэта, які жыве ў Чыкага. Вершы натхнілі мяне адгукнуцца на іх рэцэнзіяй. Вырашыў

прапанаваць яе “Новаму жыцьцю”. Пазваніў рэдактару. Праўда, не прадстаўляўся, што журналіст. І пацікавіўся, ці выкарыстае ён мой водгук аб кнізе.

“З прыемнасьцю, – адказаў мне рэдактар. – Прынясіце рэцэнзію і кніжку, каб мы маглі праілюстраваць ейнаю вокладкаю вашую публікацыю”. І вызначыў дзень, калі яго можна напаткаць у рэдакцыі.

Зьявіўся я ў прызначаны час у рэдакцыйны офіс, нягледзячы на тое, што быў марозны, даволі халодны дзень. Рэдактара-выдаўца на месцы не аказалася. Дзяўчына, што сядзела ля кампутара, паведаміла, што сёньня ён не зьбіраўся прыходзіць у рэдакцыю.

“Як жа так? – разгублена вырвалася з маіх вуснаў. – Ён жа сам прызначыў месца і час сустрэчы”.

Відаць, дзяўчына адчула маю роспач і праявіла спагадлівасьць да маёй сівізны.

“Рэдактар прасіў, каб сёньня яго не турбавалі, але, калі ён прызначыў вам сустрэчу і не зьявіўся на яе, асьмелюся пазваніць яму. Пачакайце хвілінку”.

Яна зьняла тэлефонную трубку. Калі завяршылася размова, паведаміла мне: “Рэдактар папрасіў, каб вы пакінулі рэцэнзію і кнігу ў нас. Ён азнаёміцца зь імі і паведаміць сваё рашэньне”.

І, заўважце, ніякага прабачэньня за тое, што парушыў сваё слова, што не прыйшоў на прызначанае самім спатканьне. Гэта мяне пакрыўдзіла. Прадчуваў, што нічога добрага тут таксама не атрымаецца. І як у ваду глядзеў!

Празь некалькі дзён атрымаў ад рэдактара паведамленьне: “Увогуле рэцэнзія мне спадабалася. Але, зразумейце мяне, я прафэсійны журналіст і не магу ня правіць тое, што адпраўляю ў друк. Ведаеце, гэта ж мая прафэсійная праца, а за працу трэба плаціць!”

Я здагадаўся, да чаго ён хіліць. Намёк быў даволі празрысты. Адразу праясьнілася, чаму на старонках гэтага выданьня не зьяўляюцца імёны мясцовых аўтараў.

І ведаеце, такая злосьць узяла мяне на ўсіх гэтых крыхабораў-“інтэлектуалаў”, што не стрымаўся і адказаў чарговаму карысталюбнаму рэдактару-выдаўцу: “Прыстойныя людзі ўмеюць цаніць ня толькі сваю, але і працу іншых людзей”. Як вы здагадваецеся, пасьля такога майго адказу рэцэнзія так і ня ўбачыла сьвет на старонках гэтай газэты. А аб адпаведнай сумленнасьці рэдактара вы можаце меркаваць па тым, што кніжку ён так і не вярнуў мне, хаця чалавек, які паважае самога сябе, абавязкова зрабіў бы гэта.

І настолькі мне сталі агіднымі гэтыя былыя савецкія людзі, што так разьюшана раней адмаўлялі эксплёатацыю чалавека чалавекам, а зараз імкнуліся жыць за кошт іншых, што выдаткоўваць на іх рэшткі свайго здароўя і часу адпала ўсялякая ахвота. Лічу, што кожная праца павінна аплачвацца.

У хуткім часе разабраўся, што выданьне расейскамоўных газэтаў – гэта адзін зь відаў мясцовага бізнэсу. Выдавец газэты можа абыйсьціся і бяз аўтараў, абы была рэкляма. Ён можа “выцягваць” артыкулы з інтэрнэту, зь іншых выданьняў. Да таго ж шмат расейскамоўных пэнсіянэраў, якія ад няма чаго рабіць многа пішуць і, як пазьней прызнаўся рэдактар адной з газэтаў, нават гатовыя яшчэ і самі прыплаціць, каб толькі іх надрукавалі. Паўстае пытаньне: навошта кваліфікаваныя аўтары зь неабходнасьцю разьлікаў зь імі, калі можна свабодна абыйсьціся бязь іх і мець важкую капейчыну ў кішэню?

Дарэчы, на гэтай ганарарнай глебе здараюцца кур'ёзныя выпадкі. Людзі ж ведалі, што ў Савецкім Саюзе за публікацыі ў газэтах і часапісах іх аўтары атрымлівалі грашовыя ўзнагароды, хоць колькасьць выплачаных рублёў была, як той кот наплакаў. Аднойчы спыняе мяне тут сямейная пара. Муж сарамліва стаіць побач, а жонка зьвяртаецца да мяне: "Нам падказалі, што вы журналіст і друкаваліся тут у газэтах. Мой Грыша – інжынэр. Напісаў у газэту па сваёй тэхнічнай спэцыяльнасьці вялікі артыкул, які надрукавалі. Прайшло паўгода, ён усё чакае, калі яму дашлюць чэк з ганарарам, кожны дзень з надзеяй сустракае лістаношу, але штосьці да гэтае пары нічога не атрымаў. Зьвяртацца ў рэдакцыю саромеецца. Падкажыце, калі ласка, праз які час рэдакцыі тут выплачваюць ганарары?"

Я вырашыў адказаць жанчыне так, як мяне ўшчувалі ў рэдакцыі: "Шаноўная, тутэйшыя расейскамоўныя газэты ганарараў ня плацяць. Ваш муж павінен ганарыцца тым, што яго надрукавалі. Тым самым узьнялі ягоны прэстыж у мясцовай расейскамоўнай грамадзе".

Тут яе Грыша як узарвецца: "Пра які такі прэстыж ідзе размова?! Ха-ха-ха! Усьцешылі пашанай людзей, што ўжо не пры сваім розуме!.. Ды і я, сказаць, таксама стары пень – гэта ж трэба было так схібіць: у спадзяваньні ганарару з суседзямі дзьве пляшкі ямайскага рому на радасьцях асушыў пасьля публікацыі! Я ж чакаў, што ў Злучаных Штатах, як нідзе, шчодра разьлічваюцца за працу, у тым ліку і за пісаніну. Да размовы з вамі верыў, што людзі, якія друкуюцца тут у расейскіх газэтах, добра зарабляюць. Выяўляецца, што некаторыя з нашых былых суайчыньнікаў усюды ўмеюць законы абыйсьці. І сюды перанесьлі свой вопыт дурыць брата-працаўніка. Калі ўжо сьвет пазбавіцца ад людзей, што ласыя на чужыя прыпасы?" Ненаўмысна засмуціў я чалавека, бо пазбавіў яго надзеі на атрыманьне сумленна заробленае платы, на якую ён значны час спадзяваўся.

Што тычыцца якасьці расейскамоўных газэтаў, як вы заўважылі, яна пакідае жадаць лепшага ў многіх адносінах. Кідаецца ў вочы іх аднабаковасьць, уласьцівая местачковаму кругагляду. Выпадковыя, але ганарлівыя аўтары часта без належнага веданьня справы, без адпаведных ведаў таго, пра што пішуць, імкнуцца безапэляцыйна навязваць чытачам свае куртатыя погляды. Стылістычных хібаў увогуле не пералічыць. Зьяўляюцца на іх старонках так званыя вершы – у большасьці выпадкаў неахайна рыфмаваныя радкі сумнеўнага гатунку. Адчуваецца, што публікацыі паўстаюць перад чытачом без папярэдняй літаратурнай апрацоўкі. А нядаўна ў адной з газэтаў пад такую бязглузьдзіцу нават памкнуліся падвесьці тэарэтычную базу. Нейкі зьедлівы чытач выказаў заўвагі пра шурпатасьці ў мове, якія сустракаліся ў зборніку мясцовага аўтара. На парушэньне ў кнізе моўных стандартаў. Тут жа знайшлася чытачка, якая ўзяла пад абарону вершапісца. Маўляў, нашыя аўтары ня могуць пісаць моваю клясыкаў. З гэтым можна пагадзіцца, але калі чалавек узяўся за літаратурную працу, ён, як мінімум, павінен пісьменна выказваць свае думкі – гэта найпершае патрабаваньне для тых, хто бярэ пяро ў рукі.

А якімі нізкапробнымі фарбамі друкуецца большасьць мясцовых газэтаў! Прагартаеш такое выданьне, а рукі становяцца чорнымі, як у камінара. Доўга пасьля гэтага трэба адмываць іх з мылам. Жонка майго суседа, аматара газэтных навінаў, урач, не дазваляе яму брацца за іх без пальчатак: баіцца, каб хваробу не падхапіў...

А нядаўна жаліўся мне тутэйшы інжынэр, паходжаньнем таксама зь Беларусі. Ляцеў адпачываць на мэксіканскі курорт. Перад адпачынкам спэцыяльна набыў сабе дарагі белы гарнітур, каб не згарэць пад палаючым паўднёвым сонцам. А каб не сумаваць у палёце, перад адлётам прыхапіў з сабою той штотыднёвік, у які я ў свой час пастукаўся тут упершыню. Выйшаў з самалёту ў аэрапорце ў Канкуне. Пайшоў да аўтобуса з узьнятым настроем у прадчуваньні хуткай сустрэчы з морам, але зьвярнуў увагу, што чамусьці ўсе мінакі са зьдзіўленьнем паглядаюць на яго. Зірнуў на сябе – і ахнуў. Выявілася, што ягоныя штаны ад каленяў, на якіх трымаў газэту, да самага поясу, чорныя ад друкарскай фарбы. Такімі ж запэцканымі аказаліся лацканы пінжака, а таксама падпаха з правага боку і адпаведны бок рукава, дзе часам ён трымаў газэту. Новы гарнітур нечакана-негадана быў ушчэнт сапсаваны. Газэту, якою ён плянаваў яшчэ пачытаць на пляжы, з агідаю выкінуў у сьметніцу. І пакляўся, што ўжо ніколі ня возьме амэрыканскай расейскамоўнай газэты ў свае рукі...

Раптам даведаўся, што выдаецца ўсеамэрыканская беларускамоўная газэта “Беларускі дайджэст”, што на яе старонках не друкуецца ніякай рэклямы, што ніякіх даходаў яна ня мае, а існуе на ахвяраваньні сваіх жа чытачоў. Вось для такой газэты я гатоў быў працаваць бязвыплатна. І друкавацца на яе старонках было прыемней, чым на старонках спэкулятыўных газэтаў, якія выдаваліся багатымі крыхаборамі – аматарамі пажывіцца за кошт іншых. На жаль, беларуская газэта ў хуткім часе перастала існаваць: і рэдактар быў ужо ў гадах, і грошай не хапала для яе выданьня. Зь ёю і завяршылася мая журналісцкая праца ў Злучаных Штатах... Авалодаць жа ангельскаю моваю ў мае гады ды з маім станам здароўя – гэта ўжо фантастычная справа. Дый зрок у мяне цяпер вельмі нізкі, так што ня толькі пісаць ня маю магчымасьці, але і чытаць. Ды і іншыя хваробы даўно адольваюць, і змагацца зь імі становіцца ўсё цяжэй...

– Дык вы зь Беларусі?.. Аказваецца, мы землякі. У якой газэце вы працавалі?

– Мянчук я. Карэнны мянчук. Працаваў у беларускай акруговай армейскай газэце. У апошнія гады працы быў яе адказным сакратаром. Палкоўнік па званьні. Усё маё жыцьцё з арміяй было зьвязанае. Адсюль і выпраўка мая засталася як спадчына вайсковае службы.

Бацькі мае загінулі ў час вайны. Партызанілі. Бацька загінуў у баі, калі прарываліся з акружэньня. Маці фашысты закатавалі. Пасьля вызваленьня нашай вёскі я спадабаўся камандзіру часткі, у якога таксама загінула сям’я, а я, як ён казаў, быў вельмі падобны на ягонага сына. Так я стаў сынам палка. Прайшоў з чырвонаармейцамі праз усю Польшчу, дайшоў цяжкімі ваеннымі дарогамі да самага фашысцкага логава.

Потым некалькі гадоў выхоўваўся ў дзіцячым доме. Затым Менскае сувораўскае ваеннае вучылішча. У час вучобы ў ім пацягнула да пяра. Пачаў друкавацца. Такім чынам апынуўся на факультэце журналістыкі Львоўскага ваенна-палітычнага вучылішча. Пасьля – праца ў газэце. Жыў у пісьменьніцкім доме. Кватэра неблагая. На другім паверсе. Гэта тут, у ЗША, паверх ня мае значэньня. А ў Менску – іншая справа. То гарачая, а то і халодная вада не даходзіла на вышэйшыя паверхі. Так, вядомы празаік Іван Чыгрынаў часьцяком спускаўся да мяне зь сёмага паверху на другі зь вядром, каб набраць вады. Лічу, што скардзіцца і плакаць на тое, што бедаваў у тую пару, калі жыў у Беларусі, будзе беспадстаўным.

– А як жа вы апынуліся ў Злучаных Штатах? Якім ветрам вас сюды занесла?

– Памятаеце, Якуб Колас пісаў у сваёй трылёгіі "На ростанях": "Добра быць у дарозе, якую ты сам сабе выбіраеш". Гэта сапраўды так. Амэрыканскую пуцявіну абраць мяне прымусіла жыцьцё... Гэта даволі доўгая гісторыя. Калі вам цікава, то выслухайце мяне. Ажаніўся я з габрэйскай дзяўчынаю. Надзіва прыгожаю і чулаю была. Шчасьлівае жыцьцё мы зь ёю пражылі. Яна таксама, як і я, нямала гора перанесла, зьведала пакутаў. Як і я, засталася ў маленстве сіратою. Бацькі яе загінулі ў Менскім гета. Яна цудам выратавалася. Добрыя людзі дапамаглі ёй схавацца, вырвалі яе з фашысцкіх лапаў, хаця рызыкавалі ўласным жыцьцём. Мнагадзетная беларуская жанчына прытуліла яе ў сваёй сям'і як дачку памерлай сястры. Лёс зьвёў нас у дзіцячым доме. Дружылі зь ёй зь дзяцінства. Сустракаўся, калі вучыўся ў сувораўскім, пісаў ёй лісты з Украіны. Атрымалася так, што мы адначасова закончылі вучобу. Яна – выпускніца філялягічнага факультэту Менскага пэдагагічнага інстытуту імя М. Горкага. Тады мы пажаніліся. Яна працавала настаўніцай. Нядоўга пражыла на гэтым сьвеце. Хварэла. Выявілася тое, што перажыла ў гады вайны. Парушыліся ў яе абменныя працэсы, зьявілася вострая сардэчная недастатковасьць – адным словам, той букет, якім суправаджаецца атэрасклероз. Лячылі яе менскія дактары. Колькі каньяку, колькі бутэлек гарэлкі я ім перацягаў! Не зьлічыць! Пілі яны добра, а вось лячыць – лячылі ня надта. Не ўдалося ім уратаваць маю жонку.

Калі пачалася ў краіне завіруха пасьля распаду Савецкага Саюзу, сястра яе выехала ў ЗША. Потым, як я ні стрымліваў, паехала мая дачка з мужам і ўнукам. Шчыра прызнацца, нашай зарплаты не хапала, каб быць сытымі кожны дзень. Але я ніколі ня быў ласы на чужыя каўбасы. І застаўся я адзін у Менску. Можа, яшчэ б доўгі час трымаўся там, але дагнала мяне тая ж хвароба, што і жонку... У маім выпадку трэба аддаць належнае менскім дактарам: яны настойвалі на тым, каб я сур'ёзна ўсьвядоміў небясьпеку, якая навісла нада мною, і шчыра прызналіся, што яны ня могуць уратаваць мяне, бо парушаецца каардынацыя працэсаў, якія адбываюцца ў маім арганізьме, парушаны балянс маёй нэрвовай сыстэмы. У шпіталі няма тых неабходных сродкаў, якія б маглі выратаваць мяне ад сьмерці. Раілі паехаць у ЗША, калі я маю такую магчымасьць: там ёсьць лекі, якія могуць адтэрмінаваць маю сустрэчу са сьмерцю, ёсьць лячэбныя сродкі, якія прадоўжаць мне жыцьцё. Так што практычна ў мяне выбару ўжо і не было: каб не памерці – трэба ехаць. А пакідаць родныя мясьціны ой як не хацелася. Але, па ўсіх мерках, зрабіў разумна: вось ужо 12 гадоў з цэлым букетам хваробаў працягваю жыць на белым сьвеце. Калі б не прыехаў сюды, даўно парыў бы свае костачкі ў зямельцы. Амэрыканская мэдыцына аказалася ў сілах падоўжыць мне жыцьцё. Праўда, старую з касой увесь час адчуваю побач, за плячыма. У мяне заўсёды з сабой у кішэні лекі і дакумэнты, на ўсялякі выпадак, калі дзе-небудзь зьнянацку ўпаду непрытомны. Ды хвароба вымушае далёка ад дому не адыходзіць. Але ж удзячны мясцовым дактарам, што яны затрымалі мяне на гэтым сьвеце, адтэрмінавалі разлучэньне зь ім. Папракаю сябе за тое, што не прыехаў раней, калі жонка была жывою і сястра яе клікала сюды. Выбраліся б своечасова, дык, магчыма, мы і да гэтага часу былі б разам. Але ж, як гавораць у народзе, калі б ведаў, дзе ўпадзеш, дык бы сенца падаслаў.

А па Беларусі сэрца ные. Начамі яна сьніцца. Здаецца, калі б былі крылы, дык птушкай паляцеў бы да яе. Паўтараю ўсьлед за Піменам Панчанкам:

Ні славы, ні скарбаў я не хачу.
Мне б толькі прайсьці непрыкметна,
Зямлю сваю пад нагамі адчуць,
Надыхацца родным паветрам.

Усё ўяўляецца, што час спыніўся – быццам тыя шматлікія іменныя гадзіньнікі, якімі мяне шчодра ўзнагароджвалі за сумленную працу ды да "чырвоных датаў календара", усе яны, быццам дамовіліся паміж сабою, спыніліся і ня хочуць паказваць новы час. Здаецца, помсьцяць за тое, што пакінуў родны край. А ён жыве ў душы – ня выкрасьліць ні з сэрца, ні з памяці. "Маркотна мне безь Беларусі", – сумна паўтараю я ўсьлед за Янкам Купалам. Ні на хвіліну мяне не пакідае пачуцьцё, якое надзвычай трапна выказаў Анатоль Вялюгін: "Беларусь – мая маці і мова, паветра і хлеб". Толькі дурная птушка свайго гнязда не шануе.

Няма словаў, Чыкага – прыгожы горад, адзін з найпрыгажэйшых гарадоў у Злучаных Штатах, у сьвеце. Вы ж ведаеце, што зь дзесяці самых высокіх хмарачосаў пяць узьнімаюцца ў нашым горадзе, а ўвогуле дзесяць з самых высокіх 50 будынкаў у сьвеце знаходзяцца таксама ў нашым горадзе. Лічбы ўражваюць, хіба ня так? Да таго ж яшчэ зьбіраюцца ўзьвесьці Чыкагскі шпіль – супервысокі хмарачос, форма якога будзе нагадваць сьвярдзёлак. Ягоныя 150 паверхаў узьнімуцца на вышыню 610 мэтраў. Уражвае, нічога ня скажаш. На такой вышыні ўжо і сам Бог можа пасяліцца! Але ўспрымаю ўвесь гэты архітэктурны размах толькі розумам, а ня сэрцам. Людзі ж сярод гэтых волатаў здаюцца дробнымі мурашкамі. Гэтыя грамадзіны пераможна сьціскаюць чалавека з усіх бакоў, навальваюцца на ягоныя плечы непамерным цяжарам. Ды і разгледзець усю іхнюю прыгажосьць не ўдаецца, нават калі задзерці ўгору галаву, што вельмі нязручна. Да таго ж яны закрываюць навакольны сьвет. Здаецца, быццам людзей заціснулі ў вузкай клетцы.

Іншая справа – вуліцы Менску. Яны ня цісьнуць на чалавека, ня зводзяць яго на ўзровень мурашкі. Там перад вачыма раскрываецца шырокая пэрспэктыва, прастора. Там чалавек адчувае сябе чалавекам. Там і дыхаецца лягчэй. Ня груз цісьне на плечы, а, здаецца, крылы вырастаюць за імі. Бачыце, якія розныя адчуваньні можа выклікаць у людзей архітэктура гарадоў.

Безумоўна, нельга параўнаць сьціплую раку Сьвіслач зь Мічыганам, якое ўспрымаецца нават ня як возера, а як сапраўднае мора. Па ім і караблі ходзяць, над ім і чайкі лётаюць. Але ж сэрца прыкіпела да сваёй рачулкі, тым больш калі быў сьведкам, як амаль зь непрыкметнага ручая, яна ператваралася ў паўнаводную раку, якая ўпрыгожыла беларускую сталіцу.

Прызнайцеся, ці даводзілася вам хоць аднойчы ўбачыць над Чыкага такое зорнае неба, як у Беларусі? – Твар майго суразмоўцы пасьвятлеў пры гэтых успамінах. – Я колькі ні ўглядаўся, ні разу ня бачыў тут такіх яркіх зорак, як там, да якіх, здаецца, можна рукой дакрануцца, і якія, здаецца, вядуць з табою размову аб нейкіх адвечных ісьцінах, якіх ніяк не ўдаецца чалавецтву разгадаць. На Беларусі ж, як трапна зазначыў Максім Танк, дзе ні ступіш – то рэха, то казка, быліна...

Зразумейце мяне толькі правільна. Я ўдзячны новай краіне. Вельмі ўдзячны. Не паграшу ісьцінаю, калі прызнаюся, што яна вырвала мяне з кіпцюроў сьмерці. Паўтаруся, калі застаўся б у Беларусі, то даўно парыў бы там зямельку. А тут бачыце, як клопаты дзяржавы пра мяне, адпаведнае лячэньне і адпаведныя лекі прадоўжылі мне жыцьцё, далі магчымасьць, нягледзячы на ўсе мае хваробы, яшчэ парадавацца гэтаму сьвету, трымацца на нагах. Тут і словаў адпаведных не падбярэш, якімі можна выказаць сваю шчырую ўдзячнасьць, настолькі яна вялікая, бязьмерная... Хочацца верыць, што і беларусам суджана, як марыў аб гэтым Максім Багдановіч яшчэ на пачатку дваццатага стагодзьдзя, "дачакацца залацістага, яснага дня".

Ведаеце, як убачу бярозку, а яны тут нячаста сустракаюцца, як у Беларусі, адразу сьлёзы на вачах наварочваюцца. Прытулюся да яе, пастаю моўчкі, і здаецца, што сустрэўся з роднаю старонкаю, пагаварыў зь ёй аб самым набалелым – і адразу палягчэе на сэрцы, быццам набраўся новых сілаў. Я пераканаўся на ўласным вопыце, наколькі слушна заўважыў той жа Максім Багдановіч, лічачы, што пакінуць свой край і ехаць Бог ведае куды – гэта самая апошняя справа, на якую магчыма рашыцца толькі ў крайнасьці. Відаць, такі крайні выпадак і склаўся ў маім жыцьці. Толькі цяпер я да канца зразумеў сэнс усхваляванага Коласаўскага прызнаньня, зь якім ён пачаў сваю неўміручую "Новую зямлю", аб непарыўнасьці чалавека з роднымі каранямі:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе ня маю сілы!
Ня раз, утомлены дарогай,
Жыцьцём вясны мае убогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю...

Такія пачуцьці пануюць і ў маёй душы. Цяпер у мяне няма сумненьняў у тым, што нават дым Айчыны больш яркі за агонь чужыны.

Бачыце, я сёньня выказаўся перад вамі як на споведзі. Даўно ўжо ні з кім так шчыра не размаўляў. Спадзяюся, што і вы, як і я, лічыце, што адцурацца ад роднага краю – значыць адцурацца ад усяго свайго жыцьця. Навошта тады я нарадзіўся на белы сьвет? Хоць і падоўжылася тут маё жыцьцё, але паміраць на чужыне цяжэй, чым на Радзіме. Ды ў чужой зямельцы адчуваць сябе чужым будзеш і на тым сьвеце. Горка гэта ўсьведамляць.

Я чуў, што вас па старой памяці, як навукоўцу, запрасілі ў Менск на міжнародную літаратуразнаўчую канфэрэнцыю. Нікому ў жыцьці не зайздросьціў, а цяпер зайздрошчу тым, хто мае магчымасьць наведаць наш сінявокі родны край. Пры выпадку пакланіцеся нізка беларускай зямлі і ад майго імя, а лепш за ўсё – пацалуйце яе. Яна вартая таго.



**МАЎЧУН Анатоль** — нарадзіўся ў самым пачатку 1930-х гадоў у вёсцы Абруб на Глыбоччыне. Пасьля Другой сусьветнай вайны разам з бацькам выехаў жыць у Польшчу на “вернутыя землі” ў Памор’і. Зараз жыве ў Познані.

# Падарожжа ў Беласток на сьвяткаваньне 50-годзьдзя “Нівы”

Калі я дастаў паведамленьне, што мяне запрашаюць на ўрачыстасьць 50-годзьдзя “Нівы”, я, вядома, абрадаваўся. Можа, каго і знаёмага давядзецца там сустрэць. Праўда, у Беластоку мне вельмі рэдка быць здаралася — то зь недахопу часу, то ўмовы не заўсёды дазвалялі. Першы раз я там быў, калі адкрылася прадпрыемства электрыфікацыі сельскай гаспадаркі — тады я ўжо кончыў вайсковую службу і шукаў добрага заробку. А гэта было на пачатку 1956 году, ну і рашыў паехаць тады і я туды на работу (тым больш, што хацеў пазнаёміцца з тамтэйшай ваколіцай і беларускімі вёскамі).

Аднак працаваць мяне накіравалі на абшар былой Усходняй Прусіі, у ваколіцу Голдап-Олецко (аказалася, што вёскі тамашняга абшару яшчэ ня мелі электрычнасьці). Зрэшты, там таксама можна было шмат цікавага пабачыць. Напрыклад, нямецкія сем’і, якія жылі асабліва на хутарах, ня ўсе пакінулі свае гаспадаркі, каб паехаць у Нямеччыну. І ў тых мясцовых людзей можна было назіраць узаемныя ўплывы памежнага суседзтва з усходам. Калі часам даводзілася харчавацца ў нямецкіх гаспадынь, дык аказвалася, што давалі нам есьці і дранікі, і суп бульбяны — такі, як і ў нас некалі варылі на Глыбоччыне. Нават на гарышчы ў адной бабулі дык і жорны я бачыў.

Працаваў я там некалькі месяцаў, электрыфікуючы вясковыя хаты, але недзе, бадай, на пачатку лета, трэба было паехаць і бацьку ў гаспадарцы памагчы. Едучы да бацькі, я зноў затрымаўся ў Беластоку. Выходзячы на станцыі, я

неспадзявана ў руках нейкага прахожага ўбачыў “Ніву”. Нехта параіў мне газэту шукаць у кіёсках. Дастаў! І быў гэта трэці нумар. Вось з той пары я пастаянны чытач гэтага тыднёвіка. З часам і сам на ягоных старонках пару словаў пакінуў. А пакуль жыў Аляксандар Лашук (зь Лёндану), мы зь ім “Ніву” і “Беларускія календары” па ўсім, бадай, сьвеце пасылалі беларусам, дзе б яны ні жылі.

Ну а цяпер я зноў еду ў Беласток сьвяткаваць паўстагодзьдзя “Нівы”.

Калі цягнік затрымаўся ўжо на станцыі, і людзі пачалі пакідаць вагоны, я таксама памкнуўся як найхутчэй пачаць шукаць мэту свайго падарожжа. Калі хацеў праверыць, ці добра помню адрас, аказалася, што мае акуляры засталіся ў вагоне. Але цягніка на станцыі ўжо не было...

Нехта мне параіў пайсьці на беластоцкі базар, там, быццам, можна купіць усё. Вось і пачалася мая, як той казаў, турыстычная вандроўка па горадзе. І праўда, на базары, які, бадай, акружаў увесь стадыён, у кустах і зарасьніках людзі прадавалі ўсякую ўсячыну. Найбольш уразіла мяне там моўнае багацьце. Колькі ж там гучала моваў і дыялектаў, якіх у самім горадзе нават і сустрэць не ўдалося б. Але што таго? Акуляраў я там так і не дашукаўся. Знайшоў толькі пазьней у аптэцы.

Выйшаўшы з базару, пачуў я музыку, гучалі недзе мэлёдыі беларускіх песьняў. Вядома, туды і накіраваў я свае крокі. Гукі музыкі завялі мяне ў панадворак “беластоцкай тэлевізійнай тройкі”. Пад адкрытым небам ігралі музыкі. Нехта нават і танцаваў там. Надвор’е было прыемнае, людзі затрымоўваліся, слухалі, часам аб нечым гаварылі. Настрой быў проста сьвяточны, быццам нават сямейны...

А перада мною яшчэ дарога і, здаецца, пара пасьпяшацца.

Пасьля даволі доўгіх вандровак і знаёмства з горадам дайшоў я, урэшце, і да гатэлю, у якім адбывалася нашая ўрачыстасьць. Людзей там было многа, вядома, і арганізатары, і госьці, школьныя калектывы моладзі, настаўнікі беларускіх школаў у Польшчы, прадстаўнікі гораду, словам, было гучна і весела.

Напачатку я адчуваў сябе крыху адзінокім – проста я там нікога ня ведаў. Але бязь цяжкасьці ўключыўся ў агульны настрой, а імпрэза, вядома, была багатая і цікавая. Зрэшты, дэталёва праход сьвяткаваньня ніўскай гадавіны шырока быў апісаны ў “Ніве”.

Пасьля афіцыйнай праграмы ўсе гулялі ў час вячэры ў беластоцкім рэстаране “Гродна”. Там давялося мне пагутарыць са спадарыняй Лёляй Міхалюковай (яна ўзначальвае Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі) пра ейны побыт у Вільні, у тамашніх беларусаў, і аб тым, як маюцца справы беларусаў у Англіі. Меў таксама нагоду сустрэцца зь Сяргеем Чыгрынам і пагаварыць пра лёс Гальляша Леўчыка. Ну і трэба прызнацца, што як мала калі апаражняў куфлі з квасам. Гэты напой на захадзе зьяўляецца рэдкасьцю.

Рэшту ночы я правёў у гатэлі ў ложку, каб на досьвітку, калі яшчэ горад спаў, пасьпець на свой цягнік. І вось толькі там мог спакойна парадкаваць свае эмоцыі з падзеяў папярэдняга дня. Была яшчэ ноч, пасажыры ў вагоне спалі. Седзячы каля вакна і ўглядаючыся ў цемнату непранікнёную, я нанова перажываў былое – і блізкае, што было ўчора, і далёкае, што здарылася некалі і нават сталася забытым... Толькі колы вагону стукалі па рэйках, ды за вакном часам наплывалі і аддаляліся нейкія аб’екты, асьветленыя электрычнымі лямпамі, падвешанымі на слупах. Вось паказаўся сьветлы “астравок” нейкага ху-

тарка – хата, панадворак, частка агароду. Набліжаліся і адплывалі асьветленыя станцыі, на якіх цягнік не спыняўся...

Калі я быў маленькім, у нейкім сэнсе востравам я лічыў сваю вёску. З аднаго боку абмяжоўвала яе возера, а кругом лес і зарасьнікі. За гэтымі межамі для мяне ўсё было загадкаю. Калі крыху падрос, сьвятло ведаў, што давала школа, і здабыты вопыт памаленьку дазвалялі разьвязваць загадкі. І так думаю, сьвятло праўды, што паўстагодзьдзя распаўсюджвала "Ніва", зьдзейсьніла вялікую справу для нашай нацыі. Хаця ці заўсёды ў людзей праўда бывае ў аднолькавай пашане? І ці ўсе яе разумеюць? Асабліва пасьля шматлікіх палітычных перамен у нашай краіне. Некаторыя аўтары ніўскіх артыкулаў, на мой погляд, не заўсёды дакладна правяраюць дадзеныя з выкарыстаных матэрыялаў. За прыклад магу прывесьці вытрымку з артыкула В. Сакоўскага "Польшча – Расея". "Спачатку Польшча дала моцна прыкурыць Расеі – на штыках сваіх падкінула ёй цароў-самазванцаў..." "Смутным временем" называецца гэты пэрыяд у гісторыі Расеі". Самыя ж расейцы смутою называюць войны Расеі з Швэцыяй, Польшчай і ўключна сялянскім паўстаньнем Балотнікава! І ці сапраўды Польшча зрабіла пачатак канфліктаў? Спадар В. Сакоўскі прамаўчаў пра разбурэньне Полацку Іванам IV, які ў 1563 г. гнаў палачан у путах у Расею, а жыдоў ягоныя ваякі тапілі ў рацэ пад лёдам... Праўду трэба шанаваць, каб даверам ганарыцца. Але памылкі здараюцца кожнаму. Толькі б не зачаста або мэтанакіравана...

А за вакном вагона пачала блішчэць пацiху раніца. Цягнік спыніўся, і мне трэба было перасесьці на іншы. Чакаць доўга не прыйшлося. У купэ сядзелі маладыя людзі, бадай, студэнты. Усе яны – як хлопцы, так і дзяўчаты – кожны асобна пільна чыталі нейкія паперы, не зьвяртаючы ўвагі на мой уваход. Я чытаць не пачаў, хоць меў ніўскі альбом і іншыя матэрыялы. Калі цягнік набраў хуткасьць, я стаў ля вакна вагону ў калідоры.Назіраючы ваколіцы, разважаў, якія перамены ў паводзінах чалавека могуць укараніць непрадуманыя рэформы ў выхаваньні. Безумоўна – адмоўныя. Толькі ці людзі вось так паслухмяна гатовыя прыймаць усё, што ім зьверху загадваюць? Вядома, ня ўсё, але тады паўстае хаос. Дык ці можна тады судзіць тых, хто разгублены? Хто падмануты? На жаль, яны, здаецца, будуць і найбольш пакрыўджанымі.

З гэтымі невясёлымі думкамі вярнуўся я ў купэ. А тым часам цягнік затрымаўся на станцыі. Мая суседка ад дзьвярэй пакінула купэ, і зараз жа ейнае месца заняла іншая дзяўчына. Новая пасажырка вырашыла, так як і ўсе іншыя, чытаць. Узяла кніжку, перагортвала нейкі час старонкі і ўрэшце дастала з сумачкі мабільнік, прысьвячаючы сваю ўвагу ягонаму футлярыку, зьвязанаму пруткамі. Я асьцярожна пажартаваў: "А ў чым яго будзеце трымаць у маразы, калі ён цяпер, восеньню, у рукавічцы?" Дзяўчына ўсьміхнулася: "Тады справім кажушок," – сказала. "Прабачце, – загаварыў я, – вашая кніжка пра каханьне ці можа казкі народныя?" Яна крыху падумала, і я пачуў: "Дакладней, байкі пра цудоўную любоў". "Можна падумаць, што па-вашаму любоў – гэта выдумка?" – выказаў я сваё зьдзіўленьне. "Не. Але гэта зьява, пра якую многа гаворыцца быццам яна цудоўная, а насамрэч людзям жыцьцё безупынна ўскладняе і, найчасьцей, канчаецца расчараваньнем або і нечым горшым", – даказвала дзяўчына. "Мужчыну жанчына альбо ейны пасаг патрэбныя, таму ён і жэніцца. Зрэшты, у многіх краінах мужчына жонку купляе або і некалькі. У іншых – крадзе. А дзяцей? У Азіі дзяўчынак лішніх забіваюць. І можа, гэта ўсё

гэта зь любові?” – пыталася дзяўчына. “Цяжка вам запярэчыць, – сказаў я, – Але паступова сьвет зьмяняецца, ды і ад нас саміх многае залежыць. Нам усім трэба вучыцца разумець іншых, цаніць дружбу, імкнуцца да дасягненьня ў жыцьці шчасьця. Альбэр Швайцэр гаварыў: “Адзіная рэч, якая памнажаецца, калі яе дзелім, гэта шчасьце”. А гэта быў вялікі вучоны, гуманіст. “А дружба? Яна нават паміж людзьмі і жывёлай можа здарыцца. І гэта я вам зараз магу паказаць”. Я выняў з кішэні свае сямейныя здымкі і падаў дзяўчыне той, на якім жонка корміць лыжачкай вераб’я, які сядзіць на ейным пальцы. “Ой! Якое гэта цудоўнае!” – выгукнула дзяўчына ў захапленьні. На іншых здымках верабей быў з намі на прагулцы ў полі ці на плячы ў жонкі...

Да нашай размовы, хоць мы і гаварылі напаўголасу, пільна прыслухоўвалася пасажырка, якая сядзела насупраць нас. Відавочна, тэма нашых разважаньняў яе цікавіла, але да нашай размовы яна не далучалася. Далей я сваёй суседцы падарожжа распавёў пра выказваньні жыцьцёва дасьведчаных жанчын на тэму каханьня, дружбы і, увогуле, шчасьця ў жыцьці і таго, што згода ў жыцьці патрабуе самаахвярнасьці.

Некалі, электрыфікуючы вёску Насуты, кватэру я наймаў у школе. Маці настаўніцы, пані Сапега, казала, што вельмі хацела, каб ейны муж курыў – дзеля прыстойнага выгляду. І ён, быццам, з гэтым згадзіўся. Але пасьля вясельля станоўча гэтаму супрацівіўся, даказваючы, што для здароўя сям’і будзе гэта карысьней. Давялося пайсьці на кампраміс. На жаль, шчасьце трывала коратка. Прыйшла вайна, і ейнага мужа застрэлілі немцы. Засталася сама з маленькаю дачушкаю...

Крыху пазьней давялося мне быць у санаторыі ў Секове. Так склалася, што ў нашай сяброўскай групе ў большасьці былі настаўнікі – былыя рэпатрыянты з усходу, маладзенькая дзяўчына з Познані і жонка генэрала пані Галер (яна родам была, здаецца, з Украіны). У часе вандровак па ваколіцы заўсёды нам спадарожнічалі песьні, украінскія досьціпы пра жыцьцё, а часам успаміны пра былое. І ў адным мы ўсе былі згодныя, што бяз дружбы жыць цяжка і неразумна...

І так едучы і гамонкаю час займаючы, я ледзь не мінуў сваю станцыю. Пачаў хуценька апранацца і зьбіраць свае рэчы, а абедзьве жанчыны пільна мне ў гэтым памагалі і жадалі наступнай сустрэчы.



**МІНКІН Алег** нарадзіўся 31 сакавіка 1952 году ў вёсцы Чарняўка Хоцімскага раёну Магілеўскай вобласьці.

Пасьля заканчэньня Бабруйскай школы-інтэрнату № 1 (1969) паступіў у Маскоўскі энэргетычны інстытут, праз два гады перавёўся ў Маскоўскі інстытут інжынэраў сельскагаспадарчай вытворчасьці (скончыў у 1975 годзе). Працаваў майстрам на будаўніцтве электрападстанцыі ў Бураціі (г. Улан-Удэ), інжынэрам-электрыкам на нафтаперапампоўваючых станцыях нафтаправоду "Дружба" (г. Наваполацак), інжынэрам-наладчыкам у сыстэме "Галоўтранснафта" (г. Гомель), інжынэрам тэхнагляду на нафтаправодах поўначы Цюменскай вобласьці (г. Наябрск). Сябра СБП з 1988 году. Жыве ў Вільні.

Пачаў выступаць у друку зь вершамі ў 1980 годзе (газэты "Гомельская праўда", "Літаратура і мастацтва"). Аўтар зборнікаў паэзіі "Сурма" (1985), "Расколіна", прозы "Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў" (1994), а таксама дзіцячых кніг.

Пераклаў вершы Ц. Норвіда, Б. Лесьмяна, Л. Стафа, П. Грабоўскага.

У 2007 годзе Алег Мінкін атрымаў літаратурную прэмію Таварыства вольных літаратараў "Гліняны Вялес" за кнігу вершаў "Пенаты". Алег Мінкін цягам васьмі гадоў выдаваў газэту віленскіх беларусаў "Рунь", якая распаўсюджвалася сярод беларускай дыяспары далёка за межамі Летувы.

# У татарскім палоне

Заложнікі... Раней я бачыў іх толькі на экране ды чуў пра іхныя пакуты й выпрабаваньні з роспавядаў знаёмых. Цяпер гэта закранула мяне самага. Тое, што здарылася са мною, адбываецца сёньня на ўсім абшары вялікай Расеі, сталася будзённаю зьяваю гэтай ускрай крыміналізаванай краіны...

## Пралёг

Напрыканцы красавіка пачаў мяне даймаць тэлефанічнымі званкамі адзін мой стары знаёмы з гораду N, якому я колькі гадоў таму назад дапамагаў у Вільні збываць прывезеныя ім тавары. Мой прыяцель У. запрашаў мяне прыехаць у ягоны родны горад ды аднавіць былыя камэрцыйныя сувязі. Прапановы ягоныя былі заманлівыя, досыць выгадныя. Зьявілася нібыта мажлівасьць крыху падзарабіць на сям'ю, на выданьне газэты, якой быў уладальнікам і рэдактарам. Апроч усяго, я даўно ўжо ня быў у Расеі й пастанавіў (каб не марнаваць часу) напісаць падарожныя нататкі, а таксама зьведаць сваякоў, каторыя жывуць якраз па шляху ў Татарстан, у Падмаскоўі.

І вось, узяўшы з сабою адно толькі кішэнныя грошы ды фотаапарат, я вырушыў у дарогу, разьлічваючы празь якіх дзесяць дзён вярнуцца дамоў. Падарожжа маё, аднак, расьцягнулася на два доўгія й пакутныя месяцы...

Задаюся пытаньнем, ці былі ў мяне кепскія прадчуваньні? Безумоўна, былі. Таксама й добра знаёмыя мне віленскія бізнэсмэны адгаворвалі ехаць, кажучы, што Татарстан сёньня адзін з найбольш "бандыцкіх" рэгіёнаў, што "бандыты" там нікому спакойна не даюць працаваць, што ўжо не аднаго летувіса яны "раскруцілі", а некаторыя дык і зусім не вярнуліся дамоў – дагэтуль у росшуку. Я, аднак, супакоіў сябе тым, што еду да чалавека, якога ніколі раней не "падстаўляў", што еду да яго ў сям'ю, што сам ён ужо сталага веку. Апроч таго, за савецкім часам мне давялося шмат папрацаваць у розных "мядзьведжых кутках" Расеі на камсамольскіх ды іншых новабудоўлях побач з "хімікамі" (вольнаадпушчанымі), меў пэўны досьвед, як сябе паводзіць, калі раптам патраплю ў лапы да былых "зэкаў".

## Прыезд

Праз два дні, пасьпеўшы добра паблукаць па Маскве (па "горадзе смутку майго і каханьня", дзе, дарэчы, прайшлі мае студэнцкія гады) ды палюбаваўшыся з вагоннага вакна на ранішнюю чырвонацагляную Казань з крамлём і мячэцямі, асьветленымі дэкаратыўным зялёным сьвятлом, я ўжо быў у N і званіў у дзьверы кватэры майго прыяцеля У. Дзьверы ён адчыніў мне сам. Заспаны і ў халаце. Кватэра была аднапакаёвая, бедна абстаўленая, брудноватая. Гэта адразу занепакоіла мяне, бо У. раней быў добра забясьпечаным чалавекам, меў вялікія грошы ад свайго бізнэсу. Убачыўшы, аднак, жонку й малую яшчэ дачушку, супакоіўся: ці мала што з намі здараецца ў жыцьці? У мяне ў самога неаднойчы бывалі і ўзьлёты, і падзеньні.

Пакуль У. хадзіў у краму "за хлебам", яго жонка пасьпела накрыць стол. У чаканьні мы пагаварылі зь ёй пра жыцьцё-быцьцё ў N і ў Летуве, дзе яна неаднаразова бывала з мужам. Прыкладна праз паўтары гадзіны вярнуўся У.

Падчас пачосткі прыяцель мой паводзіўся крыху нэрвова: не глядзеў мне ў вочы, не хацеў асабліва "чокацца" за нашых агульных знаёмых і за прыезд.

Выйшаўшы з-за стала, я прыняў душ. Было ўжо паабедзьдзе. Нехта пазваніў у дзьверы, і Ў. запрапанаваў паехаць пазнаёміцца зь ягонымі "кампаньёнамі".

На вуліцы нас чакала машына. Крыху пакружляўшы па горадзе, мы спыніліся каля звычайнага, здаецца, 13-павярховага гмаху. Падняліся на ліфце разам з У. на нейкі паверх, прыяцель мой пазваніў у абшарпаныя дзьверы адной з кватэраў, прапусьціў мяне наперад і зашчоўкнуў за мной замок.

## У "падвале"

У амаль пустым пакоі з абдзертымі шпалерамі, з вокнамі, занавешанымі бруднымі анучкамі, мяне чакалі двое ў чорных, з проразьзю для вачэй, "амапаўскіх" каўпаках. Адзін зь іх паказаў мне "ствол", параіў, каб я паводзіўся ціха, насунуў мне на галаву задам наперад брудна-белы шарсьцяны каўпак зь дзюркай для носу (у такіх каўпаках працуюць падчас марозаў на Поўначы зваршчыкі), туга зьвязаў за сьпінай рукі суконным поясам. Потым абшукаў мяне, забраў грошы, дакумэнты і ўсё, што я меў пры сабе. (Пакінутую на кватэры ў У. торбу з рэчамі назаўтра таксама прывезьлі ў "падвал").

Я быў вельмі агаломшаны такім абыходжаньнем са мною, такім хуткім і, як мне здавалася, бязглуздым паланеньнем. Глядзеў на ўсё так, нібыта гэта адбывалася не са мною, не адчуваў страху. Тым часам мяне пасадзілі на адзіную ў пакоі канапу, У. сеў насупраць у крэсла, пачаліся нашыя першыя перамовы зь ім, якія ўважліва слухалі мае "ахоўнікі". У. сказаў, што яму патрэбная (касьмічная для мяне) сума "зялёных", каб расплаціцца з пазыкамі ды нанова "закруціць бізнэс". Я адказаў, што ня маю за душою ні граша (што было чыстай праўдай) і сам хацеў крыху зарабіць за кошт супрацоўніцтва з У. Адным словам, мы размаўлялі на розных мовах. (Гэта была акурат тая "клясычная" сытуацыя, калі ў "прадаўца" няма тавару, у "пакупніка" грошай, а навокал зграя галодных "бандытаў", каторыя ўжо нізавошта цябе проста так не адпусьцяць).

Бачачы маю незгаворлівасьць, "ахоўнікі" вырашылі мяне "пугануць". Адзін зь іх паклаў мяне на канапу тварам уніз і заткнуў рот кляпам. Затым зьняў зь левай нагі пантофлю, надзеў замест яе тэпаць (каб не было сінякоў?), заламаў нагу й ня дужа моцна выцяў гумовай дубінкай. Удар па напружанай назе тупым болем адгукнуўся ў скронях. Пасьля некалькіх "лёгкіх" удараў, я страціў прытомнасьць. Калі ачомаўся, мой катавальнік паказаў мне яшчэ адзін з сваіх "прыёмаў": біў пад рэбры, ад чаго на хвіліну спынялася дыханьне. На знак таго, што я буду больш згаворлівы, ён пасьля трох такіх удараў запрапанаваў мне кіўнуць галавою. Мне нічога не заставалася, як пагадзіцца зь ім. Як потым даведаўся, гэткім "прыёмам" майго новага прыяцеля "навучылі" ў "мянтоўцы" (аддзяленьні міліцыі) і што біцьцё па заламанай назе сапраўды не пакідае сінякоў і можа каго хочаш зрабіць "вальтанутым" (вар'ятам). "Калі ўдасца вярнуцца дамоў, дык нічога ўжо ня будзеш помніць", – растлумачыў ён.

Катавалі мяне нядоўга і ўсяго адзін раз. Вельмі шкадавалі, што я ім "у бацькі гаджуся": быў бы маладзейшы, далі б не такога чосу. Пасьля заканчэньня працэдуры мне выцягнулі з рота кляп, перавярнулі на бок, накрылі з галавою коўдраю. У. з адным "ахоўнікам" некуды сыйшлі. Той, хто мяне катаваў, сеў насупраць у крэсла. Я наўмысна варочаўся й зрабіў так, каб праз шчыліну ў каўпаку бачыць яго. Свой чорны нагалоўнік хлопец зьняў. Быў ён смуглявы, з прыгожымі рысамі твару, худы, нейкі зусім нястрашны. Пад прыкрыцьцём коўдры я незаўважна вызваліў з суконнага поясу рукі. Крыўдна было паво-

дзіцца, як авечка перад закланьнем, сьмеласьці прыдавала й выпітая папярэдне зь "сябрам" У. гарэлка. Я выскачыў з-пад коўдры й нечакана накінуўся на свайго адзінага вартаўніка. Ды ён аказаўся спрытнейшы, выхапіў "ствол", наставіў на мяне. Я вярнуўся на канапу, моўчкі сеў. Ён нанова завязаў мне рукі (гэтым разам сьпераду), сталёвым ізаляваным дротам спутаў ногі, так што я з гэтага моманту мог рухацца толькі дробнымі крокамі. Біць ён мяне ня стаў. (Пазьней прызнаўся, што быў "ашарашаны" маімі "нестандартнымі паводзінамі".)

Затым малады "ахоўнік" перавёў мяне за шафу, загадаў легчы на брудны, з засохлаю крывёю "цюфяк" з гэткай самай бруднай падушкай. На гэтым "лежбішчы" за шафай я, нарэшце, пачаў усьвядамляць сваё незайздроснае становішча. Знаходзіўся я ў абсалютна чужым горадзе, апынуўся зь міласьці "сябра" ў лапах "бандытаў", мае блізкія нават ня ведалі, ці даехаў я да месца. Мяне маглі (напрыклад, ад страху) забіць, схаваць труп ды паведаміць, што я не прыехаў. Зразумеў, што самае галоўнае для мяне цяпер "падаць голас", каб ведалі, дзе я знаходжуся.

Так я праляжаў да наступнага вечару. Не прасіў ні піць, ні есьці: дый мне й не прапаноўвалі. Прасіўся толькі ў прыбіральню, перад якой мне разьвязвалі рукі. Дзьверы прыбіральні не зачынялі.

Гэтыя першыя суткі майго "палону" былі найбольш роспачныя. Кватэра была, відаць, зьнятая пад мяне й за мае "канфіскаваныя" грошы. У дзьверы пачасту стукаліся падпіўшыя знаёмыя папярэдняга жыхара. Мае "ахоўнікі" затойваліся, замотвалі мне рот шырокай ліпучай стужкай (скотчам), якая потым балюча аддзіралася разам з барадою. За шафаю было задушна, я страшэнна пацеў у куртцы й пантофлях. Па "цюфяку" бегалі прусакі.

Пра што мне ўвогуле думалася ў гэтыя першыя суткі палону? Што застаецца ў сьвядомасьці чалавека ў гэткай, як мая, "парогавай сытуацыі"? Не пакідала пачуцьцё крыўды за зьняважаную чалавечую годнасьць: што можна сёньня кожнага чалавека вось гэтак ні за што, ні пра што, як кавалак мяса, як парсюка, зьвязаць, засунуць за шафу й патрабаваць выкупу. Аднак сапраўднага страху сьмерці й шкадаваньня сябе самога чамусьці не было. (Мо таму, што век мой павярнуў з зэніту на захад? Што я ўжо даволі нажыўся?). Вострае шкадаваньне было да самых блізкіх мне людзей: жонкі й дачушак, якія ня сталі яшчэ на ногі. Шкадаваў трохі, што нешта не дарабіў у сваёй творчасьці, што, наогул, так мала зрабіў. Думалася, як недарэчна часам паміраюць людзі. Прабягалі перад вачыма, як карцінкі ў калейдаскопе, фрагмэнты з прамінулага жыцьця, як бы я разьвітваўся зь ім. Думалася пра вышэйшую справядлівасьць, пра Бога: няўмела спрабаваў маліцца...

А тым часам пад'езд і вуліца жылі сваёй звычайнай, недасяжнай мне цяпер, і таму жаданай, будзённасьцю. Звонку гулі й сыгналілі машыны, гаўкалі сабакі, крычалі людзі. За дзьвярыма чуліся крокі тых, хто вяртаўся ці йшоў на працу, бразгалі дзьверцы сьмецьцяводу, сьмяяліся дзеці. І я ляжаў усяго ў некалькіх кроках ад іх!

Наступнага вечару прыехаў У., сказаў, што заўтра прывязе тэлефон, што я з "падвала" буду стэлефаноўвацца зь Вільняй, прасіць, каб хто-небудзь прыехаў у N з "выкупам". Я адказаў, што такога чалавека, каторы даў бы за мяне выкуп, няма. Магу толькі выклікаць чалавека зь Летувы з "задаткам" за тавары, якія прапаноўваў мне У. На чым і пагадзіліся.

## Другія суткі й пераезд на “фазэнду”

Назаўтра У. так і не знайшоў тэлефон, па якім я змог бы пазваніць у Вільню. Гэтая “няўдача” ў пэўнай ступені паспрыяла майму ўратаваньню й шмат у чым палегчыла мой лёс. Я па-ранейшаму ляжаў ціха, пытаньняў не задаваў, не скуголіў, разумеючы, што мае ахоўнікі – толькі простыя выканаўцы, “пацаны”, карыстаючыся зэкаўскім слэнгам. Гэткія мае “нэўтральныя” паводзіны, якім я навучыўся на Поўначы і ў Сыбіры, мелі пэўны посьпех. Мае “ахоўнікі” часам самі прапаноўвалі ваду й хлеб. Ад хлеба я адмаўляўся, а ваду піў – шмат пацеў у сваім катуху.

Вартавалі мяне папераменна. Удзень то адзін, то другі “ахоўнік” ненадоўга адлучаліся ў горад. Калі я заставаўся сам-насам з В., каторы мяне катаваў, ён дазваляў мне зьняць каўпак ды пасядзець у крэсьле. Хлопец аказаўся начытаным, зь цікавымі думкамі, з насычаным падзеямі лёсам. Прайшоў дзьве вайны, меў дзьве “адсідкі”. Да таго ж быў цікавы апавядальнік, шмат цытаваў зь Лермантава. Літаратурна-філязофскія размовы зь ім ды роспыты пра войны й “адсідкі” скрашвалі маю самоту, адганялі панылыя думкі праз увесь час майго палону. У В. былі безумоўныя літаратурныя здольнасьці, ён някепска маляваў.

Другі ахоўнік А. быў больш нэрвовы й грубы ў дачыненьні да мяне, больш падазроны. Дазваляў толькі сядзець на “цюфяку”, часта нечакана зазіраў за шафу, правяраў завязку на руках і путы.

Аднак збольшага мае ахоўнікі абодва знаходзіліся ў пакоі. Тады я маўчаў, слухаў, пра што яны гаварылі, чуў, як яны гулялі ва ўлюбёную зэкаўскую гульню “нарды” ды слухалі Шафуцінскага й іншую расейскую “папсу” з “блатным” ухілам. Асабліва назаляла “Малалетка, малалетка...”, якая суправаджала мяне праз увесь час паланеньня.

Надвечар прыехаў У. Паведаміў, што прыдатнага для перамоваў зь Летувою тэлефону ён не знайшоў і што мы пераяжджаем на “фазэнду”. Мяне папярэдзілі, каб я “ня рыпаўся”, і разьвязалі. Я памыўся й трохі пачысьціў скамячаныя штаны й куртку. Перад тым як выйсьці У. паказаў мне “ствол”. А., які йшоў адзаду, таксама дзеля ўсяго дзеля паказаў мне “лімонку”, сказаўшы, што губляць яму няма чаго.

Пакуль пераяжджалі, з прыемнасьцю й зайздрасьцю глядзеў на вечаровы N, на праяжджаючыя міма машыны, на шпацыруючых. Звычайнае чалавечае жыцьцё сталася раптам для мяне такім недасяжным...

## Першы вечар на “фазэндзе”

Прывезьлі мяне ў звычайную трохпакаёвую кватэру на трэцім паверсе пяціпавярховага дому. Завялі ў адзін з пакояў, дзе ў куце мяне ўжо чакаў зашмальцаваны матрац з гэткай самай падушкаю – новае маё “лежбішча”. Пасадзілі на матрац, далі выпіць чарку гарэлкі, каб надалей усё выглядала больш натуральна, потым паставілі перада мною тэлефон, да скроні прыставілі “ствол”: “Звані!”. Папярэдзілі, што калі ня тое буду гаварыць, дык мне капцы. Я набраў нумар тэлефону ў Вільні, гаварыў “тое”. Часам У. выхопліваў трубку

ў мяне з рук, слухаў адказы “літоўца”, які меўся прыехаць з грашыма за “тавар”, якога не было. (Назаўтра бандыты падключылі паралельны аўтамат і праслухоўвалі кожнае маё слова. А ў свой першы вечар на “фазэндзе” я меў магчымасьць нейкім словам-паролем папярэдзіць “літоўцаў”, каб яны не выяжджалі. Пра такі “пароль” я, аднак, зь імі не дамовіўся – настолькі давяраў У.).

Зь першай маёй тэлефанічнай размовы зь Летувою вынікала нібыта, што “літоўцы” словам маім паверылі й што яны неўзабаве з задаткам (фактычна, з выкупам за маю галаву) прыедуць у N. Прыкра мне было, што мой знаёмы ў Летуве, якога я (хоць і пад “ствалом”) “падстаўляў”, паверыў у маю “байку” й пагадзіўся прыехаць, бо ў глыбіні душы я маліў Бога, каб ён здагадаўся нейкім чынам пра маё жалю вартае становішча, ня соваўся ў Татарстан. На жаль, мае першыя перамовы прайшлі гладка. Адно крыху ўсьцешыла, што выкуп за мяне зьменшыўся ў тры разы – з большымі грашыма “літоўцы” ехаць не пагадзіліся. (Зрэшты, праз некалькі дзён я ад гаваркога ахоўніка В. даведаўся, што акурат такую суму запазычыў У. у іхнім бандыцкім “абшчаку” (касе) й не вярнуў. Бандыты добра яго за гэта “наказали” – параздраблялі ногі, пасьля чаго У. тры месяцы ляжаў у гіпсе. Цяпер У. з гора “патрапіў у залежнасьць” (г. зн. ужывае наркотыкі), ня мае права выяжджаць з гораду... Зразумела, мне ад такіх расповядаў лягчэй ня сталася).

Акрыленыя сваёй першай перамогай ды бачачы маё шчырае нібыта жаданьне дапамагчы сабе й ім, ахоўнікі мае гэтым разам не завязвалі мне вочы й ня зьвязвалі рукі. Я быў упершыню накормлены смажанаю бульбаю з кіслымі агуркамі, папіў гарбаты з цукрам і маслам. Затым уладкаваўся на цюфяку й мне было дазволена глядзець тэлевізар. Ужо позна ахоўнікі заставілі дзьверы, што вялі ў прыхожую, цяжкаю тумбаю. Спалі яны па чарзе: А. – на канапе, што стаяла ля вакна, а В. – проста на падлозе каля мяне, бо нядаўна пакінуў нары, ня мог спаць на мяккім.

## Яшчэ 9 дзён палону

Наступныя дзевяць дзён былі аднастайныя й падобныя адзін да аднаго. Таму апішу іх фрагмэнтальна, што найбольш запомнілася.

Я па-ранейшаму захоўваўся “ціха”, ні з кім ня йшоў на блізкі кантакт. Кватэру, як высьветліў, здымалі студэнты-юрысты зь мясцовага ўнівэрсытэту, каторыя ў вольны ад вучобы час, пэўна, дапамагалі “бандытам”. Адзін зь іх часам заходзіў да мяне згуляць у шахматы, распытваў пра жыцьцё ў Летуве. У гэты час ахоўнікі, нібыта выпадкова, выходзілі з нашага пакою, спадзеючыся, верагодна, што я пачну “раскалвацца”: жаліцца студэнту, прасіць, каб дапамог мне выбрацца з пасткі, прапаноўваць грошы. Зразумела, я вёў з сваім партнэрам па шахматах чыста нэўтральныя размовы.

Дзякуючы посьпеху ў перамовах зь Летувою і ўзорным паводзінам мне дазволілі хадзіць па пакоі, мыцца й мыць бялізну ў часы, калі ў дом падавалі гарачую ваду. Кармілі раз на дзень усё той самай смажанаю бульбаю з кіслымі агуркамі. Зрэшты, мае ахоўнікі сілкаваліся мала, тым самым, што й я, і таксама адзін раз на дзень. Было відаць, што гэта іхны звыклы, “зэкаўскі” лад жыцьця.

У часе прагулак па пакоі, я глядзеў у вакно, арыентуючыся паступова, дзе знаходжуся, куды "рвануць", калі раптам пашчасьціць выбрацца з палону. Пакідаў у пакоі, дзе толькі можна, "сьляды" – на той выпадак, калі мяне раптам перавязуць у іншае месца. Аднаго разу схаваў пры сабе ручку й напісаў у прыбіральні на шматку паперы, што я ёсьць заложнік і што "здаў" мяне чалавек, каторы жыве па гэткім і гэткім адрасе. Паперку схаваў у патайнай кішэні нагавіцаў. Калі вартаўнікі забываліся зачыніць дзьверы пакою, я бачыў уваходныя дзьверы, назіраў, як яны адмыкаюцца й замыкаюцца. Зразумеў, што ніякага сакрэту замок ня мае. Прыйшоў таксама да высновы, што вонкавай аховы дзеля мяне не выстаўлялі, бо быў я для "бандытаў" звычайны ды выпадковы "лох" (камэрсант, якога ўдалося празь ягоную залішнюю даверлівасьць заманіць у пастку), каторы нічога ня быў вінны "братве" й якога трэба было толькі "раскруціць" дзеля папаўненьня "абшчаку".

Была поўная невядомасьць, што будзе са мной і зь "літоўцамі", калі тыя прыедуць у N. Хаця В., які, здаецца, сымпатызаваў мне, абяцаў пагаварыць з "паханом" (старшым званьнем бандытам), каб усіх нас жывымі адпусьцілі дамоў і нават машыну не адбіралі. Штопраўды, я ня дужа спадзяваўся на гэткі "шчасьлівы" канчатак сваіх "прыгодаў". Самым лепшым выйсьцем у маім становішчы былі б уцёкі, думка пра якія ні на хвілю мяне не пакідала. У выпадку, калі б я вырваўся з палону, я губляў толькі тое, што ўжо й так згубіў: грошы, дакумэнты, рэчы. А самае галоўнае – не "падстаўляў" сваіх прыяцеляў зь Летувы. Але непамысна й страшнавата было ўяўляць, што чакала мяне ў выпадку няўдачы: зноў пабоі, каўпак на галаве, прусакі...

Самоту маю й няпэўнасьць скрашваў сваімі разважаньнямі В., якому, відаць, імпанавала гутарыць з чалавекам, абазнаным у філязофіі й літаратуры. Мне таксама было цікава пачуць падрабязнасьці пра апошнія войны ў Расеі й цяперашняе жыцьцё ў "зонах". На маё пытаньне, як паводзіцца, калі раптам патрапіш туды, В. абнародаваў чатыры галоўныя запаветы ці то зэкаў, ці то будыстаў:

– не прасі;
– ня бойся;
– ня вер;
– гавары праўду.

Слушныя й карысныя парады, якія неўзабаве дапамаглі мне. Паверыўшы, што я пісьменьнік (у мяне ў дакумэнтах было пісьменьніцкае пасьведчаньне), В. ахвяраваў мне свой літаратурна-філязофскі твор, фрагмэнт каторага падаю ніжэй:

## Я любил...

Я раньше всё время жил в каком-то выдуманном мире: школа, дом, родители, работа, армия. Армия... В этом адском мире войны во мне всё перевернулось: идеалы, мысли, желания. Хотя жужжание пуль и не располагает к глубоким размышлениям, тем не менее, там они меня всё время посещали. Зачем? почему? за что? – эти вопросы хотелось не задавать, а кричать! Вот и сейчас, сидя в тюрьме, по прошествии пяти лет после того кромешного ада, который я прошёл в пьяном угаре и безмолвной ярости, пытаюсь проанализировать, что же во мне изменилось после этого "сеанса шоковой терапии"? То, что я стал

жёстким и колючим, это однозначно, хотя и мягко сказано. Я стал жестоким. Вспоминая тот случай, из-за которого я получил свою первую судимость, я поражаюсь той жестокости, с какой я всё это проделал. Кругом была кровь, а мне было всё мало. В то же время я ужасаюсь своей собственной жестокости и бесповоротности моей натуры и всё больше и больше утверждаюсь в мысли, что уже не изменюсь. Я очень молод, но вместо справедливости, радости и счастья во мне, как в последней гнилушке, осталась только злость, даже больше, чем злость: ярость, ненависть, подозрение и месть. Ненависть не ко всему живому, а к Человеку. Вот! Поэты воспевают, что человек – венец природы... Да никакой он не венец, а самое гнусное её изобретение, её самая большая ошибка.

Я боюсь своих мыслей. О чём бы я ни стал думать, всё у меня в конечном итоге сводится либо к гнусности, либо к низменным порывам человека. Я просвета не вижу! И это страшит. Но ведь с вечной злобой жить нельзя, и такой образ мышления моей натуры приведёт меня либо в дурдом, либо к пуле. Я понимаю всё это, но остановиться не могу. Живу и тону в своей же ярости, всё делаю с каким-то остервенением и кончу, наверное, свою жизнь, как бешеный пёс, чего и заслуживаю. Встречаюсь с человеком, чувствую интуитивно, что он человек хороший, но ищу в нём плохие черты. Или, не найдя их, рву с этим человеком все отношения...

У меня какая-то мания окружать себя отбросами общества и потом их же и топтать. Иногда думаю: "Кто же тебе право дал людей наказывать?" Не знаю и, наверное, никогда не пойму. Почему я отталкиваю хороших людей, даже когда они сами ко мне стремятся, огорождая себя ничтожествами? А если так, то я не имею никакого права их наказывать, потому что стою на одной социальной ступеньке с ними, стало быть, не лучше их. Но почему я считаю себя лучше их, правильней, справедливее? (Не могу сказать, что я не способен к самоанализу, так что в объективности моих рассуждений о себе сомневаться не приходится.) Почему же так происходит? Может, это болезнь, мания величия? По-моему, симптомы не те. Так выходит, что я до такой степени прогнил? Опять же не соглашусь, взяв из своей жизни несколько элементарных примеров. А может, я слишком требователен к себе? Но я никогда не требую от человека, чего не делаю сам!..

Я сильно запутался в своих мыслях, никого не допускаю в свой внутренний мир. Хочется жить просто, но мне с самим собой сладить не просто. Пытаюсь понять, что со мной стало после армии? Я же никогда раньше таким не был. Веселился, когда было весело, плакал, когда было плохо, я любил!

## Уцёкі

У чаканьні выезду сваіх "вызвольнікаў" зь Летувы правёў я так дзевяць дзён. Нарэшце, быў прызначаны дзень выезду. Узрадаваныя навіною, ахоўнікі і разам зь імі У., пастанавілі адзначыць посьпех у такой нетрывалай з усіх бакоў справе, як захоп і ўтрыманьне заложніка. У. недзе апоўдні прывёз дзьве літровыя пляшкі гарэлкі й два бутлі піва, кілбасаў, цыбулі. В. ненадоўга зьнік і прывёз з сабою "пахана", ужо нападпітку, брытагаловага, невысокага ростам татарына пад шэсьцьдзесят гадоў. "Пахан" сеў поруч са мною, трохі парапытваў у мяне пра Вільню, хітаў пры гэтым сваёй круглай галавой і ча-

мусьці радасна ўсьміхаўся, хаця я нічога сьмешнага не гаварыў. З намі ён доўга не сядзеў.

Гарэлка ўперамешку зь півам падзейнічалі як мае быць. Празь якія дзьве гадзіны я й мае ахоўнікі "вырубіліся" (пазасыналі). Я заснуў, дзе сядзеў, на канапе.

Калі нечакана прачнуўся, убачыў, што дзьверы насупраць, як зазвычай, застаўленыя тумбаю з кветкай, а на маім месцы, на цюфяку, храпіць А. Нікога больш відаць не было. У астатніх пакоях было ціха. Побач з канапаю былі яшчэ адны дзьверы ў сумежны, амаль пусты пакой з гантэлямі, штангаю ды іншымі прыладамі, у якім кампанія маіх новых знаёмых часам трэніравала зацеклыя падчас нялёгкай "службы" цягліцы й зь якога таксама быў выхад у прыхожую... Дзьверы гэтыя былі застаўленыя толькі столікам на колцах, за якім мы кагадзе "бяседавалі".

Я неяк адразу адчуў, што іншага зручнага для "рыўка" моманту ў мяне ўжо ня будзе. Успомніўшы другі "зэкаўскі" запавет ("ня бойся") і прыслухоўваючыся да храпу А., ціхенька адсунуў столік ад дзьвярэй... Дзьверы таксама адчыніліся бязь лішняга скрыпу. Асьцярожна падняўшыся з канапы, мякка выйшаў у сумежны пакой. Пастаяў там крыху. Пачуў, што з пакою насупраць даносіцца храп ці то "пахана", ці то В. Выйшаў у прыхожую, падыйшоў да дзьвярэй, узяў у адну руку свае запіхнутыя за шафу пантофлі, а другой павярнуў зашчэпку замка, так, як тое шмат разоў рабіў у сваіх думках. Штурхануў дзьверы, і ў адной кашулі і шкарпэтках зьбег па сходах на двор. Пабег на ажыўленую вуліцу. У двухстах мэтрах ад месца майго зьняволеньня, на трамвайным прыпынку, я пад зьдзіўленымі позіркамі людзей абуўся. Тут падасьпеў і трамвай...

## Эпілёг

Пра тое, як я выбраўся з зусім чужога мне гораду, бяз грошай і пашпарту, хто й чым дапамог мне, – я распавядаць ня буду. Зразумела й так, што "сьвет не бяз добрых людзей". Скажу толькі, што Расея цяпер настолькі небясьпечная краіна, што калі табе раптам пашчасьціць вырвацца з "татарскага" ці колечы-якога іншага палону, дык ня варта зьвяртацца да мясцовых органаў міліцыі, бо там могуць спачатку зрабіць выгляд, што табе ня верaць, а потым "здаць" тым самым "бандытам", а не, дык і "замочаць" (заб'юць) проста ў пастарунку... Усе там "павязаныя". Так што, ратуючыся ў N колькі дзён ад бандытаў, я найперш рабіў усё, каб не патрапіць у лапы мясцовых міліцыянтаў.

Прыемна было, аднак, у першую пасьля ўцёкаў (яшчэ халодную) травеньскую ноч сядзець на нейкай дачы, прыхінуўшыся, каб не было так зімна, сьпінай да бярвеньня дамка, пад азораным небам і слухаць жыцьцярадаснае крумканьне жабаў у безыменным прытоку Кама-ракі. Слухаць і быць задаволеным, што, дзякуй Богу, нікога не "падставіў", што ўсё абыйшлося малою крывёю, што "плакалі грошыкі" маіх "дабрадзеяў", каторыя ўжо "раскаталі губу", што – самае галоўнае – захаваўся як мужчына.

*2000*

# ЛЕТА Ў ГРЫБОНІІ

казка

## Грыбасей і ягоныя сябры

Усім добра вядома, што грыбы вырастаюць з драбнюткіх зярнятак, якія называюцца спорамі. Але хто рассыпае тыя споры-зернеткі па лесе? “Вецер!” – сцьвярджаюць вучоныя-батанікі. І ніхто зь іх нават не здагадваецца, што апрача ветру споры рассыпае невялічкі хлопчык у белай сьвітцы й саламяным капелюху, Грыбасей. Таму з вас, хто майстраваў з жалудоў і запалак сьмешных чалавечкаў, лёгка сабе ўявіць, які малюпасенькі гэты хлопчык. Аднак ён зусім не жалудовы, а такі самы, як ты, толькі што вельмі маленькі. Мусіць, праз свой невялічкі рост малеча Грыбасей добра бачыць споры грыбоў, нябачныя чалавечаму воку.

Ад дрэва да дрэва, ад куста да куста вандруе Грыбасей, трымаючы ў руцэ кош са спорамі. Раз-пораз ён бярэ з каша жменю драбнюткіх зярнятак і рассыпае іх па зямлі. Маленькі сейбіт добра ведае, якія грыбы сеюцца на машку, а якія на вераску, якія на пнях і сырых калодах, а якія на пяшчаных пагорках пад хвоямі, якія пад папарацьцю, а якія ў дуплінах старых дрэваў.

Калі кош пусьцее, Грыбасей вяртаецца ў Грыбонію. Так лясныя жыхары празвалі імшаную, засланую дробным гальлём і прэлым шыгольлем палянку, якая надзейна схаваная ад пільных вачэй грыбнікоў за Разлапістаю Вываpацінаю ў Непралазным Гушчары. Грыбонію перабягае вузкая сьцяжынка, да якой туляцца тры хацінкі пад імхом ды іншыя гаспадарчыя пабудовы: каморкі, скляпы, павеці, сьвірны. У крайняй ад Разлапістай Вываpаціны хацінцы жыве Грыбавец, дужы й працавіты хлопчык, на цэлы жолуд вышэйшы за Грыбасея. У сярэдняй хаце жыве сьлімак Пых, празваны так таму, што ён амаль ніколі не расстаецца з сваёю піпкаю. У апошняй хацінцы жыве сам Грыбасей. Аднак, вярнуўшыся зь лесу, ён не сьпяшае дадому, а заходзіць у сьвіран, дзе ў засеках захоўваецца да сяўбы збожжа, дастае з кішэні павелічальнае шкельца й прыдзірліва разглядае споры-зернеткі, спрабуе іх на пах і смак. Затым зноўку насыпае паўнюткі кошык і надоўга зьнікае ў лесе.

Пакуль Грыбасей расьсявае споры, Грыбавец або шчыруе на грыбным гародзе, або пляце з грыбніцы вяроўкі й кашы, або гатуе з грыбоў розныя смачныя стравы, на якія ён вялікі мастак. А сьлімак Пых тым часам поўзае па Грыбоніі ад грыба да грыба, пыхкае сваёю доўгаю піпкаю й цікуе за Чарадзейнаю Хмаркаю, якая вісіць над агародам і зь якой і ўдзень, і ўночы цярусіць цёплы рэдкі дожджык: акурат такі, які патрэбны для росту грыбоў. Гэтая прывязаная да ножкі Вялікага Мухамора Хмарка – найвялікшая каштоўнасьць Грыбоніі.

## Развагі пра дождж

Усе лясныя жыхары добра ведаюць, што Грыбасей – вялікі вучоны. Нездарма ён штораніцы падоўгу сядзіць пры сваім пісьмовым стале і ўсё пра штосьці думае, мармычачы пад нос малазразумелыя, мудрагелістыя словы.

Вось і сёньня ён сядзіць на сваім заўсёдным месцы ды занатоўвае нешта на чарнічным лістку. Калі набярэцца дванаццаць такіх лісткоў, Грыбасей зробіць зь іх сшытак і паставіць на паліцу побач з гэткімі самымі сшыткамі, сьпісанымі ім за доўгія гады нястомнай навуковай працы. Над сталом на прымацаванай да столі аборкі вісіць гнілушка-ліхтарык. Вокны пакоя занавешаныя фіранкамі, каб дзённае сьвятло не замінала думаць вялікаму вучонаму. “Чаму, – разважае Грыбасей, – і Грыбавец, і Пых кажуць, што дождж ідзе? У сапраўднасьці лёгка заўважыць, што дождж стаіць на месцы, а не ідзе. Зрэшты, калі пільна ўгледзецца ў ніткі дажджу, дык пераконваесься, што дождж кроплямі сыплецца з нашае Хмаркі!”

Грыбасей падыйшоў да вакна, адхінуў фіранку й доўга назіраў за Чарадзейнаю Хмаркаю, зь якой церусіў цёплы летні дожджык. “Але, сёньня зноў ідзе... цьхву, я хацеў сказаць – стаіць дождж”, – прамармытаў вучоны. Ён зашморгнуў фіранку і ўжо зьбіраўся быў абмакнуць белае птушынае пёрка ў арэхавую шкарлупінку з атрамантам, як раптам дзьверы прачыніліся і ў пакой упоўз сьлімак Пых.

– Добрага дажджу! – прывітаўся Грыбасей. – Ну, як там на двары?

– Ды ўсё ідзе дождж! – адказаў Пых, які нічога не падазраваў.

– І куды гэта ён ідзе? – спытаўся Грыбасей.

– Зараз пагляджу, – уздыхнуў Пых і ўжо наважыўся быў выпаўзьці на ганак, ды тут знадворку пачуўся лямант і ў хату ўляцеў Грыбавец.

– Ратуйце! Лавіце! Шукайце! – крычаў ён і ўжо нічога больш ня мог вымавіць ад хваляваньня. І толькі калі Грыбасей даў яму выпіць шклянку дажджавой вады, Грыбавец крыху супакоіўся й сказаў: – Нехта зноў перарэзаў вяроўку...

Астатняе грыбонцы зразумелі бяз словаў: нейкі шкоднік перарэзаў вяроўку, на якой іх Хмарка мацавалася да Вялікага Мухамора, і Грыбоніі пагражае засуха.

## Пошукі хмаркі

На капелюхах грыбоў зіхацелі буйныя кроплі расы. Сьляпіла вочы абмытая дажджом трава. Вецер даносіў зь лесу пах багуна й жывіцы. А грыбонцы нават не заўважалі ўсяго гэтага хараства. Яны блукалі па лесе й, закінуўшы галовы, прыглядваліся, ці не заблыталася дзе ў гольлі іх Хмарка. Аднойчы Грыбаўцу здалося, што Хмарка апала долу й калыхаецца на суседняй з Грыбоніяй паляне. Ён кінуўся туды на злом галавы, аднак убачыў замест хмаркі белае воблака дзьмухаўцоў, якія, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго пухнатымі галоўкамі, гойдаліся на ветры. Іншым разам у Грыбаўца заняло б дух ад захапленьня, а цяпер ён толькі стукнуў нагою па дзьмухаўцовым сьцябле й паныла пацёгся далей.

Неўзабаве ў вачох грыбонцаў замітусіліся сінія й зялёныя плямы – так яны нагледзеліся на блакітнае неба й зялёнае лісьце. А Пых цяжка дыхаў і ня мог падняць галавы. І таму ўсе ўзрадаваліся, калі Грыбасей прапанаваў сабрацца пад Вялікім Мухаморам ды параіцца, што рабіць далей.

Першы на сцэну, што ўзвышалася пад ножкаю Мухамора, узыйшоў Грыбасей. Ён расказаў сябрам пра засуху й нагадаў, што сьвежымі мухаморамі мож-

на атруціцца. Аднак, калі засуха й мела дачыненьне да пошукаў Хмаркі, дык пры чым тут сьвежыя мухаморы, Грыбавец з Пыхам аніяк не маглі даўмецца.

— А пры чым тут сьвежыя мухаморы? — асьцярожна спытаўся Пых.

— Калі мы ўсе атруцімся, хто тады будзе шукаць Хмарку? — пытаньнем на пытаньне адказаў Грыбасей.

— А ўсё ж, дзе яе шукаць? — спытаўся Грыбавец.

Грыбасей заплюшчыў вочы, прыхінуўся да мухаморавай ножкі й задумаўся. Цераз хвілю Пых і Грыбавец пачулі ціхае пахропваньне. Грыбавец схапіў пушынку дзьмухаўца, якая якраз пралятала паўзь яго, і паказытаў ёю ў носе вучонага.

— Га? Што? — расплюшчыў вочы Грыбасей. Ён убачыў у руцэ сябра пушынку й пакрыўджана сказаў: — Я тут за ўсіх расьпінаюся, думаю, дзе нам шукаць Хмарку, а вы... Можа ты, Грыбавец, ведаеш, куды яна падзелася?

І Грыбасей з пакрыўджаным выглядам сыйшоў са сцэны. Грыбавец узьбег на ягонае месца й пачаў так усхвалявана нешта казаць, што Грыбасей з Пыхам не зразумелі ніводнага слова. Напрыканцы свае палымянае прамовы Грыбавец так рашуча махнуў капелюшом, што не ўтрымаўся на сцэне й паляцеў з вышак, добра, што сябры пасьпелі падхапіць яго.

— А ты, Пых? Што скажаш ты? — спытаўся Грыбасей.

Пых павольна ўспоўз на сцэну й, пыхнуўшы піпкаю, разважліва сказаў:

— Мне здаецца, што Хмарку трэба шукаць да той пары, пакуль яна ня знойдзецца.

— Малайчына Пых, — пахваліў Грыбасей пачырванелага ад задавальненьня сьлімака.

Цяпер зноў надыйшоў чарод Грыбасея.

— Памятаеце, — нагадаў ён, — летась паляўнічыя спудзілі ўдзень Пугача? Небарака якраз пралятаў над Грыбоніяй і зрэзаў крылом нашую Хмарку. Тады яе знайшла жаба Рапуха й не хацела аддаваць нам. Добра, што мы паклікалі на дапамогу бусла Клекатуна. Дык вось, ці не Пугач зноў адарваў нашую Хмарку?

— Пугач жыве ў дупліне Сухога Дуба, акурат па дарозе да маіх сваякоў, — зазначыў Пых.

— Рушым да Пугача! — выгукнуў Грыбавец.

## Далейшыя пошукі

Птушкі, кузуркі ды іншая лясная драбяза крычалі ад захапленьня, калі бачылі дзівосныя калёсы, зладжаныя з капелюха баравіка й чатырох капялюшыкаў-колаў ад падасінавікаў. На калёсах важна, з доўгаю піпкаю ў роце, сядзеў сьлімак Пых. Грыбасей вёў калёсы за аглоблі, а Грыбавец штурхаў іх ззаду. І ніхто з грыбонцаў не зважаў на гучныя вітаньні лясных жыхароў, чакаючы, калі лясная сьцяжына выведзе іх да Пугачовага жытла.

Папоцемку калёсы выкацілі да Сухога Дуба. Грыбонцы пачалі абыходзіць ягоны магутны камель і пільна ўглядацца ў спляценьне вузлаватых галінаў, якія цямнелі на сінім вечаровым небе. Але Пугач, напэўна, яшчэ драмаў у сваім жарале. Грыбасей ціхенька пастукаў па камлі дрэва. Угары нешта гулка вухнула. Ад нечаканасьці Пых выпусьціў з рота піпку, а Грыбавец прысеў і заткнуў вушы.

– Вось і ўсё! – прашаптаў ён.

З дупла на грыбонцаў вялікімі бурштынавымі вачыма зіркала глюгастая Пугачова галава.

– Ці ня бачыў ты дзе нашую Хмарку? – ветліва спытаў у Пугача Грыбасей.

– Калі вы ня выберацеся адгэтуль, я праглыну вас, як мышэй! Я страшэнна галодны! Вух! Вух! – выгукнуў Пугач, залыпаў жоўтымі вачыма й схаваўся ў дупліну. І грыбонцы пасьпешліва ад'ехалі ад Сухога Дуба.

Назад дабіраліся амаль у поўнай цемры. Нябачныя галіны дрэваў трывожна шамацелі над іхнымі галовамі. З пранізьлівым віскатам пікіравалі на грыбонцаў начныя разбойнікі-кажаны. Грыбасей гнілушкаю асьвятляў лясную сьцяжынку, ад чаго змрок здаваўся яшчэ больш густы й страшны. Усе маўчалі, бо ўсім было прыкра й сумна.

Толькі калі першыя промні пазалацілі капелюхі грыбоў, калёсы выкацілі пад крывую Бярэзіну, якая здаўна расла на мяжы Грыбоніі. І нечакана Грыбавец убачыў празрыстыя кроплі, што каціліся ба белым бярозавым камлі.

– А я ведаю, скуль гэтыя кроплі! – узрадаваўся ён. – Там, на вершаліне дрэва, заблыталася ў гольлі нашая Хмарка!

– А можа, гэта бярозавік? – засумняваўся Пых і зьлізнуў кроплю, якая кацілася па камлі. – Не, не салодкі!

– Сок у бярозы бывае толькі раньняю вясною! – упэўнена сказаў Грыбасей. – Трэба некаму лезьці на дрэва.

– За паўгадзіны, – уздыхнуў Пых, – я магу запаўзьці на капялюх Вялікага Мухамора. Аднак, каб залезьці на Бярэзіну, мне спатрэбіцца некалькі дзён.

– За некалькі дзён усе нашыя грыбы загінуць ад сьпёкі, – уздыхнуў Грыбавец.

– Вось што! – усклікнуў раптам Грыбасей. Ты ж, Грыбавец, майстра выдзімаць бурбалкі са сьлізі масьляка. Трэба выдзьмуць такую вялікую бурбалку, каб на ёй, як на паветраным шары, можна было падняцца да самай вершаліны!

– Гура! – у адзін голас закрычалі Пых з Грыбаўцом.

Грыбонцы набралі ў аранжавы капялюшык лісічкі сьлізі масьляка. Прынесьлі пад крывую бярэзіну сплеценыя з грыбніцы вяроўкі й вялікі кош. Вяроўкі прымацавалі да каша, а ў кош паклалі некалькі буйных каменьчыкаў. З чарацінавага сьцябла зрабілі трубку-выдзімалку. Аднак высьветлілася, што выдзьмуць такую вялікую бурбалку, каб на ёй можна было адправіцца ў паветранае падарожжа, няпроста. Памаракаваўшы, пастанавілі паклікаць на дапамогу жабу Рапуху, якая жыла непадалёк у Сырой Пячоры пад Старой Вольхай.

– Цур, я з вамі не пайду! – спалохаўся Пых і шпарка, калі так можна сказаць пра сьлімака, папоўз да сваёй хаціны.

## У Сырой Пячоры

Рапуха ляжала ў найсырэйшым закутку Сырой Пячоры, абмахвалася стракавіным пяром і, чэрпаючы раз-пораз зь нейкае іржавае бляшанкі, палівала сабе пысу, шурпатую сьпіну й гладкае чэрава.

– Добрага дажджу! – павіталіся зь ёю Грыбасей з Грыбаўцом, спыніўшыся на парозе пячоры.

Рапуха ўтаропілася ў іх лупатымі вачыма, але нікога ня ўбачыла, бо жабы бачаць толькі тое, што рухаецца.

— Рухайцеся! Рухайцеся! — загадала жаба.

Грыбонцы пачалі падскокваць на месцы.

— Вось цяпер я вас выдатна бачу, — расчаравана сказала Рапуха. — А куды гэта падзеўся ваш сябрук Пых? Ён такі тлусьценькі й смачненькі, цьхву, я хацела сказаць — сымпатычненькі...

— Пых папоўз да сваіх сваякоў, — зманіў Грыбасей.

— І ня хутка вернецца, — дадаў Грыбавец.

— Вельмі шкада, — уздыхнула Рапуха. — Мне даўно трэба зь ім пагаварыць пра адну важную справу... Дык чаго вы да мяне завіталі?

Грыбасей распавёў Рапусе пра іх няшчасьце й дадаў, што толькі адна Рапуха, адна яна ва ўсім лесе можа выдзьмуць такі вялікі паветраны шар, каб на ім можна было падняцца да вершаліны Крывой Бярэзіны. Жаба доўга вагалася, бо на дварэ было сьпякотна, і ёй не хацелася выходзіць са сваёй прахалоднай пячоры. Нарэшце яна спыталася:

— Колькі?

— Што — колькі? — зьдзівіўся Грыбасей.

— Колькі камароў вы мне зловіце за дапамогу? Ці вы мяркуеце, што я буду разьдзімацца для вас задарма?

— Пяць! — цьвёрда сказаў Грыбасей.

— Дзесяць, — пазяхнула Рапуха.

— Шэсьць! — сказаў Грыбасей.

— Дзевяць! — не пагадзілася Рапуха. — І ні на аднаго менш!

Урэшце рэшт сыйшліся на сямі камарох.

## Ратаваньне хмаркі

Неўзабаве Грыбасей, Грыбавец і Рапуха былі пад Крывою Бярэзінаю. Рапуха памачала канец чараціны ў вядзерцы са сьлізьзю, надзьмулася й пачала выдзімаць паветраны шар. Як толькі на канцы трубкі зьявілася вясёлкавая бурбалка, Грыбавец накінуў на яе загадзя падрыхтаваныя вяроўкі. І вось бурбалка пераўтварылася ў вялікі шар, і той шар адарваўся ад трубкі й закалыхаўся над галовамі грыбонцаў. На ягонай люстранай паверхні адбіліся і зялёная трава, і рудая сьпіна Рапухі, і капелюшы Грыбасея й Грыбаўца.

— Ну, залазь у кош! — сказаў Грыбавец Грыбасею.

— Чаму я? — зьдзівіўся Грыбасей.

— Таму што ты — лягчэйшы, — патлумачыў Грыбавец.

— А ты і ўзрадаваўся, — паныла сказаў Грыбасей. — Узрадаваўся, пасылаючы ў небясьпечнае паветранае падарожжа знакамітага вучонага Грыбоніі? Ты што, хіба не разумееш, што мая гібель можа стацца непапраўнаю стратаю для навукі?

— Ну, тады палячу я! — згадзіўся Грыбавец.

Ён ускочыў у кош і пачаў выкідваць адтуль каменьчыкі. Кош адарваўся ад зямлі й паволі паплыў угору.

— Ква-ква! — у захапленьні квакнула Рапуха.

— Гура! — выгукнуў Грыбасей.

– Гура! – данеслася аднекуль збоку. Грыбасей глянуў туды, адкуль далятела гэтае “гура”, і ўбачыў Пыха, які, узьлезшы на страху сваёй хаткі, назіраў за тым, што адбывалася каля Крывой Бярэзіны.

– Хто гэта зараз крыкнуў “гура”? – спыталася жаба.

– Гэта... гэта рэха! – знайшоўся Грыбасей.

– Штосьці вельмі падобна да голасу Пыха, – засумнявалася Рапуха, круцячы галавою.

А кош з Грыбаўцом быў ужо пад самаю вершалінаю.

– Ёсьць! – пачулася ў вышыні. І раптам перад Грыбасеем бухнуўся вобзем кош, а ўсьлед за ім павольна апалі вяроўкі ад паветранага шару.

– Бывай, Грыбавец! Лепш бы я паляцеў сам... – прашаптаў перапалоханы Грыбасей і зьняў капялюш.

– Ляціць! Ляціць! – квакнула Рапуха.

Грыбасей зірнуў угору і ўбачыў Грыбаўца. Той апускаўся, трымаючыся за вяроўку, да якой была прывязаная іх Чарадзейная Хмарка.

Так грыбонцы выратавалі Грыбонію ад засухі.

## Як Грыбасей выдумляў герб Грыбоніі

Ураньні, пачуўшы знадворку Грыбаўцовы крокі, Грыбасей хуценька ўсхапіўся з ложка, падбег да пісьмовага стала, дастаў са стольніцы нейкі страката размаляваны аркуш і, схапіўшы павелічальнае шкельца, пачаў уважліва разглядваць малюнкі на тым аркушы.

– Добрага дажджу! – паздароўкаўся Грыбавец, зайшоўшы ў хату, аднак Грыбасей нібыта не пачуў свайго сябра й па-ранейшаму старанна дасьледаваў сваю нядаўнюю знаходку. Ён часта падбіраў у часе сваіх вандровак па лесе цікавыя паперыны, у якія паляўнічыя, дрывасекі ды грыбнікі, зьбіраючыся ў лес, загортваюць сабе ежу на дзень.

Грыбавец падыйшоў да свайго вучонага сябра й таксама загледзеўся на дзівосныя малюнкі. На аркушы былі і гарматы, і львы, і глюгастыя арлы, і вершнікі зь мячамі, і скрыжаваныя шаблі, і залатыя кароны, і замкавыя вежы.

– Што гэта за малюнкі? – зьдзівіўся Грыбавец.

– Гэта не малюнкі. Гэта – гербы. Кожная сапраўдная краіна мае свой герб, – растлумачыў Грыбасей.

– Навошта?

– Каб яе паважалі суседнія краіны. А яшчэ, каб застрашыць непрыяцельскае войска. Убачыць вораг на сьцягу якуюсь страшную пачвару ды як дасьць лататы – не дагоніш!

– Здорава! – у захапленьні ўсклікнуў Грыбавец. – Давай і мы прыдумаем сабе герб! Тады ніхто не адважыцца крануць нашую Хмарку!

– А як ты мяркуеш, над чым я тут раздумваю ўсю ноч навылёт? – пакрыўджаным голасам запытаў Грыбасей.

– Ты прыдумляеш герб Грыбоніі!

– Менавіта так!

– І прыдумаў?

– Амаль што. Аднак, каб дадумаць да канца, мне трэба крыху падсілкавацца. А ў мяне ў хаце ніводнага, нават сушанага, грыба няма!

— Я зараз! — крыкнуў Грыбавец і куляй выскачыў з хаты. А Грыбасей падхапіўся з крэсла й пачаў скакаць, гучна пляскаючы ў ладкі.

У хату прасунуў галаву Пых. Ён крыху паназіраў за Грыбасеевымі скокамі й зьдзіўлена запытаўся:

— Добрага дажджу! Чаго гэта ты так расскакаўся?

— Раблю зарадку, каб добра выгаладацца перад тым, як зьесьці місу гарачых клёцак!

І тут, сапраўды, у хату ўляцеў Грыбавец зь місаю, над якой узьнімалася пара, напаўняючы пакой смачным пахам грыбных клёцак. Пакуль Грыбасей ласаваўся клёцкамі, Пых з Грыбаўцом уважліва вывучалі малюнкі на Грыбасеевым аркушы. Аднак ніводны з малюнкаў зусім не напалохаў іх.

— Не, — сказаў Пыху Грыбавец, — нам трэба што-небудзь страшнейшае! Добра было б намаляваць на гербе Грыбоніі галаву Пугача.

— Або Рапуху, — прапанаваў Пых.

Аднак Грыбасей, пракаўтнуўшы апошнюю клёцку, схапіў пэндзаль і намаляваў на дубовым лістку нейкую лютую пысу, парослую густою поўсьцю, з доўгімі ікламі й калючымі вочкамі, якія злосна зіркалі на грыбонцаў з-пад калматых навіслых броваў.

— Хто гэта? — спалохаліся Пых з Грыбаўцом і адсунуліся ад жудаснага страшыдлы.

— Ня ведаю, — адказаў Грыбасей і таксама на ўсялякі выпадак на крок адступіў ад дубовага ліста. Ён крыху памаўчаў і растлумачыў: — Гэта страшны й жудасны Невядома Хто!

Так Невядома Хто стаў гербам Грыбоніі. Грыбонцы прымацавалі яго да дзьвюх хваёвых шыпулек і ўваткнулі пад капелюхом Вялікага Мухамора, каб ён бараніў Чарадзейную Хмарку. Пысу страшнага й жудлівага Невядома Каго пастанавілі штовечар націраць гнілушкаю, каб яна сьвяцілася ў цемры й яшчэ больш палохала ворагаў Грыбоніі.

## Паляваньне на камароў

Таго самага вечару грыбонцы сабраліся пад Вялікім Мухаморам. Грыбасей прынёс з сабою сшытак, а Грыбавец — вялізны сачок.

— Значыцца так, — пачаў Грыбасей, — яшчэ раз паўтараю свой плян. Спачатку Грыбавец перавязвае Хмарку на самы ўскраек Грыбоніі, а сам, з сачком, хаваецца за ножкаю Вялікага Мухамора. Камары, заўважыўшы, што дождж скончыўся, вылазяць з-пад лісьця. Я ў гэты час сяджу на сцэне й раблю выгляд, што чытаю цікавую кнігу. Камары падлятаюць да мяне й зумкаюць над маёю галавою. Я не зварочваю на іх аніякае ўвагі. Асьмялеўшы, яны адзін за адным сядаюць на мяне, і, калі набярэцца роўна сем камароў, Грыбавец — бац! — накрывае мяне сачком. І нам застанецца толькі пасадзіць камароў у буталь ды аднесьці іх Рапусе.

— Гура! — выгукнуў Грыбавец і памчаўся перавязваць Хмарку.

— А я? Ты забыўся пра мяне! — пакрыўдзіўся Пых, якому таксама хацелася паляваць на камароў.

— Ты ўскараскаесься на капялюх Вялікага Мухамора й будзеш пільнаваць камароў. Калі налічыш сем, падасі Грыбаўцу знак, — супакоіў Пыха Грыбасей.

Так і зрабілі. Пых ускараскаўся на Вялікі Мухамор. Грыбавец схаваўся з сачком за Мухамораваю ножкаю. Грыбасей сеў на сцэну й разгарнуў свой сшытак. Яму нават ня трэба было рабіць выгляд, што чытаньне яму даспадобы, бо што можа быць больш прыемнае, чым чытаць радкі, якія ты некалі напісаў сваёю рукою?

Калі нізкае вечаровае сонца трохі падсушыла траву, першы цікаўны камар танютка зазумкаў над вухам Грыбасея. Грыбасей сядзеў нерухома, і асьмялелы камар сеў проста на разгорнуты сшытак і пачаў поўзаць па аркушы, тыцкаючы сваім доўгім носам у радкі, якімі густа быў сьпярэшчаны сшытак грыбонскага вучонага. “Гэта, напэўна, вельмі адукаваны камар, – вырашыў Грыбавец. – Шкада будзе аддаваць яго Рапусе на сьняданак”. І толькі ён так падумаў, як адукаваны камар рэзка павярнуў свой нос-спрыц да Грыбасея й балюча джыгануў яго ў шчаку. Грыбасей кінуў сшытак, заверашчаў ад болю й кульнуўся са сцэны...

Ажно пад Крывою Бярэзінаю дагнаў свайго сябра й спыніў, накінуўшы на яго сачок, перапалоханы Грыбавец. Да ўспухлай шчакі пацярпелага ён прыклаў мякаць сьвежай порхаўкі, якою здаўна лечацца грыбонцы ад укусаў камароў ды іншай машкары.

А Пых, пачуўшы дзікі лямант Грыбасея, хацеў быў ужо зьлезьці долу, каб даведацца, што там такое здарылася, як раптам над Мухаморам зазьвінеў камар і – бзым! – сеў на ліпучы грыбовы капялюх. Камарыныя ножкі прыклеіліся да капелюха, і камар дарэмна пнуўся адарвацца, жаласьліва бзымкаючы й часта-часта трапечачы сваімі кволымі крылцамі. Цераз хвілю на грыб сеў другі камар. А пакуль Пых зьлез з Мухамора, на ярка-чырвоным капелюху, які так прываблівае машкару, сядзела ўжо з тузін перапалоханых камароў.

Грыбавец прыставіў да Вялікага Мухамора драбіны, пасадзіў у вялікі шкляны буталь роўна сем камароў, а астатніх адпусьціў на волю. Затым закаркаваў буталь і аднёс яго пад павець.

## Начныя прыгоды

Імжэў цёплы дожджык. Далёка ў лясных нетрах вухкаў Пугач. У начной цемры пад капелюхом Вялікага Мухамора вырас з-пад зямлі мігатлівы блакітны агеньчык. Ён паміргаў-паміргаў і перакінуўся раптам у рухавага дзядка ў залатой кароне й ядвабнай сьвіце скрозь абсыпанай зіхатлівымі дыямэнтамі. Дзядок выцягнуў з-за пазухі бліскучыя срэбныя нажніцы й пачаў падкрадацца да Мухаморавай ножкі. Ён ужо зьбіраўся быў перарэзаць вяроўку, на якой трымалася Чарадзейная Хмарка, ды, зірнуўшы на дубовы ліст, на якім сьвяцілася разьюшаная пыса Невядома Каго, спалохана войкнуў, выпусьціў з рук нажніцы й кінуўся наўцёкі. Доўгая дзедава сьвітка чаплялася за шыгальле, і зь яе іскрамі скочваліся на дзірван каштоўныя камяні.

Спыніўся дзядок пад павецьцю, дзе стаяў вялікі, заткнуты коркам буталь, у якім жаласьліва зумкалі камары. Небаракі не разумелі, праз што іх пасадзілі ў гэтую шкляную вязьніцу, да таго ж ім бракавала паветра, і адзін самы стары камар сядзеў ужо на дне бутля й цяжка дыхаў, сумна зьвесіўшы свой доўгі нос. Дзядок пакружляў вакол бутля, спыніўся, пахітаў галавою й выцягнуў корак. У гэты самы момант каля павеці пачулася нечае невыразнае мармытаньне. Дзядок выглянуў на двор і ўбачыў Грыбасея, які з гнілушкаю ў адной руцэ й з

павелічальным шкельцам у другой, нахіліўшыся, паволі сунуўся па сьцяжыне. Вось ён спыніўся каля самай павеці й задумліва прамармытаў:

— Цікава! Зноўку гэтыя таямнічыя знакі-сьцежыкі! Што яны азначаюць? Можа, яны — сьляды далёкіх касьмічных прышэльцаў, пра якіх я нядаўна чытаў у шматку газэты? А можа, гэта пісьмёны старажытных грыбонцаў?

Дзядок адзаду падкраўся да Грыбасея і ўбачыў, што той разглядвае на сьцяжыне чыесьці доўгія, пераплеценыя паміж сабой сьляды.

— Гэта ж сьцежыкі маклякоў — дажджавых чарвякоў! — зарагатаў дзядок.

— Ты глыбока памыляесься! Маклякі ніколі не выпаўзаюць на паверхню зямлі! — запярэчыў Грыбасей. Ён, як і ўсялякі сапраўдны вучоны, заняты досьледамі, нават не пацікавіўся, хто гэта загаварыў зь ім.

Дзядок шуснуў за ганак Грыбаўцовай хаты й хрыпата пракукарэкаў. Грыбасей узьняў голаў.

— Дзіўна, у лесе кукарэкае певень. Адкуль ён тут? Хіба што заблудзіўся? — прамовіў уражаны вучоны.

І тут дзядок зароў, закугакаў, застагнаў. Грыбасей ад неспадзяванкі выпусьціў шкельца, і яно ўдарылася аб камень і рассыпалася на дробныя аскалёпкі. З хаты на ганак вылецеў Грыбавец і, спатыкнуўшыся аб ножку, якую яму спрытна й незаўважна падставіў жвавы дзядок, кулём скаціўся проста пад ногі Грыбасею.

— Хто гэта так нема крычаў тут? — запытаўся ён зь зямлі ў Грыбасея.

— Каб я ведаў гэтага нягодніка, я скарміў бы яго Рапусе разам з камарамі! — усхліпнуў Грыбасей і зьняў капялюш. — Празь яго я пабіў сваё павелічальнае шкельца!

— Ня плач, — супакоіў яго Грыбавец, — у мяне вунь які гузак на лобе ўскочыў, а я ўсё адно ня плачу.

— А я й ня плачу! — пакрыўдзіўся Грыбасей. І сапраўды, цяжка было зразумець, ці то сьлёзы, ці то кроплі дажджу коцяцца па ягоным твары.

А дзядок ужо быў каля хацінкі сьлімака Пыха. Ён зазірнуў у расчыненае акно і, пераканаўшыся, што сьлімак соладка сьпіць, дастаў з-за пазухі нейкі празрысты шар, перагнуўся цераз падваконьне й асьцярожна паклаў яго перад самым Пыхавым носам. Выпрастаўся, пырснуў сьмехам і зноў перакінуўся ў блакітны агеньчык. Паміргаў-паміргаў і апаў долу, зьнік пад зямлёй.

## Хто выпусьціў камароў?

На сьвітаньні ў Грыбасееву хату ўляцеў устрывожаны Грыбавец.

— Камары! — лямантаваў ён. — Хтосьці выпусьціў з бутля камароў!

— Перш-наперш трэба агледзець месца злачынства, — прамовіў, крыху памаўчаўшы, Грыбасей.

І сябры рушылі да павеці. У павеці Грыбасей старанна агледзеў падлогу вакол бутля, зазірнуў у кожны закутак, раскапаў кучмень старызны, што грувасьціўся ля сьцяны, але нічога падазронага не знайшоў.

— Шкада, што я пабіў сваё павелічальнае шкельца. На бутлі абавязкова павінныя быць адбіткі пальцаў таго злыдня, што павыпускаў нашых камароў, — пашкадаваў Грыбасей.

І толькі ён так сказаў, як нечаканы парыў ветру аднёс Чарадзейную Хмар-

ку ўбок, выглянула сонца, і Грыбавец убачыў на зямлі ланцужок зіхатлівых каменьчыкаў, што ад павеці цягнуўся ажно да Вялікага Мухамора.

— Што гэта? — усклікнуў Грыбавец.

Грыбасей зірнуў туды, куды паказваў ягоны сябрук.

— Ага! Я так і думаў! Сьляды злачынцы! — сказаў ён, і грыбонцы стрымгалоў кінуліся да Вялікага Мухамора.

Каля Невядома Каго яны адразу ўбачылі срэбныя нажніцы й скемілі, што шкоднік-нягоднік меў намер перарэзаць вяроўку ад іх Чарадзейнай Хмаркі. Добра, што лютая пыса Невядома Каго перапалохала зламысьніка. Але дзе яго шукаць? Грыбасей закінуў галаў і пачаў аглядаць неба. Ды там плавала адна толькі іх Хмарка. Грыбавец лёг на траву, прыціснуўся вухам да дзірвана й пачаў прыслухоўвацца. Аднак і пад зямлёю было ціха. Грыбавец падняўся, на ўсялякі выпадак тупнуў нагою й пагрозьліва загадаў:

— А ну, вылазь!

— Ня вылезу! — пачулася з-пад зямлі.

Ад нечаканасьці Грыбасей з Грыбаўцом селі на дол. Ды колькі яны потым ні тупалі нагамі, колькі ні страшылі злачынцу, — ён болей ні разу не адгукнуўся.

## Новае здарэньне

Прачнуўшыся, Пых проста перад самым носам убачыў нешта круглае й празрыстае, ад чаго прыемна пахла грыбамі. “Напэўна, занесла ноччу скразьняком, пакуль я спаў”, — падумаў Пых. Сьлімак любіў спаць на сьвежым паветры й ніколі не зачыняў дзьверы й вокны сваёй хацінкі. Таму раніцою ён часта знаходзіў на падлозе розныя занесеныя ветрам прадметы: то сухі лісток, то якую травінку, то птушынае пёрка. Аднак такога дзівоснага шара Пых у сваім жытле яшчэ не спатыкаў. І ўсё ж ён мог паклясьціся, што недзе ён ужо бачыў акурат такі самы шар. Толькі вось дзе? Пых яшчэ раз старанна абнюхаў сваю знаходку, запаліў піпку і, пускаючы над сабою дым, папоўз да Грыбаўца.

Грыбаўца ў хаце не было, і Пых, пыхкаючы піпкаю, папоўз да Грыбасея. Аднак і ў Грыбасеевай хаце было пуста. Сьлімак зьбіраўся быў ужо выпаўзьці на двор, ды выпадкова зірнуў на плякат на сьцяне збоку ад пісьмовага стала вялікага грыбонскага вучонага, і... піпка выпала ў яго з рота: на плякаце быў намаляваны ягоны шар! “Ды гэта ж... спора!” — узрадаваўся сьлімак. Так, да яго сёньня ўраньні патрапіла надзвычай вялікая спора! І Пых, упершыню ў жыцьці забыўшы сваю піпку, шпарка, як толькі мог, папоўз дадому.

Трэба зазначыць, што Пых ні разу ў жыцьці ня сеяў грыбоў і заўсёды трохі крыўдаваў на Грыбасея, які нікому не давяраў расьсяваць споры-зернеткі па лесе. А што там асаблівага? Хадзі сабе паміж дрэваў ды сып з каша направа-налева — вось і ўся праца!

Дапоўзшы да свайго жытла, Пых выкаціў дзівосную знаходку на двор. Знайшоў на падворку прыдатную яміну, паклаў туды спору й пачаў прысыпаць зямлёю. Аднак не пасьпеў сьлімак як мае быць прысыпаць яміну, як раптам глеба над спораю заварушылася, і зь зямлі вытыркнуўся сьветла-бурштынавы капялюшык, які ўвачавідкі цямнеў і рабіўся ўсё большы й большы. “Трэба паклікаць Грыбасея з Грыбаўцом. Вось узрадуюцца, калі ўбачаць, які незвычайны грыб я пасеяў!” — падумаў Пых, дзівуючыся на цуда-грыб, які за не-

калькі хвіляў вымахаў ажно пад страху ягонай хаткі. А тут на сьцяжыне якраз паявіліся Грыбасей з Грыбаўцом.

— Гэй! — гукнуў Пых сяброў. — Паглядзіце, які незвычайны грыб!

Грыбасей з Грыбаўцом зірнулі на Пыхаў грыб, які ўжо перавышаў сьлімакову хатку, і спыніліся, як укапаныя.

— Грыб Смактун... — у роспачы прашаптаў Грыбасей.

— Што ты нарабіў, Пых! — закрычаў Грыбавец. — Гэта ж сам грыб Волат! Калі мы ня зьнішчым яго, ён зьнішчыць усю нашую Грыбонію!

— Пілу! Хутчэй нясі пілу! — ачомаўся нарэшце Грыбасей. І Грыбавец кінуўся па пілу.

Тым часам страшны грыб вырас вышэй за Вялікі Мухамор, а ягоная таўсматая ножка зрабілася такой калянай, што калі грыбонцы пачалі пілаваць яе, з-пад зуб'я пілы пасыпаліся іскры, нібыта яны пілавалі ня грыб, а камень.

— Глядзіце! — усклікнуў раптам Пых.

Грыбы, што расьлі непадалёк ад Пыхавай хаткі, зморшчыліся й пацямнелі, як ад сьпёкі. Дый трава пад імі пажоўкла, як увосень. Гэта жудлівы грыб Волат пачаў высмоктваць сокі з усяго жывога, што атуляла яго.

— Мы загінулі! — прамовіў Грыбасей.

І нечакана з-пад волатавай ножкі вырас маленькі пякучы агеньчык. Грыбонцы адсунуліся ад яго, а гарачае полымца пачало імкліва разрастацца й неўзабаве зрабілася вялікім вогнішчам, якое шугала пад самы капялюх страшнага грыба-вампіра. І Волат пачарнеў, патрэскаўся й пачаў развальвацца на кавалкі. Праз хвілю ад яго засталася груда асмалкаў, якія дыміліся сьмярдзючым чорным дымам.

Вогнішча паменшала й зноўку зрабілася жвавым агеньчыкам, які спачатку павольна, а затым хутчэй і хутчэй пачаў набліжацца да грыбонцаў. Тыя палахліва сыпанулі ад яго ва ўсе бакі, а агеньчык раптам зарагатаў, закруціўся на месцы ды перакінуўся ў рухавага дзядка ў залатой кароне й ядвабнай сьвіце. Грыбонцы нясьмела падыйшлі да яго.

— Ты хто такі? — запытаўся Грыбавец.

— Хохлік! Мяне клічуць Хохлікам. Я хачу з вамі пасябравацца, — усьміхнуўся дзядок.

Грыбасей пільна прыгледзеўся да Хохлікавай сьвіты, аздобленай знаёмымі яму каштоўнымі каменьчыкамі. Ланцужок з акурат такіх самых каменьчыкаў прывёў ураньні Грыбасея й Грыбаўца ад павеці з пустым бутлем да Вялікага Мухамора, дзе грыбонцы знайшлі срэбныя нажніцы.

— Ці ня ты гэта часам сёньня ноччу крычаў пеўнем? — падазрона спытаўся Грыбасей і выцягнуў з-пад сьвіткі срэбныя нажніцы.

— Мае нажніцы! — усклікнуў Хохлік. І, зразумеўшы, што спудлаваў, хуценька дадаў: — Не! Я ня ўмею крычаць пеўнем!

— Гэта ня ён! — пераканаўча прамовіў Пых.

— Вальлё! Слава параможцу грыба Волата! — закрычаў Грыбавец.

І грыбонцы падхапілі Хохліка на рукі й з крыкам "вальлё!" пачалі падкідваць яго ў паветра. Усе так радаваліся й так гучна крычалі ды весяліліся, што ніхто нават і ня ўспомніў пра галодную Рапуху, якой абяцалі на сьняданак семярох камароў. Рапуха чакала-чакала грыбонцаў, ды нарэшце раззлавалася й сама паскакала ў Грыбонію. "Ну, я ўжо ім пакажу, як крыўдзіць бедную, старую, зьнясіленую голадам жабу", — усю дарогу прыгаворвала яна.

## Сутычка з Рапухаю

Калі грыбонцы ўдосталь нарагаталіся й стаміліся падкідваць свайго новага сябрука Хохліка, яны раптам заўважылі, што за паўкроку ад іх сядзіць Рапуха.

— Добрага дажджу, мухаморы! — злосна сказала яна. — Дзе мае камары?

Убачыўшы перад сабою Рапуху, Пых затрымцеў як асінавы лісток і пачаў адпаўзаць ад жабы хвастом назад, што ўвогуле не ўласьціва сьлімакам.

— Ня рухайся! — насьцярожана прашаптаў Грыбасей, аднак Рапуха ўжо пасьпела заўважыць Пыха.

— Каго я бачу! Мой найлепшы сябра Пых вярнуўся, нарэшце, ад сваіх далёкіх сваякоў! А я так сумавала безь цябе, так хацела з табою пагаманіць...

І галодная Рапуха наважылася скокнуць на сьлімака. Ды Грыбасей з Грыбаўцом не разгубіліся, схапілі зь зямлі вострую хваёвую шыпульку й наставілі яе на Рапуху. А Хохлік даў нырца пад зямлю, вынырнуў праз імгненьне збоку ад жабы з двума каменьчыкамі ў руках і часта-часта застукацеў каменьчыкам аб каменьчык. Па жабінай скуры прабеглі дрыжыкі. Яна ўцягнула галаву ў плечы й спалохана запыталася:

— Вой! Хто гэта?

— Ды гэта ж бусел клякоча! — здагадаўся пра Хохлікаву задуму Грыбасей.

— Бусел, бусел Клекатун, схапі жабу за каўтун! — паклікаў бусла Грыбавец.

— Вой, толькі ня клічце Клекатуна! Я вам за гэта дапамагу зьбіраць ураджай, — перапалохалася Рапуха.

— Ну, добра! Памочнікі нам патрэбныя! — пагадзіўся Грыбасей.

— Толькі ўжо не забудзься! — падхапіў Грыбавец.

Сябры аднялі ад жабы вострую шыпульку, і тая — плюх-шлёп — паскакала дадому.

— Весела тут у вас, — сказаў Хохлік. — А мне так надакучыла жыць аднаму.

— А хіба ў цябе няма сяброў? — зьдзівіўся Грыбавец.

— Няма, — уздыхнуў Хохлік.

— Сябры заўсёды, калі што-якое здараецца, прыходзяць на дапамогу, — заўважыў Пых.

— А дзе ты жывеш і чым займаесься? — спытаў Грыбасей.

— У мяне пад зямлёю кузьня й скарбніцы. У кузьні кавалі-краты куюць з золата дукаты — гэта такія залатыя скрылёчкі. А я іх потым хаваю ў сваіх скарбніцах, ды так, што ніхто зь людзей ня можа іх знайсьці. Во, каб вы ведалі, колькі ў мяне прыхавана пад зямлёю featureрознага багацьця!

— А навошта людзі шукаюць твае скарбы? — запытаўся Грыбасей.

Але Хохлік быццам не пачуў ягонага пытаньня. Ён не хацеў засмучаць сяброў аповедам аб прагных да золата людзях, якія, забыўшыся на гульні, сьмех, весялосьць, усё жыцьцё толькі тым і займаюцца, што палююць за Хохлікавымі багацьцямі.

— Хочаце, я пакажу вам свае падземныя ўладаньні? — прапанаваў Хохлік грыбонцам. І грыбонцы пастанавілі выправіцца назаўтра ў падземнае падарожжа й наведаць кузьню й скарбніцы свайго новага сябра.

## Дзень, які пачаўся моцным ветрам

Аднак назаўтра над Грыбоніяй падзьмуў моцны вецер. Такога шалёнага вятрыскі ня помніў ніхто з грыбонцаў. Схілялася ледзь не да зямлі вершаліна Крывой Бярэзіны. Угары ляцела лісьце, зламанае гальлё й птушынае пер'е. З хацінкі Пыха сарвала страху. Грыбасей з Грыбаўцом адною рукою прыціскалі да патыліцаў свае капелюшы, а другою – трымалі з цэлай моцы вяроўку, на якой сядзела Чарадзейная Хмарка. Вяроўка то ападала долу й скручвалася, нібы макляк, то нацягвалася й гула, як струна. І ніхто з грыбонцаў не прыкмеціў, як да ножкі Вялікага Мухамора прыкаціла ветрам нейкі прадаўгаваты сіні маток. І толькі калі вятрыска сьціх, маток гэты быў заўважаны Пыхам.

– Зірніце! Да нас зноў занесла нейкую вялікую спору! Трэба зьнішчыць яе, пакуль ня позна! – усклікнуў сьлімак. Ён падпоўз да сіняга матка й прынюхаўся. Ад матка пахла канваліямі, фіялкамі й яшчэ нейкімі кветкамі, якіх Пых ня ведаў. – Цьхву, кветкамі пахне!

– Маток гэты зусім не падобны да споры, зазначыў Грыбасей. – Апроч таго, споры заўсёды пахнуць грыбамі. – Ён задумаўся. – Хутчэй за ўсё, гэта кукалка-каўшанка, у якую загорнуты якісьці матылёк.

– Давайце вызвалім яго з каўшанкі! – прапанаваў Грыбавец і першы ўхапіўся за канец ніткі на сінім матку.

Да яго далучыліся Грыбасей з Пыхам. Яны дружна пацягнулі нітку, і маток пачаў размотвацца.

Празь некалькі хвілінаў з аднаго боку матка паказалася галоўка з блакітнымі і ўскудлачанымі, як пух дзьмухаўца, валасамі, а з другога – ножкі з маленькімі ружаватымі пальчыкамі. Грыбонцы шырока паразяўлялі раты ад зьдзіўленьня й перасталі цягнуць нітку. Галоўка заплюскала сінімі, як васількі, вачанятамі, а раток зь белымі зубкамі прамовіў:

– Што ж вы спыніліся? Размотвайце мяне хутчэй! А то я заплачу!

Грыбонцы зь яшчэ большым імпэтам пачалі размотваць сіні маток і, калі разматалі яго, убачылі... зграбную дзяўчынку ў сіняй сукенцы! Грыбасей дапамог дзяўчынцы падняцца зь зямлі, а яна чмокнула яго ў шчаку й ценькім, як званочак, галаском сказала:

– Мяне клічуць Валошка. Я ўмею вельмі спрытна скакаць з кветкі на кветку, а яшчэ я вельмі люблю сьмяяцца! – І засьмяялася: – Вух! Які цёплы дожджык! Як тут многа грыбоў!

– Гэта ж Краіна Грыбонія! – растлумачыў Пых.

– А ты адкуль да нас патрапіла? – спытаўся Грыбасей.

– Зь Сіняй Краіны...

– Ня ведаю такой... А як ты тут апынулася?

– Я ненаўмысна скокнула ў павуціну злога павука Крыжавіка. Добра яшчэ, што Крыжавік якраз быў сыты. Ён толькі заматаў мяне ў сваю павуціну ды падвесіў на суку ўніз галавою. Ня ведаю, колькі я так правісела, бо страціла прытомнасьць. Ачуняла толькі, калі мяне нехта сарваў з сука, і закруціў, і панёс, панёс...

– Гэта цябе ветрам сарвала! – здагадаўся Грыбавец.

– Добра, што ты ня трапіла ў мурашнік, – заўважыў Пых.

— Давайце паскачам ад радасьці, што я ўратавалася! — прапанавала Валошка.

І ўсе пачалі скакаць, сьмяяцца й куляцца, хто як мог. А тут яшчэ з-пад зямлі вырас блакітны агеньчык і, на радасьць сьмяшлівай дзяўчынцы, перакінуўся ў порсткага дзядка, які таксама пачаў скакаць і круціцца, як цыжык.

— Стой! — раптам крыкнуў Грыбасей. — Трэба ж, пакуль не сьцямнела, збудаваць Валошцы хату!

Тым вечарам да трох грыбонскіх хацінак дадалася яшчэ адна: утульная, крытая зялёным імхом, у якой пасялілася дзяўчынка зь Сіняй Краіны. Каб яна ня вельмі сумавала па звыклым для яе сінім колеры, Грыбавец пасадзіў перад ейнымі вокнамі сінія лясныя званочкі, а Хохлік аздобіў сьцены новага Валошчына жытла кавалкамі блакітнага туркусу.

Так цудоўна скончыўся дзень, які пачаўся моцным ветрам.

## Падарожжа ва ўладаньні Хохліка

Як толькі ранішняе сонца пазалаціла вершаліну Крывой Бярэзіны, Хохлік пабудзіў грыбонцаў, і яны ўсёю сябрынаю рушылі ў падарожжа. Спачатку Хохлік прывёў сяброў да Разлапістай Вывараціны й, сказаўшы, каб яны крыху пачакалі, даў нырца пад зямлю. Валошка ўзьлезла на гнуткую сьцябліну папараці, якой шмат расло каля Вывараціны, легла на сьпіну й, гойдаючыся на папараціне, пачала глядзець у чысты блакіт неба. І ёй уяўляліся блакітныя дрэвы зь сінім лісьцем і сіні кілім травы з блакітнымі рамонкамі на ім.

Грыбасей таксама лёг на імшаную купіну, углядваўся ў блакітнае неба й разважаў, чаму гэта яно, такое блакітнае ўдзень, робіцца ўночы чорнае, бы сажа. Ён успомніў пра вогнішча, якое штовечар палае на захадзе, і вырашыў, што блакіт згарае ў гэтым вогнішчы й ад яго застаецца чорны попел зь зіхотнымі жарынкамі зорак.

Грыбавец прыгадаў, якой прыгожай і цацачнай здалася яму Грыбонія з вышыні, калі ён ратаваў Чарадзейную Хмарку, і пачаў марыць пра тое, што калі-небудзь ён змайструе вялікі паветраны шар і паляціць на ім разам зь сябрамі ў далёкае падарожжа над Лесам.

І толькі Пых ні пра што ня марыў і нічога не ўспамінаў. Ён ляжаў на сухім бярозавым лістку, пускаў з рота колцы дыму й лічыў іх. Нечакана зямля пад сьлімаком заварушылася. Пых спалохана адпоўз убок.

— Грыб Волат! — усклікнуў ён.

Грыбонцы ўскочылі на ногі й спалохана ўтаропіліся на чорны груд зямлі, які рос на вачох, і чакалі, што зь землянога груда вось-вось зьявіцца бурштынавы капялюх страшнага грыба-вампіра. Аднак замест яго зь зямлі вылез стары крот, запрэжаны ў каламажку. А на засланай мяккім імхом каламажцы сядзеў і прыветна ўсьміхаўся сябрам не хто іншы як іхны Хохлік! І незвычайная вандроўка пачалася.

Сьпярша ехалі доўгім краціным ходам, са скляпеньня якога зьвісалі бледныя пакручастыя лапы каранёў. У сьвятле гнілушак, якія не забыліся прыхапіць з сабою грыбонцы, на каранях зырка блішчэлі й пераліваліся кроплі вільгаці — іх лёгка можна было зблытаць з каштоўнымі дыямэнтамі. Некалькі разоў крот спыняўся, прапускаючы незадаволеных маклякоў, якія павольна

перапаўзалі ход і зьнікалі ў мяккай вільготнай сьцяне. Было так ціха, таямніча й страшна, што Валошка прытулілася да пляча Грыбасея, а Грыбавец зажмурваў вочы й разьвітваўся з жыцьцём кожнага разу, калі каламажка натыркалася на корань ці камень, якія раз-пораз трапляліся на іхным шляху.

І ўсе з палёгкаю ўздыхнулі, калі нарэшце ў глыбіні цёмнага крацінага ходу занялося нейкае залацістае сьвятло й пачуліся далёкія бязладныя грукат і звон.

— Нешта гарыць! — прамовіў, панюхаўшы паветра, Пых.

І сапраўды, грыбонцы адчулі пах дыму.

— Трэба вяртацца! — прапанаваў Грыбавец.

— Ня бойцеся! — супакоіў сяброў Хохлік. — Там, наперадзе, мая кузьня.

Неўзабаве каламажка з грыбонцамі выкаціла ў вялікую прасторную пячору. Уздоўж муроў гэтага падземнага сутарэньня месьціліся печы-горны, зробленыя з абмазаных глінаю ракавінак. У горнах палалі гарачыя агеньчыкі, на якія дзьмухалі з кавальскіх мяхоў порсткія мышы-палёўкі. Спрытныя кавалі-краты хапалі вялікімі абцугамі з горнаў распаленыя дабяла кавалкі золата, клалі на кавадлы й апускалі на іх цяжкія молаты, выкоўваючы бліскучыя скрылькі-дукаты. Цэлая гара гатовых дукатаў высілася перад уваходам у пячору. Гэта іх залацістае зьзяньне бачылі нядаўна грыбонцы, калі ехалі сюды. Падарожнікі доўга назіралі за спрытнай працай Хохлікавых кавалёў, дзівячыся, як гэта сьлепакам-кратам, вочы якіх ад нараджэньня зацягнутыя скураю, удаецца вырабляць з золата такія гладкія й круглыя скрылькі.

— Хадзем, я пакажу вам мае скарбы! — запрасіў Хохлік сяброў, калі яны ўдосталь нагледзеліся на кавальскую працу.

І грыбонцы рушылі ўсьлед за Хохлікам у яшчэ адзін падземны ход, абапал якога месьціліся зялезныя, зь вялікімі ржавымі замкамі дзьверы.

Хохлік спыніўся каля адных зь іх, дастаў з-пад крыса зьвязку срэбных ключоў і адчыніў сховішча. У вочы падарожнікам зіхнула сьляпучае чырвонае зьзяньне. Гэта зьзялі й іскрыліся ў сьвятле гнілушак гурбы ясна-чырвоных рубінаў! Ад захапленьня Валошка запляскала ў ладкі, а Пых прынюхаўся да чырвоных крышталёў і страціў цікавасьць, бо ад іх зусім ня пахла грыбамі.

За другімі дзьвярыма Хохлік захоўваў блакітныя апалы. За трэцімі — кавалкі празрыстага бурштыну. За чацьвёртымі былі сінія сапфіры. Хутка ад бляску Хохлікавых скарбаў у грыбонцаў пачалі балець і сьлязіцца вочы. Да таго ж яны не прывыклі так доўга знаходзіцца пад зямлёю, і ад задухі па іхных тварах каціліся кроплі поту. І яны папрасілі Хохліка, каб той адвёз іх назад у Грыбонію.

Хохлік падарыў на разьвітаньне кожнаму па залатым дукаце, апроч таго, ён дастаў з-пад крыса і ўручыў вялікаму грыбонскаму вучонаму Грыбасею новенькую лупу ў срэбнай аправе й з такою самаю срэбнаю ручкаю, а на Валошчыну шыю надзеў цудоўныя амэтыставыя пацеркі. І задаволеныя падарункамі падарожнікі рушылі дадому.

Калі стары крот вывез каламажку на паверхню, і грыбонцы ўдыхнулі водар травы й суніцаў і ўбачылі ўдалечыні капелюхі грыбоў, імшаныя стрэхі хатак і сваю Чарадзейную Хмарку, — яны зь вясёлымі крыкамі пабеглі ў Грыбонію. Бо нездарма кажуць, што ў гасьцёх добра, а дома лепш.

## За сіняю павуцінаю

Некалькі наступных дзён былі для грыбонцаў звычайнымі, без асаблівых здарэньняў і падзеяў днямі. Калі не лічыць начнога нашэсьця на грыбонскі агарод зграі дзікіх лясных мышэй. Раней за ўсіх, пачуўшы бязладнае папіскваньне мышынай зграі, прачнулася Валошка. Яна падбегла да вакна і ўбачыла ў шарым прыцемку цёмныя цені лясных ліхадзеек, якія гойсалі ад грыба да грыба. Як ні страшна было Валошцы, яна, успомніўшы, што Пых не зачыняе нанач сваё жытло, перабегла ў ягоную хаціну, шчыльна зачыніла вокны й дзьверы ды папярэдзіла сьлімака пра небясьпеку. Да ранку ніхто з грыбонцаў так і не адважыўся выйсьці на двор, і невядома што здарылася б зь іх Грыбоніяй, каб не Невядома Хто. Мышы, натыркнуўшыся на ягоную разьюшаную пысу, сьпешна адступілі ў Непралазны Гушчар. Дагэтуль яшчэ грыбонцы з жахам пазіраюць на глыбокія пісягі на капелюхах грыбоў – адмеціны вострых мышыных зубоў.

І нечакана прыйшла новая бяда. Неяк ураньні Грыбавец закінуў за плячо матыку й, насьвістваючы вясёлую песеньку, адправіўся на агарод: надыйшоў тэрмін акучваць грыбы. Праходзячы праз Валошчыну хацінку, ён са зьдзівам заўважыў на сьцяжыне тоўстую сінюю нітку, якая ад расчыненых дзьвярэй цягнулася ў лес. Грыбавец успомніў сіні маток, у якім Валошку прыгнала ветрам да іх у Грыбонію, і пахаладзеў ад жаху. Гэта напэўна была павуціна павука Крыжавіка! “Валошка! Што з Валошкаю?!” – Грыбавец, кінуўшы матыку, убег у разнасьцежаныя дзьверы... У хаце было пуста.

Цяжка пераказаць, як хваляваліся грыбонцы, калі даведаліся, што Валошка зноў апынулася ў лапах злога павука Крыжавіка. Аднак усім было ясна: трэба як мага хутчэй выпраўляцца на пошукі дзяўчынкі. І неўзабаве Грыбасей з Грыбаўцом, пакінуўшы Пыха за гаспадара, рушылі ў дарогу. Грыбасей сунуў за пазуху гнілушку й лупу ў срэбнай аправе, а Грыбавец узяў з сабою скручаны ў сувой дубовы ліст са страшным і жудасным Невядома Кім.

Ішлі ўздоўж сіняй павуціны. Над галовамі шукальнікаў лёталі стракатыя матылькі й імклівыя зеленавокія стрэлкі-стракозы. Недзе высока-высока ў сьпляценьні зялёных галінаў цырыкалі вясёлыя пліскі. І зь цяжкасьцю верылася, што ў такі цудоўны сонечны дзень Валошцы пагражае гібель...

Доўгі час ішлі моўчкі. І толькі калі ўжо пачало вечарэць, Грыбавец парушыў маўчаньне.

– Сіні рамонак! – усклікнуў ён, паказваючы на купку белых з жоўтымі сярэдзінкамі рамонкаў, сярод якіх вылучаўся сваёй незвычайнаю афарбоўкаю сіні рамонак.

– Сіняя Краіна ўжо недалёка, – заўважыў Грыбасей.

І сапраўды, неўзабаве ў траве пачалі траплянцца сінія травінкі, а ў зялёным лісьці хмызоў пачалі тут-там пракідвацца дзівосныя блакітныя лісьцінкі. Але асабліва ўразіў грыбонцаў грыб-падасінавік зь ярка-сінім капелюхом на блакітнай ножцы. “Калі не загінем, – вырашыў Грыбасей, – прыхаплю з сабою па дарозе назад споры гэтага дзіўнага падасінавіка. Вось зьдзівіцца Пых, калі ўбачыць, што зь іх вырасьце!”

Аднак як ні сьпяшаліся сьмелыя шукальнікі, ім давялося спыніцца. Папершае, сіняя павуціна зрабілася амаль што нябачная на сіняй траве. Па-дру-

гое, пачало зьмяркацца й трэба было падумаць пра начлег. Сябры адшукалі ў калючым ажынавым зарасьніку старое птушынае гняздо, паставілі каля куста Невядома Каго, каб ён палохаў лясных драпежнікаў, якія ўночы маглі напасьці на маленькіх падарожнікаў, а затым залезьлі ў гняздо й заснулі, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго.

## Ратаваньне Валошкі

На золку грыбонцаў абудзіла даўгахвостая зь дзівосным сіне-блакітным апярэньнем сарока. “Уставайце! Уставайце!” – трывожна засакатала яна каля самага ажыньніку й хацела яшчэ нешта дадаць, ды ўбачыла страшную пысу Невядома Каго й пасьпешліва пераляцела на суседняе дрэва. Грыбонцы ўскочылі на ногі, вылезьлі з гнязда й, адшукаўшы ў траве сінюю павуціну, зноў рушылі на пошукі Валошкі.

Аднак хутка, на лясной прагаліне каля трухлявага пня, павуціна зьнячэўку крута павярнула назад і, зрабіўшы некалькі мудрагелістых выкрутасаў, абарвалася. Грыбонцы доўга кружлялі вакол пня, шукаючы працяг павуціны, але пошукі былі дарэмныя. Грыбасей прапанаваў узьлезьці на пень і агледзець навакольле. Пачалі ўжо маракаваць, як ускараскацца на пень, а тут якраз з-за калматай яліны паказаўся акраек сонца й асьвяціў паляну, на якой спыніліся грыбонцы. І яны заўважылі ланцужок зіхатлівых каменьчыкаў, які пачынаўся непадалёку й цягнуўся ў лес. Гэта былі фіялетавыя Валошчыны пацеркі-аметысты, падараваныя дзяўчынцы Хохлікам! І сябры здагадаліся, што Валошка, убачыўшы, як Крыжавік адарваў ад сябе павуціну й заблытвае сьлед, пачала неўпрыкмет кідаць па адной пацерачцы, каб яны маглі адшукаць яе.

– Яна дзесьці побач! – усклікнуў Грыбасей.

– Бяжым! – выгукнуў Грыбавец, і грыбонцы, пераскокваючы шматлікія старчакі й яміны, рынулі туды, куды цягнуўся зіхатлівы аметыставы ланцужок.

Абмінуўшы высокую кучу хлуду й прэлага лісьця, сябры выбеглі на бераг цёмнай лясной рэчкі. І ледзь пасьпелі схавацца пад разлапісты лапуховы ліст. Проста перад імі, на павуцінавых гамаках, нацягнутых паміж галінаў лазовага куста, адпачывалі два агромністыя, тлустыя ды ікластыя павукі. А над іхнымі гамакамі... вісеў сіні маток! І маток гэты ціхенька й жаласьліва плакаў. Ах, гэта была іх няшчасная Валошка! Але што рабіць? Грыбонцы высунулі галовы з-пад лапушыны й прыслухаліся да размовы павукоў.

– Цмок, ці ня час ужо крыху падсілкавацца? – казаў адзін павук да другога. – Разматай тую паскакуху Валошку ды цягні яе сюды.

– Не, Крыжавік, сёньня твая чарга, – пазяхнуўшы, азваўся другі павук.

– Хопіць таго, што я цэлы дзень на карку цягнуў яе сюды... Дый маладзейшы ты, мог бы і ўважыць старэйшага...

– Усё роўна ня буду размотваць! Чаму ўсё я ды я?! – незадаволена перапыніў яго Цмок.

Грыбонцы пахаладзелі ад страху, і раптам Грыбасею прыйшла ў галаву цудоўная думка.

– Слухай, Грыбавец, – прашаптаў ён, – я ціхенька падпаўзу пад самыя павучыныя гамакі й падыму над сабою Невядома Каго. Ты, як убачыш, што ён вы-

сунуўся з травы, крычы страшным голасам, тупай нагамі й сьвішчы, як толькі можаш. Павукі падумаюць, што гэта раве страшны Невядома Хто, перапалохаюцца ды як дадуць лататы! Пакуль яны ачомаюцца, мы з Валошкаю будзем ужо далёка ў лесе!

Так і зрабілі. Грыбасей незаўважна падпоўз да павукоў і ўзьняў над сабою дубовы ліст зь Невядома Кім. Грыбавец закрычаў, зароў і затупаў нагамі. Павук Цмок прыўзьняў голаў, зірнуў на Невядома Каго й, пазяхнуўшы, прамовіў:

– Глянь, Крыжавік, нехта Невядома Хто хоча паласавацца нашаю здабычаю!

– А ты спусьціся з гамака ды растлумач яму, што трэці тут – лішні, – таксама пазяхнуў Крыжавік. – А калі нечага не зразумее, пусьці яму кроў.

І Невядома Каму нічога іншага не заставалася, як адпаўзьці назад пад лапуховы ліст. Грыбонцы ледзь ня плакалі ад роспачы, і... раптам. Раптам на беразе лясной ракі запаліўся знаёмы блакітны агеньчык! Агеньчык нячутна наблізіўся да павуковых гамакоў і, прыветна паміргаўшы грыбонцам, пераkінуўся ў Хохліка. Сябры бачылі, як дзядок дастаў з кішэні жменю залатых дукатаў і, заціснуўшы іх у прыгаршчах, патрос імі каля вуха павука Крыжавіка. Затым кінуў адзін грошык на асьветлены сонцам бераг, над самаю стромаю ракі, даў нырца пад зямлю і апынуўся побач з узрадаванымі грыбонцамі.

– Зірні, Цмок, – ляніва прамовіў Крыжавік, як быццам нешта празьвінела.

Ягоны напарнік зірнуў на бераг ракі і ўбачыў залаты дукат, які зьзяў на сонцы.

– Залаты дукат! Цур, мой! – выгукнуў Цмок, кульнуўся з гамака і ўсім сваім грузкім целам накрыў здабычу.

– Мой! Я першы пачуў, як ён празьвінеў! – зароў Крыжавік, скаціўся з гамака й наваліўся на Цмока. Павукі счапіліся ў клубок і, кусаючы й драпаючы адзін аднога, пачалі качацца на стромым рачным беразе.

– За мной! – у адначасьсе ўсклікнулі Грыбасей з Грыбаўцом, падбеглі да счэпленых у бойцы павукоў і саштурхнулі іх разам з залатым дукатам з высокага адхону ў раку.

Пакуль Грыбасей з Грыбаўцом выбаўлялі Валошку з павуціны, Хохлік стаяў, задумаўшыся, на тым самым месцы, адкуль боўтнуліся ў вір прагныя да золата павукі. Стаяў і назіраў, як імклівая рачная плынь зносіць усё далей і далей злых лясных разбойнікаў, якія хацелі загубіць цудоўную дзяўчынку Валошку...

Па дарозе ў Грыбонію шчасьлівая Валошка, быццам матылёк, пералятала з кветкі на кветку, сьмяялася й цалавала то Хохліка, то Грыбаўца, то Грыбасея, якія перахітрылі павукоў і выбавілі яе зь бяды. Хохлік злавіў сіняга конікастрыкаціка, скочыў на ягоную сьпіну й панёсься наўскач, вельмі зьдзівіўшы грыбонцаў, якія ні разу ў жыцьці ня бачылі сапраўднай верхавой язды. Калі падыйшлі да сіняга падасінавіка, Грыбасей натрос зь яго поўны капялюш спораў і ўсю далейшую дарогу бег наперадзе – так яму карцела хутчэй пасеяць гэтыя сінія споры на агародзе ў Грыбоніі. А колькі радасьці было, калі сьмелыя падарожнікі абмінулі Разлапістую Вывараціну і ўбачылі на капелюху Вялікага Мухамора сьлімака Пыха, які, пыхкаючы піпкаю, яшчэ здалёк махаў ім хвастом, таксама радуючыся іхнаму вяртаньню.

## Далейшыя падзеі й збор ураджаю

Пасьля вяртаньня зь Сіняй Краіны Грыбасей пасеяў на грыбонскім гародзе сінія падасінавікі. Аднак, калі яны трохі падрасьлі, дык паступова зьмянілі сваю афарбоўку зь сіняй на чырвоную й перасталі адрозьнівацца ад звычайных падасінавікаў.

Валошка калі-нікалі дапамагала Грыбаўцу весьці гаспадарку, але найчасьцей яна прападала пад Крывою Бярэзінаю. Там дзяўчынка сачыла за малюпасенькімі дзіцянятамі чорнай жучыхі Гнаявічыхі, якія гадаваліся на ейным зарослым мяккаю шэрсткаю чэраве. Гарэзы-жучаняты раз-пораз звальваліся на дол, і дзяўчынка падсаджвала іх назад на жучысіна чэрава. Удзячная ёй праз гэта Гнаявічыха дазваляла Валошцы ўзьбірацца на сьпіну й глядзецца ў люстраную зь цёмна-сінім адлівам патыліцу.

А яшчэ Валошка знаходзіла на пяшчанай сьцяжыне перад сваёю хаткаю розныя цікавыя малюнкі, і сярод іх – свае партрэты! Ёй вельмі даспадобы былі гэтыя малюнкі, і яна хацела пазнаёміцца зь невядомым таленавітым мастаком, аднак нават не здагадвалася, што малюнкі на сьцяжыне належалі Грыбасею.

Ня ведала й таго, што закаханы ў яе Грыбасей напісаў ужо не адзін верш, прысьвечаны ёй, Валошцы. Праўда, пасьля таго, як аднойчы дзяўчынка са сьмехам уляцела ў Грыбасееву хату на сьпіне жучыхі Гнаявічыхі, да сьмерці напалохаўшы закаханага паэта, Грыбасей пакрыўдзіўся й кінуў быў свае начныя прахаскі перад Валошчыным дамком. Аднак хутка ён аднавіў іх і аднойчы нават так задумаўся, што, не заўважаючы нічога наўкол, прайшоў цераз усю Грыбонію й балюча выцяўся ілбом аб камель Крывой Бярэзіны, набіўшы сабе вялікі гузак.

Здаралася, у Грыбонію завітваў Хохлік. І тады пачыналіся вясёлыя гульні й забавы. Дзядок навучыў сяброў гуляць у “зьбітага мухамора”. Грыбонцы ставіліся кругам, браліся за рукі й пачыналі шпарка круціцца. Хто першы падаў з ног, той – “зьбіты мухамор” – выходзіў з гульні. Сьлімак Пых праз сваю непаваротлівасьць ня мог удзельнічаць у гэтай вясёлай забаве. Аднак ён упадабаў яе ня менш за астатніх, бо што можа быць прыемнейшым, чым назіраць, як радуюцца твае сябры?

Так праляцела грыбонскае лета.

І вось аднаго ранку Грыбавец перацягнуў Чарадзейную Хмарку на мяжу Грыбоніі й прывязаў яе да камля Крывой Бярэзіны. У дзень Збору ўраджаю над Грыбоніяй павінна сьвяціць сонца, каб грыбы падсохлі й споры лёгка высыпаліся зь мільёнаў трубачак, у якіх яны высьпяваюць у грыбной мякаці. І збор ураджаю пачаўся.

Грыбавец раскатваў пад грыбамі шырокія сувоі палатна. Пых поўз па капелюхах грыбоў і стукаў па іх сваёю піпкаю. Споры сыпаліся на палатно, Грыбавец зграбаў іх у кучы, а затым прыгаршчамі насыпаў у кашы. Хохлік ставіў кашы на каламажку, запрэжаную старым кратом, і адвозіў збожжа да сьвірнаў. А там ужо Валошка з Грыбасеем разносілі споры-зернеткі па засеках.

## Сьвята Ўраджаю

Ужо зьмяркалася, калі апошні кош са збожжам быў завезены ў сьвіран і высыпаны Валошкаю ў засек пад гучныя крыкі й воплескі стомленых, але задаволеных грыбонцаў. Грыбавец нарэзаў на агародзе самых маладых грыбкоў і пачаў гатаваць смачныя, толькі яму аднаму вядомыя стравы. Ад галавакружных пахаў, якія разыйшліся далёка па лесе, жаба Рапуха некалькі разоў страчвала прытомнасьць і, не стрываўшы, без усялякага запрашэньня паскакала да грыбонцаў на іх штогадовае сьвята.

Сьлімак Пых, пакуль Грыбавец завіхаўся на кухні, споўзаў на суседнюю паляну й запрасіў у Грыбонію знакамітых музыкаў-цвыркуноў, бо што гэта за сьвята безь вясёлай музыкі й скокаў? Апроч таго, Пых запрасіў усіх, хто хацеў паласавацца Грыбаўцовымі далікатэсамі. А такіх аматараў знайшлося шмат.

Першая на Сьвята Ўраджаю прыскакала Рапуха. Яна прынесла ў роце жоўты гарлачык і падарыла яго сьлімаку Пыху.

За жабаю сабраўся ўвесь суседні мурашнік. Мурашы, не чакаючы, пакуль іх запросяць на бяседу, пакаштавалі ўсё, што нагатаваў Грыбавец, і пасьпяшалі назад у мурашнік, каб яшчэ да заходу сонца вярнуцца дамоў.

Усьлед за мурашамі сабраліся іншыя дробныя кузуркі. За імі прыляцелі далікатныя начныя мятлушкі, якія жывуць адну толькі ноч. Яны садзіліся на сцэну пад Вялікім Мухаморам і манэрна ўздыхалі: “Ах, якое шчасьце, што мы нарадзіліся менавіта сёньня ўвечары! Мы патрапілі на баль!”

Прыйшлі сыны і ўнукі старога крата. Яны прынесьлі ў шырокіх кішэнях сваіх кавальскіх хвартухоў ажно цэлую гурбу featurecollection рознакаляровых каштоўных камяньчыкаў. І кожны з гасьцей выбраў сабе адзін на ўпрыгожаньне.

Апошні прыляцеў Пугач. Ён хоць і не трываў грыбных страваў, ды любіў паназіраць, як весяляцца на сьвяце грыбонцы й іншая дробная лясная грамада. Ня надта ж прыемна жыць аднаму: тут міжволі завухкаеш ад тугі!

Калі сьцямнела, на капялюх Вялікага Мухамора падвесілі гірлянды з гнілушак, і пад грыбам зрабілася сьветла, як днём. На сцэну падняўся Грыбасей. Калі сьціхлі воплескі гасьцей, ён сказаў: “Віншую ўсіх з новаю працоўнаю перамогаю! Прашу да стала!” Прамоўца разумеў, што госьці прыйшлі на сьвята галодныя й ім не да доўгіх прамоваў. Вунь кароўка Багоўка ад нецярпеньня ажно перабірае ўсімі сваімі ножкамі!

Уся грамада шумна расьселася пры доўгім, застаўленым ежаю й пітвом стале, і нейкі час у цішыні чуліся толькі шкробат лыжак ды басавітае гудзеньне жучыхі Гнаявічыхі й ейных жучанятаў, якія варкаталі ад задавальненьня. Нарэшце ўсе наеліся й захацелі паскакаць. Стол адсунулі ўбок, а на сцэну ўскочылі й расьселіся на маленькіх услончыках музыкі-цвыркуны. Зазьвінелі талеркі, мілагучна зайгралі цымбалкі, зашаргацелі бразготкі. І ўсе пусьціліся ў скокі.

Грыбавец скакаў з начною мятлушкаю, і тая сьмяялася й папярэджвала: “Ах, не кружыце мяне так моцна! З маіх крылцаў абсыплецца ўвесь пылок!” Хохлік шпарка круціўся паміж танцуючых параў і рабіўся то блакітным агеньчыкам, то зноў перакідваўся ў сьмешнага дзядка ў залатой кароне й бліскучай сьвіце. Грыбасей танцаваў з Валошкаю...

А з Чарадзейнай Хмаркі сыпаў цёплы грыбны дожджык.



**МУРЗЁНАК Пётр**, сын Сыльвэстра, нарадзіўся 26 лютага 1930 году ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя Пастаўскага раёну, Віцебскай вобласьці. Тады было Віленскае ваяводзтва Польшчы. У школу пайшоў з 6 гадоў і да 1939 году скончыў 3 клясы польскай школы. Пасьля вучыўся ў савецкай школе. З 1946 па 1949 год вучыўся ў Пастаўскай пэдвучэльні. 1949 — 1950 навучальны год працаваў настаўнікам матэматыкі Вайшкунскай сямігодкі Пастаўскага раёну. У 1950 годзе пачаў працаваць настаўнікам Васілінскай сямігодкі, адкуль быў узяты ў армію, дзе праслужыў роўна 3 гады. Пасьля арміі зноў працаваў настаўнікам. З 1954 па 1959 год вучыўся завочна ў Мазырскім пэдагагічным інстытуце на фізыка-матэматычным факультэце. Выкладаў матэматыку і фізыку ў Дварчанскай базавай (9-гадовай) школе. Вёў фота- і кінагурткі. У 1990 годзе пайшоў на пэнсію. Яшчэ тры гады адпрацаваў выкладчыкам матэматыкі ў Шыркаўскай базавай школе. Мае мэдаль “Вэтэран працы”. Пасьля выхаду на пэнсію захапляўся пчолкамі.

Жанаты. Жонка, Даната Генрыхаўна, таксама настаўніца. Выхавалі двух сыноў, Пятра і Генадзя, у якіх ужо свае сем’і, якія зараз жывуць у Атаве. У 2003 годзе прыехалі да дзяцей.

Друкуецца ў альманаху “Беларус” у чацьвёрты раз. У 2008 годзе выйшла з друку кніга ўспамінаў “Над Дзісенкай ракой”.

# КАСТУСЁВЫ ПРЫГОДЫ

## Кастусёк

Нарадзіўся Кастусёк у сялянскай сям’і пры Польшчы ў людзей, паважаных вяскоўцамі. Сказаць, што ён быў неспакойны ці капрызны, калі ён быў яшчэ ў калысцы, нельга. Але доўга знаходзіцца ў калысцы ня мог. Прачнуўшыся, ён цягнуў ручкі, каб яго забралі з калыскі. Так пачыналася ягонае знаёмства з навакольлем. Рос здаровенькім хлопчыкам, калі-небудзь прастываў ды сапліўся, але ў яго заўсёды быў добры настрой і прага да невядомага. Цешыліся ім бацькі, дзядуля з бабуляю ды старэйшая за яго на тры гады сястрычка Надзея. Калі Кастусёк адчуў ужо сілу ў нагах, то бацька яму змайстраваў хадулькі драўляныя на драўляных колцах. Зараз яму было большае раздольле. І

да ўсяго ў хаце яму была справа. А калі дастаткова асвоіў хадулькі, то хацелася шпарчэй і пабегаць. Не адзін раз на дзень падаў і біў сваю галоўку ды і попку аб падлогу, войкне пару разоў, а то і заплача, але зноў падымаецца і працягвае свае падарожжы па хаце.

А калі пачаў сам хадзіць, то да хадулькоў і блізка не падыходзіў. Зараз ён меў яшчэ большую магчымасьць наводзіць парадкі. Аднойчы, калі ў хаце нікога не было, а маці легла адпачыць, Кастусёк выйшаў і пайшоў знаёміцца зь вёскаю. Добра, што па дарозе не сустрэў злога сабакі. Але, праўда ці не, такіх, кажуць, сабакі не чапаюць. Прайшоў вёску ў канец, а там убачыў другую, суседнюю. А чаму ж і туды не зазірнуць, можа, там яшчэ прыгажэй? І яго маці дагнала паміж двух ручаёў паміж вёскамі. А другі раз, калі ён палічыў, што ўжо з усім азнаёміўся, ды яму гэтага мала, і каб бачыць далёка, залез на высокую ліпу, так што бацьку давялося здымаць яго з дрэва, падставіўшы драбіну.

Любіла яго сястрычка, гуляла з брацікам. А ён любіў яе. Бацька зрабіў у хаце ім вяровачную калыску, на якой яны і гушкаліся па чарзе. У сястрычкі былі сяброўкі, якія часта прыходзілі да яе, або яна ішла да іх пагуляць у лялькі, якіх яны самі сабе шылі з розных шматкоў тканіны. Калі не было сястрычкі, з унукам заставаўся дзядуля. Ён любіў унука і знаходзіў для яго розныя забавы. Калі бацькі ехалі ў горад на кірмаш, то маці наказвала дзядулю, каб хаця ж Кастусёк ня быў галодны. Аднойчы ў час абеду, калі ўжо Кастуську больш ня лезла, а дзядуля прапанаваў яму яшчэ кубак малака, а сам выйшаў чагосьці ў сені, Кастусёк хуценька шмыгануў у цёмнае месца пад ложкам і выліў яго.

Рос хлопчык, набіраўся сіл і розуму. І ўсё яго цікавіла: і птушкі, і жабкі, пчолкі, чмялі, і рыбкі ў рацэ. Любіў ён і свойскіх жывёл, коціка і сабачку і асабліва коней.

Калі падрос, было ў яго многа сяброў у вёсцы. Зь імі ён гуляў у розныя гульні: качалі драўляную качулку, гулялі ў пыжы, у пікара, лапту, лавілі ў Дзісенцы рыбку, разам купаліся ўлетку, разам вазіліся на каньках і санках узімку і гэтак далей.

## "Пятухі"

Дзеці не маглі дачакацца вясны, каб хутчэй разуцца і пабегаць босым. А вясна ў нашых краёх наступала раптоўна, дзесьці ў канцы сакавіка. У гэты час яскрава сьвяціла сонейка, таяў сьнег, пачыналася разводзьдзе. Кастусёк са сваімі сябрамі: Жэнікам, Ванюшам, Росьцем і іншымі, – рабілі сьнежныя заставы ў ручаі, які ўпадаў у раку Дзісенку. Ляцелі з выраю птушкі. Самымі першымі да нас прыляталі гракі, шпакі і жаўранкі. Задоўга да гэтага хлопчыкі выраблялі шпакоўні, а потым рабіўся агульны агляд. Але лепшымі аглядальнікамі былі самыя шпакі: там, дзе была ў шпакоўні зробленая завялікая адтуліна або шпакоўня была плыткая – шпакі не гнязьдзіліся, бо кот лапаю мог дастаць іхных птушанятак. Вераб'і гнязьдзіліся ў любой шпакоўні, але хлопчыкам гэта быў ня гонар. Ведаючы гэта, хлопчыкі рабілі шпакоўні такія, што ў іх сяліліся шпакі. І яны гэтаму былі вельмі рады.

Вуліца вёскі, агароды хутка падсыхалі. Паяўляліся сьцежкі на вуліцы, а разам зь імі і босае насельніцтва – дзеці, каму дазвалялі бацькі. Але там, дзе ўзімку былі намеценыя вялікія гурбы сьнегу, яны зараз прадаўжалі таяць.

Просіць бацьку і маці Кастусёк пусьціць яго пабегаць босаму. А ў дварышчы перад вакном ляжыць яшчэ гурба пачарнеўшага сьнегу.

– Мамацка і татацка! Дазвольце і мне разуцца, узо ўсе ходзяць босыя.

– Сынок, паглядзі праз вакно, якая гурба сьнегу ляжыць перад вакном, – кажа маці, – яшчэ зімна на вуліцы.

– Але з узо ўсе бегаюць босыя, – не супакойваўся сын. І ён зноў і зноў паўтараў сваю просьбу.

– Ну, разувайся, – кажа бацька, якому ўжо надакучылі Кастусёвы просьбы.

Тут Кастусёк узрадаваўся і разуўся. Бацька падхапіў яго пад пахі і панёс пад вакно, дзе была гурба сьнегу і бухнуў ягонымі ножкамі ў сьнег.

– Ну як? – пытаецца бацька.

– Дык я з ... , – пачаў Кастусёк і не дагаварыў, калі бацька яго падхапіў зноў і павалок у хату.

І выйшаў Кастусёк босы на вуліцу толькі празь некалькі дзён. Але ж гразі яшчэ вакол хапала. Трэба ж было вымесіць ды вытаптаць нечый агарод, каб падрыхтаваць пляцоўку для гульні ў пыжы ці ў пікара. Калі заходзілі ў хату, ногі трэба было мыць у раве, які быў пракапаны з аднаго боку вуліцы. А мыць даводзілася на дзень шмат разоў, і празь некалькі дзён маладзенькая скура на нагах "севярэла" і трэскалася, і гэта называлася "пятухамі". А чаму гэта так, вы б зразумелі, калі б пабылі пад лазьняй у суботу, калі мыліся дзеці зь "пятухамі" на нагах, на якія лілася гарачая вада. Яны плакалі, а бацькі дражнілі іх песьняй: "Кууу-кааа-рэээ-кууу!" – так, як сьпявалі пеўні, а ў нас іх называлі "пятухамі".

## Вялікі пост

Вялікі пост перад Вялікаднем цягнецца доўга. Гэта час духоўнага подзьвігу, калі вернікі, пры ўсёй сваёй нямогласьці і слабасьці, імкнуцца ў цярпеньні і ўстрыманьні ад усялякага зла і граху ачысьціць сваю душу і цела для прыняцьця Божага дабрадзейства. Для дарослых вернікаў гэта ўсё зразумела. А вось дзеткі ня могуць дачакацца вялікага сьвята, калі можна будзе зьесьці хаця б пшоную булку з маслам.

Перад пачаткам посту вернікам належыць усім дараваць крыўды і адзін у аднаго папрасіць дараваньня, прычым рабіць гэта ад сэрца.

Вялікая субота – дзень сьвятога маўчаньня напярэдадні Сьветлага Хрыстовага Ўваскрэсеньня і апошні дзень посту. У гэты дзень гаспадыні гатуюць усе традыцыйныя стравы сьвяточнага стала: фарбуюць яйкі ў лушпіньні ад цыбулі ў чырвоны колер, пякуць пірагі, смажаць розныя мясныя прысмакі. А мужчыны ў апошні тыдзень перад Вялікім Сьвятам вэндляць сьвіныя кумпякі і каўбасы пры дапамозе ядленцу, капаюць хрэн і нарыхтоўваюць яго да мяса. А ў Кастусёвым дварышчы да Сьвята зробленыя ягонымі бацькам і дзедам высокія казлы для калыскі. Сюды на першы дзень Вялікадня прыйдуць вясковыя дзеці пакалыхацца.

Кастусёва маці ў гэты дзень завіхаецца каля печы. Да заўтрашняга дня павінна быць усяго наварана і напечана. Заўтра – першы дзень Вялікадня, калі нічога нельга рабіць. Кажуць, што і птушачка ня ўе свайго гнязьдзечка ў гэты дзень.

Кастусёк таксама круціцца на кухні, дзе сёньня так смачна пахне. Але прасіць нічога ня просіць, хаця сьлінькі ў яго і цякуць, не дазваляе яго мужчынская годнасьць. Ды і мама кажа, што сёньня апошні дзень посту і трэба пацярпець. Дзядуля набярэ вечарам усяго патроху (некалькі фарбаваных яек, кавалак пірага, каўбаску – што называецца пасхай) і пойдзе на ўсяночную ў царкву, каб пасьвеньціць пасху і памаліцца. І Кастусёк церпіць, як і ўсе, да заўтра.

## Вялікдзень

І прыйшла сьвятая нядзелька – Вялікдзень. Бацькі будзяць дзетак, каб паглядзелі, як "грае" сонца пры ўсходзе, бо яно сьвеціць сёньня, у дзень Уваскрэсеньня Хрыстова, ня так, як у звычайныя дні, а яскравей. Потым дзеткі мыюцца вадой з кубка, у якім ляжыць чырвонае яечка. Да гэтага часу вяртаецца з царквы і дзядуля. Бацька накрывае белым абрусам стол. Сястрычка дапамагае маці расстаўляць на стале сьвяточную страву. Дзядуля выкладае на стол "сьвянцонку".

Калі ўсё гатова, усе сядаюць за сьвяты стол, жагнаюцца, дзядуля мовіць малітву:

"Хоць Ты ў магілу сыйшоў, Несьмяротны, але пякельную сілу зьнішчыў і ўваскрос, як Пераможца, Хрысьце Божа, і жанчынам-міраносіцам сказаў: "Радуйцеся!", і мір даў апосталам Сваім і памерлым уваскрэсеньне падаў. Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос!"

Усе адказваюць: "Сапраўды ўваскрос!"

Сьвяточнае сьнеданьне пачалі са сьвянцонага чырвонага яечка, разгавеліся, што азначае перарвалі пост. Потым можна было есьці ўсё, што было на стале. А стол быў багаты. Апрача чырвоных яек тут былі і пірагі, сыр і масла, смачныя хрусты, вяндліна і хрэн да яе і мёд, звараны з цукровых буракоў.

Пасьнедаўшы, дзеці выходзяць у дварышча. Надзея вядзе сваіх сяброўак на калыску. А Кастусёк выносіць лубочак, зроблены дзедам з дрэва, каб качаць яйкі зь сябрамі. Яны выбіраюць роўнае ў дварышчы месца і пачынаюць качаць. З лубочка пускаюць яйкі адзін, другі, трэці і гэтак далей. Выйграе той, хто пападае ў чыё-небудзь яйка і забірае яго. Самыя лепшыя "кацічкі" былі з вострымі носікамі. У Кастуська былі качыныя яйкі, у якіх і былі такія носікі. І яму тут шанцавала. Але яму не заўсёды шанцавала "хадзіць у біткі". Яго яйкі былі не такія моцныя, як у другіх. І ён пазьбягаў гэтага.

Потым ён запрасіў сваіх сяброў на калыску. Дзяўчаты ўжо даволі накалыхаліся. Начоўка была вялікая, зьмяшчала трох чалавек унутры яе і дваіх па краях. Вяроўкі былі таксама моцныя, пяньковыя. Да гэтага часу падыйшлі яшчэ тры дзяўчынкі, якія яшчэ ня гучкаліся. Па краях начоўкі сталі старэйшыя хлопцы Андрэй і Антось, а ў начоўцы тры дзяўчынкі. Пачалі гучкацца. Начоўка з кожным разам падымалася ўсё вышэй і вышэй. Дзяўчынкі пачалі сьпяваць песьню "Вялік Сьвяты нам дзень настаў". Як толькі начоўка пачала падымацца вышэй перакладзіны, песьня сьціхла, і замест яе дзяўчынкі пачалі крычаць ад страху. На крык дзяўчынак выйшла Кастусёва маці і пасароміла Андрэя і Антося. Пасьля гэтага хлопцы папрасілі ў дзяўчынак прабачэньня і пачалі гучкацца спакайней.

Але ж гульня гульнёю, і Кастусю захацелася чаго-небудзь перакусіць. Ён пайшоў у хату, і маці адрэзала яму вялікі кавалак булкі і намазала яго маслам. І Кастусёк зноў умыкнуў за дзьверы.

— Еш у хаце, а то сабакі адбяруць, — папярэдзіла маці наўздагон.

Але ж сёньня Кастусю няма калі, сёньня яшчэ наперадзе столькі справаў. Словы маці ён пачуў і рашыў захінуцца ў гародчыку, дзе толькі-толькі зь зямлі вылазілі кветкі. А варотцы забыў закрыць, бо сабак нідзе не было відаць. Але пах булкі зьнюхала курыца, на якую ён не зьвярнуў увагі. "Сабака — іншая справа", — з такімі разважаньнямі Кастусёк пачаў есьці смачную булку з маслам ды разглядаў шпака, які прыгожа сьпяваў на ліпе, няйначай, таксама ў гонар сьвята.

А курыца падумала: "Што ж ты, Кастусёк, такі няўдзячны. Я ж табе яечак да сьвята нанесла, а ты мяне не пачастуеш булкай". Яна падскочыла, ухапілася за булку, якая і апынулася на зямлі маслам уніз. Спачатку разгубіўся Кастусёк, а потым сказаў, як бы адгадаўшы думкі курыцы: "Ну сто зь, кулка, няхай і ў цябе будзе сьвята. Ты з нам яецкі несла к сьвяту." І пабег Кастусёк да мамы прасіць другі кавалак булкі з маслам:

— Мамацка, дай ясцэ булкі. Я тую кулыцы аддаў.

Не хацелася яму прызнавацца, што яго курыца перахітрыла.

## Царква

Большую частку свайго вясновага і летняга часу хлопчыкі вёскі любілі праводзіць ля ракі. Тут можна было сустрэць і плытагонаў на плытах, і адпачываючых людзей на каяках, і вялізную лодку-лайбу, якую цягнулі на конях супраць цячэньня, і паром на дзьве фурманкі. А ў сьпёку — купацца. Яны амаль не вылазілі з ракі, хіба на гадзінку пагрэцца. Часам лавілі вудачкамі рыбу, часам любілі назіраць, як вопытныя рыбакі ловяць рыбку сеткамі на лодках. Розных заняткаў мелі хлопчыкі каля прыгожай ракі.

Але на гэты раз яны рашылі вылепіць з гліны царкву. Верхаводам усіх спраў быў Алёшка. Яму было ўжо гадоў дзевяць, астатнія на год-два маладзейшыя. А малодшым за ўсіх тут быў, хто б вы думалі, Кастусёк.

Чырвоную гліну дзеці знаходзілі ў гатовых ямах, адкуль іх дзядулі і таты бралі на рамонт печаў. Любілі яны ляпіць зь яе шпакоў, буцяноў (буслоў), конікаў і гэтак далей. А ў адным месцы гліна была блакітная. Вось зь яе і рашылі пабудаваць царкву. Працавалі ўсе дружна: здабывалі гліну, выводзілі сьцены, узводзілі званіцу, устанаўлівалі на ёй крыж.

Трэба сказаць, што ў той час людзі былі набожныя. Дзядулі і бабулі, таты і мамы хадзілі па сьвятах у царкву, вадзілі туды і дзяцей, дзе было так прыгожа і ўрачыста. Дзеці таксама верылі ў Бога. Яны ўмелі жагнацца і ведалі кароценькія малітвы да Ісуса Хрыста і Маці Божай. Пакульісьці ў школу — малітвам іх вучылі дзядулі, бабулі і бацькі. А ў школе адзін дзень у тыдзень іх вучыў сьвятар.

Калі царква была гатовая, Алёшка зачэрпнуў поўную сваю шапку вады ў рацэ і пасьвенціў царкву, апырскваючы яе і жагнаючыся тры разы. Зараз хлопчыкі адчулі сябе вальней, і ім захацелася пазабаўляцца адзін з другім. І тут Кастуську страшна не пашэнціла — ён няўмысна "пукнуў". Гэта пачуў Алёшка:

“Што ж ты, Касьцюк, нарабіў?! – так зьневажальна назваў Кастуська Алёшка. – Мы тут сьвятыню пабудавалі, а ты такое дазваляеш! Зьняць яму порткі і попу заляпіць глінай!”

– Я з не хацеў, – пачаў апраўдвацца Кастусёк.

І яго падтрымаў Паўлік: “Ой, ня трэба гэтага рабіць, Алёшка. Ён жа яшчэ маленькі. А калі мы гэта зробім, то мы самі саграшым. Крыўдзіць людзей – гэта самы вялікі грэх. Няхай памоліцца і папросіць у Бога прабачэньня. Ты жагнацца, Кастусёк, умееш?

– Умею.

– А малітву ведаеш якую?

– Ведаю “Ойца нас” і “Багалодзіцу” – мяне мама навуцыла.

– Ну вось, станавіся на калені і маліся. І Божанька даруе табе за твой грэх.

– А мозна толькі “Багалодзіцу”, бо “Ойца нас” доўгая, і мама мне падказвае, калі я сто забыўся.

Тут і Алёшка згадзіўся на “Багародзіцу”. Стаў Кастусёк на калені, перажагнаўся перад новай царквой і прамовіў “Багародзіцу”. У канцы малітвы сказаў: “Прасьці, Матацка Боская, я больс ня буду!”

## Посік

Перад Калядамі (Ражджаством Хрыстовым) сяляне калолі сьвіней. А ў каго былі малыя дзеці, рабілі ім для гульні шары, якія называліся посікамі. Бралі мачавы пузыр (пухір), качалі яго ў попеле, каб потым лягчэй было яго надзьмуць паветрам. У сярэдзіну посіка напіхалі некалькі гарошын. Пры дапамозе тоўстай саломінкі надзімалі яго, завязвалі моцнай ніткай і вешалі сушыць у цёплым месцы. Калі ён высыхаў – гэта была лепшая цацка для дзяцей, ды яшчэ гарох барабаніў усярэдзіне. Бацькі куплялі для дзяцей маленькія гумовыя мячыкі ў крамах. А гэты ж быў вялікі! Ён быў лёгенькі, яго падкідвалі ўгору, дзе ён плаваў у паветры, потым яго лавілі.

Зьявіўся такі посік і ў Кастуська, зь якім ён забаўляўся сам, а калі яму дапамагала і сястрычка. Але гэты посік зь цягам часу губляў сваю пругкасьць. Можа, зь яго дзе-небудзь прасочвалася паветра. Тады Кастусёва мама раіла яму пагрэць посік каля ямкі, куды яна выгарнала зь печы гарачае вугольле, якое павольна астывала. Ямка знаходзілася зьлева на прыпечку. І так Кастусёк рабіў заўсёды, калі пругкасьць посіка была недастатковаю.

Але аднойчы, калі вугольле ў ямцы было яшчэ гарачым, а Кастусёк забыўся, заняўшыся другімі справамі, што посік грэецца, – посік так бабахнуў у хаце, што зазьвінелі вокны. Хто ў хаце быў – усе спалохаліся. Спалохаўся і Катусёк. Прыбег ён да прыпечка і знайшоў толькі шматкі ад посіка. Ён ад вялікага ціску знутры ўзарваўся, як бомба. Ня ведаў тады яшчэ Косьцік такой ісьціны, што целы пры награваньні расшыраюцца. А па-другое, ня трэба займацца некалькімі справамі адначасова. Каб Кастусёкназіраў за посікам, то гэтага не адбылося б. Ён быў такі ўзрушаны, што хуценька апрануўся і пабег да сяброў-суседзяў даведацца, ці напалохаліся яны ад выбуху ў ягонай хаце. Канечне ж, яны ніякага выбуху ня чулі, бо была зіма, і ў кожнай хаце былі ўстаўлены двайныя вокны. А яму здавалася, што выбух быў чуваць ва ўсім сьвеце.

## Маланкаадвод

У вёсцы быў пастаўлены высокі маланкаадвод (людзі яго называлі громаадводам). Ён быў зроблены зь дзьвюх высокіх елак, змацаваных жалезнымі балтамі. На самым версе маланкаадводу была прымацаваная фабрычная трохлапая металічная вілачка, прыпаяная да тоўстага дроту, які злучаў вілачку з заземленьнем, закапаным у зямлю. Каб маланкаадвод не заваліўся, яго трымалі тры адцяжкі з тоўстага дроту, разьведзеныя ў розныя бакі і прымацаваныя да тоўстых бярвеньняў, закапаных у зямлю.

У ветранае надвор'е вілачкі жалосна сьпявалі. Людзі казалі – трэба чакаць дрэннага надвор'я. А дзеці прыкладвалі вуха да самога маланкаадводу, і там чуўся несканчоны гул, што наводзіў на дзетак нейкі жах. А ўтвараўся гэты гул ад наведзеных трох струн – адцяжак і ад вілачкі на версе маланкаадводу. А музыкам быў сам вецер. І дзеці часта любілі паслухаць ягоныя мэлёдыі.

Маланкаадвод быў пабудаваны пасярэдзіне вёскі і надзейна ахоўваў будынкі вёскі, пакрытыя саломаю, ад маланкі ў час навальніц. З часу яго пабудаваньня ў вёсцы не адбылося ніводнага пажару. І яшчэ будынкі вёскі абараняліся ад маланкі высокімі векавымі дрэвамі, якіх у вёсцы было шмат.

Добрая рэч – маланкаадвод. Але ў вёсцы быў адзін хлопец старэйшага ўзросту, які добрую рэч мог ператварыць у дзікі жарт. Назавём яго Абламонам. Ён увёў у вушы малым, што ўзімку, у люты мароз, адцяжкі маланкаадводу – салодкія. Можа, хто і пакаштаваў гэтага "цукру", ня ведаю. А вось Кастусёк быў такі хлопчык, каб усё праверыць на сабе.

Адна адцяжка ад маланкаадводу была замацаваная за суседняй хатай. Выконваць гэту "апэрацыю" Кастусёк пайшоў адзін, каб не было сьведкаў. Значыць, у яго быў нейкі недавер да прапаноў Абламона.

Быў вялікі мароз у гэты сонечны дзень. Усе дрэвы былі пакрыты інеем. Адцяжка з тоўстага дроту была белая. "А можа, ён і праўду казаў, што адцяжка салодкая. Ад чаго ж яна такая белая, як цукар?" – разважаў Кастусь. Агляднуўся ён туды-сюды, каб ніхто ня бачыў, дый ткнуў язычок да дроту, які і прыліп да яго. І тут ён зразумеў, што ён на самай справе "ўліп". Кастусь разгубіўся і пачаў язык ратаваць вуснамі. Але і тыя прыліплі да дроту. Тады ён рвануўся, заставіўшы на дроце скурачку ад вуснаў і языка, і пабег за хлеў, пакідаючы на сьнезе чырвоныя крывяныя плямы.

Вось дык Абламон! Ці добры ён быў хлопец, што такое параіў малым?!

## Лялюсь

Падрастаў Кастусёк, перастаў шапялявіць. Зараз яму бацькі давалі такія-сякія заданьні – што-небудзь аднесьці суседзям або нешта папрасіць у іх. І ён любіў гэта выконваць. Сабак у вёсцы было многа, якіх сумленныя гаспадары прывязвалі на дзень каля будкі. А ноччу пускалі іх пабегаць.

Аднойчы паслала маці Кастуська да суседкі Мані за нейкай патрэбай. Ён ужо ведаў, што там быў злы сабака Лялюсь – белы, калматы, невялікага росту, але вельмі злы. Сабака нікога не прызнаваў, за выключэньнем гаспадара, гаспадыні і іхных сыноў – Барыса і Мікалая. Быў ужо дзень на дварэ, і Кастусь

падумаў, што да гэтай пары сабака павінен быць ужо прывязаны. Але Кастусёвы спадзяваньні не апраўдаліся: як толькі ён адчыніў дзьверы ў сені ды ступіў пару крокаў да дзьвярэй хаты – Лялюсь тут жа выскачыў зь цёмнага кутка, дзе ён спаў, і перагарадзіў яму дарогу ў хату. Кастусь спыніўся, спыніўся і Лялюсь, скрывіўшы галаву і гледзячы проста ў вочы Кастусю, паказаў свае перламутравыя клыкі і завёў не зусім вясёлую песьню для хлопчыка: "Р-р-р-р- ...",– якую вёў адным тонам. У хаце не пачулі, а можа, там нікога ўжо і не было. Так і сталі адзін супраць другога Кастусь і Лялюсь, гледзячы адзін аднаму ў вочы, прычым Лялюсь прадаўжаў сваю песьню, час ад часу хапаючы паветра ў лёгкія, каб пачаць зноў сваё "р-р-р- ...". Хацеў яго Кастусёк прылашчыць, зьвяртаючыся да яго па імені: "Лялюсь, Лялюсь, ты ж добры сабачка, не чапай мяне. Я ж цябе не ганяў палкай, калі ты бегаў па нашай вуліцы". Але Лялюсь не мяняў сваёй пагрозьлівай позы.

– Што ж рабіць, дзе ж выйсьце? – думаў Кастусь. – Ні палкі, ні дубца якога нідзе не відаць. Трэба ўцякаць, але ж ён кінецца ззаду і ўкусіць. Адварочвацца ня трэба. Трэба яму проста глядзець у вочы і адступаць памаленьку, так людзі казалі, – успамінаў Кастусь.

Зрабіў Кастусь адзін крок назад – нічога ня здарылася, пачаў рабіць другі крок, і трэба ж такому здарыцца – зачапіўся за парог сяней і азірнуўся. Вось гэтым момантам і скарыстаўся Лялюсь: рвануўся зь месца і ўхапіўся за Кастусёва калена зубамі, і тут жа зноў зьнік у сваім цёмным кутку, палічыўшы, што ён свой абавязак выканаў.

Вярнуўся дамоў Кастусёк са сьлязамі, мама яму змазала ёдам параненае калена і перавязала чыстаю хусьцінкаю.

Празь некаторы час калена загаілася, але адзін значок застаўся на ўсё жыцьцё, як напамін пра Лялюся.

## Лялька

Зь Лялюсем вы ўжо пазнаёміліся, а зараз пазнаёмімся і зь Лялькаю. Лялька – гэта была невялічкая сучачка, з гладкаю сівою поўстачкай і вушкамі стоць. Яна нагадвала лісу, а можа, і была яе раднёю, бо лісы любілі курэй, а Лялька – яйкі. Гаспадарамі Лялькі былі старэнькія людзі, хата якіх стаяла на ўсходнім канцы вёскі. Сваю Ляльку яны не прывязвалі, і яна бегала вольна па вёсцы, часта забягаючы ў чужыя дварышчы. Казалі, што яна крадзе курыныя яйкі з гнёздаў у хлявах. Кастусёк гэта чуў, але ня быў упэўнены, што гэта так. Пасьля сустрэчы зь Лялюсем Кастусь не любіў тых сабак, якія вольна бегаюць.

Раніцою Кастусёк заўсёды бегаў у сад, які быў разьмешчаны за вуліцаю насупраць хаты, каб пашукаць сьпелых яблыкаў, якія за ноч упалі з дрэва. Праходзячы вуліцу, ён паглядзеў улева – нікога, глянуў управа, а адтуль і бяжыць Лялька.

– Дай, я яе пастрашу, каб да нашых курэй не прыбягала, – падумаў Кастусь.

Ён убачыў у траве тонкую, але доўгую і крывую, палку ад старога паркана, які разгароджваў два сады – Кастусёў і суседзкі. Прытаіўся Кастусёк за плотам ад вуліцы і пачаў чакаць. Як толькі сучка параўнялася зь ім, тут ён замахнуўся і пусьціў палку ў бок сучкі. І трэба ж такому здарыцца, што канец

палкі папаў проста ў нос сучаняці, і яна завалілася мёртваю. Вось такога Кастусёк не чакаў і не хацеў гэтага. Ён вельмі спалохаўся і даўся наўцёкі.

– Што ж я нарабіў, я ж не хацеў яе забіваць, а хацеў толькі пастрашыць. А што людзі скажуць? На нашай жа вуліцы ляжыць, трэба занесьці куды прыхаваць, а потым і пахаваць.

Вярнуўся Кастусёк да вуліцы, і што ж ён убачыў: ачуняла яна, але ляжыць яшчэ і думае, што ж такое зь ёю здарылася. А ляжыць, галоўку падняўшы, вушкі стоць і пярэднія лапкі паклаўшы ўперад.

Узрадаваўся Кастусёк, што жывая і здаровая, і пачаў размаўляць зь ёю: “Прабач, Лялечка, я ж не хацеў цябе біць. Гэта палка вінаватая, бо яна была крывая і паляцела не туды, куды трэба. Пачакай, я табе пару яечак прынясу”. І кінуўся Кастусёк у хлеў, дзе былі курыныя гнёзды. Але пакуль ён бегаў – Лялька была ўжо ў другім канцы вёскі.

– Ну я табе другі раз яечка дам, толькі прыходзь, – з маркотаю гаварыў сам з сабою Кастусёк, адчуваючы вялікую віну перад Лялькаю.

Але ўсё ж больш да Кастусёвых курэй яна не прыйшла.

## Ліса

Сучка за яйкамі не прыходзіла, а яйкі пачалі зьнікаць, асабліва поклады (яйкі для прыманкі), якія Кастусёк пакідаў вечарам па адным у гнязьдзе. А раніцай куры шукалі сваё гняздо, у якім не было покладу. Курыных гнёздаў Кастусёва мама нарабіла многа на гарышчы павеці, якая была за хлявамі. Там яшчэ захоўвалася мінулагодняе сена, і куры любілі там хавацца ад людзкога вока, каб зьнесьці яечка. На гарышча павеці Кастусёк лазіў па драўлянай драбіне.

– Кармлю курак, кармлю, а яны перасталі несьціся, – скардзілася Кастусёва мама. – І сучка ж па драбіне ня ўмее лазіць. Які ж тут завёўся злодзей? Коцік наш яек ня есьць. Вось дзе загадка?

Але разгадка неўзабаве прыйшла, калі адным ранкам Кастусёк прынёс нежывую лісіцу, якую знайшоў пад драбінай, і сказаў: “Вось табе, мама, каўнер за зьніклыя яйкі”.

Злодзеем аказалася лісіца. Нездарма ж яе клічуць хітрай. А прыходзіла яна начамі, калі вёска спала. Няйначай, падлазячы да верху драбіны, яна парушыла раўнавагу і паляцела ўніз разам з драбінаю, якая і накрыла яе сьмяртэльна. Вось да чаго даводзіць хцівасьць! Ліса за яйкі заплаціла сваім жыцьцём. Бедная ліса! А каму ж ня хочацца смачна паесьці?!

## Грак і коршун

Восень. З поля ўжо ўсё зьвезена. На іржышчы Кастусёк пасе гусей. Тут можна гускам палузгаць згублены каласок зь зернем, ды і траўка захавалася, якую не крануў серп. А побач – урочышча “Гарбы” – пяшчаны кар’ер, дзе людзі бяруць пясок на рамонт вуліцы і на палявыя дарогі. У кар’еры ёсьць вялікая лужа вады, дзе гускі, пад’еўшы, могуць папіць і пакупацца. Тут жа расьце высокі лазовы куст.

Прыгожы сонечны асеньні дзень. Але жаўранка ўжо не чуваць. Паляцелі яны ў цёплыя краіны. Іржышча ўсё пераплецена павуціньнем. Пара “бабінага лета”. Недалёка ад Кастуся, за мэтраў шэсьцьдзесят, знаходзіцца грэбля, парослая з двух бакоў кустамі. Там па іржышчы пасецца грак, які таксама хоча пажывіцца пакінутымі каласкамі. Але што гэта? Раптам грак зрываецца зь месца і хутка ляціць да куста на грэблі. Глянуў Кастусёк на неба і ўсё зразумеў: там кружыў вялізны каршун.

А грак ня ведае, што яму рабіць. У куст лезьці страшна, а на версе куста – каршун убачыць. Задумаўся грак: “Усе кажуць, што чалавека ўсе баяцца. Напэўна ж, баіцца яго і каршун. Дай і я паляту ў той куст, што каля чалавека. Да яго каршун пабаіцца ляцець”.

І грак імчыцца што мае сілаў у куст да Кастуся. Але і каршун не драмаў. Ён, склаўшы крыльле, камянём кінуўся ўніз за граком, але не пасьпеў. Грак апярэдзіў яго ўсяго на нейкіх пару мэтраў, а каршун узьвіўся ў неба ні з чым.

А Кастусь пляскаў у далоні і прытанцоўваў ад радасьці, што грак застаўся жывы. Толькі пагразіў у бок каршуна палкаю.

А яшчэ ў гусінай сям’і быў вялікі гусак – гусіны тата. Ён увесь час назіраў за каршуном, скрывіўшы галаву і адно вока накіраваўшы ў неба. Пакуль што ён толькі папярэджваў час ад часу моцнымі “Га-га-га”. Але як толькі ўбачыў каршуна, падаючага ўніз, ён так кяркнуў, што ўсе гусі раптам апынуліся ў вялікай лужыне і пачалі біць нырца, каб ня трапіць у кіпцюры драпежніка. Усе птушкі баяцца каршуна. Усіх іх трэба аберагаць, асабліва пакуль яны маленькія (гусяняткі, качаняткі, кураняткі).

## Гусак

Зноў пойдзе гаворка пра гусака, але ўжо пра другога. Кастусёў гусак дапамагаў яму гусей пасьвіць, аберагаў ад каршуна. А гэты гусак пасьвіў сам сваіх сяброўак-гусак без пастуха. Статачак быў невялікі (гусак і тры гускі), які належаў адным старэнькім людзям. Яны ўжо далёка ганяць пасьвіць гусей не маглі. І гускі на чале з гусаком дзесьці заўсёды былі недалёка ад хаты. Яны то ў дварышчы, то каля рава шчыпалі траўку, а ў раве была вада.

Пра гусака ў вёсцы ведалі ўсе, што ён быў вельмі злы. Пераймаў кожнага, выцягнуўшы шыю, калі хто праходзіў міма ягоных сяброўак. Некаторыя людзі ўцякалі ад яго, а другія бралі дубец, каб адбараніцца.

А вось Кастусёк быў сьмялейшы за ўсіх. Ён вырашыў прайсьці каля гусака безь нічога.

– Ну чаго ж яго баяцца, – казаў ён. – У яго ж няма такіх клыкоў, як у Лялюся, які некалі мяне пакусаў.

І вось ідзе Кастусёк міма гусей. Гусак стаіць, высока галаву падняўшы, сьцеражэ сваё багацьце. Як толькі Кастусёк параўняўся зь імі, так гусак і кінуўся да яго, выцягнуўшы шыю. Але хлопец адчувае сябе ўпэўнена: “Ну што ж калі і ўшчыпне”.

Гусак ухапіўся дзюбаю за калашыну ягоных штаноў ды так даў крыламі вышэй каленяў, што яму забалела горш, чым калі на яго напаў Лялюсь. Кастусёк не чакаў такога, але ўхапіў гусака за шыю ў дзьве рукі і шпурнуў яго ад сябе, колькі дазвалялі ягоныя сілы.

Насіў Кастусёк сінякі вышэй каленяў тыдні са тры. Так што і гусака трэба баяцца ня менш, чым сабакі. У яго крылах, у суставах, выступаюць косьці, як жалезныя малаткі – “кулакі”, як называюць гэта месца людзі.

## Баран

Падрастаў з кожным годам Кастусь, набіраўся сілаў, а адпаведна гэтаму ўскладняліся і ягоныя абавязкі. Так як ён быў вельмі паслухмяны, то яго і на гэты раз маці паслала ў вёску Навасёлкі да цёткі Сашы, каб ён занёс карані дзівука – расьліны зь лекавымі якасьцямі. Зараз восень – час пасадак. Да вёскі Навасёлкі ўсяго тры кілямэтры. Паміж вёскамі – хутары Антанова. І Кастусь пайшоў. Прыгожы асеньні дзень. На полі ўжо ўсё пароблена, людзей не відаць. Дзе-нідзе каля хутароў пасуцца яшчэ кароўкі, авечкі.

Не даходзячы да апошняга хутара, справа ад дарогі, Кастусь убачыў невялікі статак авечак. Ад статка адлучыўся вялікі баран і накіраваўся да дарогі, па якой ішоў Кастусь, выйшаў на яе і стаў чакаць. Кастусь, нічога дрэннага не чакаючы, падыйшоў да яго. У іх гаспадарцы таксама былі бараны і нічога ж дрэннага яны не рабілі, хіба прасілі хлеба, гледзячы на рукі.

І гэты паглядзеў на Кастусёвы рукі, але ж у ягоных руках нічога не было. Хіба ж Кастусь думаў сустрэцца з баранам?

– Ага, хлеба ня маеш, ну то я табе пакажу зараз, як хадзіць бяз хлеба, – відаць, падумаў баран і пачаў адыходзіцца, каб узяць разгон для нападу.

І Кастусь усё зразумеў. Ён неаднойчы быў на пасьце і бачыў, як б’юцца бараны, як яны разыходзяцца, а потым бягуць зь вялікаю хуткасьцю адзін да аднаго, каб стукнуцца ілбамі, пасьля чаго атрымоўваецца такі грук, што здаецца, ці застануцца яны жывыя пасьля гэтага. А яны зноў пачынаюць разыходзіцца і б’юцца да таго часу, пакуль адзін зь іх аслабее, “здасца” і ўцячэ.

Кастусь ня стаў чакаць горшага і так сігануў ад барана, што той застаўся ззаду, але не пакінуў яго ў спакоі, а пачаў даганяць. Недалёка быў вялікі стары сад. І гэта было выратаваньнем для Кастуся. Ён схаваўся за першую тоўстую яблыню і стаў чакаць. Баран падбег да яблыні, убачыў Кастуся і пачаў хадзіць за ім вакол дрэва. Пасьля некалькіх кругоў барану, няйначай, закружылася галава, бо ён пастаяў, падумаў, што яму ад Кастуся карысьці мала, завярнуўся і пайшоў да сваіх авечак. А Кастусь прадоўжыў свой шлях да цёткі Сашы.

## Галубы

З ростам Кастуся рос і шырыўся круг ягоных інтарэсаў і заняткаў. Неяк ён заўважыў адною вясною, што пара галубоў шукае месца для гнязда пад страхою іхняе хаты. Ён хуценька сьцяміў, што ім патрэбна дапамога. Знайшоў невялікі стары кошык, паклаў туды крыху саломкі, прынёс лёгенькую драбінку і павесіў яго высока пад страхою, каб каты не далезьлі. А раніцою наступнага дня ён убачыў зноў тую парачку галубоў, якія ўжо ў кошыку рабілі сабе гнязьдзечка. Кастусёк вельмі ўзрадаваўся, што ён дапамог галубам, і тут жа ён знайшоў яшчэ кошык і прычапіў яго пад страхою з другога боку. І сюды прыляцелі. Галубы несьліся, пладзіліся, і празь некаторы час у яго была сапраўдная га-

лубіная ферма. Там жа ён прыбіў ад шчыта да страхі некалькі гарызантальных палак, каб галубы маглі сядзець каля сваіх гнёздаў. Самцы вуркавалі свае песьні: “Вур-куу! Вур-куу!” – і ўсім дамашнім было прыемна іх слухаць.

Да Кастусёвай фермы прыляталі галубы і з другіх галубятняў, якія былі зробленыя другімі хлопчыкамі – аматарамі галубінага царства. Хлопчыкі сустракаліся паміж сабою, абмяркоўвалі свае галубіныя гаспадаркі, праблемы. Прычым, галубы былі розных пародаў. Былі і такія, што падымаліся высока ўверх, а потым куляліся адтуль, што вельмі захапляла хлопчыкаў. І Кастусёк так захапіўся галубамі, што ён і хадзіў, а то і бегаў па вёсцы з задзёртай галавою, пляскаючы ў далоні на галубоў, каб яны ляцелі туды, куды яму хацелася. А яму хацелася, каб галубы прыляцелі ў ягоную галубятню.

Але яму аднойчы вельмі не пашэнціла. Ён быў так захоплены галубамі, што не заўважыў дзяўчынак-сябровак Надзі і Валі, якія сядзелі на лавачцы і размаўлялі. Але калі заўважылі Кастуся, змоўклі, каб не перашкаджаць ягоным плянам. А ён хутка бег, вочы накіраваўшы ў неба, пляскаў у далоні. А ў гэты час, як на тое ліха, з суседняга дварышча выйшла вялікая сьвіньня з шырокімі, вісячымі вушамі, што засланялі ёй вочы, і яна ўперадзе нікога ня бачыла. Вось на яе Кастусь і наляцеў, перакуліўся празь яе, і апынуўся на зямлі.

Толькі зараз, падняўшыся зь зямлі і абтросшыся ад пылу, Кастусь заўважыў дзяўчынак, якія моцна рагаталі, убачыўшы рэдкае ў жыцьці здарэньне: ня ўбачыў перад сабою вялікае сьвіньні.

На вялікі жаль, у той час не было відэакамэраў. Вось быў бы клясны кадар.

## Чайкі

Канец кастрычніка. Ноччу падмарожвае. Дажджавыя чарвякі залеглі ў зімовую сьпячку. Ужо не вылазяць начамі на расу ды на асфальтаваныя дарогі, як гэта было летам. А раніцою іх зьбіралі чайкі, якія вельмі любяць іх. А зараз чарвякоў няма, а рыбіну ня так проста і злавіць, а есьці чайкам усё роўна хочацца. Вось яны зараз і туляцца да чалавека, а можа, хто што-небудзь і выкіне.

Раніцою разбудзілі Кастуська чайкі. Калі ён глянуў у вакно, то ўбачыў, што адна чайка абараняе нейкі жоўты, трохвугольны кавалачак чагосьці, магчыма, вафлі ці сыру. Ускубне крыху з гэтага кавалачка і больш нікога не падпускае. Сабралася іх каля дваццаці. На іхны шум прыляцела чорная варона. Яна падкрадвалася-падкрадвалася да чайкі з тым кавалачкам ды імгненна ўхапіла яго і панесла на дах суседняга дому, і ўселася там, каб пасьнедаць. Чайкі ўзьняліся, паляцелі за воронаю і паднялі такі гвалт, што нельга было аслухацца. Якое ж там можа быць сьняданьне?

Пачуўшы такую валтузьню, аднекуль здалёк прыляцеў крумкач, адабраў у вароны той кавалачак, паляцеў да пажарнай вышкі, усеўся на недасягальнай вышыні і пачаў сьнедаць. За крумкачом ніхто не паляцеў, бо яго ўсе птушкі баяцца, як і каршуна.

Вось што значыць “не змаглі падзяліць”!

А каб не была скупая тая першая чайка, дала б ускубнуць сваёй другой сяброўцы, трэцяй і гэтак далей, то ўсе былі б пад’еўшы. А так засталіся ўсе галодныя. І віной усяму гэтаму – зноў хцівасьць!

# Чмялі

У суседа, дзядулі Мікалая, у садзе былі пчолы. Дзядуля Мікалай кульгаў, хадзіў зь ляскай. Зямлёй ён ужо не займаўся. Ёю займаліся ягоны зяць Антон і ўнукі-падлеткі Геня і Коля. А дзед Мікалай займаўся пчоламі і садам, які быў ужо стары, але дагледжаны. Там расло многа смачных яблыкаў. Бабуля Марыля, жонка дзеда Мікалая, часта прыносіла Кастуську і ягонай сястры Надзеі яблыкаў. А калі выбіралі мёд, то прыносіла і місачку мёду з вузай. І для дзяцей гэта былі самыя запамінальныя дні. У бацькоў Кастуся таксама быў сад, але ён быў малады і яблыкаў яшчэ не было.

Кастуську вельмі хацелася мець сваіх пчолаў. Ён ведаў, што яны балюча “кусаюцца” (джгуць). Неаднойчы і яму перападала, калі ён блізка падыходзіў да саду, ня ведаючы, што дзядуля Мікалай там нешта рабіў у вулёчках. Пякло, як агнём, і Кастусь бег дамоў, каб выцягнуць з-пад вока тое джгала, а потым прыкласьці да балючага месца які-небудзь мэталічны халодны прадмет. Казалі, што дапамагае. Здаралася, што на пчолку наступалі босаю нагою, калі яна на кветачцы дзяцельніку зьбірала нэктар, зь якога пчолкі ў вулёчку рабілі смачны мядок.

Але ж Кастусь і яго сябры, Яўген і Янка, ведалі, што ў пчол ёсьць яшчэ родзічы – чмялі, якіх мядок быў таксама смачны, і якім яны ўжо неаднаразова ласаваліся праз саломінку. Хлопчыкі, пасучы кароў ці гусей, часта знаходзілі чмяліныя гнёзды на паверхні зямлі або ў зямлі. Заўважыць гняздо было няцяжка, бо адтуль то вылятаці, то туды прыляталі чмялі. Гнязьдзечка было невялікае, памерам з прыгаршчы. А часам і большае, у залежнасьці ад велічыні рою. На сенажацях гнязьдзечка было аплеценае мохам.

Чмяліная матка зімавала дзе-небудзь у стагах саломы, сена. Вясною, калі ажывала прырода, яна вылятала ў пошуках месца для гнязда, рабіла яго. А таксама лятала ад кветкі да кветкі, зьбіраючы пылок, зь якога рабіла вузу, складзеную зь місачак, адкладвала ў тыя місачкі яечкі, зь якіх выходзілі чмялькі, і сям’я чмяліная папаўнялася. Яны зьбіралі пылок на кветках яблынь, агурочніку і гэтак далей, тым самым апыляючы кветкі, ад чаго на яблынях і агурочніку паяўляліся яблыкі і агуркі. З пылку яны рабілі сабе і ежу – чмяліны “хлеб”. Пылок зьбіралі ў мяшэчкі, зьмешчаныя на задніх ножках. А з канюшыны, дзяцельніку яны бралі нэктар, зь якога рабілі мёд. А мёд утвараўся з нэктару, зь якога чмялькі выпаралі ваду, махаючы крылцамі над той місачкай, дзе быў сабраны нэктар.

Кастусь і яго сябры-равесьнікі рабілі вулёчкі для чмялёў. Гэта была невялічкая драўляная скрыначка, якая зьверху адчынялася вечкам, а сьпераду была зроблена адтуліна-ляток, каб чмялькі маглі вылятаць з гнязда і прылятаць у яго. А ніжэй лятка хлопчыкі прыбівалі маленькую дошчачку-пляцоўку, каб чмяльку зручней было прызямліцца і залезьці ў вулёчак.

Калі гняздо было знойдзена, Кастусь браў вулёчак і якую-небудзь хусьцінку на галаву, каб чмялі ня джгалі. Але гэта не заўсёды ўдавалася. У адрозьненьне ад пчолаў, чмялі не пакідалі джгала ў целе, але джгалі таксама даволі балюча. Але гэта Кастуся не спыняла. Ён, заматаўшы галаву хусьцінкаю і пакінуўшы адтулінку для вачэй, асьцярожна, але хуценька, браў голымі рукамі ўсё гняздо і перакладаў яго ў свой вулёчак. У гэты час амаль усе чмялькі выля-

талі бараніць сваё гняздо. Яны былі вельмі злыя. Але, убачыўшы сваё гняздо побач, яны адзін за другім вярталіся ў яго. А забіраў іх дамоў Кастусь позна вечарам, калі ўсе яны прыляталі з работы. Ён асьцярожна затыкаў ляток коркам, зробленым з траўкі, а зьверху закрываў вечкам. Прынёсшы дамоў, ён ставіў вулёчак у агурочнік, а заўтра раніцой бег хутчэй на сваю пасеку паглядзець, ці прыжыліся чмялькі на новым месцы. І калі ён бачыў, што чмялькі прыляталі і лезьлі ў вуль, значыць, прыжыліся.

А празь некаторы час ён лазіў зноў да чмялькоў з саломінкаю, каб пасмактаць іх мядку, але толькі трошкі, каб і іх не пакінуць галоднымі.

## Каршун

Сядзіць Кастусёк у хаце ля вакна. Пад вішнямі на раве корпаецца курка-квактуха зь пiскляткамi. Дзень сонечны, ясны, на небе ніводнага воблачка.

– Разумная курыца, – разважае Кастусёк. – Знайшла забаву сваім дзеткам у цяньку.

Раптам штосьці вялікае звалілася на курыцу. Кастусёк, прыгледзеўшыся, убачыў шэрага драпежніка – каршуна. Але курыца чамусьці маўчыць, мабыць, напалохалася, а можа, каршун ужо здолеў стукнуць ёй па галоўцы, і яна страціла прытомнасьць. Косьцік мігам выскачыў з хаты і пабег ратаваць курыцу. Каршун спалохаўся і пачаў уздымацца ў паветра.

Косьцік толькі заўважыў, што адна ягоная лапа была пашкоджаная, магчыма паляўнічы калісь яго падстрэліў. Калі курка апамяталася, то пачала зваць і зьбіраць сваё маленства, якое тут жа павяла далей ад гэтага месца.

## Гусі за ракою

Каб дзяўчыне ў вёсцы пры Польшчы выйсьці замуж, яна павінна была мець перш за ўсё падушкі і пярыну. А каб гэта было – трэба было гадаваць гусей. Вось і гадавалі. Гусь – не каштоўная птушка. Есьць траву, запівае вадою, а пер' я зь яе і мяса многа. Вось і бацькі Кастуся купілі трох гусак і аднаго гусака, бо ў іх расла прыгожая дзяўчынка Надзея, якая была старэйшая за Кастуся ўсяго на тры гады. Вясною гускі несьлі яйкі, потым сядзелі на іх, каб выседзець гусянятак. Празь некаторы час дварышча Кастуся запоўнілася зюзюканьнем маленькіх жоўценькіх клубочкаў. У двары для іх было пастаўлена карыта з вадой. Палова дварышча было парослым травой. Гусак ня еў і ня піў, а важна хадзіў, скрывіўшы галаву, пазіраючы адным вокам у неба. Гэта ён сьцярог маленькіх гусянятак ад каршуна, вароны ці сарокі.

Цікава было назіраць, як маленькія гусяняткі пачыналі шчыпаць траўку. У некаторых і сілы было яшчэ мала, каб адарваць тую травінку. Учэпіцца дзюбкай за травінку і цягне яе да сябе. А як травінка адарвецца, то гусянятка ляціць назад, а часам і перакуліцца. Але яны хутка расьлі, на крылцах і на хвасьце пачалі расьці пёры. Пара было іх гнаць у поле. Звычайна гусей гналі пасьвіць на папар, дзе расла любімая для іх трава – асот і малачай. Часта папар быў на Ўзвальлі. Узвальле – гэта быў круты бераг Дзісенкі, дзе звычайна расла добрая і смачная трава. У гэтым месцы рака робіць круты паварот улева. Калі су-

праць Узвальля быў папар, то сюды часта прыганялі ў абед кароў, якія любілі залезьці ў ваду і бараніліся такім чынам ад мухаў і аваднёў. Сюды і прыганяў Кастусь сваіх гусей. Гусі любілі пашчыпаць траўку, а то і ласаваліся водарасьцямі, што расьлі ў рацэ. Процілеглы бераг ракі быў нізкі, там было поле, на якім каласіўся нясьпелы яшчэ авёс. Гэты авёс, відаць, зьнюхаў наш клапатлівы гусак, які і накіраваўся на чале статку за раку. Як ні стараўся Кастусёк вярнуць гусей, але гэта яму не ўдалося. Ён іх і ласкава клікаў: "Це-це-це..." – нічога не дапамагала. Закінуць камень перад імі ўжо было немагчыма, бо гусі ўжо даплылі да сярэдзіны ракі. Рака ў гэтым месцы шырокая. І хоць тут была водмель, па якой можна перайсьці ўброд, але Кастусёк баяўся самоў, а кругом у гэты час не было відаць ні адной душы. Тым часам гускі пераплылі на другі бок ракі і рушылі лушчыць авёс. Яны вельмі па-майстэрску лушчылі каласкі дзюбай зьнізу ўверх, што ад каласкоў нічога не заставалася. А што высыпалася зь дзюбы, то прыбіралі зь зямлі. О, якое гора было для Кастуся! Ён ведаў, што за патраву гаспадар поля мог забраць гусей у хлеў, і потым бацьку прыйшлося б за гэта ўсё плаціць. Кастусь пачаў плакаць. І так шчыра плакаў і біўся аб зямельку, што на тым баку ракі пачуў Кастусёву бяду чалавек. Вось ён і прыйшоў на дапамогу. Выгнаў гусей з аўса і камамі зямлі падганяў іх да нашага берага. Кастусь падзякаваў добраму чалавеку за паслугу і больш у гэтым месцы гусей ня пасьвіў.

## Коні

Нічога малых хлопчыкаў так не захапляла, як коні. Канечне ж, у кожнай сялянскай хаце быў коцік і цюцька (сабачка), але ж гэта для малых было несур'ёзна. Кожнаму зь іх хацелася стаць дарослым, бо толькі дарослым даручалася мець справу з канём, бо конь – гэта ж самая прыгожая жывёліна, самая дужая і самая разумная. Вось чаму яны ляпілі іх з гліны, выразалі з дрэва, рабілі калёсы, сані, бароны, плужкі, збрую. Гэта ж былі сялянскія дзеці. Што рабілі бацькі, тое хацелася рабіць і ім. Але пакуль што – толькі гуляць "у коней". І гулялі. Адзін быў "канём", а другі – "фурманам". "Каню" перакідвалі вяроўку ззаду шыі і пад пахі. Два канцы вяроўкі былі лейцамі, якія трымаў "фурман" і кіраваў "канём". Вось так гулялі, а потым мяняліся месцамі.

Але хлопчыкі падрасталі. Бацькі іх садзілі на каня і загадвалі моцна трымацца за грыву, а самі ішлі збоку, прытрымліваючы іх. Потым іх вучылі трымацца не за грыву, а за повад аброці і кіраваць канём, едучы крокам.

Вось, здаецца, і Кастусёк ужо прайшоў усе навукі і навучыўся ехаць крокам. Але ж крокам ехаць было нецікава. Ён жа бачыў, як старэйшыя хлопцы езьдзілі на конях бягом ды наўскач. А чаму б і яму не паспрабаваць?! Хоць бацька яго папярэджваў, каб бягом ня ехаў. Вось аднойчы, калі ён ехаў з гумна да ракі, каб напаіць коніка, ён і патузаў каня за повад, конь і пабег. Але ногі Кастусёвы былі яшчэ закароткія, каб утрымацца на кані, прытым яго пачало падкідваць, і ён не ўтрымаўся і зваліўся на сухую вуліцу. Конь спыніўся, а Кастусёк падняўся з вывіхнутаю леваю рукою. Вось што значыць не паслухаць бацькі!

Бацька назіраў за ўсім гэтым і прыбег на дапамогу. Давялося Кастуся везьці да вэтэрынарнага доктара Міхася ў суседнюю вёску, бо іншых дактароў блізка не было, а гэты дапамагаў і людзям.

Але прайшло некалькі часу, рука загаілася, і Кастусёк навучыўся ехаць і бягом, а потым і наўскач. Вось такую "школу" праходзілі ўсе хлопчыкі.

А ўлетку, у засушлівыя гады, калі на пашы не было вады, коней трэба было паіць у Дзісенцы. У нядзелю, калі коні не былі занятыя працаю, хлопчыкі зьбіраліся разам і ішлі на пашу шукаць іх. А шукаць іх трэба было таму, што ў абедзенны час было многа мухаў і аваднёў, ад якіх коні хаваліся ў кустах ва ўрочышчах "Барок" і "Доўгае". Разыходзіліся хлопчыкі шукаць сваіх коней, знаходзілі іх і зноў зьбіраліся ў адным месцы, чакаючы ўсіх, каб потым разам ехаць да ракі. А потым выстройваліся адзін за другім і імчаліся наўскач да вёскі кілямэтры са два, толькі пыл падымаўся за кожным.

Прыехаўшы да ракі, давалі коням адпачыць, бо нельга было стомленым коням даваць халоднай вады, каб не захварэлі "дыхавіцай". Коней прывязвалі да плоту, а самыя пачыналі распранацца і купаліся. Потым бралі сваіх коней, паілі і купалі іх. А меншыя хлопчыкі, якія да гэтага часу прыходзілі пакупацца, любілі паплаваць, ухапіўшыся каню за хвост. Пакупаўшы, коней пускалі на водмель, дзе яны ласаваліся водарасьцямі.

Аднойчы дзядзька Аркадзь папрасіў Кастуська пакупаць яго коніка, а пра яго павадкі яму не сказаў. Дапамог яму залезьці на каня, і Кастусёк паехаў у раку. На глыбокім месцы раптам галава каня зьнікла пад вадою. Спалохаўся Кастусёк. А во, думае, чужога каня ўтаплю. А дзядзька Аркадзь стаіць на беразе і бярэцца ад сьмеху за бакі. Калі Кастусь зразумеў, што конь умее ныраць, гэта яму вельмі спадабалася, і ён зрабіў на ім яшчэ некалькі кругоў.

Пасьля купаньня хлопчыкі забіралі сваіх коней з водмелі, апраналіся і зноў ехалі на іх наўскач на пашу. Гэта гульня называлася ў іх "у кавалерыю".



**ПРЫСМЫЦКАЯ Вольга** — нарадзілася 12 траўня 1979 году ў Баранавічах, Беларусь. У 2001 годзе скончыла Баранавіцкі вышэйшы пэдагагічны каледж па спэцыяльнасьці настаўнік ангельскай і расейскай мовы і літаратуры. Некалькі гадоў працавала ў школе ў родным горадзе, потым вучылася і працавала ў Варшаве. У 2006 годзе апынулася ў Амэрыцы. Зьяўляецца сяброўкаю некалькіх беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў і моцна кахае сваю любую Бацькаўшчыну Беларусь.

Пісаць невялікія апавяданьні пачала, калі апынулася па-за межамі Беларусі, у Польшчы. Далёка ад Бацькаўшчыны, у Амэрыцы, жаданьне пісаць зрабілася мацнейшым. Піша пра Беларусь так, як яе адчувае, з павагаю і любоўю.

# 2084

*Юрыю Захаранку, Дзьмітрыю Завадзкаму,*
*Віктару Ганчару, Анатолю Красоўскаму*
*і майму бацьку прысьвячаю.*

Еўлаш прачнуўся а палове на шостую, ультрагук спыніўся, як толькі ён расплюшчыў вочы, але ў вушах яшчэ некалькі хвілінаў непрыемна дзынькала. Устаўшы з ложка, паплёўся на кухню. Думка аб немагчымасьці прызвычаіцца да такога абуджэньня марнела з кожным глытком гарачай кавы.

Раніца выдалася хмурная і дажджлівая, выходзіць на двор і тым больш ехаць на вучобу зусім не хацелася. Горкі смак ад кавы не праходзіў, і Еўлаш, пачысьціўшы зубы ўжо ў другі раз, прысеў за стол і ўключыў кампутар. Экран міргнуў звычайным ваконкам і запытаў пароль. Свой пэрсанальны нумар, aka індэнтыфікацыйны нумар грамадзяніна Беларусі, ён жа пароль да кампутара і пін да плястыкавай карты, Еўлаш, як і кожны законапаслухмяны жыхар раскатурханага гадзіну таму беларускага гарадку нумар 225320, ведаў на памяць.

У паштовай скрынцы вісела зь пяць-шэсьць імэйлаў, два ці тры паведамленьні былі дасланыя зь невядомых адрасоў, але мелі аднолькавую назву — 16. І ўсё. Але чытаць іх яшчэ было нельга.

Ліст з асабістым плянам на сёньняшні дзень Еўлаш праглядзеў і машынальна скінуў на флэшку. Выхад з дому бяз флэшкі з плянам прыраўноўваецца да самагубства і як мінімум можа скончыцца зламанаю рукою, нагою ці носам. Яшчэ адною памылкаю было б прачытаць пакінутыя імэйлы. Еўлаш ведаў гэта

не з чужых словаў. Справа ў тым, што яны не былі яшчэ праверанымі Асобым Аддзелам, а значыць, чытаць іх было небясьпечна. Толькі пасьля зьяўленьня зялёнага ліхтарыка над кожным зь лістоў, іх можна было адкрываць і чытаць.

Асобы Аддзел кантраляваў перапіску грамадзянаў, і чытаць хоць штосьці неправеранае гарантавала хуткую сустрэчу з прадстаўніком АА. Еўлаш ня мог гэтага дапусьціць. Ен і так быў на ўліку ў АА.

Як гэта здарылася, ён ужо ня памятаў. Цётка Арына, адзіная яго сваячка, даўно расказвала, што ўсё пачалося, калі былі яшчэ жывыя ягоныя бацькі Будзімір і Воля. Бацькоў Еўлаш ніколі ня бачыў і ня ведаў, здымкаў не існавала, у памяці нічога не затрымалася. Цётка з маленства была яму і маткаю, і бацькам. Арына забрала малога Еўлашыка да сябе пасьля таго, як ягоныя бацькі зьніклі, ці то зьехалі куды, ці то загінулі бязь вестак. З таго самага часу на дзьвярах кватэры зьявіўся чырвоны крыжык, як знак небясьпекі і няпэўнасьці яе жыхароў. Такі крыж калісьці быў сьвятым сымбалем ці то нейкае сэкты, ці то палітычнае партыі. Цяпер, убачыўшы гэты крыж, людзі хавалі вочы, адварочваліся, бо чырвоныя крыжы крывянымі язвамі на дамках, кватэрах пужалі кожнага ад малога да старога.

Як чалавеку зь небясьпечнымі генамі (дзякуй бацькам) Еўлашу быў ужыўлены асаблівы чып. Прадстаўнікі АА заўсёды ведалі аб ягоным месцазнаходжаньні, маглі праглядаць ягоны штодзённы плян, прасочваць прагрэс ягонага выкананьня і кантраляваць моц ультрагуку. Чып і крыж былі сродкамі кантраляваньня грамадзянаў другой ступені. Грамадзяне першай ступені мелі толькі чып і, згодна з апошняю пастановаю прэзыдэнта, ультрагук да іх выкарыстоўваўся толькі ў асобных выпадках, што акрэсьліваў АА. Існавалі яшчэ, канечне, трэцяя і апошняя ступені. Людзі трэцяй ступені гублялі правы грамадзянаў на 1,5 – 3 гады і, згодна з канстытуцыяй, накіроўваліся ў лекавыя ўстановы першай ступені.

Ніхто не хацеў трапіць у катэгорыю нелюдзей апошняй ступені. Ні чыпа, ні правоў у гэтых людзей ужо не было. Пасьля лекавых установаў другой ступені, ультрагукавых працэдураў, пазбаўленьня ўсіх правоў (грамадзянамі яны ўжо не былі), такія расьліны-людзі доўга не жылі.

Прадстаўнікі АА ветліва і далікатна тлумачылі пра ўвесь гэты складаны, але вельмі патрэбны працэс, паўсюдна: у школах, на занятках ААА (асновы Асобага Аддзела), на працоўных месцах, зь вялікіх экранаў на плошчах гарадоў і з маленькіх экранчыкаў у мэтро, кавярнях, крамах.

Экран стаў новым сымбалем краіны. З самага нараджэньня экран то ў малым, то ў вялікім памеры сачыў за кожным жыхаром Беларусі. Ад манітору кампутара ў шпіталі, дзе ён зьяўляўся на сьвет, экранаў сродкаў сувязі, гадзіньнікаў, мікрахвалёвак, кававарак, сьветлафораў да экранаў у кожным пакоі ў кватэрах, школах, на працы, на плошчах і вуліцах.

Цікавая рэч: яшчэ 20-30 гадоў таму ніхто і марыць ня мог пра такі тэхнічны цуд – экран у кожны дом і ў кожную ўстанову! Цяпер жа, у 2084 годзе, нельга было нават прыдумаць такога месца, дзе б на чалавека не пазіраў блакітным вокам ну хоць адзін экран. Нават, прабачце, у прыбіральні.

Вось адзін з такіх цудаў тэхнікі, а менавіта два экраны кампутара і тэлефона амаль сынхронна паведамілі, што Еўлаш павінен выйсьці на двор, сесьці ў аўтобус і ехаць на вучобу, адхіленьне ад сёньняшняга пляну 0,97%. Накінуўшы шырокі пінжак зь яшчэ адным чырвоным крыжом, Еўлаш выйшаў на двор.

Непрыемна дзынькала ў вушах, і ён пасьпяшаўся паскорыць крок, каб не спазьніцца на аўтобус.

Дробны дождж біў па твары і халоднымі кроплямі каціўся за каўнер. “Як даўно я ня бачыў сонца, – думалася Еўлашу. – Як моцна я хачу яго ўбачыць, хоць на трошкі”. Чарговы тумак ультрагуку амаль фізычна піхнуў хлопца ў сьпіну, і той апынуўся ў салёне аўтобусу, дзе акрамя Еўлаша было ўжо з 5-6 такіх жа студэнтаў, як і ён, некаторыя з крыжамі на вопратцы, некаторыя без. Усе яны сядзелі асобна адзін ад аднаго, ніхто не размаўляў, дзяўчаты паглядалі ў вокны, хлопцы ў экраны тэлефонаў.

Еўлаш глянуў на свой, і экран паведаміў, што першая пара-лекцыя з гісторыі сучаснай Беларусі адбудзецца ў 103-й слухальні, прагрэс выкананьня пляну 1%, небясьпечныя паведамленьні з назваю 16 ласкава выдаленыя АА.

Аўтобус плаўна крануўся зь месца і ўжо роўна праз 23 хвіліны пад’ехаў да ганку ўнівэрсытэту, а яшчэ празь дзьве Еўлаш сядзеў на першай лаўцы 103-й слухальні і пазіраў на блакітны экран проста перад ім. Цікава, што за ўвесь гэты час (25 хвілін) ніводная думка не прыйшла да яго ў галаву і ніводнага ўльтрагуку, што было больш прыемна. Лекцыя пачалася традыцыйным “Словам ад прэзыдэнта да народу”. Кожны экран ва ўсёй краіне ператварыўся ў вялізнае вока, якое гаварыла, а людзі – у сотні тысяч маленькіх вушэй, і ўсе яны слухалі. Прэзыдэнт гаварыў, як заўсёды гучна і бадзёра, пра новыя дасягненьні і барацьбу з ворагамі народу, крызыс ва ўсім сьвеце і стабільнасьць Беларусі, зарадзіўшы краіну пазытыўна за нейкія 3-4 хвіліны, Прэзыдэнт нагадаў пра чарговы рэфэрэндум і папрасіў усіх узяць актыўны ўдзел.

Вось ужо гадоў 50 таму рэфэрэндумы сталі неад’емнаю часткаю жыцьця беларускага народу. У той самы год, як прайшлі апошнія прэзыдэнцкія выбары, і народ Беларусі аднагалосна вырашыў, што прэзыдэнт А.Л. павінен захаваць пасаду кіраўніка краіны, пакуль мір і стабільнасьць у сьвеце ня будуць дасягнутыя.

Сам жа прэзыдэнт пайшоў на ўражлівае самаахвяраваньне дзеля сваёй краіны! Кожныя чатыры гады, пасьля выбараў, прэзыдэнту рабілася ін’екцыя жыцьця, і роўна праз 24 гадзіны ён быў ужо на нагах, здаровы і вясёлы, гатовы ашчасьлівіць Беларусь. Аб такой надзвычайнай сьмеласьці і адданасьці народу Беларусі пісалі кнігі, чыталі лекцыі. Вось і сёньня прафэсар па гісторыі ўжо пачаў чытаць лекцыю, ухваляючы час, у якім пашчасьціла жыць усім прысутным. 90-ю гадавіну з дня абраньня прэзыдэнта зьбіраліся сьвяткаваць зусім хутка. Які цудоўны і сьвяточны гэта будзе дзень.

У наступнай частцы лекцыі прафэсар прапанаваў студэнтам падумаць і запісаць прапановы па сьвяткаваньні ва ўнівэрсытэце 90-й гадавіны, час, а менавіта роўна 33 хвіліны, пайшоў.

Еўлаш накідаў ужо 14 пунктаў, калі хтосьці штурхнуў яго ў бок. Гэта быў Арсень, аднагрупнік і брат Надзеі, дзяўчыны, у якую Еўлаш быў закаханы яшчэ зь першага курсу. Арсень сунуў пакамячаную паперку зь лічбаю 16. Нічога не разумеючы, Еўлаш глядзеў то на блакітную лічбу, то на таямнічы твар Арсеня.

“16 – гэта сёньня, празь пяць хвілін чакаю цябе ў лябараторыі фізыкі”, – толькі і сказаў Арсень, Еўлаш адвярнуўся і запісаў 15-ю прапанову па тэме.

Роўна праз шэсьць хвілін Арсень, Еўлаш і Надзея стаялі за вялізнаю шафаю ў лябараторыі, вакол іх, утварыўшы кола, ланцугом стаялі некалькі сту-

дэнтаў, яны трымаліся за рукі так, што чыпы, ужыўленыя ў іх прыдалоньні, сутыкаліся. Толькі так ўсё сказанае, а таксама думкі прысутных не выходзілі паза кола і не фіксаваліся ў чыпах, такім чынам не было і ультрагукавага выгойваньня. Вось так можна было гаварыць аб тым, за што можна было зьнікнуць, нават прамінуўшы апошнюю ступень.

– У мяне толькі пара хвілін, – пачаў Арсень. Надзея сумна кіўнула. – Сёньня, 16-га, мы ўспамінаем усіх нашых сяброў, што згінулі і загінулі... Табе, Еўлаш, гэта добра знаёма, я ведаў пра тваіх бацькоў...

– Добра, а што мы робім сёньня? Давай больш канкрэтна, – адазваўся Еўлаш і адчуў, як моцна зашчымела на гэты раз не ў галаве ад ультрагуку, а ў грудзях ад чагосьці іншага.

– Прапаную сёньня ўвечары, роўна а 16-й гадзіне, запаліць сьвечку і паставіць на вакно.

– Сьвечку? А што гэта?

– Надзея знайшла ў інтэрнэце штосьці пра гэта, вось наш малодшы зрабіў на ўроках хіміі такі ліхтарык з воску, ну прылада для асьвятленьня, існавала гадоў 200 таму, а для нас сымбаль, зразумеў?

Увесь гэты час Надзея толькі ківала на словы брата і вось цяпер выцягнула з кішэні маленькі жоўты пруточак з хвосьцікам і сунула яго Еўлашу.

– Запалі за хвосьцік і трымай, альбо пастаў на вакно, – прашаптала яна. – Мы іх помнім, мы зь імі ў думках, хоць і думаць пра іх забараняюць.

Рэшту дня сьвечка, што дала Надзея, пякла і стрыкала ў кішэні, ультрагук смаліў мазгі. Па дарозе дамоў з унівэрсытэту, кожны экран паказваў Еўлашу адхіленьне ад пляну думак 44%, калі гэты паказчык пераваліць за 50, сустрэчы з прадстаўніком АА не пазьбегнуць, і галоўнае, ультрагук станавіўся недапушчальна моцным.

Запаліўшы ў кватэры сьвятло, Еўлаш распрануўся, пайшоў на кухню, выпіў там халодную каву, што засталася з раніцы, разагрэў ежу і ўсё гэта без адзінай думкі ў галаве, нарэшце ў вушах стала прыемна ціха.

Экран мікрахвалёўкі паказаў прагрэс выкананьня пляну 60%, адхіленьне толькі 23%, наступным крокам быў агляд новай праграмы пра будову шкляных дамоў ва ўсёй краіне і плаўны пераход на такія дамы да 2094 году як асаблівы падарунак прэзыдэнту да 100-годзьдзя ягонага выбраньня.

Шкляныя сьцены новых дамоў, удасканаленыя экраны-вочы разам з новымі ўнікальнымі чыпамі, якія ўжо з 13 гадоў як ужыўляюцца нованароджаным беларусам, павінны стаць унівэрсальнымі сродкамі кантролю АА і зарукаю парадку і ладу ў краіне.

Еўлаш спрабаваў уявіць сабе гэтыя цудоўныя дамы і жыцьцё ў іх, усе экраны і экранчыкі ў кватэры зьзялі зялёнымі лічбамі 75%, ультрагук адпіхваў непатрэбныя думкі, што ўсё будзе празрыстым, што можна будзе глядзець празь сьцены на кожнага, што ведаць будуць ужо пра ўсё і кантраляваць усіх.

У думкі неяк ціха і вельмі натуральна ўплыў вобраз Надзеі, яе блакітныя спалоханыя вочы, мілы твар, русыя валасы... і тут як токам ударыла. 16, 16...

У імгненьне вока Еўлаш апынуўся каля вакна, у адной руцэ сьвечка, у другой – запалкі.

На вуліцы было ўжо даволі цёмна, дождж так і не спыніўся за ўвесь дзень. Ліхтарыкі дамоў спалохана міргалі. Наймацнейшы бізун ультрагуку ўдарыў Еўлаша па ўсім целе і шпурнуў на падлогу.

Праз найстрашнейшы боль ён усё ж такі падняўся, намацаў тое, што выпала з рук.

Агеньчык запалкі прагна схапіўся за хвосьцік сьвечкі і ярка зазьзяў у далонях. Гарачае, яскравае сьвятло разыходзілася навакол, грэла, заспакойвала і лагодзіла. Яно нагадала Еўлашу сонейка, пра якое ён так марыў у апошні час, такое невялічкае, але такое патрэбнае.

Ультрагук безупынна хвастаў, але думкі пра бацькоў, пра Надзею, пра сонейка пульсам біліся ў галаве.

– Адчыняйце! Асобы Аддзел! – загрукаталі ў дзьверы. Еўлаш добра ведаў, **ш т о** будзе далей.



**РЫЖЫ Эмігідыюш (архіяпіскап Юры)** нарадзіўся ў дружнай сялянскай сям'і 5 жніўня 1933 году на хутары паблізу вёскі Латыгала Пастаўскага павету Віленскага ваяводзтва. Цяпер гэта Глыбоцкі раён Віцебскай вобласьці. Маці ў 1945 годзе за актыўную нацыянальна-патрыятычную беларускую дзейнасьць старэйшага сына Ўладзіслава была асуджаная на дзесяць гадоў папраўчых лягераў. У 1946 годзе дванаццацігадовы Эмік разам са старэйшаю сястрою (сям'я "ворагаў народу") быў вымушаны зьехаць у Польшчу. З 1976 году жыве ў ЗША. Адчуўшы Божае пакліканьне, скончыў духоўную сэмінарыю. Ад 1977 году займаецца душпастырскаю справаю — працягвае рэлігійную дзейнасьць свайго брата Ўладзіслава Рыжага-Рыскага (1925—1978). Напісаў і выдаў у 2003 годзе кнігу ўспамінаў і разважаньняў "Мой крыж".

Гэтым разам чытачам прапануецца апавяданьне, у аснове якога ляжаць канкрэтныя гістарычныя падзеі, што мелі месца на Бацькаўшчыне, і біяграфічныя факты з жыцьця аўтара. Разьвіцьцё сюжэту ў творы адбываецца вакол прымусовага збору грошай на дзяржаўную пазыку ў 1946 годзе. Гэтая пазыка выграбла апошняе ў народу. Яна разам зь нерэальна высокімі харчпастаўкамі, якімі была абкладзеная згалелая вёска, неўраджаем і засухаю выклікала вялікі голад 1946—1947 гадоў. Людзі паміралі, а Сталін рыхтаваўся да чарговае вайны. Саветам трэба было шмат грошай на новую зброю, патрэбныя былі стратэгічныя харчовыя запасы, каб карміць шматмільённае войска. У дадатак неабходна было ўтрымоўваць камуністычныя рэжымы за мяжою.

# Тры суботы

Хіба гэта яна?! Малая, схіленая, счарнелая... Не — яна. Дый што зь яе хацець? Паўстагодзьдзя я яе ня бачыў. Час сваё бярэ. А раней падавалася яна мне высокаю і прыгожаю. Заўсёды чыстая й прыбраная. Праўда, чамусьці, халодная і нават страшная. Выклікала штодзень у мяне адчуваньне трывогі, вымушала трымацца насьцярожана. Не разумеў я яе — лічыў чужою. Гэта я ўсё,

дарагі чытач, пра сваю першую школу, будынак якое, дзякуй Богу, і сёньня стаіць у маёй роднай вёсцы Латыгала.

Школа разам з царквою – своеасаблівая брама, празь якую наўпрост ляжыць шлях да людзкіх душаў. Чыя школа, чыя царква – таго й народ, і зямля, на якой гэты народ жыве й працуе. Гэта добра разумелі і разумеюць былыя і цяперашнія нашыя захопнікі. Таму роля школы ў Беларусі (ня блытаць зь беларускаю школаю) заўсёды была і ёсьць вельмі адметная. Не выключэньне тут і Латыгальская пачатковая школа.

Да верасьня 1939-га пані Карзёнак выхоўвала тут з нас“полякув малых”, якіх знак “ожэл бялы”. У 1940-м нас гуртам запісалі ў акцябраты і давялі, што “Бога няма”, а “бацька наш – Сталін”. А які нашыя, васьмі- адзінаццацігадовыя латыгальскія дзеці перажылі жах у лютым 1943-га, калі прыйшлі раніцаю на заняткі! На бэльцы, пасярод кляснага пакою вісела бездыханнае цела маладзенькай настаўніцы. Ад брата Ўладзюка, які тады працаваў настаўнікам у вёсцы Мярэцкія, я пазьней даведаўся, што яе, тутэйшую дзевятнаццацігадовую дзяўчыну, сяброўку Саюзу Беларускай Моладзі, згвалцілі, а затым забілі засланыя НКВД партызаны. Давялося мне павучыцца ў Латыгале трохі й пасьля вайны. Але ці варта гэта лічыць вучобаю. Настаўнікі кожны дзень давалі мне зразумець, што я зь сям’і “ворага народу”, а вучні мяне абзывалі “патрыётам” (такою мянушкаю, за адданасьць беларускай справе, мясцовыя людзі ў свой час называлі майго брата). Даводзілася часта біцца. Школьны будынак, як найвялікшы ў вёсцы, за саветамі ўвесь час выкарыстоўваўся для ўсялякіх сходаў і галасаваньняў. Адзін з такіх сходаў моцна засеў у маёй памяці. Ішоў 1946 год. Раніцаю ў суботу 11 траўня ўсе вясковыя хаты і навакольныя хутары наведаў старшыня сельсавету Шумель. Людзям было загадана прыйсьці а трэцяй гадзіне папаўдні ў школу на сход. Шумель быў вельмі сур’ёзны, правая рука ляжала на пісталетнай кабуры. Дарэчы, кабура тая была ссунутая на сярэдзіну жывата, мабыць, каб усе бачылі, што ён узброены. Быў ён цьвярозы, даць выпіць ні ад кога не патрабаваў – і менавіта гэта ўсіх насьцярожвала. Бо яшчэ ў вайну гэтак званы партызан Шумель быў вядомы ў нашай мясцовасьці як баламут ды п’яніца, які штоночы (са зброяю ў руках) гойсаў па хатах у пошуках самагонкі ды ежы.

Ужо за паўгадзіны да загаданага часу палова дарослага насельніцтва сабралася на пляцоўцы каля школы. Стаяла тут і мая сястра Стэпця, якой толькі што споўнілася васямнаццаць гадоў, прыйшоў найбліжэйшы наш сваяк дзядзька Алесь Кокар. Людзі ціха гаманілі пра сяўбу ды іншыя надзённыя клопаты. Выказвалі розныя вэрсіі пра нагоду сходу, які меў адбыцца. Вакол школы лётала шмат дзяцей, быў там і я, бо нехта пусьціў чутку, што прыедуць артысты.

Дакладна а трэцяй гадзіне з двума незнаёмцамі да школы падыйшоў Шумель. Незнаёмцы былі апранутыя як вайскоўцы, але без пагонаў і какардаў. Адзін зь іх нагадваў падрыхтаванага да атакі байца. (Далей я гэтага чалавека так і буду называць “байцом”, бо ніхто з нашых людзей ягонага імя так і не даведаўся). Перад сабою ў руках ён трымаў аўтамат ППШ, а дзяга аж правісала ад запаснога дыску і гранатаў. Цікава, што звычайна вайскоўцы насілі запасны дыск да ППШ у заплечным мяху, гранаты ж клалі ў спэцыяльную сумку. Голеная галава “байца” безупынна круцілася па баках, маленькія круглыя вочы скакалі па сялянскіх тварах, затрымліваючыся колькі імгненьняў на позірках

маладых мужчынаў. Усім сваім выглядам ён нібыта крычаў, як цяпер бы сказалі ў Беларусі: “Глядзіце, які я круты! Ну, хто супраць мяне?!”

І людзі пачулі гэты безгалосы крык. Яны хуценька расступіліся, зрабіўшы да прыступак жывы калідор. Уладная ж “тройка”, нібыта спалоханая, на некалькі хвілінаў прыпынілася. Другі незнаёмец (па ўсім было відаць, што з траіх ён быў галоўным) пачаў нешта шаптаць Шумелю. Старшыня моўчкіківаў, а потым зароў: “Усе ў школу! Нікому на двары не заставацца!” – і пачаў штурхаць людзей да ўваходу. Усе мы адчулі сябе арыштаванымі. Некаторыя бабы пачалі галасіць. Паўліна Кундрыха залямантавала: “Хоць дзяцей пашкадуйце – не паліце!” Частка сялянаў малілася. Некаторыя дзеці кінуліся ўцякаць.

Адзіны клясны пакой і калідор былі біткам набітыя народам. Шумель і “галоўны незнаёмец” праціснуліся да настаўніцкага стала і селі ў крэслы. “Баец” зачыніў дзьверы і стаў ля іх.

– Маўчаць! – зноў зароў Шумель. Людзі заціхлі. – Зараз перад вамі выступіць упаўнаважаны прадстаўнік раёну таварыш Лазабееў.

Лазабееў хацеў устаць, але ня змог. Крэсла з-за цеснаты было вельмі шчыльна прысунутае да сьцяны. Гэта яго не зьбянтэжыла. Паправіўшы круглыя акуляры з таўшчэзным шклом, якія надавалі ягонаму твару выраз нейкай застылай, характэрнай для нябожчыкаў усьмешкі, прадстаўнік раёну пачаў дэклямаваць па-расейску афіцыйныя ўрачыстыя заклікі і віншаваньні.

– Слава вялікаму Сталіну! – крыкнуў Лазабееў.

– Ура! – зароў Шумель у адказ і запляскаў у далоні. Людзі маўчалі.

– Слава Камуністычнай партыі Савецкага Саюзу! – зноў крыкнуў прадстаўнік раёну.

– Ура! – ажно захрыпеў у адказ Шумель. А апошняе “а!” падхапіў “баец”, што вартаваў дзьверы. Людзі маўчалі.

– Віншую вас, дарагія таварышы, зь першаю гадавінаю вялікае перамогі! – стрымліваючы незадаволенасьць, сказаў Лазабееў і ўтаропіўся на людзей.

Шумель і “баец” раўлі “ўра”. Людзі маўчалі.

Прадстаўнік раёну з дакорам паглядеў на старшыню, той апусьціў вочы.

Лазабееў дастаў з партфэлю газэту і, ня гледзячы на сабраных, пачаў зачытваць Пастанову Савету Міністраў СССР аб выпуску дзяржаўнай пазыкі адбудовы і разьвіцьця народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу. Скончыўшы чытаць, доўга ўглядаўся ў твары. Людзі маўчалі.

Затым чытаньне газэты было працягнутае. Амаль гадзіну прадстаўнік раёну, не адрываючы свае круглыя акуляры ад тэксту, мармытаў адзін артыкул за другім. Інфармацыя пра мэты і ўмовы пазыкі, пра тое, якімі шпаркімі тэмпамі крочыць па краіне падпіска на гэтую пазыку і зь якой радасьцю грамадзяне выкупляюць пазыковыя аблігацыі, шчодра была перамяшаная бравымі заклікамі кшталту “Мэталюргі! Дружнаю падпіскаю на дзяржаўную пазыку дапаможам адбудове і разьвіцьцю народнае гаспадаркі нашае любімае Радзімы!”

Апошнім было зачытанае паведамленьне аб тым, як “зь вялікім уздымам сустрэлі вестку аб новай пазыцы члены ордэна Леніна калгасу імя Беларускай вайсковай акругі. Дружнаю падпіскаю на пазыку калгасьнікі дэманструюць сваё імкненьне выканаць пяцігадовы плян аднаўленьня і разьвіцьця нашае краіны за чатыры гады”.

Лазабееў адклаў газэту ў бок.

– Як бачыце, таварышы, савецкія людзі дружна падтрымалі рашэньне савецкага ўраду аб выпуску дзяржаўнае пазыкі. Дзякуючы ёй, кожны з вас можа паскорыць справу адбудовы нашае народнае гаспадаркі, падпіска на пазыку будзе важкім доказам вашае адданасьці справе вялікага Сталіна і Камуністычнае партыі.

Людзі маўчалі.

Лазабееў нешта шапнуў Шумелю, той хацеў ускочыць на ногі, але, зачапіўшыся кабурою, што вісела на жываце, за стол, абваліўся назад у крэсла. Набраўшы паветра, пачаў крыкам тлумачыць сялянам, пра што ім толькі што чыталі. Гаварыў ён даходліва. Махаў рукамі, тупаў пад сталом нагамі, ужываў мацюкі.

– Карацей кажучы, кожная аднаасобная гаспадарка павінна падпісацца на пазыку з разьліку 22 рублі на аднаго працаздольнага! – падсумаваў сваё маханьне, тупаньне і мацюканьне старшыня сельсавету.

Людзі маўчалі.

– Хто ня згодны сёньня падпісвацца па 22 рублі, то заўтра прыйдзецца плаціць нашмат болей – я запішу такіх у лік кулакоў. А там, глядзі, і зусім раскулачу ды ў Сыбір вышлю! – выкрыкнуў Шумель.

Людзі маўчалі. За вокнамі пачынала шарэць.

Недзе здалёк пачулася рыканьне каровы. Людзі схамянуліся. Здавалася, што прачнуліся ад нейкага сну. Пачалі ціха гаманіць, затым разам захваляваліся пра сваіх кароў, коней, сьвіней, авечак, трусоў, курэй, гусей, качак. Усё гэтае жывое "багацьце", а было яно ня ў кожнага і, канешне ж, не ва ўсім пералічаным асартымэнце, трэба было хутчэй накарміць і дагледзець, спарадкаваць на ноч. А яшчэ ў некаторых засталіся без нагляду малыя дзеці. Бабы і частка мужыкоў пачалі прасіцца сходзіць дахаты. На тварах Лазабеева і Шумеля зьявілася ўсьмешка. Нарэшце, усё пайшло па іхным сцэнары.

Прадстаўнік раёну дастаў з партфэлю стос папераў, Шумель выцягнуў з шуфляды чарніліцу і асадку.

– Падпісвайце дакумэнты й ідзіце сабе дамоў, – на дзіва спакойна сказаў Шумель. Але з гэтае фразы старшыні латыгальцы пачулі чамусьці толькі тое, што, відаць, хацелі пачуць – апошнія словы: "Ідзіце сабе дамоў". Усе кінуліся да дзьвярэй. Пачуўся стрэл. Гэта "баец" пальнуў у драўляную столь. Папярэдзіць: "Стой, страляць буду", – ён проста не пасьпеў. Ды яго б і не пачулі – проста вынесьлі б разам зь дзьвярыма.

Людзі адскочылі назад. А "баец", відаць, зь перапуду, выхапіў гранату і трымаў яе над галавою. Хвіліны на тры ўтварылася нямая сцэна. Маўчалі і Лазабееў з Шумелем. Адчуўшы сябе пераможцам, часова нават над сваім начальнікам, "баец" апусьціў гранату (кальцо было на месцы) і прычапіў яе зноў на дзягу.

– Таварышы! Падпісвайцеся на пазыку, – шэптам, нібыта баючыся зноў раззлаваць "байца", прашаптаў Лазабееў. – Падыходзьце. Хто першы?

І першы знайшоўся. Да стала працiснуўся з запаленаю лямпаю настаўнік з нашае школы, які ўвесь час дагэтуль сядзеў у невялічкай кладоўцы.

– Малайчына Барыс Аляксеевіч! Партыя не памылілася, даверыўшы вам выхаваньне падрастаючага пакаленьня. Бярыце прыклад з інтэлігенцыі, – зарагатаў, зварочваючыся да сялянаў, Шумель.

Настаўнік паставіў на стол лямпу, падпісаў патрэбныя паперы. Павярнуўся да латыгальцаў тварам. Акінуў людзей, нібыта яны былі ягоныя вучні,

дакорлівым позіркам і прамовіў: “Я, як камуніст і савецкі чалавек, рады дапамагчы сваёй краіне пераадолець пасьляваенныя цяжкасьці, лічу, што і бацькі маіх вучняў зараз далучацца да гэтае пачэснае справы. А заўтра на ўроках я абавязкова скажу дзецям, што яны павінны ганарыцца такімі татамі і мамамі”.

Улада, скарыстаўшы настаўніка, зачапіла латыгальцаў за жывое. Сялянам далі зразумець – іхная ўпартасьць можа кепска адбіцца на дзецях. І латыгальцы саступілі. Якія ж бацька ці маці зробяць што на шкоду свайму любаму сыну ці дачушцы?! У малых і так вайна адабрала частку дзяцінства. А ім трэба расьці, трэба вучыцца, трэба жыць.

Неўзабаве ля настаўніцкага стала, за якім сядзелі Шумель з Лазабеевым, утварылася чарга. Прадстаўнік раёну ледзь пасьпяваў падсоўваць паперы.

– Дзякую Вам, Стэфанія Францаўна, – падзякаваў ён маёй сястры за подпіс. Тая засаромелася, бо першы раз у жыцьці яе назвалі па бацьку.

– Можа, Бог дасьць, не памром, выплацім неяк гэтую пазыку, прамовіла яна ў адказ, апускаючы вочы.

– Не памрэш. Увосень вунь замуж за Юзіка Барэйку выдадзім. Даўно ўжо хлопец па табе сохне, з гэтага, відаць, і да чаркі зачаста прыкладацца стаў. Так што рыхтуйся Стэпка – сам сватаць буду, – паспрабаваў жартаваць Шумель.

За гадзіну да поўначы ўсе латыгальцы, акрамя дзядзькі Алеся, школу пакінулі. А ён да настаўніцкага стала так і не падыходзіў.

– Кокар, ты ж мяне ведаеш, – раздражнёна прашыпеў Шумель.

– Дык і ты ж мяне ведаеш, – спакойна адказаў дзядзька.

Што Алесь Кокар сьмелы і ўпарты мужык, старшыня сельсавету ведаў добра. За свае пяцьдзясят гадоў дзядзька прайшоў праз чатыры вайны, зьведаў турму і ніколі ні перад кім не скарыўся. Махай не махай перад такім зброяю – не спалохаеш.

– Вы што, таварыш, хочаце застацца ўбаку, калі ўвесь савецкі народ на чале зь вялікім Сталіным прыкладае максымум намаганьняў, каб зрабіць Савецкі Саюз яшчэ больш магутным і квітнеючым. Цяпер ня час задумвацца аб асабістых выгодах. Трэба адбудоўваць краіну, мацаваць яе абараназдольнасьць. А можа, вы пасобнік імпэрыялістаў? Чакаеце, калі амэрыканцы тут са сваёю атамнаю бомбаю зьявяцца? Відаць, і зброю прыхавалі, – пачаў ідэалагічна-псыхалягічны наступ Лазабееў.

Дзядзька Алесь цудоўна разумеў бессэнсоўнасьць спрэчак з гэтымі, як цяпер кажуць на Бацькаўшчыне, “вертыкальшчыкамі”. Але сказаць колькі словаў у абарону сваёй пазыцыі было справаю гонару.

– Калі ёсьць ахвота, то зброю ў мяне на хутары пашукаць можаце хоць зараз. Заадно паглядзіце на майго каня і карову. Памацаеце сала на парсюку. Падлічыце курэй і яйкі. Дый і жыта ў гарцах трэба зважыць, – пачаў, нібыта з жартаў, дзядзька.

– Ня плач! Не адной тваёй сям’і цяпер цяжка. Трэба краіну адбудаваць, а тады ўсе і зажывём, – пасьпяшаўся заткнуць дзядзьку рот Шумель. Былому “партызану” ня вельмі хацелася, каб прысутныя даведаліся, як ён з падзельнікамі адабралі вайною ў Кокараў спачатку каня з кароваю, потым парсюка, а неўзабаве павыцягвалі з падпечку і курэй. Дарэчы, пасьля кожнай такой “баявой апэрацыі” ў суседніх Заваратах па начах ладзіліся шыкоўныя п’янкі з кулямётна-аўтаматнымі салютамі ў паветра.

– Я ня плачу, але мяркую – багацьце краіны складаецца з багацьця кожнага яе грамадзяніна. Якую сьветлую будучыню можа пабудаваць згалелы народ, у якога забіраюць апошняе. Што пасеюць сяляне, калі трэба нават насеньне прадаць, каб выплаціць вашую пазыку. Глядзіце, каб дзяржаве не прыйшлося праз пэўны тэрмін купляць збожжа за мяжою ў той жа Амэрыцы.

Пачуўшы такі жалезны аргумэнт, Лазабееў і Шумель, нібы аблітыя кіпнем, імгненна ўскочылі са сваіх крэслаў, настаўніцкі стол, зачэплены кабурою старшыні, з трэскам перакуліўся. На падлогу паляцелі паперы, падскокваючы, у кут пакацілася чарніліца.

У адказ на нечаканы грукат і працяжны крык Лазабеева: “Што?!” “баец”, што драмаў на зэдліку ля дзьвярэй, раптоўна ўскочыў і, ляпнуўшы затворам аўтамата, ашалела зароў: “Стой, страляць буду!” Лазабееў і Шумель на момант заціхлі, баючыся паўтарэньня гісторыі з гранатаю. А “баец”, убачыўшы, што ўсіх зноў моцна напалохаў, адчуваючы з гэтага пэўную асалоду, апусьціў зброю і супакоіўся. Па ўсім было відаць – ён падчас вайны быў моцна кантужаны. Раённае ж кіраўніцтва замест таго, каб накіраваць гэтага псыхічна хворага чалавека на лячэньне, прызвычаілася выкарыстоўваць яго як пудзіла для запалохваньня сялянаў.

– Ды ты не такі просты, як мне падалося адразу! Ты, мабыць, амэрыканскі шпіён! – прашыпеў, падскочыўшы да дзядзькі, Лазабееў.

– Гэта цалкам верагодна. У яго ў Амэрыцы жыве старэйшы брат, сярэдні там знаходзіўся працяглы тэрмін. Дый пляменьнік Рыжы Ўладзюк недзе туды ўцёк, – пасьпяшаўся дадаць Шумель.

Дзядзька спакойна слухаў, не спалохаўся ні высунутых супраць яго абвінавачаньняў, ні хваравітых выбрыкаў “байца”, нават ня ўстаў з лавы. Дачакаўшыся, калі прадстаўнікі ўлады скончаць лямантаваць і бразгаць зброяю, ён працягваў аргумэнтавана адстойваць сваё.

– Што амэрыканскіх сялянаў тамтэйшая ўлада не абірае, а, наадварот, падтрымоўвае, гэта ў Латыгале ведае кожны. Няма ў нас сям’і, у якой хто б з родных у свой час ня зьехаў за акіян на заробкі. За польскім часам мае аднавяскоўцы атрымлівалі ад сваякоў з Амэрыкі добрыя грашовыя пераводы, рэгулярна ліставаліся. Бывала, што латыгальскія “амэрыканцы” з багатымі падарункамі прыяжджалі на Бацькаўшчыну пагасьціць ці, зарабіўшы на добры фальварак, вярталіся назаўсёды. Так і брат мой – Юзюк, адпрацаваўшы пятнаццаць гадоў на мэталюргічным заводзе ў Чыкага, вярнуўся зь сям’ёю дахаты. Купіў зямлі, пабудаваў хутар. Цяпер як кулак сасланы ў Сыбір. У такім разе мы тут, у Латыгале, усе “амэрыканскія шпіёны”, – падсумаваў свой расповед дзядзька Алесь.

Утварылася працяглая паўза. Партыец са стажам, прайшоўшы процьму ідэалягічных курсаў і сэмінараў, аказаўся бездапаможным у спрэчцы з простым селянінам. Бяздоказная дэмагогія, заснаваная на гучных закліках, хлусьні і гвалце, не змагла перамагчы аргумэнтаваную дасьведчанасьць. На мікраўзроўні сутыкнуліся два сьветапогляды, што ў далейшым вызначаць на дзесяцігодзьдзі прынцыпы існаваньня і разьвіцьця сьвету. З аднаго боку, турэмна-казарменны камуністычны ўсходні таталітарызм, з другога – дэмакратычныя каштоўнасьці вольнага Захаду. Час пакажа перамогу другога, час пацьвердзіць рацыю дзядзькі Алеся. Але гэта будзе шмат гадоў пасьля. А цяпер быў толькі пачатак траўня 1946 году. І права было ў тых, у каго была сіла. Шкада, што і сёньня на Бацькаўшчыне з правам не нашмат лепш, чым за Сталіным.

За вокнамі пачало віднець. Усе адчувалі стомленасьць. Да таго ж Лазабееву з Шумелем моцна хацелася выпіць, а ў кладоўцы чакала пакінутая для іх настаўнікам самагонка і закуска.

– Ладна, Кокар, сёньня мы цябе арыштоўваць ня станем. Ідзі дахаты. Парайся з жонкаю. А калі не падпішасься на пазыку, то за такую тваю антысавецкую агітацыю, што мы тут сёньня пачулі, і расстраляць цябе мала. Мы заедзем на твой хутар праз пару дзён, – нібы скідваючы з плячэй цяжкую ношу, пасьля працяглага выдыху прамовіў Лазабееў.

– Во, во! Парайся з Манькаю. Яна баба разумная, – не прамінуў дадаць Шумель...

У наступную суботу, 18 траўня, пад вечар дзядзька Алесь, як звычайна, выцепліў лазьню. Першым памыўся сам, бо любіў моцную пару. Апрануўся ў чыстыя белыя споднікі і кашулю, клікнуў жонку зь дзецьмі. Не пасьпела цётка Манька з гадавалым Стасем на руках і дванаццацігадоваю Янінаю падыйсьці да лазьні, як з-за хмызьняку на хутар уехала сельсаветаўская падвода. Кіраваў канём Шумель. На возе, лежачы на саломе, падклаўшы партфэль пад галаву, драмаў Лазабееў, ззаду, скурчыўшыся ад недахопу месца, сядзеў "баец". Усе трох былі на добрым падпітку. Шумель, спадзеючыся на чарговую выпіўку, відаць, хацеў прыпыніцца ля хаты, але конь ірвануў проста да студні і пачаў прагна піць з карыта, якое стаяла ля зруба.

– О, усе ў зборы. Манька, ну ты растлумачыла свайму цьвердалобаму, што трэба падпісацца на пазыку і не жартаваць з савецкаю ўладаю? – зьвяртаючыся да цёткі, але гледзячы пры гэтым на дзядзьку, гучна прамовіў Шумель.

– Тут я вырашаю, а ня Манька! Ніякіх вам пазыкаў, пакуль мае дзеці галодныя, – адразу паставіў на месца Шумеля дзядзька Алесь.

– Арыштаваць. Павязём расстрэльваць, – адарваўшы галаву ад партфэлю, прамармытаў п'яны Лазабееў.

"Баец" імгненна падскочыў да дзядзькі і, тыкаючы яму аўтаматам у грудзі, пачаў заганяць на воз. Дзядзька не спалохаўся, але ўладзе падпарадкаваўся і спакойна сеў побач з Шумялём. Яму хацелася, каб гэтая ўзброеная і да таго ж п'яная ўладная банда найхутчэй ад'ехала ад хутару і, крый Божа, не нашкодзіла жонцы ды дзецям. Падвода кранулася, і праз хвіліну стала нябачнаю за кустамі.

Між тым цётка Манька за ўвесь гэты час не прамовіла ніводнага слова. Яна нібы акамянела, стаяла на адным месцы і не варушылася, моцна прыціскаючы да грудзей сына. Той круціўся, плакаў, спрабаваў вырвацца з рук, але яна гэтага нібыта не заўважала. Звычайна ж нашыя жанчыны ў такіх выпадках пачынаюць галасіць, кідаюцца ў ногі ўсялякім "лазабеевым". А тут – не. Яна стаяла і маўчала, нібыта разумеючы свайго мужа, які адводзіў сабою небясьпеку ад сям'і.

З-за кустоў пачуўся стрэл. Ну вось і расстралялі, пранеслася ў галаве ў цёткі. Трэба хутчэй ляцець да Алеся, шаптала яна сабе, але ногі, нібы чужыя, ня слухаліся, здавалася, быццам прырасьлі да зямлі.

І во цуд. Ідзе анёл ў белым, падобны на яе мужа. Цётка Манька страціла прытомнасьць і паваліліся...

А дзядзька Алесь у чарговы раз вярнуўся дахаты пераможцам. Лазабееў з памагатымі разьлічвалі напалохаць яго расстрэлам. Ссадзілі з возу, паставілі

ля дрэва, “баец” адыйшоў, прыцэліўся і стрэліў ... у паветра. П’яныя прадстаўнікі савецкай улады зарагаталі, абяцалі завітаць на наступным тыдні і, даўшы каню пугі, паперліся шукаць самагонку.

А ў суботу, 25 траўня, выбухнула сельсаветаўская падвода. Загінулі Лазабееў, Шумель і “баец”. Па навакольлі гойсала процьма энкавэдыстаў. Траіх завітала і на хутар дзядзькі Алеся. Шукалі зброю й выбухоўку. Нічога не знайшлі. Назаўтра ўсё сьціхла. Нікога не пакаралі і не арыштавалі. Афіцыйная вэрсія – неасьцярожнае абыходжаньне са зброяю. Магчыма, хворы на галаву “баец”, а ў дадатак яшчэ і п’яны, дагуляўся з гранатаю. Але гэта афіцыйная вэрсія...



**СНАРСКАЯ (Дзідык) Іна** — нарадзілася ў горадзе Полацку ў 1965 годзе. Скончыла будаўнічы факультэт Наваполацкага політэхнічнага інстытуту і філялягічны факультэт Палтаўскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту.

З 1987 году жыве ў Палтаве. Працуе рэдактарам тэлебачаньня Палтаўскай абласной дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі “Лтава”. Аўтар і рэжысэр каля 100 дакумэнтальных фільмаў і тэлевізійных перадач. Сяброўка Саюзаў пісьменьнікаў Беларусі і Ўкраіны, Нацыянальнага Саюзу журналістаў і Саюзу кінематаграфістаў Украіны. Ляўрэат літаратурна-мастацкай прэміі імя Васіля Сіманенкі. Аўтар шматлікіх публікацыяў у пэрыядычнай прэсе Беларусі і Ўкраіны, пяці паэтычных зборнікаў: “Пацеркі” (1994), “Пачакай, мая птушка” (1998), “Лясная панна” (2001), “Кветка гарынь” (2005), “Дві землі — дві долі” (2006). Вершы Іны Снарскай перакладаліся ўкраінскаю, румынскаю, ангельскаю мовамі.

Іна Снарская — сяброўка Вялікай Рады ЗБС “Бацькаўшчына”, кіраўнік культурна-асьветнага аб’яднаньня беларусаў Палтавы “Агніца”.

# “А птушкі прыдумалі вершы...”

## Музыка

*“Тады чужое робіцца сваім...”*
***(Л. Дранько-Майсюк)***

Калі чужое робіцца сваім,
Ты мне зайграй, зайграй на акарыне,
Бо я, сваячка вешчага Скарыны,
Жыву далёка ад сваёй зямлі.

Я палячу на поўнач. Зарапад —
Заручнік хрызантэмавых мэлёдый.
Зайграй на акарыне, любы брат,
І можа, сэрца хрызантэму ўродзіць.

Лячу да Полацку, ён мой Ерусалім
І адчуваю: кветка прарастае.
Тады чужое робіцца сваім.
Іграе акарына. Сьпіць Палтава.

* * *

Жаржыны, маргарыткі і ляўкоі
Пад сьнегам засынаюць агнявым,
А прачынаюцца ізноў на волі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

Танцуй, жыцьцё,
          да попелу, да болю,
Да спазму ў горле, вогнішча ў грудзях!
Сябе мы безнадзейнасьцю няволім,
Няверай беспрытульных і бадзяг.

І кожны дзень, і кожны год паволі
Сівеем, мітусімся – дагарым...
А недзе хутка ажывуць ляўкоі
Пад подыхам турботлівым Тваім.

* * *

Гэты дзень – сьпелы, як яблык,
Далоў трывогу, віват спакой!
На сьнезе танцуюць анёлы радасьці,
Бачу іх у вакно.

Хто сказаў, што людзі ня ўмеюць лётаць?
Я адваротнае дакажу,
Надзену на шыю каралі з лотаці,
Ступлю на мяжу.

Гэты дзень – крышталёвая звонкая ваза,
Мне анёлак падасьць руку,
І неба роднае для адважных
Пацалуе шчаку.

* * *

Што не заб'е, то зробіць нас мацнейшымі...
І выйдзе воўк сьнягоў хадой адважнай,
Ён, князь лясоў, ступіў на сьлед мой першы,
Ён ведае, чаго свабода важыць.

І я ваўку зірнула проста ў вочы,
Пабачыла паходні і капканы,
І зоркі сьпелыя сярод сірочай ночы,
І кінуты у зьвера здраду-камень.

Што не заб’е, то зробіць нас мацнейшымі.
Мы па адной цяпер ішлі сьцяжыне.
Душу сваю я ратавала вершамі,
А воўк сьнягоў застыў кустом ажыны.

## Рэчка

*“Иду сквозь ветви следом за рекою,*
*и стаи веток тянутся за нею...”*
***(Ф. Г. Лорка)***

**1**

Бяжыць мая рака
Да сэрца матылька,
Да кветкі лугавой,
Да вечару з табой.

**2**

А сьцябліна поіць рэчку,
А рака натоліць камень,
Камень сумны майго сэрца,
Ён балючы, нібы памяць.

За вадою, за табою
Пабягу, як небарака.
Кінеш камень на дарозе,
Каб сьвяціўся маёй зоркай.

**3**

Поўня. Вялікае неба
Сьвеціць зарой адчайнай.
Стане ракою глеба,
Ўздыме ільды плячамі.

Зорцы сьвяціць паўночнай,
Радавацца, што жывая.
У крышталёвыя ночвы
Падае ключ ад Рая.

Я ухаплю надзею
Спраўнай сваёй рукою,
І адшукаю дзьверы,
І паплыву ракою...

* * *

Астудзі мае крылы, мама,
Расьсякаюць трывогі неба,
Ападаюць хлябы за намі,
Нібы прывіды яблынь белых.

Ах, якія гарачыя крылы!
На прычале сямі марэй
Я шукала свой бераг мілы
І спакой на зарэ.

* * *

Ратавала, катавала,
Карацеў мой дзень, як поўня.
Зоркі ў кошык я сабрала,
Залатым ён мёдам поўны.

Па сьцяжыне, па сьцябліне
Я ірвалася ў нябёсы,
Толькі любых як пакінуць
На траве сьляпой і босай?

Верце мне, вятры і вербы,
Верце, хуткія сьцяжыны –
Сёньня я цалую неба
Вуснамі лясной ажыны.

## Сьвітанак

Агнявою, агнявою
Мне вадою наталіцца.
Залатою галавою
Падае на шлях мой лісьце.

Усьцілае коўдрай сіняй
Восень сьцежкі, дахі, ганкі
І вадой сваёй жывою
Амывае раны й ранкі.

* * *

Як многа ўжо родных лягло
На поўні тугое крыло.
Плывуць яны хмарамі, дымам,
Гаротным маім успамінам

Па небу глыбокаму,
Песьняй далёкаю,
Сьлязой па шчацэ,
Сьвячой па рацэ.

* * *

*“И горы в тоске по крыльям*
*придумали облака...”*
***(Ф. Г. Лорка)***

А горы прыдумалі птушак,
Бо марылі самі лётаць,
А пушчы птушыныя душы
Да лета сьпялілі ў сотах.

І мёдам душа жывая
Ліецца, бо не замёрзла,
А завіруха сівая
У вербах схавала сьлёзы.

Душа даляціць да сонца,
Вясну сустракаць ёй першай.
А горы прыдумалі птушак,
А птушкі прыдумалі вершы.

## Народзіны

Дарога.
(У сэрцы пяшчоты так многа.)
Сьнягі.
(Аблачыны ля ног ляглі.)
Каліна.
(Дзяўчынку назвалі Інай.)
Нядзеля.
(Сонечная кудзеля.)

## Белыя вершы

Першым успамінаецца белы наліў,
Яблыкі сонечныя майго дзяцінства,
І я – наіўная і нявінная,
І сакавітае сонца ў вільготнай траве.
А яблыкі прасіліся ў падол
Маёй старой сукенкі каляровай,
І рукі пахлі яблычнай зарой.
Той арамат і сёньня сьніцца, сьніцца...

## Вецер

Карагодзіць, карагодзіць,
Песьню сумную выводзіць
Пра абшары і кусты,
Пра дзядоўнік залаты,
А старіўшыся за рэчкай,
Дзе гарыць бяроза сьвечкай,
Падае сваю руку
І цалуе мне шчаку.

* * *

Пахне верасьнем,
        пахне верасьнем,
Жнівень босы сьмяецца з нас,
Хоць ня верыцца,
        ды ня вернецца
Залаціць руку гэты час.

Пахне верасьнем,
        жоўтым верасам,
Павуцінкамі і тугой,
Стануць вершамі
        лету вернымі
Журавіны каханьня майго.

* * *

А сэрца да сэрца бліжэй і бліжэй...
Сьцяжына бяжыць басанож да людзей.
Дзе жэўрала сьвечка, там поўніцца дзень
Крынічнай вадою гаючых надзей.

А сэрцу да сэрца ўсяго толькі крок.
Вясна загаворвае раны, і кроў
Бяжыць апантана па руслах зямлі
І верай натольвае песьні-палі.

А сэрца да сэрца – будзе душа.
Царыца паўднёвая ў госьці прыйшла,
Зара залатая з манэтай ў руцэ...
Цалуй жа мяне, мой каханы, мацней!

## Вясна

Хутка прачнуцца пралескі
І запяюць уголас,
І прыгалубіць лес іх,
Як птушанятак кволых.

Будзе адчайна-пявучай,
Шчырай сурма зямная,
Бо у сьлязе гаючай
Сьвеціцца зорка Раю.

І зацьвітуць пралескі
Там, дзе падалі зоркі...
Сэрца натоліць лес мой
Цудадзейнымі зёлкамі.

* * *

А гулі даўно паснулі,
Дарога была цяжкою.
Абручку тваю вярнулі,
Заплакалі над ракою.

* * *

Цяжка птушцы папяровай
Лётаць у чужой краіне,
Намалюю ёй абновы
Горкай кветачкай палыну.

Перакіну церазь неба
Папяровых тузін птушак,
Засьпяваюць, можа, лепш там,
Загартуюць свае душы.

## Музыкант

Палюбіце мяне, як неба,
Безнадзейна, пяшчотна, шчыра,
Нібы чорны кавалак хлеба,
Нібы белы птушыны вырай.

Палюбіце стамлёныя рукі
І плячэй заінелыя крылы,
Гэты плач вечаровы гаручы,
Гэты ранішні сьмех шчасьлівы.

У руках вашых буду глінай,
У вачах вашых буду сонцам...
Граў музыка на акарыне
Агнявым сваім сэрцам бясконцым.

* * *

Карацела зіма, карацела
І сьвяцілася зьнічкай лампаднай,
Яе белае-белае цела
Сірацела на дрэвах саду.

Ападалі сьнягі лістападам,
Залацелі прагаліны шчыра,
Уяўлялі сябе вадаспадам
Капяжы
і ляцелі ў вырай.

Вырывалася я зь мяцелі,
Вырастала да зоркі сунічнай
І радкі, майго сэрца адценьне,
Наталяла вадою крынічнай.

## Жыцьцё

Стамлёныя рукі, жывая і звонкая гліна...
А неба высока, а сэрца глыбока. Хвіліны
Ляцяць зарападам да сэрца, на самае дно,
І дзень дагарае і п’е залатое віно.

Народзісься з гліны і ў гліну калісьці вярнесься.
А сэрца? А сэрца натоліцца вершам,
І траўнем чаромхавым, верасьнем жоўтагаловым.
А сэрца застанецца босым і шчырым словам.

## Люты

Ходзіць люты неабуты
З торбай зрэбнай на баку,
То вярбінам косы круціць,
То скуголіць, як дзікун.

У такую непагоду
(То завеі, то дажджы)
Ён марнее год ад году,
А хацеў бы доўга жыць.

Цяжка жабраку пад старасьць,
Лютаваць няма ўжо сіл.
Барадой сваёй за хмару
Зачапіўся – і вісіць.

* * *

*“Ішоў Бай па сьцяне,*
*нёс сямёра лапцей...”*
***(Зь дзіцячай калыханкі)***

А ноч прадзе, а Бай ідзе,
Вястун дзіцячай долі,
І гаснуць зьнічкі на вадзе,
І сыч крычыць у полі.

А ноч прадзе, а Бай ідзе...
Ляцяць хвіліны-птушкі,
І вечнасьць сьпіць у барадзе,
Вартуе сны і душы.

І будзе так вякі-шаўкі,
Лапцей усіх ня зносіш.
Ты мне хоць парачку пакінь,
Халоднай будзе восень.

## Дарозе

**1**

Сівее нітка стомленых дарог.
Мне дарагая кожная. Да сэрца
Дарогаю нам дакрануўся Бог,
Ля вогнішча прысеўшы, каб сагрэцца.

Душу сваю ратую, як магу,
Малітвай, вершам, проста добрым словам.
Дарогаю брыду, іду, бягу
І зноў вастру жыцьця свайго аловак.

**2**

Ля ног лягла дарога шчанюком,
Ступні казыча, ў вочы заглядае.
Было заўжды так на рагу вякоў,
На ростанях трывожных небакраю.

Я пабягу па ёй, я палячу
І вылечу душу сваю дарогай.
Свой лепшы верш дарозе прысьвячу
Шчасьлівай і самотнай, доўгай-доўгай.

Усе трывогі зьвяжа пояском,
Усе сумненьні і вузлы разьвяжа.
І ўспомню я гасьцінны, цёплы дом
Багаты Богам, праўдаю сярмяжнай.

Я сяду на драўляны ганак свой,
Як у дзяцінстве, абдыму бабулю...
І паляціць зямля няўлоўнай куляй
Цераз сумёты вечнасьці сівой.

## Пераўтварэньні

Я ўхапіла зь нябёсаў зьнічку
І схавала ў сардэчны кошык,
Ранкам стала зьнічка сінічкай,
Папрасіла зярнятак трошкі.

Накарміла сінічку хлебам,
— Можа, будзеш маёй сястрычкай?
Ды якая птушка бязь неба
І якая бязь бездані зьнічка?

* * *

Мы сустрэнемся ўсе калі-небудзь
На скрыжалях вятроў і дарог,
У далонях сунічнага неба,
На сьвітанку герояў й нябог.

За ракой, за абшарам сусьвету
Чарадзейныя ёсьць астравы,
Там і вечар рыфмуецца зь верай,
Там і сосны — сёстры травы.

Мы сустрэнемся ўсе нечакана
Па крыві, па сумленьню радня...
І рукі не падыме Каін,
І прыйме яго зямля.

## Сьвятой Эўфрасіньні

Дзень самотны, бераг сіні –
Я іду да Эўфрасіньні.
Бераг родны будзіць сілы.
Гэта дар ад Эўфрасіньні.
Мне радзіма ўскаласіла
Сэрца крыжам Эўфрасіньні.

## Сыну

Да радзімы, да радзімы!
Вер мне, мой сынок радзімы.
Ветрам, гронкаю язьміну
Ты знайдзеш свой шлях адзіны.

## Вяртаньне да роднай хаты

І сёньня тут коміны дымныя,
І недзе блукае мой цень.
Дарогі пагоркамі ўздыбленыя
Ужо не чакаюць гасьцей.

Тут сьцежка дзіцячыя крокі
Схавала ў гушчар лебяды,
Ня ўскрыкне сівая сарока,
І воўк не пазнае сьляды.

Пастукаю стрымана ў дзьверы –
Адкруціцца стужкаю час.
Бацькі мае любыя, зь вераю
Прыйшла памаліцца да вас.

Зямля мая родная, чорная,
Душа твая чыстая дзе?
Зь дзядамі стаіць пад іконамі,
І доўжыцца, доўжыцца дзень...

* * *

Рай глыбокі,
Край далёкі,
Родны-родны,
Не свабодны.
Хоць бы зорачку пабачыць
І пасьпець усім аддзячыць.



**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук** (сапр. Сокалаў Сяргей) — нарадзіўся 16.10.1957 году ў вёсцы Астроўшчына Полацкага раёну Віцебскай вобласьці ў сям'і служачых. З 1973 году жыў у Наваполацку. Працаваў сьлесарам на заводзе жалезабетонных вырабаў (1974—1976), на Наваполацкім вытворчым аб'яднаньні "Палімір" (1979). Служыў у Савецкай Арміі (1976—1978). У 1979 годзе паступіў на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а пасьля трох курсаў перавёўся на завочнае аддзяленьне (скончыў у 1985 годзе). Настаўнічаў у сярэдняй школе № 5 Наваполацка (1982—1984, 1985—1988), быў навуковым супрацоўнікам філіялу Літаратурнага музэя Якуба Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўпецкага раёну (1984—1985), загадваў літаратурнай часткай лялечнай трупы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску (1988—1990).

Сябра СП СССР з 1990 году. У друку выступае з 1973 году (наваполацкая газэта "Хімік"). Часта выступае як аўтар і выканаўца сваіх песень.

Зараз жыве ў ЗША ў штаце Нью-Джэрзі.

# Паведамленьні з Інтэрнэту

Яны бываюць трагічныя, сьмешныя, сумныя, трывожныя. Часам яны натхняюць, штурхаюць да рэагаваньня на падзею. Збольшага гэта ня вершы, а менавіта рэагаваньне, а ў дзе-якіх выпадках — проста рыфмоўка пачутага ці прачытанага, калялітаратурныя практыкаваньні, экспромты. Найчасьцей яны ўспыхваюць у сьвядомасьці адразу й адразу ж занатоўваюцца для памяці.

## Выклік

**Выбарчая кампанія 2006**

Глыбока ненавісны! Да цябе
Зьяртаюся я з мэтаю абразіць.
Ты можаш адказаць мне пэрсанальна,
А не з-за сьпінаў СОБРаўскіх.

Давай!
Выходзь на пляц!
Калі яшчэ мужчынам
Застаўся ты ня толькі паміж ног!

Я разумею, цяжка кіраваць,
Як у мазгах шыза і жах у сэрцы.
Але ж народ сыходзіць з поля страху,
Таму і ты
Давай!
Выходзь на пляц!
Ну, дакажы, што здольны ты яшчэ
Ня толькі у гакей гуляць з сабакам.

Вядома мне, што ты невыязны.
Я сам прыеду і на родным полі
Табой угною неўрадлівы грунт,
Хаця наўрад ці нешта там праб'ецца –
Расьліны нашы грэбуюць табой,
Як грэбуюць табой і нашы воды
Таму ты брудны. Гідка!
Ды... выходзь
Выходзь на пляц, сьмярдзючая шкарпэтка,
Хоць раз ды пакажы, што ты герой.

Мае умовы простыя, як штых:
Насельніцтва любоў вазьмі з сабою,
А тую зброю, што не распрадаў
Пакінь на абарону нашых межаў,
Ды здай карону у Дзяржаўны банк,
А зь ёю разам і свае мільярды,
А нож бандыцкі, свой крывавы нож
Трымай у сэйфе, будзе ў ім патрэба:
За кратамі таксама чысьцяць бульбу
І шыбенікаў зь петляў вынімаюць.

Я ж буду мець з сабой народны гнеў...
Мяркую – досыць, для такой размовы,
А зрэшты, больш няма чаго узяць,
Хіба што праўду... Ды яе ня возьмеш
Яна сама прыходзіць і над ёй
Ні ты, ні я ня ўладныя. Ты чуеш?
Ёсьць нешта ў сьвеце, дзе ня ўладны ты –
Ганебны хлус!
Выходзь!
Даўно чакаюць на сьметніку гісторыі цябе
Падзельнікі твае: там Чаўшэску, там Гітлер,
Сталін там і там Пілат, там розная брыда...

Туды чарга ёсьць,
Але цябе прапусьцяць без чаргі
Адно: выходзь!
Я кідаю пальчатку
Табе у твар
І подпіс стаўлю свой
Пад выклікам
Сяржук Сокалаў-Воюш.

* * *

*"Найбуйнейшыя прадпрыемствы Воршы ня маюць грошай, каб разьлічыцца з працаўнікамі. Заробак сталі выдаваць... кансэрвамі"*.

Казлу за працу выдалі капустай.
Каза, такою навіной натхнёная,
Парадзіла Казлу:
— Сячы зялёныя!
І ён насек, і нават досыць густа
Тых... качаноў...
Аж надарваў вантробак,
Пакуль дахаты прывалок заробак,
І тут жа сам скапусьціўся — сканаў,
Відаць, нячысьцік кішкі завінаў
Яму пры гэткай ежы...
Ды пасьпеў, раней чым затуманіліся вочы,
Сказаць Казе:
— Пакуль заробак сьвежы,
У банк яго нясі...
І вось у жальбе крочыць
Каза у банк з капустай на гарбе
Нішто сабе!

Баран-банкір страчае
Яе ў парозе.
Далей не пушчае
І кажа:
— Што ты мне прывалакла!
— Зялёную капусту... ад Казла...
Усё, што ў нас было... Бо меў такую волю
Бядака, перад тым як легчы ў доле...
— І што цяпер? Куды яе? Куды?!
— Ну, як — куды? Вядома ж, на рахунак.
Пакуль надыйдуць хала-галады
Хачу дастаць працэнт у падарунак
Для нашых казьлянятак на Каляды,
Ня трэ капусту класьці у шуфляды

Ці у панчохі... Трэба ў абарот,
Каб атрымаць прыбытак!
— Во народ!
Я сам сяку зялёную капусту!
Але такой дурноты, не маню,
Яшчэ ня бачыў! Гэта ўпершыню.
— Дык што ж рабіць? — Каза зайшлася ў плачы.
— Шый торбы! Ды выходзь на шлях жабрачы
А жабра-банк прыбытак прынясе... —
І лясь дзьвярыма. Зачыніўся значыць...

Мараль: каб век задарма не майначыць
Нясіце ў банк ня толькі рубялі,
А ўсё, што як заробак вам далі
Ды толькі не забудзьцеся пры гэтым
Свае правы даводзіць... пісталетам,
Такая тактыка. Дазволіць вам яна
Узяць працэнт і з тушы барана.

## Касіце!

*На шматлікіх інтэрнэт-старонках у камэнтарах да сытуацыі зь незаконным гвалтоўным захопам Франака Вячоркі і прымусам яго служыць у войску зьявіліся меркаваньні, што Франак косіць ад службы. Ягоны бацька, Вінцук Вячорка, сказаў, што Франак "ня косіць".*

Шкада, што ня косіце! Трэба касіць!
Бо, што б ні было, але веру
Ня трэба Касцоў ні хапаць, ні прасіць
Прыйсьці у шыхты Касінераў.

Ды, зрэшты, і хворыя ў тыя шыхты
Пастануць на покліч сумленьня,
Паўстануць і выйдуць з чужынцам на ты,
І вораг ня ўстане з каленяў.

А ў небе у зорныя косы Касцы
Мянташкамі зорнымі звоняць,
Узорнае войска, хлапцы-малайцы,
Рысуе пад зорнай Пагоняй.

І пырскаюць зьнічкі з-пад тых капытоў,
І валяцца ў чорныя дзюры
Усе, хто зь мэнтальнасьцю змрочных кратоў
Ідзе проці вольнай натуры.

Галяктыкі нам салютуюць наўсьцяж
Грымотным зьяўленьнем звышновых...
Касіць або не? Супакойся, разваж,
Куды і на што ты гатовы.

Ёсьць вольнае месца спаміж ваяроў
Ня ў форумах-чатах, ня ў хатах...
І варта касіць, каб бунтоўная кроў
Палала паходняй адплаты.

Мы выйдзем! І гэта адзіны наш лёс
І чыстымі стануцца росы.
Касіце заўзята, кладзіце ў пракос
Усё, што падлеглае ўкосу.

* * *

*Апошнім часам сярод людзей, імёны якіх фігуруюць у апазыцыйным дыскурсе, усё больш настойліва прапагандуюцца ідэі такога кшталту: "трэба размаўляць з рэжымам, дапамагаць яму атрымліваць крэдыты ад Захаду, а інача...*
*– "...рэжым здасьць сувэрэнітэт Беларусі",*
*– "... нашы суграмадзяне пацерпяць ад эканамічнага крызысу",*
*– "... нашы людзі не зразумеюць апазыцыю" – і г. д., і да т. п.*
*Гэта значыць, падобнага кшталту палітыкі прапануюць РАТАВАЦЬ... не, не сувэрэнітэт краіны, не інтарэсы нашых грамадзян, а існы РЭЖЫМ.*

***Лявон Баршчэўскі "Ці трэба ратаваць рэжым"?***

Кроў змываюць, сашкрабаюць дворнікі,
Чарадзеяць лекары над ранамі,
Ды маўчаць абачліва пакорнікі
Са сваімі прынцыпамі с.... (таннымі).

Сьпіць балота, крызысам накрытае,
Цёпла! Мякка! Ні жыцьця, ні прожыці?
"Вот січас аткрою вам карыта я,
Ну а вы за эта мне паможаце.

Сахранім страну! Ана жэ глаўнае!
Ну і трон... для мальчыка... для Коленькі".
І шыбуе войска ўчора слаўнае
Ратаваць рэжым дахлява-кволенькі.

Зьбілі сына? І дачка за кратамі?
Ну, нічога... Можа як уладзіцца...
Мы даруем... Мы ж, б.. (ды), дэмакратамі
Застанемся... Толькі б нам прыўладзіцца.

Продкі вунь хадзілі каліноўцамі,
Ну і што? Адны крыжы магільныя...
Лепш былі б змагарнымі прамоўцамі –
Мыла – сіла з бурбалкамі мыльнымі.

Маці ў дзевяноста і над градамі?
Бацька гоніць? Не стае на крамную?
Перацерпім... Выручым парадамі –
Ажывім краіну перад'ямную.

Бо ўпадзе і... што як не падымецца?
Хто адкажа, выцягне, заступіцца...
І пагляд туманіцца і дыміцца,
І змагарны меч іржэе-тупіцца...

Рэпрэсуюць? Гэта ж норма пільнасьці!
Час ужо было б і прызвычаіцца...
Пад пятой дэбільнасьці-стабільнасьці
Так жывем, што боязна адчаяцца.

Вунь... у іншых, нарката з тэрактамі,
Там... у іншых, пошасьці, няўтуліцы...
А ў нас, каб шчасьці сталі фактамі,
Мангалоры патрулююць вуліцы.

І ва ўладу шчэмяцца пакорнікі
Хоць пішчом, ды тэмпамі тараннымі...
Кроў змываюць, сашкрабаюць дворнікі,
Чарадзеяць лекары над ранамі.

* * *

*"Геральдический совет при президенте РБ: В основе орнамента официального флага лежит бивень мамонта".*[1]

Агідны рэжымчык і курвін, і лярвін.
А колісь быў край "не разьбіць, не стрымаць"...
Даруйце, што вашага прашчура, Дарвін,
Наважыўся я з пастамэнту здымаць.

Тут думкі ў нябёсы, ды сьпіны гарбінай,
Тут жлукцяць і сёрбаюць бруд, не на глык,
Бо тут пітэкантрап кіруе дубінай
На сьцяг уздымаючы мамантаў клык!

О, як перад бурай віруе зацішша!
У нетрах крыяласьці б'ецца сваё,
І праўда ад сэрца гісторыю піша,
І з ролаў ізноўку мы мечы куём.

Хай сёньня нябачна, хай сёньня таемна,
Хай яскай маленькай у глыбях вачэй:
"Каго?" "Беларусь!" "Беларусь? – То ўзаемна!"
І пальцы чаронку вітаюць ямчэй.

А маманта шкода... Бязьвінны ды вінны...
Нібыта аджыў, ды ня выйшаў у тлен:
Дыктатара глузд у сваіх падвалінах,
Што значыць: з паходжаньня – мамантаў член...

---

[1] "Геральдычная рада пры прэзыдэнце РБ: У падвалінах арнамэнту афіцыйнага сьцяга ляжыць клык маманта".

* * *

*"Абсалютно здаровых людзей ваабшчэ-та очэнь мала"*
*(**Вітольд Жарын**, начальнік мэдыцынскай часткі ў Галоўным вайсковым клінічным мэдычным цэнтры Ўзброеных сілаў РБ.)*.

"Абсалютно здаровых... ваабшчэ-та... мала"...
І гэта было відаць няўзброеным
Каптурык блазна, твар канавала
І думае часткай загемароенай...

## Памяці Веры Рыч

Зіма ў зіму... Завея белапенная,
Тужлівы сьпеў, саян і тлень нятленная,
За хмарамі сьцюдзёны сьвет... праменны...

Мы адыходзім... Лёгіка каменная:
Маўляў, няма такіх, каб незаменныя.
Але як часта ім няма замены...

* * *

Пераносяць Багдановіча
Хто яго не пераносіць
Калі іх не прапаносіць
Дык зацягнуць на "Ждановічы"
Прададуць – не пасаромяцца

Пашыкуюць на барышнае
Хто там гучна ў хату ломіцца?
Б'ецца попел? – Мы прывышныя.

* * *

Хатыні, Гернікі, Хірасімы,
І так заўсёды, з часоў Адама...
Зносяць помнік Максіму
Ныбыта помнік Садаму.
Нібы Бабілёнскую вежу...
Дай ім волю – зьнясуць і Белую
Як зьнесьлі Айчыну да сёньняшніх межаў
Уладай напітыя й асавелыя...

“О, мы не такое ешчо маглі бы!
Зьдзесь будзет чыста! Не нада бруду!”
І дынаміт закладаюць талібы
Пад статую Буды нібы пад Буду...
“Не на-а-ада! Пакіньце ярлык вандалаў...
Мы, гасударства, імеем права!”
І рве ўсё, што з “цветных металлов”
Падзельнікаў іхных натоўп-арава.

Чым жа пакрыўдзіў ты іх, Максіме?
Як зачапіў з прамінулых лецьцяў?
Угледзеў у дыме нябёснай сіні
Нібыта вершнікаў у дасьвецьці...

Кожнай уладзе прарок як костка
Ты ж напрарочыў і б'юць у сэрцы...
Вось чаму з табою так жорстка...
Вось чаму па вышэйшай мерцы...
Вось чаму кроў нашчадкаў духовых
Барвяніць пляцаў напятыя сьпіны,
Вось чаму плязгае зброяй ахова
Вось чаму плюзгае ўлада сьлінай.

І плешчуць у ладкі рылам засьліненым
І плодзяцца плоймамі далей-болей
Пустога месца здані-сымболі
Дзяржынскія, леніны ды калініны...

* * *

*Беларуская міліцыя вырашыла прыдумаць уласны гімн і прэзэнтавала грамадзкасьці тры варыянты. Спадзеючыся на падтрымку той самай грамадзкасьці, прэзэнтую беларускай міліцыі чацьверты варыянт.*

Мы служым Беларусі – гэта гонар і давер.
Працоўны арсэнал наш ад зброі да спагады,
Крэдыт народнай веры нам далі не напавер
І не для нас таму злачынныя загады.

**Рэфрэн:** Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Законапаслухмяным,
Адважным, годным, сьмелым.
Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Пад родным, палымяным,
Пад бел-чырвона-белым...

Адпачываюць мірна і дручкі, і кайданкі,
Усё у Беларусі народна і законна.
Агеньчыкі надзеі – на машынах маячкі –
Калі ў каго бяда ці трэба абарона.

**Рэфрэн:** Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Законапаслухмяным,
Адважным, годным, сьмелым.
Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Пад родным, палымяным,
Пад бел-чырвона-белым...

Сабою рызыкуем, каб астатнія маглі
Спакойна жыць і вольна. Ня думаць пра бясьпеку.
Каб быць гаспадарамі Беларускае зямлі
Каб не ізгоем жыць, а праўным чалавекам.

**Рэфрэн:** Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Законапаслухмяным,
Адважным, годным, сьмелым.
Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!
Пад родным, палымяным,
Пад бел-чырвона-белым...

* * *

*“Я не дурак”*
***(А. Лукашэнка)***

Ёсьць “так народ” і “мой народ”.
“Не нада путаць”, злашчы[1]:
“Я не дурак! Я – ідзіот,
І самый настаяшчый!”

---

[1]Злашчы – тым больш (Насовіч, Гарэцкі).

* * *

Любоў да Радзімы – душы award
Унівэрсал. Ня унікум...
На жаль, ня кожны табачнік можа
Вырасьці да Цюцюньніка.

* * *

Як ідэальна ўсё! Амаль ідыльна!
Прыйшоў Янук загіблых прывітаць
Яшчэ жывы... а ўжо вянок магільны
Стараецца яго захамутаць.

* * *

Калі глядзець не павярхова,
Якая можа быць ахова
Так на абразу у этэры
Адказ дае рука Бандэры.

* * *

*“Караул! Паэта адбірае “хлеб” у графамана!!!”*

А для паэзіі гурманна
Украсьці хлеб у графамана.



**ТАРАНОВІЧ Алесь**, друкуецца пад псэўданімам Алесь Эроціч. Нарадзіўся ў Менску. Там жа скончыў акадэмію мастацтваў. Да перабудовы быў мастаком-нонканфармістам, арганізатарам кватэрных выставаў. Працаваў мастацтвазнаўцам, старэйшым экспэртам БФК. Арганізатар шматлікіх выставаў мастакоў у Беларусі і за яе межамі, стварыў мастацкую суполку “Галіна”, галерэю “6-я лінія”, тэатар “Steel orgasm”, зь якім гастраляваў па Беларусі і за мяжой.

З 1998 году — сябра БАЖ, як журналіст і мастацтвазнаўца друкаваўся амаль ва ўсіх менскіх газэтах і часапісах, найбольш у “Мастацтве”. Як пісьменьнік — у газэце “Двое” (эротыка), ARCHE, “Всемирная литература”.

У 1998 годзе пераехаў у Бэрлін. Працуе як мастак. Сябра трох бэрлінскіх літаратурных клюбаў. Друкуецца ў розных бэрлінскіх часапісах і альманахах.

Арганізаваў у 2001 годзе ў Бэрліне выставу “ДахІ”, у якой узяў удзел 31 беларускі мастак з розных краінаў Эўропы. У 2005 годзе надрукаваў кнігу “Песня Эмігранта”.

Тэмы: Нямеччына, Бэрлін, немцы, эмігранты, вайна.

Стыль: мэтафарычны рэалізм, наўмыснае выкарыстаньне вялікай колькасьці мэтафар і мэтабал, якія ствараюць своеасаблівую рамантычную аўру апавяданьня.

# Плывец

Што гэта было за лета!

Чэрвень прынёс тры падзеі.

Сьпякоту, ад якой плавіўся асфальт, гурбы тополевага пуху і чэмпіянат сьвету па футболе. Акіян сьпякоты абмываў горад. Сьпёка ляжала на ім, як распалены пятак на далоні.

Цені ціснуліся да цокаляў дамоў і баяліся высунуцца са скляпоў.

Мужчынская частка Нямеччыны, якая пакутуе на душэўную пустэчу, перастала прачэсваць галёркі фотапамыяў у інтэрнэце, зьлезла з порнасайтаў, села на стадыёнах і да экранаў тэлевізараў. Гэта кранула нават жыхароў Кройцбэргу. Званок празьвінеў і для іх. Пара было вылучыцца са змрочнай канкісты андэграўнду на сьвет божы. Для іх, на Marianen Platz, месцы першамайскіх баёў з паліцыяй, быў збудаваны свой Olimpia Stadion.

А Бэрлін, які нагадвае расхінутую ракавіну, прыймаў плыні турыстаў, нібы тут чакалася бітва народаў. Ён быў нашпігаваны імі пад завязку, як мэксіканская піца гароднінай. Барадатыя шатлянцы ў клецістых спадніцах – упэўненая павольная мужчынская сіла. Ім насустрач – кагорты нямецкіх фанатаў з трохкаляровымі іракезамі, размаляванымі тварамі і таксама ў спадніцах з нацыянальных сьцягоў. Насустрач радасным бялявым бэрлінскім дзяўчынкам з тварамі валагодзкіх сялянак і з трыкалёрчыкамі на шчочках і голенькіх плечыках – гарачыя міжземнаморскія брунэткі, зь целамі, быццам выкрадзенымі з фрэсак Пампеі.

Вуліцы Кройцберга затапілі смаляныя галавешкі турэцкіх хлапчукоў у беласьнежных саколках з надпісам “Deutschland”. Насілася чарада чорных кабрыялетаў з палыхаючымі вогнішчамі нямецкіх сьцягоў.

Што гэта было за лета!

Градусьнік прымусіў людзей зьняць нават саколкі.

Ён пагрузіў іх у расол гарачага марыва з сонца, пуху, колераў і сьцягоў. Рэкі сьцягоў, моры, акіяны. Турэцкія і арабскія дзеці размахвалі самаробнымі, размаляванымі ад рукі нямецкімі сьцяжкамі. Нават “шызік” Вілі, які сядзеў пры любым надвор’і на раздарожжы ў Prinzenstrasse ў шлеме на трохколавым ровары, і той трымаў сьцяжок...

Бумэрангам скакалі пачуцьці. Калі гулялі немцы, стадыёны захлёбваліся ў параксызьме пачуцьцяў і заходзіліся ў аргазьме. Вакол Olimpia Stadion круціліся завеі таполевага пуху, пакідаючы пад сьценамі гурбы. Сам стадыён зьнемагаў пад прэсам гарачага і шчыльнага, як шкло, паветра...

Усе “хварэлі” за немцаў.

І немцы выйгравалі, выйгравалі, выйгравалі...

Падчас гэтых перамог буянства моладзі на Fannmiele ня мела мяжы. У горадзе ішла такая страляніна, нібы расейцы ў чацьвёрты раз намерваліся ўзяць Бэрлін. У газэтах круціліся фантасмагорыі пад назовам Weltmanschaft.

Што гэта было за лета!

З вуграмі і судакамі не шанцавала.

Раніцаю, калі сонца, высоўваючыся з-за кромкі плятанаў, захрасала ў глейкай смузе, я ішоў правяраць пакінутыя на ноч донныя вуды. Рака парыла, зьберагаючы ў сабе астанкі перапужанай паліцэйскаю сірэнаю цішыні. Штораз я браўся з трапятаньнем за лёску, каб адчуць пругкія штуршкі рыбы, і штораз атрымоўваў расчараваньне. У лепшым выпадку прынада або была сарваная, або былі абарваныя павадкі. Я ставіў таўсьцейшыя лёскі, і іх абрываў невядомы супернік. Заставалася слухаць плёскат рыбы, карміць пражэрлівых качак і лебедзяў ды назіраць, як пяшчота струменіцца скрозь празрыстыя кроны дрэў.

У той дзень неба брала самую высокую сінюю ноту.

Ужо з раніцы таполі спухлі ад гарачага ваціну. Сонца то мядовым падцёкам вісела на сьлізкай сьцяне неба, то іскрылася залатой кропляй на кончыку голкі. Выратаваць мог толькі басэйн. На цяжкай масьляністай вадзе вэлюмам ляжаў пух. Дзіцячымі галасамі крычалі чайкі.

Жанчыны гутарылі, хаваючыся ў цяньку, агаліўшы налітыя грудзі, і ня думаючы аб рэакцыі навакольных. Ды яе і не было. Прызвычаілі.

Насельніцтва басэйна мільгала. Натоўпы разадзьмутых ад піва мужчын, грудзі якіх патрабавалі бюстгалтараў, расьцякаліся па парапэце пазбаўленай

шкілетнага складу масай. Зіхацелі тынэйджары ўсіх нацый. Вось перавітыя вяроўкамі мускулаў бялявыя немцы, асмуглыя эгіпэцкія падлеткі з вачаміаліўкамі, якія нібыта сыйшлі з старажытных фрэсак, туркі з жыватамі, якія калоцяцца халадцом....

Вада належала немкам са сталёвымі целамі. Мэтадычна, кілямэтар за кілямэтрам, яны накручвалі сьпіралі невядомага маратону, мільгацелі стромкія плечы і паўшар'і грудзей. Жыцьцё ішло па сваіх правілах...

Раптам маю ўвагу прыцягнуў дзіўны плывец. Ён плыў павольна, але ўпарта, зь цяжкасьцю рухаючыся наперад. Гроб ён толькі адною рукою, не, гроб і другою, але гэта была ...кукса. Ён плыў на сьпіне. Зваротна – на жываце. Неверагодна!

Я стаў назіраць за ім... Вось ён сыйшоў з дыстанцыі, узьлез на лесьвіцу і, упэўнена варочаючы рукою, выйшаў на бераг. Быў ён немаладым чалавекам, каржакаватым і дужым, як дуб. Прыгледзеўшыся, я заўважыў на ягонай сьпіне вялікі шнар. Гэта, відавочна, была рана вайны...

Надзеўшы халат, ён сеў на складное крэсла. Задумаўся.

Я перамясьціўся бліжэй.

Халат ягоны расхінуўся, агаліўшы магутныя пліты грудных цягліцаў, сьпіна была дужаю, як драўляная калода. Старэчыя плямы на паліраваным чэрапе, месцамі праступаў вожык серабрыстых валасоў. Просты, няхітры, адкрыты твар – ён быў пазбаўлены мімікі. Шчыльна сьціснутыя валявыя вусны былі ўважліва засяроджаныя. Гэта было аблічча застылай статуі.

Я прасачыў за ягоным поглядам. Ён сыходзіў уверх, у кроны дрэваў, якія ўзьляцелі зялёным вадаспадам. Фугі сьвятла гулялі на клявіятуры лісьця. Засохлая цытрына сонца калыхалася ў вышыні. Нашыя вочы сустрэліся. Вугал пераламленьня поглядаў быў дастатковы, каб даручыцца адзін аднаму...

– Хто ты?

– Я жадаю ведаць пра тваё мінулае.

– Навошта табе гэта? Ты жадаеш прачысьціць аўгіевы стайні маёй памяці? Я замкнуў свае ўспаміны на ключ, павесіўшы яго на цьвік гісторыі. Я выкінуўся з уласнай памяці, як наркаман з вакна...

З басэйна выйшла німфа. Іканапіснае аблічча сьпелай і ўпэўненай у сабе прыгажосьці. Звыклым рухам зьняла гумовую шапачку. Плаўную завершанасьць яе фігуры дапоўніў лівень залатых валасоў. Яе суседка, дама з плоскаступнёвасьцю і плоскагрудзьдзем, ускінула зайздросны погляд...

– Прыгожым жанчынам не на карысьць усьведамленьне ўласнай прыгажосьці. Яно накладае на твар нейкі невынішчальна-пахабны адбітак самаўлюбёнасьці.

Ён завесіў шэры смутак усьмешкаю, але не зьмяніў погляд, нібы ня меў сілы адарваць яго ад нябачнай кропкі апоры.

– Ты жадаеш ведаць, ці быў я на вайне, і дзе страціў руку? Гэта жадаюць ведаць усе, хто мае зносіны са мною...

Мне было пятнаццаць. Мы мылі твары ў мігатлівых маладых днях, як у жывой вадзе. Нас атачала рамантычная завіруха словаў, і мы рваліся служыць вялікай Нямеччыне. Фашызм быў мараю аб ідэальным сьвеце, у якім мы жылі б проста як нармалёвыя людзі, але на які ўсе квапіліся. Мы рыхтаваліся абараняць гэты наш ідэальны сьвет, разьвівалі свае целы і дух, каб стаць падобнымі на герояў. Геранчнасьць складалася ў адрачэньні ад сябе ў імя веры і праўды...

Ён паганяў жаўлакі на скулах.

– Гітлер перанёс статую Перамогі ад Райхстагу ў Тыргартэн, і мы не заўважылі, што Нямеччына стала шалёна круціцца вакол яе, як цыркулярная піла. І мы хаатычна круціліся вакол сваёй восі. Вайна пазбаўляе ад неабходнасьці думаць. Калі ён гаварыў: “Мне не патрэбныя вашыя розумы і сэрцы, мне патрэбная вашая маладосьць, – мы былі ў захапленьні, – Вы сталі тым, хто ёсьць, дзякуючы мне!” – мы радаваліся, мэта была вышэйшаю за нас, і мы цягнуліся да яе, мы плылі па плыні ракі...

Дрэсіраваны час ішоў у нагу з намі. А мы адварочваліся ад невыноснага погляду праўды. Усё было шыта белымі ніткамі: вайна і сьвет, каханьне і нянавісьць, чыньнік і сьледзтва...

Мы не пасьпелі прачнуцца ад выдатнага сну дзяцінства, як нас прапусьціла праз сябе горкая ісьціна. У руках была зброя, а загад пазбаўляў ад неабходнасьці думаць... Ахоўная грамата дзяцінства парвалася... Прыйшоў 45-ы год. Мяне паклікалі ў “гітлерюгенд”.

Апавядальнік замоўк.

Я паглядзеў яму ў твар, ён быў, як студня бяз дна, у яго можна было зваліцца каменем. Павольна цёк час, завіхраючыся і ўтвараючы віры.

– Бітва за Бэрлін пашыралася. Гром “сталінскіх арганаў” ператварыўся ў аркестар, інструмэнты якога зьляталі з арбітаў сваіх гучаньняў.

Бездань бушавала над горадам. Ішоў шосты год вайны, шосты год бамбаваньняў Бэрліну. Сьвет падарваўся, і абломкі ўляглiся ў нейкім новым, пачварным парадку. Да гэтага прывыклі, і гэта было самым страшным. Людзі не маглі сабе ўявіць, як пражыць яшчэ адзін дзень, вайна падавалася бясконцаю...

Бэрлінцы сталі ценямі, якія сьлізгаюць па вузкім карнізе жыцьця. Яны, як статысты, прысутнічалі на карнавале заблытаных лёсаў, пакінутай Богам краіны.

Страх сьмерці ўвайшоў ва ўжытак, да яго прывыклі. Людзі навучыліся жыць у згусьцелай вакол сьмерці, без учора і заўтра. Памерці было лёгка, цяжка застацца жыць.

Людзі глядзелі ў ноч доўгім поглядам. З вокнаў не было відаць нічога, акрамя завірухі, а ў ацалелых асколках шкла адлюстроўваліся прышпіленыя да сьвінцовага неба анёлы з жахам на застылых тварах...

Жах прыліпаў да людзкой сьвядомасьці, як бруд да колаў.

Проза жыцьця загнала паэзію ў кут і намотвала яе кішкі на кулак. Мне падавалася – усе разумеюць, што адбываецца, акрамя мяне. Мая душа была маленькай і цеснай, у ёй не магло разьмясьціцца ніякае чалавечае пачуцьцё, усярэдзіне быў туман, навонкі туман, на зубах – тоўчанае шкло...

Ён раптам змоўк. Мабыць, нахлынула шмат словаў і пачуцьцяў. Нібы хтосьці магутнаю рукою выціснуў ягоны мозаг і мэтафары зь яго білі струмянём. Ён перайшоў на жэстыкуляцыю, плаўную і размашыстую, як у сьвятара. Ягоная прамова стала падавацца гульнёй гукаў, якія імкнуцца выцесьніць зь сябе небясьпечную музыку.

– Мы, хлопцы з “гітлерюгенд”, не жадалі паміраць. Але эсэсаўцы з розных краінаў, французы, галяндцы, датчане, нарвэжцы, латышы і эстонцы, сабраліся тут, каб сустрэць сваю сьмерць. Расейцы атакавалі, мы ішлі ў контратакі. Птушкі пераймалі сьвіст куляў, а кулі – сьпевы птушак...

Мы ішлі пад дажджом зь серы, агню і сталі. Ішлі паблізу трамвайных рэйкаў, выгнутых, як хвалі бушуючага мора, паблізу стогадовых, зрэзаных снарадамі ліпаў.

Маладыя жыцьці сыходзілі рачулкамі ў пясок.

Бог адводзіў погляд ад грэшнікаў, якія хапаліся за вербавыя кусты ў гэтым бурным струмені. Вецер зьдзімаў пераплеценыя лініі жыцьця і лёсы з далоняў, зьдзімаў за край, за рысу.

Мы ведалі аб паразе. Мы жадалі быць годнымі гэтай паразы, свайго жахлівага зроку, сваёй крыві, якая памірае. Мы прыймалі паразу, але мы шукалі надзею, як шукаюць яе шахтары ў заваленай шахце, якія працягваюць у поўнай цемры працаваць рыдлёўкамі і сарванымі ў кроў пазногцямі. Людзі, якія пачыналі бачыць на зваротным баку залітых цемраю павекаў, шукалі выхаду з тунэлю.

Хвіліны, гадзіны, дні цяклі ў нікуды. Насамрэч яны зрываліся ў прорву. Я адчуваў, што ў паветры ідзе буйнае насьпяваньне катастрофы...

У той дзень агонь расейцаў быў асабліва моцны. Разрывы іхных снарадаў скаланалі ўсё вакол. Я намацаў у кішэні мэдальён, які дала мне маці. Я захоўваў яго, як талісман, верыў, што ён абароніць мяне. Нэрвы былі напружаныя. Маё перакананьне нагадвала пакінуты ў штармавым моры човен. Падавалася, вось-вось затрашчыць і разваліцца.

Раптоўная ўспышка, грукат... што гэта? Ня стала чуваць залпаў, выбухаў, крыкаў. Запанавала цішыня...

Хтосьці стаіць, як у тумане, зіхаціць белым...

Спроба ўстаць ні да чаго не прывяла, відаць, кантузія... вушы быццам заткнутыя чымсьці. Сьвет стаў бязгучны... І раптам я ўбачыў маці, старэйшую сястру, – яны стаялі трохі наводдаль, працягвалі да мяне рукі, нібы спрабавалі выцягнуць з-пад абломкаў...

Позна, занадта позна...

Я адчуваў сябе мурашкаю, прыціснутаю небам. Рот забіты зямлёю, агнём пячэ руку.

Можа, я сплю, і гэта жахлівы сон? Можа мяне катуюць раскаленым жалезам? Бо толькі ў сьне так бывае – жадаеш паварушыцца і ня можаш, няма сілаў паклікаць на дапамогу, а галоўнае – няма каго. Адчуваеш, што дзесьці побач ёсьць людзі, але нікога не турбуе твой лёс. Як страшна быць сьляпым, глухім і нямым адначасова.

Раптам цемру прарэзала сьвятло, данёсься глухі гук. Ад яркага сьвятла забалелі вочы. Хацелася стукнуць кулаком па тонкай перагародцы, якая аддзяляе явы ад небыцьця, цемру ад сьвятла. Але цела працягвала заставацца сьвінцовым. Я бачыў сябе збоку, бачыў усе свае 5300 дзён жыцьця, яны яшчэ дыхалі, лежачы пад абломкамі... падумаў, што зараз гэтае жыцьцё скончыцца. На каго я пакіну маці і сястру, наш сад з вавёркамі і трусамі, музыку Ліста і гэтае зорнае неба... Усё закруцілася ізноў.

– Гэта твой апошні бой, Вольфі!

Абвалілася разам мітусьня. Увесь гэты бурлівы, шумлівы, пульсуючы сьвет, які выбухае, зьнік. Застаўся толькі чалавек у белым, твару не было відаць.

– Хто ты? Анёл? Дэман? Хто ж?

Я ня чуў свайго голасу.

– Хто б ні выйграў гэты бой, ты яго прайграеш!

Гэта быў ня голас. Гэта было гулкае рэха, голасны фанэтычны каркас словаў, усярэдзіне якіх плавала літара духу.

– Але чаму? Бо я нікога не забіваў. Я не парушаў дзесяць запаведзяў! Я ведаў, што сёстры Вагнэр хаваюць на сваім лецішчы ў Нойкёльне падлетка-габрэя, але я ня выдаў іх. Калі обэрлейтэнант Зільбэр загадаў расстраляць старога Фрыца Цандэра з фольксштурму, я ўступіўся за яго, сказаўшы, што ў таго чацьвёра дзяцей.

– Але Зільбэр усё роўна расстраляў яго.

– А што я яшчэ мог зрабіць?

– Усе салдаты – забойцы, хіба ты ня ведаеш аб гэтым?

Сьвятло пачало цямнець, я ўбачыў сьпіну, якая аддаляецца. Фармулёўка апошняй фразы была мне знаёмая, хто гэта сказаў? Фігура мімікравала, пераўтвараючыся то ў салдата,

то ў афіцэра, то ў санітара...

Голас апавядальніка змоўк.

Паўзучы ветрык мякка ткнуўся ў нашыя сьпіны, кроны дрэваў адлюстроўваліся ў небе, лісьце іхняе было лёгкім, як срэбныя эльфы. Дзяўчынкі-купальшчыцы сьлізгалі ў гнуткіх струменях гарачага захаду. Сінія цені леглі на кусты і сталі сачыць за сонцам, выцягваючы доўгія насы...

Мой суразмоўца сыйшоў у сябе, забыўшыся на крэсьле застылае цела і непатрэбны твар, падобны на спусьцелую вітрыну. Жыцьцё, якое стаілася дзесьці ўнутры, нічым не выдавала сваёй прысутнасьці. Раптам я пачуў:

– Цяжка быць анёлам у пекле... Я жадаю вярнуцца туды. У той час. Маё сапраўднае жыцьцё засталося там, дзе мяне забілі. Я так і ня змог па-сапраўднаму прыстасавацца да новага жыцьця. Дагэтуль выразна бачу зыбкія начныя чэргі ў пякарнях, чую бухаючыя галасы зэнітак, людзей, якія насялялі падземныя сховішчы... Я нібы адкрыў скрыню Пандоры, шукаю на што выменяць хоць бы адную хвіліну мінулага. Я змог бы шмат зьмяніць у сваім, павярнуць яго вось.

Жыцьцё чалавека як раман. Ягоны сюжэтны ход не ўзьнікае ніадкуль, ён падрыхтоўваецца тысячамі папярэдніх дробязяў. Я бачыў канец ганебнага пакаленьня, нашая краіна развалілася, таму што была толькі падробкаю пад краіну.

Але я шукаю прычыны няўдачаў у сабе. Апраўданьне – доля няўдачнікаў, самакапаньне заводзіць у багну, і зь ім ідзе багаж абвінавачваньня ў сьмяротных грахах.

Тады мы разумелі, што ў нашым жыцьці адбылася катастрофа. Гэта мы адчувалі. Але мы не разумелі, не маглі зразумець, што гэта ня толькі нашая бяда. Гэта будзе бядою нашых дзяцей і ўнукаў. Яны таксама будуць апраўдвацца і задаваць адны і тыя ж пытаньні...

Пасьля паўзы ён прадоўжыў:

– Усё ў жыцьці чалавека залежыць ад выпадку. Толькі сьмерць ніколі не бывае выпадковаю. Таксама як і нараджэньне. Гэта дзьве сталыя і запраграмаваныя кропкі. Усё астатняе – кароткая адлегласьць паміж імі. Я выпіў сваё жыцьцё, але ня стаў мудрэй. Гады зьмяняюць свае нумары з кулямётнаю хуткасьцю. Прыйшла восень жыцьця. Сыходзяць у нябыт сябры і сваякі, іхныя галасы з кожным годам становяцца ўсё цішэй. Я бачыў, як яны плакалі, назіраючы, як зьмяняюцца іхныя твары і целы. Я ня плакаў ніколі, нават тады, пасьля апэрацыі, убачыўшы, што рукі ў мяне няма...

Ён зноў замоўк.

Я адчуваў, што магутны рух памяці нёс яго, як тапельца, у бяздонны вір, зь якога пакутліва вызваляліся здані. Ягонае мінулае стала фрагмэнтарным, яно разыйшлося па кансэрвавых слоіках гістарычных падзеяў...

Я падняў галаву. Празрыстае кола дня круцілася ўсё павольней скрозь бяздонны ультрамарын, ліпы ўжо рыхтаваліся да сваіх духмяных мэтамарфозаў. Іхныя кроны распавядалі ветру ўсё, што ім прысьнілася за доўгае стагодзьдзе. Сонца сыходзіла, каб сыйсьціся зь цішынёю на зыходзе дня...

Вечар лізнуў нас прахалодаю шурпатага языка.

– Ты ведаеш, што такое гукі цішыні?

Зараз цішыня іншая, а тады яна падавалася цудам. Я аддаў бы ўсё, каб пачуць тую цішыню. Мы не пасьпелі і не маглі да яе прывыкнуць. Падавалася, што хтосьці стаіўся дзесьці побач, каб зноў стралянінаю, выбухамі і сьмерцю разьвеяць і растаптаць асалоду цішыні, адняць гэтую апошнюю надзею... Потым пачаўся зваротны адлік часу. Кожная хвіліна, кожная гадзіна і дзень былі як алмазныя кроплі, якія падаюць травеньскаю раніцаю са стрэхаў...

Ад кожнае пражытае хвіліны зыходзіла зьзяньне, яна была як нявеста. Я ніколі больш не адчуваў такое. Я хадзіў у лес і слухаў ягоны зялёны шум гадзінамі. Я ня ведаў, што ішоў найкаротшым шляхам да Бога. Але па пераламанай лініі. Вайна дапамагла мне знайсьці сябе.

Я – пастар. Я самотны. Але я цалкам асвоіўся ўнутры сваёй адзіноты. Я служу людзям. А зараз бывай!

І ён працягнуў мне руку. Поціск быў цяжкім, як у камандора.

Затым ён дадаў:

– Кожны чалавек рана або позна пройдзе тэст на выпрабаваньне... стане Ёвам...

І раптам:

– Ці зразумеў ты, што я табе... толькі прысьніўся? ...

Так, я зразумеў.

Толькі зараз я зразумеў, чаму ягоная прамова так нагадвала маю...

Што гэта было за лета!

Але і яно скончылася.

Немцы усё-такі прайгралі.

Мы са Стасам злавілі такіх судакоў, што ледзьве змаглі іх данесьці дахаты...

Памяць схавала ўсё лішняе з гэтага лета, але ў ім застаўся чалавек, які плыў, расьсякаючы мутную тоўшчу часу...



**ШАТЫЛОВІЧ Дзьмітры**, паэт. Нарадзіўся 8 лістапада 1926 году у вёсцы Чаромха ў Беластоцкім ваяводзтве ў сялянскай сям'і. У 1939 годзе скончыў шэсьць клясаў польскай пачатковай школы на станцыі Чаромха і пасьля, да чэрвеня 1941-га, вучыўся ў Бельску-Падляскім у сярэдняй школе савецкага тыпу. У час нямецкай акупацыі ў сакавіку 1943 году быў вывезены на прымусовую працу ва Ўсходнюю Прусію пад горад Гайльсбэрг. Пасьля прыходу туды Чырвонай Арміі ў лютым 1945-га быў сілаю ўключаны ў яе рады і накіраваны на фронт. Пад канец лютага быў цяжка паранены ў левы бок і асколкам у брыво левага вока і перавезены ў вайсковы шпіталь ў Зээбургу. Па дэмабілізацыі ў студзені 1946 году вярнуўся з Бабруйску дамоў і паступіў у 4-ю клясу Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляскім, якую закончыў у чэрвені 1946 году. У сувязі з тым, што польскія ўлады ў жніўні 1946-га ліквідавалі Беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім, здаў іспыты ў польскі ліцэй імя Тадэвуша Касьцюшкі ў Бельску-Падляскім, які скончыў у чэрвені 1948-га і быў накіраваны Міністэрствам асьветы ў Варшаве ў Ленінградзкі электратэхнічны інстытут, які закончыў у сьнежні 1953 году, атрымаўшы ў Польшчы дыплём магістра інжынэра электрыка аўтаматыка. Ад сакавіка 1954 году пачаў працаваць у праектным бюро ў Варшаве, дзе праектаваў многія цеплавыя электрастанцыі і ў Польшчы, і за мяжою. Быў паўгода на аўтарскім наглядзе ў Тузьлі ў Югаславіі і амаль тры гады ў Індыі ў Бакара.

У вольны час працаваў гідам замежных экскурсіяў у польскім турыстычным бюро "Орбіс" і іншых. Беларускія, польскія і расейскія вершы пачаў пісаць у 1940-м, а друкавацца пад канец 1957-га на старонках штотыднёвіка "Ніва", затым у літаратурных альманахах, "Беларускіх календарах". Сябар Саюзу польскіх літаратараў і ганаровы — Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Узнагароджаны Крыжам Кавалерскім Ордэна Адраджэньня Польшчы, Срэбраным Крыжам Заслугі і іншымі мэдалямі.

Дзьмітры Шатыловіч аўтар паэтычных зборнікаў: "Эцюды падарожжа", "Маё Падляшша", "Хвалі часу", "Вясёлка над імглою", "Струмені лёсу", "Асеньнія промні", "Гронкі надзеі", "Ліхтар уражаньняў", "Подыхі хвілін" і ў перакладзе на польскую мову "Rezonanse pamieci".

Усе ягоныя зборнікі можна знайсьці ў інтэрнэце па адрасу: http://kamunikat.org/dymitr szatylowicz.html.

# ВЕРШЫ

## Беларусь

Ты ў няволі суседзкай жыла гадоў сотні,
Твой народ прымушалі зьмяняць сваю веру,
Ён змагаўся з усімі ў той час, як самотнік,
Апусьціла эліта яго для кар'еры.
Адракліся баяры ад родных карэньняў,
Адыйшоўшы ад сьвят, ад традыцый і мовы,
Перайшлі ў лягер ворага ўсе без сумленьня,
І народ свой пакінулі жыць без аховы.
Прыгняталі яго ўсё мацней разам з ворагам,
І змушалі яго стаць хутчэй уніятамі,
Заплаціў твой народ за адпор вельмі дорага,
У вайне зь езуітамі злымі, заўзятымі.
Па загонах тваіх ішлі орды татараў,
Спусташалі цябе і палякі, і швэды,
І палкі з-за Масквы набягалі, як хмары
На твае гарады і прыносілі беды.
Як заставіў цябе прыгнятальнік заходні,
У той час, як цябе праглынуць ён стараўся,
Захапіў твой народ узурпатар усходні,
Быццам братам тваім быў заўжды, ён прызнаўся.
Хутка ён паказаў, што такое ёсьць брацтва,
Ён прымусіў маліцца за царскую ўладу,
У краіне засыпаў сьляды уніяцтва,
Супакоіў паўстаньні гармат кананадай.
З-за яго і французы прайшлі ўсю краіну,
Па сабе пакідаючы сьмерць і пажары.
Як па іх зарасьлі ўжо травой каляіны,
Загудзелі нямецкія ў полі фанфары.
І ў дваццатым вось веку ў васямнаццатым годзе
У часы завірух і шалеючых войнаў
Паявілася раптам надзея ў народзе,
Што атрымае хутка сваю самастойнасьць.
Аб'явіла яе беларуская ўлада,
Што, як фенікс, паўстала ў нямецкай няволі,
Ды зусім незалежна, без чужога загаду,
Пачала сваю дзейнасьць энэргічна даволі.
Ды твае два суседзі яе разагналі,
Між сабой разьдзялілі трактатам краіну,

Твой народ зноў яны ў кайданы закавалі,
І змушалі яго, каб забыў пра Айчыну.
Адбіралі ў яго чалавечую годнасьць,
Бессаромна бурылі усе яго школы,
Разьбіралі і нішчылі цэрквы, народнасьць,
Да радзімы любоў называлі крамолай.
Камуністы сумесна з фашыстамі ў згодзе
Падзялілі ўсе землі суседняй дзяржавы,
Захапіў зноў цябе ўсю сусед твой на ўсходзе,
Для народу твайго стаўшы катам крывавым.
Патрыётаў тваіх у тайгу высылалі,
Ці расстрэльвалі іх у турме, ў казематах,
Багацейшых сялян у Сыбір выганялі,
І народ твой трымалі ў няволі, у кратах.
Хутка лопнула дружба тваіх супастатаў,
Загрымелі на захадзе зноў бліскавіцы,
Вераломна нямецкі захопнік заўзяты
Перайшоў нечакана на ўсходзе граніцы.
Высыпалі з вальля сотні бомб самалёты
На твае гарады, на чыгункі, на храмы,
Потым танкі пайшлі, секлі зь іх кулямёты,
Рой снарадаў гудзеў над тваімі палямі.
Як настаў мірны час, зноў прыйшлі дні нягоды,
Пераможца хацеў твой народ роднай мовы
Адвучыць, каб забыў ён яе назаўсёды,
Каб ня чуў ён, што мае чужыя аковы.
І амаль ён паўвека народ твой няволіў,
І стараўся, каб ён пазабыў сваю славу,
Гістарычныя дзеі і імкненьне да волі,
І каб страціў ахвоту да ўласнай дзяржавы.
Засяліў ён краіну чужынцамі ўсходу,
І стараўся стварыць зь іх чужую ўжо расу,
І з твайго дарагога айчыне народу
Ён зрабіў безыдэйную, ціхую масу.
І калі незалежнасьць прыйшла нечакана,
То народ не нацешыўся доўга свабодай,
Прэзыдэнтам сваім сам ён выбраў тырана,
А тыран не цікавіцца лёсам народу.
Справядлівасьць пры ім там знаходзіцца ў коме,
А свабоду ў турме ён трымае ў кайданах,
І ня хоча аддаць ён улады нікому,
З дапамогай суседа, магутнага “хана”.
Не заўжды для тырана “хан” будзе зычлівы,
І, як чорт, ён пакажа яму біч і рогі,
Паглядзіць на яго з вышыні пагардліва,
І прыцісьне з насьмешкай яго да падлогі.

## Правадыр

Правадыр, як добры дэмагог,
Ашукаў усіх людзей наўкол.
А яны ўсе выбралі яго,
Быць манархам, на сьвяты прастол.

Абяцаў іх вызваліць зь бяды,
Ашуканцаў выгнаць за мяжу,
Ад карупцыі ўсіх збавіць назаўжды,
З прапаганды вычысьціць ілжу.

І наіўныя паверылі ў ману,
А наіўных большасьць у жыцьці.
А калі ўжо ўладу загарнуў,
Нікуды ня хоча адыйсьці.

Хутка ён сабраў прыхільны зброд,
Што яму ўсе служаць, як рабы,
І застрашыў пугаю народ,
Абяцанкі ўсе свае забыў.

Хоць галечай мучыць ён людзей,
Хоць свабоду ўзяў ён у турму,
Ён, плябей, жыве, як багацей,
Як цару, паклоны б’юць яму.

Ён гатовы лёгкаю рукой
Перадаць айчыну чужакам,
Дапускаючы насільле і разбой
На праціўніках сваіх і сьмельчаках.

Родны сьцяг зьмяніў ён на чужы,
І, адкінуўшы спаконны гімн,
Роднай мовай ён не даражыць.
Бо загнаў яе даўно у карантын.

Ён пускае міліцэйскіх псоў
На сьвяткуючых народны дзень,
І на плошчах пралівае кроў
Пераважна маладых людзей.

І дзяржаву ахапіў маразм,
І бяднеюць людзі з кожным днём,
Чутны ў голасе жалобны спазм,
А ён можа шугануць агнём.

Ён стварыў сабе такі закон,
Каб уладу мець адно ў сваіх руках.
Крытыкі не дапускае ён,
Пагражае за яе турма і штраф.

Але ж улада скончыцца яго
І народ асудзіць махляра.
Гістарычнай ганьбы батагом
Пакарае ён правадыра.

## Крывадушнасьць

Разьнёсься гоман аб Ядвабным,
Аб генацыдзе, аб вайне,
Аб помсьце вырадкаў няшчадных
І аб забытай іх віне.

І прабачэньня просяць босы
Нашчадкаў спаленых ахвяр.
Злуюцца сьведкі, быццам восы,
Баяцца паказаць свой твар.

Але ў памінах зь нетраў часу
Не заікнецца ні адзін
Аб катах Рамуальда Райса,
Забойцах дзетак і жанчын.

І не прыпомняць словам грэшным
Яго крывавых важакоў,
Падпальшчыкаў Чыжоў, Залешан,
Збуча, Лазіц, Ягаднік, Шпакоў.

Забойцаў жыхароў тых вёсак,
Сялян, дзяўчат і юнакоў.
І не ўздыхнуць над страшным лёсам
Забітых ПАСам* вазакоў.

Забілі іх у зьверскі спосаб,
Бо праваслаўнымі былі,
Каб жыхароў суседніх вёсак
Прагнаць прэч з роднай іх зямлі.

Каб страхам выгнаць іх за межы,
Аддаць супольнікам палі,
Дамы і пуні, і манежы,
Сады і збожжа на ральлі.

Цяпер бандытам хвалу ўзносяць
І пачалі ім гімны пець,
І паднялі на п'едэсталы
Тых, што несьлі людзям сьмерць.

І на пліце магілы сьціплай,
Дзе сьпяць астанкі фурманоў,
Не дазваляюць для патомных
Аб ПАСе ўспомніць пару слоў.

Ня хочуць, каб іх эпалеты,
Ад слова праўды на пліце,
Зардзелі кроўю ў зрэнках сьвету
Як асьцярога для гасьцей.

Яшчэ саратнікі бандытаў
Знаходзяцца паміж жывых,
Патынаю гадоў прыкрыты,
Ніхто ўжо не асудзіць іх.

---

[1] ПАС – Пагатове Акцыі Спэцыяльнай, кіраўніком якое быў капітан Рамуальд Райс, псэўдонім – Буры. Яны спалілі наступныя вёскі на Беласточчыне: Зані, Ягаднікі, Збуч, Чыжы, Пасечнікі Вялікія, Беразова, Лазіцы, Вулька Выганоўская, Дубічы, Арэшкава і іншыя. Многія жыхары тых вёсак былі забітыя ці спаленыя толькі таму, што былі праваслаўнымі. На сумленьні забойцаў больш чым 500 ахвяраў, простых сялянаў тых вёсак, якія не былі ні сябрамі партыі, ні іншых палітычных арганізацыяў. Сярод забітых і спаленых былі дзеці, дзяўчаты, цяжарныя жанчыны, хворыя і старыя людзі. У вёсцы Лазіцы яны захапілі 49 вазакоў, большасьць якіх у студзені 1946 г. былі забіты ў лесе ля вёскі Старыя Пухалы. Астанкі іх перанесьлі на ваенны магільнік у Бельск-Падляскі, але ўлады доўгі час не дазвалялі паставіць помнік на магіле вазакоў. Верш быў напісаны ў 2001 г. , калі ўлады ў Беластоку не давалі дазволу напісаць на пліце помніка на магіле вазакоў прычыну іхняй сьмерці і назваць прозьвішча іхняга забойцы і нельга было адкрыць помнік.

Верш гэты ўвайшоў у кніжку "Верш на свабоду", выдадзеную Радыё Свабода у Празе ў 2002 г. І толькі 26 кастрычніка 2002 г., калі была атрыманая згода новага ваяводы ў Беластоку, помнік пасьвяціў мітрапаліт Польшчы Сава.

## Яны паверылі

Пасьля гадоў згрызоты і маркоты
У палітычных вычварных аковах,
Пасьля нішчэньня цэркваў і прыгнёту
Ды школ закрытых зь беларускай мовай.
Пясьля злых чутак аб Картуз-Бярозе,
І відаў беспрацоўных на дарогах,
Блукаючых зімою на марозе,
Каб выспацца ў саломе на падлогах.

Пасьля іх безнадзейнага чаканьня
На лепшы лёс, пагоду і ўраджаі,
У роспачы паверылі сяляне,
Што ім нясуць з усходу караваі.
        Што ім дадуць свабоду і дастатак,
        І мову родную ў бясплатных школах,
        Што згіне ім шарварак і падатак,
        Што будуць жыць шчасьліва і вясёла.
І ў нейкіх вёсках ставілі сяляне
Ім прывітальныя пры ўходзе брамы.
Прыйшло аднак, як ноч, расчараваньне,
Як ад тавараў апусьцелі крамы.
        Як паявіліся чэргі ля крамаў,
        Як сталі выганяць людзей да працы.
        Калі наўкол зьмянялі панараму,
        Калі тварылі агітпункт на пляцы.
Калі ля Буга людзям, як магілы,
Капаць казалі дот ці дол глыбокі,
Калі вывозілі сялян насілу
Дзесь у тайгу ці ў Казахстан далёкі.

## Варшава

Калісь на здымках недзе ў кніжках
Варшавы бачыў я фрагмэнты,
Я адчуваў у снах іх блізка,
Як цудны бляск з другога сьвету.
        Калі ў акопах і канавах
        Блукаў нявольнікам я ў катаў
        Я чуў, як гінула Варшава
        Ад бомб, снарадаў і гранатаў.
Калі пабачыў я руіны
Яе будынкаў і палацаў,
Ня знаў, што лёсу каляіны
Між іх мне знойдуць месца працы.
        Мяне ў ёй перасталі страшыць
        Бяз шыб пустыя аканіцы,
        І зь вёскі беднай на Падляшшы
        Я стаўся жыхарам сталіцы.
Як фэнікс, ажыла Варшава,
Цягнула вуліцы, як стужкі,
І праз гады я вельмі жвава
Стварыў гняздо ў ёй, быццам птушка.
        І вылятаю, як на вырай,
        Туды, дзе я правёў дзяцінства,

І ўспамінаю пасажырам
Цяжкое ў маткі мацярынства.
Пабачу там яе магілу,
А на капліцы крыж іржавы.
Адтуль вяртаюся насілу
Сюды, ў сваё гняздо, ў Варшаву.

## Талісман

Цёмнай ноччу ў акопе глыбокім,
Як сядзеў я і слухаў гармат,
Што гудзелі за рэчкай далёка,
Падыйшоў блізка нейкі салдат.
Ён прысеў і, падаўшы мне руку,
Даў мне вузьлік, схаваны ў саф'ян,
І сказаў, што жыцьця ў ім заруку
Падарыў, як малы талісман.
Адыйшоў ён у змрок чорнай ночы,
Я ніколі яго не сустрэў.
Помню голас яго, як жаночы,
І шэпт дзіўны, падобны на сьпеў.
Крыжык быў у чырвоным саф'яне,
Медны крыжык з Ісусам Хрыстом.
З той пары я з маім талісманам
Перажыў бліскавіцы і гром.
Перажыў у ваенным шпіталі
Зь ім лячэньне кантузій і ран,
Зь ім праехаў вялікія далі
Цягнікам, як на возе цыган.
І вярнуўся зь ім з доўгіх блуканьняў,
У свой дом, адкуль выгнаў тыран,
І даехаў са мной у саф'яне
Мой салдацкі малы талісман.
Талісман мой ня быў чарадзеем,
Бо мяне не зьбярог ён ад ран,
Ды даваў мне на фронце надзею,
Што прайду разам зь ім ураган.

## Захапляйся

Забыўшы цярпеньні, якія пражыў
Калісь ты даўно ці нядаўна яшчэ,
Забыўшы ўсё зло, што ты іншым стварыў
У час бурных дзён ці бяссонных начэй,
Выходзіш на сьнежнае поле і луг,
І бачыш, што ў сонцы ўсё зьзяе наўкруг.

Здаецца табе, што папаў ты ў сам рай,
Брыльянты навокал ляжаць на зямлі,
Смарагдам здалёк усьміхаецца гай,
Вясёлкай іскрацца лугі і палі.
А зь белага пуху раскіданых дрэў
Ад ветру анёльскі расходзіцца сьпеў.
А рэчка пад лесам блішчыць, быццам вуж,
У лусцы яе адбіваецца лес,
І сотні пялёсткаў квітнеючых руж
Адпаўшых ад хмарак з бліскучых нябёс.
Гірляндаю колераў луска яе
Так зьзяе, што сьнег навакол растае.
За рэчкай пад лесам на лыжах плыве
Прыгожая пара: дзяўчына, хлапец,
А шапка-букет на яе галаве
У промнях бліскае, як шлюбны вянец.
Упалі наўмысна на лыжах у сьнег,
Відаць пацалункі і звонкі чуць сьмех.
Забудзь тут на сьнезе турботы свае,
І цешся ўсім тым, што тут бачыш наўкол,
І захапляйся ўсім тым, што тваё,
Як сонца з праменьня тут тчэ арэол.
І цешся прыродай, і цешся жыцьцём.
Чароўнай прыгожасьці май пачуцьцё.

## Воўк асіміляцыі

Наш воўк асіміляцыі
Хапае нам дзяцей,
Бярэ для адукацыі
Нам часта ад грудзей.
Мы самі з дапамогаю
Яму ў той час ідзём,
Як зь вёскі жыць з трывогаю
У горад пападзём.
І побач незнаёмыя
Навокал будуць жыць,
І словы невядомыя
Ад іх пачнём зубрыць.
Дзяцей нам будзе сорамна
Вучыць там родных слоў,
Воўк будзе задаволены,
Што мае лёгкі ўлоў.
Бацькі чужою моваю
Гавораць да дзяцей,
А роднаю вясковаю –
Саромяцца людзей.

Такіх дзяцей канвэерам
Воўк хутка забярэ,
Зацягне ён іх веерам
Ня ў наша кабарэ.
Іх нашымі чужынцамі
Ён зробіць праз гады,
І могуць стаць злачынцамі
Для ўсіх нас назаўжды.



**ШЧУР Макс** нарадзіўся 5.12.1977 году ў Берасьці. Вершы спрабуе пісаць з 12 гадоў, некаторыя зь іх публікаваў у абласным і рэспубліканскім друку (“Бярозка”, “Першацвет”, “ЛіМ”, “Полымя”). З 1994 году — студэнт Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту, сябра антыпартыйнай групы “Чырвоны Жонд”. Аўтар вершаванай п’есы “Сьмерць тырана” (1997).

З 1998 году жыве ў Чэхіі, навучаецца на філязофскім факультэце Карлава ўнівэрсытэту (гішпанская і гішпанаамэрыканская літаратуры). Перакладае з чэскае, ангельскае, гішпанскае. Выдаў зборнікі вершаў “Спадыня Адзіноцтва” (Берасьце, 1993), “Амфітэатар” (Гданьск, 1999), “Раньні збор” (Стакгольм, 2006). Друкаваўся ў часапісах “Крыніца”, “Правінцыя”, “Nihil”, “Arche”, за мяжой — “Ariel” (Швэцыя), “Plav”, “Babylon” (Чэхія). Сёлета ў Менску ў выдавецтве “Логвінаў” выйшла кніга ягоных вершаў “Амальгама”. Заснавальнік сайту www.niamiesta.se

# Экспэдыцыя ў Шынан

*Кацярыне К.*

*Y a la manana siguiente, cuando el caballero*
*no se desperty, el demonio no se habia ido.*
***B.Arenas***[1]

## 1.

Калі я прачнуўся пасярод чыстага поля, то адчуў сябе іншым чалавекам; а менавіта — чалавекам, які ўчора няўдала паспрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам так, што як сьлед набраўся, у тым ліку мужнасьці, ды ў чаканьні завірухі выйшаў на прастор, на шырокі прастор — назаўжды. Аднак сьнегападу ўначы не было — цяпер вакол мяне жаўцела й барвела толькі ссохлая трава. Дый выспаўся я на прыродзе, трэба сказаць, ня надта: галава балела так, быццам у маёй патыліцы тырчаў цьвік, за які мяне ўсю ноч торгаў нейкі лялькавод. Гэта ж трэба было так напіцца, падумаў я, і адразу ж адчуў смагу — напіцца!

Непадалёк мігцела налітая сьвінцом рэчка, я ўстаў і пашыбаваў туды, маршыруючы, як жаўнер, амаль бяздумна.

Сяк-так я нахіліўся з камяністага берагу ўніз, сербануў даволі празрыстай вады з шэрым адценьнем і ў той жа момант зразумеў сэнс фразы “каб ты смалы напіўся”, — вада ў рацэ зусім не нагадвала ваду, не цякла, а ўдавала сабою штосьці накшталт празрыстай шараватай смалы, толькі не гарачай, а сьцюдзёнай — штосьці на капыл ліпкага студня. Што гэта за зьявішча? — падумаў я з поўным ротам гэтай нясмачнай жуйкі, якую хацеў тут жа выплюнуць, але ня змог — халодная смала заляпіла мне рот. Дзіўным чынам жуйка пачала ў маім роце памалу раставаць і прыемна, накшталт губкі, асьвяжыла паднябеньне. Менавіта тады мне прыйшла ў галаву думка, што я, магчыма, усё яшчэ сплю. Непадалёк я ўбачыў стары драўляны мост, па якім, як выглядала, даўно ўжо ніхто не праходзіў: цераз яго вяла нешырокая сьцежка, што гублялася наводдаль у полі пад нейкім пагоркам. На вяршыні пагорка я заўважыў нейкае збудаваньне — здалёк мне было цяжка разгледзець, што гэта за яно, яго абрысы губляліся ў вакольнай смузе.

Празрыстае жэле вады, як ні дзіўна, крыху мяне ажывіла: я зноў адчуў сябе сьвежым, амаль неўміручым, як быццам ніякага ўчарашняга дня і не было. Маё адлюстраваньне ў цягучай вадзе было звычайным, вось толькі памыць твар магчымасьці не было: зачарпнуць такую цяжкую вадкасьць прыгаршчай каштавала б мне нечуваных высілкаў. Зрэшты, я сабе і такім падабаўся. Толькі куды цяпер? — падумаў я, азіраючы вакольныя палі, аблямаваныя пагоркамі й рэдзенькімі ляскамі. Можа, падацца ўдоўж рэчкі? Яна дакладна павінна вывесьці мяне да нейкага жытла, паселішча, цывілізацыі... Ведаць бы толькі, у якім кірунку яна цячэ — калі цячэ наагул... Не пасьпеўшы наталіць смагу, я адчуў голад і ўявіў сабе пах гарачых хатніх дранікаў з салам... Ах, як добра ўсёткі жыць на сьвеце, дзе ёсьць такія рэчы, як дранікі... І чаго гэта я ўчора надумаўся пазбавіць сябе жыцьця?

Гэтыя мае летуценьні й развагі перарваў нейкі дзіўны гук, якога я ніколі ў жыцьці ня чуў. Гук нагадваў карнавальны гармідар ці шум вясковага вясельля й даносіўся з паблізнага лесу. Я пачаў узірацца ў той бок і неўзабаве разабраў у якіх пяці сотнях мэтраў ад сябе агромністы натоўп пешых і конных людзей з каляровымі сьцяжкамі, бубнамі й трубамі — сапраўды, нейкая сьвяточная працэсія, верагодна, сёньня рэлігійнае сьвята, няйначай, пра якое я, як атэіст, традыцыйна забыўся... Ці гэта проста нейкі качоўны тэатар? Альбо цырк? Адно другога не выключае... Трэба спытацца ў іх дарогі, яны ж цыркачы, правандравалі край удоўж і ўпоперак і дакладна накіруюць мяне куды трэба... Гук бубнаў і тупат коней нарастаў, вясёлыя крыкі камэдыянтаў напаўнялі прахалоднае восеньскае паветра, але разабраць у гэтым гармідары штосьці канкрэтнае я быў няздольны. Толькі праз нейкі час я ўсьвядоміў, што ў ляманце галасоў неяк бракуе высокіх жаночых нотак. Гэта мяне насьцярожыла: якая ж можа быць гулянка без жанчын? Яшчэ больш мяне насьцярожыла, калі адзін з глынальнікаў агню рыгнуў у мой бок ладную колькасьць полымя, а нейкі жанглёр нібы “выпадкова” падкінуў залішне высока ўгару адну з кегляў, якая прызямлілася ў двух кроках ад мяне, і я разгледзеў у ёй... булаву! Можа, яны ладзяць нейкае спадужаньне асілкаў, як у той народнай казцы, і гэткім своеасаблівым чынам запрашаюць мяне да ўдзелу? І тут да мяне дайшло: перада мною было варожае войска — варожае прынамсі ў дачыненьні да мяне... Я зра-

зумеў, што калі хачу захаваць сваю скуру, то мушу бегчы прэч не марудзячы. Але ж куды? Я зірнуў у бок пагорка з пабудоваю – можа, гэта форт? Баявы лягер? Толькі чый? Нічога, дабягу – пабачу, сказаў я сабе і рынуўся ў тым кірунку... За сьпінай у мяне тупаталі коні, білі бубны, навокал падалі падпаленыя стрэлы. Гэта была вайна. Татальная вайна.

## 2

Я ўбег у шырока расчыненую браму той самай здалёк заўважанай мною пабудовы на пагорку й апынуўся ў чымсьці накшталт гарадзішча ці форту, абстаўленага высокім драўляным парканам. Па чатырохкутнай пляцоўцы ўзад і ўперад шпацыравалі ўзброеныя людзі ў дасьпехах з тоўстай валовай скуры. Раз-пораз на іх пакрыкваў мужыкаватага выгляду чалавек з высокім штандарам у руцэ й бубнам на шыі. Аднак жаўнеры яго ня надта слухаліся, некаторыя зь іх ледзьве валаклі ногі...

– Вашу маць, салагі! Крыху імпэту! Нас чакае галоўная бітва! Фа-Шы ня пройдзе! Гэты замак застанецца непрыступным!

Імя Фа-Шы, як мне падалося, я ўжо дзесьці чуў. Ваяўнічы выгляд гэтага бубнара-сьцяганосца надта мяне спалохаў, таму я зрабіў пару крокаў назад і схаваўся за адным з слупоў брамы, адкуль працягваў назіраць за гарнізонам гарадзішча. У адным з куткоў абгароджанай пляцоўкі, якую крыкун называў “замкам”, хаця яна больш нагадвала мне нядаўна заснаваныя новыя могілкі ў нашай вёсцы, я заўважыў пад сотню нейкіх земляных капцоў, як быццам там шукалі скарб ці капалі бульбу – прыгледзеўшыся, я ўбачыў, што гэта й насамрэч былі могілкі. Я зірнуў на жаўнераў: іхны схуднелы й брудны выгляд не пакідаў ніякіх сумневаў, што яны знаходзяцца ў замку ўжо некалькі месяцаў. Ніякіх прыкметаў гаспадаркі, жывёлагадоўлі ці прынамсі кухні я не знайшоў – значыць, спаталіць свой голад я тут не змагу...

– Гэй, а ты што стаў? – нечакана зьвярнуўся да мяне галоўны, бачачы, што я не наважваюся ўвайсьці ў браму. – Ты што – перабежчык? Ану вярнуўся назад у замак! Дзе твая зброя? Бітва яшчэ не пачалася, а ты ўжо ўцякаць?

“Якая зброя? – ня мог уцяміць я. — Пры чым тут я?” Нехта ўпіхнуў мне ў рукі даўжэзную дзіду.

– Што там, за брамаю? – зноў крыкнуў на мяне камандзір. – Яны блізка?

– Яны... Так, у якой тысячы крокаў, генэрал, – адказаў я, падумаўшы, што лепей перавысіць яго ў рангу, чым занізіць. Надзіва, ён не пратэставаў супраць таго, каб яго называлі генэралам.

– Выдатна, – на ягоным тупаватым твары ня выявілася ніякіх эмоцый. – Перамога блізкая. Мы сустрэнем іх тут, за агароджай. Будзем запускаць па некалькі чалавек, зачыняць за імі браму й выразаць іх невялікімі групамі, як легендарныя сем самураяў. Усім ясна? – зьвярнуўся ён да жаўнераў, якія абступілі яго, як спартоўцы трэнэра ў часе тайм-аўту. Жаўнеры неяк падазрона сынхронна заківалі галовамі.

– Толькі брама не зачыняецца, – гэтая мая асьцярожная заўвага прагучала на тле агульнай маўклівай згоды надзвычай сьмела.

– А, насамрэч, – сказаў генэрал, выціраючы рукою ўспацелы твар. – Я й забыўся. Ну, нічога, якая розьніца. Заатакуем іх у лоб.

– З дваццацьцю пяхотнікамі? – выказаў я сумнеў.

– Ты бачыш тут кагосьці яшчэ? – вызьверыўся на мяне генэрал. – Маўчаць, салага! На губу захацеў? Ці па губе? Аддзел – звааа-жай! Шыхт! На месца ўтрыманьня баявой пазыцыі крокам – руш! – і ашалела пачаў біць у бубен, пазіраючы проста перад сабою шырока вылупленымі зьмяінымі вачыма.

Я зірнуў на сваіх таварышаў па зброі, якія тут жа кінуліся выконваць ягоны загад. Здавалася, уласны лёс быў ім цалкам абыякавы: ува ўсіх іх быў аднолькавы бяздумны выраз твару, які выдаваў, што яны, рыхтык як згаданыя самураі, пачуваюць сябе мёртвымі яшчэ пры жыцьці. У вачох некаторых зь іх я ўгледзеў нешта накшталт пачуцьця віны, але няясна было, ці гэта быў сорам за прайграныя бітвы, ці згрызоты сумленьня, што дапякалі іх празь іхны вымушаны ўдзел у нядаўніх актах канібалізму й масавых згвалтаваньнях трупаў... Тым ня менш мне зрабілася шкада і іх, і сябе. Як можна так абыходзіцца з жывымі людзьмі? Хто быў тым ідыётам, які аддаў ім загад бараніць гэты “замак”, кінуўшы іх тут на верную сьмерць і нават не зрабіўшы спробы вызваліць іх адсюль? І тут да мяне прыйшло ўсьведамленьне, параўнальнае з асабістаю сустрэчаю з Богам: гэтым ідыётам, вядома, быў не хто іншы, як я сам!

...Ужо шаснаццатую ноч запар я імкнуўся авалодаць чатырма варожымі правінцыямі паўднёва-ўсходняй Японіі, каб атрымаць кантроль над іхнымі партамі, жытніцамі й радовішчамі медзі. Гэта было для мяне пытаньнем жыцьця й сьмерці, калі дакладней, то жыцьця і сьмерці майго клану – ягоны лёс наўпрост залежаў ад таго, ці здолею я запанаваць на шасьцідзесяці адсотках тэрыторыі краіны й зьнішчыць сваіх галоўных канкурэнтаў на пасаду ўсеяпонскага сёгуна. Ад бясконцага паўтарэньня тых самых баявых сытуацый і тактычных схемаў кампутар пераграваўся й раз-пораз завісаў, але гэта не астуджала майго імпэту й не магло пахіснуць маёй глыбокай перакананасьці ў тым, што ўжо празь якую гадзіну мне ўдасца абдурыць маральна састарэлую праграму й дасягнуць поўнай гегемоніі ў гэтым куточку віртуальнага сьвету.

Перапынкі на ежу й прыбіральню рабіліся ўсё радзейшымі і карацейшымі, я адключыў тэлефон і адпрасіўся па стане здароўя з працы, спаў па шэсьць гадзін у дзень, саромеючыся, што ня маю напалеонаўскай вытрымкі, але і ў сьне ня мог адпачыць ад бурлівых падзеяў гульні: мяне перасьледавалі партугальскія езуіты, што цыганілі ў мяне прывілеі на гандаль зброяй і табакай, конныя варожыя аддзелы ў рагатых шлемах ганяліся за мною па маім родным горадзе, як за маленькім гобітам, і вось у чарговы раз я заснуў і занурыўся ў гэты сярэднявечны кашмар, зь якога, мяркуючы паводле яго рэалістычнасьці, ня хутка здолею вярнуцца ў прытомнасьць...

Такія прыгоды сьмешныя толькі ў кіно пра Івана Васільевіча, калі назіраеш за імі збоку – мне ж было цяпер зусім не да сьмеху, як што нават пасьля ўсьведамленьня таго, што гэта сон, штучная навакольная рэчаіснасьць нікуды ня зьнікла, як гэта звычайна бывае, а расплывістыя абрысы гор на даляглядзе зрабіліся нават вастрэйшымі.

Толькі цяпер я пазнаў свайго ачольніка: гэта быў Ямасіра Якумота, самы бяздарны генэрал у маім войску, рэкардсмэн паводле колькасьці атрыманых паразаў, які, паводле маіх тактычных разьлікаў, даўно ўжо мусіў быў зьдзейсьніць рытуальнае самагубства. Горшай долі як змагацца пад ягоным кіраваньнем для салдата цяжка прыдумаць. Калі б яго штораз пасьля прайгра-

най бітвы паніжалі ў званьні, ён быў бы ўжо максымум якім яфрэйтарам, дый тое са знакам мінус. Некалькі хадоў таму я пакінуў рэшткі ягонага, у чарговы раз разьбітага войска ў адной зь цікавых мне правінцыяў, каб утрымаць у ёй прынамсі гэты апошні бастыён, пасьля чаго зусім забыўся пра генэрала й так і ня выслаў яму на дапамогу ніводнай арміі... Цяпер надыйшоў час расплаціцца за гэтую памылку ўласным жыцьцём. Перада мною выразна паўстала мая будучыня: нас выражуць у гэтай абгароджанай каламі пясочніцы, як немаўлятаў.

На шчасьце, варожае войска было такім вялікім, што гэта замінала ягонаму хуткаму перасоўваньню, аднак першыя стрэлы лучнікаў у выглядзе прымітыўных і нерэалістычных чорных рысачак пачалі ўжо ўтыркацца ў няроўна пастрыжаны стваральнікам графікі драўляны паркан. У мяне было літаральна некалькі сэкундаў на прыняцьце рашэньня.

– Генэрал! – крыкнуў я, ужо стоячы ў сьцятым баявым шэрагу, у якім мяне чакала верная сьмерць. – Дазвольце мне сказаць!

– Што за разгаворчыкі ў шыхце? – нахмурыўся ён.

– Я ведаю, як уратаваць нашыя жыцьці!

– Навошта? Даймiё[2] загадаў нам стаяць да канца. Слава Даймiё!

(Даймiё – гэта я.)

– Слава! – выгукнулі жаўнеры, патраціўшы на гэта добрую палову сваіх фізычных сілаў.

– Я хацеў сказаць, што я ведаю, як перамагчы ворага! Дайце мне каня! Правінцыю за каня!

– Усіх коней зьелі, – змрочна канстатаваў генэрал. – На халеру табе конь? Ты хоць скакаць на ім умееш? Ты ж усяго толькі пешы добраахвотнік!

Тут ён меў рацыю: ня ўмею й наагул баюся коней, яшчэ зь дзяцінства, калі ў першы й апошні раз сядзеў на кані.

– Мы ж цяпер у хаўрусе з кланам Моры, так? – узгадаў я, напружыўшы ўсю сваю геапалітычную памяць.

– Ну.

– У пяці кілямэтрах адсюль у суседняй правінцыі стаіць іхнае войска! – У адрозьненьне ад рэшты сказанага мною гэта было праўдай. – Я ведаю дарогу – я раней служыў у тамтэйшага генэрала... – я плявузгаў першае, што мне трапляла на язык, каб толькі яго пераканаць. – Я магу па-хуткаму зьбегаць туды й сказаць ім, каб яны прыйшлі нам на падмогу!

– Па-хуткаму? Гэта як?

– З хуткасьцю двух ры[3] за гадзіну, а мяркуючы паводле абставінаў – нават хутчэй... Калі вы толькі, вядома, пратрымаецеся тут гадзіну...

– Анягож! Мы ж пратрымаліся тут ужо цэлы год! Давай, толькі не марудзь. Перадавай генэралу Мандзё прывітаньне. Хай не затрымліваецца, хай адразу ж высылае сюды кавалерыю! А то мы ўжо тут згаладаліся... па перамозе... І як я да гэтага сам раней не дадумаўся?

Ягоныя апошнія словы зьмяшаліся ў мяне за сьпінай зь лязгатам зброі, крыкамі першых ахвяраў і невыносным выцьцём варожага палявога аркестру, які неўзабаве патануў у грукаце нядоўгай, але тым болей заўзятай і крывавае бітвы... Нават у сапраўдным жыцьці, ня тое што ў сьне, я ніколі ня бегаў так хутка.

## 3

Ішоў я доўга, але ў прынцыпе мне гэта падабалася – я і ў міры зьяўляюся аматарам доўгіх шпацыраў, бо не люблю карыстацца транспартам. Кірунак быў мне прыблізна вядомы – да сталіцы можна было кіравацца па аб’едзеных груганьнём парэштках нашых, то бок маіх жаўнераў. Асабліва мяне раздражняла баявая музыка, якая ўвесь час гула ў мяне ўвушшу й была, як мне здаецца, скрадзеная творцамі гульні з фільму Копалы “Дракула” – гэтаксама як сама гульня была скрадзеная мною з нэту з дапамогаю торэнтаў. Аднастайнасьць высечанага нібы сякераю краявіду ня надта мяне засмучала – прынамсі, нашмат меней, чым аднастайнасьць невыразнага смаку цьвёрдых піксэляў рысінак, якія я мусіў запіваць, ці дакладней, зажоўваць гэткай жа нясмачнай нецякучай вадой, клянучы ў думках кампутарную графіку дзьвюхтысячнага году. Рыбы ў такіх нерухомых смаляных рэках, натуральна, жыць не маглі... Цікава, з чаго тады тут вырабляюць сушы? Ці думаюць яны наагул, што праграмуюць? Мастакі, блін... Ня могуць у лесе хоць грыбоў якіх панасадзіць... Ці ягад... А ці растуць у Японіі ягады? І дзе гэтыя іхныя славутыя сакуры[4] – плёну нібыта не даюць, але вока хаця б пацешылі...

Ня ведаю, як я здолеў выжыць у такіх ненатуральных прыродных умовах. Поры году сьвісьцелі міма, як кулі, з хуткасьцю дня і ночы на паскораных кіназдымках. Птушкі, падобныя да шматкоў нейкіх брудных анучаў, мільгалі над маёй галавой, але прынамсі ня сралі на яе – і за тое дзякуй, вось яна, выгада віртуальнай рэчаіснасьці. Ня думаю, што на працягу шляху я і сам выконваў гэтую патрэбу; прынамсі, я ўпэўнены, што ніводнага разу не спыніўся каб адпачыць ці падрамаць – як быццам маё цела цалкам пазбылася сваёй грэшнай матэрыяльнай прыроды. Асаблівае дзякуй мушу сказаць стваральнікам гульні за адсутнасьць усялякіх прывідаў, страшыдлаў і цмокаў, бо я на дух не пераношу ў кампутарных гульнях усялякага фальклёру – зрэшты, у жыцьці таксама. Што да жанчын, то ў рэдкіх вёсках, якія я прамінаў, іх не было зусім – дзеці тут нараджаліся ўжо дарослымі і ў баявым рыштунку, быццам зьяўляліся зь нейкіх прабірак, на шчупакова казаньне ўладара. Дзеля чаго тады ўсе гэтыя бясконцыя наезды й разборкі, змаганьне за правінцыі, калі няма магчымасьці нават гвалціць цывільнае насельніцтва – няўжо трэба задавальняцца толькі паленьнем вёсак? Бывалі моманты, калі я нават шкадаваў, што не застаўся разам з сваімі жаўнерамі бараніць замак Кіі ці як яго там – хаця наўрад ці мая прысутнасьць дадала б ім баявога імпэту ці ўзвысіла рэйтынг іхнага недалужнага генэрала. Паверыць у тое, што іхны горача любімы Дайміё – гэта я, яны ўсё адно б ня здолелі. Час ад часу я папракаў сябе, што дэзэртыраваў і пакінуў іх паміраць у той агульнай драўлянай магіле – але ў такія моманты хутка ўзгадваў, хто я насамрэч, і шыбаваў далей. Якая справа Дайміё да нейкіх двух дзясяткаў практычна небаяздольных пешак?

## 4

Палац Дайміё, дарога да якога заняла ў мяне які год віртуальнага часу, не зрабіў на мяне вялікага ўражаньня, гэтаксама як і пакінуты мною замак. Ня тое што “Касл Вольфэнштайн”[5] – там табе й шпалеры, і партрэцікі, і грамафоны, і гейшы ў падвязках. А тут былі практычна адны голыя сьцены, дый тое па-

пяровыя. Як я мог быць такім безуважным да эстэтычнага боку свайго панаваньня?

Ахове я прадставіўся амбасадарам (гэтую легенду я прадумаў з усімі дэталямі па дарозе), які прынёс Дайміё надзвычай важныя сакрэтныя весткі з адной далёкай правінцыі – пачуўшы слова “сакрэтныя”, мяне адразу ж упусьцілі. Ну і дурні! Чаго тады потым зьдзіўляцца, што варожыя ніндзя так хутка прабіраюцца да нашых найлепшых генэралаў? У самы апошні момант я ўсьвядоміў, што мяне фактычна чакае сустрэча з самім сабою – мне шалёна закарцела ўцячы, каб пазьбегчы гэтага кафкіянскага жаху, але ўцякаць было позна. Што калі Сапраўдны Дайміё пазнае ўва мне свайго двайніка, і мне прыгатаваны лёс “Жалезнай маскі”, беднага брата-блізьнюка караля-сонца?

Аднак мае перасьцярогі былі дарэмнымі: Сапраўдны Дайміё быў зусім не падобны да мяне й выглядаў дакладна так, як генэрал Якумота і ўсе астатнія, не раўняючы ў тым заблытаным фільме пра Малкавіча, зь ім самім у галоўнай ролі. Не падобны ён быў ані да сівавалосага й тлуста размаляванага макіяжам сёгуна з кампутарнай анімацыі на пачатку гульні – той, у сваю чаргу, быў запазычаны творцамі з фільму Курасавы “Ран”, які, я памятаю, разы тры спрабаваў даглядзець да канца.

– Што табе патрэбна, плябей? – закрычаў на мяне Сапраўдны Дайміё з вышыні свайго трону вісклівым голасам, і тут я зразумеў, што ён, так бы мовіць, увасабляе партрэт маёй душы: жанападобнага хлапчука зь несувымернымі да ягоных здольнасьцяў марамі й амбіцыямі сапраўднага мужчыны. Галоўнай прычынай усіх маіх (то бок ягоных) папярэдніх паразаў была менавіта ягоная неадпаведнасьць займанай пасадзе.

– Плябей? Няўжо вы мяне не пазнаяце? – як мага больш нахабна азваўся я. – Я ж ваш пасланец! Вы адправілі мяне на місію два хады... ээ... два гады таму. Узімку, пры канцы пазамінулага году... – удакладніў я, спадзеючыся абудзіць ягоную памяць.

– Нешта не падобны ты да пасланца, – сказаў Сапраўдны Дайміё пасьля кароткай парады з сваёй сьвітай. – Што ў цябе за вопратка? Мае пасланцы ў такой ня ходзяць! У іх сінія плашчы й чырвоныя боты!

– Звычайная кансьпірацыя, – паціснуў плячыма я.

Грозны ўладар зноў пачаў раіцца з сваёй камарыльляй.

– Дык куды, ты кажаш, я цябе пасылаў? – пацікавіўся ён урэшце, сербануўшы сакэ і ссунуўшы бровы.

– У правінцыю Ту-Пін, да ўладара Такешы... З прапановаю замірэньня...

– Гм... – маё веданьне геаграфічных і палітычных рэалій закінула ў бінарныя мазгі Сапраўднага Дайміё зярнятка сумневу. – Аднак той пасланец, калі не памыляюся, вярнуўся ўжо паўгоду таму – дакладней, ня ён, а ягоная галава...

– Няўжо? – не сумеўся я. – Тады як вы растлумачыце, што на працягу апошняга году клан Такешы ніводнага разу не нападаў на вашую тэрыторыю? Я перакананы, што дасланая вам галава была ў такой стадыі раскладзенасьці, што яе няцяжка было прыняць за чыю заўгодна галаву – нават такому мудраму ўладару, як Вы...

– Гм, – зноў гмыкнуў Сапраўдны Дайміё. – Няўжо мяне падманулі? Гэта ўсё той нягоднік Моры, які прыкідваецца маім хаўрусьнікам! Празь ягоную бязьдзейнасьць...

– ...нядаўна быў дабыты замак Кіі, – з усьмешкай дакончыў я ягоную фразу. – Усе жаўнеры ўлучна з генэралам Якумотам загінулі ў баі.

– Адкуль табе гэта вядома? – ссунутыя бровы Сапраўднага Дайміё палезьлі на лоб.

– Я прамінаў гэтыя мясьціны пару месяцаў таму й знайшоў толькі парэшткі замку, – апускаючы вочы, сказаў я. – Генэрал Якумота й ягоныя хлапцы загінулі сьмерцю герояў з вашым імем на вуснах.

– Гм. Дык значыць, Такешы згодны з намі замірыцца? Гэта цудоўная навіна! Цяпер я магу сьцягнуць свае войскі з правінцыі Бузэн і засяродзіць у Гатомі агромністую колькасьць жаўнераў!

– З такім войскам вы маглі б заатакаваць клан Моры ў правінцыі Шынан, – не падымаючы вачэй, працягваў я, – што дасьць вам магчымасьць адрэзаць Моры ад мора, даруйце за калямбур, і запабегчы ягоным кантактам з партугальскімі гандлярамі зброяй. Аднак на вашым месцы я б ня сьцягваў з Бузэну абедзьве арміі, а толькі адну. Рэшту патрэбных войскаў вы маглі б пераправіць па моры з Хакайда, дзе ўжо чакаюць чатыры сьвежыя дывізіі навабранцаў.

– Ня ведаю, ня ведаю... – завагаўся Сапраўдны Дайміё. – Гэта яшчэ неабстраляныя дзецюкі. Думаеш, гэтых сілаў будзе дастаткова, каб заваяваць Шынан?

– У Шынане цяпер знаходзіцца ўсяго толькі малалікая армія генэрала Саторы, – зьбрахаў я, не міргнуўшы вокам. – Убачыўшы вашы аддзелы, ворагі разьбягуцца, як пацукі.

Дарадцы Сапраўднага Дайміё згодна заківалі галовамі – дакладна так, як перад тым жаўнеры на словы генэрала Якумота, хай за сьвятымі спачываюць. Гэта канчаткова пераканала маё японскае альтэр-эга ў маёй рацыі.

– Цудоўна! – выгукнуў Сапраўдны Дайміё. – Лепшага пляну немагчыма было прыдумаць. Пасланец, ты выканаў маё заданьне, як сапраўдны самурай! Недарэмна я будаваў акадэмію дыпляматаў, хоць гэта і каштавала мне трохсот коку[6]! За сваю службу ты заслугоўваеш падвышэньня – прасі любую пасаду, якую пажадаеш!

Гэтым ён паставіў мяне ў тупік: сказаць яму, што я хацеў бы заняць ягоную пасаду й перапыніць гэтую асуджаную на бясконцасьць гульню, я ня мог, а іншага адказу не падрыхтаваў.

– Я хацеў бы стацца... галоўным... архітэктарам, – выціснуў я зь сябе, патаемна спадзеючыся, што тут, як і ў кожным Матрыксе, павінен быць хтосьці, хто адказвае ці яшчэ толькі адкажа мне за ўсё, што са мною сталася. Але Сапраўдны Дайміё чуў гэтае слова ўпершыню: ён быў звыклы, што будынкі ў ягоных уладаньнях самі ўзьнікалі, як грыбы з-пад зямлі, варта было яму толькі махнуць рукой – таму замест адказу ён адразу ж зьвярнуўся па раду да сваіх запабягалаў.

– Мы прыдумалі! – неўзабаве выгукнуў ён. – Ты заслугоўваеш большага, чым быць звычайным пасланцом! Цябе чакае найлепшая з усіх магчымых узнагародаў – нязгасная слава ваяра! Прызначаю цябе генэралам над усімі войскамі нашага клану ў правінцыі Гатомі й даручаю табе пачэсную місію заваёвы Шынану! Аўдыенцыя скончаная!

– Не, толькі ня гэта! – выкрыкнуў я, але было позна: ад Сапраўднага Дайміё засталося толькі рэха ягоных словаў, тым часам як дужыя ахоўнікі

ўзялі мяне пад рукі й вынесьлі з палацу, перад брамай якога мяне ўжо чакала натхнёнае йменаваньнем новага генэрала войска.

...Цягам маршу на поле бітвы, у злавесную цясьніну ў правінцыі Шынан, дзе мае ваяры пацярпелі дагэтуль ужо не адну паразу, я ўвесь час спрабаваў зразумець, як усё гэта магло здарыцца са мною. Хіба я адзін трапляю ў залежнасьць ад кампутарных гульняў? Няўжо гэта справядліва? Корпаючыся ў гразох сваёй мінуўшчыны, я пачаў прыгадваць, што ў дзяцінстве і сам прыдумляў падобныя гульні, маляваў мапы, захопліваў гарады й выспы... Нават свае вандроўкі па роднай краіне я разглядаў як “вайсковыя заборы”... Ёсьць, відаць, у кожным маленькім чалавеку нешта накшталт комплексу Напалеона, геапалітычнага інстынкту, які ў спалучэньні з воляю да ўлады дае гісторыі такіх азартных гульцоў, як Гітлер, Цэзар, Аляксандар Македонскі... Няўжо ўсе мужыкі такія? Нават ня самыя дурныя зь іх, як мне здаецца, прыходзілі ў захапленьне ад вайсковых подзьвігаў... Мак’явэлі называў заснаваньне ўласнай дзяржавы адным з шляхоў да вечнай славы... Кліма захапляўся Фрыдрыхам Вялікім Гогенцолернам...

“А што калі, пакуль я сплю, хто-небудзь чужы прабраўся ў маю кватэру й завалодаў маім кампутарам, каб канчаткова зжыць мяне зь сьвету?” — спалохаўся я. Гэтая тэорыя, аднак, падалася мне задужа непраўдападобнай: я ня мог дапусьціць вар’яцкай думкі, што насамрэч апынуўся ў сваім кампутары, бы ў якім галівудзкім фільме, дзе людзі час ад часу трапляюць у тэлевізію ці якую іншую паралельную рэчаіснасьць. Я быў цьвёрда перакананы, што гэта ўсё сон, звычайны сон заўзятага геймэра, дзе запазычаныя з гульні вобразы мяшаюцца з сапраўднымі ўспамінамі, і тыя заражаюць іх сваёй рэалістычнасьцю... Карацей, я спадзяваўся, што кожную хвіліну павінен прачнуцца.

Ужо калі на вяршынях гор замігцелі каляровыя плямы варожага войска, я згадаў жахлівыя падзеі ў замку Кіі, зь якога быў так хітрамудра ўцёк, і прыняў адзіна магчымае ў такіх варунках рашэньне: загадаў сваім часткам разьвярнуцца й адступіць. Ідучы, я раз-пораз азіраўся назад, каб спраўдзіць, ці не перасьледуюць нас рыцары варожага альянсу — але іх было наагул не відаць, толькі цясьніна зеўрыла на мяне сваю жудасную пашчу, быццам хацела сказаць: “Сыходзіш? Ну-ну... Я была прызначаная толькі для цябе! Толькі ты мог мяне здабыць! Але ж ты сам абраў свой лёс — цяпер не наракай...”

## 5

Паводле майго загаду адступілі мы зусім не туды, адкуль прыйшлі, а ў суседнюю правінцыю, якая акурат у той момант не належала ніводнаму з варагуючых кланаў — дадумацца гэтак парушыць правілы гульні мог толькі я, былы Даймё, галоўны дойлід уласных паразаў... Як ні дзіўна, гэтая штука мне ўдалася: правінцыя перайшла ў маё ўладаньне, і ніхто з вакольных японскіх магнатаў гэтага як быццам не заўважыў. Маё войска разам са мною трапіла ў лік здраднікаў, ронінаў[7], перабежчыкаў, зь якімі суседзі звычайна пабойваліся канфліктаваць. Мы атабарыліся для пачатку ў тамтэйшай, нікім не занятай “пясочніцы”, утварылі апрычоную дзяржаву, напаўголасу абвясьціўшы ейную незалежнасьць, з часам уласнымі сіламі пабудавалі неблагі замак, што зь мінаньнем хадоў больш і больш нагадваў цытадэль, адкрылі дыпляматычную школу, з дапамогай выхаванцаў якой на працягу доўгіх гадоў, з 1540-га па

1558-ы (то бок з гледзішча гульні – цэлую вечнасьць), нам удавалася захоўваць нэўтралітэт. Час ад часу мае генэралы прапаноўвалі нейкаму з ваюючых бакоў свае паслугі толькі дзеля таго, каб пасьля прыняць ад другога боку салідны хабар – гэта й было асноўнай крыніцай даходаў нашай мяцежнай правінцыі...

Гэтыя васямнаццаць гадоў былі найлепшымі гадамі майго жыцьця. Я пабудаваў сабе сад камянёў, побач зь ім – "чайхану", партугальцы завозілі мне з Эўропы мае ўлюбёныя алькагалічныя напоі (да сакэ я так і не прывык). Час ад часу я пісаў хоку, якія чытаў выхаванцам сваёй акадэміі пры сьвятле месяцу – тыя дыпляматычна ўхвалялі маё мастацтва каліграфіі і ўзровень валоданьня японскай мовай. Свой палац я ўпрыгожыў скульптурамі й карцінамі найлепшых тутэйшых майстроў, а з чыстай настальгіі побач з портам пабудаваў для партугальцаў касьцёл, куды заходзіў пасядзець у цішыні й самоце, паслухаць лаціну й памілавацца заходняй архітэктурай. Празь некалькі хадоў я нават патаемна прыняў хрысьціянства (партугальцы ахрысьцілі мяне Фэрнандам, хаця сам я хацеў назвацца Фрыдрыхам, у гонар сярэднявечнага нямецкага імпэратара, аматара прыгажосьці й мэцэната, аднак гэтыя езуіты адмовілі мне ў маёй просьбе толькі на той падставе, што Фрыдрых нібыта быў яшчэ й герэтыкам і антыхрыстам).

Наўрад ці вас зьдзівіць той факт, што неўзабаве ўсё гэта пачало мне брыднуць. Мае войскі множыліся, але ніяк не атрымлівалі магчымасьці выпрабаваць запаветы зь дзяцінства ведамай ім "Хагакурэ" ў рэальнай баявой сытуацыі, праз што сярод іх пачало квітнець п'янства й пэдэрастыя. Колькасьць самагубстваў, якая дагэтуль трымалася ў маёй правінцыі на нулі, пачала падазрона расьці, і мае генэралы томна ўздыхалі над магіламі сваіх жаўнераў, што лепей бы яны загінулі дзе на полі бітвы ці памёрлі ад аргазму ў ложках сваіх каханкаў.

Неўзабаве ўва мне пачало мацнець перакананьне, што пазбавіцца ад гэтага зацяглага сну можна толькі адным спосабам, а менавіта – выйсьці насустрач таму, чаго я ад самага пачатку знаходжаньня тут гэтак старанна пазьбягаў – сьмерці. Заўжды была магчымасьць зьдзейсьніць самагубства, але калі нават Юкіё Місіма ня здолеў зрабіць сепуку як сьлед, то я перакананы, што праз адсутнасьць практыкі зусім бы скурвіў гэты прыгожы старажытны рытуал – а я хацеў пакінуць па сабе ў гэтым маленькім, але чароўным сьвеце найлепшыя ўспаміны. Ніякіх забойцаў-ніндзя, як на бяду, міралюбныя суседзі да мяне не падсылалі, а калі й падсылалі, то мае прэтарыянцы, як я ласкава іх называў, угаворвалі іх адкласьці сваю задуму да наступнага жыцьця. Партугальскія езуіты з рэлігійных меркаваньняў адмовіліся дапамагчы мне ў здабыцьці атруты, а ўпіцца да сьмерці іхным салодкім партвэйнам трывала б мне яшчэ доўгія гады. Менавіта тады я ўзгадаў пра непрыступную гарыстую правінцыю Шынан, перад маімі вачыма паўстала вэртыкальная ўсьмешка ейнай цясьніны, якая сьцьвярджала, што прызначаная толькі для мяне... Цяпер я ўцяміў: яна падказвала мне адзіны шлях у сапраўдную рэчаіснасьць, адзіную магчымасьць прачнуцца зноў ва ўласным сьвеце, дзе я столькі хадоў таму пакінуў дом, працу, сяброў і нявыключаны кампутар...

Мае нябачныя й паўсюдныя шпіёны неадкладна паведамілі мне, што правінцыя Шынан належыць цяпер наймацнейшаму клану ў Японіі, які не захапіў дагэтуль мае сьціплыя ўладаньні толькі таму, што ня меў такіх падрабяз-

ных мапаў... У той жа дзень я склікаў вайсковую нараду, на якой выступіў з гарачай патрыятычнай прамовай. Зьдзіву маіх прыдворных і генэралаў, гэтак жа як і радасьці маіх жаўнераў не было мяжы: мы пачынаем вайну! Мы здабудзем тэрыторыю самага магутнага клану на гэтай высьпе, а зь ёю і несьмяротную славу! Урэшце! Гэты дзень мы набліжалі, як маглі! Неадкладна была абвешчаная татальная мабілізацыя. Я нават не адчуў ніякіх згрызотаў сумленьня праз тое, што падманваю сваіх дурнаватых і да сьмерці мне верных падданых. Таго вечару я горача маліўся ў партугальскім касьцёле, каб усемагутны хрысьціянскі бог, якога я столькі разоў ужо прасіў вызваліць мяне з маёй сьмешнай сытуацыі, урэшце пачуў маё благаньне й даў нашай зброі такую паразу, якіх сьвет ня бачыў з часоў Ватэрлоа...

Як вы, мабыць, здагадаліся, гэтым разам мае просьбы былі пачутыя. На досьвітку наступнага дня мы ўжо маршам уваходзілі ў Шынан, і на даляглядзе завіднелася нашая мэта – цясьніна, скалы вакол якой былі густа абсаджаныя чырвонымі парасткамі варожага войска. Не запавольваючы хады й не мяняючы шыхтаваньня, мае аддзелы рушылі ў наступ, якім камандаваў я асабіста: наіўныя генэралы сьлепа даверыліся майму стратэгічнаму генію. Я з радасьцю назіраў за тым, як маіх найлепшых жаўнераў выразаюць пад корань, не раўнуючы капусту, і нецярпліва прабіраўся наперад на чале маленькай групкі вэтэранаў, якія памяталі яшчэ часы змаганьня за клан Сапраўднага Даймiё – сямідзесяцігадовых інвалідаў усіх бітваў майго ранейшага жыцьця, зь якіх я пахуткаму сфармаваў сваю старую гвардыю. Насустрач нам набліжаўся аддзел цяжкой кавалерыі, што з усяго разгону ляцеў па схіле гары з мэтай здабыць найкаштоўнейшы трафэй – галаву ненавіснага пацыфіста, перабежчыка й самазванца, зь якога нечакана вылупіўся падступны агрэсар. Прызнаюся, што ў той момант мяне часова пакінула непахісная рашучасьць памерці, і я міжволі спыніўся, як услупянелы, перад жудасным відовішчам страката размаляваных вуглаватых коньнікаў, якое і дагэтуль перасьледавала мяне ў снах... Аднак да свайго гонару магу сказаць, што сьмерць я сустрэў тварам, а ня сьпінай да яе. У апошнія сэкунды перад маімі вачыма прайшло ўсё маё тутэйшае жыцьцё: цягучая вада ў рацэ, аблога Кіі, прыём у Сапраўднага Даймiё, ганебныя ўцёкі з Шынанскай цясьніны, пабудаваны мною сад камянёў, патаемныя хрэсьбіны ў езуіцкім касьцёле, вестка пра нараджэньне адзінага сына й будучага спадкаемцы, маці якога я так і не пабачыў, партугальскі партвэйн і чытаньне хоку пры сьвятле месяца...

Няўжо я мушу вяртацца ў абрыдлы сапраўдны сьвет? Такой была мая ці то апошняя думка на полі бітвы, ці то першая думка пасьля прабуджэньня. Я агледзеў свой пакой: кампутар па-ранейшаму падміргваў мне зялёным вочкам згаслага манітору й супакаяльна гудзеў, шаснаццаць дзён нямыты посуд пакорліва засыхаў у кухні, і толькі невыносны смурод са сьметніцы сьведчыў пра тое, што спаў я даўжэй звычайнага. Я зірнуў на гадзіньнік на сьцяне: была палова на сёмую, але немагчыма было сказаць, раніцы ці вечару. Нешта зьбянтэжыла мяне пры позірку на гадзіньнік: у першы момант я нават не зразумеў, што, але зараз жа ўсьвядоміў, што гэта была не пазыцыя стрэлак, а нязвыклы цень, які адкідала на цыфэрблат шафа з кнігамі.

Павярнуўшы галаву, я ўбачыў, што над маім ложкам стаіць апрануты ў чорнае ніндзя.

*24-26.10.2009*

[1] І на наступную раніцу, калі ягамосьць не прабудзілася, дэман нікуды не сыйшоў. Б. Арэнас.

[2] Шляхецкі тытул у фэадальнай Японіі.

[3] Традыцыйная японская адзінка вымярэньня даўжыні, роўная 3,927 км.

[4] Японская вішня, улюбёнае дрэва паэтаў і дзэн-будыстаў.

[5] Папулярная кампутарная гульня.

[6] Традыцыйная японская адзінка вымярэньня аб'ёму, якою карысталіся і ў эканамічных разьліках. Вага 1 коку рысу роўная прыблізна 150 кг.

[7] Самурай без гаспадара, вольнанаёмны прафэсійны ваяр.

# ВЕРШЫ

* * *

Учора думаў: не знайду ніколі,
сёньня кляну, што не знайшоў раней
нат не на дзень – сэкунду – той лякобы,
што сам схаваў ад сонечных прамней.

Твой голас – доказ, што ільга быць двойчы:
як прымха, крочыць горадам радкоў,
быць лепшы, – невідушчы, невідочны, –
і сьцены лашчыць памяці рукой.

Няўжо мы зноў зьяднаць быцьцё магцімем?
Ня ўмеючы дзівосам веры даць,
спрабую сябе колішняга імем
той, іншай, прывітаньне перадаць.

* * *

Адстаў ад жыцьця – калі гэта жыцьцё.
Людзі стомленыя местам. Нядзіва:
адзін і той жа спэктакаль
ідзе з аншлягам каторы год
у штоpазу ўсё больш мадэрнізаванай вэрсіі –
няма таго ўражаньня хаосу,
уласьцівага гарадам нашае маладосьці
(здаецца, што ў тых самых ролях мы глядзеліся лепей),
цяпер глядзіш на людзей як на экспанаты
(колькі іх магло б выскачыць з табакеркі
твайго мабільнага тэлефону?
не, няхай пакуль што там застаюцца).

* * *

Не сыходзь з маіх сноў,
мая даўняя мара.
Шэсьць бясконцых гадоў –
гэта жудасна мала.

Гэтак зроблена шмат
для астатніх, але ж мы
ўзнагароды фармат
не прысьнілі належны,

каб аддзячыць сабе.
Толькі вершы і песьні.
Усе скарбы свае
мы ў ахвяру прынесьлі,

а што суджана нам,
мой чароўны паплечнік?
Толькі доўгі раман,
нібы вэксэль на вечнасьць.

## Другая радзіма

### 1

Усё іначай, больш рознабакова,
чым ты ўяўляў на працягу дзесяцігодзьдзя.
На поўнач – пах авечак, ліпы, сена, гною,
салёных агуркоў, чаромхі, сырадою –
Карэлічы, амаль такі ж шпацыр
увечары да возера ці рэчкі.

На ўсходзе – берасьцейскі краявід,
пансіянат для хворых на здароўе,
на захадзе – мясьціны, дзе ў дзяцінстве
мы з татам заблукалі, як шукалі
касьцёл – вось толькі тут шукаць ня трэба.

На поўдні – пустка накшталт Готлянду, а побач –
ангельскі парк з тваіх любімых фільмаў,
чый аўтар прамяняў яго на роўнядзь
галяндзкіх роварных асфальтаваных сьцежак.

### 2

Цывілізацыя – па сутнасьці, адзіна
дарога. Рэшта – проста ўласнасьць.

Як дзіўна, што і ў самых дзікіх месцах
нейкія людзі сабе зладзілі радзіму.

Схавалі, быццам скарбы, вадаёмы,
яшчэ ў якім шэсьцьдзесят восьмым годзе
прыбралі надпісы на ростанях і болей
іх не вярнулі, аддалі на пераплаўку.

Цяпер усе паселішчы навокал –
пацёмкінскія вёскі. Толькі Прага
чакае мо за кожным паваротам
з шырокімі абдымкамі сталіцы.

**3**

Выдацца ў шлях, каб дакрануцца сонца
ў месцы ягонага судакрананьня
зь зямлёй, нібы плыўцы, наперагонкі –
і зноў назад, наведаць па дарозе

палац (барока, копія Вэрсалю),
які адрэагуе на зьяўленьне
гасьцей званком, што выбухне на вежы
абвешчаньнем дзявятае гадзіны,

шлях паказаць паўднёвым мафіёзі,
якіх заблытаў спрут прыблізнай мапы,
каб неўзабаве заблукаць самому
й дамоў вяртацца вобмацкам інстынкту,

глядзець, як лужына зьмяшчае ў жмені
ўвесь краявід начны маладзіковы,
і супакойвацца ад хуткасьці мінаньня
свайго жыцьця, што лёгка мкнецца з горкі.

* * *

Выйду па верш у кавярню, бы па бутэльку у краму,
спадзеючыся на крадзеж, але ж заплачу, ня ўкраду,
кроплям жыцьцё ўратую ін’екцыяй парасона,
на клявішах банкамату зайграю простае сола,
выцягну язычок з бота, банкноты сьцелькай
высьцелю крок няпэўны да глыбіні прасьценькай
высновы, што ў Менску ныла ад кайданкоў запясьце,
у Празе – ад торбаў з крамы... Нямала ты назапасіў
на чорныя дні мэтафар, але ж няма паратунку:
нічога не патлумачыць клінапіс на рахунку.

* * *

Боты, як акуляры –
на далеч, на блізіню.
Горад, нібы Салярыс,
фантазію разануў.

Трашчыць, нібы пісталецік,
зьдзіцянелы сьветлафор,
табе ў патыліцу меціць,
баіцца страляць ва ўпор.

Яшчэ ня сьпяць ані ў Кафкаў –
тэатар вітрыны ня згас:
парад прагнутых прылаўкаў,
кнігарскі іканастас,

зацалаваны птаствам.
Ня можа сьляпы каштан
вачэй сваіх панамацваць,
манаскі ўваскрэсіць стан.

У цішыні гасьціннай
уздыхі старых майстроў
па колішнім ссуць карціны
з табакай, бы пляйстар – кроў,

Попельніцу рэгулярна,
нібыта начны гаршчок,
мяняюць табе ў кавярні,
што пахне садком, баршчом.

Такое простае шчасьце –
жыць, не чапаны нікім,
у гэтакае бясчасьсе
пад прозьвішчам Ананім.

## Статыстычная справаздача

Найшыкоўнейшы гатэль сьвету
Найстарэйшая дзейная сынагога
Найвялікшая конная статуя
Найбольшая колькасьць прывідаў і курваў на мэтар квадратны
Найвышэйшы працэнт друкаваных выданьняў на чалавека
Найменшая адлегласьць між барамі
Найвузейшая вулічка кантынэнту

Найніжэйшы век полавай сталасьці –
места крайнасьцяў, у якія лепш не ўдарацца
(я ня ведаў пра гэта, калі выйшаў тут зь цягніка,
тады яно здавалася мне шматразова складзеным
аркушам Менску, на які я быў прымяраў
тэмп хады й шырыню свайго кроку правінцыяла),
многія яшчэ называюць яго цэнтрам сьвету,
многія іншыя – прамачахай гарадоў;
яго (не)аднойчы нават хацелі зраўняць зь зямлёю,
але калі гэтак (ня дай бог) нарэшце адбудзецца –
спадзяюся, яго будуць памятаць не за гэта.

* * *

Хварэць вясной. Па-халасьцяцку.
Адліга запаўзае ў нос.
У цэнтры сьвету. Нібы цацкі
вакол – газэт і кніжак стос.

Чытаць павольна. Ад экранаў
адпачываюць зрок і слых.
Нібы ў дзяржаўным апартману
напрыканцы саракавых.

Ад цела не прасіць экстазу,
а быць удзячны, што яно
ня хоча прызнаваць паразу,
маўляў яму ня ўсё адно.

А зь вечарам надыйдзе ўчора,
нібы той “заяц”, што крадком
дурыць спрабуе кантралёра
прабітым раз ужо квітком.

* * *

Вокам, нікому не прыязным,
паўтор гульні жыцьця глядзі
накшталт гакейнага судзьдзі –
штосьці між карнікам і вязьнем.

* * *

Сыходзяць вечары. Больш іншых
шкада пазначаных самотай,
кампаніяй людзей няісных,
калі а пятай (ці а шостай)

ізноў прыходзіш у прытомнасьць,
зноў ловіш гаманец на нітцы
ў далоні часу патаёмнай,
што ўсё жыцьцё нам толькі сьніцца,

і разумееш пакрысе, не
наўгад, што прабуджэньне – дзіва,
ня меншае за ўваскрасеньне.
Ці нават большае, мажліва.

* * *

Спыніць імгненьне... Ды каторае?
Сьвітаньне на палёх Аўстэрліца?
Няспыненыя, непаўторныя,
яны датацыяй зацерліся:
у іх не пазнае гісторыя
самой сябе (ці ёй ня верыцца),

то ж бо эстэтыка, як правіла,
цікавіць постаці нязначныя,
большасьць якіх жыцьцё прабавіла
над неістотнымі задачамі,
і ім настаўніца паставіла
ў сваёй графе "нездавальняюча".

Ды ўсё адно, з імпэтам школьніцы,
у боязі бацькоў няісных, ім
мы болей веданьня прыпісваем,
подпіс фальшуючы ў свавольніцтве.

## Сьміхаў

З П1 на П5 – добры шахматны ход,
зрух у часе наперад на сто-дзьвесьце год,

там гадзіна залічваецца за тры,
і плястычна зьюнелы Шаўчэнка стары

там ня чуе знаёмых нязмушаных "блях" –
побач мову ягоную гвалціць зямляк;

там цьвінтар нагадае сылюр ці дэвон,
акіян, што смарагдам пакрыты здавён, –

як і тое, што ў сьвецкае славы й красы
не бываюць аднолькавымі адрасы,

бо адзіна закінутасьць ёсьць прыгажосьць,
як твая адзінота цяпер ёю ёсьць.

Там сьвятло дробкай попелу ў шклянцы плыве
(падабенства ня ўкладваецца ў галаве),

сілай звычкі ільга настальгію адчуць
па раскепіне ў шклянцы, што ўраз прыбяруць;

там вядуць, бы п’янюгу, плячыстым шыхтом
шараговыя гмахі абшарпаны дом,

што адным зь нешматлікіх мог бога туліць...
Па дарозе дамоў між сучасных куліс

трапіш у Ратэрдам церазь вёснаў тузін
і ўваскрэсьнеш – шчасьлівы, той самы, адзін.

* * *

Вакно велічынёй з магілу,
што, адчыняючы, дрыжыш:
ня дай лякнуцца старажылу,
які на ім паставіў крыж.

Глядзі, ня плюнь на трупавозы
ўсіх колераў і ўсіх масьцей
сьлінОй з атрутнае залозы –
тады ўжо выскачыць прасьцей.

Калі ж цябе ахопіць стома
маўчаць прыстойна, як мярцьвяк,
то пацярпі – яны ў гасьцях,
а ты, гасьцінны прывід – дома.

* * *

Залевай пад лінейку стрэх
раён падзелены на зоны.
Цяплынь зьняла вясновы стрэс.
Шум ліўня ловяць парасоны,

нібы антэны – сатэліт.
Агонь бэтлемскі цыгарэты
аберагае сатаніст
на доўгім шляху да Лярэты.

Ноч больш бясьпечная ў дажджы.
Адно спадужніцы-скульптуры
блішчаць алеем, ды смаўжы
паўзуць на лужын амбразуры.

Вось так, квартал цераз квартал,
ад самалюбства адурэлы,
ты Менск упэўнена гартаў,
нібы старонкі “Ражуэлы”[1].

---

[1] “Rayuela” – раман Хульё Картасара (1914–1984).

* * *

*К.К.*

Слупы сьвятла – агнёў адлюстраваньні –
на хвалях уздымаюць павільёны
пад покрывам начы, і жэсты клічуць
нас далучацца да бяседы ценяў,
прымеркаванай да Walpurgisnacht.
Тым часам у гальлі сухога дрэва
ў выглядзе белай – нат у цемры – хмары,
нібыта рысь, стаілася зіма.
Падымеш галаву – і бачыш помсту,
і холад да касьцей праймае – жахам.



**ЯКІМОВІЧ Валянціна** (да 1976 году Малахоўская) нарадзілася 27 лістапада 1949 году ў г. п. Касьцюкоўка на Гомельшчыне. У 1973 г. скончыла архітэктурны факультэт БПІ. Працавала архітэктарам, вядучым інжынэрам-канструктарам, настаўніцай крэсьленьня, жывапісу і народнага мастацтва, пэдагогам-арганізатарам, старэйшым навуковым супрацоўнікам. З 1987 году брала ўдзел у працы нефармальнага маладзёвага аб'яднаньня "Талака". Сяброўка Беларускага народнага фронту (ад 1989 г.), а таксама Таварыства беларускай мовы і Беларускага саюзу фальклярыстаў і фальклёрнага гурта "Дзяньніца". Народны майстар па вырабе нацыянальных беларускіх строяў. Аўтар шэрагаў культуралягічных артыкулаў і публікацыяў фальклёрнага і этнаграфічнага характару. З канца 1998 году жыве ў ЗША.

# Веснавая вандроўка

## Адліга

У 1991 годзе мы здабылі незалежнасьць Беларусі, вярнулі нашыя старажытныя герб "Пагоню" і бел-чырвона-белы сьцяг. Пачалася часовая палітычная адліга. Ажываў беларускамоўны друк, у школах адчыняліся беларускамоўныя клясы, у Менску ўдалося стварыць першы Беларускі гуманітарна-адукацыйны культурны цэнтар, што было вельмі важна для падрыхтоўкі будучых прафэсійных нацыянальных кадраў. Аднак ў БГАКЦ не было свайго будынку, ён туліўся ў адной зь сярэдніх школаў, дзе катастрафічна не хапала кабінэтаў, іншы раз урокі праходзілі ў спартовай зале ці нават у калідоры. Але ліцэісты, разам са сваімі бацькамі і выкладчыкамі, пасьля ўпартага намаганьня й пры дапамозе дэпутатаў ад апазыцыі, здолелі адваяваць у нешматлікіх лідэраў ленінскага камсамолу, якія займалі прасторныя кабінэты, будынак на вуліцы Кірава.

Тады ж да апазыцыі "бы з-пад цёмнай гвязды" прыбіўся былы старшыня калгасу, кадэбіст і турэмны палітрук Аляксандар Лукашэнка, які пазьней, нечакана для ўсіх, праўдамі і няпраўдамі, быў абраны на пасаду першага прэзыдэнта нашай краіны. Адразу пачалі замарожвацца ўсе нацыянальныя праекты. БГАКЦ быў выселены з будынку й змушаны эміграваць у Польшчу, а сам ліцэйскі будынак перабудаваны пад турму для ўтрыманьня вязьняў.

Раней я працавала архітэктарам, потым настаўніцай крэсьленьня і выяўленчага мастацтва, а на той час, калі павеяў вецер свабоды, мяне запрасілі выкладаць гэтыя прадметы ў БГАКЦ, дзе адначасна я знаёміла навучэнцаў з народным мастацтвам, нацыянальнымі традыцыямі й беларускім фальклёрам. Спачатку мы, выкладчыкі, былі заклапочаныя тым, што слова “спадар”, якое намі ўжывалася, як бы не пасавала ў якасьці формы звароту падлеткаў да выкладчыкаў. Таму прынялі кампраміснае “спадар настаўнік”. Але некаторыя ліцэісты й іхныя бацькі, што былі сябрамі менскае нефармальнае маладзёвае арганізацыі “Талака” культурна-палітычага напрамку, з самага маленства хадзілі на нашыя паседжаньні і імпрэзы, дзе ўсе адзін да аднаго зьвярталіся на “ты”. Да гэтай групы належала й я са сваім сынам Русланам. Таму, упершыню сустрэўшыся зь дзесяціклясьнікамі, я адразу ж пачула радасны вокліч з-за парты: “Валя, ты!?” Гэта да мяне ў абдымкі кінуўся ўжо моцна падрослы Аляксей Герасімовіч. Пастутова ўсе ліцэісты пачалі зьвяртацца да мяне на “ты”. Гэта не выглядала, як панібрацтва. Гэта было знакам асаблівай павагі й даверу. Мне не патрэбна было, як гэта практыкавалася ў іншых настаўнікаў, заводзіць так званы кандуіт – гэткі сшытак, у які запісваліся ўсе парушэньні вучняў. Сапраўды, зварот на “ты” або на “вы” ня меў вырашальнай ролі, бо дзеці пільна назіралі за намі й бачылі нас, настаўнікаў, наскрозь, ацэньваючы вартасьці, а часам і хібы кожнага.

Набліжалася сьвята 1 Траўня першага 1991 – 1992 навучальнага году ў БГАКЦ. 29-га красавіка я абыйшла ўсе групы з прапановаю пайсьці ў двухдзённую вандроўку са мною і супрацоўнікам ліцэю, гісторыкам, кіраўнікам менскіх скаўтаў і маім сябрам па “Талацэ” Вадзімам Сугойдзем. У выніку ў сьпіс ахвочых запісаліся ўсе 150 навучэнцаў, таму для падмацаваньня нашых выхаваўчых шэрагаў было вырашана запрасіць яшчэ чатырох талакоўцаў. А тут перад габрэйскім Вялікаднем і часам цьвіценьня садоў рэзка пахаладала, неба абклала нізкая шэра-чорная хмара, і зь яе паваліў сьнег, таму большасьць ліцэістаў бацькі не пусьцілі ў вандроўку, і толькі самыя ўпартыя зь іх, з добра наладаванымі пляцакамі, прыйшлі на чыгуначны вакзал. Усіх нас было трыццаць чалавек. Мы набылі квіткі й уладкаваліся ў адным вагоне.

## Дождж і праваахоўнік

Каб даехаць да пункту прызначэньня, а 10-й вечара нам трэба было перасесьці на іншы цягнік. Калі мы выйшлі з вагону, на нас з ужо пацямнеўшых нябёсаў абрынуўся шквал дажджу. Каб нікога не згубіць, хударлявы пятнаццацігадовы Алесь Касач, з групы, дзе я была кляснаю кіраўніцаю, стоячы ля патрэбнага нам вагону, гучна зазываў: “Ліцэісты, сюды!” Зьнянацку з-за ягонай сьпіны, вынырнуў абцугайла ў міліцэйскай форме і сadануў юнака дубінкаю. Бы ваўчыца, я накінулася на міліцыянта, але той мёртваю хваткаю ўчапіўся ў Алеся і ўжо цягнуў яго ў прывакзальны пастарунак для складаньня пратаколу аб парушэньні парадку. Мы з Вадзімам Сугойдзем пабеглі за імі. Як вядома, асла пазнаюць па вушах, а дурня па прамовах. У пастарунку ад мянта мы пачулі цэлую прамову, якая паказала, што за асоба перад намі. Тады ў даходлівай і даволі рэзкай форме мне давялося патлумачыць нашаму новаму знаёмцу, што мы завядзём на яго справу і пададзім яе наўпрост дэпутатам Вяр-

хоўнага Савету, сярод якіх у нас шмат аднадумцаў. У выніку пратакол, складзены на нас, быў зьнішчаны, Алесь Касач адпушчаны. Але гэты, напампаваны нянавісьцю да ўсяго беларускага янычар, які марна патрабаваў, каб мы перайшлі на “чалавечаскі язык”, праявіў спрыт. Ён пабег і загадаў маладой круглатварай правадніцы не ўпускаць нас у вагон, дзе сядзелі ўжо ўсе нашыя ліцэісты і сябры, маўляў, мы затрыманыя. Заставалася хвіліна да адпраўкі, калі Вадзім рашуча ўпіхнуў Алеся, мяне і ўскочыў сам у суседні вагон. Дзьверы зачыніліся, цягнік глуха ўздрыгнуў і пайшоў, набіраючы хуткасьць. А мы з прыемнасьцю памахалі тупагаловаму ахоўніку парадку праз вагонную шыбіну.

## Сядзіба шляхціца

Ля мяжы Беларусі зь Летувою, на невялічкай станцыі, назва якое ўжо сьцерлася з памяці, а 7-й раніцы мы выйшлі зь цягніка. Парывісты вецер разарваў на шматкі суцэльную аблогу цяжкіх хмараў, празь якія весела праглядала блакітнае неба. Далей нашая вандроўка мусіла адбывацца пешшу. Па старым гасьцінцы, што пралягаў між бярэзьнічка, мы падыйшлі да былой сядзібы шляхціца, якая ў савецкія часы была перароблена пад дзіцячы дом. Вакол яе раскінуўся рамантычны парк, поўны ранішняга птушынага гоману. Занядбаныя сядзіба і парк ахінялі нас таямніцаю былое велічы і прыгажосьці. Хацелася зазірнуць у пакоі, каб убачыць там старыя інтэр’еры, але мы адчувалі, што, акрамя ўбогасьці, ужо нічога там ня знойдзем. Хоць на зьдзічэлым кустоўі бэзу, ружаў і шыпшынаў заліваліся песьнямі салаўі, мяне агарнуў смутак адчуваньня ўласнай віны ад згубнай нашай, так бы мовіць, флегматычнай абыякавасьці да сваёй спадчыны. Было такое пачуцьцё, што са зьнікненьнем яе, як і гэтае старое сядзібы, зьнікаем мы самыя, і зьнікаюць нашыя душы.

## Старое гарадзішча

Моўчкі мы рушылі далей, да вёскі Баруны, што на Ашмяншчыне, былога Вілейскага павету, дзе нарадзіўся знаны беларускі сьвятар і пісьменьнік Адам Станкевіч, і дзе дагэтуль, па нашых зьвестках, жыла ягоная родная цётка. Прайшлі мо кілямэтры тры па бальшаку.

Сьвежы вецер, канчаткова разганяючы хмаркі, лашчыў нашыя твары. Сын дырэктара ліцэю Мікіта Колас, каб прыцягнуць да свае асобы ўвагу дзяўчат, пачаў жартаваць, што лепш было б нам завярнуць у нейкі мясцовы гатэль, каб, папіваючы шампанскае, сядзець у мяккіх фатэлях і глядзець тэлебачаньне. Але ніхто нават не адгукнуўся. Мы йшлі ў вёску, побач зь якою, засыпанае пылам стагодзьдзяў і ўжо даўно ўзаранае, яшчэ віднелася ўзвышша старадаўняга гарадзішча нашых продкаў. Надзея пачуць нешта пра гэтае месца ад якога-небудзь тубыльца была слабаватаю. І сапраўды… Ніхто нічога ўжо ня ведаў. Уздоўж гарадзішча вілася, пэўна, некалі шырокая, а цяпер звузелая рака, напоўненая да берагоў вадою талага веснавога сьнегу. Каб перабрацца на другі бок, мы падсеклі старую сухую бярозу і перакінулі на процілеглы бераг. Зь невялічкімі прыгодамі перайшлі па ёй на сухі пагорак, дзе ля валуноў расклалі цяпельцы, каб перакусіць і крыху адагрэць рукі.

## Царква стараveраў

Прайшоўшы з гадзіну па закінутай вузкакалейцы, мы пачалі паціху здымаць свае курткі й швэдры, бо сонца, уздымаючыся, пачынала прыпякаць не на жарт. Наперадзе нехта з нашых нёс бел-чырвона-белы сьцяг. Збочылі на новенькую шашу. Яна прывяла нас у вёску, дзе жылі стараверы. Падыйшлі да царквы, якая раней была заўсёды адчыненая, але на гэты раз яе дзьверы аказаліся замкнёныя. Мясцовая жанчына з горыччу распавяла, што пасьля чарнобыльскай навалы да іхнай вёскі, як і да многіх іншых населеных пунктаў, праклалі асфальтавую дарогу. Па ёй пачалі прыяжджаць расейскія госьці, цікавіцца даўніною. Адныя такія прыехалі на бэжавых “жыгулях”, папрасіліся переначаваць. На досьвітку сталі зьбірацца ў ад’езд. А калі разьвіднела, і людзі прыйшлі ў сваю царкву, то ня ўбачылі там ані непаўторных абразоў, ані царкоўнага рыштунку, ані старых тканых ручнікоў. Цяпер і ткальляў ужо такіх не засталося, паадыходзілі. Абразы прывезьлі новыя, але ж з тымі, што былі скрадзеныя, іх ня можна й параўнаць. Нам давялося толькі праз вокны паўзірацца на інтэр’ер царквы, абрабаванай расейскімі заезнымі аматарамі мастацтва.

## Пераправа

Дождж, што ліў цэлую ноч, так размыў пяшчаную дарогу ад вёскі да лесу, абапал якое ляжаў жвір, што мы зь цяжкасьцю выцягвалі з гразі ногі, але наперадзе лунаў наш сьцяг, і мы йшлі далей. Нарэшце выбіліся на добрую каляіну ад вазоў, ішлі па ёй, пакуль перад намі не пралягла шырачэзная ад вясновых паводак рэчка з чорнаю, імкліваю і страшнаю вадою, празь якую, аднак, быў пракладзены, калі яго можна так назваць, мосьцік зь дзьвюх хісткіх кладачак без парэнчаў. Кожны з нас нёс на сьпіне цяжкі заплечнік. Таму, каб той масток не абваліўся, праходзілі па ім па адным. Дзяўчат, якія не адважваліся йсьці па тых кладках, пераводзілі хлопцы, перанёсшы перад тым іхныя пляцакі. А на другім беразе раскінуўся поплаў. Хлопцы перацягнулі празь яго на сухое месца нашыя рэчы, а потым на плячох перанесьлі туды і дзяўчат.

## Баруны

Вечарэла, калі ўдалечыні паказаліся, здавалася, “забытыя богам і людзьмі”, пацямнелыя ад часу, а некаторыя яшчэ й крытыя саломаю, хаты вёскі Баруны, куды моладзь прыяжджае толькі ў госьці ці калі здараецца якаянебудзь бяда, ці больш няма куды падзецца. У ёй дажывалі свой век старыя людзі. Вось і хата цёткі Адама Станкевіча. Пасьля кароткай, празь невысокі плот, размовы зь ёю, мы напіліся і набралі з сабою вады з дубовага вядра. Цётка парадзіла нам узяць за праваднiка дзядзьку Пятра, які пагадзіўся вывесьці нас празь лес да возера, на гары ля якога мы маглі б спыніцца на начлег, бо там сухая зямля.

Дрэвы ў тым дзівосным лесе, паміраючы, падалі долу, выкарчоўваючы самыя сябе разам з глыбамі чорнае як смоль зямлі. Ніхто ніколі іх не прыбіраў.

Ніхто ня чысьціў лесу. Сонца хілілася да захаду. У паўзмроку навакольле стварала ўражаньне, што мы – акторы й знаходзімся сярод дэкарацыяў фільму пра Бабу-Ягу. Раптам лес расступіўся. Адкрылася вялікая паляна, непадалёку ад якое, у нізіне сярод лесу, затаілася вялікае возера. Падзякавалі і разьвіталіся з нашым праваднікам. Хуценька паставілі і замацавалі талакоўскі намёт, дзе магло зьмясьціцца дзесяць чалавек, і некалькі невялікіх на чатыры асобы кожны. Распалілі вогнішча, зварылі ў казане кашу з тушонкаю, са смакам паабедалі, а разам і павячэралі, запілі гарбатаю і павесялелі.

## Стаянка ля возера

Я адыйшла ад вогнішча й пачала спускацца да возера, якое пасярод дзялілася тонкім перашыйкам, таму па форме нагадвала пясочны гадзіньнік. Згубіўшы раўнавагу, ускрынула, бо нечакана мае ногі, бы ў дрыгву, праваліліся ў перапрэлае лісьцё. Аднак мяне падтрымалі моцныя рукі юнака, які йшоў за паўкроку ад мяне. Гэта быў ліцэіст Яўген Ляпарскі. Так атрымлівалася, што кожны раз, калі я ўздымала цяжкі заплечнік на сьпіну, ён тут жа дапамагаў мне, калі сьнедалі ці вячэралі, ён апынаўся побач, як вось і цяпер. Моўчкі мы пайшлі па лясной сьцяжынцы ўздоўж берагу возера, час ад часу трапляючы тварамі ў павуціньне маленькага ляснога паляўнічага. Мне захацелася піць. А тут на нашым шляху трапіўся вуркатлівы ручаёк. Прабіўшыся з-пад зямлі тонкаю зьмейкаю, ён віўся між каранёў дрэваў, бы сьпяшаючыся зьверху некуды ўніз. Падступіцца да яго замінала апалае спарахнелае лісьце, бо яго было зашмат. Не было ў што і набраць тае вады. Хлопец зачэрпнуў яе далонямі і паднёс халодную вільгаць да маіх вуснаў. Блакітныя вочы Яўгена ясныя й празрыстыя, як крынічная вада ў ценю, апынуліся так блізка, а густая капа бялюткіх, стрыжаных “пад вожыка” валасоў кранулася маіх, было чуваць ягонае дыханьне. Агледзеўшыся, мы заўважылі, што зайшлі далекавата і вырашылі вярнуцца да нашых. Ідзем, а перад намі дзьве сасны, якія зрасьліся ўнізе камлямі, нібы расьлі з аднаго кораня, а крыху вышэй па-над зямлёю раздвойваліся і ўтваралі своеасаблівае жывое драўлянае крэсла, на якім мы зь Яўгенам утульна зьмясьціліся ўдвох, бы ў амфітэатры, аглядаючы навакольле.

Абапал возера цеснаю сьцяною стаяла сінявата-прывідная палоска лесу, за якую вогненным жоўта-чырвоным шарам паціху апускалася сонца. І ўся гэтая прыгажосьць адбівалася ў люстэрку сіняе, халоднае вазёрнае роўнядзі. На сонечным дыску зьявіліся сылюэты двух лебедзяў. Зладжана і плаўна яны ляцелі поруч. Не парушыўшы цішыні, лябёдка лёгка апусьцілася на ваду. Лебедзь склаў крылы і каменем, з гулкім воплескам, упаў у возера побач зь ёю. Яны абвіліся сваімі даўгімі шыямі адзін вакол аднаго і гэтак доўга нерухома трымаліся на вадзе, потым паплылі праз вузкі пярэсмык у другую палову возера й зьніклі з вачэй. Вакол нас панавалі прыгажосьць, цішыня і п’янкі вясновы хвойны водар. Шаснаццацігадовы ліцэіст і саракааднагадовая настаўніца ўбіралі ў сябе гэтае хараство. Раптам Яўген зазірнуў мне ў вочы і сказаў: “Я ніколі не забуду гэты вечар і цябе”, – і ўсьміхнуўся мне. У гэтай усьмешцы было нічым нястрымнае захапленьне, якое яшчэ ня ведала тых забаронаў, што прымушаюць хаваць свае пачуцьці.

Сонца ўжо напалову закацілася за лес. Блакіт неба стаў гусьцейшым, надыходзіў адвячорак. Мы засьпяшаліся да нашае стаянкі. Талакоўцы і ліцэісты, седзячы вакол змарнелага вогнішча, сьпявалі. Мы зь Яўгенам селі побач і далучыліся да іхных сьпеваў. Цемра насунулася неўпрыкмет. Неба здавалася такім глыбокім, такім зорным, нібы пад ім мы самыя ядналіся з Сусьветам.

Нарэшце ўсе пачалі разьмяшчацца ў сваіх намётах на ноч. Тут высьветлілася, што свавольнік Мікіта Колас, які любіў адзначыцца ў любой вандроўцы, прынёс з сабою зь Менску пляшку гарэлкі і перад вячэраю за кустамі яна была апрыходаваная ім, Сяргеем Патаранскім, Мікітам Адамчыкам і Антонам Сьцепчанкам... Цяпер гэты жвавы пятнаццацігадовы падлетак, з гарачым вугольлем чорных вачэй, уявіў сабе, што выдатніца ліцэю Юлія Захаранка абавязаная легчы ў намёце зь ім побач. “Толькі вось дзе ж яна, гэтая прыгажуня?” – пытаўся Мікіта. Тут, маючы паэтычную натуру, Патаранскі запэўніў: “Я бачыў на краю нашае паляны вялікі пень, а на ім – чэрап аленя. Упэўнены, што Надзейка схавалася за ім, каб мы яе не знайшлі. Давайце зробім паходні і пойдзем яе шукаць, як Купалінку на Купальлі”. Некалькі разоў хлопцы спрабавалі распаліць тоўстыя мокрыя галіны ад нашага вогнішча, але праз некалькі крокаў іхныя паходні гасьлі. Нарэшце шукальнікі прыгодаў вырашылі адкласьці свае пошукі да раніцы, залезьлі ў спальнікі і пазасыналі. А Юлія ляжала зьлева між мною і Кастусём Хадыкам. Мы ўсё чулі і ціхенька пасьмейваліся зь летуценьнікаў.

Пэўна, нас сабралася ў намёце больш як дзясятак. Было цеснавата. Мы ляжалі ўпокат. Справа ад мяне быў Яўген. Выпадкова ягоная рука ў цемры сутыкнулася з маёю, так і затрымалася. Яўген спаў. Я ж не заплюшчыла вачэй. А 4-й раніцы лес пачаў абуджацца. Зрэдку, потым часьцей і зычней ён напаўняўся птушыным перасьвістам. Асьцярожна я вызваліла сваю руку з-пад хлапечай і выбралася з намёту, дастала маленькае люстэрка і паглядзела на сябе. Не, свае гады нікуды не падзенеш. Разьдзьмула яшчэ “жывыя” галавешкі, падкінула сушняку. Прынесла з возера вады, прымацавала казан над агнём. Хутка на пах ежы з намётаў пачалі высоўвацца заспаныя твары з ускудлачанымі чупрынамі. Прачнуліся і шукальнікі прыгодаў на чале зь Мікітам і, не зважаючы на маю забарону, што халодная вада і невядома якія дно і глыбіня, шпарка паімчаліся да возера і з разгону адзін за другім скокнулі ў ваду, але адразу ж, толькі яшчэ шпарчэй, з крыкам, павыскоквалі на бераг, бо сьцюдзёная вада апякла бы вагнём. Гледзячы на іх, асьмялелі й іншыя. Бераг напоўніўся плёскатам, крыкам і рогатам ўжо басавітых галасоў хлопцаў. Гарачы сьнеданак пасьля такога купаньня быў зьнішчаны ў імгненьне вока. Сабралі свае рэчы, залілі вагонь, ускінулі на сьпіны заплечнікі, азірнуліся навокал і... не паверылі сваім вачам. Сонца ўжо ўзьнялося, і за некалькі хвілінаў уся нашая зялёная палянаператварылася ў покрыва з зорачак белых кветак.

Але трэба было разьвітвацца з гэтаю прыгажосьцю, бо нас клікала дарога ў бок Жупранаў.

## Дарога да Жупранаў і дадому

Праз нейкі час сонца так раскачагарылася, што нашыя сьпіны ўзмакрэлі. Запас вады быў выпіты. Ідзём сабе між сасоньнічку, а тут новы цуд – уся зямля, куды ні кінь вокам, пакрытая бухмаценькімі яскрава-бэзавымі вялікімі зва-

ночкамі сон-травы!  Нехта крыкнуў: “Далей не пайду,” – і ўсе спыніліся на прывал. Маладыя, дужыя і прыгожыя беларусы ляжым сабе на роднай зямельцы, навокал сон-трава, як мроі, сьвецiць сонца, цёпла, узіраемся скрозь сасновыя лапы на сіняе, да звону ў вачох, неба. Гэй-эх! Але трэба ісьці далей.

Ад смагі ва ўсіх запякліся вусны. Лясная сьцяжына вывела нас да ахайнага хутару. У пошуках студні, абыйшлі хату і заўважылі шыракаплечага, зграбнага гаспадара. Той гасьцінна запрасіў нас ў свае чысьценькія, прыбраныя мядзьведжымі шкурамі, пакоі. Потым, седзячы на ганку, распавёў, як быў паляўнічым на Далёкім Усходзе. Мы запасьліся вадою і рушылі далей па Ашмяншчыне і хутка дайшлі да Жупранаў, дзе ў касьцёле на адной са сьценаў на мармуровай дошцы быў партрэт Францішка Багушэвіча, які ў спадчыну пакінуў нам такія словы: “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!” Але й тут нас чакала няўдача, бо прыйшлі мы пазнавата. Дзьверы касьцёлу былі зачыненымі, таму, зрабіўшы на ўспамін некалькі фотаздымкаў, скіраваліся праз поле на чыгунку.

У Жупранах зацьвіталі сады. Ад гарачыні ў паветры парыла, і дзіўна, што спачатку з амаль чыстых нябёс на нас паліў, як казала мая маці, “цыганскі” дожджык, а потым перайшоў у буйны, ад якога, да прыходу цягніка, мы схаваліся пад чыгуначным мастом, дзе весела цьвіркачэла невялічкая рачулка. Выходныя дні закончыліся. У напрамку Менску вагоны былі перапоўненыя. Дзяўчат мы пастараліся пасадзіць на лавы, хлапцам давялося стаяць. Я прытулілася ля самых дзьвярэй тамбура. Маўклівы Яўген, па-мужчынску, ахоўваў мяне ад ціску натоўпу. У ім адбылася ўнутраная зьмена, якую ніхто не пасьпеў заўважыць, яе адчувала толькі я, але не падавала выгляду. Нешта нявыказанае і патаемнае, поўнае суму, злучыла нас.

У Менску нас сустракалі бацькі ліцэістаў. Вось і скончылася нашая вандроўка. Здавалася, што мы былі ўсё тыя ж, толькі больш зьнітаваныя з роднаю зямлёю, яе лясамі і азёрамі, вялікімі і малымі рэчкамі. Ды ўсё ж павеў вятроў мінулага і вятроў будучыні і сьвежы водар новае вясны зьмянілі кожнага з нас. Мы сталі іншымі… Сталейшымі.